## Ад аўтара перакладу

На прасторах савецка-расейскай імперыі словы "езуіт", "езуіцкі" даўно ператвораны ў лаянку, а "грэка-каталік", "уніят" — у пудзіла для абывацеля.

Аўтар гэтай кніжкі, Вальтэр Цішэк — амэрыканскі езуіт польскага паходжаньня, які практыкаваў у візантыйскім абрадзе. Пачуўшы аднойчы Божае пакліканьне — дапамагаць людзям адчыняць свае сэрцы Богу ён, пераадольваючы нечалавечыя выпрабаваньні і сьмяртэльную небясьпеку, ніколі не здрадзіў ні Творцы ні людзям. Пэўны час Цішэк выконваў сваю місію і на беларускай зямлі.

Пасьля Беларусі, дзе ён быў пробашчам у Альбярціне, каля Слоніма, была Расея. 15 гадоў турмаў і лагераў, зь якіх ён адбыў як "шпіён Ватыкану" 14 гадоў і 9 месяцаў. Але і вызваліўшыся на волю, ён волі не атрымаў, бо ўся краіна была — лагер.

І дзе б езуіт Цішэк не знаходзіўся, ён паўсюль дзейнічае як сьвятар, паўсюль з Богам. "...Я наўмысна маліўся толькі аб тым, каб зьдзейсьнілася тое, што знаходзіцца ў згодзе з Яго воляй, бо гэта самае лепшае..." — піша ён у сваіх успамінах.

Пасьля 23 гадоў, праведзеных у СССР, у 1963 г. В.Цішэк, дзякуючы намаганьням амэрыканскай амбасады і паводле Яго волі, вярнуўся ў ЗША.

Кніжка, напісана з дапамогай сябра Даніэля Флягерты, паказвае ўмовы і норавы, якія панавалі ў СССР, дзейнасьць дзяржаўных органаў, адзінай мэтай якіх было маральнае і фізічнае зьнішчэньне нязручных рэжыму людзей. Яна апісвае згубную працу ў лагерах і на "волі".

А яшчэ гэтая кніга — адно са сьведчаньняў таго, якая гэта пакута, але і якое шчасьце — служыць Госпаду.

*Пераклад з польскай — Павел Ляхновіч, Пінск, 2003 г.*

**Падзякі**

Толькі пасьля майго вяртаньня ў Злучаныя Штаты Амэрыкія цалкам усьвядоміў сабе, як шмат людзей сваімі велікадушнымі намаганьнямі прычыніліся да магчымасьці гэтага вяртаньня.

Перш за ўсё адчуваю вялікую ўдзячнасьць да прэзыдэнтаў Дуайта, Эйзенхауэра, Джона Кенэдзі і іхніх адміністрацыяў з Белага Дому, а таксама перад тагачасным Генеральным пракурорам Робертам Ф.Кенэдзі, за іх зацікаўленасьць маёй справай. Хацеў бы яшчэ скарыстацца магчымасьцю і падзякаваць паважанага Тадэвуша Махровіча, былога кангрэсьмена са штата Мічыган, і Тадэвуша С. Шымчакова, былога дырэктара Федэральнага Банка за іх клопаты ў маёй справе. Асаблівая падзяка належыць пану Роберту Мэрфі, намесьніку падсакратара штата, які распачаў намаганьні па майму вызваленьню, а таксама чыноўнікам штата ў амэрыканскай амбасадзе ў Маскве і Вашынгтоне, якія на працягу васьмі гадоў ад моманту, калі мая справа ў першы раз стала вядомай, прысьвяцілі свой час і энергію каб мяне вызваліць.

Асаблівае пачуцьцё ўдзячнасьці маю ў дачыненьні да маіх братоў-езуітаў а. Даніэля Э. Повера С Й. і а. Эдварда Б. Мак Каўлі. Гэта менавіта а. Э. Повер першы праінфармаваў Дэпартамент штата аб маёй справе, а а. Мак Каўлі не шкадаваў стараньняў, сілаў і часу каб падтрымліваць актуальнасьць маёй справы і давесьці яе да шчасьлівага заканчэньня.

Я глыбока і шчыра ўдзячны маёй сястры Гэлене Гэархарт за яе нястомныя клопаты ў Вашынгтоне дзеля пачатку маёй справы. Яна, і другая мая сястра, с. Марыя Эвангеліна ОСФ, былі для мяне няспыннай крыніцай надзеі на працягу доўгіх гадоў чаканьня і ў хвіліны расчараваньняў — з-за глыбокай сястрынскай занепакоенасьці і непахіснай веры, якія яскрава былі відаць са шматлікіх лістоў.

Урэшце хачу падзякаваць астатніх братоў і сясьцёр, братоў-езуітаў і шматлікіх іншых сьвятароў, сёстраў-бернардынак і шмат іншых манашак, сяброў і сваякоў, і ўсіх, чыіх імёнаў яшчэ нават не ведаю, а асабліва дзяцей са школаў, чыім малітвам і ахвярам я абавязаны сваім вяртаньнем.

Толькі б добрыя вынікі тых малітваў надалей "прыцягвалі ўсялякае дабро" для многіх людзей, якім я прысьвяціў так шмат гадоў у Расеі.

Вальтэр Цішэк, SJ

## Прадмова

На старонках гэтай кніжкі вы прачытаеце нешта такое, што можа здацца дзіўнай і годнай увагі выдумкай. Але гэта не выдумка. Гэта праўдзівыя падзеі, занатаваныя на адной з найслаўнейшых старонак сучаснай гісторыі езуітаў.

Выконваючы ролю як бы евангеліста, маю прывілей распавесьці аб тым, як гэтая гісторыя скончылася.

Я знаходзіўся там асабіста, а нячаста здараецца прысутнічаць пры тым, як чалавек вяртаецца ад сьмерці да жыцьця. Магу таксама распавесьці аб тым, як гэтая гісторыя пачыналася. Яшчэ вымушаны пакінуць за межамі гэтай кніжкі разьвіцьцё пэўных падзеяў тых гадоў, што схаваныя за Жалезнай Заслонай і магчыма паабяцаць, што новы разьдзел павінен яшчэ быць напісаны.

Тая доўгая, складаная, амаль неверагодная, пранізываючая жыцьцё цэлага пакаленьня старэйшых за нас гісторыя пачалася ў 1939 г.

У той час, калі на другім баку зямлі адбывалася тая гісторыя, зьнішчаныя вялікай вайной памерлі мільёны, вынайдзена вадародная бомба, пачаліся арбітальныя палёты вакол Зямлі, нараджаліся, выраслі і стваралі сем'і дзеці, і ў Пятровай сталіцы зьмяніліся чатыры Папы. Для мяне было вялікім шчасьцем тое, што я ведаў героя гэтай гісторыі за шэсьць ц і сем гадоў да яе пачатку. Мы былі разам у капліцы, у калідорах, на сьцежках, што віліся вакол дома, дзе на адным з узвышшаў хвалістага краявіду Пэнсільваніі, на захад ад Рыдзінгу, абодва склалі першыя клятвы ў якасьці езуітаў. Я ведаў яго ў тыя даўнія дні як ахайнага маладога атлета, здольнага лінгвіста, не шкадуючага сябе працаўніка, спакойнага, але выбітнага лідэрскімі якасьцямі маладога езуіта, успрымальнага да ідэалаў Таварыства. Памятаю, ён заўсёды ўмеў зрушыць нанава справы, якія здаваліся ўжо загубленымі. Трыццаць зь нечым гадоў таму мой сябра ў адзін з чэрвеньскіх дзён пакінуў гэтае ўзвышша, а я застаўся тут. Больш мы ўжо не сустракаліся, як раптам...

Мой тэлефон зазваніў каля 15.45 11 кастрычніка 1963 г. Голас у слухаўцы належаў майму старому настаўніку і сябру, нашаму былому правінцыялу, а. Джону Мак Махону, які тэлефанаваў з Аўрэсвіла, ў штаце Ню Ёрк. Ён толькі што пачуў ад а. Джона Дэлі, правінцыяла Мэрылэнд, які наведаў Аўрэсвіл, што сёньня ў 16.00 Дэпартамент штата падаў у прэсу незвычайнае паведамленьне.

У абмен на двух расейскіх агентаў, якія былі схопленыя ў нашай краіне, Савецкі Саюз рашыўся выпусьціць двух амэрыканскіх

грамадзянаў. Сёньня пасьля апоўдня двое амэрыканцаў селі ў самалёт у Лёндане каб прызямліцца ў міжнародным аэрапорце Ідлвайлд у Ню Ёрку. А Мак Махон хацеў, каб "Амэрыка" надрукавала сенсацыйнае паведамленьне аб гэтай "гісторыі стагоддзя".

І сапраўды гэта была гісторыя стагоддзя. Гісторыя таго самага нязломнага езуіта, які пакінуў наша паслушэнства ў Вэрнэрсвіле ў 1932 г. каб спачатку ў Вудстоку, а потым у Рыме працягваць вучобу перад асьвячэньнем у сьвятары бізантыйскага (усходняга) абраду, які прыбыў у Польшчу пробашчам у 1939 г., які пазьней быў паглынуты вялікай хваляй другой сусьветнай вайны і які, калі тая хваля спала зь вяртаньнем да Ўсходу, быў засмактаны ў terra incognita Савецкага Саюза і больш пра яго не было чуваць.

Думалі аб усім гэтым наступным ранкам, 12 кастрычніка, рыхтуючыся да спатканьня зь ім на Ідлвайлд.

Тым ранкам у 4.30, у капліцы Campion House, рэзідэнцыі рэдакцыі "Амэрыкі", мы адслужылі для яго сьв. імшу. Пасьля гэтага ў ранішнім паўзмроку, разам з а.Робертам Грэйхамам і а. Яўгеніюшам Калханам, на аўтамабілі накіраваліся з нашага ордэнскага дому ў аэрапорт.

Калі мы ехалі ў велізарным ценю новых цудоўных незавершаных будынкаў Ворд Фэйр, хтосьці з нас прыпомніў апошнюю паштоўку, якая прыйшла з Польшчы ў 1940 г. Яшчэ нехта ўзгадаў, што ў 1947 г. мы дапускалі, што ён нежывы і адслужылі звычайную імшу Таварыства за памерлага пабраціма, а яго прозьвішча было надрукавана ў афіцыйным сьпісе памерлых сыноў Таварыства. Мы ехалі далей, зноў перажываючы дзень, у які зь якойсьці невядомай мясцовасьці ў паўночнай Сібіры раптам прыйшоў ліст,— ліст быў бясспрэчна ад яго,— потым другі ліст, а пазьней яшчэ некалькі. Яны зьмяшчалі просьбы аб адзеньні і цёплым паліто, аб пары чаравікаў. Іншым разам прасіў аб наборы кніжак. Усе гэтыя лісты былі падпісаныя прозьвішчам нашага сябра.

Прыехалі ў Ільдвайлд. Задумаліся, ці гэта напраўдзе будзе ён? А можа хтосьці іншы, хто прысвоіў яго прозьвішча альбо скраў яго паперы? Як выглядае? Што зрабілі зь яго гады, праведзеныя ў Сібіры, дзе так доўга працаваў на шахтах? Ці пазнае нас? Ці яшчэ размаўляе па-ангельску? Ці здаровы целам і розумам?

Самалёт ВОАС нумар 501 з Лёндану прызямліўся своечасова. Дакладна ў шэсьць пяцьдзесят пяць вялікая машына спынілася на асфальтавай стужцы. Разам з бацькамі маладога Мэрвіна Мак Айнэна, які быў вызвалены адначасова з нашым сябрам, мы стаялі

там вырачыўшы вочы, калі да самалёта падалі трап і яго дзьверы адчыніліся.

Двое былых вязьняў высядалі першымі. Хутка сышлі па сходах, спачатку высокі, з запалымі шчокамі, дваццацічатырохгадовы хлопец, студэнт універсітэту Філбрайт, арыштаваны ў Савецкім Саюзе два гады таму па абвінавачваньню ў шпіянажы, а за ім нізкі, моцны, сівы мужчына з круглым тварам, узростам далёка за пяцьдзесят. Гэты пажылы меў на сабе цёмназялёнае паліто, шэры касьцюм і цёмнасінюю кашулю. Выйшаўшы з самалёта, надзеў на галаву вялікі, спадаючы на лоб, цёмна-фіялетавы, расейскі фетравы капялюш. Усё гэта адбылося вокамгненна. Двое вяртанцаў амаль аўтаматычна ўвайшлі за кардон нюёркскай паліцыі, якая адразу ж атачыла іх, і патурэмнаму звыкла, упэўнена пакрочылі да іміграНцкай канторы.

На хвіліну падумалася, што гэты моцны расеец зьяўляецца,— бо выглядаў сапраўды як ім і быў!— чальцом якойсьці дэлегацыі савецкіх калгасьнікаў ці тэхнікаў. Потым зразумелі. Перш, чым мы сьцямілі, ён прайшоў паўз нас маршавым крокам у суправаджэньні паліцыі. Увайшоў у мытны аддзел і нарэшце зразумеў, што ён зноўку на Айчыне, што тут яго сустракаюць як дваццаць пяць ці трыццаць гадоў таму ягоныя сёстры, разам з дэлегацыяй старых пабрацімаўезуітаў.

Устрымаемся ад апісаньня чагосьці болей пра тыя першыя хвіліны спатканьня і ўзаемнага пазнаваньня са сваякамі. Нават красамоўе Гэйба Прэсмана не здолела пераканаць службоўцаў Дэпартаменту штата каб дазволілі фатографам замацаваць гэтую сцэну.

Існуе аднак шмат успамінаў гэтага кастрычніцкага ранку: мітусьня ў журналісцкай залі, дзе пяць камер і сорак фатографаў у сьвятле юпітэраў уецца каля нашага прыяцеля.

Пазьней была доўгая размова ў сядзібе "Амэрыкі", калі ён упершыню пачаў распавядаць сёстрам і пабрацімам-езуітам аб тых гадах у Расеі і скончыў тым, што вывернуў кішэні каб паказаць, што мае яшчэ некалькі рублёў і 74 капейкі — рэшту па выпітай гарбаце ў аэравакзале ў Маскве.

Пасьля сьв. імшы, калі мы заселі за амерыканскі сьняданак, з яйкамі і грудзінкай, дабраславіў ежу па-польску. Распавёў, што апошні раз сядзеў за сталом з сябрамі чатыры дні таму, калі любімыя ім людзі з Абакану па сібірскаму звычаю зрабілі ў яго гонар разьвітальны прыём.

Памятаю таксама яго аповяд, што за ўсе тыя гады ніводнага дня не быў хворым... і што заўсёды неяк яму ўдавалася працягваць сваю сьвятарскую працу, часам спраўляючы памінальную імшу на

сваёй скрынцы ў бараку, дзе жыў, альбо, ў іншых выпадках, у глыбіні лесу на пні зрэзанага дрэва.

Прыпамінаю, казаў, што ніколі не сумняваўся ў сваёй сіле і сьвятарскіх абавязках. Ніколі не аспрэчваў веры, у якую быў ахрышчаны і высьвечаны, каб быць другім Хрыстосам.

Як я ўжо казаў, нячаста нам здараецца быць сьведкам калі чалавек вяртаецца ад сьмерці да жыцьця. Мы, яго пабрацімы-езуіты мелі такі прывілей ранкам 12 кастрычніка, калі наш стары сябра быццам новы Калумб прыляцеў самалётам BOAC № 501 каб зноў адкрыць Амэрыку, і пачаць нанава жыцьцё вольнага чалавека.

Тыя, хто прачытае гэтую кніжку таксама будуць мець рэдкі прывілей падзяліць досьвед чалавека, які вярнуўся з даліны сьмерці.

Вярнуўся да нас з шахты і працоўных лагераў Сібіры з амаль белымі валасамі, з пакручанымі ад працы шахцёра і механіка рукамі, але не зламаным, з цнатлівым розумам і з сэрцам поўным спагады да людзей, якім прысьвяціў усё сваё жыццё сьвятара.

З годнасьцю прыняў нашыя пахвалы, але не напрошваўся на іх. Прасіў толькі каб мы паспрабавалі зразумець значэньне таго, што ён з ласкі Божай выцерпеў — значэньне пражытага жыцьця як сьведчаньня, што любоў Хрыстоса ня мае межаў.

Так скончылася яго гісторыя. Але ці скончылася? Ці скончыцца калі-небудзь на самой справе? Бо будзе расказвацца з пакаленьня ў пакаленьне ў доўгіх чорных шэрагах езуітаў. Сёньня там — у Poughepsie, ці Wernersville, ці Woodstock,на сярэднім захадзе, на поўдні ці на далёкім захадзе Злучаных Штатаў, у Рыме ці Канадзе, у Англіі ці Індыі, у Аўстраліі ці ў Японіі — навабранцы чакаюць дня, калі будуць мець магчымасьць запісаць свой разьдзел гісторыі, якая толькі пачалася ад а. Вальтэра Цішэка.

Чытаючы тое, што адбудзецца, дадай альбо забяры якое-небудзь слова тут і там. Адступі ў глыбіню гісторыі на 400 год. Зьмяні назву "Tower" на "Лубянка". Замест адрасаткі "Эльжбеты" скарыстайся прозьвішчам дзеючага кіраўніка СССР. Замест "ангельскіх студэнтаў" ужывай назву "людзі вольнага сьвету".

Чытаючы гісторыю а. Вальтэра Цішэка далей, нагадай сабе добраславёнага Edunda Campiona і заканчэньне другога красамоўнага дакумента веры пад назвай Campion's Brag (Выклік Campiona), напісанага амаль 400 год таму да Яе Каралеўскае Вялікасьці Каралевы Ангельскай:

Шмат нявінных рук штодзённа ўзносіцца за цябе на неба тымі ангельскімі студэнтамі, нашчадкі якіх ніколі не зьгінуць, якія за морамі набіраюцца мужнасьці і ведаў дастатковых для сваёй мэты,

якія вырашылі ніколі цябе не пакідаць, ці здабыць для цябе неба, ці памерці на тваіх дзідах.

А наконт нашага Таварыства — ведай, што мы стварылі зьвяз — усе езуіты на сьвеце, вынікі якога і шматлікасьць павінны пераважыць усе царкоўныя абрады Англіі — каб з радасьцю несьці крыж, які ты на нас пакладзеш, і ніколі не сумнявацца вяртаючы цябе, пакуль маем хоць аднаго з нашых у тваёй вежы, падвержанага катаваньням ці паміраючага ва ўвязьненьні. Кошт падлічаны, пачынаньне ёсць — яно Божае, яму нельга працівіцца. Так прышчаплялася вера і так павінна быць надалей.

Thurston N. Davis, SJ
галоўны рэдактар
часопіса "Амэрыка"

# ПАЧАТКІ

## Ці быць сьвятаром?

Ад хвіліны майго вяртаньня ў Злучаныя Штаты ў кастрычніку 1963 г., пасьля дваццаці трох гадоў, праведзеных у Савецкім Саюзе, зь якіх пятнаццаць у вязьніцы альбо ў працоўных лагерах Сібіры, больш за ўсё мне задавалі два пытаньні: "Як там было?" і "Як вам, ойча, удалося гэта пераажыць?" З прычыны тых часта паўтораных пытаньняў я і вырашыў урэшце напісаць гэтую кніжку.

Але не ўмею добра апавядаць. Да таго ж тысячы іншых людзей падзялялі мае пакуты і перажываньні, а я ніколі не хацеў адносіцца да сваіх выпрабаваньняў як да чагосьці асаблівага. З-за павагі да,гэтых іншых буду імкнуцца паказаць гісторыю тых гадоў добрасумленна і шчыра, нічога не хаваючы і не выдзяляючы. Паспрабую распавесьці як гэта было.

Не ўпэўнены аднак, ці цалкам адкажа гэтая гісторыя сама па сабе на цяжэйшае з двух пытаньняў: "Як удалося гэта перажыць?" Для мяне адказ просты і магу толькі сказаць: Боскае апекаваньне. Але як гэта можна растлумачыць?

Не хачу проста сказаць, што Бог клапаціўся пра мяне. Хачу давесьці — Ён паклікаў мяне і падрыхтаваў да гэтай задачы, а потым, падчас тых гадоў у Сібіры, ахоўваў. Я ў гэтым перакананы — было тое жыцьцё, якое Ён мне наканаваў і на кожным віражы бачная Яго рука. Аднак лічу, што калі хто захоча сапраўды зразумець, як удалося мне перажыць, павінен перш за ўсё зразумець, хоць крыху, якім я быў тады чалавекам, і асабліва як сталася, што я апынуўся ў Расеі.

Думаю, напрыклад, прызнацца, што быў ад нараджэньня ўпартым. А таксама цьвёрдым, не ў сапраўдным значэньні гэтага слова, а ў тым, у якім ужывалі яго ў тыя часы нашы суседзі ў Шэнандоа у Пэнсільваніі, калі ківаючы галовамі называлі мяне "цьвёрдым". Няма прычыны, каб гэтым ганарыцца, але тут відаць, гэтак жа шчыра, як я гэта сьцьвярджаю, якімі экзэмплярамі строгі Бог вымушаны карыстацца. Быў малым тыранам, завадатарам банды, вулічным забіякам, бойкі пачынаў пераважна наўмысна, толькі дзеля забавы. Школу лічыў непатрэбнай, за выключэньнем спартыўнай пляцоўкі, дзе можна змагацца, "качацца", займацца спортам, усялякім спортам. Не хацеў дапусьціць, каб у якой-небудзь спартовай дысцыпліне не быць роўным, а то і лепшым чым хтосьці іншы. З-за гэтага прагуляў столькі часу, што вымушаны быў паўтарыць год у парафіяльнай школе імя сьв. Казіміра. Справы

дайшлі да таго, што калі вучыўся ў каледжы, бацька забраў мяне з паліцыі і настойваў на маім накіраваньні ў папраўчую ўстанову.

І ўсё-ж мой бацька, Марцін, быў найлагоднейшым чалавекам у сьвеце. Проста, ён быў ужо на мяжы вытрымкі, бо звароты да мяне не мелі выніку, а лупцоўка толькі давала мне магчымасьць паказаць сваю цьвёрдасьць. Са Старога Сьвету бацька атрымаў у спадчыну гонар разам з верай у сям'ю і яе прозьвішча. Ведаю, больш сорам чым гнеў штурхнуў яго да такога кроку.

Тата і мая маці, Марыя, паходзілі з вясковай сям'і. Прыбылі ў Злучаныя Штаты з Польшчы ў 1890 г. і пасяліліся ў Шэнандоа, дзе мой бацька пачаў працаваць у шахце. На фотакартцы з сямейнага альбому ён выглядае маладым, прыгожым шахцёрам, але я памятаю яго мужчынам сярэдняга веку, з густымі чорнымі валасамі і раскошнымі вусамі, плячыстага і калі не паўнацелага, то не падобнага на таго хударлявага маладога шахцёра з фатакарткі. Прыблізна ў той час, калі 4 лістапада 1904 г. сёмым дзіцяткам нарадзіўся я, бацька адчыніў шынок. Гандляром ён быў кепскім, бо выказваў зашмат дабрыні новапрыбылым эмігрантам.

Не думаю, каб бацька калі-небудзь мяне папраўдзе разумеў. Мы абодва былі занадта ўпартымі, каб калікольвек паразумецца. Ён хацеў, каб я атрымаў адукацыю, на якую сам ніколі не меў шанцу, але мая пазіцыя зьбівала яго з гэтага накірунку.Але тым не менш, ягоныя прыніжэньне і сорам з-за паліцыі ў той дзень, калі яго пераканалі, што зьмяшчэньне мяне ў папраўчы дом будзе найвялікшай ганьбай для роду, глыбока ўразілі мяне, хоць я ніколі б не прызнаўся яму ў гэтым. Бо зашмат польскай упартасьці атрымаў у спадчыну.

Між іншым, ён быў цудоўным бацькам. Памятаю дзень, калі я паехаў у харцэрскую экскурсію ў іншы горад і патраціў атрыманыя ад яго грошы ў Лунапарку, паблізу ад нашага лагеру. На зваротны квіток грошай не хапіла. Паехаў зайцам, учапіўшыся звонку вагона. За малым не быў забіты аб сьцены тунэлю, празь які рухаўся цягнік, і прыехаў у Шэнандоа каля гадзіны ночы, вельмі зьмерзлы, вельмі стомлены і вельмі напалоханы. Бацька, заклапочаны, чакаў мяне. Распаліў у кухні агонь і не будзячы маці прыгатаваў ежу, потым паклаў мяне ў ложак. Шмат гадоў пазьней, у сібірскіх працоўных лагерах я, думаючы пра бацьку, узгадваў перад усім тое здарэньне.

Ад бацькі я атрымаў цьвёрдасьць, а ад маці рэлігійнае выхаваньне. Яна была маленькай сьветлавалосай жанчынай, вельмі набожнай і самай станоўчай сярод нас. Навучыла нас першым малітвам і вучыла веры задоўга да наведваньня намі парафіяльнай школы. Дзьве мае сястры пайшлі ў кляштар, але я ніколі не ўмеў быць

адкрыта набожным. Бадай менавіта малітвы і прыклад маці зрабілі тое, што ў апошнім класе школы, без ніводнай відавочнай прычыны я вырашыў, што буду сьвятаром.

Бацька не хацеў у гэта паверыць. У яго разуменьні сьвятары былі бязгрэшнымі Божымі мужамі, а я гэтага нічога не меў. Урэшце маці зрабіла так, як часта дзейнічаюць маці. Пагутарыла са мной, што калі я хачу стаць сьвятаром, то павінен стаць добрым сьвятаром. А з-за таго, што бацька па-ранейшаму сумняваўся, я мацнеў і цьвярдзеў у сваім намеры. У верасьні паехаў у Орчард Лэйк у штаце Мічыган, у семінарыю сьвятых Кірылы і Мятода, куды раней пайшло шмат маладых палякаў з нашай парафіі.

Але я павінен быць інакшым, чым яны. Нават знаходзячыся ў семінарыі я настойліва імкнуўся не выглядаць набожным. У адкрытую па-сапраўднаму зьдзекваўся са сваіх набожных калегаў. А ноччу, калі нікога не было паблізу, ціхенька высьлізваў да капліцы каб маліцца, але ніхто і нішто не змусіла б мяне да прызнаньня аб гэтым.

І павінен быць "цьвёрдым". Падымаўся ў палове пятай, каб прабегчы пяць міль вакол возера на тэрыторыі семінарыі альбо плаваў у лістападзе, калі вада была амаль замерзлай. Па-ранейшаму не мог вынесьці думкі, што нехта можа зрабіць такое, чаго не здолеў бы я, так у адзін з гадоў на Вялікі Пост харчаваўся толькі хлебам і вадой усе сорак дзён, у іншы год не еў увесь Пост мяса, проста каб пераканацца што я гэта магу.

Але насуперак таму, чаму нас бесперапынна вучылі і што нам раялі, ніколі не прасіў дазволу рабіць усё гэта і нікому аб гэтым не распавядаў. Калі нарэшце наш прэфэкт заўважыў што я раблю і перасьцярог аб небясьпецы здароўю, адказаў яму рэзка, маўляў ведаю, што раблю. Але не ведаў, а толькі меў навязьлівую ідэю заўсёды рабіць "найцяжэйшыя рэчы". І цяжкія не толькі фізічна. У адзін з гадоў застаўся ў школе на летнія канікулы і працаваў у полі, прывучаючы сябе да самоты і разлукі з сям'ёй і сябрамі. Вельмі любіў баськетбол, гуляў у школе, а аднойчы цэлае лета з "Індзейцамі Шэнандоа", мясцовай камандай, якая спаборнічала з іншымі, з іншых шахцёрскіх гарадоў. Думаў, што будзе вельмі цяжка адмовіцца ад гэтай гульні і таму, натуральна, зрабіў гэта. Знаходзячыся першы год у семінарыі выйшаў з каманды. Павінны былі згуляць вельмі важную гульнюю Эн Арбар, Мічыган, і маё рашэньне выклікала нешта накшталт крызісу. Але быў упарты як заўсёды. Адмовіўся ад той паездкі.

Толькі ў семінарыі я ўпершыню прачытаў жыціе сьв. Станіслава Косткі. Атрымаў велізарнае ўражаньне. Захацеў паразьбіваць

большасьць гіпсавых фігур, што прадстаўлялі яго з прыкра салодкім позіркам і вачыма, утаропленымі ў неба. Ведаў, што Костка быў цьвёрдым маладым палякам, які мог — і зрабіў гэта — пайсьці пехатой з Ведня на Рыму і вытрымаць шлях без аніякіх кепскіх наступстваў. Быў таксама ўпартым, нязломна стаяў на сваім насуперак сям'і і перасьледваньняў з боку брата, які хацеў перашкодзіць яму ўступіць у Таварыства Ісуса. Гэта мне падабалася і я задумаўся, можа я таксама павінен стаць езуітам. У тым годзе нашы штогадовыя рэкалекцыі семінарыстаў праводзіліся з удзелам езуіта. Не размаўляў зь ім але ўсё часьцей думаў каб стаць езуітам.

Восеньню зьбіраўся, хоць не без вялікіх намаганьняў, пачаць вывучэньне тэалогіі і атрымаць асьвячэньне за тры гады. Калі б пайшоў у езуіты, то гэта азначала б найменей сем гадоў вучобы. Не ўсьміхалася мне думка ўступленьня ў ордэн, асабліва не падабалася тое, што прачытаў пра "абсалютную паслухмянасьць", якая зьяўлялася характэрнай рысай езуітаў. На працягу цэлага лета спрабаваў адгаварыць сябе. І, што было тыпова для мяне, ні з кім не раіўся. Проста маліўся і змагаўся з сабою. Урэшце вырашыў, што калі гэта так цяжка, зрабіць гэта. Бог мусіць мець адмысловы лёс для такіх упартых, як я.

Напісаў ліст да польскіх езуітаў у Варшаве. Натуральна, не паведаміў пра гэта нікому ні ў семінарыі, ні дома. Пасьля доўгага, як вечнасьць, чаканьня, атрымаў з Варшавы адказ. Прыйшоў у свой пакой і трасучыся разгарнуў ліст.

Ліст быў вельмі прыемны, але яго асноўнай думкай было тое, што хутчэй за ўсё жыцьцё і варункі ў Польшчы былі б для мяне занадта адрозныя ад таго, да чаго я прызвычаіўся ў Амэрыцы, і акрамя гэтага, калі ўжо я хачу стаць езуітам, то павінен зьвярнуцца да правінцыяла ў Ню Ёрку, на Фордхам Роўд.

Ці адчуў я палёгку? Не, быў па-ранейшаму ўпарты. Вырашыўшы быць езуітам і нікому нічога не кажучы, сеў аднойчы раніцай у цягнік, што рухаўся да Ню Ёрку. Неяк трапіў на Фордхам 501, у перыферыйную установу езуітаў. Брат брамнік паведаміў, што правінцыял адсутнічае. Я не жадаў казаць яму, чаго я хачу, таму толькі запытаўся калі правінцыял вернецца. Брамнік адказаў, што яшчэ сёньня ўвечары, а на пытаньне ці мажліва зь ім будзе пабачыцца толькі варухнуў плячыма. Пасьля гэтага я адыйшоў.З-за таго, што яшчэ нічога не еў, зазірнуў у нейкую кавярню. Потым, пасьля апоўдня, блытаўся, шпацыруючы па Фордхам Роўд і пакутуючы ад нейкіхспазмаў у страўніку. А шостай гадзіне вечара правінцыяла яшчэ не было. Праходзячыся паўз пляцовак універсітэта

Фордхам усё больш нерваваўся. У сем трыццаць вярнуўся да сядзібы правінцыяла і спытаўся ці ён на месцы. Брат брамнік прапанаваў мне пасядзець у прыёмнай. Каля васьмі гадзін прыйшоў правінцыял, а. Кэлі, і спытаўся што мне трэба. Я распавёў яму аб сабе і аб тым, што хачу стаць езуітам. Той з хвіліну пазіраў на мяне, потым сеў. Хацеў даведацца тое-сёе аб маіх бацьках. Я адказаў яму, што маю дваццаць чатыры гады і прымаю рашэньні сам. Потым нагадаў яму аб пешым падарожжы сьв. Станіслава Косткі з Ведня да Рыму каб там сустрэцца з правінцыялам езуітаў. А. Келі толькі прыглядаўся да мяне, а я гаварыў, настойліва стараючыся давесьці, чаму хачу быць езуітам. І ніяк не мог дапамагчы яму зразумець сутнасьць маіх памкненьняў, бо толькі ўпарта паўтараў што хачу ўступіць у Таварыства. Адзінымі канкрэтнымі дадзенымі, якія ён ад мяне атрымаў, былі мае адзнакі ў семінарыі.

Праз хвіліну сказаў, каб я крыху пачакаў, потым выйшаў і прыслаў для далейшай гутаркі са мною іншага сьвятара. Гэта быў цудоўны пажылы чалавек, прозьвішча якога я забыўся. І зусім глухі. Меў нейкі слыхавы аппарат і з дапамогай вельмі гуынай размовы мы неяк здолелі аднавіць усю маю гісторыю. Памятаю, я ўвесь час крычаў, што вырашыў стаць езуітам. Гэтым вечарам размаўляў яшчэ з адным сьвятаром і нарэшце каля адзінаццаці гадзінаў вярнуўся а. Келі каб паведаміць мне, што хутчэй за ўсё справы пойдуць як трэба, але зараз я павінен вярнуцца дадому і чакаць яго канчатковага адказу. Мне і ў галаву не прыходзіла, што яго адказ можа быць негатыўным.

Вярнуўся дадому і пачаў зьбірацца, пачуваючы сябе такім шчасьлівым, як ніколі дагэтуль.Гэта было нечым большым чым радасьць, гэта быў глыбокі і запаўняючы душу спакой. Было гэта таксама чымсьці большым за звычайны спакой і зьмяншэньне напружанасьці, якія ўзьнікаюць пасьля становчага вырашэньня якіхсьці эмацыянальных праблемаў. Гэта было не толькі сапраўднае і глыбокае шчасьце, падобнае да перакананьня, што знайшоў сваё сапраўднае месца і дасягнуў бясьпечнай бухты, а яшчэ больш глыбокае пачуцьцё — што гэта дар Божы. Ліст ад а.. Келі прынёс мне звестку, што 7 верасьня 1928 г. я павінен зьявіцца ў езуіцкім навіцыяце сьв. Андрэя Гудзонскага, Поўкепсі, штат Ню Ёрк. Бацьку аб сваім рашэньні не паведамляў ажно да раніцы ў дзень ад'езду. Той доўга глядзеў у ліст а. Келі, быццам з цяжкасьцю разумеючы яго, і раптам сказаў:

— Нічога не будзе! Вяртаешся ў семінарыю.

— Не, пане,— адказаў я,— еду ў сьв. Андрэя.

Пачалі спрачацца як бацька з сынам, абодва аднолькава ўпартыя, пакуль бацька не ўдарыў кулаком па стале і сказаў:

— Апошні раз кажу, не паедзеш!

На што я ў сваю чаргу стукнуў кулаком па стале і крыкнуў:

— Менавіта, што еду! Гэта я еду ў сьв. Андрэя, а не Вы едзеце, нават калі трэба было б выбіраць паміж Богам і бацькам!

Пасьля гэтага схапіў свой багаж і выйшаў з дому без разьвітаньня і без традыцыйнага бацькоўскага дабраславеньня.

Нягледзячы на маю барацьбу за ўступленьне ў сьв. Андрэя, я быў вельмі далёкі ад ідэалу навіцыята.Мне не падабалася дэманстратыўная набожнасьць і я з пагардай пазіраў на тых навіцыятаў, у большасьці маладзейшых за мяне, якія ў сваім стараньні і запале да новага манаскага жыцьця, імкнуліся прыстасоўвць свае зьнешнія паводзіны да найдрабнейшых правілаў. Я хацеў захаваць уяўнасьць шурпатасьці. Так што па нядоўгім часе а. Вебер, магістр навіцыяту, выклікаў мяне да сябе і паведаміў, што на яго думку я павінен пакінуць Таварыства.

Я быў прыгаломшаны. Потым мая польская ўпартасьць устала на дыбкі і амаль загаласіла:

— Не пакіну!

А. Вебер задумаўся. Імкліва ўстаў і выйшаў з-за пісьмовага стала да мяне.

— Што гэта значыць? — Выкрыкнуў ён не верачы ўласным вушам.— Ты каму гэта кажаш?

— Проста не пакіну і ўсё,— адказаў я і ўся мая ўпартасьць расплылася ў сьлязах. Так цяжка дабіваўся каб тут апынуцца, столькі зрабіў каб сюды зьявіцца, адчуў тут нарэшце такі спакой, а зараз усё ламалася гэтымі словамі, якія пачуў. А. Вебер пасадзіў мяне на крэсла і пачакаў, пакуль абодва трохі не супакоіліся. Потым мы доўга і добра гутарылі. А. Вебер не выбіраў словаў, але было відаць, што ён мяне паважае і любіць нягледзячы на мае хібы, і давярае мне. Казаў аб маіх перавагах і здольнасьцях, а таксама аб неабходнасьці ськіраваньня іх у належны бок, калі ўжо прыйшлося быць аддадзеным на службу Богу.

У пачатку 1929 г. на адным са сваіх штодзённых казаньняў да навіцыятаў а. Вебер прынёс важны ліст з Рыму. Гэта быў ліст папы Піуса11 Да ўсіх семінарыстаў і ўвогуле да сыноў-езуітаў, які заклікаў да ўступленьня ў новы расейскі цэнтр, адчынены ў Рыме для падрыхтоўкі маладога духавенства да магчымай будучай працы ў Расеі. Папа падрабязна тлумачыў, што ад 1917 г. Саветы няспынна ўзмацнялі перасьледваньне рэлігіі, што ўсе каталіцкія біскупы ў Расеі

былі арыштаваныя і зьмешчаныя ў канцэнтрацыйныя лагеры, што ўсе семінарыі, і каталіцкія і праваслаўныя, былі зачынены або разрабаваныя ўладамі, што сотні парафій пазбаўлены сьвятароў, што навучаньне дзяцей рэлігіі забаронена. Перад усім Сьвяты Ойча падкрэсьліваў вялікую патрэбу ў добра падрыхтаваных і асабліва сьмелых сьвятарах. У ходзе чытаньня гэтага ліста штосьці ўва мне зварухнулася. Я быў упэўнены, што Бог нарэшце выбраў мяне і адказаў на маю прагу, а таксама паведаміў прычыну ўсіх маіх змаганьняў. Гэтае перакананьне было такім моцным, што я з цяжкасьцю дачакаўся заканчэньня нарады. Нецярпелася і непакоілася.

Як толькі нарада скончылася, я пайшоў проста да пакою магістра навіцыятаў. Той зьдзівіўся, ўбачыўшы мяне ўзрушаным і расхваляваным і спытаўся, ці не здарылася чагосьці благога.

— Не, ойча,— засьпяшаўся я, адказваючы,— але хачу аб нечым з Вамі пагутарыць.

Загадаў мне сесьці і ўважліва выслухаў.

— Ведаеце, айцец,— выбухнуў я,— калі Вы чыталі ліст Сьвятога Айца, то гэта было для мяне як быццам непасрэдным заклікам ад Бога. Я пачуў, што павінен быць у расейскай місіі. Ведаў гэта ад самага пачатку і, калі Вы чыталі, пачуцьцё гэтае расло так, што ў канцы быў цылкам перакананы, Расея — гэта маё прызначэньне. Ведаю і моцна веру, што Бог хоча мяне там мець і што ў будучым я там апынуся.

А. Вебер доўгі час пазіраў на мяне, а потым з палёгкай сказаў:

— Добра, Вальтэр, трэба аб гэтым маліцца. Бо ты толькі што пачаў паслушэнства. Такія рэчы вымагаюць часу і ласкі Божай. Не хацеў бы цябе расчараваць, больш думай аб гэтым і маліся. Пасьля складаньня табой прысягі можа быць можна будзе ўбачыць ясьней, ці ёсьць такая воля Божая ў адносінах да цябе.

Адаслаў мяне не адказаўшы па сутнасьці. Мабыць зараз сабе думае, што мая пасьпешлівая заява магла быць выклікана хвілінным энтузіязмам або занадта моцнай і паверхневай прагай чагосьці новага і надзвычайнага. Але калі я ішоў калідорам з яго канторы, то адчуваў сябе цалкам упэўненым. Ніякага сумневу не зьявілася ў маіх думках ні тады, ні калі-небудзь потым.

Я з цяжкасьцю дачакаўся дня шлюбаў, які надыйшоў амаль праз паўтары гады, 8 верасьня 1930 г. Перад гэтым навіцыяты-першагодкі былі пераведзены ў новы навіцыят езуітаў у правінцыі Мэрылэнд-Нью-Ёрк у Вэрнэрсвіл, штат Пэнсыльванія. Мы былі першай групай навіцыятаў, якая мелася скласьці шлюбы у гэтым доме. Гэта

быў вялікі дзень для ўсіх нас, а для мяне яшчэ азначаў, што перыяд чаканьня да выкліку ў расейскую місію быў скончаны.

Неадкладна напісаў да Вялебнага Айца Генерала, заяўляючыся добраахвотнікам на місію ў Расеі. Час, неабходны каб ліст дайшоў у Рым і адтуль праз Атлантыку вярнуўся адказ, здаўся мне вечнасьцю. Але адказ быў просты і ясны, і мая радасьць не мела межаў. Генерал пісаў, што быў шчасьлівы атрымаць маю прапанову служэньня ў расейскай місіі, і яшчэ шчасьлівы, што можа яе прыняць і паінфармаваць мяне, што з гэтага часу я лічуся прызначаным да місіі ў Расеі. Разам з тым, аднак, я павінен працягваць звычайную вучобу ў Таварыстве, нястомна маліцца аб спаўненьні гэтай мары, а калі прыйдзе час, буду выкліканы ў Рым.

Таму я застаўся ў Вэрнэрсвіл на два гады на гуманістычных курсах, званых у Таварыстве юніяратам. Потым удалося распачаць курс філасофіі ў Вудсток Каледжы, Вудсток, штат Мэрылэнд. Аднак перад пакіданьнем юніярату напісаў да Генерала яшчэ раз, проста каб не забыўся пра мяне і з надзеяй, што менавіта зараз выкліча ў Рым для вывучэньня філасофіі.

Адказ Генерала быў кароткім, але сардэчным. Запэўніваў, што пра мяне не забыўся і ўзгадваў, што ўмовы ў Расеі цяжкія і праца там не будзе лёгкай. Таму заахвоціў мяне да заўсёднай малітвы і падрыхтоўкі да цяжкага перыяду навучаньня ў Русікум і яшчэ цяжэйшай працы ў Расеі.

Заахвочваньні не патрабаваліся. Я быў амаль па-рэлігійнаму верным сваёй практыцы штодзённай саракапяціхвіліннай гімнастыкі, якой пачаў займацца як "цьвёрды" маладзён. Да гэтага часу ўрэшце навучыўся прасіць парадаў і падказак і рабіць тое, што загадана, таксама працягваў абыходзіцца без пэўных рэчаў і толькі дзеля таго, каб падрыхтавацца да цяжэйшых заданьняў і ўзмацніць сваю волю, выконваў цяжкія працы.З такім настроем напісаў дыпломную працу з прэтэнзіяй на атрыманьне навуковай ступені па тэме: "Аб трэніроўцы волі".

Пад канец другога году курсаў у Вудстоку атрымаў цудоўную навіну, што восеньню еду ў Рым каб пачаць тэалагічную вучобу і працу ў Калегіюм Русікум. Летам 1934 г. вельмі шчасьлівым маладым чалавекам я зьявіўся ў Рыме.

Гэтаксама як і ўсе езуіцкія студэнты-тэолагі ў Рыме, я жыў у калегіюме Санта Раберта Белярміна на вуліцы дэль Сэмінарыю і вывучаў тэалогію ў Грэгарыянскім Універсітэце на пляцы Пілётта. Адначасова навучаўся расейскай мове, літургіі і гісторыі ў Калегіюм

Русікум на вул. Карла Каттанэо, недалёка ад базілікі Санта Марыя Маджорэ.

Гады тэалагічных курсаў для нас, студэнтаў Русікум, былі вельмі інтэнсіўнымі. Але паралельна ў тыя гады вывучалі яшчэ французкую і нямецкую мовы і дабіліся дастатковай бегласьці, так што пасьля высьвячэньня трыма гадамі пазьней маглі слухаць сповэдзі ў французкіх і нямецкіх парафіях вакол Рыму.

На самой справе найбальш цяжкай у гады вучобы была ўсходняя літургія. Тыя з нас, хто належаў да Русікум, адпраўлялі кожную раніцу сьв. імшу ва ўсходнім абрадзе, а я не мог да гэтага прыстасавацца. Але калі ўжо вырашыў працаваць у Расеі, прымусіў сябе зразумець яго і зрабіць сваім.

Чалавекам, які найбольш дапамог мне сьцьвердзіцца ва ўсходнім абрадзе быў вялікі мядзьведзеваты калега Нестров.[1] Ён быў карэнным расейцам з прыгожым басовым голасам. Адпраўляў літургію так, як гэта ўмеюць толькі расейцы. Мы сталі блізкімі сябрамі не з-за літургіі, а таму што абодва марылі аб выезьдзе ў СССР. Увогуле, ўсе чальцы новастворанага Калегіюм Русікум марылі аб тым, каб там апынуцца і дапамагаць вернікам, якія былі зараз, паводле словаў Ісуса, быццам авечкі без пастыра.

Мы зьяўляліся міжнароднай групай. Быў там бельгіец, а. Паўль Мэйё, цяпер дырэктар Цэнтра Экуменічных Курсаў імя Яна 23 ва ўніверсітэце ў Фордхам, што раней зваўся Расейскім цэнтрам. Было трое ангельцаў, трое іспанцаў, двое італьянцаў, расеец Нестров, паляк і румын. Я ў той час быў адзіным амэрыканцам, хоць іх было некалькі да мяне і шмат пасьля.

Аднак сярод усіх іх не было такога, які б дасягаў маёй перакананасьці альбо Нестровай палкасьці ў справе выезду ў Расею. Некаторыя нават жартавалі над намі з-за гэтага, мы гарэлі гэтымі думкамі. Вывучалі на расейскія тэмы ўсё, што толькі было дасягальным: звычаі людзей, іх навыкі, характар і культуру, прыроду краіны і яе гісторыю. Ці то на праўдзівы, ці прытворны жах нашых калегаў-тэолагаў, размаўлялі аб гэтым увесь час, выражаючы свае надзеі, планы і мары, што датычылі Расеі.

Другім, амаль сталым нашым таварышам быў а. Макар[2], паляк.

---

[1] Пад гэтым псеўданімам выступае а. Віктар Новіков. Пасьля вызваленьня з лагеру ў 1954 г. застаўся ў СССР, у Белебеі на Ўрале. Працаваў настаўнікам лаціны ў медыцынскай школе і таемна ажыцьцяўляў душпастырскія паслугі. Памёр 14.5.1979 г. (заўв. рэд.)

[2] Макар гэта а. Ежы Москва, загінуў у Расеі (заўв. рэд.)

— Але мая маці была грузінкай,— дадаваў ён заўсёды. Ён быў прыроджаным жартаўніком. Умеў гадзінамі сьмяшыць усю групу,а вялікі дабрадушны Нестров часта быў аб'ектам яго жартаў. Аднак мы заўсёды былі ў такой згодзе, што нас сталі называць: тры мушкецёры.

Пасьля трох шчасьлівых, але і гарачых гадоў я быў высьвечаны ў Рыме 24 чэрвеня 1937 г. Гэтаксама як амаль усе члены Русікум, быў высьвечаны каб адпраўляць імшу ва ўсходнім абрадзе. Такім чынам, я адправіў сваю першую сьв. імшу ў базіліцы сьв. Паўла за Мурамі пры ахвярніку над яго магілай, як сьвятар усходняга абраду.

Бацькі мае памерлі ў тыя часы, калі я вучыўся, і не мелі ўцехі пасьля ўсяго, што з-за мяне выцерпелі, удзельнічаць у першай імшы свайго сына — сьвятара. Ніхто з маіх сваякоў не здолеў прыбыць у Рым, але напісалі да мяне лісты з выражэньнямі радасьці ад майго высьвячэньня. Іх пры мне замяшчалі а. Вінцэнт А.Мак Кормік С.Й., амэрыканскі Асыстэнт Айца Генерала Ордэна ў Рыме, і пані Ніколас Брэйдзі, фундатарка Вэрнэрсвіла. Пасьля імшы селі разам сьнедаць. Я быў перапоўнены радасьцю і гадзінамі размаўляў аб маіх мроях зьвязаных з Расеяй і быў упэўнены, што хутка апынуся там.

А.а. Нестров і Макар належалі да польскай правінцыі Таварыства Ісуса з сядзібай у Варшаве. У апошні год тэалагічных курсаў, ужо пасьлявысьвячэньня, ім паведамілі, што нікому не ўдасца ў гэты год быць у Расеі, што яны мусяць вярнуцца ў Польшчу і працаваць там сярод каталікоў усходняга абраду. Асабліва пакрыўджаны гэтай зьвесткай быў Нестров. Я ж і надалей быў перакананы, што паеду ў Расею і меў нязломную надзею, што буду туды пасланы вельмі хутка.

І аднойчы мне паведамілі,што Айцец Генерал хоча мяне бачыць.

Я быў зьдзіўлены,— ведаў, што Айцец Генерал Ледухоўскі быў асабіста зацікаўлены расейскай місіяй з хвіліны, калі папа Піус 11 даручыў яму прыцягненьне маладых добраахвотнікаў-езуітаў да гэтай працы, але гэта была мая першая магчымасьць асабістага спатканьня зь ім.

А.Ледухоўскі, такім я яго запамятаваў з таго дня, быў нізкім, кволым чалавекам, з худым аскетычным тварам,запалымі шчокамі, высокім ілбом і самымі яснымі вачыма, якія я калі-небудзь бачыў. Выпраменьваў спакой, а яго прастата і годнасьць аказвалі моцнае ўражаньне. Меў рашучую, амаль строгую манеру размаўляць, але гутарка зь ім была лёгкай і захаплялънай. Цёпла павітаў мяне і

ўважліва слухаў, калі я казаў яму аб маіх надзеях, ідэалах і марах аб працы ў Расеі.

Гутарылі каля дваццаці хвілін. Сказаў, што вельмі цэніць мае надзеі і падзяляе мары, але зараз пасылаць людзей у СССР немагчыма. У ходзе гутаркі ўстаў з крэсла і трохі нервова прахаджваўся па пакоі.

— У сітуацыі, якая існуе цяпер,— сказаў яшчэ,— было б неасьцярожнасьцю пасылаць людзей у Расею. Ведаю, што гэта выкліча расчараваньне, але місія ў Польшчы, у Альбярціне, менавіта зараз патрабуе працаўнікоў, і праца там вельмі плённая. Місія расьцьвітае і зьяўляецца вялікай крыніцай пакліканьняў да ўсходняга абраду і Русікум. Хацеў бы каб ты там працаваў, часова, калі захочаш. Але хачу таксама, каб ты захаваў свае мары аб выезьдзе ў Расею, і можа Бог калі-небудзь выканае нашыя жаданьні.

Прачытаў на маім твары расчараваньне і быў са мной вельмі добрым. Напрыканцы папрасіў, каб я інфармаваў яго аб працы ў місіі ў Альбярціне, яшчэ раз нагадаў нашы супольныя надзеі на прыход дня, калі можна будзе апынуцца ў Расеі і дабраславіў мяне.

Натуральна, я згадзіўся з яго прапановай,— нарэшце крыху навучыўся духу паслухмянасьці, які маюць езуіты. Але сказаць, што не быў расчараваны было б няшчырасьцю. Так доўга марыў аб Расеі, так шмат пасьціўся і так грунтоўна рыхтаваўся, і калі Айцец Генерал паведаміў, што мая адпраўка ў Расею неакрэсьлены час немагчымая, не мог пазьбегнуць эмацыянальнага прыгнечаньня. Але і тады, у хвіліны расчараваньня, ні на імгненьне не засумняваўся, што прыйдзе дзень і я апынуся ў Расеі.

## " Вясной у Расею! "

Мая праца ў Альбярціне на дзьве трэці была душпастырскай і на трэць настаўніцкай. Я выкладаў этыку маладым езуітам, якія вывучалі ў нашай місіі ўсходні абрад, і дзецям у школе — катэхізіс. Акрамя таго быў вандроўным сьвятаром, які наведваў у Альбярціне і навакольных вёсках сем'і, даючы ім парады, размаўляючы са старымі бабулямі і з хворымі, выконваючы

тысячы дзеяньняў, як і належыць душпастыру малога мястэчка. З-за таго, што нас у Альбярціне было мала, толькі трое сьвятароў апрача начальніка, а. Дамброўскага, і з-за таго, што я быў новапрыбылым чальцом, то атрымаў у спадчыну ўсялякія дробныя павіннасьці, якія звычайна выпадаюць на маладзейшага вікарыя.

Сам Альбярцін не быў горадам. Сапраўдным горадам быў Слонім над Шчарай, прамысловы асяродак на трасе галоўнай чыгуначнай лініі з Масквы ў Варшаву. Ад моста праз Шчару трэба было ісьці зьвілістай бруднай дарогай чатыры з паловай кіламетры да паселішча Альбярцін. Чыгунка таксама прахадзіла праз Альбярцін, але гэта быў толькі прыпынак на трасе да Масквы. Адзінай магчымасьцю далучыцца да гістарычнай славы, якую мог сабе дазволіць Альбярцін, быў напалеонаўскі гасьцінец, шырокім пасам працінаючы лес у паўночным накірунку — рэшткі дарогі збудаванай пры Напалеоне ў час нападу на Расею.

Я прыбыў да Альбярціну ў лістападзе 1938 г., адразу пасьля канферэнцыі ў Мюнхене, якая разьдзяліла Чэхаславаччыну і забясьпечыла, як выславіўся Чэмберлен, "мір у наш час". Але хутка пасьля майго прыезду Гітлер пачаў свой пахад каб здабыць Гданьскі калідор. Усю зіму сітуацыя пагаршалася, раньняй вясной нават разышліся пагалоскі, што пераапранутыя нямецкія салдаты прабраліся ў Гданьск і падрыхтаваліся да захопу горада раптоўнай атакай. Вяскоўцы ў Альбярціне сеялі яравыя не ведаючы, ці здолеюць у гэтым годзе зьняць ураджай. Позьняй вясной ужо паўсюль гаварылі аб вайне.

23 жніўня 1939 г. Рыбентроп і Молотов аб'явілі, што немцы і Расея падпісалі пакт аб узаемным ненападзе. Хутка пасьля гэтага я атрымаў пасланьне з амэрыканскай амбасады ў Варшаве са зьвесткай, што хутка можа выбухнуць вайна і што я павінен падрыхтавацца пакінуць Польшчу. Абмеркаваў гэта з а. Дамброўскім і сказаў яму, што не хачу выяжджаць. Я зьявіўся ў Польшчы каб працаваць ва ўсходняй місіі, да таго ж я ніколі не пакідаў надзеі, што паеду ў Расею, а вайна можа даць мне магчымасьць менавіта для гэтага. Адпісаў у амбасаду, што я патрэбны ў парафіі і застануся там, дзе я неабходны.

Праз некалькі дзён, 1 верасьня 1939 г. Гітлер напаў на Польшчу. Увесь час слухалі радыё і ўсе навіны былі кепскія. На працягу невялікага часу нямецкія войскі акружылі Варшаву, горад быў аблажаны і бамбаваны. Рэшткі польскага войска цяклі на ўсход уздоўж напалеонаўскага гасьцінца праз Слонім і Альбярцін. Варшаўскае радыё змоўкла і мы ўжо ведалі, што лёс Польшчы прадвызначаны. Што яшчэ горш, разышліся чуткі, што расейцы трымаюць велізарнае войска ля ўсходняй мяжы і хутка ўвайдуць у Польшчу.

Урэшце а. Дамброўскі вырашыў адаслаць езуіцкіх навіцыятаў дадому, прынамсі да часу такога ўсталяваньня сітуацыі, каб можна было рабіць планы на будучыню. Ён сам паехаў у Вільню каб

спытацца ў біскупа што рабіць з місіяй і парафіяй. З прычыны таго, што я амерыканскі грамадзянін, а. Дамброўскі вырашыў часова даверыць кіраўніцтва місіі мне. А. Грыбоўскі, які быў пробашчам парафіі лацінскага абраду, і а. Літвінскі, другі вікарый парафіі ўсходняга абраду, меліся заставацца з парафіянамі ў паселішчы.

Тады мы меркавалі, што немцы, а таксама і расейцы будуць паважаць амэрыканскі пашпарт. У найгоршым выпадку амерыканская амбасада будзе заўсёды ведаць дзе я, і здолее мне дапамагчы. Такім чынам, сталася так, што я, малады амэрыканец, у дні калі ўвайшлі расейцы, быў адзіным сьвятаром місіі ў Альбярціне.

Першы расейскі афіцэр зьявіўся аднойчы адразу пасьля сьняданку. Калі ён заехаў, конна, каб паглядзець нашу езуіцкую місію, я знаходзіўся на падворку. Быў гэта чалавек сярэдняга ўзросту ў запыленым мундуры колеру хакі з чырвонымі нашыўкамі расейскай арміі. Ветліва прывітаўся і аднёсься да мяне з павагай. Калі паглядаючы з-пад брыля шапкі ён шчыра, так мне здалося, быццам просячы прабачэньня паведаміў, што можа ўзьнікнуць патрэба ў расквартараваньні некалькіх чальцоў штабу на некалькі дзён у нашых будынках, ягоныя вочы выражалі стому.

Ён здаваўся такім ветлівым, амаль прыязным, і я пачаў спадзявацца, што ўмовы жыцьця ў Альбярціне пад расейскай акупацыяй магчыма не будуць кепскімі. На няшчасьце гэта быў апошні раз, калі я бачыў менавіта гэтага афіцэра. Думаю, ён у рэшце рэшт вырашыў, што сядзіба графа Пуслоўскага будзе лепшай кватэрай для яго і ягонага штабу.

Пасьля абеду таго дня зьявілася расейская вайсковая калона. Яе начальнік, малады капітан, не быў ні сімпатычным, ні агрэсіўным, а проста вельмі дзелавітым у чыста практычных справах. Растлумачыў, што мае загад заняць семінарыю пад кватэры для войска. Паведаміў, што я магу захаваць за сабою пакой на другім паверсе і забраць што хачу з царкоўнага майна, бібліятэчных кніжак і маіх асабістых рэчаў, але астатнія будынкі з іх мэбляй будуць рэквізаваныя.

Аднак абяцаў, што царква застанецца некранутай. Дзеля большай упэўненасьці загадаў зрабіць праход праз падворак, каб людзі ідучы ў царкву не праходзілі па тэрыторыі, рэквізаванай для войска. Загадаў таксама замкнуць дзьверы з семінарыі ў царкву, каб вайскоўцы не здолелі ўвайсьці тым шляхам да царквы.

Зьявіліся вайскавыя падразьдзелы і занялі будынак. Пасьля доўгіх дзён маршу жаўнеры кінуліся на семінарыю як калісьці

рэвалюцыянеры на Зімовы Палац. У двор заехалі грузавікі і жаўнеры пачалі кідаць на іх праз вокны бібліятэкі ўсё, што трапляла ім у рукі.

Кніжкі лёталі ва ўсіх накірунках. Жаўнеры ў двары сьмяяліся і жартавалі, крычалі да тых што кідалі кніжкі праз вокны, тыя ж адказвалі ім тым жа самым. Урэшце кніжкі былі вывезены на зьнішчэньне.

Калі гэта рабілася, я з жахам убачыў, як адзін з жаўнераў закінуў трос на манумент Найсьвяцейшага Сэрца, што стаяў у двары, прывязаў да грузавіка і пад гучныя крыкі жаўнераў паваліў яго, разьбіўшы на дробныя кавалкі. Яго абломкі пагрузілі на машыны і вывезьлі. Назіраючы за гэтай сцэнай я не мог зразумець, ці гэты асаблівы подзьвіг быў выкананы па загадзе, ці гэта быў выбрык кагосьці з жаўнераў.

Наступная ноч была найгоршай з перажытых мной у Альбярціне. Спаць не мог, бо нада мною няспынна туды-сюды хадзілі жаўнеры. А назаўтра я быў выкліканы на асабістую гутарку з палітруком, агентам камуністычнай партыі альбо тайнай міліцыі, які меўся ў кожнай адзінцы Чырвонай Арміі. Ён хацеў даведацца, дзе ў Альбярціне знаходзяцца былыя прадстаўнікі польскай улады. Я аб гэтым нічога не ведаў, так яму і сказаў. Ужываючы метад, зь якім я добра пазнаёміўся пазьней, палітрук задаў мне тое ж самае пытаньне некалькі разоў у рознай форме. Настойваў на маім адказе, аргументуючы, што калі я яму дапамагу, то тым самым дапамагу "народу".

Мая дзейнасьць зьяўляецца не палітычнай а душпастырскай,— адказваў я.— Як пробашч дапамагаю людзям у духоўных справах і, калі маю магчымасьць, у матэрыяльных.

Распавёў яму аб выпадках, калі зьбіралі грошы, каб дапамагчы дзецям зь бедных сем'яў атрымоўваць адукацыю ў сярэдніх і вышэйшых школах. Гэта яго не цікавіла. Усё настойваў, што я паўсюль павінен памагаць " народу ", выяўляючы прозьвішчы яго ворагаў і дзелячыся інфармацыяй, якой валодаю як сьвятар.

— Цяпер пан задалёка зайшоў,— сказаў я,— ёсьць рэчы, якія мне давяраюць вернікі як сьвятару, і я не маю права выдаць іх анікому. Не магу здрадзіць таямніцу споведзі. Я б прынёс шкоду як сабе, так і людзям, калі б прадаставіў такую інфармацыю, якая прынамсі не мае нічога агульнага ні з народам, ні з палітыкай, ні з чым, што датычыць пана.

Тут ён раззлаваўся, а я меў ужо гэтага даволі. Зрабіў рух, каб устаць, але ён мяне затрымаў, загадаўшы вярнуцца і сесьці. Аднак

астатнюю частку нашай "гутаркі" быў пачцівы і ветлівы. Неўзабаве праводзіў мяне да дзьвярэй, кажучы, што хутка выкліча мяне зноўку.

Замест яго праз некалькі дзён мяне выклікаў капітан. Паведаміў, што вайсковы статут забараняе цывільным асобам жыць у адным памяшканьні з войскам. "Прапанаваў" каб я перайшоў жыць у маленькі дамок у канцы саду місіі, які быў некалі дворыкам яе нерухомай маёмасьці. Перабраўся адразу пасьля абеду, а вечарам да мяне далучыліся а.а. Грыбоўскі і Літвінскі. Мы былі радымі, што жывем разам, супольна, але праз некаторы час мясцовы камуністычны камітэт вырашыў, што чатырохпакаёвы дамок для трох "буржуазных " сьвятароў, гэта задужа. І прыслалі некалькі сем'яў каб жылі з намі. Мы ўтрох занялі адзін пакой, дзьве сям'і памясьціліся ў вялікай сталовай, а тры — у меньшым пакоі. Кухняй карысталіся пазьменна.

Нягледзячы на тыя нязручнасьці і непрыемнасьці нам, аднак, удавалася утрымліваць амаль нармальнае функцыянаваньне парафіі. Мы здолелі кожную раніцу адпраўляць імшу, а ў нядзелю дзьве імшы, хоць частка парафіян не прыходзіла, асьцерагаючыся рэпрэсій з боку камуністаў. Жаўнеры занялі семінарыйскую капліцу ля царквы і школьны клас пад нейкую дзяжурку. У час ранішняй імшы мы чулі, як за дзьвярыма рухаюцца. Даволі часта, калі ў першай частцы імшы ва ўсходнім абрадзе сьпявалі адказы зь літаніі,там сьвішчэлі і сьпявалі, перадражніваючы:"Господі, Господі".

Але дзьверы з таго памяшканьня ў царкву, згодна з абяцаньнеам капітана, былі заваленыя і жаўнеры не маглі перашкаджаць нам неяк інакш.

Аднойчы ў нядзелю пасьля імшы, а сёмай гадзіне раніцы, я агалошваў кароткае казаньне. Калі пачаў гаварыць, заўважыў некалькі жаўнераў у бабінцы царквы. Яны стаялі там, сьмеючыся, у шапках на галовах, кідаючы варожыя позіркі. Гэта мяне разгневала і я пачаў казаньне на тэму: " Казаў дурнаваты ў сэрцы сваім: няма Бога ". Гэта было, бадай, найбольш спантанным казаньнем, якія я калі-небудзь агалосіў. Кожнае слова выплывала ў мяне проста з сэрца і ляцела проста да іх. Спачатку яны задумаліся, потым пачалі зьбянтэжана і дурнавата азірацца навокал, не ведаючы як сябе паводзіць, калі вочы ўсіх сабраных зьвярнуліся да іх. Пачалі зьбірацца пайсьці, потым спыніліся, занадта пыхлівыя, каб адступіць але прысаромленыя сваёй рэакцыяй, дачакаліся пакуль я не скончыў. Гэта быў быццам бы мой асабісты трыюмф, але ён мог дорага абысьціся, тады я гэта адразу зразумеў.

Аднак на маё зьдзіўленьне ў наступныя дні жаўнеры не прычынчлі клопату падчас імшы. І хоць ведаў, што яны павінны былі з прыкрасьцю ўспрыняць маё слова і сваё прыніжэньне, я пачаў спадзявацца, што інцыдэнт пойдзе ў нябыт.

І вось аднойчы раніцай, калі я прыйшоў у царкву каб адправіць імшу, то застаў дзьверцы ад кораба для сьвятых дароў адчыненымі, а абрус з ахвярніка сьцінутым. Заўважыў таксама адсутнасьць Найсьвяцейшага Сакраманту. Я быў узрушаны. А калі заўважыў, што дзьверы ў жаўнерскую дзяжурку ўжо не забітыя цьвікамі, адразу зразумеў, што сталася і чаму.

Пасьля абеду я паспрабаваў сустрэцца з капітанам каб скласьці скаргу, але безвынікова. Лацінская царква надалей функцыянавала нармальна, і наведвалі яе больш людзей, чым калі — небудзь дагэтуль. Здавалася, што жаўнеры асабліва ненавідзелі каталікоў усходняга абраду, як чальцоў Царквы супраціўнай расейскаму праваслаўю, але амаль не перашкаджалі каталікам лацінскага абраду і шмат нашых вернікаў удзельнічалі ў сьв. імшы пераважна там. Таму я,— з неахвотай,— вырашыў зачыніць царкву усходняга абраду. Перш чым зрабіць гэта, апошні раз абыйшоў з праверкай і выявіў, што жаўнеры, так каб ніхто аб гэтым не ведаў, ператварылі гарышча ў прыбіральню. З гэтага часу адпраўлялі імшу толькі ў лацінскай царкве альбо, для нешматлікіх людзей, якія прыходзілі, у нашым пакоі ў садовым дамку.

Менавіта ў гэты час прыйшла тэлеграма з амэрыканскай амбасады. Прыйшла з Масквы, куды пераехала амбасада пасьля падзеньня Варшавы. Мне раілі пераехаць у Маскву, адкуль маглі адправіць у Злучаныя Штаты, альбо, калі палічу гэта больш пажаданым, накіравацца ў амэрыканскую амбасаду ў Румыніі. Я паказаў гэтую тэлеграму маім сябрам-сьвятарам і мы сумесна яе абмеркавалі. Палічылі, што я павінен выехаць. Праца ўсходняй місіі здавалася ў дадзены момант цалкам зьнішчанай, было мала чаго, што мог зрабіць адзін я і дзе не мог бы лёгка быць замененым іншымі айцамі. Агент НКВД, праз чые рукі мабыць прайшла тэлеграма, таксама "падказваў", што я, амэрыканскі грамадзянін павінен неадкладна пакінуць краіну. А я, насуперак тым прысьпешваньням, адчуваў, што адказваю за парафію і місію перад а. Дамброўскім і павінен застацца да часу, пакуль не ўзгадню ўсё з ім.Аб гэтым пасьля абеду напісаў у амбасаду, маўляў вырашыў застацца ў парафіі, якая мне даверана. Не маю намеру пакідаць маіх авечак.

Крыху пасьля прыйшла новая неспадзяванка. З езуіцкага аддзелу тэалогіі ў Львове прыбылі а.а. Нестров і Макар са зьвесткамі

ад а. Дамброўскага, што біскуп вырашыў часова зачыніць усходнюю місію ў Альбярціне. Гэта было сапраўды дзіўнае спатканьне для нас, трох мушкецёраў, тут, у гэтым маленькім дамку у глыбіні сада, пад чорным покрывам акупацыі расейскімі войскамі.

Макар, высокі грузін, быў надзіва поўны захапленьня. Са сваімі доўгімі хвалістымі валасамі, арліным носам і бліскучымі чорнымі вачыма, ён быў падобны на прыроджанага авантурыста, а падарожжа з Львова да Альбярціна яшчэ ўзмацніла яго запал. Нестров зьяўляўся іншым тыпам авантурыста, хоць такім не выглядаў. Быў моцна складзены, амаль лысы, зь мясістым носам, які рабіў яго падобным да Талстога. Жаданьне працаваць толькі ў Расеі штурхала яго ўперад і ў той вечар ён быў вельмі ажыўлены.

Ён сказаў мне, што адчувае — надыйшоў час ажыцьцяўленьня нашых сумесных мараў. Расейцы занялі Польшчу, такім чынам, мы фактычна ў Расеі. А. Дамброўскі, зачыніўшы місію, вызваліў мяне ад абавязкаў у Альбярціне. А. Грыбоўскі, як меркавалася, мог заняцца тут лацінскай парафіяй. Чаму нам не выкарыстаць гэты шанец і не высьлізнуць углыб Расеі? Нестров і Макар множылі аргументы і мой энтузіязм рос. Урэшце разам вырашылі спрабаваць, калі згодзіцца наша начальства.

Дыскутавалі амаль да позьняка ранку і нашы планы станавіліся ўсё больш акрэсьленымі. Нестров і Макар меліся вярнуцца ў Львоў, а потым Макар павінен прыехаць за мной. З-за таго, што наша начальства разьмяшчалася ў Львове, усё павінна было пачацца адтуль. Я тым часам, не ўзбуджаючы падазрэньняў што зьбіраюся зьехаць, даводжу да ладу справы ў Альбярціне. Памятаю яшчэ свае словы да Нестрова пры разьвітаньні зь ім той ноччу:

— У Расеі будзем вясною.

Праз тыдзень, як і абяцаў, вярнуўся Макар і на зьмярканьні мы абодва высьлізнулі з дому на дарогу да Слоніма. Цягнікі ўжо хадзілі не па раскладу, а на тыя, што хадзілі, нельга было набыць квіткі. Для майго грузінскага таварыша гэта паслужыла толькі выклікам.Мы дачакаліся на станцыі ў Слоніме цягніка да Масквы і селі без квіткоў. Ні да каго не зьвяртаючыся праехалі Альберцін. З вакна едучага цягніка апашні раз убачылі сядзібу.

Калі праваднік нарэшце спытаўся ў нас квіткі, Макар пачаў скардзіцца на кепскую абслугу і парушэньні раскладу руху цягнікоў. Спачатку праваднік сумеўся, але потым запатрабаваў паказаць квіткі. Макар усё больш абураўся, а праваднік станавіўся ўсё больш няўмольным. Загадаў на наступнай станцыі, у Баранавічах, выйсьці і набыць квіткі, інакш высадзіць з цягніка.

Набыць квіткі ў Баранавічах таксама было немагчыма. Цягнік да Львова адыхадзіў гэтай ноччу, але звычайныя вагоны былі перапоўненымі, а спальныя зарэзерванымі для афіцэраў. Гэта разьюшыла Макара. Мы прайшлі ўздоўж цягніка і ўвайшлі ў спальны вагон. Зьявіўся праваднік і сказаў, што вагон зарэзерваваны для афіцэраў, але Макар, хутка размаўляючы па-беларуску, паведаміў яму, што мы зьяўляемся чальцамі беларускай камісіі, накіроўваемся да Львова і не жадаем каб ноччу нас непакоілі. Службовец пагадзіўся. Такія інцыдэнты былі тыповымі для Макара. Прыпамінаю яшчэ адзін, пазьнейшы, у Дубне. Аднойчы вечарам, калі мы вельмі позна вярталіся з дарогі, нас затрымаў НКВДшнік з рэвальверам у руцэ. Макар быў разьятраны, але гэтага не паказаў. Пачаў расказваць нейкую доўгую і заблытаную гісторыю, пры гэтым вылаяў агента за затрыманьне двух "чальцоў партыі" пасярод ночы пад пагрозай рэвальверам. Урэшце настрашаны ці заблытаны агент адпусьціў нас. Тое ж самае сталася і ў Баранавічах. Праваднік знайшоў нам ложкі і паабяцаў не будзіць, так што мы даехалі да Львова камфортна, адпачыўшымі і выспанымі.

Умовы ў Львове былі не нашмат лепшымі, чым у Альбярціне. Езуітам дазволілі заняць толькі частку будынка тэалагічных курсаў, бо расейцы пачалі засяляць у астатнія памяшканьні розныя сем'і. Акрамя таго, давалі зразумець, што ўсе будынкі зьяўляюцца ўласнасьцю "народа". Так яны спадзяваліся зрабіць ўражаньне на людзей, сем'і якіх займалі парафіяльныя памяшканьні. Таму а. Бенька, наш тамтэйшы начальнік, вырашыў, што будзе лепей, калі Макар, Нестров і я знойдзем сабе прыватны пакой дзесьці ў іншым месцы. Мы знайшлі такі пакой у якіхсьці шасьці дамах ад калегіума, у будынку, занятым пераважна ўцекачамі з Варшавы, у большасьці габрэямі.

А. Бенька зьяўляўся ў тыя цяжкія часы ідэальным начальнікам. Гэта быў высокі хударлявы мужчына, больш пяцідзесяці гадоў, з тонкім носам і сьветлымі валасамі. Першае, што заўважаў кожны, была яго ўсьмешка, усьміхаўся часта. Аднак пад мілым зьнешнім воблікам хаваўся вельмі праніклівы і моцны розум. Дасканалы тэолаг, якога большасьць пабрацімаў-езуітаў лічылі адным з наймагутных у правінцыі, выявіўся яшчэ лепшым адміністратарам і сапраўдным геніем майстэрства прыстасаваньня да цяжкіх умоваў.

Шмат маладых езуіцкіх студэнтаў тэалогіі былі вымушаны знаходзіць сабе працу, каб дапамагчы утрымліваць супольнасьць, таму што сродкі тэалагічнага аддзелу былі канфіскаваныя. Нестров, Макар і я пачалі працаваць каб пратрымацца да часу выезду ў Расею. Я вадзіў грузавікі для адной з працоўных брыгадаў, што вазілі мэблю,

інструменты, а таксама рэчы хатняга ўжытку, якія расейцы канфіскоўвалі па ўсім горадзе і звозілі на вакзал, адкуль усё адпраўлялася ў Расею.

Хутка мы зразумелі, што тут вядзецца падвойная гульня. Большасьць людзей з маёй брыгады мелі ў горадзе сваякоў, і такім чынам шмат рэчаў, " канфіскаваных " імі, папросту траплялі да гэтых сваякоў у іншым месцы горада, альбо ў схованку ў вёсцы. Некаторыя людзі плацілі нам за дастаўку рэчаў не расейцам, а іх родным. Гэта было рызыкоўна, але так шмат рэчаў канфіскоўвалася і разьмяшчалася на грузавіках, што ніхто не здолеў бы дакладна праверыць. Брыгада грузавіка, было відавочна, атрымоўвала найбольшае задавальненьне, ашукваючы акупацыйныя сілы.

Як толькі пасяліліся ў Львове, Нестров і я пазнаёмілі а. Беньку з нашым планам падарожжа ў Расею з мэтай дапамогі супольнасьцям, пазбаўленым сьвятароў.

Пакуль што нельга было абысьціся без Макара. Але мы настойліва тлумачылі, што ў акупацыйнай сумятні, калі дарогі і гарады запоўнены эмігрантамі, лепшага часу каб туды паехаць ужо не будзе. Наш план быў просты. Расейцы высылалі з акупаванай зоны вялікія групы людзей на Урал для працы на фабрыках. Здавалася, Сталін не меў ілюзій наконт Гітлера, расейскія фабрыкі працавалі і ўдзень і ўночы. Мы вырашылі, што пойдзем працаваць добраахвотнікамі на ўральскіх фабрыках.

Як я ўжо казаў, а. Бенька быў глыбока духоўным чалавекам, але адначасова ён быў і вельмі практычным і згадзіўся на наш ад'езд. Але сказаў, што перш за ўсё мы павінны атрымаць дазвол мітрапаліта Шаптыцкага, львоўскага архібіскупа ўсходняга абраду.

Гэтай справай заняўся Нестров і праз два дні мы спаткаліся з архібіскупам у яго сядзібе на пляцы ля катэдры сьв. Юрыя. Архібіскуп быў ужо старым чалавекам, але да такой ступені паважаным сярод сваіх вернікаў, што камуністы не маглі адкрыта на яго напасьці. Быў ён вельмі нядужы, на размову з намі яго прынесьлі ў крэсьле,але вочы ягоныя былі ясныя, як і ягоныя думкі.

Сардэчна нас павітаў, выслухаў, потым пачаў гаварыць.

Гэты патрыярх, праніклівы і зычлівы, ведаў Расею з уласнага досьведу. Сказаў, што вельмі даражыць нашым запалам і папярэдзіў аб цяжкасьцях, што нас чакаюць.Урэшце, упэўніўшыся, як моцна мы прагнем ехаць, сказаў:

— Ну добра, робім спробу на год. Дам дазвол на выезд у Расею, але вы павінны быць там вельмі асьцярожнымі і не лезьці ў занадта рызыкоўныя справы. Вашай мэтай мусіць быць толькі

дасьледваньне сітуацыі і выяўленьне, ці сапраўды можна выканваць якую-небудзь сьвятарскую працу ў Расеі. Бог ведае, колькім людзям вы там патрэбны.

Потым пачаў падрабязна распавядаць нам тое, аб чым мы чулі толькі фрагментарна. Апісваў, як расейцы вышуквалі тых, хто працаваў у дзяржаўных установах альбо ў паліцыі, настаўнікаў, юрыстаў, людзей вольных прафесій, землеўласьнікаў і арыстакратаў, нават тых, хто былі трохі багацейшымі за большасьць і, паводле паведамленьняў, высылалі на Ўрал працаваць.

— Хутчэй за ўсё,— сказаў,— гэтыя людзі, калі да іх дабярэцеся, прымуць вас як сьвятароў. Будзеце таксама дасьледваць магчымасьць далейшай працы сярод саміх расейцаў. Але памятайце,- дадаў,— гэта толькі эксперымент, дасьледчая экспедыцыя. Хачу, каб вы вярнуліся да мяне праз год і распавялі аб сваім досьведзе.

Потым дабраславіў нас і даручыў пасьля падрыхтоўкі да падарожжа вярнуцца за падрабязнай інструкцыяй. Нестров і я так распаліліся, што ледзьве слухалі лагодны голас старога мітрапаліта.

— Што я табе казаў? — спытаўся я Нестрова калі мы ішлі калідорам архібіскупскага палаца.— Расея вясной!

Адразу ўзяліся за падрыхтоўку падарожжа ў Расею. Зьвярнуліся да нашага спрытнага грузіна, а. Макара, які ўмеў аблегчыць справы так, як ніхто болей. Здавалася, ён ведае ўсіх, паўсюль мае знаёмствы. Першай праблемай было дастаць нам польскія пасьведчаньні асобы. Мы хацелі працаваць на Ўрале добраахвотнікамі, а не дэпартаванымі. Натуральна, нам бы не дазволілі выехаць у Расею ў якасьці сьвятароў. Не здавалася надта ўжо магчымым, каб расейцы пусьцілі ў сваю краіну мяне, з амэрыканскім пашпартам, а наконт Нестрова,— хоць і расейца, — камуністы б зацікавіліся чаму і як ён пакінуў краіну, што рабіў у Польшчы і чаму хоча вярнуцца.

Аднак пасьведчаньні асобы не сталі перашкодай для Макара. Яны павінны былі быць фальшывымі, але не падробленымі. Ён ведаў як падкаціцца да былых дзяржаўных чыноўнікаў, у іх дастаў два камплекты польскіх дакументаў, падцьвярджаючых асобу, і прынёс нам. Тады Нестров і я пачалі прыдумляць нашы біяграфіі, якія б растлумачылі, чаму мы, каб працаваць на расейцаў, накіроўваемся на Ўрал самотна, без сем'яў. Я стаўся "Уладзімірам Ліпіньскім", палякам, удаўцом, сям'я якога загінула падчас нямецкіх налётаў. Нестров стаў " Куральскім ". Калі біяграфіі былі гатовыя, Макар занёс запоўненыя фармуляры да згаданых чыноўнікаў. На дакументах зьявіліся пячаткі і яны сталі фармальнма заверанымі, мы атрымалі поўную ідэнтыфікацыю.

З гэтымі паперамі мы зьвярнуліся ў кантору леспромхоза, вялікага камбіната, што апрацоўваў дрэва, які вербаваў людзей на працу ў раёнах Урала. Зацікаўленыя здабыцьцём працаўнікоў, там задавалі няшмат пытаньняў, нас адразу прынялі на працу і мы атрымалі працоўныя кніжкі. Пасьля доўгага інструктажу, выдачы квіткоў і авансу ў сто пяцьдзесят рублёў (пятнаццаць даляраў ЗША),— на ежу і выдаткі ў час падарожжа,— нам загадалі зьявіцца праз тыдзень.

Не мелі мы шмат часу на падрыхтоўку, але вельмі хацелі ехаць. З а. Бенькам абмеркавалі становішча яшчэ раз. Мой амэрыканскі пашпарт і расейскі Нестрова вырашылі пакінуць у львоўскіх езуітаў, каб мець магчымасьць, вярнуўшыся з Расеі, забраць іх. Пад канец а. Бенька прызначыў мяне старэйшым на час дарогі, такім чынам рашэньні, як адносна часу нашага вяртаньня, так і адносна роду працы, якой мы меліся заняцца, належалі мне.

У канцы сустрэліся з архібіскупам. Паінфармавалі яго аб нашых планах і падрыхтоўцы, паказалі нашы дакументы і працоўныя кніжкі. Нашыя новыя прозьвішчы яму не спадабаліся. Сказаў, што маюць занадта польскае гучаньне, на яго думку мы павінны былі ўзяць ра сейскія альбо ўкраінскія.

— Аднак,— сказаў ён,— зараз ужо позна што-небудзь мяняць, будзем спадзявацца, што з гэтага не выйдзе нічага благога.

Потым дакладна вызначыў нам межы, якія мы не маглі пераступаць, і род працы, які мы меліся паспрабаваць. Апошняй мерай бясьпекі, якую прапанаваў нам архібіскуп, была старонка, вырваная зь нейкай кніжкі, якую ён разарваў на дзьве часткі, даў нам адну палову, а другую пакінуў сабе. Калі б мы меліся прыслаць да яго кагосьці з нейкімі зьвесткамі, асабліва кандыдата ў семінарыю, павінны даць яму гэтую палову старонкі, якая б, супаўшы з другой паловай, што ў архібіскупа, падцьвердзіла б, што пасланец і зьвесткі сапраўды ад нас.

Пасьля заканчэньня нашай доўгай гутаркі мы ўкленчылі, каб атрымаць дабраславеньне архібіскупа. Той доўгія хвіліны глядзеў на нас, пасьля дабраславіў. Усталявалася маўчаньне. Як быццам каб зьняць напружанасьць, увайшла манашка зь вялікім, бы кола ад возу, боханам белага хлеба, які сёстры сьпяклі нам на дарогу. Абяцалі маліцца за нас.

Калі назаўтра мы прыйшлі ў кантору дрэвавай кампаніі за інструкцыяй, нам загадалі зьявіцца раніцай 15 сакавіка на вакзал у Львове, а замест квіткоў паведамілі толькі нумар таварнага вагона. Да таго ж выявілася, што аванс складае не сто пяцьдзесят рублёў

кожнаму, а сто пяцьдзесят на абодвух. Гэтага нам павінна было хапіць аж да паселішча Чусавая, а дарога магла быць ад двух тыдняў да месяца.

15 сакавіка, за тыдзень да пачатку вясны 1940 г., здавалася будзе добрым прадвесьцем. Апошнім вечарам мы спавядаліся каб падрыхтавацца да невядомай будучыні і атрымалі дабраславеньне а. Бенькі. Назаўтра раніцай адслужылі ў капліцы апошнюю сьв. імшу, запакавалі пераносны ахвярнік і нашы валізкі, ўзялі пад пахі бохан хлеба, фунт сала і з неперlаможным Макарам, які нас праводзіў, рушылі на вакзал — і ў Расею.

## Псеўданім "Уладзімір Ліпіньскі"

Таварны вагон нумар 89725 меў уздоўж сьцен два шэрагі драўляных зэдляў (верхні і ніжні ложак, як выславіўся Макар), салому на падлозе і вентыляцыйную дзірку наверсе. Астатнім абсталяваньнем была старая дзіравая бляшанка з-пад газы ў якасьці печачкі і сьмярдзючае вядро, што замяняла прыбіральню. Вокнаў не было. Былі досыць вялікія каб праз іх глядзець, а таксама каб узьнікалі проймы, шчыліны ў бакавых сьценах.

На пачатку падарожжа нас у вагоне было дваццаць пяць. Падаўляльную большасьць нашых спадарожнікаў складалі габрэі, якія ўцякалі з Польшчы ад гітлераўскай навалы. Спачатку пазнаёміліся з Франакам, варшаўскім камуністам, які пакінуў горад перад самым яго захопам. Зараз, бяздомны, ён вырашыў забраць сваіх родных— жонку, дзесяцігадовага сына і пляменьніка, каб жыць у тым раі, аб якім ён столькі начытаўся ў камуністычнай літаратуры. Франак быў не адзіным чалавекам з дзецьмі. У цягніку знаходзіліся цэлыя сем'і — дзяды, бабулі, бацькі, маці і дзеці. Вырваныя са сваіх пракавечных сядзібаў, яны несьлі на сьпінах усё, што мелі, як і ўсе ўцекачы, спадзеючыся асесьці ў чужой краіне. Аднак у той групе існаваў моцны дух узаемнай прыязьні, кожны імкнуўся дапамагчы іншым і наколькі дазвалялі акалічнасьці, разьвесяліць іх.

Шлях са Львова на Ўрал быў доўгім і цяжкім. Спачатку праехалі Кіеў і Віньніцу, потым праз Бранск і Калугу да Горкага, потым на ўсход да Казані і Ўфы і, нарэшце, на поўнач, уздоўж ракі Чусавая, да паселішчаЧусавая, каля сямідзесяці пяці кіламетраў ад Пермі, якая ў той час называлася Молатавым.

Рухаліся мы ўвесь час спыняючыся, здавалася,кожны цягнік на трасе меў перавагу над нашым. Часам, перш чым рухацца далей, вымушаны былі чакаць па два дні.

Пэўным чынам, гэтыя частыя прыпынкі былі дабраславеньнем. Яны давалі нам магчымасьць парухацца на сьвежым паветры, выліць вёдры з нечыстотамі. Яшчэ мы па чарзе прыносілі ваду і спрабавалі набыць штосьці зь ежы. Шмат пажывы дастаць не было магчымым. Гаспадары ў гарадах, што ляжалі на нашым шляху, не мелі нам нічога прадаць.

— Таго, што маем тут з ежы,— казалі яны,— хапае толькі для мясцовых рабочых. Мы не можам карміць эмігрантаў.

Тое, што ў гэтым раі для рабочых не хапае ежы, было для Франака шакіруючым адкрыцьцём, але ён прыпісаў гэта вайне.

Раз на дзень мы маглі дастаць у харчовым вагоне цягніка па маленькаму бохану хлеба, і зрэдку каля фунта цукерак. А часам, калі шанцавала, маглі набыць у падыйшоўшага селяніна цыбулі або капусты. Але пераважна наша сілкаваньне складалася амаль выключна з таго, што мы ўзялі з сабою. Нестров і я дзялілі фунт сала. Елі яго сырым разам з куплёным хлебам і запівалі ўсё вадой.

Другой нашай вялікай патрэбай у халодным і вільготным сакавіцкім паветры было паліва для абагрэву вагона. Хутка мы сталі майстрамі па крадзяжы вугалю з куч, што ляжалі на станцыях і ўздоўж чыгункі. Калі-нікалі бралі яго нават з лакаматыва.

Людзі ў гарадах уздоўж трасы ставіліся да ўцекачоў з насьцярожанасьцю. Аднойчы, дзесьці на бакавой каляіне паміж Віньніцай і Кіевам была мая чарга прыносіць ваду. Найбліжэйшым паселішчам побач выдаўся калгас. Сын Франака, Арон, які падружыўся са мною, пабег мне дапамагаць. Як толькі мы дабеглі да студні, з суседняга дому выйшла нейкая кабета і пачала на нас крычаць, называючы "палякамі", "валацугамі" і "бруднымі ўцекачамі", якія не маюць права карыстацца мясцовай студняй. Сказала, што перш чым мы "сапсуем" гэтую ваду, нацкуе на нас сабак і каб мы лепш за ўсё як мага хутчэй прыбіраліся адсюль.

У той дзень пасьля доўгай дарогі мы былі вельмі зьнясіленымі. Яе крыкі перапоўнілі маё цярпеньне. І я адказаў ёй у тым самым тоне. Словы, якія я не ўжываў з хлапечых часоў на вуліцах Шэнандоа, ўзгадаліся сам не ведаю як, і выверзьліся зь мяне. Кабета з паскудным языком змоўкла і адступіла дадому. Малы Арон нічога не сказаў, але відаць распавёў усю гісторыю бацьку, бо Франак пазьней прысеўшы да мяне жартаўліва сказаў:

— Ну ніколі б не падумаў, што вы можаце так уськіпець. Сапраўды добра заткнулі рот той кабеце!

У тую хвіліну я быў рады, што ніхто ў вагоне не ведае аб маім і Нестрова сьвятарстве.

Хоць дні таго падарожжа блытаюцца ў маёй памяці, здаецца мне, што менавіта тым вечарам мы пераехалі старую даваенную мяжу паміж Польшчай і СССР. Памятаю, што было гэта 19 сакавіка, у дзень сьв. Юзафа. Памятаю таксама, што далікатна штурхнуў Нестрова ў бок і ціха паведаміў тое, што вымавіў у палацы архібіскупа ў Львове:

— А ўсё ж бачыш — вясной у Расеі!

Моўчкі глядзелі з хвіліну адзін на аднаго. Немагчыма было адгадаць што прынясе будучыня, але нарэшце спраўджвалася тое, аб чым мы марылі столькі гадоў. Не мела значэньня, што ніхто ў вагоне не ведае пра наша сьвятарства. Мы ведалі аб гэтым. Пераход мяжы напоўніў мяне дзіўнай радасьцю і адначасова пачуцьцём самоты і канца таго жыцьця, якое мы ведалі дагэтуль. Я не стрымаўся, каб не задаць сабе пытаньня, як і шмат іншых сьвятароў да нас, ці аддадзім жыцьцё за веру. Памятаю, што ў той вечар заснуў, паўтараючы ў такт стуку колаў цягніка: "Я гатовы, я гатовы, я гатовы".

Трасучая, са шматлікімі затрымкамі дарога са Львова да Чусавой на зьвілістым і доўгім шляху у дзьве тысячы дзьвесьце пяцьдзесят кіламетраў цягнулася больш за два тыдні. За выключэньнем хвілін, калі мы стаялі на бакавых каляінах ці выглядалі праз шчыліны ў сьценах, бачылі заўжды адно і тое ж: чатыры сьцяны вагоны і сонечны прамень, што падаў праз адтуліну ў столі. Гэта быў наш сьвет і мы стараліся неяк у ім жыць.

Сплывалі гадзіны, дні, тыдні, а размовы круціліся вакол адных тэмаў. Сваякі гутарылі аб кінутых дамах і новых надзеях. А ўсе разам мы разважалі аб магчымасьцях, якія павінен нам даць Урал.

З цягам часу, на прыпынках, колькасьць людзей у вагоне павялічвалася. Яны таксама ехалі на Урал каб там працаваць, поўныя надзеі з прычыны, вядомай толькі ім. Прымалі іх холадна. Яны займалі у вагоне каштоўную прастору, а той ужо і так здаваўся зацесным, былі дадатковымі ратамі, а ежы амаль не было. Нават харчовы вагон не выдаваў ужо хлеба штодзённа. Аднак прыбылыя прыносілі новыя тэмы для гутарак і новыя аповяды, часам нейкія навіны, якія расьсейвалі манатоннасьць.

Праз два тыдні мы нарэшце спыніліся на бакавой каляіне перад Чусавой. Горад расьцягнуўся ўздоўж ракі Чусавая, ля яе вусьця ў раку Усьва, паблізу падножжа Урала, каля тысячы ста кіламетраў на паўночны ўсход ад Масквы. Як вялікі асяродак здабычы драўніны, адкуль бярвеньне, сплаўленае па рэках, грузілася на цягнікі, што ішлі да Пермі, Чусавая была разьвітым горадам. Тут мелася вытворчасьць драўнянага вугалю і чыгуну для ваенных мэтаў. Уздоўж ракі стаялі

вялікія вугальныя заводы, якія перапрацоўвалі драўніну ў вугаль для расплаўленьня руды. Расейцы працавалі цяжка.

Мы прыехалі туды, але не павінны былі там заставацца. На станцыі нам паведамілі, што мы будзем працаваць не ў Чусавой, а на дрэваапрацоўчых прадпрыемствах у Цёплай Гары, яшчэ адным разьвітым горадзе, у сямідзесяці пяці кіламетрах далей на ўсход. Нас перадалі ці то наглядчыку, ці канваіру — высакаму, хударляваму і касавокаму старому. Ён загадаў нам выйсьці з вагонаў, паказаць нашы паперы і станавіцца на пераклічку, каб упэўніцца, што ніхто з "добраахвотнікаў" па дарозе не дэзертыраваў.

У чыноўніка адразу ўзьнікла падазрэньне да Нестрова і мяне, таму што абодва падарожнічалі без сем'яў. Прыйшлося распавесьці яму трагічную гісторыю аб тым, як у час налёту гітлераўскіх бамбавозаў я страціў жонку і дзяцей. Сказаў, што менавіта тады, калі мы пераходзілі вуліцу, ля нас выбухнула бомба. Жонка, сын і дзьве дачкі былі забітыя на месцы, а мяне адкінула на другі бок вуліцы. Калі здолеў прыпаўзьці да варонкі, жонка ляжала на целе малодшай дачкі, а ад астатніх дзяцей нічога не засталося. Адчуўшы, што жыцьцё скончылася, вырашыў пачаць усё нанава на прадпрыемствах па апрацоўцы драўніны на Ўрале, дзе, кажуць, добра плацяць і мала задаюць пытаньняў.

Чыноўнік не праявіў ні каліва спачуваньня. Прамармытаў некалькі слоў, кінуў на нас пару касых позіркаў і акрамя гэтага больш нічога не сказаў. Аднак, каб уразіць наступнага чыноўніка, я вырашыў на будучыню адшліфаваць сваю гісторыю. Той, калі ўпэўніўся што колькасьць прывезеных супадае са сьпісам, пачаў нас інструктаваць. Размаўляў з намі як з вязьнямі на лаве падсудных.

Забараніў, аж да прыбыцьця ў Цёплую Гару, без яго дазволу пакідаць на якойсьці падставе вагоны. Прадстаўнікі з кожнага вагона будуць мець магчымасьць пайсьці ў Чусавую каб набыць прадукты, бо мабыць мы пасьля дарогі ад Львова галодныя. (Гэтыя саркастычныя словы былі найбольш людскімі з усяго, што мы ад яго пачулі). Дадаў, што мы будзем разьмешчаны ў бараках у Цёплай Гары і атрымаем мінімальны заробак. Ці хопіць яго на адзеньне і харчаваньне, будзе залежыць ад нашай працы і ад атрыманай прэміі. Мы згадзіліся на працу добраахвотна і яе нам будзе даволі, бо Ўрал не лагер для адпачынку. Дадаў яшчэ, як быццам толькі што ўзгадаўшы, што дэзертырства будзе сурова карацца. Яшчэ злачынства, якое не будзе цярпімым, гэта п'янства. І няхай бацькі сочаць, каб дзеці не спраўлялі патрэбы.

Гэта быў дзіўны спосаб прыняцьця добраахвотных працаўнікоў. Франак са сваімі мроямі аб рабочым раі быў скрушаны. Але мы былі вельмі згаладанымі, а тут прынамсі маглі дастаць нешта зь ежы. Калі чыноўнік адпусьціў нас, мы ўлезьлі ў вагон, узялі наш мізэрны грашовы рэсурс і падсілкаваліся, найлепш за апошнія два тыдні. Гэта была памылка, бо мы не ведалі, што прастаім тут яшчэ амаль тры дні.

Увесь гэты час мы мелі вельмі мала грошай для набыцьця ежы. Каб штосьці зьесьці некаторыя сем'і нават заклалі свае каштоўныя рэчы, якія ім удалося захаваць падчас падарожжа са Львова.

Праз тры дні, амаль паміраючы з голаду, мы даехалі да Цёплай Гары. Ішоў праліўны дождж. Калі нарэшце скончыліся фармальнасьці, нам, каб дабрацца да лагера, які знаходзіўся за межамі горада, загадалі грузіць рэчы на конныя падводы. Нестров і я працавалі пад залевай, памагаючы Франаку і іншым сем'ям грузіць рэчы на вазы. Дарогі ўяўлялі суцэльнае балота і коні ледзьве пераадолелі паўтара кіламетра, што аддзялялі нас ад лагера. Увесь час прыходзілася злазіць з вазоў і стоячы па шчыкалаткі ў балоце, абхляпваючыся брудам, штурхаць іх з выбоін на дарозе.

Драўляныя баракі ў лагеры былі новыя, але недаробленыя. Вялікія часткі сьцен з пакрыўленых дошак былі замазаныя глінай, ці нечым падобным на гіпс. Перагародкі паміж пакоямі былі няшчыльнымі, праз шчыліны быў бачны кожны рух людзей у суседніх памяшканьнях. У такіх умовах нельга было адчуць сябе ў адзіноце, але большасьць сем'яў прынамсі мела для сябе памяшканьне. Нестров і я, як халасьцякі, атрымалі месцы ў агульнай залі.

На ложках ляжалі чыстыя прасьціны і саламяныя матрацы. Падлогі былі вымытыя. Чыстымі зьяўляліся габляваныя сталы і печачкі ў кожнай частцы барака. Гатавалі ў іншай печы, у канцы калідора, што цягнуўся ўздоўж памяшканьняў. Ёй у часы харчаваньня мы ўсе карысталіся па чарзе. Большасьць мужчынаў у нашым бараку былі старымі бывальцамі, якіх сюды саслалі ў трыццатыя гады, у часы калектывізацыі. Павіталі нас цёпла, хоць і занадта шумна, вызначылі ложкі і паінфармавалі аб мясцовым ладзе жыцьця. Нейкія два дні пайшло на знаёмства з лагерам і адказы на пытаньні што тычыліся прафесійнай кваліфікацыі.

Нестров быў залічаны ў кантору. Мне пашанцавала меней. Усё лета, аж да 1940 г., я працаваў некваліфікаваным рабочым у зьмешанай (мужчыны і кабеты) брыгадзе, выцягваючы з ракі бярвеньні і складаючы іх у штабелі вышынёй больш за два метры, а даўжынёй дзесяць метраў. Гэта была цяжкая праца. Штабелі былі вышэй за мяне і апошнія бярвеньні прыходзілася падымаць над

галавой. Рукавіц не было, таму працавалі голымі рукамі, крывавячы іх аб цьвёрдую кару.

Шкала заробкаў залежала ад колькасьці кубічных метраў драўніны, складзеных за дзень. За першы месяц я зарабіў вельмі мала. Даволі часта мяне пасылалі падаваць бярвеньні іншым членам брыгады, і тады прыходзілася працаваць па пояс у вадзе. Часам трэба было і ныраць. Каб зварухнуць набрынялае бервяно (даўжынёй два метры і дыяметрам каля шасьцідзесяці сантыметраў) калі ногі сьлізгаюць у муле, трэба прыкласьці згубныя высілкі.

Для набыцьця ежы Нестров і я складалі заробкі разам, але не маючы досьведу ў канторскай працы ён таксама зарабляў няшмат. Часам мы мелі толькі на набыцьцё бохана жытнёвага хлеба. А некаторымі вечарамі не маглі дазволіць сабе нават гэтага, бо мусілі плаціць за месца ў бараку, гэтую плату ў нас загадзя вылічвалі з заробкаў. Праз два тыдні нашы грошы скончыліся.Урэшце, каб неяк пракарміцца, я прадаў футравае паліто.

Старажылы адносіліся да нас па-сяброўску, але не бачылі нічога кепскага скарыстоўваючыся працай новапрыбылых, якія зрэшты хутка зразумелі, што іх ашукваюць, бо за дадатковую працу існавалі прэміі. Калі не зьвяртаць увагу на колькасьць пагружаных бярвеньняў, частка зь іх пад канец дня магла асесьці на чужым рахунку. Каб быць упэўненым, што мая праца не прыпісана камусьці іншаму, я навучыўся правяраць іх. Паступова мае рукі сталі цьвёрдымі і навучыліся ўсялякім майстэрскім прыёмам у працы. Неўзабаве мы з Нестровым былі прынятыя ў кола ветэранаў.

Памятаючы парады мітрапаліта Шаптыцкага, мы спачатку былі вельмі асьцярожнымі. Нідзе не гутарылі аб рэлігійных справах, але прыслухоўваліся да размоваў, каб ведаць аб чым думаюць нашы суседзі. Сярод іх было даволі шмат перакананых атэістаў і камуністаў, якія калі-нікалі падымалі рэлігійныя тэмы, і мы назіралі за рэакцыяй.

Старыя работнікі раней былі вяскоўцамі, прывязанымі да рэлігіі гэтак жа, як да іншых успамінаў аб мінулым. У цяжкія хвіліны яны ўсклікалі "Господі, Господі!", пераплятаючы гэтыя словы сакавітай лаянкай, ад якіх валасы ўставалі на галаве. Яны не надавалі ніякай вагі гэтым воклічам і адкрыта не вызнавалі ніякай рэлігіі, бо лагер быў лагерам камуністычным, а рэлігія — "опіумам слабых ".

Аднак часам, калі хтосьці з атэістаў высьмейвалі рэлігію, мы садзіліся зь кім-небудзь яшчэ ў кут і спрабавалі іх вывучаць. Спачатку мы рабілі гэта вельмі асьцярожна. Мы павінны былі дасьледваць магчымасьці таемна працаваць сьвятарамі.

Вядома, нельга было адправіць імшу у бараку. Тым не менш калі-нікалі мы з Нестровым ішлі на шпацыр у лес і адпраўлялі імшу там. Ахвярнікам нам служыў вялікі пень, і калі адзін з нас тварыў богаслужэньне, другі стаяў на варце ля дарогі. Гэта было такое перажываньне, якога я ніколі не забудуся. У глыбокай цішы густога лесу было чуваць, як перабягаюць вавёркі і зграяцца ў паветры птушкі. Усё выглядала прыгожым і таямнічым, а ўсялякая небясьпека на нейкі час далёкай.

У абставінах калі мы заставаліся самі але не маглі пакінуць лагер каб адправіць імшу, мы па чарзе чыталі мшальныя малітвы і вучылі іх напамяць, так што ўрэшце добра іх ведалі. Мы заўсёды разумелі, што ў выпадку выкрыцьця нашага пераноснага ахвярніка страцім літургічныя ўборы і кніжкі. Аднак вырашылі, што як толькі здолеем даставаць хлеб і віно, будзем адпраўляць імшу.

Гэтыя ўзнёслыя ідэі і хвіліны блізкасьці з Богам не засьцілалі нам рэальнасьці. Умовы жыцьця ў бараку, страх выкрыцьця, што не даваў спакою, антырэлігійныя прапагандысцкія выступленьні кіраўнікоў на шматлікіх рабочых сходах, уяўная абыякавасьць людзей у бараку, усё гэта здавалася рабіла нашу "місію" і нашы мары безжыцьцёвымі. Лёгка было расчаравацца і панура раздумваць над немагчымасьцю што-небудзь зрабіць.

У глыбіні душы, аднак, шмат людзей было рэлігійнымі. Яны па-сакрэту таксама маліліся. Прынамсі, шмат хто выказваўся аб жаданьні, каб паблізу была царква, дзе можна было б ахрысьціць сваіх дзяцей. Мы паведамлялі ім, што можам гэта зрабіць самі.

У хвіліны маркоты Нестров і я суцяшаліся думкамі аб Божым Наканаваньні і Яго Ўсемагутнасьці. Аддавалі сябе саміх і нашу будучыню ў Яго рукі і жылі далей.

Па-сапраўднаму нашай працай павінна была быць наша малітва. Часамі мы, калі нагадвалі адзін аднаму што павінны быць "сузіральнымі ў дзеяньнях", робячы ўсё, як казаў сьв. Ігнаці ў сваіх "Духоўных практыкаваньнях", дзеля найбольшай хвалы Бога, сумна ўсьміхаліся. Працавалі мы не толькі каб здабыць ежу і выжыць, ці каб наша асяроддзе нас прыняло, але і таму, што ў той жа час наша праца была нашым "пакліканьнем". Мы былі рабочымі.

У нашай брыгадзе быў стаханавец, малады дужы расеец, векам ля дваццаці пяці, які дзеля "славы рэвалюцыі" заўжды імкнуўся пабіць уласныя рэкорды. Назва "стаханавец" паходзіць ад Аляксея Стаханава, шахцёра з Данбаса і героя пачатку трыццатых гадоў, які паводле рапартаў за адну зьмену ў шахце павялічыў прадукцый-насьць да 1400 працэнтаў. У савецкай легендзе ён вельмі усхвалены і

зьнесьмярочаны, падобна як Поль Баньян з лагераў дрывасекаў у паўночна-заходняй Амэрыцы, ці Джо Мэгэрэк у сталёўнях ля Піцбурга. Я вырашыў, што калі ён здолеў так шмат зрабіць дзеля хвалы камунізму, то я здолею зрабіць тое ж дзеля хвалы Бога.

Відавочна, што такі невялікі мужчына як я не мог сур'ёзна спаборнічаць з тым маладым расейскім волатам, але праблемы для яго я ствараў. Тыдзень за тыднем, калі ён біў рэкорды лагера ў 58, 59, 60 кубаметраў бярвеньняў, прозьвішча Ўладзіміра Ліпіньскага стаяла адразу за ім на лічбах 53, 54 або 55 кубаметраў. Гэта спаборніцтва стала ў бараку прадметам жартаў, а ветэраны заклікалі мяне перамагчы моцнага расейца. Аднак мая слава, як працаўніка не зьліквідавала падазрэньняў нашага "сябра" чыноўніка. Аднойчы вечарам у хляве, разьмешчаным на адлегласьці ў паўтара кіламетра ад барака, успыхнуў пажар. Перш чым трывога дайшла да нас, зьявіўся чыноўнік каб даведацца ці выходзілі я альбо Нестров у той вечар з барака. Ён быў упэўнены, што гэта мы падклалі агонь. Найперш распытаў людзей з барака, але яны сказалі, што мы адтуль не рухалі. Толькі тады ён вырашыў паведаміць нам аб пажары і загадаў памагчы тушыць.

На мяжы лета і восені 1940 г. я папрасіўся на працу кіроўцам грузавіка. Быў я тады ўжо работнікам, якому давяралі (мабыць за выключэньнем чыноўніка) і які заслугоўваў службовае павышэньне. Паслалі ў Чусавую экзаменаваць на права язды. Здаў іспыт выдатна, атрымаўшы ступень "кіроўцы першай карэгорыі", найлепшую з магчымых. Як толькі вярнуўся ў Цёплую Гару, мне далі грузавік. Ён аказаўся старызнай, якая б магла служыць самаму Генрыку Фарду ў якасьці натхняючай мадэлі. Пазьней гэтая руіна прынесла мне шмат прыкрых хвілін. Нестров таксама атрымаў павышэньне і быў пераведзены ў кантору экспедыцыі. З прычыны нашых новых заняткаў нам выдзелілі пакой, у якім мы жылі з двума расейцамі, якія паходзілі з Магнітагорска.

А яшчэ ў гэты ж час мы атрымалі расейскія пашпарты. Звычайна вечарамі ў бараку розныя члены партыі рабілі нам агітацыйныя прамовы на тэмы нашай працы або палітыкі, камунізму альбо атэізму. Неяк вечарам адзін зь іх сказаў, што для нас, добраахвотнікаў, карысна было б мець расейскія пашпарты. Маючы іх, маўляў, мы б здолелі вольна перамяшчацца па краіне, у той час як з нашымі пасьведчаньнямі маем цяжкасьці, вымушаныя заставацца там, куды нас разьмяркуюць. А наяўнасьць расейскага пашпарта аблегчыла б нам атрыманьне працы там, дзе захочам.

Абмеркавалі гэта з Нестровам.Расейскія дакументы маглі б зашкодзіць пры пакіданьні краіны. З іншага боку, аблягчаючы перамяшчэньні, яны маглі аблегчыць вяртаньне ў Львоў. Калі нарэшце рашыліся іх афармляць, гэта аказалася зусім няцяжка. Мы проста аддалі нашы асабістыя дакументы і дазволы на працу, запоўнілі бланкі і праз паўгадзіны атрымалі пашпарты.

У той жа час мы паслалі рапарт мітрапаліту Шаптыцкаму і ліст да Макара. Макар амаль адразу адказаў, што спадзяецца злучыцца з намі вясной. Яшчэ мы асьмялелі ў нашых спробах размоваў аб рэлігіі. Мы падружыліся ў лагеры са шматлікай дзятвой і калі-нікалі пыталіся ў іх, што ім кажуць у школе пра Бога. Аднак вымушаны былі дзейнічаць далікатна, бо аднойчы нейкі камсамолец пачуў як я расказваў дзецям пра Бога і пасьля сказаў ім каб трымаліся ад мяне далей. Сказаў, што ад такіх гутарак могуць быць непрыемнасьці.

Я пераканаўся, што асабліва былі зацікаўленыя рэлігіяй падлеткі. Яны чулі ў школе шмат дыскусій, якія яе высьмейвалі, таму хацелі ведаць болей. Пад выглядам зьбіраньня грыбоў ці ягад мы пасьля працы ладзілі ў лесе сходы. Там за пагоркам, або ў якойсьці расколіне, мы гадзінамі гутарылі пра Бога і пра стасункі паміж чалавекам і Богам, чалавекам і бліжнім.Задавалі мноства пытаньняў і старанна вучыліся. Напрыканцы такіх сходаў мы прасілі, каб ніхто нікому аб нашых гутарках не казаў, і рознымі сьцежкамі вярталіся ў лагер.

На Ўрале зіма прыходзіць рана, як і ў пераважнай большасьці Расеі. Жыцьцё ў лагеры вальшчыкаў лесу стала цяжэйшым, чым звычайна. Часьцяком тэмпература падала ніжэй сарака градусаў марозу, але халады былі цярпімымі пакуль не было ветру. Праца працягвалася нават у часы сьнежных завеяў.

Аднойчы, у час начнога рэйсу, гадзін каля двух, мой грузавік сапсаваўся, забіўся карбюратар.У мяне былі толькі такія альтэрнатывы: паспрабаваць яго адрамантаваць альбо да сьмерці замерзнуць. Было цёмна, як у магіле, і я не меў інструментаў, але адчыніў капот і ўзяўся за працу навобмацк. Абмацаў паліўны шланг і, ранячы пальцы, спрабаваў адкруціць імі муфту. Нарэшце справа пайшла. Ад вострага ветру і моцнага марозу мае рукі цалкам здранцьвелі. Сьнегу было па шчыкалаткі, а чаравікі я меў кароткія. Каб аднавіць кровазварот тупаў нагамі і хлопаў рукамі. Урэшце адкруціў муфту, вызваліў паліўны шланг і, каб бензін не выліваўся на зямлю, заткнуў яго пальцам. Стараўся адагрэць шланг рукамі, потым узяў яго ў рот каб прачысьціць. У роспачы доўга дзьмухаў, ажно

пакуль не прадзьмуў. Рукі зноў здранцьвелі. Здавалася, не здолею закончыць рамонт.Пакуль не ўдалося ліквідаваць пашкоджаньне, адаграваў пальцы ў роце. Рук не адчуваў. Пачаў думаць, што моцна іх адмарозіў, але паступова, з цягам таго, як вярталася ў іх адчувальнасьць, яны пачалі балець і пакалваць. Зноў, каб здолець закончыць працу, пачаў тупаць нагамі і біць рукамі па плячах. Збалелымі пальцамі зачыніў капот і з цяжкасьцю ўсеўся за руль. Рухавік быў заліты. Заставалася чакаць пакуль высахне. Толькі на сьвітанку я прыгнаў машыну ў гараж.

Наступны раз ужо не быў такі шчасьлівы. Здарылася аварыя якой я не мог даць рады. Быў вымушаны сорак восем гадзін сядзець пры страшэнным марозе, без ежы, аж пакуль не пад'ехала іншая машына. За гэты час адмарозіў сабе абедзьве шчакі. Правая палова твару адтала, але левая, якая была на ветры, аказалася адмарожанай ад вока да ськівіцы. Рана паступова зарубцавалася і зьменшылася, але толькі на чацьвёртым годзе майго знаходжаньня ва ўвязьненьні загаілася зусім.

Падумаў было, што зрабіў найвялікшую ў жыцьці памылку, калі ўзяўся вадзіць гэтую старую руіну. Аднак з іншага пункту гледжаньня, грузавік быў вельмі карысным. Часта вазіў прадукты для брыгадаў, што працавалі ў лесе. Там было шмат навабранцаў і я, пакуль разгружалі машыны, меў выпадкі размаўляць з імі. Таксама меў магчымасьць у тых рэйсах зазіраць у вясковыя хаты, якія стаялі на пагорках за лагерам. Гэта былі пераважна даўнія ссыльныя, беларусы і ўкраінцы, сасланыя сюды ў 1937 г., у пік калектывізацыі. Жылі ў хатах на ўзгорках і здабывалі жабрацкую пажыву, гаспадарачы на зямлі або працуючы ў лагеры дрывасекаў, ці на металургічным заводзе, калі мелі магчымасьць туды ўладкавацца.Гэта былі адкрытыя людзі і зь імі было лёгка гутарыць. У супрацьлегласьць тым, з лагера ці з баракаў, яны сьмела размаўлялі пра Бога і пра малітвы, аб сваіх жаданьнях мець паблізу царкву і сьвятара. З-за таго, што я толькі шукаў свой далейшы шлях, увесь час памятаючы перасьцярогі архібіскупа, я не адкрыўся ім. Адзіныя, хто ведаў аб маім сьвятарстве, былі хворыя, якіх я калі-нікалі адведваў у шпіталі Чусавой. Я меркаваў, што гэта іх усьцешыць і надасьць большае значэньне маім абяцаньням маліцца каб яны ачунялі. А яшчэ я спадзяваўся, што здолею спавядаць паміраючых, але наведваньні шпіталю дазваляліся толькі ў зале для адведзін, дзе заўжды была таўканіна. Я ніколі не бачыў там сур'ёзна хворых ці паміраючых, а я адчуваў, што спрабаваць прадастаўляць сьвятыя тайны іншым было б занадта рызыкоўным.

Тым не менш, мы ўсё ж разбудзілі нейкія падазрэньні. У студзені 1941 г. Нестрова і мяне раптам выклікалі ў Чусавую. Прычыны нам не сказалі. Ледзьве пасьпелі сабрацца, як нас пасадзілі ў цягнік і паслалі працаваць на прадпрыемствах апрацоўкі драўніны ў Чусавой. Магчыма за гэтым стаяў наш стары "прыяцель"-службоўца, бо інакш нельга растлумачыць што толькі Нестров і я былі так адзначаныя. У дрэваапрацоўчых прадпрыемствах Чусавой Нестров зноў працаваў у канторы, я ж апынуўся ў рабочай брыгадзе, якая дастаўляла драўніну да вугальных печаў. Гэтая новая праца мела свае добрыя бакі. Па-першае, калі на тое была магчымасьць, мы маглі ў горадзе набываць ежу. Па-другое, насуперак падазроным акалічнасьцям нашага пераводу, мы аказаліся нашмат больш вольнымі.

У бараку мы жылі ў пакоі разам з габрэем па імені Валяр'ян і двума палякамі. Адзін зь іх, Фухс, быў худым, бледным чалавекам з чорнымі валасамі і сьціснутым ротам. На вузкім носе насіў пэнснэ і, зыркаючы праз шкельцы, заўсёды здаваўся карыкатурай на навукоўца. У сапраўднасьці ж ён быў раней чыгуначным службоўцам у Вільні, а цяпер працаваў бухгалтарам у лагернай канторы, дзе і Нестров.

Габрэй, Валяр'ян, быў вялікім жвавым хлопцам, цэнрам любой размовы і страшным балбатуном. Быў яшчэ маладым чалавекам, меў, можа, дваццаць чатыры гады. Увесь час успамінаў сваё жыцьцё акцёра і свае дні ў тэатры. Калі набліжаліся немцы, уцёк з Варшавы і прыехаў у Чусавую, але не працаваць. Ён і адзін паляк, Янаш, былі найспрытнейшымі ў лагеры махлярамі. Часам зьнікалі на некалькі дзён і жылі якімсьці ўласным промыслам, выменьваючы ўсё што можна і любой цаной пазьбягаючы працы. Вярталіся ў барак толькі тады, калі былі галоднымі альбо мелі патрэбу ў грашах. Янаш, нізкі, з рыжаватымі валасамі, быў, як казаў сам, гандляром з Варшавы, але пра свае справы ніколі не распавядаў.

Валяр'ян і Янаш вынайшлі спосаб, якім можна было набыць у Чусавой алкаголь. Калі ў рэстаране замаўлялася нейкае сілкаваньне, то заказ утрымоўваў тры ці чатыры кілішкі гарэлкі. Прыйшоўшы ў рэстаран не пазьней паўгадзіны пасьля пачатку яго працы можна было замовіць бульбы, кампоту, фасолі, на дэсэрт малочнага кісялю і, калі пашчасьціць, кавалак мяса. Калі прыйсьці пазьней, меню складалася з талеркі супу, порцыі капусты і кашы і, магчыма, малочнага кісялю альбо цукерак на дэсэрт. У суботу вечарам, прыблізна праз паўгадзіны як рэстаран адчыняўся, Валяр'ян і Янаш давалі мне свае грошы і пасылалі ў горад. Я рабіў замову, глытаў кашу

і заліваў у бутэльку гарэлку. Потым ішоў у іншы рэстаран, зноў замаўляў ежу, заліваў гарэлку ў бутэльку і паўтараў гэты манеўр датуль, пакуль хапала грошай альбо не напаўнялася бутэлька. Сам я піў рэдка, таму яны ведалі, што іхным грошам і гарэлцы ў маіх руках нічога не пагражае.

У адказ за гэта Валяр'ян і Янаш (калі былі ў наяўнасьці), а яшчэ Фухс, штодзённа займалі ў камісійнай краме чаргу за хлебам. Калі яны выходзілі, Нестров і я адпраўлялі ў нашым пакоі імшу. Калі імшу адпраўляў я, ён станавіўся звонку ля дзьвярэй, потым мы мяняліся.

У Чусавой мы хавалі наш пераносны ахвярнік у пакоі прыбіральшчыцы. Яна праводзіла ўвесь час у будынку і гэта давала ўпэўненасьць, што ў валізку ніхто не ўб'ецца. Пасьля таго, як мы распавялі ёй, што ў час налёту страцілі жонак і дзяцей, мы падружыліся. Яна плакала, слухаючы нашу гісторыю, і я адчуваў сябе трохі вінаватым, але мяняць сваю легенду або дакументы было ўжо запозна. Пасьля, калі я вяртаўся вечарам з працы, яна рыхтавала мне, размораному пасьля холаду ля гарачай печы, цёплую ваду на кухні каб я мог памыцца, а таксама, калі было магчыма, кубак гарачай кавы, альбо супу і кашы. За гэта я вучыў чытаць і пісаць яе сынка.

У Чусавой рабочых з лагера дрывасекаў рыхтавалі да вайсковай службы. Паўсюль казалі, што вайна паміж Расеяй і немцамі непазьбжная. Патрабавалі, каб мы пасьля працы, праз тры альбо чатыры вечары, штотыднёва практыкаваліся. Мы павінны былі навучыцца абыходзіцца са зброяй, прайсьці нармальны вайсковы курс і пазнаёміцца з прыёмамі абароны сховішчаў, бо былі прызначаны для службы на ленінградзкім фронце. Формы не мелі, і прыходзілі на заняткі ў рабочай вопратцы. Муштра працягвалася часам да гадзіны або да паловы другой ночы.

У пачатку чэрвеня першая "рота" была выслана з лагера ў Чусавой у Ленінград. Ленінград быў адным з гарадоў, які ў выпадку нашэсьця немцаў мусіў быць утрыманым любым коштам. Мне сказалі, што мая "рота" выедзе ў Ленінград 19 чэрвеня. (Вайна выбухнула 21 чэрвеня 1941 г.). Адразу стала ясна, што Нестров і я будзем разлучанамі, бо ён яшчэ не быў мабілізаваным. Мы не ведалі, што рабіць. Урэшце аказалася, што рашэньне аб гэтым будзем прымаць не мы.

Праз некалькі дзён, у тры гадзіны перад сьвітанкам, баракі абкружыла тайная міліцыя. Нестров і я, разам з нашымі суседзямі па пакою, Фухсам, Валяр'янам і Янашам, былі арыштаваныя як нямецкія шпіёны.Колькі той ноччу ў лагеры арыштавалі яшчэ, дакладна не ведаю, але было іх нямала.

Малады НКВДзіст, які праводзіў арышты, пакуль іншыя абшуквалі пакой, трымаў нас пад аголеным рэвальверам. Знайшлі две бутэлькі мшальнага віна, паўфунта зубнога парашку, пачак ваты і некалькі аркушаў паперы на якой сынок прыбіральшчыцы вучыўся пісаць. Гэтыя рэчы былі адразу вызначаны як "бутэлькі з нітрагліцэрынам" (віно было белым), "парашок і бавоўна для вырабу бомбаў" і таемны шыфр якогасьці "коду". Раней гэта б гучала сьмешна, але тым ранкам у тры гадзіны, у бараку, пастаўленым дагары нагамі, з НКВДзістамі, што трымалі нас на мушцы рэвальвера, было не да сьмеху. Нам дазволілі запакаваць крыху рэчаў і мы памаршыравалі да турмы ў Чусавой.

## У руках НКВД

Спачатку мяне трымалі ў Чусавой у доме моладзі, старым васьміпакаёвым будынку, які зараз служыў для арыштаў. Той ноччу ў лагеры было так шмат арыштавана, што турмы перапоўніліся. Мае рэчы былі перагледжаны турэмшчыкам і старанна занатаваныя ў вялікую кніжку. Потым я быў сфатаграфаваны ў фас і профіль і мяне правялі ў камеру. У сапраўднасьці гэта быў адзін з пакояў таго самага дома, дзе ўжо месьцілася дваццаць пяць ці трыццаць маладых людзей, узростам ад дзесяці да сямнаццаці гадоў.

У тым невялікім пакоі было страшэнна горача і душна, большасьць хлопцаў мела на сабе толькі шорты. Я, калі мяне ўпіхнулі між імі, быў зьбянтэжаны, але да сітуацыі трэба было неяк прыстасоўвацца.

— Здравствуйце! — сказаў я, асьцярожна ўсьміхаючыся, у той час як яны падазрона мяне аглядалі. Потым я ахвяраваў старэйшым два пачкі махоркі, якія меў у кішэні. Іх з хцівасьцю прынялі.

— За што тут сядзіш, папаша? — рэзка запытаў мяне адзін зь іх, сямнаццацігадовы, невялікі, каржакаваты хлапец з пылаючымі вачыма.

— Кажуць, што я нямецкі шпіён, — адпарыраваў я і пачаў распавядаць абставіны майго арышту.

Калі адсьмяяліся зь гісторыі "нітрагліцэрыну" і думкі, што з зубнога парашку і ваты можна зрабіць бомбу, сталі больш прыязнымі. Нізкі хлопец з чорнымі валасамі і пылаючымі вачыма, які назваў мяне "папашам", здаецца быў лідэрам групы. Яго клікалі Ваня і ён, здавалася, вельмі развесяліўся ад гісторыі майго арышту. Сказаў усім, што калі хто-небудзь мяне зачэпіць, будзе мець справы зь ім.

У сапраўднасьці ўсе адносіліся да мяне прыязна, і нават зрабілі ў мой гонар невялікую ўрачыстасьць. Кожны распавёў невялікую гісторыйку альбо жарт, большасьць зь якіх былі вельмі безгустоўнымі, і засьпявалі фрывольныя песенькі. Я прыняў гэта як знак зь іх боку што мяне прынялі. У час прыёму ежы мне далі першую міску кашы, астатняе потым падзялілі між сабою, і ў той жа вечар мне выдзелілі лепшае месца для сну.

Назаўтра вельмі рана мяне выклікалі і пад шчыльнай аховай цягнікам выслалі ў акруговую турму Пермі. Там мяне зноў сфатаграфавалі, абрэзалі валасы, правялі дэзінсекцыю і нарэшце завялі ў вялікую камеру. Калі я ўвайшоў, там было пяць чалавек, а на зьмярканьні нас было ўжо больш за сто.

Здавалася, што пад ураженьнем нямецкага ўварваньня расейцы арыштавалі ўсіх, да каго мелі нават самыя лёгкія падазрэньні. Наколькі мы маглі меркаваць, параўноўваючы нашы асабістыя арышты, яны дзейнічалі на падставе сьпісаў, падрыхтаваных задоўга дагэтуль. Там былі настаўнікі, звычайныя рабочыя, ніжэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі, юрысты, некалькі жаўнераў, коратка кажучы ўсялякага кшталту людзі, якія маглі сысьці за падазроных у адносінах да грамадзкай бясьпекі, альбо сьвядома ці несьвядома трапілі ў няміласьць і іх прозьвішчы апынуліся ў валоданьні НКВД. Напрыклад чалавек па прозьвішчу Марцін, сярэдняга веку, які займаў вельмі адказную пасаду на адной з аўтамабільных фабрык Пермі. У трыццатыя гады ён сімпатызаваў Троцкаму і цяпер за гэта плаціў.

З цягам часу і прыбыццём новых арыштантаў камера ператваралася ў пекла. Вязьні, вядома, былі напружанымі і зьнерваванымі. Калі хтосьці ненаўмысна штурхаў каго-небудзь локцем, завязваліся сваркі. У другой палове дня ў камеру запхнулі рыжага тыпа які прадставіўся татарынам. Ён меў два боханы хлеба. Падзяліцца з іншымі адмовіўся і некалькі чалавек хлеб у яго вырвалі, на што ён бурна адрэагаваў. Каб яго супыніць, хтосьці накінуў яму на галаву коўдру а суседзі пачалі бязлітасна біць аж пакуль ён не перастаў крычаць. Ніхто не выказаў яму ні каліва спачуваньня. Сьведкі здарэньня сказалі яму, што атрымаў заслужана, бо ў турме трэба дзяліцца.

У першы дзень ежы нам не далі, бо вельмі хутка адбылося зашмат арыштаў і з гэтай прычыны для вязьняў прыгатаваць не здолелі. Пазьней кармілі тры разы ў дзень. Ранкам нам давалі па шэсьцьсот грамаў хлеба, трохі гатаванай вады і два маленькія кавалкі цукру. У абед мы атрымоўвалі па паўлітра супу, а вечарам па дзьве або тры лыжкі кашы.

Такім быў кожны дзённы рацыён, але не заўсёды і не кожнаму ўдавалася яго атрымаць. Турэмшчыкі проста пакідалі вёдры з ежай у камеры і вязьні самі дзялілі яе між сабой.

Я заставаўся ў той камеры амаль два месяцы. Напіханай яна была заўсёды, але вязьні ўвесь час зьмяняліся. Што сталася з тымі, якія выходзілі, мы не даведаліся ніколі, але прадметам размоваў паміж вязьнямі і іх няспынным жахам былі масавыя пакараньні сьмерцю. Неяк пасьля аднаго з допытаў праз натоўп сукамернікаў да мяне праціснуўся Марцін, трацкіст, і даў кавалак хлеба, які захаваў ад сьняданьня.

— Гэта табе,— сказаў ён.— Калі здолееш выйсьці адсюль, пастарайся адшукаць маю жонку. Я ведаю, што буду растраляны.

Той ноччу яго выклікалі. Не вярнуўся ніколі.

Нічога нельга было зрабіць аднаму, нават справіць натуральныя патрэбы. Штовечар нас групамі выводзілі ў турэмную прыбіральню, але ў іншы час мы вымушаны былі карыстацца крытым вядром у камеры. Смурод панаваў страшэнны. Кожны раз пасьля апоўдня нас, таксама групамі, выводзілі на дваццаціхвілінны шпацыр на двары. У камеру мы былі напханыя як селядцы, не могучы выцягнуцца нават для сну. Адзіным спосабам адасабленьня была медытацыя, як рабіла большасьць, або гутарка з адным ці двума, што месьціліся паблізу. Трэба было імкнуцца ігнараваць тое, што рабілася ў іншых частках камеры. Час ад часу турэмшчык выгукваў прозьвішча і кагосьці выводзілі. Бывала, што ўжо не вяртаўся, але часьцей за ўсё выклікалі толькі на допыт. Некаторыя вярталіся плачучы, іншыя ў шаленстве, яшчэ хтосьці расчараванымі, а яшчэ некаторыя — ў сіняках ад біцьця. Тыя, хто сядзеў у турме ў час папярэдніх чыстак, ахвотна давалі парады як паводзіць сябе і што казаць на допытах. Хутка аднак я пераканаўся, што калі знаходзішся ў пакоі сьледчага, гэтыя парады дапамагаюць мала. Адтуль можна было вярнуцца нічога не расказаўшы, але ніколі не выходзілі задаволенымі.

Менавіта ў Пермі мяне ўпершыню дапытвалі вельмі доўга і падрабязна. На другі дзень знаходжаньня там мяне выклікаў турэмшчык і праз калідор завёў у невялікае памяшканьне. Яно не было ні прыемным ні страшным. Там стаялі толькі пісьмовы стол сьледчага, адно ці два крэслы і металічная картатэка. Сьледчы быў высокім, чарнавалосым чалавекам, з правільнымі рысамі твару, які дзесьці ў іншым месцы мог бы сысьці за навукоўца. Быў спакойны, вытрыманы, выслоўліваўся зразумела і відавочна ведаў сваё

рамяство. І тым не менш, умеў брыдка лаяцца, да чаго я не мог прызвычаіцца, кожны раз, чуючы праклён, уздрыгваў.

Загадаў мне сесьці і паглыбіўся ў чытаньне нейкіх папераў. Нарэшце падняў вочы.

— Вы хто? — спытаўся лагодна.

Я пачаў бубнець гісторыю Ліпіньскага, але ён зрабіў жэст, быццам хацеў адсунуць усялякія пярэчаньні.

— Не, не,— сказаў мне,— вы не Ліпіньскі, вы не расеец і не паляк, вас клічуць Цішэк, вы сьвятар і нямецкі шпіён. Такім чынам, чаму не кажаце нам усёй праўды?

Я быў агаломшаны. Задумаўся, ці даўно ўжо яны ведаюць пра мяне гэта ўсё, ці доўга быў пад назіраньнем. Аб тым, што я сьвятар, маглі даведацца ад аднаго з палякаў у шпіталі ў Чусавой, але як даведаліся маё прозьвішча? Ці можа знайшлі нейкі спосаб і прымусілі гаварыць Нестрова? Калі так, то што ведаюць?

Дасягнуўшы запланаванага эфекту, сьледчы ўсьміхнуўся.

— Бачыце, я ведаю пра вас усё. Так што паспрабуйце распавесьці мне праўду.

— Добра,— адказаў я.— Праўда ў тым, што я не нямецкі шпіён.

Замест адказу ён устаў і падыйшоў да картатэкі. Зь верхняга аддзелу выняў дзьве бутэлькі віна, пакет з зубным парашком, скрутак ваты і аркушы з запісамі — рэчы, знойдзеныя пры ператрусе ў нашым бараку ў Чусавой. Не кажучы ні слова, адно за другім паклаў іх на стале.

Ён спадзяваўся, што гэта будзе для мяне сакрушальным ударам, але падмануўся. Цяпер у сваю чаргу ўсьміхнуўся я.

— Будзеце пярэчыць, што гэтыя рэчы належаць вам? — Нарэшце запытаўся ён.

— Не, гэта мае рэчы.

— Тады як вы можаце запярэчыць, што зьяўляецеся нямецкім шпіёнам і сабатажнікам?

Я распавёў яму ўсё — што набыў зубны парашок у Чусавой каб чысьціць зубы, што вучыў у лагеры чытаць і пісаць хлопца. Калі сьледчы думае, што ёсьць нешта таямнічага ў знаках на паперы, то гэта яго справа, але кожны можа пабачыць, што гэта накрэмзана дзіцем.

— А што да нітрагліцэрыну,— сказаў я,— прашу не баяцца і выпіць яго. Гэта віно для імшы.

Ён без слоў адсунуў убок бутэлькі разам з пачкамі і вярнуўся да сьледзтва. Зь кім меў кантакты? Якую інфармацыю перасылаў

немцам? Калі не шпіён, то чаму падарожнічаў не пад сваім прозьвішчам? Кім быў Нестров? (А, значыць ведаюць пра яго). Ці былі Фухс, Валяр'ян і Янаш членамі шпіёнскай сеткі? Куды езьдзіў, калі ў Цёплай Гары вадзіў грузавікі? Як атрымоўваў ад немцаў зьвесткі? Што ведаў аб планах нямецкага нашэсьця?

— Прынамсі праз гадзіну паўтарыў тыя ж самыя пытаньні, як сабака, што круціцца за ўласным хвастом. Часам занатоўваў нешта ў паперах, што ляжалі перад ім.У канцы я сказаў яму апошні раз, што не зьяўляюся нямецкім шпіёнам, і калі яму не падабаецца мая гісторыя, ён можа стварыць сваю ўласную, бо ведае ўсе "факты". У адказ ён ударыў кулаком па стале і паклікаў з-за дзьвярэй канваіра. У гэтыя секунды панічнага страху я падумаў, што буду растраляны, але ён загадаў адвесьці мяне ў камеру. Гутарка была скончана. А я меў матэрыялы для роздуму.

Так пачалася серыя допытаў, якая доўжылася ўвесь час майго знаходжаньня ў Пермі. Часам мяне выклікалі два разы на дзень, часам не выклікалі зусім. Допыты цягнуліся ад адной гадзіны да цэлага дня. Пытаньні заўсёды былі адны і тыя ж. Часам быў вымушаны шмат гадзін выпрастаўшыся сядзець на краі крэсла, а часам, калі сьледчаму не падабаўся мой адказ, ён біў мяне ў твар і я падаў з крэсла на падлогу.

Два ці тры разы на працягу месяца майго знаходжаньня ў Пермі сьледчы клікаў некалькі турэмшчыкаў, і тады мяне заводзілі ў суседні пакой, высланы дыванамі, і са сьценамі, выкладзенымі шумапаглынальным матэрыялам. Там мяне білі гумавымі палкамі па патыліцы, а калі спрабаваў ухіліць галаву, атрымліваў удары ў твар. Гэта было балюча, але не доўжылася больш за некалькі хвілін. Мэтай гэтага было, здаецца, не толькі прымусіць мяне гаварыць, бо ў гэты час не задавалі ніводнага пытаньня, але разьмякчыць мяне так, каб са страху перад новым біцьцём зрабіць схільным да супрацоўніцтва са сьледчым.

Некалькі разоў замест таго, каб адправіць мяне ў вялікую камеру, мяне кідалі ў маленькі пакой, падобны на карабок, дзе было так цёмна, што я не мог разгледзець сваёй рукі ля вачэй, і вельмі душна. Там я праводзіў гадзіны, а бывала і цэлую ноч. Мне казалі, каб абдумаў свае адказы на пытаньні і вырашыў, ці не варта прыгадаць болей падрабязнасьцяў аб "праўдзе".

У ходзе тых допытаў стала зразумела — ім вядома, што я амэрыканскі сьвятар, езуіт са Львова, які вучыўся ў Рыме і зьявіўся ў Расеі з польскім пашпартам. Той факт, што польскія дакументы маёй асобы былі фальшывыя, зь нейкай прычыны іх, здавалася, не цікавіў.

Аб гэтым успаміналі рэдка. Калі гэта выплывала, зьмянялі тэму. Націскалі на тое, што я нямецкі шпіён — верагодна так у гэта можна было неяк ублытаць Ватыкан — і хацелі каб выклаў ім асаблівасьці маёй шпіёнскай дзейнасьці. Нічога іншага не мела значэньня і нішто іншае не магло іх задаволіць.

Аднойчы жнівеньскім ранкам у камеру зайшоў турэмшчык і выгукнуў маё прозьвішча. Я чакаў новага допыту, таму кіўнуў галавой і сказаў:

— Ёсьць!

— Ідзіце за мной,— прагаўкаў той,— і забярыце ўсе свае рэчы.

Гэта было нечаканым. "Усе рэчы" прагучала як жарт, бо я меў толькі куртку, кашулю на сабе, і захаваны са сьняданку маленькі кавалачак хлеба.

У гэты час ля мяне пачалі зьбірацца сукамернікі.

— Гэта значыць, што ты выходзіш,— казалі яны. — Ты шчасьлівец!

Потым пачалі прасіць, каб схадзіў па такому і такому адрасу, каб паспрабаваў сустрэцца з жонкай або сям'ёй, або проста паведаміў камусьці дзе ён, і што яшчэ жывы. Я абяцаў зрабіць усё, што будзе ў маёй моцы і пасунуўся да дзьвярэй, аглушаны такім рэзкім паваротам фартуны і толькі напалову верачы, што гэта магло здарыцца са мной.

Турэмшчык завёў мяне ўніз, у сутарэньне, дзе замкнуў у тым, што мы называлі "карабком", у маленькай камеры з маленькім акенцам у дзьвярах, там трымалі прывезеных ці маючых пакінуць турму вязьняў. Перад тым, як замкнуць, каб упэўніцца ў маёй асобе, задаў два стэрэатыпных пытаньні:

— Як ваша прозьвішча?

— Ліпіньскі, Уладзімір Марцінавіч.

— Дата нараджэньня?

— 4 лістапада 1910, — дата, якую я даваў як Ліпіньскі.

Той замкнуў дзьверы, але праз хвіліну вярнуўся каб даць мне цэлы, вагой каля двух фунтаў, бохан хлеба, і шэсьць лыжачак цукру, закручаных у паперку. Я зьдзівіўся, атрымаўшы за раз столькі хлеба і адразу накінуўся на яго, не клапоцячыся аб тым, каб зразумець значэньне таго, што адбылося.

Я зьеў ужо амаль палову хлеба, як дзьверы зноў адчыніліся і ўвайшло трое людзей — малады чарнявы паручнік у мундуры НКГБ (аддзел НКВД з 1941 г., пасьля пачатку вайны, адмысловая секцыя "бясьпекі") і двое танклявых маладых турэмшчыкаў у звычайных мундурах хакі. Паручнік пачаў, як заўсёды.

— Ваша прозьвішча?

— Ліпіньскі, Уладзімір Марцінавіч.

— Дата нараджэньня?

— 4 лістапада 1910.

— Абвінавачаны ў?

— 58:10:2 (гэтыя нумары азначалі артыкулы і параграфы крымінальнага кодэксу, па якіх вязень быў абвінавачаны, прызнаны вінаватым і асуджаны. "58:10:2 азначае "агітацыя з падрыўнымі мэтамі").

— Ідзіце за намі, — загадаў ён.

Такім чынам я выйшаў з турмы ў Пермі апошні раз. Паручнік ішоў першым, двое дужых турэмшчыкаў рухаліся за мной.

Мяне прывялі да крытага аўтамабіля, які чакаў на турэмным двары. Ён быў без вокнаў, з двух бакоў ад сярэдняга праходу знаходзіліся закратаваныя выгарадкі, у якія маглі памясьціцца толькі па аднаму чалавеку. Сесьці там было немагчыма, можна было толькі стаяць. Завурката рухавік і мы рушылі. Машыну трэсла і мяне кідала ад сьцяны да сьцяны маёй клеткі як більярдны шар. Ехалі мы, можа, пятнаццаць хвілін, пасьля чаго рэзкае тармажэньне кінула мяне на пярэднюю сьцяну. Я пачуў галасы турэмшчыкаў і паручніка, які штосьці камусьці дакладваў.

Нарэшце дзьверы расчыніліся і паручнік задаў звычайныя пытаньні — прозьвішча, дата нараджэньня, абвінавачваньне,— адначасова зьвяраючыся з паперамі.

— У парадку,— сказаў ён, адчыняючы дзьверы клеткі.— Выходзьце.

Я пайшоў за ім па праходзе і саскочыў праз заднія дзьверы. Два турэмшчыкі адразу сталі за мной, а паручнік правёў нас на перон вакзала ў Пермі.

— Станьце тут за мной,— суха загадаў ён,— і не азірайцеся.

Дайшлі да канца перона і я зьдзівіўся, убачыўшы там маю валізку. Спыніліся.

— Сядайце на багаж,— сказаў паручнік,— і сядзіце спакойна.— Потым дадаў яшчэ раз.— Не азірайцеся.

Я ўсеўся на валізку, раўніва трымаючы хлеб і цукар. Калі пачуў, што хтосьці хутка ідзе да нас, машынальна падняў галаву і ўбачыў чалавека, якім мог быць Нестров. Яго штурхнулі ўперад і ён нас мінаў. У гэты час турэмшчык крыкнуў:

— Не азірацца!

Я выпрастаўся і стаў глядзець назад, на рэйкі. На пероне былі людзі, якія з цікаўнасьцю пазіралі ў мой бок, але хуценька

адварочваліся, унікаючы майго позірку. Па загаду паручніка адзін з турэмшчыкаў пайшоў выканаць фармальнасці. Я ведаць не ведаў, куды мы едзем і чаму, шчыра кажучы, уся мая ўвага ў тыя хвіліны засяродзілася на маім хлебе і цукры.

Калі да перону падыйшоў цягнік, турэмшчыкі хутка павалаклі мяне да дзьвярэй аднаго з вагонаў, паўтараючы загад не азірацца. Вагон, куды мы ўвайшлі, быў звычайным пасажырскім вагонам, разьдзеленым на купэ па еўрапейскаму ўзору. Ён быў поўным, за выключэньнем апошняга купэ, у якім знаходзіліся дзвое дзяўчат.

— Стаяць,— сказаў паручнік, калі мы наблізіліся да гэтага купэ, зайшоў туды і загадаў дзяўчатам знайсьці сабе іншыя месцы. Яны схапілі свой багаж і пасьпешна выйшлі. Ніхто ў тыя часы не спрачаўся з НКГБ.

Паручнік загадаў мне сесьці ў кут ля вакна. Адзін са стражнікаў кінуў маю валізку на паліцу. Я упаў на сваё месца, сьціскаючы галоўную каштоўнасьць — хлеб, адзін з турэмшчыкаў сеў ля мяне, другі — насупраць, паручнік застаўся ў калідоры. Мне ніхто не забараняў, таму я глядзеў праз акно. За доўгі час гэта быў першы кантакт са зьнешнім сьветам, хоць праз шыбу ўсё мела нейкі нерэальны выгляд, быццам глядзеў кіно.

Лакаматыў два разы пыхнуў і цягнік рушыў. Я не быў упэўнены, у якім накірунку мы едзем, бо цалкам згубіў арыентацыю. Не мог пазнаць краявід, але прынамсі ведаў, што не едзем у бок Чусавой. Гарады на трасе — Краснакамск, Вэрэшагіно, Кэз, Балезіно, Глазов, Яр,— не былі мне добра вядомымі, але калі толькі назаўтра прыехалі да Кірава, я ўжо ведаў дакладна, што едзем на захад, да Масквы.

Праз некаторы час абапёрся галавой на раму вакна, быццам заснуў, і пачаў маліцца. Гэты від малітвы, у думках, да гэтай пары пастаянна мяне падтрымліваў, дзякуючы ёй я ніколі не губляў адвагі. У турме Пермі, гэтак жа як і ў лагерах у Цёплай Гары і Чусавой, яна была маёй сілай у доўгія ночы, калі я не мог спаць. Я зноў думаў аб лагеры дрывасекаў і аб маім папярэднім падарожжы на Урал. Гэта яна прыгадвала мне прычыны маёй прысутнасьці тут, маё рашэньне працаваць толькі для Бога, нягледзячы на наступствы. Мяне падтрымліваў Ён. Гэтая думка, што будзь я невядома які самотны, на самай справе ніколі не бываю адзін, зноў дадала мне адвагі. Паручнік праводзіў большасьць часу на калідоры. Калі мы на нашым маршруце затрымліваліся ў гарадах, ён выскокваў з вагона і прахаджваўся па пероне, час ад часу затрымліваючыся каб купіць у кіёску на станцыі бутэрброт ці філіжанку гарбаты. Турэмшчыкі прыносілі таксама з

перона сабе па чарзе ежу, але мне нічога ні разу не давалі. Я пачаў разумець, што бохан хлеба і цукар былі маім харчовым пайком на дарогу і іх павінна было хапіць ажно да канца вандроўкі. Я пашкадаваў, што зьеў паўбохана ў часовай камеры ў Пермі. Вырашыў харчавацца па як мага больш рацыянальнай методыцы.

Вечарам зьеў маленькі кавалак хлеба і потым абапёрся аб вакно, спадзеючыся заснуць. Турэмшчыкі спалі ў купэ пазьменна, а паручнік знайшоў сабе спальнае месца недзе далей у цягніку. Перад самым наступленьнем ночы мы пераехалі раку, падобна на тое, што гэта была Чэпца, на захад ад Кэзу. Потым краявід патануў у цемры. Нарэшце, закалыханы штуршкамі цягніка і рытмічным стукам колаў, я заснуў. Назаўтра адзін з турэмшчыкаў пабудзіў мяне і павёў ва ўмывальнік, потым пачалі ўставаць астатнія пасажыры. Я зноў зьеў кавалак хлеба і потым з зайздрасьцю глядзеў як турэмшчыкі елі сьняданак, які складаўся з малака, грудзінкі і белага хлеба, што яны дасталі на апошнім прыпынку.

Позьняй раніцай даехалі да Кірава і там абодва турэмшчыкі зафундавалі сабе багаты другі сьняданак: смажаную рыбу, брусьніцы, хлеб і малако. І зноў мне нічога не далі, несумненна мелі такі загад. Аднак іхнія частыя застольлі ў дарозе яшчэ больш узмацнялі мой голад. І я пачаў насуперак вызначанаму плану час ад часу есьці свой хлеб.

У той вечар, нягледзячы на самыя лепшыя планы, я скончыў свой бохан — пачаўшы яго есьці проста не здалеў спыніцца, так быў згаладаны. Скончыў таксама і рэшткі цукру, а каб не губляць астатніх пылінак, вылізаў паперу. Наступным ранкам я здыхаў з голаду. Адзін з турэмшчыкаў на сьняданак прынёс са станцыі жытні хлеб, масла, сыр і каву. Пах аглушыў мяне, у рот, быццам вада з прарванай дамбы, хлынула сьліна. Я ні на імгненьне не мог адарваць позірк ад ежы, якую паглыналі турэмшчыкі, і за адзіны яе кавалак, здаецца б аддаў усё. Калі прыехалі на станцыю Урэню, адзін з турэмшчыкаў сарваўся з месца, каб выскачыць з цягніка. Штурхнуў пры гэтым паручніка і выбіў з яго рукі кавалак хлеба з маслам. Ён апынуўся на падлозе маслам уверх. Паручнік вылаяўся, назваў турэмшчыка няўклюдным валом, запіхнуў недаедзены хлеб пад лаву і выйшаў з купэ.

Спакуса была занадта моцнай. Увесь час пасьля апоўдня я манеўраваў пад лавай ступнёй, намагаючыся схаваць гэтыя рухі ад вачэй турэмшчыка, які сядзеў насупраць. Некалькі разоў, пазіраючы ў бок акна ці калідора, рухаў нагой мацней, ажно да сутаргаў. Гэты кавалак хлеба зараз сабраў на сабе ўсе мае думкі, спрабуючы да яго

дабрацаа, я патраціў увесь час пасьля апоўдня. Не памятаю, ці працаваў я калі-небудзь гэтак у жыцьці яшчэ, каб здабыць ежы.

Нарэшце намацаў ступнёй хлеб і пасунуў яго ўперад.У той час, калі турэмшчык глядзеў у бок, я нахіляўся і спрабаваў падняць. А калі ён глядзеў на мяне, я рабіў выгляд, што чухаю шчыкалатку, падцягваю шкарпэтку або завязваю шнурок. Урэшце ён павярнуўся хутка і бачыў, што я дабіраюся да хлеба. Позіркі нашы сустрэліся і ў я разгублена вымавіў:

— Пожалуйста.

Той не сказаў нічога, толькі глянуў на мяне, і я схапіў хлеб.

У гэтую самую хвіліну у купэ зайшоў паручнік. Я схаваў хлеб у далоні, якую засунуў пад другі локаць і паспрабаваў прыняць абыякавы выгляд, думаючы пры гэтым, што скажа турэмшчык. Не сказаў нічога. Калі паручнік выйшаў, а турэмшчык павярнуўся і глядзеў усьлед, я запхнуў увесь хлеб з маслам у рот і адразу яго праглынуў. Нарэшце хоць штосьці зьеў.

Тым вечарам мы прыехалі у Горкі на вакзал. Згодна з пастановамі на час вайны, цягнік пры патушаных ліхтарах занялі вайсковыя аддзелы, і мы рушылі ў накірунку да Масквы. На сьвітанку ўжо былі ў прадмесьцях. Куды ні кінь вокам, пуці былі занятыя цягнікамі з амуніцыяй, войскам, ці ваеннай тэхнікай, такой як танкі, грузавікі, бронетранспарцёры, бульдозеры.

Як толькі цягнік спыніўся, мяне вывелі, зноў з загадам не азірацца, і адразу пасадзілі ў крытую машыну, што ўжо нас чакала. Гэта быў проста вялікі грузавік з лаўкамі, замкнутым адсекам у глыбіні, і з месцам для ўзброенага турэмшчыка. Крыху праехалі і машына спынілася. Спачатку нічога не адбывалася, толькі можна было чуць, як звонку размаўляюць жаўнеры, потым прагучала каманда. Дзьверы кузава расчыніліся і ў яго селі каля трыццаці маладых людзей. І хоць для такой колькасьці народу было вельмі мала месца, я быў шчасьлівы, маючы магчымасьць хоць з кімсьці пагаманіць.

Гэта былі хлопцы і дзяўчаты з калгасаў, узростам ад пятнаццаці да дваццаці зь нечым год. Калі грузавік ірвануўся праз горад, нас адкінула назад, але мне ўдалося пазнаёміцца з некаторымі зь іх. Некалькі хлопцаў мне паведамілі, што былі арыштаваныя за нейкія дэбошы. Іншых пахапалі за крадзеж кур, а некалькі дзяўчат сказалі, што яны тут за крадзеж пшаніцы. Цісканіна ззаду кузава была такая, што мы не маглі сядзець, і нас трэсла і кідала аднаго на другога, мы штурхаліся локцямі і каленямі, але пры гэтым бесперапынна размаўлялі.

Грузавік рэзка спыніўся. Адчыніліся дзьверы і адзін з турэмшчыкаў пачаў адно за другім выгукваць прозьвішчы.Усе маладыя людзі выйшлі з машыны, а я застаўся. Турэмшчык ляснуў дзьвярыма і я пачуў, як кіроўца крыкнуў:

— Ідзі сядай, едзем!

Завуркатаў рухавік і мы рушылі зноў. І я зноў сядзеў на лаве адзін. Праз хвіліну грузавік рэзка спыніўся, і ўсё. Я пачуў размову турэмшчыкаў, потым яны, здаецца, адыйшлі і ўжо можна было пачуць толькі звычайныя вулічныя гукі. У верасьні ў Маскве бывае вельмі холадна і турэмшчыкі насілі ўжо цёплыя шынэлі. У машыне не было ацяпленьня і метал зрабіўся такім халодным, што пры дотыку прымярзаў. Урэшце я ўстаў і пачаў скакаць, імкнучыся разагрэцца ў маёй тонкай вопратцы.

Праз якую гадзіну пачуў сык пары і віск тармазоў цягніка. Дзьверы цягніка зноў адчыніліся і зноў усярэдзіну ўваліўся натоўп людзей з чарговага транспарту. Гэтыя былі старэйшыя, каля трох ці чатырох дзесяткаў год. Зноў абмяняліся звычайнымі вітаньнямі і звычайнымі патыньнямі: "За што вы тут?". Гэта былі вяскоўцы, арыштаваныя ў большасьці за рабунак ці за ўхіленьне ад вайсковай службы. Некаторыя гэтак жа, як і я, былі схоплены па палітычных матывах. Зноў нейкі час ехалі, потым спыняліся і машына паварочвала назад. Зноўку турэмшчык адчыніў дзьверы і выгукваў прозьвішчы, і зноў выклікалі ўсіх апрача мяне. Я пачаў думаць, што пра мяне забыліся.

Грузавік вярнуўся на вакзал. Гэтым разам былі чуваць гудкі і званкі цягнікоў. Дзень быў доўгі, мне было холадна, і я быў галодны, вельмі галодны. Апрача таго скрадзенага кавалка хлеба з маслам зь мінулага дня не еў нічога. Калі дзьверы адчыніліся на гэты раз, я ўбачыў, што на вуліцу ўжо апусьціўся змрок. У машыну ўвайшла невялікая група жаўнераў, некаторыя ў мундурах, а іншыя ў бушлатах. Большасьць зь іх былі арыштаваныя за дэзертырства, хоць яны сьцьвярджалі, што згубіліся альбо былі адсечаныя ад сваіх аддзелаў у час транспарціроўкі. Тым не менш, некалькі зь іх прызналі, што калі іхняя вайсковая адзінка рушыла на фронт, проста засталіся ў тыле.

Мы рухаліся зноў, спыняліся, вярталіся. І зноў турэмшчык выгукваў прозьвішчы, усе апрача майго. Ляскалі дзьверы і я зноў заставаўся адзін у тым халодным жалезным кузаве. Нарэшце дзьверы расчыніліся і турэмшчык паклікаў мяне:

— Як ваша празьвішча?

— Ліпіньскі, Уладзімір Марцінавіч.

— Дата нараджэньня?

— 4 лістапада 1910.
— Абвінавачваньне?
— 58:10:2
— Выходзьце,— прагучала нарэшце.

Калі выскачыў з кузава, ногі былі такімі задзервянелымі, што спатыкнуўся і ледзьве не ўпаў. Здалося, быццам мае шчыкалаткі і ступні, здранцьвелыя ад холаду, пранізала ўдарам. Турэмшчык завёў мяне ў нейкае сутарэньне. Я зусім не ведаў, дзе знаходжуся. Ён запіхнуў мяне ў карабок. Хутчэй за ўсё гэта была турма. Толькі шмат пазьней я даведаўся, што гэта была Лубянка.

## ГАДЫ НЯВОЛІ Ў МАСКВЕ

### Пачварная Лубянка

Мінула не меней за гадзіну, перш чым турэмшчык прыйшоў адчыніць дзьверы часовай камеры, задаць тры стэрэатыпных пытаньні і вывесьці мяне.Зноў мне абстрыглі да скуры валасы, сфатаграфавалі сьпераду і з профілю, ўзялі адбіткі пальцаў. Потым вярнулі ў камеру. Праз некаторы час выклікалі зноў, зарэгістравалі і замкнулі назад. Пазьней яшчэ раз вывелі, загадалі распрануцца і правялі медыцынскі агляд. Большасьць турэмных лекараў у Расеі — кабеты і каб да гэтага прызвачаіцца, трэба пэўны час. Іх выгляд, аднак, выражаў спакойны прафесіяналізм і нават пэўную нуду, так што я, як і кожны іншы, хутка навучыўся не саромячыся прымаць іх абстукваньні і дасьледваньні.

Пасьля лекарскага агляду маю вопратку аддалі ў дэзынфекцыйны пакой і цэлую гадзіну награвалі яе да такой высокай тэмпературы, што яна пачарнела. За гэты час мяне завялі пад душ і голага памясьцілі ў камеру, дзе я чакаў сваю вопратку. У такіх дзеяньнях і перапынках між імі прайшла ўся ноч. Пасьля сьвітанку мяне доўгім калідорам і сходамі, праз некалькі паверхаў адвялі ў камеру.

Называю гэта камерай таму, што будынак быў турмой. У сапраўднасьці гэта было хутчэй штосьці накшталт пакою ў гатэлі. Невялікі, добра дагледжаны і вельмі чысты, меў бліскучую драўляную падлогу, пафарбаваныя белым сьцены, і быў асьветлены аголенай лямпачкай, што вісела пад стольлю. Радыятар за кратамі, здавалася, выдзяляў няшмат цяпла. У куце стаяў ложак з чыстай бялізнай, коўдрай і падушкай. Апрача гэтай мэблі адзіным прадметам у пакоі была параша (вядро з вечкам), якая стаяла ў куце збоку ад дзьвярэй. Адзінае вакно мела памеры нармальнага гатэльнага вакна (пазьней я

даведаўся, што Лубянка калісьці была гатэлем), але было яно цалкам закратаванае і заслоненае бляхай. Калі стаяў побач з вакном, я мог бачыць праз шчыліну ўверсе, дзе бляха адгіналася ад ваконнай рамы, шматок неба, і гэта адзінае, што было бачна. У дзьвярах была круглая адтуліна, так што турэмшчык мог заглядаць унутр, а зьнешняе вечка не дазваляла вязьням выглядаць вонкі.

Пасьля першых некалькіх хвілінаў агледзін камеры я праваліўся ў глыбокую летаргію. Я быў галодны, змарнелы і сонны нягледзячы на слабае цяпло з радыятара. Я проста не мог разагрэцца. Пачаў хадзіць узад і ўперад па пакоі памерамі два на тры мэтры, рухаючыся ад ложка да сьцяны і наадварот. Час ад часу я чуў удары гадзіньніка, пазьней даведаўся, што гэта быў вялізны гадзіньнік на самым Крамлі.

Калі гадзіньнік адбіў сем раніцы, я пачуў на калідоры рух. Раптам у дзьвярах зьявіўся турэмшчык. Гэта была кабета, якіх сярод турэмшчыкаў на Лубянцы большасьць, і прынесла такое, што здалося мне ўцехай багоў — чатырыста грамаў хлеба, паўтары кавалкі цукру і кубак кіпеню. Гэта быў сьняданак на Лубянцы і ён ніколі не мяняўся. Я тады быў без ежы больш чым трыццаць шэсьць гадзін. Я ўсеўся на ложку і пачаў прагна есьці хлеб, рвучы яго на кавалкі.

Пазьней я навучыўся быць больш ашчадным і павольным калі раскашаваўся са сьняданкам на Лубянцы, але тады амаль паміраў з голаду. Паміж кавалкамі хлеба адгрызаў асколкі цукру і запіваў іх гарачай вадой, гэта было соладка і разагравала. Таксама я пазьней даведаўся, што стукаючы кубкам у дзьверы і просячы ў турэмшчыцы дадатку, можна было дастаць яшчэ вару. Але той раніцай я дакончыў хлеб, цукар і ваду і на гэтым задаволіўся. Я быў усё яшчэ галодны, але сагрэўся і ўпершыню за два дні адчуў сябе амаль чалавекам.

Аднак каб быць цалкам шчырым, павінен прызнаць, што першыя мае думкі пасьля зьедзенага сьняданка сьціраваліся на абед. Я задумаўся як доўга мне прыдзецца яго чакаць. Калі турэмшчыца забрала бляшаны кубак, пачаў няспынна шпацыраваць, часткова каб сагрэцца, а часткова каб мець нейкі занятак, быць актыўным. Спаць удзень не дазвалялася. Калі б лёг на ложак, турэмшчыца адразу б убачыла і загадала ўстаць. На Лубянцы было толькі пяць ці шэсьць камер на калідор, і яны няспынна кантраляваліся. Я ўвесь час думаў: чаму я тут, чаго яны ад мяне хочуць. Быў па-ранейшаму змучаны і трохі прыгаломшаны, таму проста шпацыраваў туды-сюды, няспынна думаючы аб гэтай задачы, ўрэшце не знаходзячы рашэньня, і слухаў як куранты адбівалі чвэрці гадзін.

Ніхто не прыйшоў ажно пакуль гадзіньнік не вызваніў апоўдня. Тады зноў я пачуў адгалоскі на калідоры, блямканьне посуду, і мае сьлінныя залозы пачалі працаваць як у сабакі Паўлава. Нарэшце турэмшчыца адчыніла дзьверы камеры і падала мне, разам з алюміневаў лыжкай, бляшаную міску поўную супу. Суп быў вельмі рэдкі, там плавалі ў невялікай колькасьці зярняткі расьліны, падобнай да проса, якую мы называлі "магара". Пахла рыбай і на дне міскі было некалькі касьцей. З-за таго, што ў турме Пермі я чуў, быццам рыбныя косьці спрыяюць аднаўленьню сіл, то зжаваў іх на парашок і праглынуў разам з супам. Як толькі дачыста вылізаў міску, адразу пачаў думаць пра вячэру.

Пасьля апоўдня быў пэўны час, прызначаны для шпацыру, і турэмшчыца вывела мяне ў двор. З дня на дзень час гэтага шпацыру зьмяняўся. Сама рана гэта магло быць у восем раніцы, а сама позна — у шэсьць вечара, залежна ад таго, пачыналі турэмшчыцы зьверху ці знізу турмы. Выхад не быў для мяне прыемным, бо якраз разагрэўся, а ў двары было халоднае паветра. Да таго ж я меў на сабе толькі тонкія нагавіцы і куртку, якія насіў ад часу знаходжаньня ў Чусавой.

Вячэра была ў шэсьць вечара. Часам ужо ў палове шостага я чуў ляскат посуду ў калідоры і зь нецярплівасьцю чакаў крокі ля маіх дзьвярэй, шоргат ключа ў замку і шум адсунутай звонкі засаўкі. Нарэшце турэмшчыца падавала мне доўгачаканую міску ў якой зараз былі дзьве ці тры лыжкі кашы. Іншымі словамі, меню на Лубянцы не адрозьнівалася ад таго, якое было ў Пермі. Зрэшты, у Расеі яно мянялася рэдка. Я навучыўся есьці гэтую вячэрнюю порцыю кашы павольна, рассмакоўваць амаль кожнае яе зернейка, пасьля выціраць міску пальцам, а потым яшчэ вылізваць так, каб у ёй нічога не засталося. Пад канец яна блішчэла быццам чыста вымытая.

Прыкладна праз гадзіну пасьля вячэры турэмшчыца пачынала выводзіць вязьняў у прыбіральню. Падобна як лекарскі агляд, гэта тая аперацыя, да якой трэба прывыкнуць, таму што турэмшчыца назірала за вязьнямі праз вочка нават тады, калі яны ў прыбіральні. Сама прыбіральня — гэта проста дзірка ў падлозе з двума паглыбленьнямі для ступняў па баках. Апорай можа быць толькі сьцяна. Той, хто вандраваў у той частцы Еўропы, пазнае гэтае апісаньне, у ім няма нічога нязвыклага, апрача пачуцьця, што ён увесь час пад назіраньнем. Яшчэ там былі краны і, значыць, можна было памыцца, і вялікая адтуліна ў куце для апаражненьня парашы, якую туды прыносілі. Таксама была бляшанка з дэзінфекцыйным сродкам.

Усё трэба было рабіць хутка. Калі знаходзіўся ў прыбіральні даўжэй за дзьве хвіліны, турэмшчыца стукала ў дзьверы і загадвала сьпяшацца. Потым я вяртаўся ў камеру і няспынна шпацыраваў туды-сюды аж да начнога адпачынку ў дзесяць вечара. Сьвятло гарэла ўсю ноч, хіба што начальнік або сьледчы даваў адмысловае дазваленьне выключыць яго ў камеры, прычым над дзьвярыма заставалася запаленай маленькая сіняя лямпачка. Той ноччу, аднак, я не меў цяжкасьцяў з засынаньнем, бо апошнія сорак восем гадзінаў не спаў. Хуценька, па сігналу, распрануўся, залез паміж чыстымі прасьцінамі і падцягнуў коўдру да плеч. Матрац быў тонкі, такі тонкі, што я адчуваў металічныя прэнты сеткі пад сьпіной, а калі спрабаваў павярнуцца на бок каб прыняць зручнеўшую позу, яны мулялі мне рэбры.

Прамовіў вячэрнія малітвы, а потым нейкі час ляжаў, агорнуты хваляй думак. Перадусім задумаўся, што зараз са мной будзе. Не мог паверыць, што я такі ўжо важны, каб мяне трэба было пасьля цяжкіх месяцаў сьледзтва ў Пермі пераводзіць у Маскву. Шукаў прычыны, каб растлумачыць сабе гэтыя асобыя адносіны, але не мог знайсьці ніводнай. Зноў прабег у думках допыты ў Пермі. Пачала балець галава, але разгадаць загадку па-ранейшаму не мог. Урэшце яшчэ раз суцешыўся думкай аб Божым Наканаваньні. Даверыўся пад Яго апекаваньне і заснуў.

Наступны дзень пачаўся ў палове шостай раніцы. Прагучаў званок, а праз некалькі хвілін наглядчыца адчыніла дзьверы і крыкнула:

— Под'ём!

Калі ў адказ не бачыла руху, крычала зноў і падыходзіла каб праверыць. Нас хутка выводзілі ў прыбіральню, а потым мы вярталіся і чакалі сьняданку. Надыйшло сем гадзін, але сьняданку не было. З досьведу пераканаўся, што сьняданак, таксама як і іншыя прыёмы ежы, і як шпацыр, прадастаўляліся між сёмай і паловай дзевяці гадзінаў раніцы, у залежнасьці ад таго, зь якога канца турмы пачыналі разносіць ежу. З досьведу зразумеў яшчэ, што лепей, калі сьняданак прыносілі як мага пазьней, тады чаканьне абеду было карацейшым.

Некалькі дзён прайшло ціха. І чым больш цягнулася гэтая затрымка, тым больш я непакоіўся, задумаўся, што гэта я тут раблю і што са мной будзе. З-за таго, што турэмшчыкам нельга было размаўляць з вязьнямі, я ні мог нічога даведацца, і заставалася толькі чакаць, шпацыруючы па камеры, бясконца маліцца, альбо думаць пра тое ж, прыгадваць допыты ў Пермі, каб знайсьці нейкі намёк ці

падказку наконт майго будучага лёсу.У канцы маіх роздумаў я ведаў тое ж, што і ў Пермі: я быў палітычным вязьнем, абвінавачаным за падрыўную дзейнасьць па артыкуле 58:10:2.

Пасьля некалькіх дзён неспакойнага чаканьня неяк ноччу мяне пабудзілі з глыбокага сну шум адчыняемых замка і дзьвярэй. Гэта, як мне здаецца, частка псіхалагічнага ўціску, бо адразу прымаеш абаронную пазіцыю. Кожны, хто калі-небудзь быў рэзка пабуджаны ноччу, ведае гэтае пачуцьцё. Турэмшчыцы носяць адмысловы абутак зь мяккімі падэшвамі, так што іх набліжэньня не чуваць аж да імгненьня, калі яны ўжо ля дзьвярэй. Калі сьпіш, то першае, што звычайна чуеш, гэта шоргат адчыняемага замка. Чалавек прачынаецца трывожным і напружаным.

Той ноччу турэмшчыца задала мне тры звычайных пытаньні — прозьвішча, дата нараджэньня, абвінавачаньне, потым сказала:

— Падрыхтуйцеся!

Я пасьпешна апрануўся, стараючыся сабрацца з думкамі і як мага лепей падрыхтавацца да таго, з чым я быў вымушаны сустрэцца. Аднак я быў зусім дэзарыентаваны і вельмі разгублены. Турэмшчыца вывела мяне з камеры і калі замыкала дзьверы, як заўсёды загадала стаць тварам да сьцяны. Калі па калідору ішоў хтосьці яшчэ, мяне хутка ставілі да сьцяны альбо ў кут, з папярэджаньнем не глядзець, аж пакуль той не пройдзе.

Пасьля доўгай серыі калідораў і некалькіх паверхаў мы дабраліся да сьледчага аддзелу. Хоць і была ноч, у прыёмным пакоі працавалі некалькі сакратарак. Час ад часу, акідваючы мяне абыякавымі позіркамі, праходзілі НКГБшнікі. Турэмшчыца завяла мяне ў вялікі пакой за прыёмнай залай. Ён быў даволі вялікі і бадай што ўтульны, з дыванам на бліскучым паркеце. У пакоі было два акны, зачыненыя аканіцамі, а пасярэдзіне стаяў пісьмовы стол, за якім сядзеў сьледчы. Калі я ўвайшоў, ён праглядаў нейкія паперы. Яшчэ там было некалькі мяккіх крэслаў, канапа пры сьцяне, а ў куце тры ці чатыры традыцыйныя картатэкі.

Сьледчы быў мужчынам сярэдняга веку, у мундуры НКГБ. Меў рашучы твар, у тую хвіліну змораны, і цёмныя, на скронях рэдкія, валасы. Абыякава, звыклым жэстам, павітаў мяне і загадаў сесьці. Я ўсеўся, але напружаньня пазбавіцца не здолеў. У пачатку кожнага такога допыту псіхалагічнае напружаньне велізарнае. Калі рыхтуешся да невядомых пытаньняў, цела напружваецца, а далоні пачынаюць пацець. Па выгляду яго твару і спакоі я зразумеў, што гэты сьледчы — прафесіянал і знаўца свайго рамяства.

Увесь час допыту ён размаўляў спакойна і талкова, быццам шэф аддзела кадраў зь некім, хто дбае аб працы. Пачаў як заўсёды: прозьвішча, дата нараджэньня і абвінавачаньне, а потым падрабязна разгарнуў усю маю гісторыю аж да сёньняшняга дня. Перад тым, як пачаць падрабязны допыт, фармальна папярэдзіў мяне, што ўжо ведае ўсе дэталі маіх ранейшых допытаў, таксама як і вынікі некалькіх незалежных папярэдніх сьледзтваў. Добразычліва паведаміў, што ведае пра мяне ўсё, што належыць, што гэта ўступны допыт, і што ўсё пойдзе нашмат больш хутка, калі я папросту буду казаць праўду.

Я пачаў з паведамленьня, што я " Уладзімір Ліпіньскі, нар. 4 лістапада 1910, абвінавачаны па параграфе 58:10:2 ". Ён паглядзеў на мяне з выразам лёгкай незадаволенасьці як нехта, каму перабілі думкі пра нешта іншае.

— Слухайце,— сказаў цьвёрда і без варожасьці,— вы зьяўляецеся сьвятаром Вальтэрам Цішэкам, езуітам з Альбярціна, народжаным у Амэрыцы 4 лістапада 1904 г. Кінем усялякія прытворствы і дапоўнім вашу біяграфію па-магчымасьці найменей клапатлівым спосабам, добра?

Прыйшлося зноў распавядаць гісторыю з пачатку. Ён часта перарываў мяне каб задаць пытаньні аб справах, адносна якіх я ніколі б не падумаў, што яны могуць быць яму вядомыя. Такім чынам, наша гутарка стала ўрэшце абменам пытаньняў і адказаў. Ён пытаўся пра чарговую дэталь, а я адказваў "так" ці "не", імкнучыся даваць як мага меней тлумачэньняў.

Сьледчы не націскаў занадта моцна, рабіў на мяне ўражаньне чалавека, які выконвае сваю працу і быў бы рады, калі б яму ў гэтым дапамаглі. Было амаль так, быццам ён думаў аб чымсьці іншым, а тут выконваў добра вядомую працэдуру. Пункт за пунктам запісваў маю гісторыю, зьвяраючыся час ад часу зь нейкімі рапартамі, што ляжалі на стале, і запытваючы аб розных падрабязнасьцях. Калі ў асноўным закончылі біяграфію і я адказваў на яго ўдакладняючыя пытаньні, надыйшоў ранак. Я заўважыў дзённае сьвятло, што прабівалася праз шчыліны аканіц. Калі сьледчы нарэшце скончыў, то загадаў вяртацца ў камеру і ўсё запісанае абдумаць. Дадаў, што неўзабаве буду выкліканы зноў і буду мець магчымасьці дапоўніць паказаньні забытымі падрабязнасьцямі.

Вярнуўшыся ў камеру раніцу пасьля сьняданьня правёў абдумваючы, што мог азначаць гэты допыт. Колькасьць асноўных фактаў, якія яны ведалі пра мяне, была проста дзівоснай. Я не мог зразумець, адкуль яны гэта ўсё мелі. Толькі пазьней я даведаўся аб

гэтым. Адзін з маіх наступных сьледчых сказаў мне, што шмат інфармацыі атрымалі ад а. Макара, які быў арыштаваны пры пераходзе мяжы паміж Вергрыяй і акупаванай Польшчай у час, калі Нестров і я працавалі ў Чусавой. (Гэта пацьвердзіла факт, чаму Макар так і не далучыўся да нас, як абяцаў, пацьвердзіла таксама тое, што мы несумненна былі пад няспынным назіраньнем аж да самага арышту.) Каб пераканаць мяне, той сьледчы паказаў фатаграфію Макара пасьля яго арышту. Я ледзьве здолеў пазнаць вясёлага грузіна: ягоны твар быў высахлы і сьцягнуты. Здавалася, ён вельмі моцна схуднеў. Але гэта без усялякага сумненьня быў Макар.

Усё гэта, як ужо казаў, я даведаўся значна пазьней. А тым ранкам і ў наступныя дні быў вельмі разгублены. Падумаў, можа Нестров ці не сказаў лішняга, ці можа за намі ад часу Альбярціна сачылі, а мы нават і не падазравалі. Не мог гэтага ведаць. У сьвятле наступных допытаў шмат чаго стала для мяне ясьнейшым, але тым ранкам я быў моцна ўзрушаны.

Чакаў, што бліжэйшай ноччу буду выкліканы зноў, але гэтага не здарылася ні ў наступныя суткі, ні яшчэ адны. Дні пачалі складвацца ў тыдні, я мяне ніхто не выклікаў. Тады я заняўся арганізацыяй свайго часу так, быццам знаходзіўся ў езуітаў. Я ўсталяваў сабе план дня. Раніцай, адразу пасьля пад'ёму прамаўляў ранішнія малітвы, потым, пасьля ўмываньня, адводзіў гадзіну на роздум. Час пад'ёму, пяць трыццаць, і пара сьняданьня ў сем вельмі нагадвалі штодзённы расклад езуіцкіх дамоў,дзе мне прыходзілася бываць, і мае дні прынялі ўсталяваную форму.

Пасьля сьняданьня адпраўляў па памяці імшу, гэта значыць прамаўляў усе малітвы, бо, натуральна, не мог ажыцьцявіць на самой справе Сьвятую Ахвяру. Раніцай, у апоўдзень і вечарам, калі гадзіньнік на Крамлі адбіваў гадзіны, прамаўляў Анёл Гасподні. Перад абедам падводзіў паўдзённы рахунак сумленьня, а вечарам, перад сном — другі, за цэлы дзень, пасьля чаго рыхтаваў тэмы для ранішняга роздуму, згодна з " Духоўнымі практыкаваньнямі " сьв. Ігнася.

Кожны раз пасьля апоўдня прамаўляў замест малітоўніка тры ружанцы — адзін па-польску, другі па-лацінску, трэці па-расейску. Пасьля вячэры праводзіў час і прамаўленьні малітваў і гімнаў па-памяці і нават голасна іх сьпяваў: Anima Christi, Veni Creator, Salve Regina, Veni Sancte Spiritus, а асабліва Dies Irae і Miserere — гэта ўсё, чаму мы навучыліся напамяць у навіцыяце, гімны, якія мы сьпявалі ў гады майго знаходжаньня ў Таварыстве, малітвы, якія я вывучыў дома хлопцам.

Часамі я траціў па некалькі гадзінаў, прыгадваючы некаторыя вершы, якія выпалі з маёй памяці, паўтараючы ўвесь тэкст аж пакуль не запаўняў прабел. Падчас такіх гадзінаў я прамаўляў і свае ўласныя малітвы, зьвяртаючыся непасрэдна да Бога, просячы Яго дапамогі і падтрымкі ва ўсім, што магло мяне спаткаць, але перадусім прымаючы Яго волю ў адносінах да свайго лёсу, цалкам складзенага Ягоным Наканаваньнем.

Пасьля ранішніх малітваў і на працягу доўгіх пасьляабедзенных гадзінаў я дэкламаваў, таксама з памяці, вершы: Вордсворта "We Ave Seven", Шэлі "Ode to the West Wind", альбо "Poemacik do myszy polnej", Бурнса, якія я лічыў асабліва адпавядаючымі майму сёньняшняму становішчу і якія заўсёды вельмі любіў. Часам, галасна размаўляючы, каб захаваць цьвярозы розум, я імправізаваў казаньне альбо гутарку на якую-небудзь тэму.

Любіў я яшчэ прыдумляць доўгія анекдоты па тыпу тых, што былі распаўсюджанымі ў Расеі: напрыклад візіт Сталіна ў калгас. Спрабаваў уяўляць сабе самыя дурныя пытаньні і адказы — проста каб развесяліцца. Уяўляў сабе, што вяскоўцы просяць у Сталіна хлеба, трактараў ці малака, і кажуць яму якія яны галодныя. Як "дзядзька Юзік" жорстка адказвае, што яны галодныя не ўпершыню, і загадвае ім больш працаваць, тады ў канцы пяцігодкі ўсё будзе добра, і г.д. Гэта было глупствам, але крыху дапамагала пераадольваць перыяды дэпрэсіі.

Практычна кожны вечар у тыя тыдні пасьля зьмярканьня вылі сірэны, доўга і пранізьліва, папярэджваючы ўсіх аб паветраных атаках. Турэмшчыцы разьбягаліся ва ўсе бакі каб патушыць сьвятло і запаліць над дзьвярыма чырвоныя альбо сінія лямпачкі. Класьціся да сігналу спаць нам не дазвалялася. Праз некаторы час мы чулі стрэлы зенітнай артылерыі, некалькі гармат каторай знаходзіліся, відаць, на даху нашага будынку, бо сьцены ўздрыгвалі ад гуку выбухаў.

Паміж выбухамі снарадаў мы чулі ў паветры вуркатаньне нямецкіх самалётаў, потым больш моцныя выбухі падаючых на горад бомбаў. Калі-нікалі чуўся сьвіст пралятаючага снарада і пасьля гэтага будынак уздрыгваў ад аглушальнага выбуху. Было ўражаньне, што гэта адбываецца тут, побач з маім акном, хоць снарад несумненна падаў на большай адлегласьці.

Толькі ў канцы верасьня мяне зноў выклікалі на допыт. У напружаным, як звычайна, унутраным стане сеў на крэсла і якраз у гэты момант завылі сірэны. Сьледчы ўскочыў і, незважаючы на мяне, схапіў слухаўку тэлефона. Перш, чым яго злучылі, над намі пачала страляць зенітная батарэя на даху, ды так, што пакой затросься. Мы

былі аглушаныя шумам і яшчэ раптам згасла сьвятло.У гэты момант увайшла турэмшчыца, вывела мяне з пакоя, хутка павяла у сьвятле сініх і чырвоных лямпачак па сходах кудысьці праз калідор, поўны цьмяных постацяў, уніз, мяркуючы па паху цьвілі, у сховішча.

Там мяне ўвапхнулі ўадзін з тых малых цёмных "карабкоў", як мы называлі часовыя камеры для вязьняў. Чакалі ў цемры, прыслухваючыся да глухіх выбухаў. У сьценку, што нас разьдзяляла, адцягнуўшы маю ўвагу, пастукаў сусед. Напружыўшы слых, я даволі выразна пачуў пытаньне:

— Вы хто?

Я амаль механічна адказаў:

-Ліпіньскі, Уладзімір Марцінавіч.

У цемры пачалася ціхая гутарка. Час ад часу турэмшчыца загадвала нам змоўкнуць. У некаторыя моманты гук бомбаў заглушаў нашыя словы і цэлыя сказы. Нічога новага, апрача таго, што тут у падземных "карабках" нас шмат, і што знаходзімся мы на Лубянцы, я не даведаўся. Але ў гэтых цёмных пастках, дзе вязьні чулі падаючыя навокал бомбы, гутарка была чымсьці суцяшальным. Раптам, прыкладна праз гадзіну, бамбардзіроўка спынілася. Чутна было, як трывожныя сірэны заканчваюць сваё выцьцё. Потым у гэтым абсалютна чорным "карабку" наступіла такая аглушальная цішыня, што здавалася яна парве мае вушныя мембраны. Урэшце нас па чарзе разьвялі па камерах і загадалі класьціся спаць.

Кожны вечар першага кастрычніцкага тыдня нас забіралі ўніз, у сховішча. Бамбаваньні ўзмацніліся і мы ведалі, што немцы прыступілі да рашучай атакі на Маскву. Цяпер бамбаваньне было амаль няспынным. Налёты здараліся нават удзень. Аднойчы пасьля апоўдня у час налёту я сядзеў на ложку і пачуў блізкі, усё больш галасьнейшы сьвіст бомбы. Перш, чым я зрэагаваў, яна ўзарвалася. Сьцяна маёй камеры страсянулася так моцна, што мяне ськінула з ложка.Устаўшы, я агледзеўся, ці не пашкоджана сьцяна, але нажаль гэтага не здарылася. Амаль адразу адчыніліся дзьверы і турэмшчыца хутка вывела мяне ўніз.

Раніцай 6 кастрычніка нас пачалі эвакуіраваць з турмы. Ва ўмовах мітусьні і беспарадку ў калідорах, калі турэмшчыцы крычалі каб мы не агляданіся і не размаўлялі, каб крочылі шэрагам, мы, з Божай ласкі, рухаліся хутка. Апрануты балі ва ўсім тым, што было выдадзена ў вялікім пакоі ў падзямельлі. Нягледзячы на строгі загад, мы ўсе адначасова размаўлялі, а турэмшчыцы былі занадта занятыя іншымі справамі, каб пільнавацца інструкцый.

Ад аднаго з вязьняў у паўзмроку таго сутарэньня я даведаўся, што немцы былі ўсяго ў ста дзесяці кіламетрах ад Масквы. Бамбаваньне цягнулася ўсю раніцу, а мы весела размаўлялі зь нейкай надзеяй на вызваленьне нас немцамі. Было амаль так, быццам у падзямельлі адбываўся грамадзкі сход, кожны дзяліўся з суседам сваёй інфармацыяй і рэшткамі ежы, якія ўдалося пранесьці ў кішэнях.

Тым ранкам я спаткаў там расейца, які працаваў у амэрыканскай амбасадзе ў Маскве. Трапіў на яго выпадкова і так здарылася, што гэта менавіта ён адпраўляў мне тэлеграму ў Альбярцін. Распавядаў мне, што амбасада і пазьней спрабавала выявіць маё месцазнаходжаньне, яшчэ слала тэлеграмы ў Альбярцін і Львоў, але адказаў не атрымала.

Была яшчэ ў падзямельлі пэўная колькасьць расейскіх афіцэраў, арыштаваных Бог ведае за што, якія распавялі нам што ведалі аб ходзе вайны. Немцы прасоўваліся ўперад бліскавічна, іх пярэдні край знаходзіўся на лініі ад Ленінграда на поўначы, праз Маскву і да Сталінграда на поўдні. Украіна, расейскае збожжавае гумно, была занятай. Немцы занялі Адэсу і кіраваліся на Крым. Растоў здаўся і пад пагрозай быў увесь Каўказ. Там быў кіроўца зь нямецкай амбасады, які дадаў розныя вядомыя яму падрабязнасьці, знаходзіліся былыя дырэктары расейскіх фабрык, якія распавядалі нам аб ваенным намаганьні Расеі. Гэта былі чорныя дні для расейскай ваеннай кампаніі і ўзбуджана размаўляючыя людзі ў тым памяшканьні былі раздзёртыя пачуцьцём лаяльнасьці да Айчыны і надзеямі на вызваленьне.

Нарэшце ўсіх разьмеркавалі па групах у дваццаць, ці каля гэтага, чалавек і вывелі па сходах з будынку на вуліцу. Я чакаў, што нас пагрузяць у аўтамабілі, але замест гэтага павялі пехатою да чыгуначнага вакзала, і так хутка, што часам мы мусілі бегчы вуліцамі Масквы.

Увесь гэты час дзеля падстрахоўкі нас пільнавалі жаўнеры з сабакамі, бо на вуліцах панавала сумятня. Бамбаваньне працягвалася і час ад часу вуліцы былі завалены вялікімі грудамі друзу. Зрэдку мільгалі людзі, відаць у пошуках сховішча, не маючы часу паглядзець на нас.

Шум стаяў аглушальны, тэмп маршу гранічны, а яшчэ было вельмі холадна. Я меў на сабе толькі лёгкую куртку, а Масква ў тым кастрычніку была ўжо цалкам зімовай. На вакзал мы не ўвайшлі, а пайшлі кароткім шляхам да пуцей, спатыкаючыся аб друз. Там нас пагрузілі ў "сталыпінкі", пасажырскія вагоны, расейскія калькі

еўрапейскіх пульманаў, з маленькімі, паўтара на тры метры, купэ і калідорам уздоўж.

Нават у час бамбаваньня і сумятні (натуральна, чыгунка была першай мішэньню для нямецкіх самалётаў) усё адбывалася арганізавана. Мы былі разьмешчаны ў вагонах згодна са сьпісам, пры гэтым былі прачытаны нашы прозьвішчы. У тыя малыя купэ ўціскалі каля дваццаці — дваццаці пяці чалавек. Было амаль немагчыма ўтрымацца ў стаячай пазіцыі, бо ціскаціна нагадвала трамвай ці метро ў час пік. Тыя, хто ўвайшлі першымі, занялі сядзячыя месцы, некаторыя з астатніх ускараскаліся на верхнія паліцы. Гэтыя маглі прынамсі дыхаць не адчуваючы локці суседзяў на сваіх скабах.

З-за таго,што гэта быў звычайны пасажырскі цягнік і меў вокны з абодвух бакоў вагона, то ўдзень праз іх мы маглі назіраць гармідар і бамбаваньне. Уночы маглі бачыць бліскаўкі зенітных снарадаў і далёкія ўспышкі выбухаў унутры горада, якія выглядалі як раптоўныя маланкі летняй навальніцы.

У маёй секцыі было больш за паўтузіна вышэйшых афіцэраў абвінавачаных у здрадзе, у падрыўной дзейнасьці, і нават у дэзерцірстве, член Вярхоўнага Савета СССР, расеец, які працаваў у кітайскай амбасадзе, некалькі дырэктараў фабрык, пара хімікаў і юрыстаў, інжынер, двое студэнтаў і прафесар. Увогуле кажучы, гэта была група інтэлектуалаў, большасьць зь якіх, за выключэньнем некалькіх афіцэраў, былі, у вузкім значэньні гэтага слова, палітычнымі вязьнямі. Першыя гадзіны мы патрацілі на знаёмствы, якія час ад часу перарываліся выбухамі падаючых паблізу бомбаў з-за чаго вагон ўздрыгваў, аднаго разу нават здалося, што ён перакуліцца.

Старэйшы з афіцэраў, пажылы генерал, вырашыў, што групу пара арганізаваць і ўсталяваць парадак дня. Выпрацаваў эфектыўную сістэму пачарговага карыстаньня лавамі і паліцамі, якая дазваляла старэйшым сядзець крыху болей, чым маладзейшым. Вырашыў таксама, што каб заняць час, кожны з нас штодня павінен прачытваць лекцыю па сваёй сьпецыяльнасьці. Ён сам і распачаў гэтыя "сталыпінскія курсы" лекцыяй па стратэгіі. Разгорнута растлумачыў, як Гітлер падрыхтаваў наступ і паказаў, што лінія наступу заняла вялікую дугу ад Ленінграда да Сталінграда, а сярэдзінай яго стала Масква.

— Але Гітлер прайграе,— сказаў ён,— бо фронт занадта расьцягнуты, а яго лінія забесьпячэньня вельмі напружаная. Зімою ён можа ўтрымліваць гарады, яле яму пагражаюць няспынныя парушэньні камунікацыяў дзеяньнямі партызанаў. Яго сапраўднай мэтай зьяўляецца не Масква, а нафтавыя радовішчы Каўказа ля Баку,

і мы аб гэтым ведаем. Асноўнай задачай зьяўляецца здабыцьцё паліва для тэхнічных сродкаў, а зараз яго танкавыя дывізіі так заглыбіліся ў Расею, што адзіная ягоная надзея — гэта забесьпячэньне іх з нафтавых палёў самой Расеі. Таму мы павінны накіравацца ад Сталінграда на Растоў і, адсекшы Каўказ, агаліць яго фланг з поўначы, ізаляваўшы нафтавыя палі і акружыўшы, калі пашчасьціць, ўсе дывізіі за лініяй контратакі.

У тым ледзяняча-халодным пульмане на чыгуначных пуцях маскоўскіх ліній, калі нямецкія самалёты сеялі сьмерць над нашымі галовамі, гэта была чароўная лекцыя.На тым месцы станцыі мы знаходзіліся ўвесь час з 3 па 6 кастрычніка. Магчыма, была занятая лінія, бо часам наш вагон перацягвалі з адной каляіны на другую, але ўперад не рухалі. Мы ехалі, можа, сто пяцьдзесят метраў, потым спыняліся, рухалі назад, пераходзілі на другую каляіну, сунуліся якія-небудзь пяцьсот метраў, потым зноў спыняліся. Праз гадзіну гэты манеўр паўтараўся.

Гэтыя тры дні немцы бамбавалі Маскву ўдзень і ўночы, а чыгунка была адной з галоўных мішэняў. Нейкім цудам ні мы і ніводзін аб'ект паблізу не трапілі пад бомбы, але здавалася немагчымым каб гэтак было далей, бо ля нас падаў бомбавы дождж. Некалькі бомбаў трапілі досыць блізка, так што мы бачылі абломкі пуцей, якія ляцелі ў паветры, але нічога не падала ў нашым напрамку, хоць мы часам горача маліліся аб гэтым. Меркавалі, што калі на нас упадзе нямецкая бомба, мы будзем так ці інакш вызваленымі. Альбо загінем і такім чынам вырвемся з рук расейцаў, алібо будзем мець шчасьце вырвацца з пашкоджанага цягніка і ўцячы.

Каля 8 кастрычніка цягнік зноў зрабіў намаганьне і даехаў да прадмесьця Масквы, Пескі, якое пазнаў адзін з афіцэраў. Там мы прастаялі большую частку ночы, а назаўтра вярнуліся на старое месца. Тэрыторыя, дзе цягнік стаяў мінулым днём,уяўляла груду друзу, вагоны ляжалі адзін на адным як пасьля дзіцячай гульні. Дзе-нідзе з кучы абломкаў тырчэлі выгнутыя рэйкі, як вялізныя штопары.

Нарэшце 9 кастрычніка мы пачалі пакрыху ехаць. Днём стаялі на бакавых пуцях, бо немцы кідалі бомбы на ўсё, што рухалася. Ехалі толькі ноччу. У час доўгіх прыпынкаў працягвалі нашы "сталыпінскія канферэнцыі". Пажылы генерал, які служыў у войску яшчэ з царскіх часоў, раніцай і вечарам чытаў лекцыі па стратэгіі. Адзін дырэктар тытунёвай фабрыкі тлумачыў, як канверсаваць тэхніку з вытворчасьці папярос на вытворчасьць патронаў. Іншыя дырэктары і інжынеры давалі нам элементарную інфармацыю аб ходзе ваенных намаганьняў, аб недахопе амаль усіх матэрыялаў на

патрэбы пэўнай вытворчасьці, калі бракавала ўсяго. Адзін з дырэктараў расказаў, што быў арыштаваны таму, што не здолеў паставіць у патрэбнай колькасьці прадукцыі, і ніякія яго тлумачэньні не былі прынятыя да ўвагі. Наконт магчымасьці суперніцтва зь немцамі ў вобласьці матэрыяльнага забясьпячэньня большасьць была настроена песымістычна. Меркавалі, што адзіным шанцам для іх краіны выйграць вайну зьяўляюцца людскія рэзервы і Злучаныя Штаты.

У першыя дні, праведзеныя на стаянцы, мы атрымалі хлебны паёк. Потым ужо нічога не было. У гэтай сітуацыі ніхто не мог паправіць становішча, нават нашы турэмшчыкі не атрымоўвалі рэгулярнага харчаваньня. Кожная спроба забесьпячэньня была асуджана на правал з-за бясконцых бамбаваньняў. Праз дваццаць чатыры гадзіны без ежы мы атрымалі на наступныя дні па некалькі селядцоў, вельмі малых і перамарожаных. Рукамі разагравалі іх да разьмякчэньня, пасьля чаго сырымі зьядалі, з галавой, хвастом і касьцямі. Былі згаладанымі, таму глыталі ўсё. Але пасьля рыбы нам не далі вады і вельмі хацелася піць. Праз якія-небудзь два дні мы амаль паміралі ад смагі. Некаторыя з-за пакутаў неспатоленай смагі пачалі крычаць. Сітуацыя станавілася небясьпечнай. Нават пайшла пагалоска (аб гэтым даведаўся адзін з афіцэраў ад маладога турэмшчыка), што рашаецца пытаньне каб нас пастраляць і гэтак вырашыць усю праблему.

Бамбаваньне ўвесь час было інтэнсіўным, і цягнік мог рухацца ўперад толькі начамі, вельмі павольна, з патушанымі фарамі, з надзеяй, што рэйкі перад ім яшчэ ёсьць. Аднойчы пасьля кароткага пераезду ён раптам спыніўся пасярод лесу. Мы думалі, што настаў наш апошні час. У паўзмроку ночы мы разглядалі турэмшчыкаў, што ішлі ўздоўж цягніка. Іх сілуэты з карабінамі ў руках вымалёўваліся на сьнежным фоне. Гадзіны цягнуліся бясконца доўга. Мышцы нашых згаладалых страўнікаў круціла ад напружаньня, мы пацелі нягледзячы на холад. НКВДшнікі з сабакамі, спушчанымі са шворак хадзілі ўздоўж вагонаў. Паводле ўсеагульнага ўяўленьня, яны зьбіраліся адвесьці нас і лес як статак быдла, але надыйшоў дзень і нічога не здарылася.

Наступным днём даехалі да Разані, дзе нам далі хлеба, першы раз за два дні, і нарэшце далі вады. Зноў убачылі хлеб мы толькі праз яшчэ два дні. Потым мы жылі на селядцах і зноў некаторыя перажылі шок. Нарэшце прыбылі ў Тамбоў, адзін з галоўных чыгуначных вузлоў. Пуці станцыі былі забітыя цягнікамі з войскам і амуніцыяй, усе рэйкі былі занятыя. Бамбаваньне працягвалася, бо ўвесь час нашага руху наперад мы ехалі паралельна

лініі нямецкага фронту Масква — Сталінград. У Тамбове нас паставілі на бакавы пуць, бо цягнікі з ваеннымі матэрыяламі мелі на шляху да фронту перавагу.

Нягледзячы на наша страшэннае становішча, мы са спачуваньнем глядзелі на людзей, якія жабравалі на станцыі ля цягнікоў, выпрошваючы ежу. Некаторыя нават пабудавалі паблізу вакзала буданы. У Тамбове мы заставаліся два дні і нарэшце атрымалі трохі хлеба. Нам паведамілі, што гэтага павінна хапіць да Аткарска, сто пяцьдзесят кіламетраў далей, вызначыць колькі гэта зойме, у тэмпе зь якім мы рухаліся, было немагчыма. У рэальнасьці гэты шлях заняў два дні, але хлеб наш, натуральна, даўно зьнік. А што датычыць хлеба, абяцанага ў Аткарску, то мы сядзелі і чакалі, але нічога не прычакалі. Празь некаторы час вязьні пачалі крычаць, клясьці турэмшчыкаў і патрабаваць ежы. І ўрэшце яе далі. Да цягніка прынесьлі шмат кашоў чорнага хлеба і кожны з нас атрымаў паўбохана. Гэта было цудоўна — духмяны, сьвежавыпечаны сялянскі хлеб. Нам ізноў паведамілі, што гэтага павінна хапіць да Саратава, але водар быў занадта спакусьлівы, таму елі гэты хлеб вельмі прагна. Больш ніколі я не еў такога выдатнага хлеба, як тым разам у Аткарску. А яшчэ там далі столькі вады, колькі хацелася, і ад усяг гэтага хлеба і вады нашы страўнікі напоўніліся і мы ўжо не адчувалі галодных спазмаў.

Даехалі да Саратава 18 кастрычніка. Падарожжа, якое ў нармальных умовах пасажырскім цягніком прайшло б за дзень, цягнулася амаль трынаццаць сутак. Калі прыехалі, ліў дождж, але нягледзячы на надвор'е мы былі вымушаныя стаць у шэрагі. У гэты час службоўцы зачытвалі нашы прозьвішчы і па чарзе правяралі дакументы. Мы былі стомленыя, але перш за ўсё імкнуліся зьберагчы ад вады кавалачкі хлеба, якія нам удалося захаваць. Потым нас пагрузілі ў крытыя грузавікі для вязьняў і павезьлі ў старую губернскую турму ў Саратаве.

## Саратаўская зона

Калі даехалі да турмы, пад праліўным дажджом зноў праверылі нашы персаналіі і потым завялі ў падзямельле з каменнымі сьценамі, чорнымі ад старасьці. Яшчэ раз прайшлі праз звыклую працэдуру: медычны агляд, дэзінфекцыя, адбіткі пальцаў, фатаграфаваньне, галеньне і стрыжэньне. У час, пакуль наша вопратка была ў пральні, мы маглі памыцца пад душам. Пасьля амаль двух тыдняў цісканіны ў вагонах мы былі шчасьлівыя ад такой магчымасьці.

Душавыя ў Саратаве былі брудныя, сьцены лазьні цьвілыя і вільготныя, бо гэтая частка турмы доўгі час не ўжывалася, але нягледзячы на гэта ўсе мы памыліся, што было для нас вельмі важным.

Пасьля ўсяго гэтага нас пасадзілі на грузавікі і праз горад даставілі ў стары школьны будынак. Турма, незьмяшчаючы ўсіх прыбылых з Лубянкі, пасьпешна рэквізавала школу. Класы былі пустыя, за выключэньнем узвышэньняў для кафедры, на якіх мы стаялі альбо сядзелі, прынамсі тыя сярод нас, хто здолеў гэтыя месцы захапіць. Нас было ў пакоі каля ста пяцідзесяці, які раней зьмяшчаў пяцьдзесят — шэсьцьдзесят вучняў...

Нашу групу у большасьці складалі палітычныя вязьні з Лубянкі, галоўным чынам людзі культурныя і інтэлігентныя. Таму хуценька ўсталявалі расклад дня, падобны да таго, які стары генерал увёў у цягніку. У гэтых школьных залах прафесары чыталі нам лекцыі, артысты давалі прадстаўленьні. Танцавалі, сьпявалі, імправізавалі маналогі або сатырычныя сцэнкі — усё было дарэчы каб запоўніць час. У паўзах аддаваліся звыклым заняткам вязьняў — гутаркам аб сваіх лёсах. Дзяліліся сумеснымі захапленьнямі, што дазваляла пазьбягаць нуды, доўгі час праводзілі ў размовах, параўноўвалі нашыя назіраньні наконт допытаў на Лубянцы і г.д. Натуральна, большасьць з тых аповядаў трэба было ўспрымаць з пэўнай доляй недаверу, бо каб лепей выглядаць, кожны прыўкрашваў. Цалкам ніхто нікому не верыў. Заўсёды існавала небясьпека што хтосьці ў групе можа быць шпіёнам ці стукачом НКВД.

Аднойчы ноччу, напрыклад, мяне раптам пабудзіла гучная размова і моцны шум у камеры. Перш чым усе прачнуліся, у камеры ўжо былі турэмшчыкі, выносячы зь яе акрываўленае цела. Адразу ж зьявіліся сьледчыя, паставілі нас у шэрагі і пыталіся, хто забіў таго чалавека. Канечне, ніхто не прызнаўся, усе сьцьвярджалі што спалі глыбокім сном. Ішоў час, сьледства працягвалася. Сьледчыя пагражалі, што ніхто не будзе спаць і пры неабходнасьці яны будуць дапытваць усю ноч, але ўрэшце адступіліся нічога не дабіўшыся. Усе былі зьбянтэжаныя, але перш чым заснуць, я пачуў, што ахвярай стаў інфарматар НКВД, якога выкрылі і ліквідавалі. Гэта магло быць праўдай і таксама магло быць звычайнай турэмнай гісторыяй. Магчыма, гэты чалавек быў забіты ў барацьбе за тытунь альбо хлеб.

Празь месяц старая група са школьнага будынку была расфарміраваная, мяне перавялі ў галоўную турму Саратава. Камеры там мелі памеры два на чатыры метры. Каменныя муры былі брудныя, а адзінае маленькае акенца знаходзілася ўверсе. Было вельмі цёмна і вільготна, а смурод гнілі быў такі праніклівы, што я да

яго так і не здолеў прызвычаіцца. У такіх камерах знаходзілася часам да сямнаццаці асобаў, але ў нашай было толькі дванаццаць.

Нават пры такой, параўнальна малой лічбе вязьняў, амаль не было магчымасьці варухнуцца.

Ноччу мы былі шчыльна ўпакаваныя на негабляваных нарах і калі хтосьці хацеў памяняць позу, то будзіў усіх астатніх. Аднак з іншага боку, харчаваньне было троху лепшым, чым звычайна. Хлеб, якога мы атрымоўвалі на сьняданак па чатырыста грамаў разам з гарачай вадой, быў добрай якасьці. На абед нам звычайна давалі паўлітра супу, але замест вячэрняй кашы мы атрымоўвалі па тры марожаныя рыбкі, якія называліся акунямі, і крыху цёплай вады. Мы зьядалі рыбу цалкам, як сардынкі. Да таго ж мы мелі джэнтльменскую дамову, магчымую ў такой малой групе, што будзем есьці толькі адпаведна раскладу. Такім чынам мы абыходзілі звычайную для турмы небясьпеку — выкліканьне пачуцьця голаду ад выгляду, што нехта есьць.

У той час нас зноў пачалі выклікаць на допыты, аднаго за другім, пачынаючы, бывала, адразу пасьля сьняданьня. І таму першая частка нашага штодзённага баўленьня часу была разьлічана на тых, што заставаліся, хто яшчэ будзе сёньня выкліканы. Мы выконвалі ўсталяваную раней штодзённую праграму: гутаркі, камічныя маналогі і сцэнкі, абы запоўніць час пакуль хто-небудзь не вяртаўся з допыту. Тады ўсё спынялася і ўся ўвага цалкам прысьвячалася таму, каб даведацца, які абарот прымаюць справы, па якой лініі ідуць допыты і ці ёсьць якія навіны.

У Саратаўскай турме мы зносіліся між камерамі азбукай Морзэ. Будынак турмы меў у плане выгляд квадрата з падворкам усярэдзіне. На трэцім паверсе, дзе знаходзіліся мы, бакі гэтага квадрата атачалі каля трыццаці камер. Штодзень адзін з нас, каб папярэдзіць аб прыбліжэньні турэмшчыка станавіўся ля дзьвярэй, і тэлеграф пачынаў дзейнічаць. Вязьні стукалі ў сьцяну, перадаючы азбукай Морзэ зьвесткі з камеры ў камеру.

Мы імкнуліся даведацца, ці прыбылі новыя вязьні і якія навіны прынесьлі, асабліва з фронту. Перадавалі з камеры ў камеру іх прозьвішчы, спадзеючыся знайсьці сяброў. Пыталіся таксама, колькі вязьняў знаходзіцца ў кожнай камеры і хто яны. Першыя весткі кожнага дня датычыліся тых, хто ноччу памёр — у асноўным ад дызентэрыі — альбо у якой камеры хворыя. А яшчэ тэлеграф служыў для абмену тытуню на ежу, а часам, калі была пільная патрэба, нават на вопратку. Тэлеграфісты выстуквалі час і месца (звычайна прыбіральня), каб схаваць там для мены рэчы.

Аднойчы раніцай па сьцяне раптам пачуўся стук. Як іскра па запальным шнуры, праз калідор пабегла навіна, што ў адной з камер павесіўся Сьцеклов, былы рэдактар "Ізьвесьцій". Ён знаходзіўся ў Саратаве амаль год, усё больш паглыбляючыся ў дэпрэсію, і турэмнае жыцьцё, разам з адарванасьцю ад сьвету штурхнулі яго на самагубства. З-за яго былога становішча і яго рэпутацыі гэта была захаплялльная навіна для турэмнага тэлеграфу і яна стала тэмай для доўгіх гутарак на ўвесь дзень.

Пад канец другога тыдня знаходжаньня ў той камеры мяне выклікалі на допыт. Як заўжды, меў напяты стан духу і пачуцьцё лёгкай агіды, яны заўсёды агарталі мяне перад тымі паседжаньнямі. Уся тая справа здавалася занадта нязначнай, каб зьвяртаць на яе ўвагу. Я ведаў, што не зрабіў нічога благога, але іх пазіцыя паказвала на тое, што мяне падазраюць ва ўкрываньні чагосьці. Так, я прыбыў у Расею з фальшывым пашпартам, за што найбольшым пакараньнем магло быць два ці тры гады зьняволеньня, але гэта нідзе не прымалі ўсур'ёз. Аб гэтым ведалі, але сам факт іх не хваляваў, хіба толькі як пацьверджаньне іх падазрэньняў, што я мабыць прыбыў у Расею зь нейкім падрыўным намерам.

Тым ранкам мяне адвялі ў пакой, дзе знаходзілася цэлая група сьледчых. Я нерухома сядзеў, а яны засыпалі мяне пытаньнямі аб маім жыцьці і працы ў якасьці "шпіёна".

— Вы, сьвятары,— сказаў адзін зь іх,— прыбываеце ў Расею як агітатары, пад выглядам рэлігіі падбухторваеце народ! Чаму не насьмеліцеся адкрыта прызнаць гэта?

— Я гэтакі ж шпіён, як і вы,— адказаў я.

Ён адразу ж ашчацініўся.

— Вы як са мной размаўляеце?— закрычаў.— Не грубіце мне і адказвайце на пытаньні проста.

— Я не грубы,— адказаў я яму.— Вы ведаеце, што не зьяўляецеся шпіёнам, так? І я ведаю, што я не шпіён і гэта ўсё, што я хачу да вас давесьці.

Увогуле гэта было вельмі бурнае паседжаньне. Цяжка было заставацца спакойным, бо пытаньні ад усіх сьледчых сыпаліся вельмі хутка і не заўсёды датычыліся адной тэмы. Калі пазьней я распавядаў аб гэтым маім таварышам па камеры, прынамсі аб тым што здолеў запамятаць, мы не здолелі вырашыць, куды яны ўласна кажучы хілілі. Гэта не значыць, што камера была калектывам, здольным правільна ацаніць вартасьць аргументаў, або пазбаўленым усялякай перадузятасьці.

Трыма днямі пазьней мяне выклікалі зноў, гэтым разам пасярод ночы. Маім сьледчым быў высокі бландзін з сялянскім тварам. Адзін. Не спатрэбілася шмат часу, каб зразумець, што гэта пачатковец у сваёй справе. Я ўжо меў досьвед зносін з прафесіяналамі Лубянкі. Выглядаў ён маладым, але імкнуўся быць строгім, што мяне міжвольна забаўляла. Замест падрабязнага выпытваньня, якое я навучыўся паважаць.і нават асьцерагацца, ён пачаў пакрыкваць: "Што! У чым хочаце мяне ўпэўніць? Што сказалі? Што гэта такое?" Я ўсьміхнуўся і сказаў:

— Ну добра, чаго вы хочаце? Скажыце мне.

— Гэй,— ашчэрыўся ён,— вы зь кім размаўляеце?— Ускочыў, няспрытна спрабуючы прыняць строгі выгляд і затрос кулаком перад маім тварам.— Бачыце гэты кулак? Сьцеражыцеся!

Я апусьціў вочы і, з цяжкасьцю стрымліваючыся ад сьмеху, паспрабаваў захаваць выгляд павагі.

Увесь допыт ён дамагаўся, каб я выпраставўшыся сядзеў на пярэднім краі крэсла. Сам жа з цяжкасьцю трымаў галаву, такі быў сонны, яна ўвесь час падала. А пад раніцу у паўмінутных паўзах драмаў, не могучы нават напісаць цэлага сказу на паперах, што ляжалі перад ім. Пад канец паклаў ручку на стол і рэзка ўстаў, кажучы:

— Добра! Зараз вяртайцеся ў камеру і да заўтра ўсё абдумайце,— тут ён зноў паспрабаваў пастражэць,— а лепш за ўсё рашыцеся распавесьці ўсю праўду!

Пад канец наступнага ранку мяне выклікалі зноў. Гэта быў той самы малады чалавек. Я, толькі усеўся, глядзеў на яго вельмі паважна, але хоць і размаўляў пачціва, усур'ёз успрымаць не мог, такім ён здаваўся пачаткоўцам у сваім рамястве. Свае прыёмы ён вымушаны быў зьмяніць і рашыўся на новы спосаб. У час, калі мы прабягалі па звычайных уступных пытаньнях, як быццам кружачыся вокал, ўвайшла маладая дзяўчына і прынесла на падносе бутэрброды, гарбату, хлеб з маслам і паставіла ўсё гэта на ягоным стале. Калі яна выйшла, ён паставіў перада мной філіжанкі з гарбатай і паклаў бутэрброды.

— Ешце,— прапанаваў мне.

Я адмоўна пахітаў галавой.

— Не бойцеся, ешце.

— Не хачу,— адказаў я.

— Але ж вы галодны, ешце.

— Я гэтага не хачу.

Канечне, есьці хацелася, і нават вельмі, але прапанова была такой празрыстай, што я не схацеў дазволіць сабе ўцягнуцца ў гульню. Вось такім чынам гарбата і бутэрброд ўвесь час допыту засталіся некранутымі. Ён здаваўся яшчэ больш засаромлены мной таму, што раз-пораз кідаў на ежу нервовы позірк і адразу ж яго адводзіў.

Калі ж даведаўся, што я быў кіроўцам першага класу ў Цёплай Гары, то пачаў задаваць пытаньні пра розныя дэталі, што датычыць рухавікоў і машын.

— Для чаго служыць тая труба? Дзе знаходзіцца такі клапан? Куды праведзены той дрот?

Я адказваў:

— Не ведаю. Забыўся.

— І вы называецеся кіроўцам першага класу? Я думаў, што амэрыканцы заядлыя механікі. Але вам не даверыў бы нават замену пакрышкі.

Некаторы час мы круціліся вакол дратоў, шруб і г.д., і нарэшце ён зразумеў, што ўсё гэта безсэнсоўна.

— Колькі разоў паўтараць вам, чаму вы тут знаходзіцеся? — запытаў мяне.— Лепей было б, калі б вы адказвалі шчыра.

Урэшце рэшт допыт скончыўся без відавочнага выніку.

— Цяпер слухайце,— сказаў ён напрыканцы.— Заўтра будзеце мець апошнюю магчымасьць распавесьці праўду. Падумайце над гэтым.

Але мяне не выклікалі ні наступным днём, ні шмат дзён потым.

Тым часам размовы ў нашай камеры канцэнтраваліся на бітве ля Масквы. Штодзённа ў турме зьяўляліся новыя людзі і іх паведамленьні перадаваліся тэлеграфам Морзэ. У нашай групе быў нават афіцэр з саратаўскага гарнізону, які распавёў, што немцы ўжо блізка. Ён казаў, што кожную хвіліну чакаецца бітва пад Саратавам і што ў горадзе поўна войскаў.

Не было сумненьня, што немцы набліжаюцца. Саратаў бамбілі амаль штодзень. У час налётаў мы нават пачалі голасна заклікаць немцаў, спадзеючыся што тыя сьکінуць бомбу у двор нашаў турмы. І зноў, гэтак жа як у цягніку да Саратава, мы трацілі шмат часу, плануючы ўцёкі калі б немцы захацелі бамбаваць муры вязьніцы.

Блізкасьць вайны мела яшчэ адзін просты эфект. Харчаваньне, якое было досыць добрым, пачало пагаршацца, а ў некаторыя дні яго не было ўвогуле. У самім горадзе было мала ежы, а вязьні ўсё прыбывалі, турэмная ж кухня не мела дастатковага абсталяваньня

каб вытрымаць такі крызіс. Аднойчы вечарам, калі нас вывелі ў прыбіральню, я ў куце калідора заўважыў вялікую костку ад шынкі. Калі турэмшчык адвярнуўся, я схапіў яе і схаваў пад курткай. У прыбіральні старанна вымыў яе пад кранам і паклаў у кішэнь. Рэшту дня правёў адгрызаючы ад яе кавалкі, жуючы да здрабненьня і глытаючы. Разламаў на часткі і даў сукамернікам, але ніводзін зь іх не меў досыць моцных зубоў каб яе разжаваць. Неяк ноччу, у канцы студзеня 1942 г. мяне зноў выклікалі на допыт. Там зноў быў мой малады бялявы сьледчы і выглядаў ён надзіыва маўклівым і прыгнечаным. Калі вымаўляў уступны зварот, то нервова прахаджваўся туды-сюды. Сказаў, што гэта мой апошні шанец паведаміць праўду і, значыць, лепш за ўсё каб я падумаў і распавёў яе зараз. І ўсеўся з зацікаўленым тварам. Пачаў мяне дапытваць, адначасова нервова перастаўляючы на пісьмовым стале прадметы. Урэшце размова зусім спынілася.

Так мы і сядзелі, аж раптам зазваніў тэлефон. Сьледчы ўзяў слухаўку і каля хвіліны слухаў. Выраз яго твару нечакана зьмяніўся. Кінуўшы слухаўку, з вокрыкам сарваўся з месца і выбег. Я чуў, як іншыя службоўцы мітусіліся ў пярэднім пакоі з воклічамі "Ура!" Тут дзьверы адчыніліся і ўвайшлі трое службоўцаў разам з маім сьледчым, усе ажыўлена гамонячы і пляскаючы адзін аднаго па плячах. Нарэшце адзін зь іх заўважыў мяне. Паклікаў турэмшчыцу і загадаў адвесьці ў камеру. Ледзьве я туды ўвайшоў, паведаміў усім вязьням навіну: з урыўкаў размоваў зразумеў, што расейцы адбілі Мажайск, браму да Масквы. Немцы адступілі, пагроза для Масквы была зьліквідіваная.

Навіна выклікала ў камеры сенсацыю. Усе адначасова пачалі яе абмяркоўваць, тэлеграф Морзэ адразу застукаў па сьценах. У калідорах чулася як быццам вуркатаньне, і нават турэмшчыцы тым вечарам далучыліся да агульнага ўздыму і пацьвердзілі навіну. Рэакцыя на перамогу Чырвонай Арміі сярод вязьняў была разнастайная. Большасьць былі расейцамі, а шмат хто і ветэранамі войска, іхняя пыха і патрыятызм іх адразу распалілі. Але пазьней, калі абдумаліся, альбо ім нагадалі, што параза немцаў азначае канец нашых спадзяваньняў на хуткае вызваленьне з вязьніцы, працьверазелі. Урэшце, аднак, патрыятызм перамог. А ўвогуле, гэта была яшчэ адна бяссонная ноч.

Ранкам, 23 студзеня я зноў быў выкліканы. Думаў, што буду дапытаны маладым бялявым сьледчым і што гэта будзе новы "астатні шанец" у размове зь ім. Замест гэтага мяне завялі ў сутарэньне і замкнулі ў "карабку". Празь некаторы час турэмшчыца прынесла з камеры мае асабістыя рэчы і яшчэ дала бохан хлеба і тры лыжачкі

цукру ў паперцы. Я зразумеў, што паеду кудысьці далей. Нарэшце двое турэмшчыкаў завялі мяне на двор у турэмны грузавік. Ускараскаліся на яго разам са мной і мы рушылі на саратаўскі вакзал. Тлуму на вакзале не было і на ўсіх тварах было намалявана шчасьце. Уся атмасьфера была аптымістычнай, людзі радаснымі. Здавалася, нават жаўнеры, што запаўнялі вакзал, рухаліся вельмі ўпэўненым, спружыністым крокам.

Разам з турэмшчыкамі селі ў цягнік, які меўся ехаць на поўнач. Занялі месцы ў пасажырскім купэ. Да Масквы было ўсяго пяцьдзесят гадзін руху. Я стараўся ашчаджаць свой хлеб і цукар, бо не ведаў, ці доўгае будзе падарожжа і куды мяне вязуць. Уздоўж усёй чыгункі бачыў ямы ад бомбаў і зруўнаваныя дамы, якія азначалі як быццам сьлед нямецкай агрэсіі, зараз спыненай. Бамбаваньняў ужо не было. Рэйкі, здавалася, былі ў неблагім стане, так што да Масквы даехалі безь ніякіх прыгодаў.

## Седов дабіваецца "прысуду"

Дзесьці ў пухлых картатэках МВД (Мінісцерства Унутрэньніх Дзел) павінна знаходзіцца цэлая галерэя маіх партрэтаў — хударлявы, худы, вельмі худы — бо зноў прайшоў усю пакутлівую працэдуру прыёму на Лубянцы. Зноў фатаграфаваньне, адбіткі пальцаў, пастрыжка, лекарскі агляд, лазьня і чаканьне вопраткі з дэзінфекцыі. Напрыканцы мяне правялі ў маленькі пакой пад зямлёй, дзе ўжо было некалькі чалавек, але я знаходзіўся там толькі пару дзён, а потым быў забраны ў асобную камеру ўверсе. Я быў расчараваны знаходжаньнем зноў у адзіноце. Пачаў раздумваць, чаму мяне ўвесь час перамяшчаюць з месца на месца і чаму Масква так моцна цікавіцца менавіта мной. Каб гэта зразумець, чакаць прыйшлося нядоўга. Праз два ці тры дні вечарам, у дзевяць гадзін, мяне выклікалі, і я трапіў туды, што аказалася найбольш інтэнсіўным перыядам допытаў, амаль штодзённых.

Мой цяперашні сьледчы займаў памяшканьне, якое складалася зь некалькіх пакояў. Калі я ў адзін з першых вечараў увайшоў туды, убачыў прыгожага маладога мужчыну, смуглявага і чорнавалосага. Ён сядзеў ля пісьмовага стала ў першым пакоі і працаваў над нейкімі дакументамі. З цікаўнасьцю зірнуў на мяне, але я не прыгадаў, каб дзесьці раней яго бачыў. Калі я ўвайшоў у другі пакой, то хуценька агледзеўся навокал. У турме чалавек хутка вучыцца ацэньваць сітуацыю па акружаючых рэчах і шматлікіх дробязях, якія ўхоплівае краем вока.

Гэта быў аб'ёмісты, высокі пакой з двума вялікімі вокнамі ў зьнешняй сьцяне. Паркет быў дубовы, старанна наваскаваны. Ля адной сьцяны стаяла канапа, некалькі мяккіх крэслаў і цэлы шэраг зялёных картатэкаў. Вялікі пісьмовы стол з чырвонага дрэва, завалены пасярэдзіне паперамі, дадаваў самавітасьці ўсяму памяшканьню, так яшчэ дадаюць вагі дропіроўка на вокнах і абразы на сьценах. Я зразумеў, што знаходжуся ў самым важным кабінеце.

Мой новы сьледчы быў чалавекам паважным, спакойным і рашучым, векам каля трыццаці пяці гадоў, добра складзеным, з рыжаватымі валасамі, зачасанымі на бок, якія часам спадалі яму на вочы. Голас меў спакойны, з інтанацыямі, увесь час нашых размоваў паводзіў сябе вельмі годна. Ведаў сваё рамяство і выслоўліваўся дзелавіта, без нянавісьці, прафесійна. Загадаў мне сесьці, узяў са стосу на стале аркуш паперы і прамовіў:

— Сьвятар Вальтэр Цішэк, амэрыканец, езуіт, адукаваны ў Рыме, народжаны ў Амэрыцы 4 лістапада 1904 г.?

Я кіўнуў галавой. Наступіла доўгая паўза, пасьля чаго ён, адарваўшыся ад папераў, зірнуў на мяне і спакойна запытаў:

— Ці гатовы вы да шчырага супрацоўніцтва ва ўсёй гэтай справе?

— Натуральна, — адказаў я,— заўсёды гатовы. Скажыце, калі ласка, што вы хочаце ведаць. Я не зьбіраюся нічога ад вас хаваць.

— Добра,— адказаў ён і ўстаў.— Перш чым пачнем, я хачу паказаць вам кагосьці, хто тут знаходзіцца.

Падыйшоў да дзьвярэй і паклікаў таго чарнявага маладога чалавека, які сядзеў ля стала ў пярэднім пакоі.

— Гэта адзін з маіх падначаленых. Ці бачылі вы яго калі-небудзь?

— Не думаю,— адказаў я.

— Дык вось, перш чым вас арыштавалі, ён быў пасланы ў Чусавую каб дасьледваць вашу справу. Ён рыхтаваў на вас паперы і, калі выбухнула вайна, быў выкліканы ў Маскву. Ці разумееце?

Я зноў кіўнуў галавой. А той чалавек, нічога не кажучы, проста глядзеў на мяне, аж пакуль сьледчы яго не адаслаў.

Зачыніўшы дзьверы і вярнуўшыся да стала, сьледчы сказаў мне:

— Цяпер, калі фармальна вы папярэджаны, я спадзяюся, што цяжкасьцяў не будзе, і чакаю праўду.

Усеўся, прысунуў крэсла да стала і спытаўся:

— Якой мовай жадаеце карыстацца?

Шчыра кажучы, мая расейская мова ў той час была не вельмі добрай. Перашкаджалі шмат польскіх выразаў, асабліва тэхнічных тэрмінаў, якіх па-расейску не ведаў. На Ўрале са службоўцамі мы гутарылі пераважна па-польску, а паміж сабой па-ўкраінску, так што я чуў нашмат больш украінскай мовы, чым расейскай. У Маскве і Саратаве меў магчымасьць гутарыць з вязьнямі-расейцамі, асабліва з палітычнымі, бо яны ў гутарках са мной старанна выбіралі словы лёгкія да разуменьня. Мая здольнасьць выслявіцца па-расейску была даволі абмежаванай, і каб гутарыць аб важных справах, веданьне расейскай мовы было недастатковым.

— Калі жадаеце гутарыць польскай мовай,— сказаў сьледчы па-польску,— можаце гэта рабіць, я яе разумею.

Гэта не было абсолютнай праўдай. Ягоная польская лексіка, як я пераканаўся, была не нашмат лепшай за маю расейскую. Прынамсі свой жыцьцярыс я пачаў па-польску. Ён старанна занатоўваў, часам па некалькі разоў вяртаючыся да якойсьці яго часткі, дабіваючыся ўсіх падрабязнасьцяў. Гэта доўжылася амаль да пяці раніцы. Я вельмі стаміўся і адчуваў сябе выпампаваным дарэшты.

Потым пачаліся ўжо штодзённыя допыты. У першы тыдзень вытрасалі падрабязнасьці майго жыцьця ў Амэрыцы. Асабліва цікавіўся маімі сувязямі з амэрыканскім урадам, якіх, натуральна, не існавала. Калі-нікалі выдаваў кароткія каментары, накшталт: "Ці вы разумееце, што зараз мы саюзьнікі Амэрыкі і Англіі?" Гэта, відаць, павінна было схіліць да больш вольнай гутаркі аб маіх неіснуючых стасунках з амэрыканскім урадам.

Такімі хвілінамі я быў асабліва стрыманы ў словах. На ягоныя пытаньні адказваў, але супраціўляючыся спакусе цынізму. Не ведаючы, куды ён хіліць, я, хоць і не меў што хаваць, сьвядома не даваў ніякай інфармацыі, абмяжоўваючыся звычайна простымі "так" і "не". Ён жа няспынна, але ветліва выгаворваў мне, што я не цалкам супрацоўнічаю, што няма прычыны, з-за якой яму трэба выцягваць гэтую скупую інфармацыю з такой цяжкасьцю.

Ён быў адзіным сьледчым, прозьвішча якога я не даведаўся. Аднойчы, калі ён падыйшоў да картатэк каб выцягнуць нейкую папку, я зазірнуў на ягоны пашпарт, што ляжаў на стале. Яго клікалі Аляксандр Седов.

Пасьля таго першага тыдня мы перайшлі да дэталяў майго жыцьця ў семінарыі, у Альбярціне, падарожжа на Ўрал, працы ў Цёплай Гары і ў Чусавой. Ён не мог зразумець, чаму я добраахвотна згадзіўся працаваць на Ўрале. Ці хутчэй я павінен сказаць, што ён

быў вельмі незадаволены маімі тлумачэньнямі. Ён, вельмі церпяліва, зь лёгкай насьмешкай і недаверам, падняўшы бровы, слухаў спробы растлумачыць усё духоўнымі матывамі, якія сьхілілі мяне да прыняцьця такога пакліканьня.

Разгляд усіх тых падрабязнасьцяў забраў амаль месяц. Скончыўшы гэты перыяд, Седов сказаў:

— Думаю, што можаце сябе павіншаваць. Вы мне нічога не распавялі.

Я адказаў:

— Распавёў усё.

— Не! — Рэзка запярэчыў ён, упершыню губляючы свой звычайны лагодны тон.

— Уся цяжкасьць у тым,— адрэзаў я,— што вы думаеце, што ведаеце маё жыцьцё лепей чым я сам!

— Майце на ўвазе,— перасьцярог ён.— Не выкручвайцеся, я добра ведаю, што вы распавялі не ўсё, бо ўмею лагічна думаць. На падставе дакументаў магу сьцьвярджаць, што вы нешта хаваеце. Вашы паказаньні ў Пермі даказваюць гэта.

— Калі ласка, не верце ім,— адказаў я.— Можна змусіць расказаць усё, што захочаце, але гэта не азначае, што сказанае зьяўляецца праўдай.

— Змусіць?— спытаўся ён.— Што значыць "змусіць"? Мы ў СССР не можам ужываць амэрыканскія метады трэцяй ступені.

— Добра,— адпарыраваў я.— Гэта можа быць тэорыя, але там, у Пермі па мне лупцавалі як па мячы.

— Гэта няпраўда,— запярэчыў ён.

— Гэта праўда,— адказаў я,— і гэта перажыў я, а не вы!

Ён з хвіліну глядзеў на мяне, але нічога не сказаў. Допыт на гэтым скончыўся. Было відаць, што яму не даспадобы мая згадка на гэтую тэму і я не ведаў, якія наступствы яна прынясе, але ўдары, атрыманыя мной ці то легальна ці то не, былі без сумненьня рэальнымі.

Калі я вярнуўся ў камеру, уся справа хвалявала мяне меней, чым апошняя заўвага Седова аб тым, быццам я нешта ўтойваю. Я зусім не мог сабе ўявіць, чаго ён хоча. Як заўжды, ён не даў мне аб гэтым ніводнай зачэпкі.

Ён быў халодным рацыяналістам, але відавочна заінтрыгаваны нейкім эпізодам майго жыцьця і, здавалася, рашуча імкнуўся дасягнуць яго кораня. Магчыма так было таму, што ён папросту не ўмеў ацаніць рэлігійных матываў. Рэшту дня я правёў у спробах разгадаць гэтую загадку, але дарэмна.

Назаўтра перад полуднем мяне выклікалі зноў — прыём быў крыху нязвыклы, бо звычайна гэта адбывалася ноччу. Калі зайшоў у кабінет Седова, то ў адным з крэслаў убачыў нікога іншага, як майго цёмнавалосага сьледчага з Пермі, які выглядаў бы мярцьвяк. Я задумаўся. Чаму я такі важны, што яго так хутка выклікалі ажно з Пермі.

Седов адразу пачаў гаварыць:

— Ці ведаеце, хто гэта?

— Так,— адказаў я,— канечне.

— Ці гэта той, каторы, як вы кажаце, ужыў да вас сілу ў час допытаў у Пермі?

Я кіўнуў галавой. Сьледчы з Пермі зьбялеў. У тую хвіліну я адчуў да яго нешта накшталт літасьці. Верагодна, ён быў бацькам сям'і і выконваў працу, якую яму даручылі, і каб як мага хутчэй атрымаць вынікі, занадта яе спрашчаў. Апраўдаць яго я не мог. З іншага ж боку не бачыў прычыны зацягваць яго ў ягоную турму. У турмах было ўжо і так зашмат людзей.

— Добра,— сказаў Седов,— пагутарым аб фактах. Распавядзіце мне ўсю справу.

— Значыць так,— адказаў я,— гэта сьледчы з Пермі, які, калі так можна сказаць, вырваў зь мяне паказаньні.Ужываў у адносінах да мяне вельмі абразьлівыя словы, цалкам несумяшчальныя, як я яму у свой час казаў, зь яго пасадай аднаго з кіраўнікоў савецкіх людзей. Ніхто не паважае і не можа свабодна размаўляць з чалавекам, які абразьлівым брыдкаслоўем выклікае толькі агіду.

— Так, так, так,— сказаў Седов,— але вы казалі, што ён ужыў сілу?

— Сапраўды, — сказаў я.— Калі бачыў, што не атрымоўвае тое, што хацеў,выклікаў іншага чалавека, прозьвішча якога я не ведаю, плячыстага маладога мужчыну, які схапіў мяне за карак і біў па твары пакуль мой адказ не быў такім, які ім трэба.

— Ну, дык,— сказаў Седов, зьвыртаючыся да сьледчага з Пермі,— хто гэта быў?

— Не ведаю,— пашаптаў сьледчы яшчэ больш зьбялеўшы, чым дагэтуль.

— Ён вельмі добра ведае,— сказаў я.— Павінен гэта ведаць, толькі я не ведаю.

— Хай будзе так,— сказаў сьледчы з Пермі баронячыся.— Так было таму, што ён хаваў ад нас факты, як я адзначыў у сваім рапарце.

На гэта Седов падаў яму знак рухам галавы і абодва выйшлі з пакоя. Той, з Пермі, ішоў за Седовым з вельмі заклапочаным тварам. Я зноў адчуў да яго нейкую сімпатыю. Праз якіхсьці пяць хвілін Седов вярнуўся. Аб тым інцыдэнце нічога больш не сказаў, так што я не ведаю далейшы лёс таго сьледчага з Пермі, але прынамсі адна частка загадкі была для мяне зараз яснай. Дакументы, прысланыя з Пермі ў Маскву сьцьвярджалі, што я нешта ўтайваю. Гэта зьявілася прычынай таго, што мяне выклікалі ў Маскву на вельмі інтэнсіўныя і прафесійныя допыты, і яшчэ прычынай таго, што мне не верылі сьледчыя Лубянкі, з чым я спаткаўся адразу.

Гэтым паседжаньнем скончыўся месяц, праведзены ў кампаніі Седова. Тэарэтычна, згодна з карным кодэксам, вязень можа ўтрымоўвацца ў камеры допытаў толькі месяц, пасьля чаго павінен быць альбо асуджаны, альбо вызвалены. (Так прынамсі растлумачылі мне гэтую сістэму некаторыя з ветэранаў на Лубянцы і ў Саратаве.) Аднак у асаблівых выпадках перыяд допытаў мог быць працягнуты яшчэ на месяц. І я меў гэтыя два месяцы.

Усе тыя два месяцы Седов адмыслова займаўся маімі стасункамі з архібіскупам Шаптыцкім і місіяй, якую ён мне даручыў. Я зноў, як мог, стараўся растлумачыць яму, што мая місія, атрыманая ад мітрапаліта, была такой жа самай, як і кожнага іншага пробашча ці місіянера — служыць людзям. Я быў духоўным слугой, чыстым і простым, не было там ніякай палітыкі. Седов гэтага зразумець не мог, гэтаксама, як і ўсе іншыя сьледчыя. Усе яны, гэтак жа як і ён, лічылі, што місія сьвятара была проста прыкрыцьцём для нейкай іншай, палітычнай, дзейнасьці.

Ён ні разу не сказаў гэтага адкрытым тэкстам, але такая ўпэўненасьць заўсёды хавалася за яго пытаньнямі.

Седов заўжды пытаўся пра падрабязнасьці, што датычыліся жыцьця архібіскупа, хто зь ім жыў, хто наведваў, зь кім меў кантакты. А я шматразова паўтараў, што наведваў мітрапаліта літаральна два разы ў яго рэзідэнцыі, і то быў там нядоўга. Я проста нічога не ведаў аб падрабязнасьцях яго жыцьця або аб ягоных кіраўнічых рашэньнях. У мяне склалася ўражаньне, хоць гэта ніколі не было сказана адкрыта, што яны спрабавалі зьвязаць архібіскупа Шаптыцкага і маю місію на Ўрале з якойсьці пранямецкай змовай.

І зноўку вечнае пытаньне аб тым, чаму я хацеў ехаць на Ўрал. І я зноў намагаўся растлумачыць, што шмат украінцаў і беларусаў, маіх парафіянаў з Альбярціна або з дыяцэзіі архібіскупа ў Львове, добраахвотна згадзіліся працаваць на Ўрале, а я, як сьвятар, хацеў быць зь імі і служыць ім. У падмурку цікаўнасьці і намаганьняў

Седова ляжаў той факт, што рэгіён Уралу быў адным з найбольшых прамысловых асяродкаў, якія працавалі на савецкую ваенную машыну. Што мой выбар Уралу меў нешта агульнае з сабатажам, у гэтым мае сьледчыя былі перакананыя. Я ж з гэтым не згаджаўся.

— Чаму тады вы былі так зацікаўлены адправіцца менавіта ў Тулу?— запытаў Седов.

— У Тулу? — зьдзівіўся я.

У ходзе дыскусіі, якая адбылася пасьля гэтага, я даведаўся, што ў Туле знаходзілася фабрыка зброі, а гэты горад быў ад Масквы ў якіхсьці дзевяноста кіламетрах і менавіта там правалілася нямецкае наступленьне. Я ніколі не чуў аб фабрыцы зброі, але чуў аб Туле. Гэта было тое месца, куды, з-за яго блізкасьці ад Масквы, заўсёды імкнуліся Нестров і я. Менавіта тое, што зачапілі Тулу, дазволіла мне зразумець пра што павінны былі асабліва ўвішна дапытваць Нестрова. Пакутлівае кола пытаньняў працягвалася, бо ў сапраўднасьці не было ніякага сабатажу і шпіёнства, яны не маглі нічога даказаць, але стаялі на сваім. Я, хоць і быў вельмі стомлены сьледзтвам, увесь час упарта сьцьвярджаў, што адзінымі матывамі майго знаходжаньня ў Расеі і падарожжа па ёй, усёроўна па якіх месцах, былі матывы духоўныя, як у кожнага сьвятара.

Самы горшы час з тых трох месяцаў наступіў тады, калі Седов, праглядаючы мой партфель знайшоў выдраную з кніжкі старонку, атрыманую ад мітрапаліта Шаптыцкага. Іншыя сьледчыя раней яе ўжо бачылі, але не прыдалі вялікага значэньня. Седов жа быў прафесіяналам. Гэтая невысьветленая дасюль дэталь прымусіла яго задумацца. Я імкнуўся давесьці яму, што гэта апазнавальны знак, накшталт як даўней выкарыстоўвалі палову пярсьцёнка-пячаткі, каб мітрапаліт мог упэўніцца, што зьвесткі, атрыманыя ад мяне ці Нестрова, прыйшлі сапраўды ад нас.Седов адмоўна круціў галавой.

Яспрабаваў зноў.

— Калі мы зьбіраліся слаць ліст да Шаптыцкага,— казаў я,— павінны былі прыкласьці гэты кавалак паперы. Ён мог прыкласьці яго да другой часткі, што пакінуў сабе, і такім чынам упэўніцца, што ліст адпраўлены сапраўды намі.

— Я разумею,— быў адказ.— Своеасаблівы код.

Мне стала ясна, што я не здолеў яму растлумачыць сапраўднага сэнсу таго, аб чым расказваў, бо ў такія хвіліны, як тая, мая слабая расейская і яго кепская польская прыводзілі да непаразуменьня. Я не мог растлумачыць яму ні на якой з тых двух моваў розьніцы паміж знакам, які павінен быў па-просту засьведчыць сапраўднасьць

чагосьці, і знакам, які быў ключом да нейкага коду, або да іншага спосабу перадачы зьвестак.

Аднойчы Седов прывёў перакладчыка ангельскай. Гэта быў пажылы чалавек, магчыма радавіты расеец, ён дасканала размаўляў на брытанскай ангельскай мове. Па-ангельску мяне дапытвалі тое ж, што і заўсёды. І зноўку я спрабаваў давесьці як значэньне таго кавалка паперы, так і мае матывы прыезду ў Расею — каб працаваць для людзей. Усё гэта было перакладзена Седову, наколькі я мог меркаваць, цалкам дакладна, гэтак жа і запісалі. Упершыню я адчуў,што адбыўся нейкі рух у высьвятленьні майго становішча і што яны былі вымушаны гэта зразумець. Прынамсі, ў той час мне так здавалася. Калі вярнуўся ў камеру, адчуў сябе больш упэўненым і спакойным, чаго ўжо даўно не было.

Той працяглы працэс допытаў пад уціскам пачынаў мяне аслабляць. Гэта быў мой першы досьвед доўгага і інтэнсіўнага сьледзтва і я папросту не мог прызвычаіцца да дробязнага зацікаўленьня ўсімі, нават самымі інтымнымі, падрабязнасьцямі. Што мяне найбольш чапляла, дык гэта абсалютная адсутнасьць павагі да духоўных асобаў і ўвогуле да ўсяго духоўнага. Яны проста не разумелі ўсяго гэтага і гэта іх ніколі не цікавіла. Але ўся іхняя пазіцыя настолькі супярэчыла маёй веры, выхаваньню і адукацыі, што допыты станавіліся для мяне ўсё больш непрыемнымі і агіднымі. Той ноччу я маліўся аб тым, каб допыт па-ангельску сапраўды дапамог маім спадзяваньням.

Тым допытам закончыліся тры месяцы майго знаходжаньня з Седовым. Потым нейкі час не адбывалася нічога. Я адчуў надзею на якісьці зрух, на тое што яны пачалі мне верыць, прынамсі верыць у маю шчырасьць. Бо гэта было самым кепскім. Седов аднойчы мне шчыра прызнаўся, што не можа вырашыць, ці я штосьці ўтойваю, ці я сапраўды распавёў ўсё па-праўдзе і проста зьяўляюся ашуканым вышэйстаячымі асобамі. Гэта быў такі аргумент, такі каменны вырак, што вярнуўшыся ў камеру я адчуў паразу і прыгнечаньне.

Аднойчы я быў раптоўна выкліканы турэмшчыкам і было загадана ўзяць усе рэчы. Засьвяцілася надзея, што допыт па-ангельску даў плён і гэтым разам я атрымаю волю. Але так не здарылася. Я проста быў пераведзены ў іншы аддзел на Лубянцы і зьмешчаны ў большай камеры. Апрача ложка ў ёй быў нават стол, праўда без крэсла. Вакно таксама было нашмат большым, але гэта, нажаль, мала што зьмяняла, бо яно было закратаваным і заслоненым бляшанай скрынкай, якая дазваляла бачыць толькі клапік неба. Тым

не менш, я быў заінтрыгаваны гэтымі зьменамі і чакаў, што будзе далей.

Неўзабаве мяне зноў выклікаў Седов і паведаміў, што мой выпадак зьяўляецца вельмі незвычайным, таму для новых допытаў афіцыйна зацьвердзілі яшчэ тры месяцы. Так пачалася новая серыя пакутлівых пытаньняў і адказаў. Я быў папярэджаны, што гэта апошні шанец выйсьці цэлым з гэтага цяжкага становішча, бо ў канцы гэтых трох месяцаў я ўжо пэўна атрымаю прысуд, які будзе залежыць ад маіх адказаў і майго супрацоўніцтва.

— Ведаеце, часам, калі я слухаю вашы фарысейскія адказы, мне здаецца, што вы лічыце сябе, так бы мовіць, лепшым за нас. Памятайце аб гэтым!

— Не,— адказаў я пакутлівым тонам,— я не лічу сябе лепшым за кагосьці, і заўсёды памятаю, што вы проста выконваеце свае абавязкі, але ўсё, што я магу зрабіць, гэта распавесьці вам праўду, так як і рабіў з самага пачатку. Мне прыкра, калі гэта гучыць як фарысейства. Але праўда ёсьць праўда, што іншага я магу распавесьці?

Мы прабеглі ўсю гісторыю яшчэ раз, перыяд за перыядам, эпізод за эпізодам. Часам ён выклікаў "адмыслоўцаў " у пэўных справах, каб дапамаглі яму ў дасьледваньні. На той час паклёп расшырыўся, здавалася спрабавалі даць зразумець, што сам Ватыкан даручыў мне шпіёнскую місію. Бо я ж быў у Рыме, а на працягу ўсёй гісторыі езуіты заўсёды зьяўляліся "заўзятымі шпіёнамі" і правай рукой папы. Гэта былі аргументы ў падтрымку іх тэзы, што Ватыкан зьяўляецца інсьпіратарам маёй місіі. Не верылі ў тое, што калі я знаходзіўся ў Рыме, то ніколі не набліжаўся да папы, а толькі бачыў яго ў базіліцы сьв. Пётры, а таксама што ніколі мая нага не ступала ні ў дзяржаўным сакратарыяце і ні ў якім іншым ватыканскім органе.

Допыты працягваліся і з іх цягам Седов рабіўся ўсё больш адкрытым і шчырым, а з-за таго, што мы не рухаліся ўперад, быў усё больш напружаным. Аднойчы цалкам страціў цярпеньне, кінуў ручку на стос паперы на стале і загадаў мне выйсьці з пакоя. Я тады ўпершыню ўбачыў, як ён страціў над сабой кантроль. Спалохаўся, што пасадзіць мяне ў карцэр, пра які я чуў ад іншых вязьняў, але быў проста адканваіраваны ў камеру.

Калі скончыліся тыя наступныя тры месяцы надзвычайных допытаў, і яму і мне стала відавочна, што мы прыйшлі ў нікуды. Насуперак усім маім запэўніваньням аб шчырасьці, ён відавочна не мог паверыць, што я нічога не ўтаіў. Зь іншага ж боку, я распавёў яму ўсё, што ведаў, і гэта праўда, нягледзячы на тое, якія напружаныя

былі часам допыты, я проста не меў намеру выдумляць неіснуючыя эпізоды ці згаджацца зь ягонымі інсінуацыямі каб толькі зьменшыць гэтае напружаньне.

У самым канцы мяне не выклікалі амаль цэлы тыдзень. Седов быў вымушаны зьбіраць усе свае дадзеныя, бо на нашых апошніх паседжаньнях карыстаўся тоўстым томам падшытых актаў, вынікам усіх допытаў, якія мы разам чыталі. Гэта было цяжка таму, што акты былі напісаныя пераважна ад рукі паводле нататкаў, якія ён рабіў у час допытаў. Калі мы скончылі, ён захацеў каб я гэта падпісаў. Наколькі я мог меркаваць, гэта было дакладнае ўзнаўленьне ягоных абвінавачваньняў і паклёпаў разам з добрасумленным прадстаўленьнем усіх маіх пярэчаньняў, я не бачыў прычыны каб гэтага не падпісваць.

Пасьля тых некалькіх паседжаньняў, прысьвечаных чытаньню актаў, Седов паведаміў мне, што допыты скончыліся і хутка я магу чакаць прысуду. Я не ўяўляў, якім ён мог быць, але з таго разу страціў надзею на нейкае цудоўнае выбаўленьне. Аднак адчуў пэўную палёгку ад асэнсаваньня, што ўжо допыты не паўторацца. Але прысуд спазьняўся.

На працягу тыдня не адбылося нічога. Потым неяк турэмшчык занёс у камеру два ложкі, а трохі пазьней завёў новага вязьня. Гэта быў малады польскі афіцэр з арміі Андэрса, які быў арыштаваны а потым пераведзены з Саратава на Лубянку. Да гэтай пары сядзеў адзін ажно пяць месяцаў і быў вельмі ўзрадаваны, што будзе мець з кімсьці апроч сьледчага гутарыць. Я яго сардэчна прывітаў і мы пачалі гаманіць па-польску. Ён распавёў мне ўсё аб сваіх выпрабаваньнях, а потым я яму сваю гісторыю, прызнаўшыся, што зьяўляюся сьвятаром. Як толькі я сказаў яму гэта, выраз яго твару зьмяніўся.

Падняўся з ложка і пачаў нервова крочыць па камеры, потым доўга стаяў ля дзьвярэй, слухаючы, ці паблізу турэмшчык. Нарэшце падыйшоў да мяне і вельмі спакойна сказаў:

— Скажу вам праўду. Я каталік і ў гэтай сітуацыі мне страшна. Мушу вам прызнацца, што прысланы сюды, каб выведаць з вас усё, што вы рабілі ў Расеі. Мая сям'я, жонка і дзеці жывуць у той частцы Польшчы, што занята расейцамі. Калі даведаюся тое, што яны хочуць пра вас ведаць, то здолею вярнуцца да сям'і. Інакш — ну, кажучы коратка, далі зразумець што ніколі ўжо сям'ю не пабачу. Я з вамі шчыры. Прашу дапамагчы мне. Калі ласка, распавядзіце мне тое, што я потым магу ім паўтарыць.

У тую хвіліну ён быў так узрушаны, што першай маёй задачай было супакоіць яго, потым мы пачалі дыскусію аб сітуацыі. Я

спрабаваў яго пераканаць, што НКВД не мог чакаць ад яго больш, чым яны маглі даведацца ад мяне. Калі прыдумаць якуюсьці гісторыю, то яна магла б паслужыць НКВД пацьверджаньнем іхніх падазрэньняў у адносінах да мяне, і яго будуць трымаць далей, пакуль гэтую гісторыю не праверацць. Менавіта так яны працуюць. А яна не пацьвердзіцца, бо зьяўляецца маной, і ён апынецца ў больш кепскім становішчы, чым зараз. З іншага ж боку, калі расейцы сапраўды зьбіраюцца яго выпусьціць, то не будзе больш рызыкоўным, калі выявіцца, што ён няздатны выцягнуць зь мяне зьвесткі, якія не здолелі здабыць яны самі.

— Калі ласка, скажыце ім праўду,— сказаў я. — Распавядзіце ім маю гісторыю гэтак, як я распавёў вам калі вы тут зьявіліся. Гэта тая самая гісторыя, якую я расказаў ім, калі быў арыштаваны. Калі будуць пытацца аб падрабязнасьцях якія я паведаміў, кажыце што я, як і кожны вязень, ясьцярожны, і мала што расказваю пра сябе, за выключэньнем тыхзьвестак, якія я вам распавёў з самага пачатку.

Нягледзячы на хваляваньне, ён зразумеў усё, што я яму сказаў. Згадзіўся паспрабаваць. Разам мы былі чатыры ці пяць дзён, і за гэты час яго выклікалі некалькі разоў. Ім не падабалася тое, што ён паведамляў, але папрокаў з гэтае прычыны не было, загадвалі спрабаваць яшчэ. Паведаміў мне, што пачуваецца нашмат лепш і сумленьне яго чыстае, бо казаў праўду. Таксама меркаваў, што ягоныя шанцы ўбачыць родных такія ж добрыя, як і дагэтуль, сьледчыя больш не паўтаралі той пагрозы, магчыма лічылі, што ён зь імі супрацоўнічае. Пасьля таго, як яго выклікалі на пяты дзень, турэмшчыца забрала ложка і больш мы ніколі не бачыліся.

Праз некалькі дзён, каля двух ночы, у камеру ўвайшла турэмшчыца і загадала мне хутка апранацца. Я так моцна спаў, што адразу не зразумеў. Перапытаў, чаго прыйшла, але ў адказ пачуў загад сьпяшацца. Павольна, імкнучыся сабрацца з думкамі, апрануўся, а яна зноў забарабаніла ў дзьверы. Адчыніўшы, завяла мяне ў кабінет Седова. Памятаю, што тым ранкам усё было спакойным. Можна было чуць размовы ў кабінетах НКВД, паўз якія мы ішлі. Была нядзеля і ніхто не працаваў.

Я яшчэ добра не прачнуўся, калі мы дайшлі да кабінета Седова, ён таксама выглядаў стомленым. Папрасіў прабачэньня за гэты выклік, але растлумачыў, што гэтай ноччу ён на дзяжурстве і хоча скарыстацца магчымасцю яшчэ раз пераглядзець маю справу. Быў ён без пінжака, але меў на сабе кашулю, гальштук і шырокія нагавіцы. Калі я ўсеўся, ён патэлефанаваў па адным са службовых апаратаў.

— Мабыць вы галодны?— спытаўся ў мяне.

Я не адказаў.

— Як пачуваецеся?

— Стомлены.

— Так,— адказаў ён.— Ведаю, што падумалі.

Штосьці ціха сказаў увайшоўшай сакратарцы,пасьля чаго яна выйшла. Разваліўшыся ў крэсьле, Седов заклаў рукі за галаву. Прыкінуўшыся расслабленым, пачаў расказваць тое -сёе аб сваім жыцьці ва Ўкраіне, калі яна яшчэ была часткай Польшчы. Распавёў мне аб адным здарэньні з польскім настаўнікам, які спрабаваў уплываць на яго ў рэлігійным сэнсе.

— Гэта яму не ўдалося, бо я маю ўласныя перакананьні. Але ведаеце, калі быў хлопцам, то нейкі час верыў.

Вярнулася сакратарка з бутэрбродамі, кавалкам кныша і двума шклянкамі гарачай гарбаты на тайстры. Паставіла яе на стол, адыходзячы пажартавала, выйшла. Седов падаў мне бутэрброд.

— Каб вас падбадзёрыць,— сказаў мне,— частуйцеся.

Я падыйшоў да стала, узяў бутэрброд і стаў есьці. Я быў сапраўды галодны. Седов пачаў нешта казаць пра каўбасу і пра цяжкасьці з мясам, бо ўсё ідзе на фронт.

— Піце гарбату,— дадаў ён.

Падсунуў да мяне шклянку, апусьціў туды вялікі кавалак цукру і, як мне здалося, штосьці яшчэ. Аднак я нічога не западозрыў, тая ноч здавалася мне такой спакойнай і прыемнай.

— Піце, пакуль гарачая, і пакладзіце лімона.

Я выціснуў у гарбату трохі соку лімона і разьмяшаў лыжачкай. Яна была гарачай, таму я паставіў шклянку на сподак і пачаў піць маленькімі глыткамі. Выпіў амальпаўшклянкі, заядаючы бутэрбродам. Седов падаў мне яшчэ. Пацягнуўшыся за ім, я ў гэты момант адчуў, што ў мяне задзервянела ськівіца і рука ўпала на стол. Не мог праглынуць кавалак бутэрброда, які яшчэ быў у роце. Потым абсунуўся на крэсьле.

Прыпамінаю, хоць і слаба, што Седов з трывогай глядзеў на мяне, потым праваліўся ў сон. Калі прачнуўся, то ляжаў на канапе. Ля мяне хтосьці сядзеў, мабыць лекар. Ля яго быў яшчэ нехта, а Седов стаяў ля канапы. Я шырока расплюшчыў вочы.

— Вазьміце гэта,— сказаў мне лекар і даў пігулку. Я зноў заснуў.

Калі апрытомнеў, то быў на нагах. Хтосьці мяне падтрымліваў, а на галаве быў нейкі аппарат, падобны на каску. Зь цяжкасьцю прыгадаў нейкі ціск на галаву разам з ударамі. Седов

трымаў маю галаву і заглядваў пад павекі. Уважліва глядзеў на мяне і вочы ягоныя блішчэлі як ва ўцелаўлёнага д'ябла. Прынамсі, так мне здалося. Было ў ім нешта шатанскае, нялюдзкае, з ускалмачанымі валасамі і спыніўшыміся вачыма. Я здрыгануўся і падскочыў. Потым страціў прытомнасьць.

Аб тым, што было далей, памятаю слаба — удары па шыі гумавымі вяроўкамі так, што моцна і рэзка ўздрыгвалі сьпіна і карак. Хтосьці тузаў за руку і рыўкі прабягалі па маіх плячах.

Прыпамінаю, што потым сядзеў ля стала і мяне падтрымлівалі. Седов крычаў мне ў твар:

— Як вас клічуць? Як вас клічуць?

Хацеў адказаць, але не здолеў. Спрабаваў, і не выціснуў ніводнага гуку. Седов увесь час паўтараў:

— Ліпіньскі, Ліпіньскі, Ліпіньскі.

У нейкі момант уклаў мне ў руку пяро і пачаў ім вадзіць. Не ведаю, што я тады рабіў. Можа падпісаў якіясьці паперы што былі на стале, не памятаю.

Прабудзіўся зноў і мне далі яшчэ некалькі пігулак з вадою. Калі апрытомнеў, то адчуваў сябе цалкам зьнясіленым. Са мною быў толькі Седов. Правёў мяне ў прыбіральню. Я меў такое самаадчуваньне, быццам пасьля падзеньня з дзесятага паверху. Потым памятаю, сядзеў у крэсьле ў ягоным кабінеце. Іншыя сьледчыя сьмеючыся падыходзілі да мяне і ківалі галовамі. Я сядзеў там і глядзеў перад сабою ў адну кропку не зьвяртаючы на іх увагі. У пакоў было сьветла, але бачыў я кепска.

Урэшце мяне адвялі ў "карабок". Я сеў і скурчыўся ў куце. Калі расплюшчваў вочы, здавалася што ўсё навокал абрушваецца: сьцены і столь падалі на мяне, усё ўяўлялася ў агні, у вачах было чырвана. Працёр іх, але чырвоны водблеск усёроўна скакаў па сьценах, якія, здавалася, падалі. Я быў у жаху. Захінуўшы галаву рукамі закрычаў. Памятаю, крычаў безупынна. Адчуваў пагрозу, небясьпеку, курчыўся як толькі мог у сваім куце. І ўрэшце заснуў.

Калі прачнуўся, паўсюль панавала суцэльная цемра. Адчуваў глыбокую непрыязнасьць, амаль нянавісьць да Седова, зьмешаную з пачуцьцём, што мне здрадзілі, і гэтае адчуваньне аджывае ў ва мне зараз, калі кажу аб гэтым. Ніколі ў жыцьці ні да каго не меў такога пачуцьця. Гэта было чымсьці большым, чым стан душы, бо было напаўнена адчуваньнем амаль фізічнай агіды.

Праз нейкі час турэмшчыца адвяла мяне ў камеру. На стале былі дзьве порцыі хлеба, суп і каша. Я не мог есьці, хоць разумеў, што адсутнічаў у камеры як найменей сорак восем гадзін. Усеўся,

утаропіўшыся ў адну кропку, нічога не думаючы і не адчуваючы. Быў цалкам зьнясілены. Гэткі стан цягнуўся некалькі дзён, пасьля чаго я стаў актыўным і зноў галодным. Аднак у адносінах да Седова назаўсёды засталося тое палкае пачуцьцё здрады і з тае пары заўжды меў гэта на ўвазе.

Пасьля таго досьведу мяне ўжо болей не ашуквалі, я ўжо ніколі не давяраў ніводнаму савецкаму функцыянеру нягледзячы на яго ранг. З таго часу раніцай і вечарам я вымаўляў як малітву: "Госпадзе, выбаві мяне ад маіх ворагаў і ад іх злых справаў". Гэта была спантанная рэакцыя і малітва плыла проста з сэрца. Верыць я мог толькі Богу. З тае пары я адчуў сябе дужэйшым і ўсьцешаным. Нягледзячы на небясьпеку, заўжды адчуваў Яго дапамогу і мая вера ў Яго ўзрастала.

Прайшло некалькі тыдняў. І аднойчы ноччу, у дзьве гадзіны мяне разбудзіў скрыгат ключа ў замку. Я сеў на пасьцелі, напружаны мацней, чым звачайна. Турэмшчыца загадала мне апрануцца і ісьці за ёю. Ідучы цёмнымі калідорамі, я ўвесь час маліўся аб збавеньні і апецы. У той раз, аднак, мяне завялі ў сутарэньне, у "карабок". Гэта мяне зьдзівіла. Сядзеў я там амаль паўгадзіны, стараючыся адгадаць, што гэта можа значыць. Ці мне назначылі перавод у іншую турму?— можа нарэшце атрыманы судовы вырак?

Пачуў гук адчыняемых і зачыняемых дзьвярэй на калідоры, сьмех і крокі, што набліжаюцца да майго "карабка". Дзьверы адчыніліся і ўвайшоў камісар з начальнікам турмы, абодва зьлёгку п'яныя, вельмі гаваркія і ажыўленыя. Камісар уручыў мне для прачытаньня паперу. Гэта быў звычайны дакумент, не тое што называюць судовым вердыктам, а хутчэй так званы адміністрацыйны вырак. У ім сьцьвярджалася, што Вальтэр Й. Цішэк прызнаны вінаватым у вылучаных супраць яго абвінавачваньнях, прадугледжаных артыкулам 58:6 савецкага крымінальнага кодэксу. Артыкул 58:6 датычыць шпіёнства. Гэта была зьмена ў абвінавачваньні па параграфу 58:10:2, на падставе якога я быў арыштаваны — падрыўная дзейнасьць.

— Ці разумееце гэта? — запытаўся камісар.

Я кіўнуў галавой.

— Вы задаволены?

Вердыкт, зьмешчаны ў дакуменце, агалошваў пятнаццаць год катаржных работ. Я глядзеў на яго і кісла ўсьміхаўся.

— Але ж няма выбару, так? — адказаў я.

Абодва зрэагавалі на гэта сьмехам. Потым камісар сказаў:

— Гэта не так ужо і кепска, суцешцеся.

З прычыны, што я не меў "ніводнай скаргі" і ў знак таго, што з прысудам згодны, загадаў мне падпісаць дакумент. Я падпісаў і камісар паперу забраў. Потым ён з начальнікам турмы выйшлі, сьмеючыся і абменьваючыся каментарамі, якіх я ўжо не разабраў, бо яны былі ў калідоры. Паводле даты на вердыкце, які я падпісаў, гэта было 26 ліпеня 1942 г.

## "Універсітэт" на Лубянцы

Прыйшоўшы пасьля чытаньня вердыкту ў камеру я не мог заснуць. Правёў бяссонную ноч безупынна думаючы пра будучыню, і асабліва пра тое, што магло быць, калі б я згадзіўся на некаторыя з абвінавачваньняў, якія мне прад'явілі, ці можа вердыкт быў канчаткова зацьверджаны наверсе з моманту майго арышту. Пачаў думаць аб тым, што могуць уяўляць працоўныя лагеры. Я чуў пра іх ад іншых вязьняў, і гэта былі рознатыпныя зьвесткі. Прынамсі, думаў я, убачу іншых людзей. Нават калі праца цяжкая, замест сядзеньня тут у камеры буду актыўным, буду нешта рабіць. Цяпер, калі вердыкт ужо выданы, я зацікаўлены ў тым, каб нешта рабіць не думаючы пра тое, што прынясе мне будучыня. Я ведаў, што Бог будзе апекавацца нада мной. Але не думаў, гэта дакладна, што Сібір убачу толькі праз амаль чатыры гады.

Прайшло два дні, але нічога не адбывалася. На трэці ў маю камеру прыйшла маладая кабета. Ветліва павітала мяне і запыталася:

— Ці хацелі б мець кніжкі для чытаньня, таварыш?

Гэта была турэмная бібліятэкарка.

— Што?— адказаў я.— Ну, натуральна, так!

— Добра, можаце ўзяць за раз адну кніжку, а я штотыдзень буду прыходзіць каб яе памяняць, калі захочаце. Калі скончыце чытаць раней, скажыце ахоўніцы каб паведаміла мне, я прыйду і памяняю вам кніжку. Не будзеце вымушаны чакаць цэлы тыдзень.

Так пачаўся перыяд, які я назваў маім "дактаратам" ва "ўніверсітэце" Лубянкі. Спадзеючыся ўдасканаліць сваю расейскую мову, я пачаў чытаць расейскую літаратуру. Пачаў з Талстога і прачытаў амаль усе ягоныя творы.Склаў сабе новы расклад дня: да апоўдня — духоўныя абавязкі, потым ажно да абеда — чытаньне. Перад абедам я рабіў паўдзённы рахунак сумленьня і, калі гадзіньнік у Крамлі біў дванаццаць, прамаўляў Анёла Гасподняга. Пасьля паўдзённага сілкаваньня прамаўляў тры ружанцы, па— польску, па-расейску і па-лацінску, потым зноў браўся за чытаньне, аж да часу шпацыру ці наведваньня прыбіральні. Пасьля вячэры па памяці

прамаўляў вячэрнія малітвы і гімны, потым вяртаўся да кніжак — ажно пакуль не клаўся спаць.

Гэткі быў мой расклад дня і цэлы год мне ніхто не перашкаджаў яго выконваць. Выключэньнем былі спарадычныя візіты начальніка турмы і штотыднёвыя лекарскія інсьпекцыі па выяўленьню паразітаў. Акрамя гэтага я бачыўся толькі з турэмшчыцамі і зрабіўся сапраўдным манахам, занятым толькі малітвай і кніжкамі. Выявіў нават, што развучыўся размаўляць. Часам мне не хапала словаў у размовах з лекарам або начальнікам пры яго нячастых візітах.

Апрача штодзённых фізічных практыкаваньняў я імкануўся быць дзейным, выціраючы два разы на дзень падлогу. Гэтага на Лубянцы ад нас патрабавалі раз на дзень, але ў той час, калі іншыя вязьні рабілі гэта вельмі нядбайна, я стараўся прыбіраць як мага лепей, проста каб парухацца. Падлогі на Лубянцы былі з добрага моцнага дубу і прыгожа блішчэлі. Спачатку я мяккай анучай выціраў з падлогі пыл, потым цяжкай жалязякай, закручанай у кавалак тканіны, расьціраў воск, які давалі вялікімі кавалкамі, дадаючы алею, каб падлога блішчэла, як люстэрка.

Маючы зараз досыць часу я пачаў рамантаваць сваю вопратку, якую насіў з моманту арышту ў Чусавой. Яна была цяпер у вельмі благім стане. Захаваньне іголак, нажоў і ўсялякіх такіх рэчаў было ў турме строга забаронена, але мне ўдалося вылавіць з супа некалькі вялікіх рыбіных костак і я навастрыў іх аб прэнты ложка так, каб зрабіць іголкі. Дзякуючы ім і маім пазногцям я выкалупаў з пераплёту толькі што чытанай кніжкі дроцік, навастрыў яго аб ложак і ўжыў для сьвідраваньня дзіркі ў рыбінай костцы. Потым я выцягваў ніткі з кашулі, кальсонаў альбо шкарпэтак і прымаўся за працу швачкі.

Канечне, калі б гэта адкрылася, то іголкі адабралі б, асабліва ў час агульнай рэвізіі, якая праводзілася раз на два тыдні. Эфектыўнасьць гэтых інсьпекцый на Лубянцы можна ацэньваць пазітыўна, бо схаваць у камеры ці на сабе такую дробязь, як іголка з рыбінай костачкі, мне ўдавалася вельмі рэдка.

Такім чынам, у час маіх чатырохгадовых "універсітэцкіх курсаў" на Лубянцы я імкнуўся як мага больш разьвіць не толькі маё духоўнае жыцьцё, а і фізічнае. Штодзённа, прынамсі праз кожныя сорак пяць хвілін я, з мэтай захаваць здаровым цела, гэтак жа як і розум — з дапамогай чытаньня, рабіў гімнастыку. Захоўваў сябе і сваю вопратку ў максімальна магчымай чысьціні, а сваю камеру вельмі ахайнай. Я вырашыў на працягу ўсёй прымусовай бяздзейнасьці захаваць людзкасьць і разумовае здароўе, не дазволіць каб паўсядзённасьць вязьніцы мяне заезьдзіла. Я быў, як гэта кажуць на

турэмным слэнгу, нямы, але шчасьлівы. З нязначнымі выключэньнямі я нічога не ведаў пра навакольны сьвет, але адзначаў час і сплываючыя дні, памятаючы аб усіх царкоўных сьвятах як мага дакладней, прысьвячаючы ім адмысловыя малітвы, якія памятаў або складаў сам.

Я прыкладаў вельмі вялікае стараньне да вывучэньня расейскай літаратуры. Апрача Талстога чытаў Дастаеўскага, Гогаля, Тургенева, Лескова і таксама шмат твораў Джэка Лондана, Дзікенса, Шэксьпіра, Гётэ, Шылера, і нават "Quo vadis" — усё па-расейску. Даволі шмат чытаў з гісторыі Расеі і яшчэ толькі што выдадзеную біяграфію Напалеона, напісаную Тарлегам, старым расейскім гісторыкам, які пісаў яе сам знаходзячыся ў турме. Найбольш уражваючай рысай той кніжкі, наколькі я памятаю, было тое, што ўсе рэлігійныя падзеі ў жыцьці Напалеона — каранацыя, пахаваньне, яго сьмерць, шлюб і г. д. — былі не проста апушчанымі, аб іх проста не ўзгадалі. Для мяне гэта было чымсьці надзвычайным. Я пачынаў усё лепей разумець што азначала пісаньне гісторыі для пралетарыяту і як можна было зрабіць, каб моладзь ніколі нічога не чула пра Бога.

І яшчэ адна кніжка, якую я тады чытаў, зрабіла на мяне гэтакае ж ўражаньне. Гэта была разгорнутая гісторыя праваслаўнай царквы ў Расеі, выдадзеная з выпадку выбару новым патрыярхам "Масквы і ўсяе Расеі" мітрапаліта Сергія, першага патрыярха пасьля 1925 г. Хутчэй за ўсё, галоўнай мэтой тут было процідзеяньне нямецкай прапагандзе аб уціску рэлігіі ў Савецкім Саюзе. Кніжка была поўная каляровымі здымкамі цэркваў, багатых абразоў і слынных вырабаў усходняга літургічнага мастацтва. Але ў канцы кніжкі знаходзіўся артыкул, напісаны наўмысна чальцом праваслаўнай ерархіі. Гэта была адкрытая атака на фашызм, напісаная так, каб узбудзіць нянавісьць і прагу помсты. Той артыкул, калі чытаў яго, мяне вельмі ўзрушыў, я быў упэўнены, што ён не мог быць напісаны сапраўды духоўнай асобай. Я проста не мог пагадзіць ідэал сьвятарскага пакліканьня і ягонай фармацыі згодна галоўнай ідэі хрысьціянства — "Дзеткі, любіце адзін аднаго" — з распальваньнем нянавісьці ў тым артыкуле. Гэта быў для мяне страшэнны ўдар.

Па меры таго, як удасканальвалася маё валоданьне расейскай мовай, я глытаў кніжкі амаль па адной за дзень. Я чытаў нястомна, і хоць не меў акуляраў, вочы ніколі мяне не падводзілі. Па прапанове бібліятэкаркі я прачытаў таксама філасофскую энцыклапедыю Леніна. Знайшоў у ёй і завучыў напамяць надзвычай простае вызначэньне камунізму. Празь некалькі дзён, у вольнай гутарцы са сьледчым падчас перапынку паміж звычайнымі пытаньнямі і адказамі допыту, я працытаваў яму ленінскае вызначэньне ідэальнага

камуністычнага грамадзтва. Той з хвіліну агаломшана глядзеў на мяне, потым шырока заўсьміхаўся:

— Але калі? Напэўна ні ў маім жыцьці і ні ў вашым, мабыць не раней за сто гадоў, калі ўвогуле будзе так.

І лёгкім жэстам рукі адмахнуўся ад гэтай думкі.

Апрача штотыднёвых візітаў лекара і інсьпекцый з мэтай перапісу камеры, увесь гэты перыяд я не меў турботаў, толькі мучыў голад. Пасьля прысуду мой рэальны рацыён павялічыўся. Цяпер я атрымоўвай норму ежы працоўнага лагера — шэсьцьсот грамаў хлеба ранкам, паўлітра супу апоўдня, і міску кашы вечарам, а часам нават кавалак селядца аба бульбіну. Калі быць дакладным, я зараз быў не вязьнем Лубянкі, а вязьнем карнага лагеру. У выніку я меў ежы больш чым дагэтуль, але не ведаю чаму думаў аб ёй больш, чым калі-небудзь.

Часамі, калі шпацыраваў туды-сюды чытаючы кніжку, пачынаў думаць аб абедзе ці вячэры. Прыслухоўваючыся да ўдараў курантаў і імкнучыся адгадаць, як доўга яшчэ буду чакаць сілкаваньне, станавіўся ненвовым. Проста не мог пазбавіцца гэтых думак. Чым больш спрабаваў засяродзіцца на кніжцы ці думаць аб чымсьці іншым, тым больш мая ўвага канцэнтравалася на адчуваньні голаду. Адзіным выйсьцем было нечым заняцца, у маім выпадку гэта азначала звычайна паліраваньне падлогі, моцна і метадычна, каб забыцца пра плынь часу і пра ежу.

І вось праз год і два месяцы мяне аднойчы ранкам нечакана выклікалі і завялі ў сьледчы аддзел. Мяне ахапіла агіда. Думка аб працягу допытаў цяпер, калі ўжо, як я меркаваў, яны назаўсёды скончыліся, была вельмі прыкрай. Занадта прызвычаіўшыся да маёй манаскай самоты, я адчуў як яе топчуць.

Сьледчы быў іншы, сярэдняга веку, даволі ветлівы. Меў рыжаватыя валасы, квадратныя рысы твару, насіў цывільную вопратку. Быў досыць прыемны, але рэзкі, падобны на шафёра. Пасьля першапачатковага псіхалагічнага напружаньня і агіды, якія я заўжды адчуваў у пачатку такіх паседжаньняў, я зрабіўся цалкам абыякавым. На яго пытаньні амаль механічна адказваў "так" або "не".

Ён нервова сказаў:

— Майце крыху больш добрай волі! Мне што, выцягваць з вас усё сілай?

— Аб чым расказваць?— запытаўся я.— Вы ведаеце ўсё, што я магу сказаць. Усё запісана ў пратаколах, якія я падпісаў. Працэс скончаны, прысуд падпісаны, і цяпер аб чым гутарыць?

— Але гэта патрэбна нам,— адказаў ён.— Дакладна кажучы, гэта не допыт, а толькі спроба атрыманьня дадатковых зьвестак.

І зноў пачаў са старой гісторыі, было відавочна — "дадатковыя зьвесткі" азначалі няспынную думку, што я штосьці ўтаіў. Часам ён мяняў тактыку і спрабаваў дыскутаваць аб рэлігіі, прыводзячы ўсялякія атэістычныя аргументы. Мяне гэтая дыскусія не цікавіла і я бачыў, што і яму таксама ў асноўным не цікава. Аднаго разу я паспрабаваў яго ўстрымаць, кажучы:

— Мы маем веру, якая нас вядзе, а што маеце вы? Нічога!

— О, але мы таксама маем нашы ідэалы,— адказаў ён.— Маем мэту, за якую змагаемся, і ідэал, у які верым. Не вера, а нешта іншае.

Спрэчка зь ім была безсэнсоўнай. Я адчуваў, што ён хоча змусіць мяне гаварыць і сказаў яму гэта.

На працягу наступных трох гадоў мяне выклікалі на гэтыя "дадатковыя зьвесткі" праз неаднолькавыя прамежкі часу. Былі яны гэтакія ж безвыніковыя, як і папярэднія, а я ўсё больш іх ненавідзеў. Атмасьфера, якая панавала паміж мной і сьледчым, была цалкам пазбаўленай даверу. Пасьля Седова я не верыў больш нікому, зь іншага ж боку сьледчы не верыў мне. І сапраўды, некалькі разоў ён шчыра прызнаўся, што лічыць мяне зьвязаным "таямніцай споведзі" і шлюбам паслушэнства перад папам, а гэта перашкаджае мне распавесьці ўсё. Яму, маўляў, гэта відавочна, бо я адмаўляюся дапамагаць ягонай працы.

— Гэта слушна,— адказаў я.— Як толькі я не магу пераканаць вас і сваёй добрасумленнасьці, вы думаеце пра мяне што хочаце. Калі не можаце мне верыць на слова, дык мне наўзаем абыякава, што вы там сабе думаеце.

Неяк ён прынёс сьпіс прозьвішчаў: кардыналаў, біскупаў і сьвятароў.

— Што ведаеце пра таго і таго? — пытаўся ў мяне.

— Нічога, першы раз аб ім чую.

— Вы былі ў Рыме?

— Так, але ніколі яго не спатыкаў. А ён з Рыму?

Аднойчы, калі я сядзеў у ягоным кабінеце, даў мне пачытаць кніжку. Гэта была гісторыя царквы, напісаная з усёй камуністычнай атрутай, поўная апісаньнямі скандалаў, выкліканых кардыналамі пятнаццатага стагоддзя.

— Вось, што нам трэба,— сказаў ён.— Цяпер напішыце ўсё, што ведаеце пра гэтых людзей.

Пасьля чаго падаў мне сьпіс кардыналаў, біскупаў і іншых высокіх дзеячаў царквы. Я ўзяў і напісаў, што ведаў, аб прозьвішчах, якія былі мне знаёмыя. Калі скончыў, ён раптам парваў маю паперу.

— Што вы тут спрабуеце зрабіць? Хочаце мяне надурыць?

Іншым разам гадзінамі выпытваў у мяне пра Русікум і яго чальцах. Шмат прозьвішчаў былі для мяне невядомымі. Распавёў яму, што ведаў, пра тых, каго ведаў.

— Гэта добры манах. Вельмі старанны. Дасканала ведае гісторыю Расеі і выкладае яе. Мае прыгожы голас.

Сьледчы прыйшоў у шаленства.

— Ведаеце, гэта не тое, што нам трэба!

— Мне шкада, але гэта ўсё, што я ведаю.

Некалькі разоў пытаўся ў мяне аб мітрапаліце Шаптыцкім, а я імкнуўся пераканаць, што бачыў яго толькі два разы, і гэта было праўдай. На пытаньні адказваў вельмі ветліва, распавядаючы ўсё, што ведаў. А напрыканцы шчыра сказаў, што каб яму дагадзіць, плётак выдумляць не зьбіраюся.

Калі-нікалі, у рэчышчы тых пасяджэньняў, ён раптам рабіў мне "прапановы". Для змаганьня на ўсходнім фронце Ванда Васілеўска стварала войска. У тое войска, як ён казаў, ўступілі біцца зь немцамі шмат палякаў, і запатрабавалі капеланаў. Пытаўся, ці хацеў бы я ім стаць. Я ведаў, што Васілеўска — камуністка, і не думаў каб камуністы вельмі непакоіліся аб капеланах, хутчэй за ўсё гэта была нейкая пастка.

— Мяне гэта не цікавіць,— адказваў я.— Дзякую, не.

— Добра,— казаў ён,— падумайце яшчэ, калі памяняеце думку, памятайце, што прапанова застаецца ў сіле.

Аднак, калі выклікаў мяне ў наступны раз, зьявіўся новы варыянт прапановы. Запытаўся, ці не хацеў бы замест войска Ванды Васілеўскай уступіць у войска Андэрса ў Англіі (sic!), войска вольных палякаў, якое фармавалася для будучай барацьбы на другім фронце. Я патрос галавой.

— Гэты кірмаш не для мяне,— адказаў я.

— Кірмаш? — зьдзівіўся ён.— Але ж няма гутаркі ні пра які гандаль.

— Добра, добра,— быў адказ,— я ў турме не з учарашняга дня. Я асуджаны на пятнаццаць гадоў катаржнай працы, якія, каб адправіць мяне ў Англію павінны скасаваць, інакш трэба чакаць, калі я, служачы ў войску Андэрса, якімсьці чынам адбуду гэтае пакараньне. Калі вы ў сваім судзе памыліліся і хочаце ад мяне пазбавіцца, дастаткова мяне вызваліць. А калі не, то ведайце, што я не зьбіраюся ўваходзіць ні ў якую вашу гульню.

Пасьля той спробы ён выступаў яшчэ з іншымі прапановамі. Аднойчы ахвяраваў мне парафію ў Расеі, калі парву з папам, які як

ён сказаў, на баку фашыстаў, Мусаліні і Гітлера, і яшчэ займаецца палітыкай. Хацеў, каб у вызначаны час я выступіў на гэтую тэму са сьведчаньнем па радыё. Я адказаў, што гэта сьмешна.

— Больш за два гады,— сказаў ён,— вы намагаецеся пераканаць нас, што прыехалі ў Расею каб служыць людзям. Дык цяпер маеце магчымасьць для гэтага.

— Цудоўная магчымасьць за такую цану,— адрэзаў я.

— Я вас не разумею,— вымавіў ён.

— Натуральна, не разумееце, — сказаў я.— Гэта зразумела. Ніколі мяне не разумелі. Але я тут досыць доўга, каб зразумець, куды вы кіруеце. Я не зацікаўлены ніякімі гандлёвымі аперацыямі. Давайце запамятаем усё гэта.

Аднак адступіцца ён не хацеў. Нейкім разам прапанаваў мне ехаць у Рым каб заключыць канкардат паміж папам і Савецкім Саюзам. Я разрагатаўся.

— А хто мяне на гэта ўпаўнаважвае? — спытаўся я.

— О, гэта мы зробім, — быў адказ.

Аднак перадусім хацелі, каб я прайшоў курс радыётэлеграфіі.

— Дзеля чаго? — пацікавіўся я.

— Ну, каб прысылаць нам зьвесткі з Рыму!

Я зноў разрагатаўся і перапыніў гутарку. Тым не меней, ён калі-нікалі зварочваў да гэтай тэмы, хоць я яму і казаў, што не хачу аб гэтам дыскутаваць.

Толькі раз за гэты перыяд я бачыў Седова. Аднойчы ранкам мяне завялі ў ягоны пакой, дзе я ўбачыў яго ўсхваляваным і зьнерваваным. Загадаў мне вярнуцца ў камеру і вымыцца, пасьля чаго мне выдалі чыстыя кашулю і нагавіцы — буду мець асабістае спатканьне зь Берыям. Я зьдзівіўся. Седов, аднак, быў усхваляваны яшчэ больш за мяне. Перасьцярог, каб я не сказаў нічога больш, чым занатавана ў пратаколах, якія я падпісаў.

Такім чынам, пасьля купаньня і апрананьня ў чыстую вопратку, прысланую Седовым, турэмшчыца павяла мяне праз калідор, сходы, розныя перадпакоі і ўрэшце мы апынуліся ў багата мэбляваным пакоі з цяжкай чырвонай драпіроўкай і масіўным пісьмовым сталом з чырвонага дрэва. Калі мы ўвайшлі, у пакоі нікога не было. Я перад тым спатканьнем з усемагутным шэфам таемнай паліцыі быў усхваляваны і сапраўды неспакойны. Аднак, калі шторы рассунуліся, увайшоў не Берыя, а адзін зь ягоных памочнікаў, моцна складзены пяцідзесяцігадовы мужчына, сіваваты, зь нерухомым і ўрачыстым тварам, у добра скроеным мундуры. Папрасіў прабачэнь-

ня, што прыйшоў не Берыя, бо той нечакана быў выкліканы на паседжаньне ў Крэмль.

Коратка кажучы, аказалася, што наша спатканьне мела мала агульнага са мной асабіста. У Англіі знаходзіўся польскі біскуп, некалі капелан польскага войска, які прыбыў у Расею зь нейкай брытанскай камісіяй каб назіраць ход вайны і ўмовы жыцьця людзей на абшарах, акупаваных немцамі. Вярнуўшыся ў Англію гэты біскуп напісаў кніжку, ці то артыкул, дзе сьцьвярджаў, што ў нейкім лагеры ў Расеі, ці недзе ў зоне расейскай акупацыі, памерла сто тысячаў палякаў. СССР запярэчыў гэтаму і занепакоіўся наступствамі, якія гэта магло выклікаць для ваеннага саюза[3].

Сітуацыя была для мяне няяснай, а памочнік Берыі выклаў яе незразумела. Яму было важна хутчэй зарыентавацца, што я ведаю аб той падзеі і ці магу распавесьці нейкія падрабязнасьці, асабліва што датычыць асобы біскупа. Па меркаваньню Крамля гэтая сітуацыя відаць была значнай, інакш гэты допыт не даручылі б супрацоўніку НКВД самага высокага ўзроўню, але я не мог прадаставіць ім ніякай інфармацыі. Аб тым абвінавачваньні і аб усёй той справе я тады чуў упершыню, і ніколі не бачыў таго біскупа. Калі нарэшце памочнік Берыі пераканаўся, што я нічога не ведаю, то наша спатканьне скончыў. Мяне, зьдзіўленага і заінтрыгаванага, адправілі назад у камеру, і ўжо больш я пра гэта ніколі не чуў.

Вясною 1943, па прычыне вайны, харчаваньне ў турме станавілася ўсё больш горшым. Часамі тэма харчаваньня вельмі непрыемным чынам уздымалася ў маіх гутарках са сьледчым. Ён нагадваў мне, што мільёны гінуць на фронце, іншыя паміраюць ад голаду дома, заканчваў жа, дадаючы:

— Мы былі занадта лагоднымі да вас. У той час, калі нашы страшэнна пакутуюць вы, вораг народу, знаходзіцеся ў турме накормлены, апрануты, нічога не робячы каб аддзячыць за такія адносіны.

А калі нарэшце мяне выклікалі каб падпісаць дакумент які пацьвярджаў заканчэньне майго сьледзтва, ён сказаў, з непаразуменьнем хітаючы галавой і глыбокім уздыхам:

— Не ведаю, што гэта робіцца, чаму вы яшчэ жывы.

—

[3] Падобна на тое, што гэта бп. Й. Гаўліна і камісія ў сувязі з выяўленьнем магіл у Катыні (заўв. рэд.)

## Знаходжаньне ў Бутырках

У чэрвені 1944 г. я быў пераведзены ў Бутыркі, іншую турму ў Маскве. Як заўсёды, перавод быў раптоўны, нечаканы і невытлумачальны. Неяк днём, я ў камеры чытаў, у двары турмы і ў калідорах пачуўся шум. Мяне, канечне, гэта зацікавіла, але я ўжо даўно перастаў спрабаваць уяўляць што там на Лубянцы робіцца. Раптам у дзьвярах зьявіўся турэмшчык і загадаў пакаваць рэчы. Улічваючы, што я нядаўна падпісаў дакумент які афіцыйна завяршаў перыяд маіх допытаў, я адразу падумаў, што мяне забіраюць у лагер.

Калі турэмшчык вывеў мяне з камеры, я ўбачыў натоўп ваеннапалонных у мундурах, якія запаўнянлі калідор. Турэмшчык адразу заштурхнуў мяне назад у камеру і загадаў чакаць, бо мне нельга было іх разглядаць.Празь якую гадзіну турэмшчык вярнуўся. Правёў мяне незнаёмым калідорам у сутарэньне, а адтуль да турэмнага аўтамабіля. Ён быў ужо даўно запоўнены вязьнямі і, як толькі я ўлез, мы рушылі.

Я запытаўся ў маіх сутаварышаў куды нас вязуць, але ніхто не ведаў. Ехалі мы нейкіх паўгадзіны, потым спыніліся. Было чуваць, як турэмшчык зь некім гутарыў, аўтамабіль праехаў яшчэ каля ста пяцідзесяці метраў і стаў.

— Ах, — сказаў адзін з вязьняў, — гэта іншая турма. Мы спыніліся ля брамы каб паказаць пропуск, а зараз альбо будзем мець новых таварышаў, альбо нас выгрузяць.

Дзьверы адчыніліся і нам загадалі выходзіць. Турэмшчыкі завялі нас у падземны калідор для звычайных працэдур.

— Божухна, гэта Бутыркі!— усклікнуў адзін з ветэранаў.

Бутыркі у адрозьненьне ад Лубянкі, турма ў старым стылі, пабудаваная з цёмных масіўных камянёў, заўсёды вільготная і без ацяпленьня.Пасьля звычайных маніпуляцый мяне завялі ў напханы вязьнямі вялікі пакой на трэцім ці чацьвёртым паверсе. Найбольш моцным маім уражаньнем была духата — застаялая мача і пот, дым і вільготныя выпарэньні са старых муроў,— усё гэта рабіла паветра сьмярдзючым.Камера была такая запоўненая, што я не здолеў прайсьці, таму ля дзьвярэй. Адзін з вязьняў, стараста камеры, наблізіўся да мяне і пачаў выпытваць хто я, ці даўно ў турме, у чым абвінавачаны і г. д. Пад канец сказаў:

— Ну, то вітаем у Бутырках! Разьмяшчайцеся. Знайдзіце сабе месца і пазнаёмцеся з хлопцамі.

Камеры ў Бутырках былі вялікія, метраў недзе дзесяць на дзесяць. Сьцены, пафарбаваныя зялёным ці жоўтым, былі заўсёды

вільготныя ад дыханьня чалавечай масы. Высока пад стольлю там знаходзіліся два маленькіх акенцы, якія дазвалялі нам бачыць неба, але прапускалі мала сьвятла і вялізная камера заставалася ў паўцемры. Ад дзьвярэй уздоўж сьцен цягнуліся шэрагі драўляных нараў. Пасярэдзіне камеры месьцілася квадратная платформа з негабляванага дрэва, вышынёй каля шасьцідзесяці сантыметраў ад падлогі. Яна таксама служыла месцам для сну. Паміж ёю і шэрагамі нараў знаходзіўся вузкі праход. У камеры разьмяшчалася каля ста дваццаці вязьняў і шчыльнасьць была такая, што нельга прайсьці.

Згодна з запрашэньнем старасты я пачаў працісквацца праходам улева ад дзьвярэй. Ледзьве зрабіў тры крокі, як да мяне зьвярнуўся адзін зь вязьняў на нарах уздоўж сьцяны:

— Гэй, товарішч! Адкуль будзеце? Сядайце!

Спрытна расьпіхваючы лакцямі і лаючыся скрозь зубы ён прымусіў сваіх таварышаў пасунуцца каб вызваліць мне месца. Я ўдзёрся са сваім клуначкам на нары. Пасьля такой доўгай адзіноты на Лубянцы мне было сапраўды прыемна зноў апынуцца сярод прыяцеляў.

Мой новы "товарішч" быў палякам.

— І ты таксама паляк,— сказаў ён.

— Адкуль ведаеш?— зьдзівіўся я.

— Адгадаў па тым, як ты вымавіў "здравствуйце",— засьмяяўся ён.

Гэта быў малады чалавек, можа дваццаціпяцігадовы, клікалі яго Грыша, юрыст, які вучыўся ў Маскве і здаў там адвакацкі іспыт. Пасьля быў арыштаваны за дзейнасьць, названую антысавецкай. Ён быў спакойным чалавекам, сярэдняга росту, з цёмнымі валасамі і блакітнымі вачыма, спакойным тварам, вялікім гарбатым носам і тоўстымі вуснамі. Распавёў мне аб сваіх курсах і сваім арышце, а таксама, што яго жонка зараз працуе, каб гадаваць дваіх іхных дзяцей. Астатнія нашы суседзі былі так сьціснуты вакол нас, што былі вымушаныя слухаць нашу гутарку.

Я прагнуў размоваў і навінаў, але ледзьве мы пачалі абменьвацца пытаньнямі, як дзьверы з шумам адчыніліся і ў камеру хлынуў пах баланды (суп на турэмным жаргоне). Размовы адразу спыніліся. Заляскаталі міскі і лыжкі. Усе расьселіся на нарах і цэнтральнай платформе. Усе вочы ўтаропіліся на кацёл з супам. Каб пазьбегнуць мітусьні і мець упэўненасьць, што ніхто не атрымаў дзьве порцыі, нікому, апрача памочнікаў старасты, якія ішлі праходам дзелячы суп, не дазвалялася рухацца. Яшчэ адзін памочнік стаяў ля старасты і пільна сачыў, каб ніхто не атрымаў лішняга. Практычна

ўсе яму дапамагалі ў гэтай справе, бо кожны хацеў быць упэўненым, што атрымае сваю порцыю.

Тым часам староста ўзяў апалонік і глыбока пагрузіў яго ў суп. Павольна памяшаў вадкасьць і пачаў напаўняць міскі. Памочнікі пачалі іх разносіць, пачынаючы ад правага боку праз праход уздоўж нараў. Адразу выбухнулі вокрыкі пратэсту.

— Не, не, не. Першымі мы атрымалі ўчора. Сёньня пачынайце з левага боку.

Памочнікі затрымаліся і ськіраваліся ва ўказаны бок, але вязьні з гэтага боку закрычалі, што не хочуць быць першымі. Крыкі панесьліся з абодвух бакоў. Кожны ўсклікаў, што гэта тыя павінны першымі атрымаць суп. Урэшце дайшло да рукапрыкладства. Старэйшыя вязьні ўскочылі каб супакоіць штурханіну і спыніць барацьбу.

— Добра, добра,— казалі яны,— дзейнічаем спакойна і трымаемся ўсталяванага парадку. Сёньня першым атрымае правы бок.

Тая дыскусія, крыху камічная, не мела нічога агульнага з міласэрнасьцю. Нягледзячы на тое, што староста разьмешваў суп, частка яго, самая густая і наварыстая, разам з кавалкамі рыбы ці крупамі заўсёды ападала на дно катла. Верхні слой заўсёды быў горшы і менш пажыўны.

Я быў заварожаны тым, якім чынам некаторыя вязьні елі суп. Адны глыталі яго павольна, дапамагалі сабе лыжкай і атрымоўвалі асалоду ад кожнага глытка. Іншыя зьядалі яго амаль адным залпам, а потым выпроствалі шыі каб убачыць, ці не засталося яго яшчэ на дне катла, бо хацелі першымі скарыстацца даліўкай. Усе навучыліся старому турэмнаму спосабу выціраць парожнюю міску пальцам і чыста яе вылізваць. Я заўважыў, што некаторыя вымалі з кішэняў кавалачкі хлеба, якія захавалі ад сьняданьня. Кідалі іх у суп, дадаўшы часам з бруднай анучкі трохі солі. Яшчэ некаторыя камячылі з сухога хлеба шарыкі, якія клалі ў суп, потым адстаўлялі міску і не чапалі яе. Гэта было для мяне навіной.

Разьмеркаваньне адбывалася як звычайна. Мне далі маю міску, поўную вадзяністай вадкасьці зь некалькімі зярняткамі збожжа. Як заўсёды ўсе мае суседзі, каб убачыць ці густы суп, пазіралі на маю міску, а я згодна са звычаем пракантраляваў міскі ў іх. Справа ў тым, што гэта было часткай цырыманіялу каб перашкодзіць старасьце браць суп зьверху і пакідаць густы спод для сябе і сваіх памочнікаў. Яны атрымаўвалі апошнімі.

Калі раздача супу скончылася, усе на хвіліну перасталі есьці — каб паглядзець на старасту і ягоных чатырох памочнікаў. Яны

паставілі свае міскі на стол, павярнулі кацёл і ўзялі зь яго па два апалонікі. Пачуўся агульны вуркат:

— То досыць, то вам хопіць. Раздайце рэшту.

Пры раздачы далівак распачалася новая барацьба. Зноў умяшаліся старэйшыя вязьні і прызначылі дадатковыя порцыі тым, каторыя атрымаўшы першымі, мелі суп самы рэдкі.

Потым, пасьля прадухіленьня крызісу, усе заняліся ежай, цалкам паглынутыя прыемнасьцю спажываньня і абсалютна абыякавыя да таго, што робіцца навокал.

Дзьверы раптам адчыніліся і турэмшчыкі забралі кацёл з-пад супу, прынёсшы другі, з кіпенем (варам). Стараста і яго памочнікі адразу пачалі новую раздачу. Кожны атрымаў паўлітра вару. Гэты звычай быў для мяне таксама новым, бо дагэтуль я атрымоўваў гарачую ваду толькі на сьняданак. Потым я заўважыў, што тыя, хто захаваў свой суп некранутым, гэта спрытнюгі, якім удалося хітрасьцю здабыць яшчэ адну міску альбо старую бляшанку з-пад кансерваў. Яны атрымалі свае паўлітра вару і ўлілі яго ў некрануты суп. Гэта давала ім дзьве міскі вельмі рэдкай вадкасьці. Іншыя пазіралі на іх з зайздрасьцю. Тыя, хто ўжо зьеў свае порцыі, малымі глыткамі каўталі кіпень. Некаторыя бралі кавалкі хлеба, крышылі іх і кідалі крошкі ў вар. Такім чынам атрымоўвалі нейкую масу накшталт рэдкай кашы. Яшчэ некаторыя даставалі свае анучкі з сольлю і трохі дадавалі яе ў кіпень. Гэта не мела смаку супу, але ўжо не было і вадой. Пасьля ежы стала параўнальна спакойна. Некаторыя вязьні скруціліся на дошках каб падрамаць, іншыя вярнуліся да перарваных гутарак. Ля мяне зноў сабралася група тых, што хацелі паслухаць маю гісторыю. Пры першых прыкметах, што па калідоры нясуць ежу, усё ператварылася ў шум і мітусьню. "Дзе мая лыжка? Хто ўзяў мой хлеб? Падай мне міску. Ціха!" Турэмшчык адчыніў дзьверы і упхнуў у камеру вялікі кацёл кашы. Яго са спрытам, якога ў іншых выпадках не паказвалі, схапілі двое вязьняў. Той кацёл, цяжкі і гарачы, рухалі як пёрка. Усе вязьні зноў разьмеркаваліся уздоўж сваіх нараў, а стараста ў гэты час рыхтаваўся дзяліць кашу. Новы агульны пратэст.

— Скажыце турэмшчыку, каб спачатку прынёс вар!

— Не, не,— казалі іншыя,— яшчэ не, спачатку каша!

Тыя, хто хацеў атрымаць вар разам з кашай, мелі намер зрабіць імітацыю супу. Іх погляд пераважаў. Паўтузіны вязьняў ля дзьвярэй пачалі біць у іх міскамі. Шум быў пякельны, дзьверы затрэсьліся і хутка прыбег турэмшчык. Ён сказаў, каб кіпень чакалі, але стараста і ягоныя памочнікі высунуліся за ім на калідор, нахабныя як малпы, і ўрэшце зь металічным ляскатам, сьмеючыся, вярнуліся.

Здабылі кацёл вару. Некаторыя вязьні ўлілі яго ў кашу, і без таго рэдкую, зрабіўшы нешта накшталт супу з аўсянкі. Іншыя даставалі свае анучкі з сольлю і дадавалі па шчопцю ў вар, якім запівалі кашу. Кожны браў трошкі кашы на канец лыжкі, каб як мага даўжэй расьцягнуць задавальненьне паглынаньня вячэры. "Кожны", гэта значыць за выняткам зладзеяў, прафесійных крымінальнікаў і махляроў, якія заўсёды сярод нас знаходзіліся. Гэтыя зьядалі кожнае сілкаваньне так хутка, як маглі, выцiралі пальцам міскі, а потым хціва пaглядалі наўкола, падсьцерагаючы магчымасьць здабыць дадатковую порцыю.

Пасьля ежы галоўным заняткам у Бутыгках было паленьне. З-за таго, што тамтэйшыя вязьні маглі часам атрымаць у падарунак пасылкі, тытунь быў заўсёды ў наяўнасьці. Яго ніколі не было даволі, але трохі было заўжды. Кожны ў камеры ведаў, хто апошні атрымаў тытунь у пасылцы або хто меў пакунак клапатліва прыхаваных папяросаў, ці трохі махоркі. Пасьля ежы каля іх зьбіраўся натоўп, спадзеючыся зацягнуцца дымам. Чалавек усярэдзіне быў заўсёды абураны, бо ў гэткім атачэньні немагчыма было скарыстаць такую каштоўнасьць як папяросы толькі для сябе. Калі з паперы, зь якой вязень скручваў папяросы, падала трохі тытуню, ратаваць каштоўныя рэшткі да падлогі цягнуліся некалькі тузінаў рук, і той, хто іх знайшоў, меў права зацягнуцца папяросай.

Такіх рэчаў, як запалкі ці запальнічкі не было, але вязьні мелі сваё ўласнае вынаходніцтва каб запальваць папяросы. Адзін з вязьняў, Вася, быў майстрам у гэтай галіне. Ён вельмі цаніў свой талент, бо вымагаў па дзьве зацяжкі з кожнай запаленай папяросы. Ён браў кавалак ваты ці падкладкі футравай курткі, або таго, чым была напхана падушка, выцягвў у вельмі тонкую нітку і моцна яе скручваў. Потым клаў гэта паміж двух дошак і цёр іх адну аб другую хутчэй і хутчэй. Гэта займала часам чвэрць гадзіны. Па яго твары цёк пот, а калегі падбадзёрвалі воклічамі: "Добра, добра! Хутчэй! Хутчэй! Удалося!" Як толькі чуўся пах дыму, Вася выцягваў скручаную нітку, разьдзіраў у месцы дзе тлела і пачынаў асьцярожна дзьмухаць на яе аж пакуль яна ўся не разгаралася. У гэты час кожны, хто хацеў прыпаліць папяросу, падыходзіў да яго за агнём. З кожнай запаленай папяросы Вася два разы зацягваўся, глыбока ўдыхаючы дым у лёгкія, так што здавалася зараз лопне, трымаў яго так доўга, як мог, а потым выдыхаў каму-небудзь з прыяцеляў у рот. Камера хутка напаўнялася дымам. Камернікаў апаноўвала пачуцьцё глыбокага задавальненьня.

Наступнай важнай аперацыяй было наведваньне прыбіральні. Пры ста дваццаці вязьнях у камеры параша ўжывалася пасьля

сілкаваньня безупынна. Празь дзьве гадзіны яе трэба было ўжо апаражняць. Стараста клікаў турэмшчыка. На выкананьне гэтай працы вязьні прызначаліся па чарзе. Узнагародай за яе была назаўтра дадатковая порцыя супу. Натуральна, тыя хто лічылі гэтую працу ніжэй сваёй годнасьці, маглі ўступаць чаргу іншым, але тады пазбаўляліся той дадатковай порцыі. Так высока сваю годнасьць ацэньвалі толькі вельмі нямногія.

Адзіным нашым спачынкам быў штодзённы дваццаціхвілінны шпацыр па турэмным двары. Вызначанай пары на гэта не было. Яна залежыла ад турэмшчыкаў, зь якога канца яны пачыналі выводзіць і які парадак устанаўлівалі на дадзены дзень. Калі турэмшчык адчыняў дзьверы і аб'яўляў, што ідзем на шпацыр, пачынаўся тлум. Строгай дысцыпліны захаваць было немагчыма, хіба толькі каб вязьняў пачалі страляць. Як толькі апыналіся за дзьвярыма, пачыналі шукаць у калідоры недакуркаў ці шматкоў паперы, якія можна б было ўжыць на самакруткі. Некаторыя ўцякалі ў прыбіральню, іншыя пачыналі гутаркі з вязьнямі суседніх камер, паўз якіх праходзілі. Усё гэта было строга забаронена, але так адбывалася штодзённа. На падворку мы рухаліся адзін за адным і, паводле правілаў, моўчкі. Але ізноў не было гутаркі аб дакладнай дысцыпліне і вычвараліся самыя разнастайныя выхадкі, часам з канкрэтнай мэтай, а часам па-просту дзеля сьмеху. Утрымаць парадак турэмшчыкі не маглі. Як толькі затрымліваліся каб вылаяць якогасьці вязьня, пяцьдзесят іншых карысталіся гэтай нагодай каб пашукаць старых бляшанак ці паперы. Некаторыя драпалі на мурах старымі цьвікамі надпісы, альбо пакідалі ва ўмоўленым месцы прадмет, які меўся быць выменяны на папяросы.

Штодзённа, калі турэмшчык агалошваў канец шпацыру, уздымаўся агульны пратэст:

— Не, не, яшчэ дваццаць хвілін не прайшло!

Кожны дзень турэмшчык спрабаваў у бязладдзі тлумачыць, што дваццаць хвілін лічыцца ад моманту пакіданьня камеры да моманту вяртаньня ў яе, а не той час, які можна знаходзіцца ў двары.Аднак гэтая ж самая спрэчка ўзьнікала назаўтра і ў наступны дзень, як быццам ніхто не мог дакладна зразумець правілаў.

Тым вечарам я позна паклаўся спаць. Шчыра кажучы, я кепска пачуваўся ў новай сітуацыі. Да таго ж маё атачэньне было настолькі захапляльнае, што я вырашыў не прапусьціць ніводнай дробязі. Несумненна, зацікаўленасьць людзьмі, здольнасьць да іх разуменьня і спагады, былі тымі рысамі, якія дапамаглі мне вытрываць доўгія гады ўвязьненьня. Я пару разоў спрабаваў выцягнуцца, але быў

так сьціснуты паміж іншымі целамі, а камера ў пачатку лета была такой гарачай і душнай, што я не здолеў заснуць. Было так цесна, што мы моцна прыціскаліся адзін да аднаго. Адзін з маіх суседзяў, стары вязень з папсутымі зубамі, меў такое сьмярдзючае дыханьне, што гэта цяжка было стрываць. Звычайна я быў так зьнясілены недахопам ежы і руху, што паклаўшыся адразу засынаў. Аднак тым вечарам я быў занадта ўзрушаны новым атачэньнем. За гады, праведзеныя на Лубянцы я не быў прызвычаены спаць у скучанасьці. Не могучы вынесьці духаты і гарачыні, я дарэмна спрабаваў заснуць.

Урэшце я ціхенька, каб нікога не пабудзіць, устаў, пайшоў у кут камеры, усеўся і пачаў аглядацца наўкола. Мора людзей, наваленых на нары, было чымсьці незабыўным, а гукі неапісальнымі. Гэта былі глыбокі хроп, падобны на хрыпеньне, перарывістыя ўздыхі, якія рабілі ў цемры ўражаньне хору. Чуліся астматычныя хрыпатыя сьвісты, часам нехта скрозь сон гаварыў, а калі-нікалі гучаў ускрык ці выцьцё сьпячага. Час ішоў. Каля гадзіны ночы я пачуў як хтосьці ўстае і пасоўваецца ў маім накірунку. Гэта быў Грыша. Падыйшоў да мяне і шапнуў:

— Што такое?

— Нічога такога,— адказаў я.— Проста не магу заснуць.

— Ведаю аб чым думаеш,— сказаў ён.— Першая ноч тут заўсёды цяжкая, але прызвычаішся. Прынамсі лепей бы ты паспрабаваў адпачыць.

Я пайшоў за ім назад да нашага месца на нарах і ўрэшце мне ўдалося падрамаць. Мне здалося, што як толькі я заснуў, прагучаў вокліч турэмшчыка:

— Под'ём! Вставаць!

Вязьні павольна пачалі злазіць з нараў і рыхтавацца ісьці ва ўмывальнік на ранішняе ўмываньне, якое праводзілася групамі па дваццаць. Потым пачаліся звычайныя размовы, увесь час распавядаліся адны і тыя ж старыя гісторыі і паўтараліся штодзённыя жарты, якія ўтваралі сталую частку дзённай праграмы.

Раптам па калідоры расплыўся пах сьвежага хлеба. Мы пачулі, што цягнуць трысьняговы кош. Дзьверы адчыніліся, турэмшчык зьверыў нашы порцыі са сваім сьпісам і чацьвёра калегаў кінуліся каб зацягнуць кош з хлебам. Усе вочы ў гэты час утаропіліся ў той бок.

— Не чапайце яго. Не чапайце хлеба. Пачакайце вару. Яшчэ не гатовы.

— Добра, добра, рукі прэч ад хлеба!

Хутка па кош прыйшоў турэмшчык і закрычаў на старасту:

— Чаму затрымліваеце нам працу? Вярніце кош!

На гэта стараста і некалькі людзей вызвалілі месца на цэнтральнай платформе. Калі вымалі хлеб, усе ўважліва за імі назіралі. З-за таго, што некаторыя порцыі ("пайкі") важылі меней чатырохсот грамаў, кухары зубачысткамі прыкалолі да іх дадатак. Сто пар зоркіх вачэй сачыла за дзялёжкай каб упэўніцца, што дадатковыя кавалкі пры маніпуляцыях з хлебам не адпалі на дно і не стануць потым здабычай тых, хто дзеліць. Калі кошык быў апарожнены, ля яго зграмадзіліся вязьні каб убачыць ці не засталіся на дне якія-небудзь крошкі. Калі штосьці знаходзілі, падымалі страшэнны гвалт. Калі не знаходзілі нічога, абшуквалі раздатчыкаў, правяраючы, ці не схавалі хлеба ў рукавах.

— Мярзотныя п'яўкі,— крычалі.— Гэта ўсё, што трымае нас жывымі. Вы п'яце нашу кроў!

Урэшце стараста ўсклікаў:

Добра, добра, вяртайцеся на свае месцы. Пакуль усё не будзе ў парадку, не пачнем раздаваць хлеб!

Адразу ж усе сядалі на краі нараў, утвараючы роўны, без зігзагаў шэраг. Перш за ўсё адкладалі пяць акрайцаў ("гарбушка") для старасты і яго памочнікаў. Тыя кавалкі былі заўсёды лепшымі чым з сярэдзіны бохана, бо давалі значна болей матэрыялу для жаваньня. Памочнікі імклуліся манеўраваць так, каб іх прыяцелі атрымалі акрайцы. Натоўп назіраў за кожным іхным рухам. Калі які з памочнікаў бачыў, што не выпадае чарга яго прыяцеля, а бліжэй іншы вязень, ён паварочваўся да каша і скрыжоўваў рукі, трымаючы хлеб так, каб акраец атрымаў яго сябра. На гэтыя спробы махлярства натоўп рэагаваў выцьцём, як на спартовай пляцоўцы, праклінаючы раздатчыкаў. Напружаньне ў камеры небясьпечна ўзрастала.

Нарэшце хлеб быў падзелены, але ніхто яго не чапаў. Усе чакалі вяртаньня турэмшчыка з катлом кіпеню каб атрымаць звычайную паўлітровую порцыю. Потым кожны дзяліў сваю порцыю хлеба на чатыры часткі і адну зьядаў, а дзьве захоўваў на паўдзённае і вячэрняе сілкаваньне. Чацьвёртая частка павінна была служыць перакусам пасьля абеду, а найчасьцей для абмену на зацяжкі папяросай.

Пасьля сьняданку адбываўся ранішні рытуал запальваньня агню і першая папяроса дня, а потым звыклая праграма аповядаў і гутарак. Я пачаў абыходзіць камеру каб заключыць знаёмствы, паслухаць аповяды і пазьбіраць навіны, якіх мне так не хапала ў час самотных гадоў на Лубянцы. Дырэктар таварнай станцыі распавёў мне аб сваім арышце:

— Большай часткай маёй працы было падтрыманьне парадку пры адпраўленьні забесьпячэньня на фронт. У час найбольшага

ўзмацненьня нямецкай навалы гэта была ліхаманкавая праца. Аднойчы на станцыю прыбыў цягнік з пяцьцю вагонамі пшаніцы ў адчыненых кантэйнерах, прыкрытых толькі матамі. Я адразу паставіў пры цягніку варту, бо гэта ўваходзіла ў мае абавязкі і я адказваў за тое, каб пшаніца дайшла да фронту. Жыхары горада даведаліся, што на станцыі ёсьць пажыва, сабраўся натоўп. Я націскаў на начальніка станцыі каб ён адразу адправіў цягнік, але ён не слухаў. Пшаніца была вільготнай і пачынала гніць. Я не мог больш гэтага трываць. Сабраў сваіх супрацоўнікаў і распрадаў збожжа сярод жыхароў горада, яно яшчэ магло быць спажыта. Натуральна, як толькі гэта было зроблена, прыйшоў загад адправіць цягнік на фронт. Я быў арыштаваны разам са сваім персаналам і адпраўлены ў турму. Атрымаў дваццаць пяць гадоў.

Малады жаўнер распавёў, як увесь час сядзеў у акопах, з моманту ад'езду непакоячыся аб жонцы. Калі ад'яжджаў, яна была вельмі хворай. Яму так трэба было яе бачыць, што калі яго зьвяз атрымаў небясьпечнае заданьне, зь якога мог не вярнуцца, то ён адстрэліў сабе палец. Яго памясьцілі ў шпіталь, дзе ён вельмі пакутваў. Калі перавязвалі, то ў гарачцы ён паведаміў, што палец адстрэліў сам сабе. Калі рана загаілася, яго забралі ў турму — дзесяць гадоў.

— Але ж,— сказаў,— прынамсі застануся жывым.

Пасьля, ля апоўдня, калі мы пачалі ўжо лічыць хвіліны да абеду, дзьверы камеры са скавытаньнем адчыніліся.У калідоры былі чуваць галасы. Страявым крокам раптам увайшоў малады жаўнер, казырнуў і крыкнуў:

— Прывітаньне, сябры!

Гэта быў малады, гадоў ля сямнаццаці, вясковец. Нагадваў вучня сярэдняй школы. Насіў жаўнерскую футравую шапку, якая была яму завялікай, дасягаючы да шчыкалатак шынэль з каўняром, на пяць нумароў большым чым трэба, і з рукавамі, якія закрывалі далоні. Тым не менш, ён быў сьмелым хлопцам, якога не праняць нічым, нават днямі ўвязьненьня, якія былі ўперадзе.

Пазьней я пагутарыў зь ім і даведаўся, што ён паходзіў з маскоўскіх ваколіц. Служыў у рэзерве і не ўдзельнічаў ні ў адным баі. Усё яго аддзяленьне было арыштаванае пасьля адбіцьця вёскі, якая нейкі час была ў руках немцаў. Разьмясьціўшыся там, яны рабавалі ежу, якую пакінулі непрыяцелі.

— Але ж,— сказаў ён, — я не ведаў, што нам можна рабіць і мы дазволілі сабе скарыстацца нагодай. Я быў зьдзіўлены, што нямецкая ежа нашмат лепшая за нашу і гучна выразіў гэтае

зьдзіўленьне. Схапіў за гэта дзесяць гадоў, за падрыўную прапаганду, — дадаў са сьмехам.

Хвіліны пасьля абеду заўсёды былі самымі лепшымі за ўвесь дзень. Калі ўсе ўжо заканчвалі паліць, камеру апаноўваў спакой, як бы агульная згода. Шмат вязьняў драмала. Я звычайна сядзеў ля дзьвярэй і назіраў за гэтымі людзьмі. Пад вокнамі там, напрыклад, быў шэраг хворых. Іх там разьмясьцілі, спадзеючыся, што паветра расьсее непрыемны пах, бо няшчасныя паміралі ад крываўкі. У некаторых засталіся толькі скура ды косьці. Паветра было такім сапсаваным, што вязьні скардзіліся медыцынскай сястры, якая штодзённа прыходзіла да паміраючых.

— Ведаю, ведаю,— адказвала яна, — але нічога не магу зрабіць. У шпіталі проста няма месца.

Усё, што магла зрабіць, дык гэта штодня даць нешта супакойваючае боль, але большасьць зь іх былі вырачаны на сьмерць. Часам наччу я прачынаўся, чуючы крык, а пасьля характэрнае дыханьне, гэта хрыпелі перад сконам. Тады ў цемры прыходзілі лекары і кагосьці забіралі. Калі-нікалі, у спакойны час пасьля абеду, я размаўляў з хворымі, стараючыся як толькі можна падтрымаць іх. Але мне шмат чаго не хапала. Прынамсі, я мог даць шмат каму зь іх адпушчэньне грахоў, і рабіў гэта. Часам заставаўся ля іх, шэптам молячыся за паміраючых. Я мог толькі спадзявацца, што малітва ўмацуе іх гэтаксама, як і мяне, бо зноў выконваў абавязкі сьвятара. Абставіны нагадалі мне пра абавязак падзякі Богу за цудоўнае здароўе, якім я цешыўся ўсе гэтыя гады. Я разумеў, што без Ягонай апекі мяне магла паваліць хвароба, бо была надзвычай заразнай.

У той камеры ў Бутырках я правёў сем месяцаў. Аднойчы днём у студзені 1945 г. мяне выклікалі і завялі ў невялікі пакой на шостым паверсе. Пакой быў чысты і ахайны, з цёмназялёнымі фарбаванымі сьценамі і высокім вакном са звыклай бляшанай скрыняй і (во дзіва!) двума ложкамі. Не ведаю,чаму мяне адзначылі такім падарункам. Думаў, што хутчэй за ўсё буду высланы ў працоўны лагер. Праз гадзіну дзьверы адчыніліся і ўвайшоў Нестров!

Мы не маглі паверыць на свае вочы! Нарэшце зноў разам тут на шостым паверсе ў Бутырках, мы проста не верылі што думаць і што сабе казаць. Адначасова сьмеючыся і плачучы, стукаючы адзін аднаго па плячах, прамармыталі нейкія словы вітаньня. Нарэшце, не ведаючы з чаго пачаць, мы ўсьміхаючыся сталі разглядаць адзін другога. Урэшце пачалі параўноўваць нашы дзеяньні. Нестрова на Лубянцы таксама дапытваў Седов. Ён таксама атрымаў пятнаццаць гадоў цяжкай працы. Мы пункт за пунктам абмеркавалі нашы

допыты, параўноўваючы тое, што паказаў я з тым, што паказаў ён і стараючыся ўявіць сабе наступствы гэтага. У адносінах да нас выявілася толькі адна невялікая розьніца, а менавіта тое, што каб схіліць яго да супрацоўніцтва асноўны націск рабіўся на патрыятычныя пачуцьці, як на расейца ў стане вайны.

Тое, што нас злучылі ў тыя вельмі цяжкія гады, дало нам незвычайныя перажываньні. Мы імкнуліся скарыстаць увесь той час. У самым сэрцы Масквы мы стварылі маленькую езуіцкую суполку. Перадусім, пасьля стольгіх гадоў, пражытых без сакрамантаў, мы паспавядаліся і ўзаемна прадаставілі стан нашых сумленьняў. Потым мы вызначылі для сябе план дня, крыху адрозны ад таго, які бывае ў езуіцкіх супольнасьцях дзесьці ўсьвеце. Уставалі, як і ўсе ў турме, у палове шостай, адпраўлялі ранішні роздум і перад сьняданкам чыталі ранішнія малітвы. Далей мы гутарылі ці працавалі аж да паўдзённага рахунку сумленьня і малітвы Анёл Гасподні.

Пасьля апоўдня мы супольна прамаўлялі малітвы і ружанец. А шостай гадзіне, перад вячэрай яшчэ раз Анёл Гасподні, а пасьля вячэры — малітвы вячэрнія, падаючы сабе па чарзе пункты для ранішняга роздуму. Раніцай і пасьля апоўдня, у паўзах паміж малітвамі, мы былі занятыя. Частку часу мы прысьвячалі сумеснаму асьвяжэньню нашых тэалагічных навыкаў, прамаўлялі імправізіваныя казаньні, крытыкуючы адзін аднаго, а потым рагаталі з той крытыкі, якую чулі ў гады нашай даўнейшай вучобы.

Часамі мы забаўляліся, імправізуючы камічныя сцэнкі. Звычайна я быў камедыянтам, а Нестроў іграў паважнага чалавека. Напрыклад, я быў Сталіным, а Нестроў калхозьнікам, нават "героем працы" з калхозу, якога "дзядзечка Юзя" выклікаў у Маскву каб упрыгожыць медалём. Пасьля ўзнагароджваньня я ўзводзіў яго на стол і вадзіў па ім каб узрушыць і сьхіліць да хвалы камунізму. Але ўсё, чаго прагнуў той калхозьнік, было проста боханам хлеба. Аднак, як толькі ён пачынаў яго прасіць, "дзядзечка Юзя" выступаў з новым панегірыкам у гонар вялікай рэвалюцыі і патрабаваў ваенных намаганьняў. У канцы я адсылаў яго да групы ягоных пыхлівых таварышаў з калхозу. Як толькі я ад яго адварочваўся, выраз пыхі зьнікаў зь яго твару, роўна як і з твараў ягоных таварышаў, якія тоўпіліся навокал і ўзбуджана пыталі: "Ну і што? Ну і што?" Нестроў паціскаў плячыма і ўздымаў рукі ў жэсьце, які павінен быў значыць: "Чаго вы чакаеце? Як было, так і будзе! Крэмль заўсёды Крэмль!"

Калі гэта здаецца сьмешным, то менавіта так і было задумана. Каб растрэсьці стан амаль летаргічнай нуды не было нічога лепшага за фарс, які ў межах турэмнай паўсядзённасьці часам

узьнікаў цудоўным дзеяньнем. Кожная група вязьняў, у якой мне здаралася быць, мела свае старыя жарты ці ўлюбёныя апавяданкі, якія заўжды выклікалі вясёласьць. Гэта адлюстроўваў турэмны жаргон. Некаторыя выразы ўласна нічога не значылі, вырасталі з пэўнай сітуацыі ў нейкай групе вязьняў, так як узьнікае моўная памылка пад уплывам узрушэньня.Гэта адразу станавілася звыклым воклічам ці вокрыкам, што ўмацоўваў іншых вязьняў у хвіліны перыядычных дэпрэсій.

Так было і з Нестровым і са мной. Мы мелі вырак на катаржную працу, але гэта не прывяло нас да дэпрэсіі. Мы былі зноў разам і пакуль што нас не даймалі. Мы вырашылі выкарыстаць гэты час як мага лепей і правесьці яго па-магчымасьці прыемней. Канечне, было над чым і паразважаць, адной з праблемаў быў тытунь. Каб зьменшыць напружаньне, Нестров у турме пачаў паліць, але тут, на шостым паверсе Бутырак тытуню не было і ніхто не дасылаў нам пасылак. Аднак мы мелі валасяную шчотку і такім чынам здабывылі свой уласны тытунь.

Шчотка ўжывалася каб падмятаць камеру. Турэмшчык уручаў нам яе штодзённа, а пазьней прыходзіў забраць і перадаць у іншую камеру. У мяне быў маленькі ножык, зроблены з кавалка бляхі, якую я знайшоў на падворку і навастрыў аб каменны мур. Штодзённа я адразаў каля трох сантыметраў ад аднаго воласа шчоткі і дзяліў яго на маленькія кавалачкі. Нестров закручваў гэты сурагат тытуню ў шматкі паперы, а я карыстаўся турэмнай тэхнікай запальваньня агню з дапамогай ваўнянай ніткі. Пры першых некалькіх спробах гэта мне не ўдалося, але ўрэшце я-ткі запаліў "папяросу" Нестрова. Адчуў сябе як першы чалавек, што "вынайшаў" агонь у дагістарычныя часы.

Смурод дыму з той "папяросы" быў жахлівы. Я, хоць сам не паліў, ад яго кашляў. Аднак Нестров зацягваўся ім, быццам гэта быў тытунь з Гаваны. Аднойчы наша чарга на шчотку выпала ў паабедзенны час, незадоўга да зьмены варты. Калі новы турэмшчык прыйшоў забраць шчотку, мы яму сказалі, што ягоны папярэднік ужо забраў. Больш яе не знайшлі. А мы, маючы шчотку з даўжынёй валасоў каля пятнаццаці сантыметраў, сталі тытунёвымі мільянерамі.

Іншай праблемай зьяўлялася ежа. З-за вайны яна станавілася ўсё больш кепскай. Але неяк у той час мы неспадзявана атрымалі ласунак — суп з яечнага парашку. Калі турэмшчыкі прынесьлі кацёл з супам у памяшканьне, мы ўнюхалі агідны смурод серы, які даходзіў ажно да шостага паверху. Адчуўшы яго, Нестров і я задумаліся, што гэта за халера. Калі прынесьлі суп, а зь ім і пранілівы паўсюль

смурод, мы вырашылі, што мабыць гэта суп зь яек. У турме голад не цётка і насуперак сернаму смуроду абодва сказалі:

Што за асалода! І больш, чым калі-небудзь дагэтуль, па поўнай місцы!

Смурод быў, натуральна, моташны. Але адмовіцца ад поўнай міскі супу было б у тых умовах злачынствам. І мы елі яго, спачатку лыжкай, а потым нагбом з міскі. Пасьля прыкладна паловы порцыі мой страўнік пачаў бунтаваць. Я задумаўся, ці здолею зьесьці суп, ці не. Але голад перамог асьцярожнасьць і я праглынуў рэшту. Раней чым апошні глыток дасягнуў да дна страўніка, першы вярнуўся з такой сілай, што сьцебануў у мяне з рота і захляпаў усю сьцяну. Нестров хутка зьведаў тое ж самае. Урэшце ўся порцыя супу вярнулася і пачварна засмуродзіла камеру.

Узбагачаючы наша знаёмства з турэмным жыцьцём, мы старанна захавалі гэты ўспамін: часам лепш быць галодным, чым хварэць. Трэба ведаць што ясі, ці ты галодны, ці не. Пазьней мы даведаліся, што яечны парашок па дарозе сапсаваўся, але кухар вырашыў яго зварыць, спадзеючыся гэтым абеззаразіць. Даведаліся таксама чаму атрымалі такія вялікія порцыі: старыя вязьні з ніжэйшых паверхаў гэты суп адмовіліся есьці.

На працягу тых тыдняў з Нестровым мы вырашылі напісаць яшчэ адно прашэньне да Сталіна. (Два я напісаў дагэтуль, у час маіх "універсітэцкіх курсаў.") Нестров сьмяяўся з гэтай задумы, але я сказаў сабе што нічога не губляю. Сама працэдура была цалкам простай: я сказаў турэмшчыку, што хачу напісаць прашэньне.

— Да каго? — спытаўся ён.

— Да Сталіна,— адказаў я.

Ён загадаў мне чакаць, бо вымушаны даведацца ад начальніка турмы ці дазволена мне пісаць такое прашэньне. Мне ніколі не адмаўлялі. Турэмшчык вярнуўся і прынёс паперу, ручку і чарніла, а сам, пакуль я пісаў, стаяў ля дзьвярэй. І ўсё.

Тое, што я напісаў, таксама было цалкам простым. Я казаў Сталіну, што я Вальтэр Цішэк, сьвятар і амэрыканец, і прасіў яго паведаміць амэрыканскай амбасадзе каб яна ў сваю чаргу паведаміла маёй сям'і ў Злучаных Штатах што я здаровы. Гэта было ўсё. Я не прасіў ні аб якім памілаваньні і нікога не вінаваціў, проста хадайнічаў аб акце дыпламатычнай ветлівасьці. Што адбывалася з прашэньнямі пасьля перадачы іх турэмшчыкам, я ніколі не даведаўся. Празь некаторы час з-за адсутнасьці адказаў я проста перастаў пісаць.

Нестров і я правялі разам два цудоўных месяцы. Аднойчы пасьля, калі мы чакалі вячэру, турэмшчык загадаў нам падрыхтавацца разам з усімі рэчамі. Мы ведалі, што гэта азначае нейкае перамяшчэньне. На працягу некалькіх хвілін, якія мелі да вяртаньня турэмшчыка, мы апошні раз паспавядаліся. Узаемнк дабраславілі адзін аднаго і паціснулі рукі. Пры разьвітаньні не было сказана лепшых словаў, чым: "Хай Бог будзе з табою".

Першым быў выведзены ў цёмны калідор Нестров, а я чакаў. Калі турэмшчык вярнуўся за мной, я агледзеў калідор, але Нестрова не заўважыў. Унізе мяне ўвапхнулі ў адзін з пераходных "карабкоў", маленькае і цёмнае памяшканьне. Пасьля нядоўгага чаканьня турэмшчык адчыніў дзьверы, задаў тры звычайных пытаньні і вывеў мяне на падворак да турэмнага аўтамабіля. Гэта быў аўтамабіль з зачыненымі адзіночнымі клеткамі, дзе ледзьве можна было стаяць.

Як толькі мяне замкнулі, аўтамабіль рушыў. Я думаў, што знаходжуся ў ім адзін. Толькі калі мы выехалі з турэмнага двара, я пачуў, як хтосьці кліча гучным шэптам:

— Ліпіньскі!

Гэта быў Нестров.

— Я тут,— адказаў я.

Намагаліся размаўляць праз гудзеньне рухавіка і трасеньне аўтамабіля, але няшмат маглі зразумець. Ды і гутарыць не было аб чым, за выключэньнем таго, каб зразумець куды нас вязуць.

Праз прыкладна паўгадзіны мы спыніліся і дзьверы былі адчынены. Турэмшчык па чарзе выклікаў прозьвішчы вязьняў. Я зьдзівіўся, калі ўпэўніўся, што аўтамабіль, які здаваўся мне пустым, на самой справе быў поўны вязьняў. Нестрова выклікалі перада мной. Нарэшце падыйшла мая чарга. Я, трымаючы рукі за сьпіною,— так патрабавалі правілы, выскачыў з аўто. Мы вярнуліся ў маю старую "alma mater" — Лубянку.

## Апошнія дні на Лубянцы

Уступныя фармальнасьці на Лубянцы заўсёды выконваліся сьцісла. Так што каля трох ці чатырох раніцы скончыліся ўсе пытаньні, лекарскія дасьледваньні, мыццё, стрыжэньне, дэзінфекцыя і фатаграфаваньне. Потым турэмшчыца завяла мяне праз знаёмыя па паху калідоры, якія я пазнаў бы паўсюль. Шчыра кажучы, адчуў сябе быццам дома.

Я ішоў калідорам за турэмшчыцай, употай пазіраючы наўкола. Думаў, што будзем на пятым паверсе, але гэта быў аддзел

Лубянкі, якога я ніколі не бачыў. Калі нарэшце дайшлі да камеры, я ўбачыў вялікі, на восем ложкаў, пакой. Там ужо было сем вязьняў. Калі ўвайшоў, усе адзіным позіркам, у якім хавалася спрадвечнае пытаньне, глядзелі на мяне.

— Здравствуйце,— прамовіў я з усьмешкай.

Прынялі гасьцінна, паказалі маю пасьцель, міску і драўляную лыжку. У той частцы турмы нам было дазволена трымаць прыналежнасьці ў камеры.

Першым, хто мне прадставіўся, быў Нікіта, малады будаўнічы рабочы з выспы Сахалін, радавіты расеец. Гэта быў маларослы, крываногі чалавек, худы і смуглявы, з вялікім носам і жвавымі вачыма, таварыскі і страшэнна балбатлівы. Наступны быў Парфір, расеец, неахайны, са сьветлай скурай, з малой галавой і дробнымі рысамі твару. Як атэіст і член партыі, з мэтай напісаньня для партыі атэістычнай прапаганды, ён вывучаў тэалогію. Астатнія пяць — проста маладыя жаўнеры з фронту, якія дбалі толькі аб тым, каб наесьціся і выжыць, каб вярнуцца да сваіх сем'яў.

Было ўжо каля чатырох гадзін раніцы і мы, перакінуўшыся некалькімі сказамі, вырашылі яшчэ трохі паспаць. А назаўтра выявілася, што група вельмі жвавая і хоча ўсё пра мяне ведаць. Вядома, у час сьняданьня ўсе размовы спыніліся. Сьняданак у тым аддзеле турмы быў лепшым, чым у іншых. Мы атрымалі порцыю хлеба разам з кацялком кіпеню, які зьмяшчаў больш за літр вады, так што кожны меў столькі, колькі хацеў.

Пасьля сьняданка я ўбачыў на стале кніжкі, шахматныя дошкі, даміно і г. д.

— І як вы ўсё гэта дасталі? — запытаўся я.

— Ох, — адказаў адзін з жаўнераў, — мы тут не надоўга. Нашыя пакараньні ўжо скончыліся і хутка нас адашлюць на фронт.

Нікіце таксама паведамілі, што хутка ён будзе адпраўлены ў Варшаву назіраць за аднаўленьнем мастоў і будынкаў. Парфір сказаў, што мае шанец зноў атрымаць сваю працу ў партыі. У тым аддзеле кожны здаецца чакаў сігналу на выезд. Можа і мяне хутка вышлюць у працоўны лагер. Калі запыталі аб маёй справе, я сказаў ім, што ў ліпені 1942 г. атрымаў вырак на пятнаццаць гадоў катаржнай працы.

— З тае пары, — дадаў я, — прайшло ўжо амаль тры гады і нічога не зьмянілася, за выключэньнем таго, што мяне перамясьцілі з турмы ў турму і выклікалі на дадатковыя допыты.

Мая справаздача выклікала жвавую рэакцыю Нікіты. Ён пачаў доўгую сатырычную тыраду аб сістэме ўвогуле і асабліва аб турэмнай бюракратыі, так што неўзабаве мы сьмяяліся да сьлёз.

Нікіта, калі ўваходзіў у транс, станавіўся дасканалым камічным акцёрам, нашмат больш забаўным, чым кніжка ці фільм.

Праз некаторы час усталяваўся спакой. Жаўнеры пачалі гуляць у даміно, астатнія назіралі, даючы парады. Нікіта з адным жаўнерам пачаў партыю ў шахматы. Я, крыху ведаючы гэтую гульню, наблізіўся да іх паглядзець. Нікіта імгненна даў шах і мат. Гэтак жа расправіўся ён і з другім жаўнерам.

— Наступны, — усклікнуў са сьмехам.

Мяркуючы, што жаўнеры слабыя гульцы, да дошкі сеў я. І за пяць хвілін атрымаў мат, вельмі ўсьцешыўшы Нікіту.

На парцягу трох хвілін я прайграў яшчэ два разы. Нікіта быў у захапленьні, а я сказаў яму, што ён сапраўдны чэмпіён.

— Не, не, сябры, — запярэчыў ён. — Проста вы ўсе слабыя гульцы. Ніводзін з вас не ведае тэорыі гульні. Зьбярыцеся, брацьця, да мяне і я вам пакажу як за гэта ўзяцца.

І адразу прачытаў нам лекцыю па тэорыі гульні ў шахматы. Калі не падводзіць памяць, распавёў нам, што ёсьць шэсьцьдзесят чатыры асноўныя хады, якія трэба ведаць напамяць. Пры знаёмстве зь імі большасьці гульцам звычайнага ўзроўню ніколі не прайграеш.

— Цяпер зразумелі? — спытаўся ён.— Зраблю вам прапанову. Сядайце ўсе за стол і думайце над сваімі хадамі, а я буду гуляць супраць вас усіх разам. На абдумваньне пазіцый маеце даволі часу. Я лягу на ложак і буду чытаць кніжку. Калі будзеце гатовы, абазначце становішча фігураў, а я вам скажу як буду хадзіць сваімі.

Нікіта ўзяў кніжку і выцягнуўся на ложку, а ў гэты час мы, быццам майстры, пачалі нараду. Даведаўшыся пазіцыю, Нікіта падымаў вочы над кніжкай і вызначаў сваю. Мы былі ў неблагім становішчы аж да пятнаццатага ці да шаснаццатага хода. Але потым, калі Нікіта сказаў нам чарговы ход, мы зразумелі, што апынуліся ў цяжкай сітуацыі і нічога яму не кажучы зьмянілі ягоны ход. Крыху пазьней ён заявіў:

— Шах!

— Што ты кажаш? — адказалі мы. — Ані блізка!

— Тут павінен быць шах, — адрэзаў ён з усьмешкай, — а на наступным ходзе будзе мат, і нічога не здолееце з гэтым зрабіць!

І лежачы на ложку распавёў дзе якая фігура павінна знаходзіцца на дошцы.

— Не, — адказалі мы. — Там няма твайго слана. Няма шаху.

— Нешта дзіўнае,— сказаў ён і не ўстаючы паўтарыў гульню па памяці, ход за ходам і фігура за фігурай.

Насуперак прыемнай кампаніі, я хутка зразумеў, што ў гэтай камеры мне будзе цяжэй маліцца і займацца духоўнымі практыкаваньнямі, якія сабе вызначыў. Напрыклад, каб аддацца духоўнаму роздуму, я браў кніжку і рабіў выгляд, што чытаю, перагортваючы час адчасу старонкі, а на самой справе молячыся. Пасьля апоўдня прахаджваўся па камеры, прамаўляючы свае тры ружанцы з рукамі ў кішэнях. Лічыў на пальцах малітвы.

Аднойчы наш атэіст Парфір папрасіў мяне каб я крыху пагутарыў зь ім пра Бога. Ён ведаў, што я каталік, але не ведаў, што сьвятар. Гутарка пайшла практычна як навуковы семінар з рэгулярнымі карферэнцыямі пасьля абеду. Парфір па памяці прыводзіў усялякія ўяўныя супярэчнасьці са Сьвятога Пісьма, якія завучыў на курсах атэістычнай прапаганды. Я церпяліва спрабаваў растлумачыць іх, паказваючы на аклічнасьці напісаньня і іх кантэкст, дадаючы ўсялякія аргументы, якія здолеў прыпомніць з уласных тэалагічных курсаў. Гэта пэўным чынам узбуджала і было выклікам, амаль як агляд біблійнай тэалогіі, але не давала задавальненьня. Думаю, што Парфір хацеў навярнуць мяне ў атэізм, а можа толькі ўдасканальваў сваё рамяство. Кожным разам, як толькі я адмятаў якоесьці абвінавачваньне, альбо набліжаў яго да прыняцьця нейкага сьцьверджаньня, ён адразу мяняў тэму. Валодаў мастацтвам унікнуць адказу на сваё абвінавачваньне шляхам звароту да зусім іншай праблемы.

— Ну, — казаў, — можа і так, але як ёсьць вось з гэтым?...

Аднойчы ў красавіку 1945 г. мне нечакана загадалі сабрацца і быць гатовым да выезду. Думаў, можа прыйшоў час пераводу мяне на працу. Аднак мая надзея аказалася ілюзіяй. Мяне проста перавялі ў іншы аддзел на Лубянцы. Наколькі я мог меркаваць, гэта быў другі паверх, і я быў адзін. Я зноў пачаў прытрымлівацца свайго дзённага малітоўнага плану і чытаньняў, імкнучыся як мага лепей прызвычаіцца да манаскага жыцьця. Зноўку ў самотнасьці мне было цяжка. Стараўся чымсьці заняцца, але бачыў, што проста марную час. Ужо каля года не было допытаў. Чаму так доўга затрымліваецца маё высланьне ў працоўны лагер?

Тут я зноў вельмі мала кантактаваў зь людзьмі. Мяне не выклікалі на допыты і турэмшчыцам было забаронена з вязьнямі размаўляць. Я зноў пачаў адчуваць тое ўражаньне безчасоўя і, што яшчэ горш, бязвыхаднасьці, калі адзін дзень подобен на іншы. Але я ніколі не губляў з увагі Божы Провід. Я ведаў, што няма ў жыцьці нічога малога ці нязначнага, калі глядзець на гэта з пункту гледжаньня Яго волі. Прынамсі, я імкнуўся ўтрымліваць ў сабе гэтае пераканаfamнe. Лубянка была жорсткай школай, але добрай. Я там

навучыўся таму, што павінна было падтрымліваць мяне ў гады будучыні: што рэлігія, малітва і любоў Бога не зьмяняе рэальнасьці, але надае ёй новае значэньне. На Лубянцы я ўзмацніўся ў перакананьні — калі штосьці здарыцца ў маім жыцьці, гэта будзе адлюстраваньнем Божай волі ў стасунку да мяне. А Ён мяне абароніць.

Аднойчы вечарам у травені, ля паловы дзевятай, калі я быў пагружаны ў вячэрнюю малітву, зьдзіўлена пачуў радасныя крыкі людзей. Пасьпяшаўся да вакна. Было відаць толькі чарнату неба, але я спрабаваў разабраць з тлуму воклічы. Раптам на блізкай адлегласьці пачуў гарматныя стрэлы, потым вуркатаньне павольна пралятаючых самалётаў, і ўрэшце, на маё вялікае зьдзіўленьне, феерверк! Я бачыў рознакаляровыя блікі на маім маленькім шматку неба. Я быў быццам загіпнатызаваны. Зьдзіўляла і тое, што не прыходзіць турэмшчыца і не нагадвае мне, што задоўга стаю ля вакна. Я падумаў, што дзесьці там, на фронце, атрымана нейкая вялікая перамога.

Раптам запанавала цішыня. Яшчэ хвіліну раскатвалася рэха тлуму і потым на падворку турмы сьціхла. Адразу пачуў магутны голас, ськіраваны да масы людзей ва ўзьнёслым і ўдзячным тоне, што прагучаў сярод ночы зь металічным звонам узмацняльніка. Нажаль гук быў занадта ўзмоцнены, словы танулі ва ўласным рэху, так што я нічога не мог зразумець. Аднак ведаў, што голас даходзіць з Чырвонай Плошчы. Я ўсё больш заінтрыгоўваўся і ўзбуджаўся. Яшчэ доўга пасьля таго, як змоўк голас і ўсталявалася цішыня я, не могучы заснуць, ляжаў у цемры на ложку, разрываемы цікаўнасьцю і нецярпеньнем.

Ля апоўначы пачуў у калідоры зьмену варты. Хутка пасьля гэтага маладаядзяўчына, новая турэмшчыца на нашым паверсе, увайшла ў камеру і запыталася ці добра я пачуваюся.

— Я за вамі назірала, — сказала яна,— вы неспакойны. Можа хочаце лекара?

— Не, мяне нічога не турбуе,— адказаў я. — Проста я задумаўся чаго сабраўся той натоўп. Ужо колькі часу намагаюся ўявіць сабе, што гэта значыць.

— Не ведаеце што? — з радасным хваляваньнем выгукнула тая.

Я адмоўна хітнуў галавой.

— Товарішч! Вайна скончылася! Немцы здаліся! Сёньня вечарам гэта аб'явілі!

Потым распавяла мне, што была на вуліцы і глядзела парад на Чырвонай Плошчы, а пасьля прыйшла на дзяжурства. Падрабязна апісала мне ўрачыстасьці ў гонар перамогі. Я ведаў, што наша

размова парушала правілы і быў ёй удзячны. Упершыню турэмшчыца аднеслася да мяне па-прыяцельску, яны ніколі не былі вылюдкамі, проста трымаліся на дыстанцыі, але гэта быў і апошні раз.

Цяпер, калі вайна была скончана, я задумаўся, што будзе. Я ніколі не адважваўся мець надзею, што мяне вызваляць. Урэшце я ведаў, што быў вырачаны за шпіянаж на карысьць не немцаў, а Ватыкану, і мабыць гэты вердыкт і мой вырак будзе надалей важным. Я меркаваў, што маю шанцы на зьмену турэмнай атмасьферы у лепшы бок. Ды толькі ніякай зьмены не адбылося, дні міналі за днямі. Па травені прыйшло лета, потым восень. У мурах турмы зноў пасяліўся холад.

Толькі ў кастрычніку штосьці памянялася. Аднойчы, у другой палове дня, перад самай вячэрай, турэмшчыца загадала мне сабраць рэчы. Мяне перавялі з другога паверху вышэй, потым у камеру пасярэдзіне калідора. У ёй ужо было два чалавекі, і адзін зь іх — Нестров. На гэты раз яго засьпеў я, наадварот, чым было ў Бутырках, дзе мяне засьпеў ён. Нам ізноў пашанцавала.

Пасьля некалькіх хвілінаў узрушэньня, Нестров прадставіў мяне сваім сукамернікам. Гэта быў француз па прозвішчу Хампон, таленавіты пісьменьнік і кандыдат і Францускую Акадэмію. Ён адразу ўразіў мяне сваімі вытанчанымі паводзінамі і арыстакратычнымі манерамі. Быў сярэдняга росту, трохі вышэйшы за мяне, з тонкім доўгім носам, моцным сілуэтам ськівіцы і тонкімі сьціснутымі вуснамі. Яго доўгія сьветлыя валасы з рыжаватым адценьнем над ілбом былі парадзеўшыя. Ягоныя рукі мелі тыповую вытанчанасьць французкай арыстакратыі. Меў доўгія пальцы і малыя ступні.

Хампон быў дасканалым суразмоўцам. У турме знаходзіўся каля года, а ягоная справа была дзіўнай. Гэтак жа, як і я, быў абвінавачаны ў шпіянажы. У сапраўднасьці ж, як казаў, ён перабываў у Кітаі і іншых краінах Усходу, кіруючы здымкамі фільма па адной зь яго аповесьцяў. Сказаў нам, што за правы на фільм яму далі паўмільёна даляраў, зь якіх, калі яго арыштавалі, чатырыста тысяч сканфіскаваў НКВД. Ён, каб пазьбегнуць доўгага падарожжа вакол Афрыкі, вяртаўся ў Францыю праз Расею.

Гэта была доўгая гісторыя, але мне яна не здалася цалкам праўдзівай. Хампон казаў, што меў толькі двухтыднёвую візу на падарожжа праз СССР, і тым не менш дасканала размаўляў па-расейску. Гэта выклікала ў адносінах да яго апавяданьня пэўную падазронасьць, але я ні разу не задаў яму ніводнага пытаньня. У турме такіх пытаньняў не задаюць.

У той камеры мы атрымоўвалі дадатковую порцыю хлеба, сто пяцьдзесят грамаў. Да ранішняга вару давалі таксама па два кавалкі цукру, а два разы на тыдзень, на вячэру, па тры малыя сырыя рыбкі. Безумоўна, гэтая дадатковая спажыва была сустрэта з радасьцю. Я пачаў адчуваць сябе мацнейшым і больш жвавым. У той частцы турмы ацяпленьне было таксама нашмат лепшым, той зімой 1945 — 1946 г., камера была досыць добра абагрэта.

Каб змарнаваць час, пачалі дыскутаваць. Хампон прачытаў лекцыю па этымалогіі (апрача французкай і расейскай ведаў яшчэ некалькі моваў), па жывапісу і вытворчасьці фільмаў. Нестров распавёў аб філасофіі, усходняй літургіі і славянскіх мовах. Я засяродзіўся на ангельскай і, паводле майго курсу ва "ўніверсітэце Лубянкі", на расейскай літаратуры. Хампон не ведаў ангельскай мовы, таму мы пачалі ўзаемна вучыцца. Я вучыў яго ангельскай, а ён папраўляў маю французшчыну, штодзённа мы вывучалі дваццаць новых слоў. Па-прычыне таго, што ўсё гэта адбывалася без паперы і алоўка, шляхам павелічэньня запасу слоў разьвівалася наша памяць.

Увесь той час мы імкнуліся штодзённа выконваць нашы духоўныя практыкаваньні, штотыднёвую споведзь, ранішнія і вячэрнія малітвы, нядзельнае казаньне. Хампон быў добрым каталікам і ўсім сэрцам далучыўся да таго, што жартаўліва называў нашай "езуіцкай супольнасьцю".

— Шмат чытаў аб іх,— казаў ён, — і чуў, а вось зараз нейкі час жыву езуіцкім жыцьцём.

У тых прыемных стасунках прайшла зіма і надыйшла вясна. Пад канец траўня, аднойчы пасьля апоўдня, Хампона выклікалі на допыт. Калі вярнуўся, быў надзіва маўклівы і не хацеў нічога казаць. У мяне адразу ўзьнікла падазрэньне, што яго, мабыць, выпытвалі пра нас. Тым жа вечарам выклікалі Нестрова. Вярнуўся ён прыгнечаны.

— Што здарылася? — спытаўся я.

Ён зірнуў на Хампона, патрос галавою і не схацеў нічога казаць.

Празь якія два дні Нестрова выклікалі зноў. Вярнуўся з таго допыту прыгнечаным яшчэ больш. Мімаходзь паведаміў мне, што на яго аказвалі націск, прапануючы яму розныя дамовы і спрабуючы іграць на ягоных патрыятычных пачуцьцях. Пры Хампоне аб гэтым гаварыць не хацеў зусім. Я адчуваў, што адбываецца нешта дзіўнае. Атмасьфера ў камеры цалкам памянялася. Хампон быў маўклівы, а Нестров стаў песімістам. А калі ён, расеец, трапляў у такі чорны настрой, каб штосьці зь яго выцягнуць патрэбен быў трактар. Я імкнуўся неяк яго падтрымаць агульнымі словамі, але з-за таго, што

нічога не ведаў пра адмысловыя прапановы, якія яму рабілі, не мог яму штосьці параіць.

Назаўтра перад апоўднем выклікалі мяне. Ясна памятаю асаблівае пачуцьцё, якое апанавала мной пасьля такога доўгага часу, за які я гэтых рэчаў не перажываў — сумесь напружаньня і велізарнага хваляваньня. Сьледчы быў чалавекам строгім, каля пяцідзесяці гадоў, насіў акуляры ў залатой аправе, а на яго галаве была відаць пасма сівеючых валасоў. Ніколі дагэтуль я яго не бачыў, але допыт ён пачаў словамі:

— Ну, гэта для вас апошні шанец. Ці не зьменіце рашэньне?

Відавочна быў азнаёмлены са "справай Цішка".

— Тое, што я вам распавёў, праўда,— адказаў я.— Дык што ж я магу зьмяніць?

Сьледчы без словаў схапіў слухаўку тэлефона, выклікаў турэмшчыка і павольна паклаў яе на апарат, быццам гэта быў жэст заканчэньня. Калі турэмшчык увайшоў, коратка кінуў:

— Забярыце яго.

Мяне павялі не назад у камеру, а ўніз, у прыёмны "карабок". Што зараз?

Я меў на нагах толькі пару тоўстых шкарпэтак,а бетонная падлога ў сутарэньні была халодная. Турэмшчык вярнуўся з маёй валізкай і маленькім мяшэчкам. Я адразу зразумеў, што гэта не перавод з камеры ў камеру, мяне зноў пераводзяць прынамсі ў новую турму. Тады я сказаў турэмшчыку, што яшчэ не абедаў і не маю чаравікаў. Тыя адзіныя, якія насіў з часоў Чусавой, я тут, на Лубянцы, нарэшце аддаў рамантаваць.

— Добра, — адказаў той і выйшаў.

Хутка вярнуўся з міскай супу, потым пайшоў па мае чаравікі. Вярнуўшыся, паведаміў, што іх няма ні ў рамонтнай майстэрні, ні ў маёй камеры. Ён не можа іх знайсьці і не можа зрабіць нічога болей.

Я чакаў і абдумваў, што ўперадзе, сьпяшаючыся глытаць суп, каб пасьпець яго зьесьці пакуль мяне не забралі. Мае думкі ўвесь час круціліся вакол Нестрова. Я непакоіўся аб ім, бо ніколі яшчэ не бачыў яго ў такой дэпрэсіі. Памаліўся, каб Бог яго бараніў. Больш я яго ніколі не бачыў. Праз некалькі хвілін дзьверы адчыніліся, турэмшчык задаў мне тры звыклых пытаньні і загадаў ісьці за ім. Такім чынам, з валізкай у руцэ і маючы толькі тоўстыя шкарпэткі на нагах, я апошні раз выйшаў з Лубянкі.

## У ЛАГЕРАХ РАБСКАЙ ПРАЦЫ Ў НАРЫЛЬСКУ

### Дарогай у Сібір

Я ішоў за турэмшчыкам да турэмнага аўтамабіля. Была гадзіна пасьля апоўдня і ў Маскве стаяў гарачы чэрвеньскі дзень. Прынамсі пакуль што адсутнасьць у мяне абутку не стварала праблемаў. Калі ўдзёрся ў аўтамабіль, застаў там ужо пару асобаў. Насуперак напамінам турэмшчыка, адразу пачалі размаўляць. Потым ускараскаліся тры малыдыя кабеты зь дзецьмі на плячах і размовы спыніліся. Мы адразу ўсталі каб даць ім сесьці і ўсе скупіліся, разглядаючы дзяцей.

Кабеты зусім не выглядалі зьбянтэжанымі. Ахвотна ўступалі ў гутарку. Сказалі, што дзецям па пары месяцаў і яны, вядома, нарадзіліся ў турме. Мы не дапытваліся падрабязнасьцяў. А немаўлятам не падабаліся тлум і мітусьня. І яны запратэставалі плачам, ажно іхнія маленькія пысачкі пачырванелі ад напружаньня. Маці падаставалі падрыхтаваныя пры дапамезе турэмных лекараў бутэлькі з малаком і мы ўсе, падобныя на групу шчасьлівых загаворшчыкаў, глядзелі як малыя супакойваюцца.

Тым часам аўтамабіль доўга стаяў на двары, а сонца награвала яго дах і ўнутры стала не хапаць паветра. Было вельмі душна. Мы моцна пацелі, а некаторым вязьням станавілася блага, бо былі аслабленымі доўгім знаходжаньнем у турме. Мы пачалі біць у дзьверы, крычаць турэмшчыку каб адчыніў і запусьціў крыху паветра альбо прынёс вады. Ён нічога не зрабіў, але празь некалькі хвілін аўтамабіль рушыў.

Мы даехалі да маскоўскага вакзала і спыніліся ля доўгай лініі вагонаў. Я не мог глядзець уперад, але налічыў прынамсі дзесяць вагонаў за тым, у які сеў. Гэта былі вагоны для вязьняў, з такімі ж купэ як і ў звычайных, але без вокнаў, а замест дзьвярэй на калідор былі жалезныя краты. Турэмшчыкі, пераважна маладыя жаўнеры, разьмяшчаліся па канцах вагонаў.

Я апынуўся ў купэ, дзе ўжо было больш за дваццаць чалавек. Толькі ўвайшоў у дзьверы, з маіх рук вырвалі валізку зь мяшэчкам і загадалі сесьці ў куце. Гэта здарылася так хутка, што я не здолеў зрэагаваць. Я агледзеўся навокал і адразу распазнаў маіх спадарожнікаў: гэта былі маладыя зладзеі і крымінальнікі, якія жылі па сваіх парадках і законах і лічылі ўсіх іншых проста жывёламі. Аднак, калі сеў у куце, то пабачыў, што мая валізка і мяшэчак таксама былі пакладзеныя там жа.

Большасьць зладзеяў і крымінальнікаў, зь якімі я спатыкаўся, цалкам адрозьніваліся ад палітычных вязьняў, якімі зрэшты пагарджалі. Яны ўмелі выкарыстоўваць тыя сітуацыі, у якія траплялі. Вельмі мала выказвалі павагі да кожнага, і асабліва да турэмшчыкаў, якім увесь час назалялі і на іх лаянку адказвалі тым жа самым. Аднак між сабою слухаліся загадаў тых, хто быў досыць моцны каб імі кіраваць.

Завадатарам менавіта гэтай групы быў нізкі, плячысты і пануры тып, з чорнымі як вугаль вачыма, якія зыркалі з-пад ілба. Меў на сабе толькі ніжнюю кашулю і нагавіцы, а на нагах нешта накшталт пяньковых лапцяў. Ягоныя рукі, плечы, нават грудзі, бачныя з-пад кашулі, былі ў татуіроўках. Ён нікога не баяўся і атрымоўваў задавальненьне, даводзячы да шаленства турэмшчыкаў. На кожнай станцыі стукаў у краты і патрабаваў вады, папяросаў альбо ежы. Нават пералічваў стравы, якія сабе жадаў. Калі турэмшчыкі не зьярталі на яго ўвагі, патрабаваў так доўга, аж пакуль не атрымоўваў які-небудзь адказ.

Я спакойна сядзеў у сваім куце, імкнучыся пільнаваць свой багаж. Зладзеі бесперапынна за мной назіралі і ўрэшце два памочнікі шэфа зьмянілі месцы і ўселіся ля мяне. Мне загадалі куды-небудзь перасесьці, бо для ўсіх іх месца было недастаткова. Я быў адзіным палітычным вязьнем у тым зладзейскім зацемку, прыйшлося перасесьці. Адразу ж расчынілі маю валізку, пераглядўзелі ўсё яе змесьціва і адклалі ўбок некалькі рэчаў.Робячы заўвагі каб рассьмяшыць банду,забралі пару кашуль, швэдар і пару штук новай бялізны. У канцы зачынілі валізку і загадалі мне вярнуцца і сесьці на ранейшае месца. Здабычу занесьлі шэфу, які падміргнуў ім, устаў і застукаў у дзіверы. Калі прыйшоў турэмшчык, нахіліўся і пачаў штосьці шаптаць яму на вуха. Той затрос галавой. З-за шуму цягніка я нічога не чуў, акрамя таго зладзеі крычалі і сьвішчэлі, але зразумеў, што шэф хоча ажыцьцявіць нейкі гандаль — мае рэчы на ежу. "Ого, што робіцца сярод белага дня ",— сказаў я сабе. Скардзіцца турэмшчыку было безсэнсоўна, таму што я павінен знаходзіцца ў гэтым вагоне яшчэ прынамсі нейкі час і можна ўявіць як бы адпомсьцілі зладзеі.

Нарэшце турэмшчык адыйшоў, яўна не згодны. Аднак трохі пазьней да дзьвярэй падыйшлі двое іншых і завадатар аддаў ім вузельчык з маімі рэчамі. Пасьля наступнага прыпынку ён пачаў неспакойна нахіляцца да дзьвярэй, выстаўляючы галаву праз прэнты кратаў, выглядаючы ў калідоры турэмшчыкаў, з каторымі зрабіў гэшэфт. Нарэшце яны прайшлі калідорам з рукамі, поўнымі хлеба, каўбасы, рыбы, тытуню, масла і некалькімі пачкамі папяросаў.

Адразу, быццам цудам здабытая немаведама адкуль, зьявіліся чыстыя курткі і кашулі. Каб не запэцкаць ежу, іх расклалі на сядзеньнях. Завадатар сеў, выцягнуў нож (што было строга забаронена) і пачаў кроіць хлеб на роўныя порцыі разам з каўбасой, рыбай і кавалачкам масла на кожнай зь іх. Сам ён атрымаў, вядома, ільвіную частку. У мой бак ніхто не глядзеў, здавалася нічога не паказвала на тое, што я існую.

Калі ўжо пажэрлі ўсё, што было перад імі, пачалі патрабаваць вядро вады. Турэмшчык прынёс. Завадатар узяў для сябе бляшаны кубак, прыкуты да вядра, пасьля чаго пусьціў вядро па руках, каб астатнія маглі зь яго напіцца. Потым некаторыя вынялі карты і малымі групамі пачалі гуляць. Завадатар запаліў і выпадкова глянуў па-над папяросай на мяне. І тады, быццам выконваючы міласэрны ўчынак, узяў кавалак цьвілога хлеба і праз пасыльнага перадаў яго мне з заўвагай: "Дай гэта таму бруднаму фашысту!" Я быў такі разьюшаны, што хацеў адмовіцца, але ў той жа час быў такі згаладалы, што ўзяў хлеб і прагна зьеў. Усе разрагаталіся, а потым перасталі зьвяртаць на мяне ўвагу.

Паступова цямнела, а я сядзеў у сваім куце, пазіраючы на мутнае сьвятло, заварожаны ўсімі гэтымі падзеямі, пачуваючыся ў гэтай бандзе зладзеяў кепска. Разьдзіраны падвойным пачуцьцём непакою і цікаўнасьці, абдумваючы, што мяне яшчэ чакае, пачаў маліцца. Я зноў цалкам паклаўся на сваю веру ў Бога. Пад канец задрамаў, стомлены і галодны за гэты, поўны дзіўных падзеяў, дзень, у атачэньні зладзеяў, якія голасна брыдкасловілі над сваімі картамі.

Назаўтра раніцою цягнік затрымаўся на нейкай таварнай станцыі. Мы сядзелі, услухоўваючыся ў скрыгат колаў, шум скрыпучых дзьвярэй, сірэны паравозаў, няспынны рух, што панаваў на станцыі. Раптам мы пачулі рытмічны стук жаўнерскіх крокаў, маршыруючых "гусіным маршам" у нямецкім стылі. Зладзеі адразу ж зарыентаваліся дзе мы знаходзімся.

— Гэта ідуць турэмшчыкі з Волагды, — сказалі яны.

Атрад прыбыў разьмераным крокам, у новых мундурах колеру хакі з адмысловымі распазнавальнымі знакамі, высокіх скураных ботах і круглых фуражках з сінім верхам і чырвонымі аколкамі. Праз хвіліну яны былі ўжо ў цягніку і нейкі афіцэр загадным, распарадчым тонам аб'явіў:

— Падрыхтуйцеся да высадкі, захоўвайце парадак і абсалютнае маўчаньне. Вы пераходзіце пад добрай аховай і за кожнае парушэньне загадаў у час пераходу будзеце строга пакараныя.

Нам загадалі пакінуць цягнік. Адзін за адным мы ішлі па станцыі аж пакуль не дайшлі да наступнага шэрагу турэмшчыкаў з Волагды, якія стаялі на станцыйнай плошчы з аўтаматамі, гатовымі да стральбы. Калі нас пашыхтавалі, адзін вязень з іншага вагону заўважыў, што я не маю абутку. Сунуў мне ў руку пару пяньковых лапцяў, шэпчучы:

— Абуй іх!

Пакуль я завязваў шнуркі, далі загад рухацца. Дарога была з выбоінамі, асабліва ля станцыі, і я быў удзячны за гэтыя сандалі. Нам загадалі амаль трушком бегчы, а канваіры, некаторыя зь іх вялі на шворках сабак, прымушалі нас трымаць гэты тэмп усю дарогу, якая вяла да знакамітай перасыльнай турмы ў Волагдзе, старога будынку ў гэтакім жа вельмі старым горадзе.

Уступныя фармальнасьці былі ў Волагдзе іншымі, чым у турмах Масквы. Канваіры тут былі цалкам упэўненымі ў сабе. Калі ўжо ўзялі групу вязьняў, то не клапаціліся іх зноў пералічваць, а проста перадавалі групу і дакументы турэмнай адміністрацыі. Паводле чуткаў, якія віравалі па турмах, яны яшчэ ніколі не згубілі ні адзінага вязьня. Шмат хто спрабаваў уцячы і ўсе былі альбо затрыманыя сабакамі альбо застрэленыя. Таму турэмшчыкі з Волагды былі знакамітыя сярод вязьняў дасьведчанасьцю ў сваім рамястве і сваімі прафесійнымі метадамі. Яны не былі вылюдкамі, але ганарыліся сваёй рэпутацыяй і моцна яе ашчаджалі.

Перасыльная турма ў Волагдзе складалася зь вялікіх камераў на першым паверсе, цёмных і вільготных, з тоўстымі і сьлізкімі сьценамі, як у старых цямніцах галівудзкіх фільмаў. Там, калі прыйшлі, праверылі нашы дакументы, якія канваіры аддалі турэмным уладам. Запытвалі нашы імёны і прозьвішчы, год арышту, абвінавачваньне, колькасьць гадоў пазбаўленьня волі, хто выдаў вырак — суд ці адміністрацыйная ўлада. Потым нас яшчэ спыталі, ці хочам мы скласьці скаргі наконт суду, выраку, утрыманьня і г.д. Урэшце запыталі, ці хочам лекара. Тут, у Волагдзе, лекарскі агляд рабіўся толькі па жаданьню — запісвалі прозьвішча і пазьней выклікалі на агляд.

Пасьля чарговага кантролю нас перавялі ў іншае памяшканьне і разьдзялілі на малыя групы. Як толькі зьбіралася дваццаць вязьняў, іх адпраўлялі ў камеру. Гэта былі вялікія залы, прыкладна трыццаць на дзевяць метраў. Там, высока на сьцяне супрацьлеглай дзьвярам, было шэсьць закратаваных вокнаў, як звычайна заслоненых скрынямі. У камеру вялі толькі адны дзьверы. Пасярэдзіне іх знаходзілася закратаваная амбразура, заслоненая звонку кавалкам бляхі. Камера мела пануры выгляд, дошкі падлогі, блага дапасаваныя

адна да адной, трашчалі і выгіналіся пад нагамі. Чатыры тоўстыя драўляныя бэлькі ўсярэдзіне камеры падтрымлівалі вельмі высокую столь. Сьцены атынкаваныя і на іх бачныя надпісы, надрапаныя і накрэсьленыя так высока, як толькі маглі дастаць чалавечыя рукі. Разам з датамі прыбыцьця і пакіданьня былі прозьвішчы тых, хто тут некалі сядзеў. Яшчэ былі кароткія патэтычныя надпісы: "Калі ўбачыш таго і таго, скажы яму, што бачыў гэта прозьвішча ", "Калі будзеш там і там, пашукай таго і таго і паведамі яму, што тут быў яго сын". Да гэтага апошняга надпісу іншая рука дапісала:"А таксама і яго дачка". Сьцены былі сапраўднай турэмнай дошкай аб'яваў. Рана ці позна кожны павінен быў трапіць у Волагду і па дарозе да месца свайго прызначэньня правесьці там нейкі час. Таму тыя запіскі ўтрымлівалі такі зьмест, як "такі і такі памёр на Лубянцы". Гэта пісалася з надзеяй, што сваякам ці сябрам будзе аб гэтым паведамлена.

Калі наша група прыйшла ў камеру, там было ўжо каля ста дваццаці чалавек, якія сядзелі або ляжалі на падлозе, бо ложкаў не было. У Волагдзе знаходзіліся розныя людзі, якія чакалі перасылкі кудысьці далей.У нашай камеры большасьць складалі палітычныя, але было сорак ці пяцьдзесят зладзеяў і крымінальнікаў, як заўсёды скупіўшыхся ў адным куце камеры.Камера ў сапраўднасьці была серыяй малых гетаў. Кожная нацыянальнасьць зьбіралася ў адным месцы, а навапрыбылыя круціліся навокал пакуль не знаходзілі суайчыньніка: летувіс-летувіса, расеец— расейца і г. д. Былі таксама палякі, жахары Каўказа і латышы. Усе ўтваралі нацыянальныя групы.

Тут, у Волагдзе, турэмшчыкі зьвярталі на нас мала ўвагі. Мы былі перасыльнымі вязьнямі, што чакалі транспарту кудысьці далей, таму дысцыпліна не была занадта строгай. Групы маглі знаходзіцца тут ад аднаго дня да шасьці месяцаў, у залежнасьці ад таго, калі прыбылі. Бо менавіта тут, у Волагдзе, фармаваліся этапы, або брыгады працы ў розныя лагеры і розныя акругі. Часам, калі этап быў чымсьці асаблівым, фармаваньне яго магло зацягнуцца на доўгі час. Аднак яго ніколі не фармавалі ў дзень прыбыцьця групы.

Такія ўмовы няспыннай сумятні і аслабленай дысцыпліны былі як быццам наўмысна створаны для зладзеяў, якія мелі сваю арганізацыю і тая заўсёды ахвотна іх прымала. Праз паўгадзіны пасьля нашага прыбыцьця пяць бандытаў у татуіроўках выйшлі з кута камеры і абступілі групу.

— Што там у вас? Пакажыце! — пачалі яны абшукваць новапрыбылых, загадаўшы нам адчыніць свой багаж, быццам былі мытнікамі. Калі хтосьці меў на сабе добрае адзеньне, яму загадвалі

зьняць яе і памяняць на старую. А калі прыбыўшы насіў старую вопратку, зладзеі настойвалі на пераглядзе ягонага пакунку.

У турме было горача, так што ўсе мелі на сабе толькі нагавіцы, а вышэй паса голыя і пазьбягалі нават самых малых рухаў. Гарачыня і вынікаючая зь яе апатыя большасьці людзей рабілі справу зладзеяў лягчэйшай. Калі наблізіліся да мяне, я агледзеўся ў пошуках дапамогі, але мае суседзі глядзелі ўбок. Такім чынам, "камісія " забрала ў мяне тое, што пакінулі зладзеі з цягніка, і ў канцы абходу камеры была ўласьніцай стосу вопраткі новапрыбылых.

Аднак у той дзень іх чакала неспадзеўка. Шыракаплечы малады чалавек, на выгляд жаўнер, устаў у сярэдзіне камеры і загадным тонам скамандаваў:

— Брацьця! Памятайце, хто мы ёсьць і кім былі! Я быў маёрам танкавай дывізіі, не баяўся варожых бомбаў, стрэлаў і іншай небясьпекі. Зараз я тут, але я чалавек! Большасьць з вас былі жаўнерамі на фронце. Ці вы дазволіце гэтым зладзеям, гэтым бандытам абдзіраць сябе? Хай усе, хто абрабаваны гэтымі шакаламі і зьяўляюцца настолькі мужчынамі, каб ісьці за мной, рушаць. Уперад!

Натоўп у стыхійным парыве кінуўся за ім у кут зладзеяў і прыціснуў крымінальнікаў да сьцяны.

— Ну, далей,— закрычаў жаўнер,— кожны забірае свае рэчы!

На гэта зладзеі кінуліся ратаваць сваю здабычу і завязалася бойка. Раздаліся крыкі, пасьля іх лаянка і енкі болю. Адразу з настаўленай зброяй уварваліся турэмшчыкі, зі імі рэзервовая ахова, а ў канцы сам начальнік.

Калі парадак быў наведзены, начальнік загадаў усім пашыхтавацца пры сьцяне. Калі запытаўся, што здарылася, маёр з неўтаймоўным шаленствам апісаў прыём, які зрабілі нам крымінальнікі. Іншыя вязьні пацьвердзілі ягоныя словы. Да гонару начальніка трэба сказаць, што ён адразу загадаў аддзяліць злодзеяў-завадатараў, пасьля чаго іх вывелі. Рэчы, забраныя ў вязьняў бандытамі, пад уважлівым позіркам маёра былі вернуты. Урэшце ён, разам з іншымі палітычнымі, прыняў замест зладзеяў каманду над камерай.

Ад гэтага выйгралі ўсе. Дагэтуль зладзеі займаліся дзялёжкай харчаваньня і ільвіную долю забіралі сабе. Згодна са словамі вязьняў, так было паўсюль. Зладзеі былі заўсёды арганізаваныя і таму тэрарызавалі безабаронных палітычных, бо ім ніхто не перашкаджаў.

Больш часу, чым дзесьці яшчэ, у дзённым раскладзе ў Вологдзе займалі гутаркі і абмен інфармацыяй. Вязьні прыбывалі няспынна і кожны спадзяваўся, што калі не спаткае сяброў у месцы свайго прызначэньня, то прынамсі хтосьці з камеры здолее пераказаць

паведамленьне аб ім. Адным з тых, хто ахвотна выступаў, быў афіцэр па прозьвішчу Булатов. Ён ваяваў пад кіраўніцтвам генерала Власова, абаронцы Ленінграда, які разам з усёй сваёй арміяй перайшоў на бок непрыяцеля, далучыўшыся да Гітлера. Булатов з раніцы да вечара паліў люльку і чым больш клубоў дыму зь яе выпускаў, тым страшнейшым станавілася яго апавяданьне. Як толькі ён пачынаў, усе паблізу адразу змаўкалі.

Аднойчы ён распавёў нам, што дэзерціраваўшы, Власов папрасіў фюрэра даць яму волю ў барацьбе супраць Расеі. Гітлер дазволіць гэтага не хацеў. Закамандаваў выслаць ягоныя атрады ў якасьці карных батальёнаў для падаўленьня бунтаў ваеннапалонных у Польшчу, у Чэхаславаччыну і ў балканскія краіны. А яшчэ яны служылі катамі ў канцэнтрацыйных лагерах, асабліва пры зьнішчэньні габрэяў.

Жахлівыя аповяды Булатова не былі скончаны. Гэтак жа як і наша знаходжаньне ў Волагдзе, яны былі раптоўна перарваныя загадам падрыхтавацца да этапу, іншымі словамі — да брыгады.Усе пазьбіралі свае рэчы і пазьвязвалі іх у вузельчыкі. У апошнія хвіліня растаньня пасьпешна абменьваліся інфармацыяй для пераказу іншым вязьням. Мы выпраўляліся ў падарожжа, канца якога ніхто не ведаў, толькі быў ўпэўнены, што яно доўгае і што шмат хто зь яго ўжо не вернецца.

Турэмшчыкі вывелі нас на падворак, дзе мы, шукаючы знаёмыя твары ці зьвесткі ад сяброў, зьмяшаліся з вязьнямі іншых камер. Я шукаў зьвесткі аб якім -небудзь іншым сьвятары тут, у Волагдзе, але безвынікова. Спаткаў некалькі палякаў і размаўляў зь імі, калі да мяне падыйшоў расейскі службовец. Ён здаваўся вельмі добразычлівым да мяне, але цікавіўся маёй валізкай больш, чым мною. Спытаўся наўпрост, ці прадам я яе. Гэтую валізку я атрымаў ад пабрацімаў-езуітаў у 1934 г., калі выяжджаў у Рым, але яна была яшчэ ў выдатным стане.

Палякі, што былі навокал мяне, адразу пачалі па-польску даваць парады.

— Гэта добрая валізка, за яе ў дарозе можна дастаць шмат хлеба. Не прадавай яе цяпер.

Расеец цярпліва чакаў перапынку ў нашай польскай гутарцы, потым запытаў:

— Ну і што з нашым гандлем?

Згодны з парадамі, я быў сьхільны не аддаваць валізку, думаючы пра хлеб, якім яна магла б забясьпечыць у час доўгага падарожжа на ўсход, але ўзгадаў здарэньне ў цягніку, якім прыехаў у Волагду, калі мае валізку і вузельчык выхапілі і абрабавалі зладзеі.

Ведаў, што тое ж самае лёгка магло здарыцца зноў і гэтым разам я мог не мець шчасьця валізку вярнуць.

— Але калі аддам яе вам, — сказаў я, — у чым буду трымаць свае рэчы?

— Гэта лёгка,— адказаў ён, — хвілінку пачакайце тут.

Зьнік у адным з турэмных будынкаў і вярнуўся з палатняным мехам, які меў ручкі.

— Ці падыдзе ён вам? — запытаўся.

— Згода, — адказаў я.

— Тады колькі я вам вінаваты? —

Я ведаў, што ён, калі б захацеў, мог проста забраць валізку, таму ацаніў ягоную прапанову.

— Нічога вы мне не вінаваты. І так я раней ці пазьней страціў бы яе.

— Не хочаце грошай? — спытаў ён.

— Не, што б я зь імі рабіў? Мабыць, забралі б у працоўным лагеры.

— Пачакайце яшчэ хвілінку, — сказаў, махнуўшы рукой.

З валізкай пабег у будынак і вярнуўся з боханам хлеба. Прасіў прабачыць за тое, што не здолеў даць болей, а потым падзякаваў мяне за маю шчодрасьць. Такім чынам, у Волагдзе мая амэрыканская езуіцкая валізка стала належыць расейскаму войску і з таго часу я падарожнічаў зь лёгкім багажом.

Замест таго, каб захаваць хлеб на дарогу, я паламаў яго на кавалакі і падзяліў між польскімі прыяцелямі. Хлеб яны прынялі ахвотна, але рабілі мне заўвагі што валізку аддаў затанна.

— Чаму так зрабілі? Тая валізка была варта як найменей паўтузіны боханаў на дарогу.

— Ну што ж? — адказаў я. — Што было, тое сплыло. Прынамсі не буду хвалявацца, што яе ў мяне ўкрадцць.

Адразу пасьля прыезду ў Волагду я папрасіў пару чаравікаў. Толькі зараз, калі мы рыхтаваліся выехаць, мне прынесьлі пару старых, на два ці тры нумары большыя чым трэба, але гэта быў абутак. Калі я нахіліўся, каб іх зашнураваць, турэмшчык крыкнцў:

— Устаць!

Шэрагі вязьняў ужо рушылі, і ў той момант, калі я дагнаў мой шыхт, хтосьці падаў мне мой мяшок. Мы выходзілі і махалі рукамі тым, хто заставаўся ў турме, яны адказваючы на разьвітаньні і дадаючы нам адвагі, высоўвалі з вокнаў рукі і прыцiскаліся да кратаў тварамі. Нашым эскортам зноў былі турэмшчыкі з Волагды. Мы яшчэ раз прысьпешаным крокам прайшліся па вуліцах Волагды да вакзала.

Пуці былі цалкам забітыя таварнымі вагонамі. Мы ведалі, што тыя, хто пайшоў перад намі ўжо загружаныя, бо дзьверы вагонаў былі пазамыканыя і цягнік пільнавалі турэмшчыкі. Наша група была вымушана спыніцца ўздаўж пуцей і чакаць адказных за пагрузку. Была страшэнная сьпёка, як у сярэдзіне чэрвеня, нават сабакі турэмшчыкаў яе адчувалі. Стаялі з высалупленымі языкамі і хакалі, але пільнасьць не гублялі. Як толькі хто-небудзь з вязьняў варушыўся каб пакласьці свой клуначак ці зьмяніць позу, сабакі паварочваліся і назіралі за ім. Урэшце адказныя прыйшлі, зрабілі пераклічку і разьмеркавалі нас па розных вагонах. Адзін за адным мы забіралі нашыя каштоўныя клуначкі з лахманамі і крошкамі хлеба і ўзьдзіраліся ў вагоны.

Гэта былі сапраўдныя турэмныя вагоны і служылі яны для перавозкі вязьняў з Волагды ў Сібір. Таварныя вагоны абсталёўваліся бэлькамі, якія цягнуліся з аднаго канца ў другі і пакрываліся насьцілам з дошак. Яны ішлі ў два рады і трэба было хуценька вырашаць — ці выбраць насьціл уверсе, каб можна было выглядаць праз адно з чатырох акенцаў пад дахам вагона, ці ўнізе, бліжэй да падлогі, каб мець магчымасьць вальней рухацца. Былі таксама двухпавярховыя насьцілы ўздоўж сьцен з дзьвярыма, але яны былі вельмі вузкімі. Пасярэдзіне знаходзілася печачка, комін якой выходзіў з вагона праз дзірку ў даху. У гэтую чэрвеньскую сьпёку яна нам была непатрэбная. Яшчэ адным прадметам была параша ля дзьвярэй. З абодвух канцоў вагона па-за памяшканьнем для вязьняў знаходзіліся невялікія платформы для турэмшчыкаў, якія павінны былі падарожнічаць з намі ўсю дарогу.

У вагонах вязьні выбіралі сабе месцы, імкнучыся па — магчымасьці знайсьці знаёмых. З трыццаці чалавек, што запоўнілі вагон, дзесяць былі звычайнымі крымінальнікамі, астатнія — палітычнымі вязьнямі. Як заўсёды, старастам вагону, прызначаным турэмшчыкамі, быў крымінальнік, у той раз па прозьвішчу Волков. Зладзеі заўсёды былі прывілеяванай групай, прывілеяванай у тым сэнсе, што ім удавалася ашукваць турэмшчыкаў. У выніку яны станавіліся гаспадарамі сітуацыі.

Волков агалосіў атрыманыя ім аб'явы: у выпадку якіхсьці спробаў уцячы, або прыкметаў падрыхтоўкі ў вагоне да ўцёкаў — расхістваньне дошкі, дзірка ў вагонных кратах ці нейкае пашкоджаньне дзьвярэй — вінаватыя будуць пакаранымі. Кара не была вызначанай, але відавочна значыла павелічэньне тэрміну выраку, г.зн. даўжэйшае знаходжаньне ў працоўным лагеры. Слухалі

мы тыя інструкцыі ў паўвуха, гэтыя перасьцярогі былі такімі простымі, што не патрабавалі паўтарэньня.

Усю гэтую сьпякотную другую палову дня цягнік стаяў на пуцях. Але як толькі нас загрузілі, дзьверы замкнулі і ў вагоне стала нязносна душна. Неўзабаве людзі параспраналіся дагала. Я выбраў сабе месца на верхніх нарах у канцы, супрацьлеглым таму, які займалі крымінальнікі.

Маімі спадарожнікамі былі тры маладыя жаўнеры, арыштаваныя ў Нямеччыне за самавольную адлучку.

Я прадставіўся амэрыканцам і яны засыпалі мяне пытаньнямі пра Амэрыку. Яны служылі ў той вайсковай частцы Савецкай Арміі, якая ў Нямеччыне сустрэлася з амэрыканцамі, увесь час хвалілі амэрыканскіх жаўнераў і амаль не слухалі пра жыцьцё ў Амэрыцы, якое іх зьдзіўляла і ўражвала. Каб паслухаць пра Амэрыку, вакол пачалі зьбірацца іншыя, і хутка я ўжо распавядаў палове вязьняў, што месьціліся ў вагоне.

І зноўку здарылася так, што зладзеі кіраваліся сваім правам. Маладыя атачылі Волкава як кураняты квактуху, засьцілалі яму нары, мялі падлогу, мылі посуд і выконвалі ўсе ягоныя загады. Зрэшты, банда гэтая была вельмі недысцыплінаваная. Іх шумныя гульні ў карты звычайна заканчваліся бойкай, спыніць якую ўмеў толькі Волков. Ягоныя рашэньні прымаліся без дыскусій. Калі камусьці з маладых нешта не падабалася, ён атрымоўваў кухталя і такім чынам усё прымалася без супраціву.

Насуперак абяцанкам штодзённа даваць тры разы харчаваньне, яго прыносілі толькі тады, калі цягнік спыняўся, бо кухня знаходзілася на канцы цягніка. Часам нам давалі падвойную порцыю хлеба, якой, як нам паведамлялі, павінна хапаць на два дні. Часьцей за ўсё многа пазьней апоўдня нам давалі разам наш суп і кашу і тады мы ведалі, што гэтым вечарам прыпынку і вячэры не будзе. Ваду давалі таксама толькі раз на дзень, і тады кожны піў так шмат, колькі мог. Некаторыя жаўнеры мелі свае конаўкі і напаўнялі іх, і яшчэ ўвесь дзень у вагоне стаяла вядро вады.

Натуральна, не было ніякай гігіены, нават у самай прымітыўныай форме. Нельга было пачысьціць зубы, а пазногці, каб не набіваўся бруд, абгрызалі. Калі прыносілі сьвежую ваду, прамывалі ад пылу і поту вочы, чэрпаючы жменяй зь вядра. Канечне, ў такім падарожжы разьвяліся паразіты, і праз некалькі дзён кожны з нас машынальна драпаў у розных частках цела. А яшчэ мы пакутвалі ад ран на нагах, на сьпіне і кумпяках, бо не было дзе рухацца і нельга было выйсьці зь цягніка.

Зладзеі нейкім чынам даведаліся, што мы едзем да Краснаярска, вялікага горада на Енісеі, празь які ідзе транссібірская чыгунка, і які разьмешчаны прыкладна ў цэнтры Сібіры. Ад Масквы да яго наўпрост каля тысячы дзевяцісот кіламетраў, але па чыгунцы тры тысячы дзьвесьце. Пасажырскія цягнікі праходзяць адлегласьць паміж Масквой і Краснаярскам за няпоўныя чатыры дні. Гэта час, патрэбны на падарожжа ад Чыкага да Лос Анжэлеса, і адлегласьць такая ж. Нашае падарожжа цягнулася два тыдні. Калі ўлічыць, што Волагда знаходзіцца паблізу Масквы, а Краснаярск на паўдарозе праз Сібір да Ціхага акіяна, можна сабе ўявіць, якія вялікія прасторя займае СССР.

Калі мы даведаліся, што едзем на Краснаярска, паспрабавалі ўявіць, праз якія гарады мы будзем праяжджаць, едучы транссібірскай чыгункай: Кіраў, Пермь, Сьвярдлоўск, Курган, Петрапаўлаўск, Омск, Новасібірск, Томск, Ачынск. Тыя, хто ведаў штосьці аб гэтых гарадах, рабілі апісаньне, такім чынам мы, праяжджаючы, маглі пазнаць іх, ці хоць мелі тэму для гутаркі. Каб убачыць краявід, мы шмат часу правялі стоячы на дошках і прыхіліўшы галовы да маленькіх вокнаў пад дахам вагона. Вокны заўсёды былі занятыя, нават ноччу.

Гадзінамі не было бачна нічога апрача бясконцай прасторы, пераважна балота з купінамі густой травы. Пагоркаў не было і толькі на даляглядзе віднеліся горы. Калі-нікалі паказваўся барак для рабочых, што ўтрымлівалі ў належным стане чыгуначную каляю, бо яна, як адзіная каляя, што злучае ўсход з захадам, зьяўляецца вельмі важнай. Гарадоў відаць не было. Тыя, што былі, знаходзіліся альбо пры чыгунцы, альбо на рэках і каналах, якія праціналі гэты край ва ўсіх накірунках. За выключэньнем балотаў, тая Сібір, якую я бачыў у 1946 г., нагадвала мне Дзікі Захад Амэрыкі ў перыяд, калі там будавалі першую чыгуначную каляіну.

Гарады звычайна мелі толькі адну вуліцу, вельмі гразкую, уздоўж якой стаялі старыя, тыпова расейскія дамы, пабудаваныя зь бярвеньняў альбо зь негабляваных дошак, са шчылінамі, замазанымі цэментам. Вакол кожнага дома быў агарод, хоць ва ўсіх накірунках разляглася раўніна, апрацаванай зямлі было мала. Спыняліся мы толькі ў велікаватых гарадах. Менавіта ў час тых прыпынкаў мы і атрымлівалі харчаваньне, бывала давалі ўсю дзённую норму за раз — шэсьцьсот грамаў хлеба, паўлітра супу і дзьвесьце грамаў кашы.

Дзялёжкай ежы займаўся Волкаў, а яго "хлопцы" яе разносілі. На кожны вагон давалася толькі ля дзесяці місак і драўляных лыжак і тры бляшаныя кубкі. Карысталіся імі па чарзе. Волкаў заўседы

спачатку надзяляў палітычных вязьняў, праводзячы нажом па паверхні кожнай порцыі каб упэўніцца, што яна не завялікая. Тое, што заставалася ў катле пасьля тых старанных вымярэньняў, ішло, вядома, для яго і ягоных "хлопцаў".Палітычныя пратэставалі. Патрабавалі, каб ён зьмяніў парадак раздачы, пачынаючы раз ад іх, а наступным днём ад зладзеяў. Волков адмаўляў.

Аднойчы, калі мы спыніліся на абед, выбухнуў крызіс. Пратэст быў такі рэзкі, што пачалася бойка. Волков і яго "хлопцы" выцягнулі нажы, а іншыя вязьні павырывалі з нараў дошкі. Але дзьверы былі адчынены для разноскі ежы і неўзабаве ўвайшлі турэмшчыкі. Пасьля гэтага інцыдэнту парадак раздачы зьмяніўся і ўсталявалася нешта такое, што можна было б назваць узброеным мірам.

Большую частку часу аднастайны краявід суправаджаўся гэтакім жа аднастайным падарожжам. Не было чаго рабіць, нязручныя вагоны, і пасьля некалькіх першых дзён вычарпаліся тэмы для гутарак. Дзьверы зачыняліся кепска, у сьценах і падлозе былі шчыліны і кожны адчуваў сябе брудным, потным і запыленым. Калі прыехалі ў Краснаярск, усе былі чорныя ад пылу і поту. Белымі на тварах былі толькі плямы вакол чырвоных вачэй.

У пачатку ліпеня даехалі да канца раўніны. Краявід стаў няроўны, сьхілы пакрываў густы лес высокіх хвояў і ялін. Чыгуначная каляіна праходзіла праз шматлікія тунэлі. У Краснаярск мы прыбылі яшчэ засьветла і ўсе зьбіліся ля чатырох маленькіх акенцаў каб кінуць позірк на горад над Енісеем. Рака дзяліла яго на дзьве часткі і ажно да мінулага года празь яе не было маста, за выключэньнем чыгуначнага. Пераправа паміж абедзьвума часткамі горада адбывалася з дапамогай чаўноў і паромаў. Сам горад, важны чыгуначны вузел у верхнім цячэньні Енісея, разьмясьціўся на абодвух ягоных берагах як Сэнт Льюіс на Місісіпі ці абодва Канзасы на Місуры.

На краснаярскай станцыі мы знаходзіліся амаль гадзіну. У галаве канвою выгружалі вязьняў, бо чуліся брэх сабак і каманды, кідаемыя жаўнерамі. Нарэшце нашы дзьверы адчыніліся, праведзена праверка і мы адзін за другім пачалі выскокваць. З-за недахопу нагрузак мае ногі былі слабыя, і калі мы разабраліся чацьвёркамі, мне здалося, што яны гумовыя. Турэмшчыкі Волагды якія суправаджалі нас усю дарогу, зноў пагналі нас трушком. Мы рухаліся так хутка, што я спатыкнуўся і згубіў адзін са старых чаравікаў, у якія быў абуты. Я паспрабаваў яго падняць, але турэмшчык закамандаваў мне рухацца, і яшчэ мяшэчак перашкодзіў, так што падняць згубу я не здолеў.

Сам горад мы не перасеклі, а бакавымі вуліцамі дайшлі да перасыльнай турмы, якая была за яго межамі. Турма ўяўляла папросту групу баракаў сярод поля, абкружаных у два рады калючым дротам. Нам загадалі сесьці і заставацца ў групах не зьмешваючыся з іншымі вязьнямі. Змораныя такім хуткім маршам, якім нас прагналі пасьля двухтыднёвага стану нерухомасьці, мы з задавальненьнем расьцягнуліся на зямлі.

Я сядзеў, удыхаючы сьвежае паветра, калі да мяне падпоўз нейкі вязень з маім чаравікам. Падміргнуў мне і прашаптаў:

— Наступным разам шнуруй яго мацней, — пасьля чаго вярнуўся ў сваю групу.

За свой учынак ён быў падвергнуты рэзкай лаянцы з боку турэмшчыка і гэта мяне моцна ўзрушыла.

Нарэшце мы здолелі памыцца ў душы і пастрыгчы валасы. І ўжо ў час дэзінфекцыі нашай вопраткі, мы стаялі голыя, але зноў адчуваючы сябе людзьмі. З-за таго, што вязьняў было вельмі шмат, гэтая аперацыя цягнулася вельмі доўга, а калі ўсе групы закончылі, быў прынесены кацёл супу. Ні місак, ні лыжак не было, таму некаторыя вязьні дасталі са сваіх клункаў старыя бляшанкі з-пад кансерваў, якія пазьбіралі на станцыях, і яны паслужылі і тым і другім. Іржавыя і дзіравыя, яны пасьля ўжываньня, каб нічога не прапала, былі кожным вылізаныя, выцертыя шапкай ці рукавом, і перададзеныя суседу.

Адзін з палякаў нашай групы, яго клікалі Анджэй, вясёлы хлопец, калі скончыў есьці, даў бляшанку мне. Калі я вярнуўся са сваёй порцыяй, ён сказаў, каб я як мага хутчэй праглынуў яе і ішоў за ім. Перайшоўшы на другі бок групы, ён зьняў куртку, выцягнуў са свайго клунка іншую кашулю і пайшоў за новай порцыяй. Зьеў яе і зноў даў мне бляшанку, але спрабаваць гэты манеўр я збаяўся. Свой клуначак я пакінуў у групе і не меў зменнай кашулі.

— Ідзіце, — настойваў Анджэй. — Мы тут новыя і яны не здолеюць адрозьніць аднаго з нас ад другога.

Я быў досыць галодны, каб не зважаць на наступствы. Калі працягнуў сваю бляшанку, раздатчык напоўніў яе нават не зірнуўшы на мяне. Я так зьдзівіўся, што ледзьве не ўпусьціў бляшанку. Калі скончыў з супам, Анджэй пайшоў і паўтарыў свой манеўр. Цяпер, аднак, кацёл быў амаль пусты і раздатчык нешта западозрыў. Я вырашыў, што спрабаваць шчасьця яшчэ раз будзе занадта рызыкоўным. Пасьля ежы на падворку паставілі шэраг доўгіх сталоў. Адно за другім выклікалі нашы прозьвішчы і мы ставалі перад сталом каб адказаць на звыклыя пытаньні і падвергнуцца інсьпекцыі "камітэту",

утворанага з тутэйшай адміністрацыі і прадстаўнікоў паўночных лагераў, якія прыбылі каб "наняць" тых, хто здаваўся ім здольнымі да працы. На падворку было вельмі горача і шмат хто з вязьняў паздымалі кашулі каб атрымаць крыху сонейка. Прыглядзеўшыся да іх, я заўважыў, як моцна ўсе былі схуднелыя і змарнелыя, цяжка адрозьніць аднаго ад другога. Аднак знаўцы за сталамі ведалі, чаго шукалі, і паведамлялі свой выбан лагернай адміністрацыі.

Раптам я пачуў, як начальнік усклікнуў:

— Ліпіньскі!

Падыйшоў да стала. Мяне спыталі аб імені і прозьвішчы. Я адказаў:

— Ліпіньскі, Уладзімір Марцінавіч.

— А што гэта за іншае прозьвішча тут знаходзіцца? — запытаўся начальнік.

— Цішэк, — адказаў я, спрабуючы сьkeміць што да чаго.

Ён запытаўся ў мяне пра год арышту, вырак і абвінавачваньне. Калі я адказаў, зноў паглядзеў на паперу.

— Ах, шпіён Ватыкану, — прамовіў. — Станьце там.

Я накіраваўся да стала, дзе сакратары запаўнялі адпаведныя дакументы. Гэта былі таксама вязьні, у большасьці даўнейшыя настаўнікі і бухгалтары. Замест адпраўкі ў працоўныя лагеры іх трымалі тут, у Краснаярску, каб дапамагалі ў папяровай працы, важнай у тым асяроддзі, дзе вязьняў разьмяркоўвалі па паўночных лагерах. Адзін з сакратароў, пачуўшы як начальнік назваў мяне шпіёнам Ватыкану, паглядзеў з цікаўнасьцю. Гэта быў малады габрэй са Львова, ён, не варушачы вуснамі, зьвярнуўся да мяне па-польску, адначасова запісваючы дадзеныя ў сваіх паперах.

— Вам прызначаны катаржныя работы ў Нарыльску, — паведаміў ён. — Ці вы не сьвятар?

Я кіўнуў галавой.

— Слухайце, — працягваў ён, — зараз будзе лекарскі агляд, а адным з галоўных лекараў зьяўляецца паляк зь Ліды (горад недалёка ад Альбярціна), д-р Бароўскі. Не ведаеце яго?

Адмоўна хітнуў галавой.

— І ўсё ж запамятайце прозьвішча і старайцеся падчас агляду падыйсьці да яго. Дайце яму зразумець, што вы — сьвятар. Можа быць ён дапаможа вам атрымаць лягчэйшую працу, або нават, замест паездкі на поўнач, застацца тут, у Краснаярску. Пэўна я вас яшчэ спаткаю ў лагеры, але на ўсялякі выпадак зычу шчасьця.

У гэты час да стала наблізіўся новы вязень і я мусіў адысьці. Турэмшчыкі адразу забралі мяне на лекарскі агляд, які адбываўся ў

намёце, што быў як бы працягам турэмнага шпіталю. Намёт быў адчынены, але амаль не было ветру і паветра ў ім сьмярдзела алкаголем і эфірам. Большасьць лекараў былі таксама вязьнямі, якіх пры патрэбе затрымалі ў Краснаярску.

Кожны зь іх браў пацыента па чарзе, адпаведна таму, як пасоўваўся шэраг. Я спрабаваў вылічыць польскага доктара зь Ліды. Урэшце спытаўся ў аднаго з памочнікаў:

— Каторы тут д-р Бароўскі?

Глянуў у паказаным мне накірунку і пастараўся прасунуцца да шэрагу, што належыў яму. Калі ён скончыў з чарговым пацыентам, вязень, што стаяў перада мной сьціраваўся да яго, але я апярэдзіў і падскочыў да перагародкі доктара. Вязень вылаяўся па майму адрасу, але я нават не павярнуў галавы.

Д-р Бароўскі глянуў на мяне і запытаўся па-расейску, але з моцным польскім акцэнтам:

— Што вас непакоіць?

Лекары былі вязьнямі, таму іх пільнавалі расейскія лекаркі і яшчэ побач былі турэмшчыкі. Так што я мусіў быць асьцярожным.

— Болі ў сэрцы, — адказаў я.

Д-р Бароўскі з дапамогай стэтаскопу пачаў выслухоўваць маю грудную клетку.

— Ці баліць тут? — спытаўся па-расейску. — А тут?

— Не, — адказаў я па-польску. — Вось у гэтым месцы.

Доктар кінуў на мяне хуткі позірк і адвярнуўся паглядзець хто ля яго ёсьць. Калі зноў працягнуў агляд, я дадаў на лаціне:

— Polonus sacerdos.

Ён, у знак таго, што зразумеў, нахіліў галаву. Пасьля гэтага пачаў доўгі, падрабязны агляд, сантыметр за сантыметрам, мармычучы ўвесь час па-польску, як быццам сам з сабою, толькі даволі голасна, каб я здолеў пачуць. Запытаўся, адкуль прыбыў і я адказаў:

— Альбярцін.

Ён паведаміў, што жыў недалёка адтуль, у Лідзе.

— Прапішу вам пару лекаў, — прамовіў пазьней, — і з маім сакратаром пойдзеце па іх у лазарэт.

З маладым чалавекам я пайшоў у паказаным накірунку. Ён пачаў з таго, што даў мне некалькі шклянак сьвежай вады, бо сьпякота на дварэ і душнае паветра мяне вельмі аслабілі. Да гэтага дадаў праглынуць з вадой некалькі вітамінаў. Сьпяшаючыся, каб доўга не заставацца ў лазарэце і каб турэмшчык нічога не западозрыў, загаварыў, што ён сьвятар і што доктар забраў яго дапамагаць яму ў лагеры.

— Доктар, — сказаў ён яшчэ, — будзе імкнуцца затрымаць таксама і вас. Жадаю посьпеху.

Як толькі выйшлі з лазарэту, турэмшчык адвёў мяне ў вялікі прыёмны барак з невялікай колькасьцю вокнаў і двухпавярховымі нарамі. Там разьмяшчаліся вязьні на час стварэньня групаў у працоўныя лагеры. Нешматлікія вокны гэтага бараку былі герметычна зачыненыя, душнае паветра было насычана выпарэньнямі. Я засмуціўся, калі канстатаваў, што зьяўляюся ў бараку адным зь нешматлікіх палітычных вязьняў. Астатнія былі маладыя бандыты і нягоднікі, і сярод іх было некалькі старых зладзеяў, каторых яны абагаўлялі і якім падначальваліся.

Знаходзіўся там, можа, некалькі хвілін, а ўжо аднаму са зладзеяў удалося ўкрасьці з майго палатнянага мяшэчка рэшткі хлеба, якія я зьбярог, кашулю і пару шкарпэтак. Я быў у шаленстве. Пачаў даволі голасна, каб тыя хто стаяў блізка маглі чуць, казаць, што гэты заўсёдны крадзеж нязносны, што зладзеі — найгоршыя ворагі вязьняў. Адзін зь іхніх верхаводаў гэта пачуў і развязана наблізіўся да мяне.

— Што скажаце, — спытаўся з дурнаватай усьмешкай.

— Што самыя горшыя людзі, якія існуюць, зьяўляюцца зладзеі.

Ён быў у вясёлым настроі і стаяў насупраць, лёгка тупаючы нагамі, забаўляючыся перакідваючы з рукі ў руку нейкі прадмет.

— Ах, — сказаў ён, — мабыць лічыце, што тым зладзеям варта адрэзаць галовы?

— Не, але хачу каб бачылі, каго абкрадаюць.

Спадылба глядзеў на мяне.

— А вы што, нейкі асаблівы?

Ягоная пастава ўзмоцніла маю злосьць.

— Не, ніякі не асаблівы. Такі самы вязень, як і іншыя. А зло вось у чым. Мы ўсе ў аднолькавым становішчы. Калі хочам красьці, то трэба абкрадаць турму або расейцаў. Чаму абкрадаем вязьняў? І без абкраданьня ўсе маюць досыць цяжкасьцяў.

На ягоных вуснах застыла ўсьмешка і ён з хвіліну глядзеў на мяне, потым пацісnуў плячыма і адыйшоў.Па чарзе падыходзіў да сваіх маладых калегаў і перамаўляў зь імі. Я ўжо падумаў, што з гэтага зьявяцца новыя клопаты, але праз некалькі хвілінаў ён з усьмешкай вярнуўся і прынёс маю вопратку, хлеб ужо даўно быў зьедзены. Калі падаваў мне яе, усьміхаючыся сказаў:

— Слухайце, на вашым месцы я б зьмяніў меркаваньне аб зладзеях!

Я нічога не адказаў, узяў вопратку і паглядзеў на яго без усьмешкі. Тады ён зноў пацiснуў плячыма і адыйшоў. У тым бараку мяне больш не абкрадалі.

У той дзень пасьля вячэры турэмшчык выгукнуў маё прозьвішча і завёў у лазарэт, дзе накіраваў у адзін з невялікіх кабінетаў. Сам застаўся звонку. За сталом сядзеў д-р Бароўскі. За другім сталом у кабінеце сядзела маладая санітарка, падазрона пазіраючы на мяне. Доктар загадаў мне захоўваць маўчаньне і распранацца да пояса. Пасьля агляду загадаў санітарцы прыгатаваць нейкія лекі. Потым запрасіў мяне сесьці і памерыў крывяны ціск.

Калі санітарка выйшла за лекамі, д-р Бароўскі шапнуў:

— У сьпісе тых, што застаюцца тут, памясьціць вас не магу. Спрабаваў па рознаму, але гэта проста немагчыма. Мяркую, што мяне падазраюць з-за таго, што трымаю тут так шмат людзей.Я вас выклікаў сюды, каб паведаміць гэты факт. Мне вельмі прыкра.

У тую хвіліну вярнулася зь лекамі санітарка. Дала мне праглынуць некалькі пігулак і забраць з сабою бутэльку. Пад яе позіркам праглынуў пігулкі і выйшаў.

## У чэраве буксіра "Сталін"

Назаўтра раньнім ранкам у бараках аб'явілі, што фармуецца этап да Нарыльска. Нам загадалі запакаваць рэчы і сабрацца на падворку. Увесь пляц быў забіты вязьнямі. Каб у Краснаярску сабралося дастаткова канвояў і перавозка вязьняў ракой была "рэнтабельнай", шмат хто зь іх чакаў больш за месяц.Наш цягнік мабыць дапоўніў гэтую лічбу, бо выехалі мы праз два дні пасьля прыбыцьця.

Зноў на падворку былі пастаўленыя доўгія сталы камісіі. Службоўцы выкрыквалі прозьвішчы тых, хто ўваходзіў у асобныя групы. Нарэшце, доўгім і бязладным шэрагам, мы рушылі ў бок Енісея. На беразе ракі я агледзеўся, каб убачыць, што робіцца навокал. Дарогай цягнулася вялікая армія вязьняў. Іх было каля двух тысяч і яны павольна сунуліся, несучы на плячах ці сьпінах свае клункі. Ля берага ракі чакалі шэрагі баржаў. У іхныя трумы вялі сходні. Калі натоўп вязьняў прыбыў, абкружаныя турэмшчыкамі групы расьцягнуліся па беразе. Кожная чакала чаргу на пагрузку.

Службоўцы зноў праводзілі пераклічку па прозьвішчах, а вязьні падыходзілі да стала, дзе іх асоба, месца прызначэньня (Нарыльск), абвінавачваньне і вырак былі, немаведама які раз, правераныя паводле дакументаў, якія ляжалі на стале. Потым турэмшчыкі вялі іх групамі па дзесяць або па дваццаць уздоўж ракі і

загадвалі ісьці па сходнях, што вялі ў трумы баржаў. Ім увесь час дапамагалі турэмшчыкі з сабакамі — каб перашкодзіць скокнуць у ваду з мэтай уцячы або утапіцца.

Увесь той дзень я сядзеў, пазлядаючы на тое, што рабілася. Маё прозьвішча выкрыкнулі амаль пад вечар. Пасьля гэтага я прайшоў кантроль і быў уключаны ў асобную групу, якая стаяла з боку стала. Нас не завялі на баржу, а пагналі на буксір "Сталін", які меўся цягнуць баржы ў вярхоўе ракі. Па сходні перайшлі на палубу, а адтуль, як статак, сышлі праз невялікі люк унутр судна.

"Сталін" меў унутры два памяшканьні, адно перад машынным аддзяленьнем, а другое на карме. Нашу групу памясьцілі ў тым, другім. Гэта быў вялікі скляпеністы і цёмны грузавы трум з выгнутымі нарамі. Звонку дошкі былі пакрыты жалезам. Над кілём была выкладзеная з дошак падлога, паднятая на вышыню каля трох метраў над ваталініяй. Каб з аддзяленьня магла выцякаць вада, ля сьцяны дошкі заканчваліся і пад прамым вуглом, на вышыні ад дзевяноста да ста дваццаці сантыметраў, уздоўж корпуса былі бэлькі. Упоперак сьцяны машыннага аддзяленьня, унізе трапа, знаходзілася другая паліца зь негабляваных дошак, прымацаваных у пяцідзесяці сантыметрах над падлогай. Такая самая платформа была ўздоўж кармы. Усярэдзіне памяшканьня стаяў шэраг простых бэлек, якія падтрымлівалі палубу, а паабапал тых бэлек знаходзіліся платформы з тоўстых дошак, якія служылі нам для сну.

Калі мы праз люк сышлі ўніз, нашая польская група затрымалася ўнізе ля трапа ўздоўж пярэдняй перагародкі. Як заўсёды, кожны імкнуўся разьмясьціцца побач зь кімсьці знаёмым. Гэтую справу мы абмеркавалі на беразе ракі і вызначылі, што першы, хто сыдзе ўніз, пастараецца заняць пэўную прастору для іншых. Зладзеі таксама трымаліся разам і занялі нары ўздоўж кармы. Іншыя вязьні ўладкаваліся пасярэдзіне, а некалькі груп рашылася нават заняць месца ўздоўж выгнутай сьцяны ў канцы корпуса. Турэмшчыкі засталіся наверсе (два сьцераглі ўваход), а на карме знаходзіліся яшчэ дзьверы, накшталт вечка, праз якія можна было назіраць за вязьнямі. Там таксама стаялі два турэмшчыкі.

Гэта было 2 ліпеня. Грэла сонца і сьпякота стаяла амаль невыносная. Бэлькі судна былі прапітаныя смалой, якая страшэнна сьмярдзела. Адзінай вентыляцыяй зьяўляліся дзьверы на карме і люк, і яшчэ ілюмінатары, якія практычна не выкарыстоўваліся, бо знаходзіліся ўверсе пад палубай. Усе параспраналіся. Паветра было вельмі сьпёртым, сьмярдзела потам, дымам і выпарэньнямі з дошак. Адзінай выгадай побыту на "Сталіне" была судавая сталовая.

Сілкаваньне падавалі рэгулярна і пунктуальна. Паміж сёмай і восьмай гадзінамі раніцы мы мелі сьняданак: шэсьцьсот грамаў хлеба і кіпень. Паміж дванаццатай і паловай другой быў абед з паўлітры супу. У шэсьць вячэра. На борце "Сталіна" давалі асаблівы тып кашы, жоўтага колеру, вельмі папулярную ў Расеі пад назовам "пшоннай кашы". Яе гатавалі з проса, а не з аўса ці іншага збожжа.

Унутры судна было напхана чатырыста чалавек. Паварушыцца, нікога не зачапіўшы, было нельга. На гэтыя чатырыста чалавек давалі пяць бачкоў для харчаваньня і мы елі па чарзе. Як заўсёды, турэмшчыкі назначалі на раздачу зладзеяў. З нашага кута мы дакладна бачылі што рабілася. Мы заўважылі, што завадатар, які, каб пераканаць што добра ўсё зварухнуў, дэманстратыўна перамешваў суп апалонікам, ніколі не пагружаў свайго інструменту глыбей чым на трыццаць сантыметраў ад дна. Там заставалася густая фракцыя супу. Натуральна, палітычным даставалася ў першую чаргу і таму іх суп быў заўсёды рэдкі.

Два дні мы сядзелі ў тым пекле, чакалі. Палуба "Сталіна"і баржы былі загружаныя машынамі, чыгуначнымі рэйкамі, жалезным ломам, быдлам, і рознымі таварамі, якія павінны быць перавезеныя па рацэ. Калі ўжо ўсе судны былі запоўненыя, мы ўбачылі, што палубы баржаў знаходзяцца на ўзроўні вады, а памяшканьні пад палубай глыбока пагружаныя ў ваду. На трэці дзень "Сталін" рушыў у шлях. Машыны разьмяшчаліся адразу за нашай перагародкай, таму стаяў аглушальны шум. Ад выхлапаў і выпарэньняў змазкі станавілася млосна. Вібрацыя была такой моцнай, што нашы галасы рабіліся хрыпатымі і было немагчыма нічога ухапіць позіркам, бо вобразы расплываліся.

Неўзабаве з-за дыму і гарачыні мы пачалі пакутваць на няспынны галаўны боль. Каб аддыхацца сьвежым паветрам, якое паступала зьнізу, прыходзілася злазіць з нараў і класьціся на падлогу. Таму мы амаль зусім не размаўлялі. Кожны прыліпаў да падлогі і намагаўся не думаць пра гарачыню, шум, вібрацыю і нясьцерпны боль галавы.

Калі судна пачало ісьці па рацэ, распачалася гайданка. Рачныя плыні кідалі баржы ад аднаго берага да другога, і "Сталін" валяўся з боку на бок. Некаторыя вязьні захварэлі марской хваробай, што не паправіла атмасьферу ў нашым памяшканьні.

У канцы першага тыдня палітычныя вязьні, якіх было ў два разы болей чым зладзеяў, арганізаваліся. Аднойчы, калі прынесьлі суп, група іх падыйшла да зладзеяў і загадала ім сесьці.

— Можаце за намі назіраць, ці не робім памылак, але цяпер мы будзем дзяліць суп па чарзе.

Зладзеі сказалі ім, каб ішлі туды, адкуль прыйшлі. Палітычныя не зварухнуліся.

— Мы хочам, каб суп быў падзелены пароўну і справядліва, — адказалі ім. — Гэтае харчаваньне зьяўляецца адзіным, што трымае нас жывымі, а вы, п'яўкі, забіраеце лепшую яго частку, а нам пакідаеце практычна ваду. Так што зараз пасуньцеся!

У адказ завадатар зладзеяў ударыў таго, хто гаварыў, у твар і паваліў яго на кучу дошак. І адразу схапіўся за нож. Адбылася бойка. Палітычныя з усяго памяшканьня кінуліся ў карму судна і прыціснулі зладзеяў да сьцяны. Я бачыў бляск зладзейскіх нажоў, а некалькі палітычных пачалі выдзіраць дошкі і ўжываць іх у бойцы. Крыкі праціўнікаў мяшаліся зь енкам параненых. Кроў пырснула на падлогу і заліла твары ўдзельнікаў. Тых, хто падаў, бязьлітасна тапталі нагамі.

За некалькі секундаў унізе сходаў апынуліся турэмшчыкі і закамандавалі каб спынілі бойку, інакш будуць страляць. Але дарэмна. Сярод крыкаў тых, што біліся, і ў шуме машыны нельга было нават пачуць гэтую каманду. Саскочыўшы са сходаў, крычаў нейкі афіцэр, таксама дарэмна. Урэшце ён падаў каманду, жаўнеры ўзяліся за зброю і далі залп. Кулі ўдарылі ў дошкі над галовамі, адбіліся ад сьцяны, а гукі стрэлаў запоўнілі ўсё памяшканьне. Тыя, хто не ўдзельнічалі ў бойцы, адразу выскачылі на палубу, альбо прыціснуліся да падлогі.

Калі першы залп не даў выніку, жаўнеры апусьцілі рулі. Кулі ўдарылі ўжо не ў дошкі, а ў натоўп. Людзі падалі, як падсечаныя сякерай і ўвесь шэраг буянаў лёг, як трава пад касой. Гэтае ўмяшальніцтва паклала канец бойцы. Жаўнеры сталі ля сходаў і ўсіх паставілі да сьцяны, сьпінамі да карабінавых руляў, з рукамі, паднятымі ўгору. Хутка ўвайшла выратавальная каманда і забрала забітых і параненых. Я не бачыў, колькі іх, бо быў павернуты тварам да сьцяны і на нас была накіравана зброя. Пасьля таго, як забралі забітых, вымылі падлогу і правялі яе дэзінфекцыю. Урэшце турэмшчыкі загадалі нам у поўным маўчаньні вярнуцца на месцы. І ўсю ноч заставаліся ля сходаў са зброяй, гатовай да стрэлаў, нікому не дазваляючы перамяшчацца, за выключэньнем наведваньня прыбіральні, па чарзе і па аднаму.

Прыкладна праз гадзіну ў памяшканьне ўвайшла камісія, складзеная з афіцэраў судна і канвойнага начальства. Задалі нам некалькі пытаньняў. Прайшліся паміж нарамі, узіраючыся ў цісканіну і час ад часу груба зьвяртаючыся да якога — небудзь вязьня:

— Устаньце!

Тых людзей, каго выбіралі, вывелі на палубу для допыту, потым, для працягу падарожжа, іх перавялі на адну з баржаў. Шчыра кажучы, уся гэтая справа была вельмі непрыемнай для адміністрацыі, бо за недахоп вязьняў яна адказвала. Атрымаўшы пэўную іх колькасьць у Краснаярску, былі абавязаны даставіць столькі ж у Нарыльск. У іншым выпадку мусілі пераканаўча даказаць чаму вязьняў меней. Гэтых вязьняў, прысуджаных да катаргі, перавозілі і кармілі на працягу ўсяго расейскага абшару. Пажадана, каб яны апынуліся і былі ўжытыя там, куды іх паслалі і дзе яны былі патрэбныя, а тут раптам шмат іх забіта. Гэты факт мог моцна абцяжарыць кар'еры турэмшчыкаў і афіцэраў. Таму яны вымушаны былі давесьці, што ўжывалі зброю ў скрайнім выпадку.

Няшмат хто з нас здолеў той ноччу заснуць. Успаміны бойкі былі вельмі сьвежыя, сцэны разьні і сьвісту куль, трапляючых у целы, былі занадта драматычныя, каб усё гэта магчыма было выкінуць са сьвядомасьці. Аднак пасьля ўсяго гэтана харчаваньне сталі дзяліць справядліва. Людзей паменшылася, а ежы стала нават болей, і прынамсі раз і два дні можна было атрымаць дадатковую порцыю. Турэмшчыкі заставаліся ля сходаў некалькі дзён, але пазьней вярнуліся на палубу. Жыцьцё прыйшло ў адпаведнасьць з манатонным шумам машын, з гайданьнем судна і штодзённым намаганьнем забыцца пра боль галавы, справакаваны шумам і дымам.

Раніцай 22 ліпеня прыбылі ў Дудзінку. У той час горад уяўляў толькі шэраг дамоў уздоўж ракі і прыстаняў, што ўразаліся ў яе. Пазьней вязьні з працоўных лагераў збудавалі там вялікі комплекс партовых прыстасаваньняў, але тады вада была такой плыткай, што "Сталін" не здолеў нават падысьці да берага каб выгрузіць нас на прыстанях. Мы, пакуль не распазналі гэта па зьніжэньню абаротаў машын і ляскату ланцугоў на палубе, не маглі нават зразумець, што падарожжа заканчваецца. Загрымелі шпілі, хвастанула вада, кінулі якар. Коратка, каб зачапіўся якар, завуркаталі і змоўклі рухавікі.

Мы адразу адчулі холад. З-за таго, што спынілі ацяпленьне, трум "Сталіна" раптам ператварыўся ў лядоўню. Мы сядзелі і чакалі, нацягнуўшы на сябе ўсё, што мелі з вопраткі, слухаючы каманды, якія гучалі на палубе, і пляскат хваляў за бортам судна. Праз нейкі час пачуліся ўдары вёслаў па вадзе і гучныя вокрыкі, ськіваваныя да "Сталіна". Потым адгалосак апускаемых калаўротаў і заключны, прыглушаны сьвіст — сігнал да выгрузкі.

У люку паказалася група жаўнераў, спусьцілася да паловы сходаў і стала з абодвух бакоў. Сышоў афіцэр і зьвярнуўся да нас:

— Мы ў Дудзінцы. Станеце ў шэрагі і сыдзеце з судна групамі па дзесяць. Хутка ў шыхты! Кожная прыкмета бязладдзя ці спроба ўцёкаў азначае неадкладную сьмерць. Мае людзі маюць загад страляць у кожнага, хто выйдзе з шыхту, нягледзячы на прычыну!

Выходзячы з судна, жмурачы асьлепленыя дзённым сьвятлом вочы, мы былі зьдзіўлены тым, што падае сьнег. Усяго ж двума тыднямі дагэтуль мы пакінулі Краснаярск у сьпёку! На палубе, адкрытай усім вятрам, нам было так холадна, ажно захоплівала дыханьне. Кожны адразу лез у свой вандзэлак па астатнюю вопратку. Гэтая карціна выглядала камічна, як трэніроўка па барацьбе з пажарам, дзе кожны імкнецца схавацца за сьпіной суседа.

— Божухна, — сказаў нехта каля мяне, — ўжо зіма! Што рабіць?

Вада ў Енісеі была шэрая і ўзбураная, а паветраныя віхуры над ёй стылымі і пранізваючымі ўсё, што мы на сабе мелі. Краявід, распрасьцёрты над берагам ракі быў у пагорках і складках, але зямля была голая, пакрытая толькі кустамі і трысьнягом. За ракой, шырыня якой складала тры кіламетры, можна было разгледзець толькі блакітныя абрысы узгоркаў. У нейкай адлегласьці ад берагу было відаць нешта накшталт лагера, падобнага да таго, у Краснаярску — шмат баракаў, абкружаных калючым дротам.

Сама Дудзінка ўяўляла шэраг драўляных дамоў, якія ў шэра-блакітным краявідзе выглядалі панура. Яны былі раськіданыя на пагорку і ўздоўж ракі. Адзіны ў горадзе вялікі будынак разьмясьціўся на ўзгорку. Гэта была сядзіба партовай адміністрацыі, якой належалі прыстані і чыгуначны вакзал. У паўночным накірунку на рацэ былі відаць судны, пастаўленыя на якары. Ля берага, на якім мы знаходзіліся, ляжала вялізная гара вугалю, прызначанага для суднаў.

Мы, групамі па дзесяць, прайшлі па сходні і селі ў веславую лодку. Мае ногі, зноў аслабленыя ад недахопу руху, зараз яшчэ і здранцьвелі ад холаду. Гэта было нешта такое, як спроба хадзіць у сьне. Нас давезьлі да берага, высадзілі і лодка адразу вярнулася за наступнай групай, і гэтак далей, як маятнік. Адразу пасьля высадкі вязьняў абкружылі турэмшчыкі, адвялі на нейкія дзьвесьце метраў ад берага і загадалі сесьці.

Сьнег ужо не падаў, але веяў ледзяны паўночны вецер. Дудзінка знаходзілася за палярным колам, а паўночны вецер дзьме ўздоўж ракі, па калідоры, утвораным дзьвума шэрагамі пагоркаў. Калі ён вее проста з поўначы, здаецца што вы ў сэрцы палярнай буры. Каб выгрузіць групамі па дзесяць дзьве тысячы людзей у невялікіх чаўнах, трэба доўгі час. Як толькі быў разгружаны "Сталін", тую ж аперацыю

пачалі праводзіць на баржах. І ўвесь гэты час мы скурчыўшыся сядзелі ў праніклівым холадзе на беразе рэчкі. А было ж гэта 22 ліпеня!

### Грузчык вугалю ў Дудзінцы

Я назіраў высадку вязьняў з лодкі, іх няспрытнае карасканьне і сьлізганьне па беразе. Яны курчыліся, і каб сагрэцца, прыціскалі да сябе свае клуначкі, а турэмшчыкі пільнавалі ў гэты час роўнасьць шэрагаў. Вочы вязьняў былі апушчаныя, рухаліся моўчкі. Потым я ўбачыў вялікія калоны, якія здалёку дарогай ішлі да нас. Я глядзеў на іх набліжэньне і думаў скуль і куды яны ідуць. Ці гэта новыя вязьні, ці ўжо нейкі час тут знаходзіліся? Буксіры ў гэты час цягалі пустыя баржы да берага.

У хвіліну, калі мы павінны былі рушыць, калоны, якія я бачыў, падыйшлі да нас, гэта былі брыгады вязьняў, якія ішлі на працу. Калі ўбачылі нас, здаецца ажывіліся, пачалі абменьвацца вітаньнямі:

— Скуль прыбываеце?

— Ці ёсьць тут той і той?

— Ці ёсьць хто з Масквы або Ленінграду?

— Вы вязьні якога тыпу? — крычалі нам.

Мы крычалі ім у адказ. Турэмшчыкі лаяліся і стараліся перашкодзіць нашым размовам, але брыгады вязьняў не зьвярталі на гэта ўвагі.

— Прыбыўшы ў лагер, сустрэньцеся з тым і тым. Куды вас высылаюць? Посьпеху!

Тыя ж самыя пытаньні і выкрыкі, калі калоны раўняліся з намі, паўтараліся з боку кожнай брыгады. Яны мелі варты жалю выгляд. Былі апранутыя ў ватоўкі, зь цьвёрдымі і строгімі рысамі твараў, шчокі зарослыя шчаціньнем, пераважна сіваватым. Гэта было маё першае спатканьне зь людзьмі,якія правялі нейкі час у працоўным лагеры і мушу прызнаць, яны здаліся мне дзіўнай сумесьсю. Адрзу за намі зьвярнулі ўбок. За імі зьявіліся іншыя калоны, што ішлі дарогай у тым самым накірунку.

Урэшце рэшт нас пашыхтавалі і павялі ўздоўж берагу ракі. Турэмшчыкі, нават у сваіх доўгіх шынялях, мерзьлі, таму гналі нас хуткім маршам. Спачатку нам было цяжка, але праз нейкі час стала добра, бо кроў пацякла жывей і маё цела разагрэлася. Каб дайсьці да лагеру ў Дудзінцы, які ўяўляў сабой збор панурых баракаў, абкружаных падвойнай агарожай з калючага дроту, мы прайшлі амаль тры кіламетры.

У лагер мы не трапілі. Замест гэтага нас правялі вакол яго праз невысокі пагорак у вялікі брудны хлеў з негабляваных,счарнелых ад дажджу, дошак. Гэта, як мы даведаліся пазьней, быў у Дудзінцы рэгістрацыйны цэнтр. Мы прайшлі праз тэрыторыю, абгароджаную калючым дротам, потым праз браму. Тут, на падворку, нягледзячы на востры вецер, нам загадалі ўсесьціся. Па чарзе зьверылі нашы паперы. Пасьля гэтага дазволілі знайсьці сабе месца ў старым хляве. Унутры яго была толькі пачарнелая падлога і ля сьцяны дошкі, пасланыя на казлах. Гэта былі нары. Дах і сьцены — дзіравыя, і здавалася, што ўнутры хлеба халадней, чым на падворку. Вось такая была Дудзінка, куды мы прыбылі.

Першае, што належала зрабіць, гэта пашукаць сабе сяброў. У працоўным лагеры немагчыма быць аднаму — альбо ёсьць сябры, якія дапамагаюць выжыць, альбо сьмерць. Я адшукаў сваіх прыяцеляў-палякаў і разам мы занялі месца ля сьцяны, дзе дошкі былі лепш дапасаваныя адна да другой і таму менш дзьмула. Пакінуўшы аднаго з нас сьцерагчы, мы выйшлі ў пошуках інфармацыі аб ежы. Мы на самой справе перш за ўсё думалі аб ежы. Апошнім нашым харчаваньнем быў хлеб, які мы атрымалі раніцай на судне, шмат гадзін таму.

Мы выйшлі з хлева найперш пашукаць вязьняў Дудзінкі, якія працавалі на рэгістрацыі новапрыбылых. Адразу было відаць, што яны шмат чаго перажылі. Мелі вырачаныя і бляклыя вочы, даўно не голеныя твары. У кепскім стане, амаль цалкам сапсаваныя зубы. Недапасаваная вопратка і завялікія чаравікі хляпалі ў час руху. Не мелі шкарпэтак, толькі анучы, перавязаныя каля шчыкалатак. Некаторыя, нягледзячы на холад, хадзілі з голымі галовамі, а валасы мелі састрыжанымі амаль да самай скуры.

Убачыўшы нас, узрадаваліся, бо паміралі ад жаданьня даведацца, што робіцца ў сьвеце.

— Прынамсі раскажыце, што рабілася, калі вас арыштавалі. Мы чулі, казалі — вайна скончылася. Гэта праўда? Як там жывуць у сьвеце людзі? Ці ёсьць што есьці?

Прагнучы зьвестак, іх вельмі цікавілі навіны, якія мы маглі ім пранесьці, яны нічога не распавядалі ні пра сябе, ні пра сваё жыцьцё ў Дудзінцы.

Тым не менш, я даведаўся, што ў Дудзінцы быў яшчэ адзін сьвятар, а.Каспэр, паляк і каталік. Некалі меў парафію на ўсходзе Польшчы і там быў арыштаваны за быццам бы падрыўную дзейнасьць. У лагеры ён знаходзіўся амаль год, паведаміў адзін зь вязьняў,

і карыстаўся вялікай павагай. Яшчэ мы даведаліся, што вячэру прыносяць з галоўнага лагера, таму засьпяшаліся ў хлеў.

Турэмшчыкі прынесьлі катлы з супам і кашай, яны сыходзілі парам і нашы раты напоўніліся сьлінай. Порцыі раздаваў сам кухар. Каб ніхто не атрымаў дзьве, кожны хто атрымаў сваё, мусіў адысьці ўбок. Але вязьняў немагчыма перахітрыць. У другім канцы хлева зладзеі выцягнулі расхістаную дошку і запаўзалі назад за другой порцыяй.

Кухар не мог лічыць выдадзенае, але ськеміў, што ежы не хапае. Адклаў апалонік і пачаў падазрона аглядацца наўкола. Але дошка ўжо вярнулася на месца.Кухар нічога не разумеў: яшчэ стаяў цэлы шэраг, а ежы ўжо амаль не заставалася. Калі вышкраб апалонікам з катла рэшткі, у чарзе, хто яшчэ не атрымаў ежы, стаяла дваццаць асобаў. Бедны кухар сказаў ім, што ежы ўжо няма нават на кухні. Ён зварыў усё, што яму далі і больш нічога не мае. Тая дваццатка раззлавалася. Маўляў церпяліва верылі і чакалі сваю ежу аж з раніцы. Кухар паабяцаў зрабіць усё, што здолее і пайшоў выклікаць начальніка.

Пачалося доўгае, аж да позьняй ночы, сьледзтва. Пыталі кожнага па чарзе. Начальнік нават дапускаў, што перш, чым прынесьлі ежу, зь ёй адбыліся нейкія маніпуляцыі на кухні. Мы ж замест ежы атрымалі толькі клопат. Пасьля гэтага кожны вырашыў ніколі не станавіцца ў чаргу апошнім. Апошняя порцыя супу магла быць самай лепшай, але магла і зьнікнуць раней, чым да яе дойдзе.

Той ноччу мы спалі на незамацаваных дошках, накрыўшыся толькі тымі рэшткамі вопраткі, што мелі з сабой. Некаторыя не спалі ўвогуле, а ўсю ноч шпацыравалі па хлеве каб крыху сагрэцца. Пройма дзьмула з-пад дошак, зьверху, са шчылін у сьценах. Раніцай узышло сонца, але ўвесь час быў паўночны вецер, востры як нож. Тыя з нас, хто спаў на дошках, так задзервянелі і зьмерзьлі, што зь цяжкасьцю маглі ўстаць. Нашы пальцы пасінелі. Тым не менш, калі прынесьлі сьняданак, кожны неяк выбраўся на сярэдзіну. Каб раздаць хлеб без блытаніны мінулага вечара, нас пашыхтавалі ў шэрагі і выклікалі аднаго за другім па прозьвішчах. Да хлеба мы атрымалі па кубку вады, што дапамагло размарозіцца.

Каля апоўдня турэмшчыкі прынесьлі са свайго бараку вялікія сталы і некалькі зэдляў. Прыбыла група службоўцаў зь мяшкамі дакументаў і папер. Усім загадалі выйсьці з хлева і пашыхтавацца на падворку ў шэрагі. Ля дзьвярэй стаў турэмшчык і нікога не пускаў усярэдзіну, нават тых, хто казаў, што забыўся тое ці гэта, мяшок ці нешта з адзеньня. Сталы паставілі звонку, але блізка ад хлева і яны

былі закрыты ад ветру. Ля стала, па чарзе выклікаючы прозьвішчы, камісія аглядала нас ад ступакоў да макавак, пералічваючы, як на конскім кірмашы, нашы кепскія ці добрыя асаблівасьці і ўрэшце казала: "Станьце там!" альбо "Тут". Такім чынам зьяўляліся розныя групы, кожную пільнавала асобная каманда турэмшчыкаў.

Я знаходзіўся ў групе з прыкладна трыццацьцю кітайцамі і дзесяцьцю расейцамі. Большасьць групаў былі больш шматлікімі за нашу, але людзі ў маёй былі ўсе маладыя (ад трыццаці да трыццаць шасьці гадоў) і дужыя, за выключэньнем мяне і аднаго старога кітайца. Я стаяў у гэтым холадзе, пераступаючы з нагі на нагу і спрабаваў адгадаць, што нас аб'ядноўвае. Калі камісія закончыла, турэмшчыкі завялі нас у галоўны лагер. Маршыравалі пяцёркамі, з рукамі, закладзенымі за сьпіну, кожная група ў адлегласьці дзьвесьце метраў адна ад другой.

Я спрабаваў завязаць гутарку з маладым кітайцам, але ягоная расейская мова была вельмі слабой. Усе яны, зьвяртаючыся да каго-небудзь, блыталі, напрыклад, мужчынскія і жаночыя формы. Тады я зьвярнуўся да двух маладых расейцаў і даведаўся, што яны паходзяць з Маньчжурыі. Іх бацькі ўцяклі туды ў час рэвалюцыі, а самі яны не памяталі Расеі ўвогуле. З усіх тых маіх гутарак я здолеў зрабіць выснову, што агульнай прыкметай нашай групы быў той факт, што мы ўсе абвінавачаны ў шпіянажы. Мы былі кітайскімі, маньчжурскімі і ватыканскімі шпіёнамі.

Пераход да галоўнай брамы Дудзінскага лагера быў нядоўгі. Як і ў большасьці лагераў падыход да бромы быў добра ўтаптаны маршыруючымі вязьнямі, якія пакідалі яго і вярталіся толькі праз галоўную браму тры разы ў дзень. Брама была драўляная, усталяваная ў зьнешнім радзе падвойнай калючай агарожы, якая абкружала ўвесь лагер. Сетка з калючага дроту была прымацаваная да слупоў і ўздымалася так высока, каб немагчыма было дастаць выцягнутымі рукамі. Наверсе кожнага слупа знаходзіліся два драўляныя брускі, усталяваныя так, што адзін быў накіраваны ўперад, а другі — ўніз. На канцы кожнага з гэтых брускоў свабодна зьвісалі драты, якія перашкаджалі тым, хто хацеў ухапіцца за агарожу. Прастора паміж двума драцянымі агарожамі называлася "запрэтная зона" (забароненая паласа). У яе межах турэмшчыкі стралялі без папярэджаньня.

Каля галоўнай брамы знаходзіўся доўгі нізкі будынак, паралельны лініі калючай агарожы. У ім зьмяшчаліся будка турэмшчыкаў, пакой для адміністрацыі і памяшканьне дзяжурнага афіцэра. Пры браме, паміж ёй і домам варты, быў вузкі праход, празь

які, не адчыняючы галоўную браму, маглі хадзіць турэмшчыкі. У будцы заўсёды знаходзіўся дзяжурны турэмшчык, які выглядаў праз акенца каб бачыць рух ля брамы і забіраць паперы ці пропускі. Каб прапускаць афіцэраў і турэмшчыкаў упоперак таго вузкага праходу была ўсталяваная брамка, якая магла падымацца ці апускацца з дапамогай пад'ёмніка, зьмешчанага ўнутры будынку.

Калі нашы турэмшчыкі падавалі дакуменмы турэмшчыку ў будцы, мы затрымаліся ля галоўнай брамы. Турэмшчык пайшоў да тэлефона, што злучаў асобныя часткі лагера. Вярнуўся недзе праз дваццаць хвілін і сказаў нам, каб мы пашыхтаваліся па пяць. Толькі тады пачаў расчыняць вялікія драўляныя паловы брамы.

Чакалі далей. Нарэшые прыйшоў афіцэр і правёў пераклічку па прозьвішчах. Пасьля адказу, перш чым увайсьці, кожны станавіўся ў сваю пяцёрку паміж двума радамі калючага дроту каля будкі турэмшчыка. Потым ён загадаў першай пяцёрцы ўвайсьці ў лагер. Людзі прайшлі праз браму і накіраваліся да галоўнай лагернай дарогі. Там ім загадалі спыніцца. Потым выклікалі наступную пяцёрку, якая прайшла праз браму і спынілася за першай. І гэтак далей, па пяцёх мы ўвайшлі ў лагер і пашыхтаваліся ўнутры яго. Далей нас павялі групамі. Мая група пайшла галоўнай дарогай і павярнула ўправа ў першую папярэчную вуліцу. Уздоўж вуліцы праз аднолькавыя прамежкі стаялі баракі, а паміж двума ці трыма іх групамі была дарожка, якая вяла з правага боку ад галоўнай дарогі, ідучай уздоўж лініі баракаў. Баракі былі збудаваныя з бэлек і дошак. Некаторыя былі двух-, астатнія — аднапавярховыя. Думаю, што тыя, апошнія, былі больш старыя, бо былі атынкаванымі і пабеленымі. Большасьць двухпавярховых у канцы лагера была з сырога дрэва, неатынкаваныя і ўжо папсаваныя надвор'ем.

Мы, "шпіёны", былі накіраваныя да вялікага намёту, вышынёй каля чатырох метраў. Як мы хутка ўбачылі, знаходзіўся ён ля вялікага драўлянага будынку — цэнтральнай сядзібы афіцэраў, недалёка ад баракаў турэмшчыкаў. Тканіна намёту была нацягнутая на ўкапаных у зямлю слупах, а ўнутры палатняны дах ляжаў на выгнутых дугой бэльках. Вокнаў не было. Усярэдзіне намёт быў разьдзелены драўлянай перагародкай і ў абодвух канцах меў дзьверы. З кожнага боку разьмяшчаліся асобныя брыгады.

Не было падлогі, толькі ўтаптаная зямля. Уздоўж сьцен кожнага аддзяленьня былі ўсталяваныя два рады двухпавярховых нараў, разьдзеленыя вузкім праходам. Верхнія часткі нараў знаходзіліся пад самым дахам і падпіралі яго. Паміж нарамі, зробленымі з негабляваных дошак і пакладзенымі на казлы, не было

пропускаў. На іх можна было памясьціць столькі людзей, колькі ўдалося б упхнуць у гэтую прастору так, каб галава аднаго ўпіралася ў ступакі другога. Каб узлазіць на верхнія нары не было драбінак, толькі некалькі прыбітых да слупоў дошак. Каб быць як мага далей ад халоднай і бруднай падлогі, усе адразу кінуліся займаць верхнія нары. Дошкі ніжніх нараў знаходзіліся сама больш трыццаць сантыметраў ад зямлі, а ў некаторых месцах нават датыкаліся да яе. На няшчасьце, менавіта такія нары дасталіся мне.

Усярэдзіне кожнага аддзяленьня на двух цаглінах стаяла старая бочачка з-пад алею. Гэта была наша печ. Каб класьці туды паліва, збоку былі выразаныя дзіркі, а каб цяпло не ішло толькі ўверх, па перыметру знаходзіліся невялікія адтуліны. Комін выходзіў праз вялікую дзірку ў палатне. Яна была вельмі шырокай каб пазьбегнуць пажару, але з-за яе мы мелі аж замнога "вентыляцыі". Калі ішоў дождж ці сьнег, гэта было вельмі непрыемна. Звонку на драўляных падстаўках знаходзіліся ўмывальнікі, бляшаныя лаганкі зь некалькімі кранамі і карытам для сьцёку вады. Зрэшты, сьцякала яна заўсёды на зямлю, утвараючы балота, якое замярзала ў маразы.

У той дзень у час вячэры нам сказалі, што мы павінны ісьці ў бюро за рабочай вопраткай. Па закону нам давалі нагавіцы, куртку, абутак і шапку. Вопратка была пашытая з такога валакна, якое мы называлі "хлопчатобумажным", сумесі бавоўны з драўняным валакном. Мы па чарзе падыходзілі да сакратара, называлі прозьвішча, а ён кожнаму запаўняў рэгістрацыйную картку, старанна пералічваючы кошт кожнай адзінкі вопраткі. Мы, натуральна, не плацілі, але кошт вылічваўся з заробкаў, усталяваных кіраўніцтвам лагера. У выпадку страты, плацілі дзесяцікроць.

Існавалі тры памеры вопраткі — вялікі, сярэдні і малы, але нікому не ўдавалася атрымаць свайго і гэта ў лагеры было прадметам жартаў. У той дзень прыбыла нейкая колькасьць новых брыгадаў, так што рэгістрацыйныя фармальнасьці зацягнуліся ажно да дзевяці вечара. Потым мы вярнуліся ў барак і нам далі па дзьвесьце грамаў кашы. У гэты час шэф брыгады пайшоў у склад з нашымі карткамі і разам са сваімі памочнікамі забраў усё, што яму кінулі на прылавак — і новыя тавары і старыя, ўжываныя лахманы.

Каля адзінаццаці вечара брыгадзір з памочнікамі вярнуўся і пачаў дзяліць вопратку, выклікаючы вязьняў па прозьвішчах. Як звычайна, нічога нікому не падыходзіла. Усе пачалі мяняцца і гэты гандаль зрабіў бы гонар арабскім купцам. Калі хацелася набыць сапраўды добрыя нагавіцы ці абутак, трэба было аддаць нешта са

сваіх асабістых запасаў. Гэты карнавал цягнуўся прыкладна да гадзіны ночы, пасьля чаго мы пайшлі спаць.

Назаўтра а шостай гадзіне раніцы нас пабудзілі турэмшчыкі, стукаючы ў жалезную рэйку. Гэта быў сігнал уставаць (кавалкі рэйкі віселі на слупах ля галоўнай брамы і турэмшчыкі лупцавалі ў іх жалезнай трубой). Нам загадалі да сёмай гадзіны падрыхтавацца на працу. Умываньне на двары пры ледзянячым ветры складалася зь лёгкага ўвільгатненьня твару вадой. На сьняданак як заўсёды атрымалі па шэсьцьсот грамаў хлеба, кіпень і дзесяць грамаў цукру. Больш зь ежы мы нічога не атрымалі аж да вячэрняга вяртаньня ў лагер, так што хутка навучыліся ашчаджаць на перакус у апоўдзень частку ранішняга хлеба. У чвэрць сёмай, менавіта тады, калі мы глыталі першую порцыю кіпеню і пачалі саграваацца, далі першы сігнал выступаць. Другі сігнал прагучаў у палове сёмай і тады баракі павінны ўжо быць пустымі. Кожная брыгада мела вызначанае месца на двары і сваё аддзяленьне турэмшчыкаў. У сем гадзін усе павінны быць пашыхтаванымі ў шэрагі па пяць. Каб вызначыць працу на дадзены дзень, прыбываў камендант лагера. Кожны брыгадзір падаваў ад'ютанту лічбу сваіх людзей. Той зьвяраў яе са сваім сьпісам, дзе знаходзіліся яшчэ прозьвішчы хворых і тых, каму нейкім чынам удалося на гэты дзень атрымаць у лекара вызваленьне ад працы. Калі лічба чальцоў брыгады супадала са сьпісам ад'ютанта, нас пяцёркамі выводзілі праз галоўную браму і фармавалі шыхт. Потым турэмшчык яшчэ раз правяраў сьпіс і лічыў нас. А калі штосьці не супадала, мы заставаліся ў ледзяным холадзе ўвесь час, пакуль шукалі таго, каго не хапала. Часам такіх было некалькі. Сістэма была прадумана так, што брыгады, якія працавалі далей ад лагеру праходзілі кантроль і выходзілі першымі. Прадугледжвалася, што ўсе меліся быць пры працы а восьмай гадзіне.

Наша брыгада пакрочыла праз Дудзінку да партовых складаў. Унутры абкружанай калючым дротам пляцоўкі ляжалі вялізныя кучы вугалю, які мы павінны былі грузіць на судны. Да докаў вялі транспарцёры. Нам далі вялікія шуфлі і вызначылі дённую норму, якую трэба было выканаць нягледзячы на час. Частка брыгады ўскараскалася на гару вугалю і абрушвала яго, а дзесяць астатніх запіхвалі яго на транспарцёр.

Усю зіму вугаль прыбываў з капальняў у глыбіні краіны і звальваўся на беразе ракі ў Дудзінцы. З-за таго, што навігацыя была магчымай толькі ў кароткі летні перыяд, вугаль, нагрувашчаны зімой, трэба ў шалёным тэмпе перагрузіць на баржы і грузавыя судны, якія чакалі каб яго вывезьці. Нашай звычайнай дзённай нормай была

загрузка аднаго судна, мы павінны былі працаваць аж пакуль яе не выконвалі.

Апоўдні нам давалі паўгадзіны адпачынку каб можна было зьесьці хлеба, які мы прынесьлі з сабою. Калі мы ўжо прызвычаіліся да гэтай працы, то пачалі карыстацца магчымасьцю палазіць па доках і суднах у пошуках чаго-небудзь ядомага. Гэта было рызыкоўным і пагражала, калі б злавілі, моцным зьбіцьцём,, але здыхаючыя з голаду людзі рызыкавалі ўсім, толькі б здабыць ежы. Але ў тыя першыя дні мы задавальняліся звычайным ляжаньнем на мерзлай зямлі і выпростваньнем здранцьвелых хрыбетнікаў. Нашц рукі і мышцы плеч курчылі балючыя сутаргі, бо з васьмі гадзін раніцы мы без супынку махалі шуфлямі.

Пасьля апоўдня, калі грузавы трум судна пачаў запаўняцца, брыгадзір паслаў чатырох чалавек разгартаць вугаль так, каб магла зьмясьціцца рэшта. У труме было цёмна і поўна вугальнага пылу. Са стужкі транспарцёра праз грузавы люк цяжка падаў вугаль. Цяжка было глядзець што робіцца і цяжка дыхаць, яшчэ цяжэй працаваць, але нашым галоўным стараньнем было не даць сябе забіць вялізнымі кавалкамі вугалю, якія лёталі паўсюль, некаторыя зь іх былі памерамі з чалавечую галаву.

Чым больш напаўняўся трум, павялічвалася небясьпека. Не хапала месца ухіліцца, а рызыка павялічвалася яшчэ таму, што можна было пасьлізнуцца на рухомых грудах вугалю і ўпасьці пад яго звалам, які з грукатам абрынаўся празь люк. Калі сітуацыя станавілася нязноснай, мы з усяе сілы крычалі і білі шуфлямі ў палубу. Транспарцёр на хвіліну спыняўся, мы вызваляліся і раўнялі спадаючы ў трум вугаль далей. У час гэтай працы, якую мы ненавідзелі, часта здараліся траўмы, але трэба было выконваць усталяваную норму і нас гатовы былі сьпісаць на страты.

Тым не менш, тая праца мела свае перавагі. Як толькі мы спускаліся ў трум, то старанна абшуквалі ўсе куты, спадзеючыся знайсьці каласы збожжа, якія засталіся на дошках ці ў шчылінах сьцен. Усё што знаходзілі, нягледзячы на бруд хавалі ў кішэні як кавалкі золата. Такім чынам, мы часта мелі па пяць ці шэсьць напханых кішэняў. Іх зьмесьціва мы, калі ўдавалася пранесьці праз кантроль турэмшчыкаў, дзялілі вечарам у бараках.

Як толькі судна было загружаным, ці вызначаная норма выкананай, турэмшчыкі хутка адпраўлялі нас шыхтом у лагер, бо самі былі зацікаўлены ў вяртаньні. Нягледзячы на мароз і вецер, уся наша каманда была вымушана на ўваходзе распранацца для абшукваньня. Гэта былі крытычныя хвіліны, мы рызыкавалі страціць каштоўныя

зярняты. Мы былі чорныя што той вугаль, але пасьля абшукваньня на ўваходзе ніхто не клапаціўся каб памыцца. Усё засланяў клопат аб ежы. Мы нічога не елі з раніцы, за выключэньнем порцыі, якую здолелі захаваць на паўдзённы мацунак.

У той першы вечар нам прынесьлі па паўлітры супу на чалавека, па дзьвесьце грамаў кашы і кіпень. Усё было праглынута ў імгненьне вока, пасьля чаго мы як мёртвыя зваліліся на нары. Пасьля гадоў, праведзеных у турме без руху, першы дзень працы ў лагеры быў катаваньнем. Мае мускулы былі так здранцьвеўшы, што нават не балелі. Мне здавалася, што кожная жыла была пашкоджаная і парваная на кавалкі.

А назаўтра ранкам, калі прагучаў сігнал падымацца, усе суставы былі зацьвярдзелыя як жалеза. Рух пры ўставаньні быў для мяне пакутай. Мускулы скруціла і яны адмаўляліся слухацца. Тым не менш, мы здолелі пашыхтавацца ў шэрагі па пяць і з рукамі, закладзенымі згодна загаду назад, пасунуліся праз горад да кучаў вугалю і да новага дня працы шуфлямі.

У канцы нашага першага тыдня ў Дудзінцы, неяк вечарам, пабачыцца са мной у барак прыйшоў а. Каспэр. Некалькі ягоных польскіх сяброў паведамілі яму, што ў лагеры ёсьць яшчэ адзін польскі сьвятар. Адшукаў мяне і перш, чым я здолеў да яго прыгледзецца, спытаўся, ці хачу я адправіць імшу. Я быў шчасьлівы. Апошнюю імшу я адправіў пяць гадоў таму, калі быў яшчэ ў Чусавой. Дамовіліся, што я прыйду ў ягоны барак адразу пасьля сігнала а шостай гадзіне.

Вязьнямі ў бараку а. Каспэра былі пераважна палякі. Яны шанавалі свайго сьвятара і ахоўвалі яго. Прынамсі раз на тыдзень ён стараўся адпраўляць для іх імшу. З разынкаў, якія выкрадалі ў доках, выраблялі віно, а для вырабу аплаткаў "арганізавалі" муку з кухні. Тым ранкам маім келіхам была шклянка, а корпус залатога гадзіньніка служыў мне патэнай. А радасьць ад магчымасьці адправіць імшу была неапісальнай.

А. Каспэр меў літургічныя малітвы, запісаныя на кавалку паперы. І хоць я ведаў іх напамяць, але тым ранкам быў такі ўзрушаны і ўсхваляваны, што цешыўся, трымаючы іх. Пазьней а. Каспэр зрабіў для мяне копію. Пакідаючы лагер у Дудзінцы, я іх падараваў, баючыся што адбяруць у час абшукваньня ў новым лагеры. Потым, ужо ў лагеры, я напісаў тыя малітвы па памяці. Астатні час, што я правёў у Дудзінцы, я часта адпраўляў імшу у бараку а. Каспэра. Заахвочаны яго прыкладам, я таксама працаваў сярод вязьняў як сьвятар. Рэгулярна спавядаў, і калі-нікалі пасьля імшы таемна мог раздаваць сьв. прычасьце. Гэтае перажываньне

дало мне новыя сілы, я зноў мог дзейнічаць як сьвятар і кожны дзень дзякаваў Богу за магчымасьць працы ў Яго таемным статачку, суцяшаючы і ўмацоўваючы людзей, якія ўжо думалі, што Ён іх пакінуў.

Жнівень у Дудзінцы вельмі халодны. Мы працягвалі і надалей працаваць у лёгкай баваўнянай рабочай вопратцы, якую нам выдалі па прыбыцьці ў лагер. Працуючы ў такім шалёным тэмпе, які ад нас патрабавалі, мы маглі не адчуваць холаду. Але доўгі ранішні марш на працу, а асабліва вяртаньне ў лагер вечарам, калі пот амаль замярзаў на нас, быў сапраўднай катавальняй. Вецер пранізваў баваўняную вопратку як нож. Кожны закручваўся ў што мог — стары бульбяны мех, які можна было завязаць на жываце ці плячах, станавіўся найвялікшым скарбам.

Насіць, адзеўшы, дадатковую вопратку, калі хтосьці яе меў, або пазычыў у хворага калегі, было строга забаронена. Калі камендант ці яго намесьнік выяўлялі штосьці падобнае ў час ранішняй пераклічкі, напрыклад нейкі вязень меў на сабе дзьве кашулі ці пару кальсонаў, яго прымушалі распранацца на халодным ветры. Адзеньне канфіскоўвалі. А калі камусьці ўдалося выйсьці ў дадатковай вопратцы на працу, можна было быць амаль упэўненым, што ён будзе злоўлены пры вячэрняй рэвізіі пасьля працы.

Пасьля заканчэньня дзённай працы нам давалі харчовыя карткі. Іх выдзялялі залежна ад выконваемай працы і на пэўную колькасьць прадуктаў. Звычайная картка давала права на мінімальную порцыю: шэсьцьсот грамаў хлеба, дзьвесьце грамаў кашы і дзесяць грамаў цукру. Картка з заўвагай "плюс адзін" давала дадатак сто грамаў хлеба, пяць грамаў цукру і, магчыма, невялікі кавалак селядца. Картка "плюс два" прадастаўляла дзьвесьце грамаў хлеба, дзесяць грамаў цукру, кавалак селядца і чаго-небудзь печанага, напрыклад булачку ці нешта накшталт аладкі. Картка "плюс тры" давала яшчэ дзьвесьце грамаў хлеба, дваццаць пяць грамаў цукру, кавалак селядца, нейкага цеста і жменю лапшы, якую можна было пакласьці ў суп ці кашу. Часам яшчэ лапшу гатавалі ў печы.

Уласьнікі картак "плюс два" і "плюс тры" атрымоўвалі таксама іншы суп, чым той, які падавалі ў звычайнай сталоўцы, нашмат гусьцейшы, з кавалкамі бульбы, селядца ці капусты. З-за таго, што лагернае жыцьцё заўсёды мае злоўжываньні, звычайна карткі "плюс тры" (іх ніколі не было больш чым дзьве ці тры на брыгаду) атрымоўвалі брыгадзір і яго памочнікі. Рэшта ўсіх нас астатніх звычайна задавальнялася карткамі "гарантаванымі", бо лічба

чальцоў нашай брыгады зьмяншалася з-за хваробаў і мы, каб выпрацаваць норму, мусілі працаваць даўжэй.

Тут мы не мелі іншай мэты, як нейкім чынам здабыць харчаваньня. Аб гэтым думалі нястомна і былі гатовыя на ўсё. Пасьля першага тыдня, калі ўжо разьведаў розныя хады, амаль кожны вечар я выходзіў працаваць за ежу. Прыходзіў на кухню і быў там ад трох да чатырох, часам нават да шасьці гадзін, аж да сьвітанку, замятаючы падлогу, мыючы сталовыя прыборы, шаруючы каструлі і патэльні — і ўсё гэта за паўлітра супу або дзьвесьце грамаў хлеба.

У бараку маім суседам па нарах быў паляк па прозьвішчу Гурны, высокі, худы хлопец, падобны да некаторых літаратурных персанажаў. Гэта быў адзін з самых спрытных аматараў "халявы", якіх я калі-небудзь бачыў, а бачыў я іх у лагерах шмат. Рэгулярна дзяліўся сваёй здабычай са мной, бо быў адным з самых блізкіх прыяцеляў, якіх я меў у Дудзінцы. Быў вельмі рэлігійным чалавекам. Ведаў, што я сьвятар і вельмі пра мяне клапаціўся. Працаваў на кухні і вынайшаў сабеамаль стопрацэнтова надзейны метад здабываньня ежы. Калі на яго ніхто не глядзеў, хуценька браў вялікі кавалак рыбы, тлушчу ці масла і хаваў яго ў вугальным вядры. Клапатліва выносіў яго і апаражняў разам з рыбай ці чымсьці іншым на кучу попелу, потым напаўняў вугалем і дэманстратыўна прыносіў у кухню. Ноччу, каб знайсьці свой скарб, цішком выходзіў каля двух гадзін і ператрасаў кучу попелу.

Самым вялікім трыумфам Гурнага было, калі аднойчы вечарам ён прынёс цэлае вядро фасолевага супу. Вельмі густога і салёнага. Каб зрабіць яго смачнейшым, прыйшлося высыпаць туды ўсю нашу месячную порцыю цукру. Зьелі ўсё вядро. Вельмі хацелася піць, але гэта нас не бянтэжыла. Выйшлі на двор і напіліся вады, потым вярнуліся, спадзеючыся правесьці прыемную ноч. Але не здолелі заснуць і, што горш, у нас узбунтаваліся страўнікі і мы ўвесь час былі вымушаны бегаць у прыбіральню. Раніцай мы былі так аслабелыя, што амаль не маглі размаўляць.

Натуральна, Гурны і я былі не адзінымі, хто клапаціўся аб здабычы дадатковага харчаваньня, і прыкладваў намаганьні ў гэтым накірунку. Зладзейства ў Дудзінцы шырылася як эпідэмія. Калі-нікалі турэмшчыкі ажыцьцяўлялі нечаканыя налёты на розныя баракі, звычайна пад раніцу, пасьля трох гадзін. Загадвалі ўсім стаць у шэраг пасярэдзіне памяшканьня, а самі ў гэты час пературсвалі метр за метрам нашы нары і асабістыя рэчы. Часам адыходзілі з такой колькасьцю прадуктаў, якога б хапіла каб пад'есьці ўсяму лагеру.

Але нягледзячы на наш спрыт у крадзяжы харчаваньня, цяжкая праца і холад пачалі жаць свой ураджай. Распаўсюдзілася цынга. Урэшце стала замнога хворых, якіх трэба было вызваляць ад працы. Лагерныя кухары варылі ў вялікіх катлах хваёвыя галінкі і гэта мелася служыць нам лекамі. Было яно вельмі горкае, але хто не піў, не атрымоўваў вячэры. Некаторыя не маглі гэтага глытаць, але я выпіваў кожны дзень паўлітра.

Шмат вязьняў было ў лагеры цяжка хворых:У іх выпадалі зубы, было сьмярдзьчым дыханьне, гнілі дзясны і крывавілі вусны. Ногі так слабелі, што чалавек не мог стаяць больш дзесяці хвілін. Але мне тыя хваёвыя лекі дапамагалі. Самых благіх праяваў хваробы ўдолося пазьбегнуць.

Затое на руках і твары, сьпіне і нагах зьявіліся нарывы. Прыйшлося ісьці ў лазарэт. Калі лагерны лекар даведаўся, што я амэрыканец, то пастараўся даць вызваленьне. Згодна з лагернымі правіламі лекар (таксама вязень) не мог даць мне вызваленьне больш чым на тры дні. Праз гэты тэрмін, калі лічыў, што пацыент і надалей патрабуе адпачынку, павінен быў паслаць яго на камісію, якая складалася з трох гарадскіх лекараў. Тая камісія рэдка давала працяг вызваленьня, хіба што справа датычылася амаль нябожчыка. Тады мы дамовіліся, што лекар дае мне тры дні вызваленьня, потым я пару дзён працую і ён зноў дасьць мне трохдзённае вызваленьне. Зь яго дапамогай і дзякуючы хваёваму адвару сілы паступова вярнуліся. У тыя дні, калі мог заставацца ў лагеры, я хадзіў у пошуках працы. Дапамагаў дзяжурным чысьціць баракі, або працаваў у кухні, праводзячы там чатыры-пяць гадзін за паўлітра супу. Аднойчы, калі працаваў у кухні, у порт прывезьлі вялікі транспарт бульбы. Пад аховай пайшоў зь яшчэ некалькімі вязьнямі перавезьці яе ў лагерны склад. Бульба ляжала ў вялікіх кучах на палубе баржы і мы пераканаліся, што яна замерзла і ўтварыла маналітную масу. Каб перакласьці бульбу на сані,накінуліся на кучы з шуфлямі і кіркамі. Цягнучы іх па тэрыторыі лагера паціху, калі не бачылі турэмшчыкі, кідалі па некалькі бульбін у сьнег. Тая праца заняла палову дня, пасьля чаго кухар даў нам цэлую порцыю (г. зн. дзённую) кашы і супу.

Адразу пасьля мы штосілы пабеглі каб у сьнежных гурбах знайсьці бульбу. Занесьлі ў барак, паклалі ў вядро і згатавалі на печы. Як толькі крыху зварылася, зьелі, вядро за вядром, з сольлю, але гэта нас не насыціла. Каб у гэта паверыць, трэба самаму адчуць няспынны лагерны голад, але такі прыклад можа даць аб гэтым нейкае ўяўленьне.

У кастрычніку, калі тэмпература часам падала ніжэй мінус трыццаці пяці мы, каб атрымаць зімовую, здалі нашу летнюю рабочую вопратку. Трэба было вярнуць усё, што нам выдавалі. Калі чагосьці не хапала, вылічвалі з нашых заробкаў дзесяцікроць і больш ад намінальнага кошту. Замест здадзенага мы атрымалі крыху грубейшыя кашулі, ватоўкі, нагавіцы, падбітыя чымсьці цёплым і абутак пад назовам "валёнкі", які надзяваўся на чаравікі, высокі, зроблены зь нечага накшталт сумесі валасоў з глінай. Яны засьцерагалі ад сьнегу і ўтрымлівалі дастаткова цяпла. Штовечар, каб высушыць, мы разьмяшчалі нашы валёнкі каля печы. На ноч не забіралі. Калі падымаліся раніцай, нашы ватоўкі і нагавіцы былі прымарожаныя да нараў. Урэшце холад сабраў вялікі ўкос. У нашай брыгадзе было так шмат хворых, што нас перавялі з намёту ў драўляны барак.

Той новы барак быў збудаваны з негабляваных дошак, пакрытых звонку і знутры глінянай масай, якая запаўняла шчыліны і служыла тэрмаізаляцыяй. Барак быў пабелены і чысты. І, што было для нас самым важным, цёплы. Мы ўвесь час падтрымлівалі ў печы агонь і кожны чалец нашай брыгады штодзень прыносіў з працы трохі вугалю. З кожных трох прынесеных кавалкаў, два адбіралі пры абшукваньні турэмшчыкі. Аднак паміж намі, вядома, існавала пэўная сістэма, бо калі б нам не дазвалялася прыносіць зусім, печ турэмшчыкаў была б такой жа халоднай, як і наша.

Адным з апошніх суднаў, што прыбылі ў Дудзінку ў тым годзе, пасьля яго рака замерзла, было амэрыканскае судна. Яно стаяла ў порце два дні не разгружаючыся, бо ніводзін з чыноўнікаў не мог прачытаць перагрузачны дакумент па-ангельску. У гэты час адзін зь вязьняў, што працавалі ў партовых канторах, узгадаў, што я амэрыканец. Я ўхапіўся за гэты шанец дапамагчы, спадзеючыся на магчымасьць пагутарыць з экіпажам. Нават занатаваў адрас маёй сястры і зрабіў невялікую запіску каб перадаць каму-небудзь з маракоў, і яшчэ зьвесткі для майго правінцыяла на Фордхам Рыд.

Назаўтра я прыйшоў у порт. Той вязень растлумачыў чыноўнікам і дзяжурнаму чэкісту, што я ведаю ангельскую мову. Чыноўнікі хацелі мне дапамагчы, але агент НКВД не дазваляў падняцца на палубу таго судна. Старанна распытаў мяне, потым відавочна палагаднеў і загадаў ісьці зь ім. Пайшоў за ім да трапа шпаркім крокам і з надзеяй у сэрцы. Раптам агент зьмяніў рашэньне. Загадаў вярнуцца ў кантору і чакаць яго. Вярнуўся з копіяй дакумента і загадаў мне перакласьці яго ў канторы. Увесь дзень пасьля апоўдня і да позьняй ночы я працаваў над расейскім перакладам дакумента,

пасьля чаго мяне адразу адаслалі ў лагер. Некалькі наступных дзён выгляд таго судна ў порце разьдзірау маё сэрца.

Практычна ўвесь лагер быў цяпер падзелены на асобныя брыгады для выгрузкі апошніх суднаў перад замярзаньнем ракі. Горы вугалю ў гэты час замярзалі. Мы былі вымушаныя разьбіваць яго кіркамі на меньшыя кавалкі і шуфлямі кідаць на транспарцёры. Нас прымусілі працаваць у згубным тэмпе і мы былі ў адчаі. Упершыню я пачаў асьцерагацца, што не дачакаюся вясны.

Пайшоў да свайго сябра лекара. Ён мне сказаў, што гэты час лічыцца крытычным, бо дастаўка вугалю лічыцца гарачай справай і з-за гэтага выдадзены загад не даваць вызваленьняў ажно пакуль праца не будзе закончанай. Тыя, хто не быў хворы ў той ступені, калі патрабуецца шпіталізацыя, павінны грузіць вугаль. Сказаў мне прыйсьці на агляд, які будзе заўтра. Таксама расказаў мне сімптомы, якія будзе карысна пералічыць.

Назаўтра пасьля сьняданьня я пайшоў у лазарэт. За мной пабег брыгадзір.

— Куды ідзеш? — запытаўся.

— У лазарэт, я хворы, — адказаў я.

— Не падобны ты на хворага, — заўважыў ён.

— Гэта таму, што ты не лекар. Я быў у лекара ўчора вечарам і ён загадаў мне прыйсьці ў лазарэт сёньня раніцай, — адрэзаў я.

Недаверліва паглядзеў на мяне, пасьля чаго пацiснуў плячмі і адыйшоў.

Калі зьявіўся перад лекарам, ён паведаміў мне, што згодна з апошнімі новымі загадамі, каб прыняць рашэньне трэба два лекары, што хворы павінен ісьці ў шпіталь. Зноў нагадаў мне, якія сімптомы належыла пералічыць. Другі лекар, прозьвішча яго забыўся, быў габрэем, адным з абвінавачаных у справе Горкага. Не ведаю, ці здолеў я яго пераканаць, апісваючы праявы "хваробы", але ён таксама засьведчыў, што я павінен ісьці ў шпіталь.

Шпіталь для вязьняў быў проста драўляным баракам, у якім па аддзелах разьмешчаны ложкі. Яшчэ там знаходзілася некалькі ізалятараў для хворых кабет. Паводле маіх сімптомаў, я не павінен быў ляжаць у ложку. Таму я выконваў абавязкі памочніка санітара: падмятаў падлогу, мыў посуд, дапамагаў раздаваць харчаваньне і мыць хворых. Я быў заняты ад раніцы да вечара, але гэта было ў памяшканьні, там цёпла і не трэба махаць шуфлем!

Мой выпадак не быў нечым асаблівым. Турэмныя лекары паводле сваёй прафесіі праяўлялі гуманныя пачуцьці. Калі гэта не было зьвязана з занадта вялікай рызыкай для іх саміх, рабілі ўсё што

маглі, каб дапамагчы іншым вязьням. Мой выпадак быў выключны толькі ў той меры, што я зьяўляўся амэрыканцам. Слова "Амэрыка" было ў лагеры быццам магічным закляцьцем, якое прыкоўвала ўвагу маіх слухачоў на доўгія гадзіны і цалкам чужых людзей ператварала ў сяброў.

Калі я выпісаўся, наша брыгада працавала на рацэ разьбіваючы лёд і вызваляючы бярвеньні. Летам па рацэ сплаўляўся лес. Ён прызначаўся для будоўлі і для капальняў вакол Нарыльску. Зараз ён умерз у лёд. Спосаб яго здабычы быў настолькі ж просты, наколькі небясьпечны. На вызначанай лядовай пляцоўцы раськідвалі дынаміт і раздаваўся выбух. Бярвеньні ад страсеньня пагружаліся аж на дно ракі. Потым, калі яны ўсплывалі, мы вылаўлівалі іх бусакамі.

Гэта былі вялікія бярвёны, шэсьцьдзесят-восемдзесят сантыметраў у дыяметры і чатыры метры даўжынёй. Варочаць іх у лёдзе было нялёгка. Штораз хтосьці зь вязьняў падаў у ледзяную ваду, у час працы нашы ватоўкі і нагавіцы хутка прамакалі. Празь якую гадзіну лёд пакрываў нашы рукі, наша вопратка замярзала. Мы працавалі на сярэдзіне ракі па дванаццаць гадзін у суткі не могучы сагрэцца. А яшчэ часам ішоў сьнег, пакрываючы лёд пластом да шасьцідзесяці сантыметраў. Нашы вейкі зьмярзаліся, а ногі сьлізгалі на заледзянелых калодах.

Бярвеньнямі ў рацэ мы займаліся да канца лістапада, але з-за надвор'я былі вымушаныя спыніць працу. Пасьля гэтага нам загадалі загружаць прадуктамі цягнік для адпраўкі ў лагеры вакол Нарыльска. Прадукты ўсё лета прывозілі на баржах. Але самай важнай справай ў час кароткага лета была пагрузка вугалю, таму трысьняговыя кашы проста складалі на беразе ў вялізныя кучы. У іх знаходзіліся фасоля, мука, кансэрвы з садавіны і зь мяса, усё моцна замарожанае і прыкрытае трохметровай тоўшчай сьнегу. Мы павінны былі яго разграбаць і пераносіць кашы на вазы з мэтай перамяшчэньня ў глыб краю.

Так мы працавалі па дванаццаць гадзін у дзень аж да сьнежня. Потым некаторыя брыгады засталіся ў Дудзінцы заканчваць тую працу і выгружаць вугаль, які паступаў з капальні ўсю зіму, каб скласьці горы паліва на наступнае лета. Аднак большасьць з нас перавялі ў Нарыльск.

## Год у прыполюсных капальнях

Для адпраўкі ў дарогу нас заціснулі ў невялікія таварныя вагоны на вузкакалейнай чыгунцы. Прадуктаў не далі, апрача

ранішняй порцыі хлеба, бо падарожжа мелася быць толькі аднадзённым — нейкія шэсьдзесят кіламетраў ці трохі болей. Вагоны не абаграваліся, а іх драўляныя сьцены, поўныя шчылін, не баранілі ад палярнага, пранізваючага холадам, ветру. Каб сагрэцца, мы ўсю дарогу стаялі і пераступалі з нагі на нагу. Але каб і хацелі сесьці, то не было месца.

У Нарыльск мы прыбылі ў другой палове дня, нас выгналі з вагонаў і пасьля гэтага тры гадзіны пратрымалі ў сьнезе, пакуль службоўцы разьмяркоўвалі нас па розных лагерах. У той час Нарыльск быў невялікім горадам. Разьмяшчаўся ля падножжа горнага ланцуга, багатага на залежы вугалю, жалеза, медзі, кобальту і іншых мінералаў і быў тэрыторыяй, якая толькі пачынала разьвівацца. Сам горад нагадваў паселішча шахцёраў або выгнаньнікаў. Ён знаходзіўся ля падэшвы гары Шмідта, адной з самых высокіх вяршыняў на Сібіры, названай так з-за прозьвішча нямецкага дасьледчыка, які ў 1937 г. ўзыйшоў на яе і дзе быў усталяваны яго помнік.

Вакол горада знаходзіліся каля тузіна працоўных лагераў і кожны зь іх выконваў два ці тры тыпы работ. Зараз тут, побач з залежамі руды, ствараўся прамысловы калектыў. Такім чынам пазьбягалі перавозкі руды ракой, навігацыя па якой адкрывалася толькі летам. На месцы будаваліся фабрыкі і яны маглі працаваць круглы год. Некаторыя лагеры знаходзіліся пры капальнях, іншыя будавалі новыя металургічныя заводы. Яшчэ адны будавалі жыльлё для рабочых, якія ўжо пачыналі зьяўляцца ва ўсё большай колькасьці каб распрацоўваць народныя запасы.

Урэшце мяне, адзінага з палітычных, разьмеркавалі ў каманду крымінальнікаў і зладзеяў, якая складалася са ста дваццаці чалавек. Пад адносна слабай аховай нас правялі да падножжа гары. Дарог уласна кажучы не было, сьнег дасягаў нам да каленяў, а месцамі да пояса. Асьлепленыя моцнай завірухай мы ўскараскаліся па сьхілу на вяршыню. На другім баку знаходзіўся шахцёрскі лагер пад назовам "Западная".

Калі мы прыйшлі ў лагер, было ўжо цёмна. І зноў,пакуль службоўцы разьмяркоўвалі нас па бараках, мы стаялі ў пранізьлівым холадзе. Нарэшце, калі час вячэры даўно мінуў, нічога з раніцы не еўшы, хістаючыся я ўвайшоў у маё новае жытло. Яно знаходзілася ў драўляным бараку, падобным да таго, у Дудзінцы, але з той перавагай, што пасярэдзіне тут была цагляная печ. У бараках "Западнай" заўсёды было досыць цёпла.

Старшым у бараку быў дзікі татарын, сумесь казака з туркам. Ён ужо меў на сумленьні восем забойстваў і гэта яго не

турбавала. Быў моцна збудаваны, шыракаплечы, сярэдняга росту, з чорнымі валасамі і цьвёрдымі касымі вачыма. Мабыць ён меў нейкае прозьвішча, але тут усе, і турэмшчыкі таксама, называлі яго проста "Оттоман" ці "Козак". Ён разьмеркаваў нас у рабочую каманду, давёў расклаў дня і паказаў кожнаму пасьцель. Мяне разьмясьціў на верхніх нарах. Нягледзячы на печ, у кутах барака было вельмі холадна, а сьцены былі на паўметра ад падлогі пакрытыя пластом лёду. Аднак на верхніх нарах паветра было цёплым і сухім.

Я, пасьля дня на паветры і доўгага падарожжа, быў вымучаны. Адразу, не распранаючыся, кінуўся на пасьцель і заснуў раней, чым скончыў вячэрнія малітвы. Тут падымалі ся не ў шэсьць, а ў пяць гадзін раніцы, і амаль адразу пасьля раздачы сьняданку мы пачулі сігнал пакінуць баракі. Тут, у "Западнай" заўсёды дзьмуў вецер. Сьнежныя завеі віравалі так густа, што я не бачыў далей аднаго метра, але старажылы паказалі мне дарогу. Як заўсёды, нас паставілі ля дому турэмшчыкаў, палічылі і пашыхтавалі па пяць. Але камендант лагера не траціў шмат часу, амаль адразу мы рушылі да капальні, якая знаходзілася ў адлегласьці адзін кіламетр.

Гэта была адна з самых старых капальняў у гэтай мясцовасьці і мела яна толькі адну галерэю, заглыбленую унутр гары. Практычна ўся праца рабілася ўручную. Механічнага транспарту было няшмат, выключэньне складалі зграбачы, якія перакладалі вугаль на вазкі, і электрычныя ваганеткі каб вывезьці яго да выхаду з тунэля. Шлях ад уваходу да месца працы забраў у нас амаль паўгадзіны. Мяне прыставілі да цыгана па імені Грыша і мы грузілі вугаль на вазкі. Рэшта брыгады пайшла далей па штрэку здабываць вугаль. Грыша і я працавалі ў пачатку штрэка, дзе знаходзіўся вазок для пагрузкі вугалю.

Мы павінны былі рукамі піхаць ваганеткі да вазкоў, потым напоўненыя ваганеткі трэба было паставіць на шляху так, каб атрымаўся цягнік. Тады мы сігналам выклікалі машыну. Яна забірала поўныя ваганеткі і вяртала пустыя. Вазок напаўняўся зграбачом. Мы павінны былі манеўраваць ваганеткамі, каб ставіць іх на месцы, і падбіраць рассыпаны вугаль, што зваліўся з вазкоў.

Працавалі мы дзесяць гадзін без перапынку на абед. Тэмп быў шалёны, мы не мелі права паралізаваць працу, што адбывалася над намі. Капальня была заўсёды вільготная. У нашым аддзеле вада залівала рэйкі і пакрывала стыкі. Па меры таго, як яна сьцякала па сьценах штрэка і адтуль трапляла унутр гары, ваду адпампоўвалі насосы, якія працавалі пад намі. Але гэтая сістэма не была вельмі ўжо

эфектыўнай. Часам вада дасягала нам па шчыкалаткі. А на нагах у нас былі валёнкі, якія хутка прамакалі.

Каля пяці гадзін пасьля апоўдня са штрэка, які знаходзіўся над намі, з цяжкасьцю выходзілі людзі. Калі прыбывалі ў лагер, нашы валёнкі станавіліся мерзлымі і цьвёрдымі. Шчасьціла тым, хто здолеў не адмарозіць сабе ногі. У лагеры не было цякучай вады, таму мы, каб ачысьціцца ад вугальнага пылу, проста валялі нашыя курткі ў сьнезе, а потым мылі сьнегам твары і рукі. Мы мелі толькі рабочую вопратку і не здымалі яе нанач.

У "Западнай" я атрымліваў выключна толькі "гарантаваную" порцыю. Перш чым атрымаць у якімсьці лагеры карткі "плюс адзін", "плюс два" альбо "плюс тры" трэба было працаваць прынамсі месяц. У адрозьненьне ад іншых лагераў, у "Западнай" не прыносілі ежу ў баракі каб яе раздавалі брыгадзіры, а выдавалі з кухні. Гэта было карысна, бо ежа не астывала, але яшчэ гэта азначала неабходнасьць дзеля атрыманьня сваёй порцыі выходзіць на сьнег і вецер. Кожны меў бляшаную міску і кубак, якія захоўваў на нарах.

З-за таго, што наша харчаваньне практычна складалася з абеду і вячэры, нам давалі па паўлітра супу і дзьвесьце грамаў кашы разам у адной місцы. Часам, пасьля месяца працы, можна было дастаць дадатковую порцыю. Думаю, быў разьлік, што імкнучыся зарабіць дадатковую порцыю мы будзем працаваць лепей, але рэчаіснасьць не адпавядала гэтым разьлікам. Шэф брыгады атрымоўваў карткі каб раздаць сваім людзям паводле іх заслугаў і выкананай працы, але мы бачылі, што іх ніколі не атрымлівалі тыя, хто меў на гэта права, нават калі яны і працавалі немаведама як старанна. Зладзеі і тут, як і ва ўсіх турмах, былі гаспадарамі сітуацыі. Яны былі брыгадзірамі, старастамі баракаў, прамысловымі майстрамі. Яны, замест таго каб справядліва іх разьдзяліць, забіралі ўсе дадатковыя порцыі.

Надвор'е ў "Западнай" было страшным. Ніколі не сьціхаў вецер, толькі мяняў накірунак. Калі сьнегапад быў такі густы, што не было відаць больш за два крокі перад сабой, або калі мароз быў такі моцны, што пераходзячы да капальні мы рызыкавалі жыцьцём, нас вызвалялі ад працы. Выключэньнем былі брыгады, якія рыхтавалі фронт работ. Іх завозілі да капальні коньмі, запрэжанымі ў сані, і там яны на заўтрашні дзень рыхтавалі выбухі. Сьнежныя буры і завеі здараліся часта, таму каб забясьпечыць праход да капальні ўздоўж дарогі былі расьцягнуты тросы. У такія дні падрыхтоўчыя каманды знаходзіліся ў дарозе вельмі доўга, бо нават коні адварочваліся задам да ветру і не хацелі рухацца. Але тым не менш ішлі.

У бараку мне стаў сімпатызаваць Оттоман. Гэта быў дзікун, але шмат у чым падобны на дзіцёнка. Як толькі даведаўся, што я амэрыканец, я адразу яму спадабаўся. Сказаў мне заняць нары побач зь ім, што было вялікім гонарам, і зрабіў мяне сваім веставым. Аб'явіў, што калі хто-небудзь зробіць са мной непрыемны жарт, альбо раззлуе мяне, будзе мець справы зь ім.

Калі мы вечарам ляжалі на нарах, загадваў мне гадзінамі распавядаць пра Амэрыку. Мае аповяды слухаў як малы хлопчык, з шырокімі вачыма. Задаваў мне пытаньні, на адказы сьмяяўся і выкрыкваў:

— Гэтага не можа быць, я кажу, не можа быць!

Не мог уявіць сабе, што бываюць пяцідзесяці— ці шасьці-дзесяціпавярховыя будынкі. Не хацеў верыць, што людзі маюць дамы на пяць ці шэсьць пакояў для ўласнага ўжытку і што там месьціцца толькі адна сям'я.

Што? Кожная сям'я мае свой аўтамабіль, кожны дом мае каналізацыю, электрычнасьць, пральню, радыё, пыласос (аб іх ніколі не чуў), ваду ў кранах і мяккія крэслы — усё гэта было для казака чароўнай байкай, нейкім уяўленьнем незвычайных людзей і палацаў. Ён увесь час распытваў мяне пра адно і тое ж і я быў вымушаны ўвесь час распавядаць яму адно і тое ж, яму і іншым. Яму ніколі не хапала маіх аповядаў, так што я адчуваў сябе як Ганс Хрысьціян Андэрсэн.

Як асабісты веставы Оттомана я засьцілаў яго нары, прыносіў яму харчаваньне і займаўся ягонымі рэчамі. У адрозьненьне ад іншых, ён меў свой матрац, напханы апілкамі, і коўдру. У кухні было дастаткова падаць кухару міску і сказаць, што яна належыць Оттоману. Той даставаў замест супу мяса, асаблівую порцыю кашы з алеем і кавалкам тлушчу ці сала. Я мусіў клапаціцца каб у час, калі ён спаў, пад падушкай заўсёды быў ягоны штылет, а кожную раніцу знаходзіўся ў кішэні разам з нажом. У сваёй куртцы, падбітай аўчынай, ён меў адмысловыя кішэні — з аднаго боку для штылета, а з другога для доўгага, страшнага нажа. Я добра знаходзіў агульную мову з Грышам, цыганом. Ён таксама быў асобай, якая заўвёды валодае сабой. Штовечар ён дзеля дадатковай ежы працаваў на кухні і прапанаваў мне да яго далучыцца. Я мыў прыборы, падтрымоўваў агонь, шараваў падлогу. Я, трацячы сон,штовечар працаваў там па некалькі гадзін і атрымоўваў ежу, знаходзячы дадатковае падмацаваньне.

Назаўтра, і ўвогуле кожны дзень мы з Грышам былі сонныя, але гэта не стала для яго праблемай. Як толькі мы прыбывалі ў

капальню, адразу загружалі ўсе ваганеткі што мелі. Потым Грыша браў кавалак вугалю і падкладаў пад зграбач. Пасьля гэтага тэлефанаваў да ўваходу ў штрэк і паведамляў, што лінія заблакаваная. Мы ведалі, пройдзе як найменей гадзіна, а можа нават дзьве ці тры, перш чым прыйдзе рамонтная каманда. Тым часам мы маглі схавацца ў бакавым штрэку і са дзьве гадзіны паспаць.

Несумненна, сярод вязьняў, што працавалі ў капальні, Грыша і я такіх выпадкаў мелі больш за ўсіх. Некаторы час ніхто не здагадваўся аб нашых манеўрах. Мы альбо самі разблакоўвалі лінію зграбача раней, чым прыбывала рамонтная каманда, альбо Грыша сапраўды заблакоўваў яе такім чынам, што ўсё выглядала натуральна. Аднак дырэктар капальні ўрэшце пачаў нешта падазраваць, бо неўзабаве перавёў нас працаваць пры бурэньні.

Бурыльшчыкі былі вольнымі людзьмі, шахцёрамі і адмыслоўцамі, якія прыехалі ў Сібір каб за сваю працу мець вышэйшы заробак. Мы былі ў іх у якасьці памочнікаў. Бурэньне адбывалася з дапамогай пнеўматычных бураў, падобных на молаты. Мы дапамагалі буравікам пры перамяшчэньні прыладаў і націскалі ў тыя месцы, куды казалі. Грыша ў тых аперацыях удзельнічаць не хацеў. Як толькі ранкам мы прыходзілі на працу, ён зьнікаў і ніхто не ведаў дзе ён дзеўся.

Калі адтуліны былі прасьвідраваныя, іх запаўнялі порахам і выбуховымі зарадамі. Потым усе сьпяшаючыся хаваліся ў штрэках і ў вызначаным месцы раздаваўся выбух. Успамінаю, як аднойчы мы зрабілі выбух, але месца выбуху засталося загазаваным. Гэта ўратавала нас ад сьмерці. Мы даволі доўга перачакалі, потым увайшлі ў штрэк. Але паветра там было такое атручанае, што мы завагаліся, ці варта ісьці да месца выбуху. Пакуль так стаялі і пазіралі перад сабою, абвалілася ўся столь. Гэта быў апошні выбух у той дзень і мы былі такія змораныя, што не паварушыліся. Заставаліся на месцы, аглушаныя, разглядаючы нагрувашчаныя ў некалькіх кроках велізарныя блокі, і вакол нас, выклікаючы кашаль, віраваў пыл. Мы проста былі занадта стомленымі каб думаць аб бясьпецы, нават каб баяцца.

У тых капальнях я працаваў год. У лагеры панавала бязладдзе. Большасьць вязьняў складалі зброд і зладзеі, якія не адступалі ні перад якім гвалтам. Як заўсёды, яны ненавідзелі палітычных, і турэмшчыкі мелі вялікія цяжкасьці з падтрыманьнем дысцыпліны. Урэшце было вырашана ля падножжа гары Шмідта, у шасьці-сямі кіламетрах ад "Западнай", закласьці новы лагер. Каб павысіць дысцыпліну, лагерныя ўлады аддзялілі ўсіх палітычных і выслалі іх у новы лагер. Нашым брыгадзірам быў Оттоман.

У новым месцы быў толькі адзін барак, збудаваны мінулым летам. Ён быў поўны сьнегу, лёду і бочачак зь хімікаліямі, якія там захоўвалі. Мяне залічылі ў групу, якая мусіла ачысьціць барак. Большасьць чальцоў брыгады сьвідравалі адтуліны, каб туды можна было забіць слупы. Немагчыма, каб працоўны лагер не быў абкружаны сеткай з калючага дроту. Таму першым дзеяннем пасьля заснаваньня лагеру зьяўляецца ўсталяваньне слупоў і нацягваньне дроту. Гэта была праца да зьнямогі. Пакрытая метровым пластам сьнегу, замерзлая зямля. Людзі ўвесь час працавалі на адкрытым паветры, і гэта ва ўмовах сібірскай зімы.

Бочачкі з хімікаліямі важылі амаль сто сорак кілаграмаў і былі пакрытыя лёдам. Каб іх вывезьці з бараку мы пабудавалі са старых дошак прымітыўныя сані. Удвох браліся за бочачку, вызвалялі яе зь лёду і грузілі на сані, якія пхалі і цягнулі вонкі з дапамогай дроту, бо вяровак не было. Каб зьберагчы па магчымасьці свае рукі, абкручвалі дрот ад саняў вакол грудзей і цягнулі іх як ламавыя коні, душачыся і сьлізгаючы на мерзлай зямлі.

Так мы працавалі безь перапынкаў ад моманту прыбыцьця раніцай ажно да васьмі вечара. Калі ўрэшце накіроўваліся ў "Западную", шмат хто быў так зьнямагшыся, што проста не мог ісьці пад гару па стромкай дарозе. Тады мы іх клалі, бы бярвеньне, на сані, запрэжаныя коньмі. Тая дарога забірала ў нас амаль дзьве гадзіны і да лагеру мы даходзілі каля адзінаццаці. Зьядалі сваю кашу і валіліся на нары.

Праз тыдзень працы ў тым новым лагеры ўся брыгада была гранічна вымучана. Раніцай некаторыя проста не маглі падняцца з нараў. А некаторыя з тых, хто ўстаў, адмаўляліся працаваць, пратэставалі. Але Оттоман не хацеў весьці сваю брыгаду пакуль не зьбіраў усіх. Калі хто не трымаўся на нагах, яго выцягвалі і прывязвалі да саней, запрэжаных коньмі.

Такім чынам, праз сьнежныя гурбы, па выбоістай дарозе іх давозілі да працы. Прыбыўшы на месца, іх выгружалі і пакідалі на сьнезе. Здавалася немагчымым не замерзнуць лежачы ў сьнезе, але бліжэй да апоўдня іх бачылі ў бараку, сядзячымі ля агню, яны пачыналі адтаваць. Пасьля апоўдня Оттоман заганяў іх да працы.

У канцы месяца барак быў ачышчаны, дзіркі для слупоў прасьвідраваныя, вартавыя вышкі закончаныя, калючы дрот нацягнуты. Але гэта была пачварная праца. Харчаваньне і цяжкая праца дазвалялі толькі ледзьве трымацца на нагах, а самым вялікім нашым ворагам было надвор'е. Безупынна дзьмуў вецер, безупынна вiравала мяцеліца, дзяўбучы нас у твары і рукі.

Як толькі нацягнулі дрот, барак быў афіцыйна прыняты. Ён прызначаўся для самых горшых злачынцаў з папярэдняга лагера ў якасьці карнага. Семдзесят два зь іх далучылася да нашай брыгады палітычных, усе яны былі разьмешчаны ў адным бараку. Адзінай нашай ежай быў хлеб, прысыланы раз на дзень з Нарыльску. Чыгунка праходзіла ў пэўнай адлегласьці ад лагера, таму хлеб проста выкідалі на сьнег, а потым вязьні яго забіралі.

У час аднаго з такіх паходаў па хлеб я за малым не быў забіты. Калі перавозілі яго на санях у лагер, я ўбачыў, што зладзеі бралі вялікія кавалкі і пражорліва іх зьядалі. Турэмшчыкі не зьвярталі на іх увагі. Тады і я схапіў кавалак. І адразу атрымаў у сьпіну ўдар прыкладам, потым у твар другі, які паваліў мяне на калені, і нарэшце нагой, які адкінуў на нейкія чатыры з паловай метры на гурбу сьнега непадалёку. Турэмшчыкі адразу навялі на мяне зброю. Адзін зь іх загадаў мне ўстаць і вылезьці са сьнегу. Калі я зь цяжкасьцю ўстаў, то атрымаў высьпятка ў твар і ўпаў на сьпіну. Такая гульня паўтарылася шмат разоў. Калі б не ўстаў, турэмшчыкі пагражалі стрэлам, а калі падымаўся, білі ў твар. Нарэшые мяне ўштурхнулі ў шыхт, але я быў амаль няздатны ісьці.

Калі вярнуліся ў лагер, мяне пасадзілі ў карцэр, лагерную турму. Там вязень атрымоўвае толькі трыста грамаў хлеба і кубак вады ў дзень. Кара можа цягнуцца ад трох да пяці і нават да дзесяці дзён, у залежнасьці ад парушэньня. Пасьля выхаду адтуль вязьні былі слабыя як трысьнёг, калі ўвогуле ім шанцавала гэта пережыць, бо амаль што нічога не елі. Не было рэдкасьцю, калі вязень, адбываючы дзесяцідзённае пакараньне, у карцэры паміраў. Аднак мне спрыяла шчасьце, бо прыкладна праз паўгадзіны знаходжаньня ў турме мяне выклікалі да каменданта лагера, які хацеў ведаць, што здарылася. Я яму ўсё распавёў. Гэтая гісторыя, а яшчэ мае намаганьні, зь якімі я яе расказваў, ледзьве могучы варушыць вуснамі, яго вельмі разьвесяліла. Урэшце ён усьміхнуўшыся сказаў, што я ўжо дастаткова пакараны і магу ісьці.

Нягледзячы на тое, што мы падтрымлівалі агонь увесь дзень, барак быў вільготны. Драўніна цалкам не высыхала ніколі. Штовечар, каля паловы дзевятай мы пачыналі паляваньне на вошай. Кожны меў загад распрануцца і забіваць іх на сваім целе, а потым мы як маглі чысьцілі барак і нары. З прычыны прымітыўнасьці лагеру, лекарская дапамога была вартая жалю, фактычна яе не існавала.

У канцы траўня пачаў раставаць сьнег і ўсё заліваць, бо вада сьцякала з гор у нашу даліну. У лагеры яна была паўсюль, глыбінёй каля трыццаці сантыметраў, а месцамі і глыбей. Аднойчы вечарам

нас выгналі з баракаў мыцца. Гэта было першае купаньне з часу разьмяшчэньня ў бараку. Мы сталі на адкрытым паветры, дзьмуў вецер, на сьхілах гор яшчэ ляжаў сьнег. Вымыліся мы так хутка, як толькі было магчыма, але гэта было прыемна і мы адчулі сябе лепей. Усю вясну двор, а часта і барак былі залітыя вадою. Урэшце некалькі камандаў выкапалі асушальныя канавы.

У той час галоўнай нашай задачай было заканчэньне будоўлі самаго лагеру. Усё трэба было рабіць зь нічога. Каб абрабляць драўніну, якую прывозілі з чыгункі, мы заснавалі ўласны тартак і будавалі новыя баракі. Потым прыйшла чарга да кухні, харчовага складу і ўрэшце да лазарэту.

Новы лазарэт быў заўчёды поўны. Калі лекар, таксама вязень, даведаўся што я амэрыканец, папрасіў мяне перакласьці надпісы на амэрыканскіх леках, якія яму выдалі. За гэта ён дабіўся, каб мяне на тры дні ў тыдзень адпраўлялі да яго ў якасьці работніка лазарэта. Тады я атрымоўваў гарбату з цукрам і хлеб, і акрамя таго каб набрацца сілаў, вітаміны. Тыя перапынкі ў забойчай працы ў брыгадзе сапраўды захавалі мне жыцьцё.

У лагеры дзённая порцыя харчаваньня складалася толькі з хлеба, прывезенага чыгункай. Урэшце збудавалі адгалінаваньне да нашага склада, якое мы заканчвалі самі. Першая дастаўка харчаваньня адбылася тады, калі лакаматыў прыцягнуў чатыры вагоны тавараў. Як толькі адчыніліся брамы і заехалі вагоны, натоўпам прыбеглі зладзеі. Турэмшчыкі з дапамогай зброі затрымалі іх ля вагонаў.

Камендант загадаў крымінальнікам разгрузіць вагоны і занесьці харчаваньне ў склад. Тыя ўскочылі ў вагоны і ўзяліся за работу — кралі харчаваньне і разьбягаліся ва ўсе бакі. Турэмшчыкі спачатку стралялі ўгору, папераджальна, а потым пачалі страляць на паражэньне. Наколькі мне вядома, ніхто не быў забіты, але некалькі ўпала на зямлю выючы ад болю, што не перашкодзіла астатнім працягваць красьці. Іх нічога не магло стрымаць. Тыя, што знаходзіліся ў вагонах, выкідвалі скрыні, якія разьбіваліся, а іхняе зьмесьціва рассыпалася. Іншыя зладзеі зьбіралі раськіданае харчаваньне і напіхвалі ім кішэні, не баючыся страляніны. Некаторыя ўзбройваліся палкамі і кідалі іх у турэмшчыкаў. Жаўнеры, баючыся бунту, уступілі і ўцяклі. Пазьней вярнуліся, але чакалі пачатку прыёму ежы.

Камендант, каб знайсьці пакрадзенае харчаваньне, адразу выдаў загад абшукаць баракі. Але зладзеі не былі дурнымі і пастараліся схаваць здабычу, якая так дорага каштавала, у гурбах сьнегу ля лагера, з тым каб дастаць яе пазьней. Тыя чатыры вагоны забясьпечвалі нашае выжываньне на цэлы тыдзень. Таму ў тым тыдні

нам не далі нічога апрача кіпеню, маленькага кавалка цукру і супу, такога рэдкага, што хутчэй гэта была вада. З таго дня вагоны затрымлівалі па-за лагерам. Харчаваньне ў легер прыносілі палітычныя пад моцным эскортам. На час выгрузкі зладзеяў замыкалі ў бараках, яны не маглі нават выйсьці на двор. Няма нічога дзіўнага, што бязладдзе было там хранічным станам, бо гэты лагер быў прызначаны для найгоршых элементаў з ваколіцаў Нарыльску. Нешматлікія палітычныя вязьні былі раськіданыя па розных брыгадах і імкнуліся трымацца ўбаку. Нават пад пратэкцыяй Оттомана я імкнуўся быць незаўважальным і вечарамі заставаўся на нарах альбо дзе-небудзь у куце.

Калі я і меў нейкія сумненьні наконт таго, як хутка атрымаю праблемы, калі Оттомана не будзе паблізу, то аднойчы вечарам, тады, калі пайшоў на кухню спадзеючыся атрымаць дадатковай ежы, іх пазбавіўся. Ужо зьбіраўся ўвайсьці, калі сутыкнуўся са зладзеем, які прыйшоў туды з той жа мэтай. Быў ён аднарукім, са злосным тварам і з палкай ў далоні.

— Чаго тут блытаешся, фашыст? — замармытаў ён.

— А ты чаго, зладзей, — адказаў я.

У гэты момант ён кінуўся на мяне, размахваючы кіем. Я сьхіліўся пад ударам, схапіў нападаючага за плечы і, зьберагаючы жыцьцё, з усяе сілы супраціўляўся. Набегла яшчэ зладзеяў, але замест таго каб спыніць бойку, усе як адзін кінуліся на мяне і прафесійна "абслужылі". Калі вярнулася прытомнасьць, я ляжаў на сьнезе пакрыты сінякамі, але на шчасьце ніводная косьць не была зламаная. Гэта была цяжкая навука, але я яе больш ніколі не забываўся.

Паміж сабою зладзеі захоўвалі цьвёрдую каставую сістэму. Калі ранкам мы выходзілі з бараку, то часам бачылі закасьцянелыя трупы. Гэта было забойства, старыя рахункі паміж зладзеямі. Клопаты аб пахаваньні трупаў даручалі дзяжурнай брыгадзе.

Аднойчы вечарам у наш барак прыйшоў зь нейкім даручэньнем зладзей зь іншага барака. Дыскутуючы на гэтую тэму з Оттоманам, пасварыўся зь ім і той пачаў яго лаяць найгоршай лаянкай. З чыстай зухаватасьці зладзей выставіў перад Оттоманам грудзі, маўляў ён не баіцца. Оттоман адразу выхапіў свой нож і ўсадзіў яго туды. Той не ойкнуўшы абсунуўся на зямлю. Оттоман спакойна выцягнуў нож, выцер аб куртку пацярпелага і загадаў сваім калегам выкінуць таго з бараку. На шчасьце аказалася, што ён не забіты, яго ўзялі ў лазарэт і яму ўдалося выжыць.

Менавіта тады, памятаю, я пачаў вячэраць. Відовішча таго, што здарылася, так мяне ўзрушыла, ледзьве не званітавала. Але ўсе астатнія спакойна елі далей, быццам нічога не здарылася, а потым

пачалі размаўляць альбо як заўсёды гуляць у карты. Гэтыя людзі былі жорсткія і бязьлітасныя, і адзіным законам, якога яны прытрымліваліся, быў іх уласны закон. Іх асьцерагаліся нават турэмшчыкі, прынамсі па магчымасьці пазьбягалі інцыдэнтаў зь імі.

Лагер ужо быў амаль закончаны і пачаліся працы на паверхні зямлі ў капальні. Гліна, якая знаходзілася пад верхнім пластом зямлі, была эўралітыем, які ўжываецца перш за ўсё пры вырабе тэрматрывалай цэглы. Яе на гэтай тэрыторыі знайшлі ўпершыню і таму гліну, здабытую ў нашым кар'еры адправілі ажно ў Краснаярск. А лагер назвалі "Эўралітыем". З-за мерзлага грунту верхні пласт узрывалі дынамітам і дабіраліся да гліны. Праз тры месяцы попыт на тую гліну стаў такі вялікі, што кар'ерную сістэму прызналі занадта павольнай. Дынамітам прарабілі глыбокі ствол і побач з пластом гліны пачалі выдзёўбваць гарызантальны штрэк. Я зноў пачаў працу шахцёра.

Неўзабаве, дзякуючы аднаму палітычнаму вязьню па прозьвішчу Грыбунов, я быў вызвалены ад працы ў капальні. Гэта быў былы палкоўнік Чырвонай Арміі, маўклівы і паважны чалавек. Ён ніколі не ўжываў жаргону і не адступаў ад культурных, абавязковых для афіцэра і чалавека гонару нормаў. Быў таксама палкім камуністам. Казаў, што асабіста ведаў Сталіна. Таму быў асабліва расчараваны фактам, што прысьвяціўшы ўсе свае здольнасьці службе краіне, усё ж быў сасланы ў працоўны лагер, казаў, што з-за здрады ўнутры самой партыі.

Грыбунов быў у захапленьні ад амэрыканскай арміі і калі пачуў, што я амэрыканец, прыйшоў са мной пабачыцца. Яму неяк удалося перавесьці мяне працаваць у тартак, разам зь ім. Будоўля лагеру закончылася, але зараз мы апрацоўвалі драўніну для патрэбаў капальні. Аднойчы, калі мы скончылі абсякаць нейкую калоду і выйшлі за новай, то пачулі, што піла пачынае заглыбляцца ў нешта такое, што не было драўнінай. Забеглі і ўбачылі маладога зладзея з рукой у механізме. Кроў хвастала ва ўсе бакі.

— Зрабіце мне перавязку, — зусім спакойна сказаў ён.

Мы паклалі яму перацiск і павязку, пасьля чаго ён пайшоў лячыцца далей, у лазарэт.

Грыбунов і я ледзьве не атрымалі карцэр, бо пакінулі пілу без нагляду і далі магчымасьць зладзею адрэзаць сабе руку. Такія калецтвы з мэтай вызваленьня ад працы былі вельмі распаўсюджанымі. Людзі клалі руку на сьцяну будынка і,быццам забаўляліся якойсьці гульнёй, адным ударам сякеры адсякалі сабе пальцы. Пры гэтым не вымаўлялі а ні гуку, так як і той малады злодзей у тартаку, а проста

спынілі кроў і ішлі да лекара. Таму інструменты выдавалі толькі "надзейным" людзям. Было вельмі небясьпечна, калі "выпадак" здараўся з інструментам, які табе выдалі.

Былі яшчэ іншыя спосабы, менш гвалтоўныя, але таксама рызыкоўныя, якімі зладзеі маглі вызваліцца ад працы. Напрыклад таўклі на парашок кавалак цукру і адным уздыхам яго ўдыхалі. На працягу тыдня атрымоўвалі запаленьне лёгкіх і кровахарканьне, быццам былі сухотнікамі. Таму праз некаторы час цукар сталі даваць толькі разам з кашай, ужо распушчаным у ёй.

## Будаўнічы рабочы ў Нарыльску

Неяк ранкам, у чэрвені 1947 г., перад выхадам брыгады на працу, мне сказалі каб я застаўся ў бараку. Я зьдзівіўся. Каля дзесяці гадзін у барак прыйшоў турэмшчык і спытаў рэгістрацыйную карту. Калі я аддаў яе, каб упэўніцца што ўсё ў наяўнасьці, адразу перагледзеў маю вопратку. Мы толькі што вярнулі зімовую вопратку і атрымалі летнюю, баваўняныя нагавіцы, куртку і шапку. Калі закончыў, загадаў запакаваць рэчы і ісьці за ім.

Я выйшаў з турэмшчыкам праз галоўную браму "Эўралітыя" і мне ўдалося кіўнуць на разьвітаньне Гарбунову, паўз якога ішлі. Больш яго я ніколі не бачыў. Мы пайшлі ўздоўж чыгуначнай каляіны, пракладзенай па сьхілу пагорка, спусьціліся ў Нарыльск і накіраваліся да лагера, які не меў назвы, яго называлі проста "лагер №2". Некаторыя працоўныя лагеры вакол Нарыльску мелі уласныя найменьні, такія як "Западная" і "Эўралітый", але большасьць зь іх мелі толькі нумары. Калі прыйшлі ў лагер, турэмшчык завёў мяне да адміністрацыі. Я прайшоў звычайныя рэгістрацыйныя фармальнасьці, потым купаньне і галеньне. Урэшце быў замацаваны за брыгадай і баракам. Лагер №2 быў вельмі вялікі. Прынамсі меў пяцьдзесят ці шэсьцьдзесят баракаў, збудаваны шэрагамі ўздоўж вуліц праз роўныя інтэрвалы. Быў у дагледжаным, ахайным стане, бо ўтвараў, уласна кажучы, горад Нарыльск. Баракі былі аднапавярховыя на ўзвышшы ля падножжа гары Шмідта. Ля ўваходаў мелі прыступкі, што рабіла іх падобнымі да дамкоў. А яшчэ яны былі сьвежапабеленымі. У тым лагеры кожны барак быў пасярэдзіне разьдзелены калідорам, так што з абодвух яго бакоў знаходзіліся два шэрагі памяшканьняў. На калідоры разьмяшчаліся ўмывальнікі і вешалкі для вопраткі.

Нары ўздоўж сьцен балі як заўсёды двухпавярховыя, але паміж кожнай парай, у адрозьненьне ад суцэльных шэрагаў, якія мне прыходзілася бачыць дагэтуль, быў вузкі праход. На нарах я ўбачыў —

першы раз у лагеры — тонкія матрацы і коўдры. Пасярэдзіне памяшканьня знаходзілася невялікая цагляная печ зь вялікім навесам для ўтрыманьня цяпла. За печчу стаялі доўгі стол і зэдлі. У адным з кутоў стаяла кадушка з вадой для мыцьця і бляшаны кацёл з пітной вадою. Кожная секцыя мела дзяжурнага, які пільнаваў, каб ежа ў вызначаны час была на стале, каб у бараку было чыста і каб не прападалі коўдры і вопратка.

Таксама кожным ранкам дзяжурны прыносіў з сушыльні, што знаходзілася пасярэдзіне лагера, валёнкі, якія там пакідалі кожны вечар. Яны мелі нумары, маім нумарам быў 0111, мы пісалі іх на валёнках крэйдай перад тым, як павесіць у сушыльні на гак. Аднак з-за таго, што крэйда лёгка сьціралася, каб іх не ўкралі ці не замянілі, кожны дадаваў на валёнкі свой асаблівы знак. Маючы на нарах коўдры, мы ўжо не павінны былі спаць у рабочай вопратцы. Так што вешалі яе нанач на прасушку. На вопратцы нумары былі намаляваныя фарбай.

Лагер №2 быў таксама першым з тых дзе я знаходзіўся, у якім відавочна зьвярталі ўвагу на чысьціню баракаў і людзей. Раз у дзесяць дзён мы мыліся і тады нам стрыглі машынкай валасы, галілі цела (каб засьцерагчы ад вошай) і давалі па невялікаму кавалку мыла. Перад уваходам у лазьню мы распраналіся і аддавалі вопратку на дэзінфекцыю. Пасьля лазьні ставалі ў чаргу за чыстай бялізнай. Апраналі тое, што атрымоўвалі, незалежна — завялікае ці замалое. Калі штосьці было вельмі цесным — разрывалі каб не ціснула. Пры наступным мыцьці бялізну вярталі падранай на шматкі. Тут, таксама ўпершыню, пралі нашыя ватовыя нагавіцы і курткі, раз у тры месяцы.

Галоўнай задачай лагера №2 была пабудова вялікай фабрыкі па апрацоўцы руды. Яна павінна была называцца БОФ. У першы вечар майго знаходжаньня ў тым лагеры баракі абыходзіла камісія, якая вызначала сьпецыяльнасьць новапрыбылых вязьняў. У маёй брыгадзе быў малады хлапец па імені Міхаіл, яму было не больш дваццаці год, зь якім я хутка пасябраваў. Ён добра ведаў усе "кручкі" і таму параіў мне зарэгістравацца механікам. Быў у брыгадзе яшчэ малады габрэй, Ваня, які таксама зарэгістраваўся механікам. Калі надыйшоў час адпачынку, мы ўсе трое былі ўжо залічаны да каманды тэхнікаў, але ж ніводзін з нас нічога не разумеў у механіцы.

Назаўтра ўзяліся за працу на фабрыцы. Яна знаходзілася ў адлегласьці каля ста метраў ад галоўнай брамы. Пералічвалі нас толькі пры выхадзе і ўваходзе, без турэмшчыкаў, амаль так, быццам запаўнялі рабочы фармуляр. Тым ранкам мы, новасьпечаныя меха-

нікі, зьявіліся ў секцыі апрацоўкі металу. Неўзабаве мы выявілі, што справа там у чарчэньні мадэлі металічных плітаў, катлоў і г.д. для расплаўленьня металу. Брыгадзірам быў габрэй па прозьвішчу Стэйн, і ён пачаў тлумачыць мне заданьне. Я рухам галавы паказаў на Ваню.

— Калі ласка, зьвярніцеся да яго, — сказаў я, — Я толькі ягоны памочнік.

Стэйн хутка растлумачыў, чаго ён ад нас чакае і на першы раз даў нам просты чарцёж. Ваня з выглядам прафесіянала ківаў галавою, у задуменьні прыкладаў да ілба палец і вадзіў рукою па падбародку. Калі Стэйн выйшаў, мы выцягнулі сваю першую жалезную бляху і пачалі паціху раіцца. З чаго пачаць і які інструмент ужыць? Мы нічога ў гэтым не разумелі. Неўзабаве вярнуўся Стэйн. Зразумеў, што мы яго падманулі, але нічога не сказаў. Урэшце Ваня ўзяў быка за рогі і начарціў ад рукі свой першы эскіз, прыкідваючы памеры на вока. Потым з самаўпэўненасьцю майстра ў сваёй прафесіі паклікаў зваршчыка і загадаў яму прырэзаць бляху газарэзкай. Памеры, канечне, не адпавядалі патрэбным.

— Ба, — сказаў Ваня, — нават майстры робяць памылкі!

На шчасьце я неўзабаве пазнаёміўся з немцам, які на самой справе быў майстрам. Крок за крокам ён навучыў нас таму, што мы павінны рабіць. Паступовa наша праца станавілася нешта вартай. Мы былі ёй задаволены, бо пазьбеглі залічэньня ў групы, якія цягалі ў двары тачкі. Да зімы меркавалася пакрыць будынкі дахам і праца выконвалася ў сьпешным тэмпе. Сьцены ўзводзілі так хутка, што нават мы, "прафесійныя механікі", былі вымушаны калі-нікалі ісьці дапамагаць працуючым з тачкамі. Пад канец лета ўжо было так холадна, што ў цэментнай рошчыне замярзала вада, але цэглу клалі безупынна. Адміністрацыя сьцьвярджала, што мае новы метад вырабу рошчыны, які дазваляе класьці цэглу нягледзячы на мароз. Фактычна гэты новы метад заключаўся ў тым, што рошчына застывала, а дакладней замярзала і была такой крохкай, што яе можна было выдрапаць пальцамі з прамежкаў між цаглінамі.

Сьпешка, надвор'е і цэментная рошчына склаліся і справакавалі катастрофу. Бакавая сьцяна аднаго з фабрычных будынкаў, выкладзеная прыкладна на дзьве трэці, раптам абрушылася і завaліла працуючых ля яе рабочых. Я так ніколі і не даведаўся колькі там загінула, бо ўсе брыгады адразу адаслалі ў лагер яшчэ да пачатку выратавальных работ. Назаўтра большасьць будаўнічых камандаў, і мая таксама, былі пераведзены ў лагер №9 з другога боку горада. Прыгналі новыя брыгады, сьцяну выклалі і фабрыка прыняла рэальную форму.

Лагер №9 быў таксама неблагім лагерам. Баракі, чыстыя і цёплыя, таксама мелі матрацы і коўдры. Разьмешчаны ля вялікай капальні гліны, лагер быў прызначаны для вытворчасьці матэрыялаў, неабходных для далейшай будоўлі Нарыльска. Побач знаходзілася цагельня і яшчэ невялікая фабрыка, якая выпускала бетонныя блокі, ваконныя рамы і шкляны напаўняльнік для адмысловых матэрыялаў. У цагельні мы працавалі і днём і ноччу трыма зьменамі. Машын амаль не было, меліся прымітыўныя мяшалкі, нават цагліны кроілі ўручную. Фабрыка разьдзялялася на два аддзелы: меньшы, дзе перамешвалі гліну і кроілі цэглу, і большы, дзе было тры печы для абпальваньня яе. Я быў туды залічаны.

Паўсюль былі службоўцы, прысьпешвалі каб хутчэй працавалі, каб хутчэй выходзіла прадукцыя. З-за таго, што гэта была галоўная крыніца будаўнічых матэрыялаў для ўсіх будоўляў у Нарыльску і вакол яго, службоўцы адчайна стараліся не адставаць ад запатрабаваньняў. Падганялі, пагражалі, абяцалі, але пераважна безвынікова. Вязьнямі лагеру №9 былі пераважна зладзеі, а тыя працавалі так мала, як толькі было магчыма.

Нарэшце ў пачатку 1948 г. назву лагера зьмянілі на "лагер №5". Зладзеяў перавялі ў іншы і, каб выконвалася праца, прыгналі вялікія групы палітычных. У час рэарганізацыі лагера мяне залічылі ў будаўнічую брыгаду, фактычна занятую будоўляй горада Нарыльска. Брыгады з лагеру №2 працавалі ў горадзе на тэрыторыі пад назовам "Гор-Строй", зараз зьявіліся там і мы, з лагеру №5. Першыя будынкі былі ў асноўным двухпавярховыя, падобныя да лагерных баракаў, але ў 1948 г. мы будавалі жылыя дамы пяці— і шасьціпавярховыя.

Пачаткам працы заўсёды была расчыстка пляцоўкі пад новы будынак і ўсталяваньне вакол тэрыторыі будоўлі агарожы з калючага дроту. Потым капалі катлаван для падмурка. Для шасьціпавярховых будынкаў трэба было дакапацца да цьвёрдага грунту, а гэта значыць на глыбіню шаснаццаць — дваццаць чатыры метры праз пласты вечнай мерзлаты. Усё гэта выконвалася з дапамогай кірак і рыдлёвак. Падмуркі былі не суцэльнымі, яны складаліся з апораў сячэньнем два квадратных метры, заглыбленых у цьвёрдым грунце, на якія апіраліся бетонныя палі і ўжо на іх павінен быў стаяць увесь будынак.

Адну яму пад апору капалі трое людзей. Для пад'ёму зямлі прыходзілася выкарыстоўваць вядро, адзін чалавек працаваў наверсе, а двое ў зямлі — адзін капаў, а другі напаўняў вядро. Працавалі па дзесяць гадзін штодзённа з паўгадзінным перапынкам на абед. Хоць тэмпература на паверхні зямлі даходзіла да мінус сарака градусаў, у яме каб выпрацаваць дзённую норму прыходзілася

распранацца да пояса. Як толькі дакапваліся да скалы, а апора была гатовая, адразу вылівалі бетон. Каб запоўніць адтуліну часам патрабавалася адзін-два дні, бо бетон выраблялі таксама ўручную, а надвор'е гэтай працы не спрыяла.

Калі заканчвалі падмурак, на тых узмоцненых палях пачыналі ўзводзіць сьцены. І знаў усё рабілася рукамі. Цэгла, цэмент, дрэва — усё рукамі падавалася па драбінах альбо ўсьцягвалася на шосты паверх. Аднак нягледзячы на тыя прымітыўныя ўмовы, шасьціпавярховыя жылыя дамы былі скончаны пасярэдзіне зімы, за няпоўныя тры месяцы.

Канечне, было шмат марнатраўства. Часам пры перагрузцы разьбівалася паўвазка цэглы, альбо пакуль рыдлёўкамі выгружалі цэмент, паўвагона яго разносіў вецер. Натуральна, не заставаліся ў баку і вязьні. Пры зручным выпадку кралі драўніну каб грэцца ў час працы. Самым важным было скончыць будынак у тэрмін і яшчэ каб дзённая норма была выкананай і гэта пацьверджана праверкай.

Праца была цяжкай і час цягнуўся марудна, але жыцьцё ў лагеры №5 было лепшым чым тое, што я меў дагэтуль. Палітычныя вязьні, якія там знаходзіліся, былі цікаўнымі, сяброўскімі, ахвотнымі суразмоўцамі, а таксама мелі моцнае пачуцьцё еднасьці. Калі кожны вечар мы, вяртаючыся ў лагер, сустракаліся ля брамы, то жартавалі і з чаго— небудзь сьмяяліся. На зваротным шляху мы павінны былі праходзіць праз цэнтр Нарыльска. Людзі са спачуваньнем пазіралі на нас і хоць мы не маглі спыніцца і пагутарыць зь імі, вязьні выпростваліся і крочылі па вуліцах горада больш бадзёра.

А яшчэ ў лагеры №5 я ўпершыню пасьля Дудзінкі адслужыў сьв. імшу. І зноў а. Каспэр быў маім "анёлам". Ён прыбыў проста з Дудзінкі і ўжо штодзень адпраўляў імшу для вялікай групы палякаў, летувісаў, латышоў і іншых каталікоў. Адшукаў мяне ў першы ж вечар пасьля майго прыбыцьця і папрасіў дапамогі. Я быў шчасьлівы і неўзабаве прыняў адну зь ягоных "парафій".

Арганізатарам маёй "парафіі" быў паляк па імені Віктар. Гэта быў чалавек сярэдняга росту, зусім лысы, з чорнымі як вугольлі вачыма і бледным тварам. У мінулым — настаўнік. Зараз займаўся пераплётнай справай і яго майстэрня знаходзілася ў будынку дырэкцыі лагера. Там, пад самым носам начальніка, штовечар, за рэдкімі выключэньнямі, я ва ўсходнім абрадзе адпраўляў імшу. Я меў невялікі келіх і патэну, якія зь нікелю для мяне зрабіў адзін вязень. Віно зноў рабілі з разынкаў, а адмысловы хлеб выпякалі латышскія каталікі, якія працавалі ў лагернай кухні.

Віктар штовечар удзельнічаў у сьв. імшы і прымаў сьв. прычасьце. Таксама часта прыходзіў расеец Смірнов. Ён напамяць ведаў літургічныя малітвы і адказваў ад імені сабраных. Зьбіраць у памяшканьні шмат людзей было небясьпечна, бо гэта магло прыцягнуць да нас увагу, але чуткі аб тых службах разыходзіліся і ўсё больш вязьняў хацелі ў іх удзельнічаць. Празь нейкі час Каспэр і я пачалі моцна рызыкаваць. Мы адпраўлялі імшу ў адным з баракаў, дзе большасьць вязьняў складалі летувісы і палякі, а брыгадзір быў чалавекам рэлігійным.

Урэшце нехта мяне здрадзіў. Мяне выключылі з будаўнічай брыгады і залічылі ў іншую, у бараку на другім канцы лагера, пад камандай строгага брыгадзіра, якому загадалі пільна за мною назіраць. Ён нічога не ведаў аб рэлігіі і яго не папярэдзілі, што выкрыць у ва мне трэба якраз рэлігійныя справы. Таму людзі прыходзілі вечарам у барак пагуляць у карты ці даміно і ў агульным шуме галасоў шапталі мне, колькі споведзяў і прычасьцяў запланавана на той вечар ці наступны ранак.

Потым я выходзіў на шпацыр. Праходзячыся па лагеры спатыкаў то аднаго чалавека, то другога, слухаючы ў час супольнага шпацыру споведзі. Калі споведзяў і прычасьцяў было шмат, даручаў людзям устаць раней і знаходзіцца ў розных кропках лагеру. Там я меўся зь імі спаткацца, натуральна выпадкова, у групах па двох ці трох і пад выглядам ранішніх прывітаньняў удзяліць ім сьв. Прычасьце. У іншых выпадках я раздаваў усё прычасьце ў час вячэрняй імшы, бо захоўваць Найсьвяцейшы Сакрамант было рызыкоўна, мог здарыцца начныператрус. Турэмшчыкі наўмысна не шукалі Сьвяты Сакрамант, але ў часператрусу забіралі ўсё, так што я не мог рызыкаваць.

Час ад часу службоўцы дапытвалі мяне аб маёй рэлігійнай дзейнасьці, і раз адкрыта папярэдзілі, каб ні ў якім разе не займаўся. Я ведаў, што за мной сочаць. Аднак Віктар падслухоўваў размовы, якія адбываліся ў кабінетах ля яго пераплётнай майстэрні. Калі чуў маё прозьвішча, стараўся праз шчыліны ўбачыць, хто на мяне даносіў і хто сачыў.

Каб пазьбегнуць падазрэньняў, мы празь нейкі час пачалі пераносіць нашу імшу з бараку ў барак. Калі дзяжурны быў сваім і пільнаваў дзьверы каб ніхто, хто не жыве ў дадзеным бараку альбо на яго погляд не належыць да групы, не ўваўшоў, я ў куце адпраўляў імшу. Агалошвалі казаньні і экзорты шпацыруючы групамі па падворку, гэтак жа як іншыя групы вязьняў занятыя размовамі ці спрэчкамі. Часам, калі было няшмат людзей, я слухаў споведзі ў

бараку робячы выгляд гульні ў даміно ці чытаньня камуністычнай брашуры. Прыходзіць да споведзі рэгулярна, штомесяц, а некаторыя нават штотыднёва, пачала значная група. Увогуле, мы мелі квітнеючыя "парафіі".

Каля сярэдзіны 1948 г. у нашым лагеры разышлася чутка, што будзем будаваць ля Нарыльску вялікую фабрыку медзі. Вязьні лагера №5 першымі пачулі аб гэтым ад калегаў, якія працавалі ў кабінетах, а тыя даведаліся ад службоўцаў. Тая будоўля была такой важнай, што кіраваць ёй меўся генерал па прозьвішчу Зьверэў, які карыстаўся рэпутацыяй чалавека, што ўмее давесьці працу да канца ў вызначаны тэрмін. І тады аднойчы вечарам на лагернай дошцы аб'яваў зьявілася папера: " Пералічаным ніжэй падрыхтавацца да этапу..." У сьпісе было і маё прозьвішча.

### Лагер №4 будуе фабрыку медзі

Лагер №4 быў разьмешчаны ў адлегласьці тры кіламетры. Хуткім маршам мы ішлі да яго нядоўга. Ідучы дарогай да галоўнай брамы я ўбачыў двухярусныя баракі, пабудаваныя са шлаку і цэглы, даволі неблагія і добра дагледжаныя. Яны нагадвалі горад у сэрцы турдры. Аднак гэта быў працоўны лагер, на што паказвалі два шэрагі агарожы з калючага дроту, паміж якімі знаходзілася забароненая зона. Мы спыніліся ля брамы, лагерная адміністрацыя правярала дакументы, якія прадаставілі канвойныя турэмшчыкі. Фармальнасьці цягнуліся каля гадзіны і гэта дазволіла нам агледзецца ў новым месцы. Лагер стаяў на пляскатай пляцоўцы і паўсюль была тундра, парослая высокай і густой травой. На ўсходзе, ў адлегласьці сем з паловай кіламетраў узвышалася гара Шмідта, а за ёй, у аддаленьні, горны ланцуг, сапраўдны асяродак прыродных багацьцяў Сібіры. На захадзе краявід быў раўнінны і толькі далёка за Енісеем віднеліся сілуэты пакрытых сьнегам узвышшаў. На поўдні і поўначы была вялізная адкрытая тэрыторыя, падобная на даліну між двума горнымі ланцугамі.

Пакуль мы чакалі звонку лагера, вязьні, якія знаходзіліся ў ім падыйшлі да дроту. Радасна нас павіталі і паведамілі, што ўмовы ў лагеры №4 вельмі добрыя. Усе, здавалася, былі ў добрым настроі, цікавіліся хто мы, распытвалі аб знаёмых і земляках, крыху падкалваючы адзін другога па нацыянальных асаблівасьцях. Турэмшчыкі не зьвярталі на гэта ўвагі. Нарэшце далі загад шыхтавацца. Па чарзе выклікалі нас па прозьвішчах для праверкі ў браме.

Уступныя фармальнасьці утрымлівалі цэлую серыю пытаньняў — прозьвішча, імя бацькі, уласнае імя, месца нараджэньня, дата нараджэньня, абвінавачваньне. Дзе быў абвінавачаны, дзе атрымаў прысуд, хто яго выдаў? У якім месцы і калі выдалі прысуд? У якіх лагерах знаходзіўся, колькі яшчэ засталося да адбыцьця пакараньня? Ці былі якія-небудзь дадатковыя абвінавачваньні за злачынствы ўчыненыя ў лагерах? Калі адказы на пытаньні супадалі з фактамі, занесенымі ў дакументы, вязьня запускалі за браму, калі не, загадвалі адыйсьці ўбок каб зноў праверыць дадзеныя пасьля ўсёй групы.

За брамай турэмшчыкі нас грунтоўна абшукалі, потым перадалі нарадчыку (брыгадзіру), які разьмяркоўваў нас па асобных групах, і помпабыту (службоўцу), які вызначыў нам жыльлё. Каб зарэгістраваць нашы рэчы, завялі ў бухгалтэрыю. Нам дазвалялася мець толькі турэмнае майно: летам шапку, куртку, нагавіцы, рабочыя чаравікі, зьмену бялізны і анучы для абкручваньня ступняў, замест шкарпэтак. Загадчык складу сказаў нам, што пазьней, калі мы будзем мець прызначаныя нам нары, трэба будзе зарэгістраваць у бухгалтэрыі матрац, падушку, коўдру і ўсе іншыя рэчы, выдыдзеныя нам для асабістага ўжытку. У пачатку зімы трэба будзе аддаць летнія рэчы і атрымаць пару валёнак, ватовыя нагавіцы, вытовую куртку і ватовую зімовую шапку з вушамі, цёплую кашулю і кальсоны, пару паркалёвых рукавіц, а калі праца будзе на вуліцы — пару руквіц баваўняных. Гэтай зімовай экіпіроўкі нам павінна хапіць на дзьве зімы, а летняй — толькі на год.

Пасьля рэгістрацыі брыгадзір завёў нас у клуб, вялікі аднапакаёвы будынак у цэнтры лагера. Там былі карты і шахматы, газеты і брашуры, а лепшыя рабочыя атрымоўвалі дазвол чытаць кніжкі. Часам, у дні вялікіх сьвятаў, такіх як першага траўня, дзень кастрычніцкай рэвалюцыі, для выбітных працаўнікоў у клубе дэманстравалі фільмы. Мы часова не маглі вольна перамяшчацца па лагеры, бо яшчэ не былі прыпісаныя да баракаў і брыгадаў, але ля клуба пачалі круціцца вязьні з лагера, шукаючы старых знаёмых. Яны проста ігнаравалі турэмшчыкаў, якія спрабавалі іх не пусьціць.

Там я ў першы раз спаткаў сьвятара, якога не бачыў з 1941 г. Яму паведамілі, што ў лагеры знаходжуся я і ён, шукаючы мяне, пераходзіў ад групы да групы. Я пачуў вокліч "Цішэк", але з-за таго, што яго не ведаў, не адазваўся. Урэшце ён падыйшоў да мяне і сардэчна павітаўся. Тое, што ён мяне пазнаў, яшчэ не аб чым не казала, і я спытаўся, хто ён.

— Я сьвятар Віктар. Не пазнаеш?

— Не, — адказаў я.

— Памятаеш, калі ты прыйшоў да архібіскупа Шаптыцкага, я быў тым, хто спаткаў ля дзьвярэй і правёў да яго?

А. Віктар спытаўся, што са мной было, у якіх лагерах знаходзіўся і як сябе адчуваю. Потым распавёў мне як ён сам быў арыштаваны і як з-за страху перад людзьмі чыноўнікі асьцерагаліся выступіць супраць архібіскупа. Сказаў мне, што ў лагеры №4 я зьяўляюся дзевятым сьвятаром. Я адразу падумаў, што сярод іх можа быць Нестров, але Віктар яго не бачыў. Было двое польскіх каталіцкіх сьвятароў, трое летувіскіх, адзін латыш, а зараз і я. Я паведаміў яму, што сюды таксама прыбыў а.Каспэр. Ён спытаўся, ці адпраўлялі мы імшу, і я распавёў пра тое, што рабілі ў лагеры №5. Віктар заверыў, што ў лагеры №4 імша адпраўляецца рэгулярна і што пастараецца дастаць для адпраўленьня імшы мне і а. Каспэру ўсё, што будзе патрэбна.

Было ўжо позна, а я ўсё яшчэ не быў разьмеркаваны ў брыгаду і барак. Толькі пад раніцу мяне замацавалі за брыгадай. Я пайшоў за дзяжурным да майго бараку і мяне памясьцілі на другім паверсе. Баракі былі ў добрым стане, нават мелі цэнтральнае ацяпленьне, бо першапачаткова будаваліся ў якасьці вайсковых казармаў. Але памяшканьні былі перапоўненыя, працаваць на аб'ект прыгналі вельмі шмат новых людзей.

З-за таго што нам загадалі брацца за працу наступным ранкам, я не трацячы часу пайшоў спаць. У пяць гадзін раніцы прагучаў сігнал, а гадзінай раней дзяжурны раздаў нам ранішнія порцыі хлеба і кіпеню. Прычына гэтай сьпешкі была відавочнай — у бараках панавала сапраўдная цісканіна. Колькасьць людзей была завялікай і карыстацца выгодамі ўсе не пасьпявалі. Не ўсе маглі дастаяцца да ўмывальніка перад выхадам на працу. Сьняданак стаў нацыянальным кашмарам лагернікаў — есьці трэба было на бягу.

Месца, выбранае для новай фабрыкі медзі "Камбінат" знаходзілася ў чатырох кіламетрах на поўдзень ад лагера. Дарогі туды не было, але мы хутка яе вытапталі. Цяжэй было турэмшчыкам, якія рухаліся па баках рабочых калюмнаў і спатыкаліся ў кустах жаўтазелю, які даходзіў ім да пояса.

Мы, новапрыбылыя, убачылі шырокую, адкрытую, роўную пляцоўку каля паўтара квадратнага кіламетра. Перад нашым прыбыцьцём у лагер №4 яна ўжо была ачышчаная, але яшчэ не цалкам абкружаная калючым дротам. Калі ўсе брыгады, больш як чатыры тысячы людзей, сабраліся і атрымалі працу і абсталяваньне, гэтае месца выглядала як поле бітвы. Па сігналу пачаць працу адбыўся як быццам выбух. Молаты і кампрэсары пачалі рытмічна

ляскаць, малыя машыны прыйшлі ў рух і прастора запоўнілася грукатам металу аб метал. Паўсюль снавалі вязьні з тачкамі. Яны цягалі зямлю і абломкі скалаў. Вывозілі іх на кучу, што знаходзілася з паўночнага боку. Хутка пачалі праяўляцца формы катлаванаў. Паўсюль з непахісным спакоем швэндаўся генерал Зьверэв і разам зь ім ягоны штаб. Пераходзілі з аднаго рабочага месца на другое, аглядалі выкананую працу, заахвочваючы вязьняў і абяцаючы ім дадатковую ежу, каб толькі справа была скончана своечасова. Таму рытм працы быў незвычайны. Зямля ляцела ва ўсіх кірунках як выкінутая з долу выбухам. Да апоўдня ўтварыліся кучы, вышэйшыя за чалавечы рост. Выкапаная зямля запаўняла ўсю будаўнічую пляцоўку, бо яе немагчыма было вывозіць у тым тэмпе, у якім яна паступала. У той памятнай працы не было ні адпачынку ні перапынку ажно да абеду. Але цуд — у гэты час на грузавіках прывезьлі гарачы суп. Я упершыню бачыў нешта падобнае ў Сібіры, а суп быў, як казалі вязьні, "мировой" (цудоўны), такі густы, што лыжка магла ў ім стаяць.

У час абеду я агледзеўся навокал і ўбачыў, што на станцыі выгружаюць цэлыя цягнікі будаўнічых машын і матэрыялаў, і гэта тады, калі толькі пачалі капаць катлаваны. З гораду прыяжджалі шэрагі грузавікоў і прывозілі новыя машыны. Пасьля разгрузкі ў шуме і пыле ехалі за наступнымі. Пасьля ежы мы ўзяліся за працу і працавалі безь перапынку да пяці гадзінаў. Як толькі тэмп запавольваўся, прыходзілі брыгадзір або службовец і падганялі, абяцаючы павялічаную порцыю. Увечары ўсе былі выснажаныя дашчэнту. Брыгады зьбіраліся пры браме павольна, хоць усе былі зацікаўлены ў тым, каб апынуцца ў бараку. У лагер мы вярнуліся пасьля сёмай вечара, адпрацаваўшы амаль дванаццаць гадзін, памыліся і чакалі харчаваньня. Тое, што нам абяцалі, было выканана! Кожны атрымаў больш супу, кашы, кавалак рыбы і дадатковыя дзьвесьце грамаў хлеба. Гэта быў амаль што банкет.

Такі быў звычайны дзень у лагеры №4. Калі спрыяла надвор'е, мы працавалі і ў нядзелю, увогуле дні без працы здараліся рэдка. Тэмп быў сьпешны, бо хацелі закончыць земляныя працы і закладку падмуркаў пакуль было добрае надвор'е. Нам сказалі, што калі надвор'е пагоршыцца, мы атрымаем адпачынкі. Калі праца была асабліва цяжкай, нам каб падтрымаць сілы, па загаду генерала давалі на кожнага чальца брыгады невялікія порцыі гарэлкі. Атрымоўвалі таксама карткі "плюс два" і "плюс тры". Гэта быў першы лагер з тых, што я бачыў, дзе сапраўды добра кармілі, людзі ад гэтага станавіліся мацнейшымі. Папаўнелі целы, акругліліся твары. Было шмат махоркі і

іншых дробных прыемнасьцяў, і кожны лёгка мог зарабіць дадатковую порцыю супу ці кашы.

Усе гэтыя зьмены да лепшага мелі добры ўплыў на большасьць людзей, але не на ўсіх. Напрыклад тыя, хто меў сем'і, зараз маглі вальней думаць аб іншых, апроч ежы, справах і такім чынам думалі аб сваіх сем'ях, некаторыя аж трапляючы ў дэпрэсію. Зараз, калі элементарныя патрэбы ў дыяпазоне адзеньня і харчаваньня, дастатковага каб выжыць, былі задаволеныя, той-сёй пачаў думаць аб задавальненьні іншых патрэбаў. Калі ведаць пэўных людзей, за дваццаць пяць рублёў лёгка можна было праз турэмшчыкаў арганізаваць сустрэчу з жанчынай. Ім не дазвалялі заходзіць у лагер, але ў розных месцах на тэрыторыі будоўлі такія справы не былі немагчымымі.Таксама, галоўным чынам сярод маладых вязьняў, у лагеры шырыўся гомасексуалізм.

Тут, у лагеры №4 большасьць нацыянальных групаў трымаліся разам. Яны мелі кланавы дух у тым сэнсе, што дбалі аб сваіх, асабліва аб хворых ці знясіленых вязьнях з дадзенай групы і, што дзіўна, паміж асобнымі групамі амаль не было канфліктаў. Лепшымі працаўнікамі ў лагеры балі прыбалтыйцы, палякі і ўкраінцы — асноўная група будаўнічых рабочых. Грузіны, армяне і латышы звычайна працавалі на кухні, хоць некаторыя зь іх былі брыгадзірамі і перадавікамі працы. Кітайцы і японцы працавалі пераважна ў пральні, кухні і лазарэце.

Адным з маіх першых сяброў у лагеры №4, што дзіўна, бо я заўсёды пазьбягаў людзей гэтага тыпу, быў злодзей па імені Евгеній. Гэта быў плячысты, добра складзены мужчына, гадоў каля трыццаці, вышэй сярэдняга росту, зь вельмі моцнымі кулакамі. Невялікія жвавыя вочы, якія дамінавалі на твары, паказвалі на яго, відаць неабмежаваную, энергію. Евгеній неяк упадабаў мяне і навучыў шмат якім фокусам, што давалі магчымасьць красьці ежу.

Нават такія ж як і ён крымінальнікі лічылі яго майстрам у гэтай галіне. Калегі зладзеі баяліся яго і шанавалі, таму ягоная прыязь часта рабіла мне вялікія паслугі.

Евгеній ведаў, што я сьвятар, але як і большасьць зладзеяў меў вельмі прымітыўныя ўяўленьні аб рэлігіі зьмяшаныя зь вялікай колькасьцю забабонаў. Напрыклад папрасіў мяне, каб я асьвяціў для яго невялікі крыжык, які потым насіў. Ён насіў яго і раней, але як талісман, які прыносіць шчасьце. Надзяючы яго, перахрысьціўся, але потым выцягнуў нож і перасьцярог сваё атачэньне:

— Калі хто будзе высьмейваць гэты крыж, атрымае гэтым нажом у жывот.

Евгеній быў ахрышчаны як каталік, але так даўно не практыкаваў, што ад рэлігіі ў ім засталося вельмі няшмат, толькі тыя забабоны. Тым не менш, ён быў верным сябрам і паступова, праз месяц сумеснага існаваньня я падвёў да таго, што ўрэшце ён паспавядаўся і прыняў сьв. прычасьце. Потым ужо хадзіў да споведзі і прыступаў да прычасьця амаль рэгулярна, але і надалей вызнаваў свой уласны маральны кодэкс, зьвяртаючыся, калі здаралася такая нагода, да сілы і нажа, а былі яны надзвычай часта.

Аднойчы я ўбачыў, як ён голымі рукамі адштурхнуў трох зладзеяў, але не думаю каб яго метад ухвалілі пасьлядоўнікі бою па правілах. Абапёршыся сьпіной аб сьцяну ён зваліў аднаго зь іх моцным ударам па горлу, другога — нагой у пахвіну, а трэцяга апрацаваў кулакамі. Усё гэта не доўжылася болей за хвіліну. Потым Евгеній агледзеўся навокал, шукаючы новых праціўнікаў, ле не найшоўшы, спакойна адыйшоў, пакінуўшы тых трох ляжачымі на зямлі. Таксама карыстаўся нажом, а з-за таго, што паводле ягонага кодэксу самаабароны ўжываньне нажа было правамоцным, ніколі не разумеў, чаму я надаю такую вагу інцыдэнтам гэтага тыпу.

Кожны дзень Евгеній зьяўляўся ля мяне каб запытаць, ці не трэба чагосьці або ці не прычыніў мне хто-небудзь крыўду. Калі б такое здарылася, то само сабой зразумела, што я павінен яму аб гэтым расказаць. Час ад часу ён прыходзіў у наш барак і жэстам даваў мне знак каб я выйшаў зь ім вонкі. Тады мы зь ім ішлі да кухні, ён стукаўся ў дзьверы і рэкамендаваў кухару даць мне кашы. Безь ніякіх прыкметаў зьдзіўленьня кухар напаўняў міску, дадаваў кавалак тлушчу, паліваў льняным алеем і падаваў дадатковую порцыю мне. Ёвгеній загадваў мне адысьці і зьесьці кашу. І ўсё. Ён ніколі нічога мне не тлумачыў, а я не меў жаданьня задаваць яму непатрэбныя пытаньні.

Евгеній быў брыгадзірам і ягоная рэпутацыя рабіла брыгаду самай моцнай у лагеры. Ён клапаціўся аб сваіх людзях, даставаў ім ежу, дабіваўся для іх асаблівых прывілеяў, але ў працы не меў да іх літасьці. Аднойчы вылаяў двух маладых летувісаў, якія замест працы лайдачылі. Калі павярнуўся каб пайсьці, адзін зь іх ударам молата разьбіў яму галаву. Евгеній загінуў адразу. У той дзень я працаваў недзе ў іншым месцы і толькі вечарам даведаўся аб яго сьмерці. Гэта быў для мяне ўдар. Я шкадаваў што не быў побач каб хоць удзяліць яму разграшэньне, але быў вымушаны задаволіцца думкай, што за два тыдні да сьмерці ён спавядаўся і прыняў сьв. прычасьце.

Я меў яшчэ аднаго добрага сябра, маладога студэнта, які скончыў курс універсітэта Калумбія у Нью Ёрку. Гэта быў кітаец,

каталік па імені Чунг. Яго бацьк зьяўляўся багатым купцом у Кітаі і паслаў сына на вучобу ў Амэрыку. Я так і не здолеў даведацца, чаму яго арыштавалі, бо ён ніколі аб гэтым не казаў. Цалкам добра валодаў ангельскай мовай, а калі даведаўся, што я амэрыканец, прадставіўся мне па-ангельску. З тае пары рэгулярна ўдзельнічаў у сьв. імшы, а ў нядзелю я часам агалошваў для яго па-ангельску невялікае казаньне. З прычыны сваёй адукацыі Чунг меў пэўны ўплыў на кітайскае зямляцтва лагера і калі-нікалі запрашаў мяне на размову зь імі. Прадстаўляючы мяне, сказаў ім, што я "лаяльны чалавек", так што прынялі мяне гасьцінна.

З тае пары мая кашуля была пранай, прасаванай і адраман-таванай штотыднёва, хоць звычайна наша пральня дзейнічала раз на тры тыдні (што зрэшты было навіной). Мая кашуля неадменна забіралася ў суботу вечарам і вярталася ў нядзелю раніцай зь некалькімі кавалкамі хлеба ў кішэнях. Пазьней Чунг з большасьцю кітайскіх вязьняў быў рэпатрыяваны па дамове Масква-Пекін. Калі ён сказаў мне, што вяртаецца на Айчыну, я папрасіў яго напісаць майму правінцыялу ў Ню Ёрку, Фордхам Роўд. Ён абяцаў і я даў адрас. Гэта было ў 1949 г., але больш я яго не бачыў і нічога пра яго не чуў.

### Рабочы шпіталя — дзякуй Мішы

Тым часам праца на будоўлі фабрыкі пасоўвалася ўперад у хуткім тэмпе. Я ўсё больш адчуваў упадак сіл і таму аднойчы вечарам пайшоў у цэнтр здароўя. Там было мноства людзей. Шмат "пацы-ентаў" па-просту сімулявалі. Лекары, карыстаючыся адмысловым фармулярам, мелі пералік звальненьняў ад працы і маглі даць вольны дзень без кансультацыі. Некаторыя вязьні мелі сярод лекараў сяброў, якія маглі, калі колькасьць нечаканых здарэньняў не перавышала пэўнай мяжы, зьмясьціць іх прозьвішча ў сьпісе. Іншыя прыходзілі толькі дзеля таго, каб пагутарыць зь лекарамі і вязьнямі, спадзеючыся трапіць у сьпіс вызваленых ад працы. Гэта была пэўнага тыпу латэ-рэя. Некаторыя прыходзілі кожны вечар, распавядалі нейкую новую гісторыйку або знаходзілі ў сябе новыя хваробы. Часам шчасьце ўсьміхалася і яны атрымоўвалі дзень ці два адпачынку. Натуральна, было шмат такіх, хто сур'ёзна хварэў або меў раны, якія патрабавалі неадкладнай дапамогі. Вялікая частка тых, хто знаходзіўся тым вечарам у прыёмнай зале складалася з людзей, якія таксама як і я былі гранічна стомленымі і хацелі атрымаць дзень перадышкі.

Вязьні ведалі шмат спосабаў каб дапамагчы сабе ў гэтым. Шмат хто піў тытунёвы настой альбо глытаў кавалак мыла. З-за таго,

што для атрыманьня звальненьня было дастаткова тэмпературы вышэй за сорак градусаў, людзі ўжывалі ўсялякія магчымыя хітрыкі каб вызваць гарачку. Прыкладалі пад пахі гарачыя кампрэсы ці на падэшвы ступняў перцавыя прымочкі. Аднак самым першым спосабам выклікаць гарачку было прыкладваньне да дзёснаў горкага кораню. Асабліва не мелі ахвоты паміраць у лагеры надарваўшыся на працы бацькі сем'яў.

Калі я так сядзеў у цэнтры, чакаючы сваёй чаргі, дзьверы рэгістратуры расчыніліся і зь іх выйшаў малады чалавек гадоў каля трыццаці. Бялявы, сярэдняга росту, амаль цалкам лысы. Разгублена агледзеў пакой, потым глянуў на карткі, якія трымаў у руцэ і сабраўся выходзіць. Мне здалося, што я яго ведаю і, калі ўдалося зьвярнуць на сябе ўвагу, я быў ужо ў гэтым упэўнены.

— Міша! — паклікаў я.

Паглядзеў на мяне не міргнуўшы, хоць і быў зьдзіўлены, потым прашаптаў:

— Ціто! (па-італьянску "ціха!").

Усё гэта адбылося так хутка, што ніхто з прысутных нічога не заўважыў. Міша вярнуўся ў рэгістратуру, а я заінтрыгаваны застаўся на месцы. Міша быў маім калегам у Русікум. Я ніколі не думаў спаткаць яго тут. Я не ведаў, што значыла яго перасьцярога, але ва ўвязьненьні навучыўся ніколі не націскаць на кагосьці, хто не хоча гаварыць, і не пацьвярджаць асобы кагосьці, хто гэта адмаўляе. Празь нейкі час натоўп зьменшыўся і Міша выйшаў са свайго кабінета. Зь некалькімі карткамі ў руцэ падыйшоў да мяне.

— Ты Цішэк? — спытаўся вельмі афіцыйным тонам.

Я кіўнуў галавой.

— Ідзі ў кабінет, трэба запоўніць гэтыя карткі, — сказаў ён мне.

Спачатку Міша ўпэўніўся, што ўсе дзьверы яго кабінета замкнутыя і нас ніхто не слухае. Толькі тады ськінуў сваю афіцыйную міну і сардэчна паздароваўся.

— Аднак, — папярэдзіў, — ніхто не павінен здагадацца, што ты мяне ведаеш.

Крыху пагутарылі аб мінулым, але Міша быў вельмі асьцярожным і не сказаў ніводнага лішняга слова.

— Заўтра застанься ў бараку і адпачні, — сказаў мне, — а я запішу тваё прозьвішча ў сьпіс хворых. Калі спытаюцца, што ў цябе, адкажаш, што высокая тэмпература.

Паціснулі адзін другому рукі.

— Убачымся пазьней, — шапнуў ён.

Той ноччу, ведаючы, што не трэба ўставаць а пятай раніцы, я спаў як суськлік. Назаўтра раніцай, калі прагучаў сігнал, я выцягнуўся на нарах і перакруціўся на другі бок. Чальцы нашай брыгады падыйшлі і спыталі, што са мной. Падыйшоў і брыгадзір, з пагрозаю ськінуць мяне на зямлю.

— Што ты сабе думаеш? — спытаўся брыгадзір, — уставай з нараў!

— Я хворы, — быў адказ.

— Тады чаму не ідзеш да лекара?

— Учора вечарам быў і здаецца мне, што маю на ўвесь дзень вызваленьне.

— Калі здаецца, трэба хрысьціцца. Ведаеш? Злазь з нараў.

У барак яшчэ не прыўшоў турэмшчык са сьпісам хворых, і брыгадзір загадаў мне апрануцца, зьесьці сьняданак і быць гатовым выйсьці.

Аднак меравіта ў тую хвіліну, калі мы пакідалі барак, уваўшоў турэмшчык і прачытаў маё прозьвішча сярод тых, хто быў вызвалены ад працы. Брыгадзір, з-за таго што я не расказаў яму пра візіт папярэднім вечарам да лекара, быў у шаленстве. Гэта была звычайная працэдура, але я так узрадаваўся, што ў лагеры №4 ўпершыню атрымаю вольны дзень, што забыўся яму аб гэтым распавесьці. Астатнія чальцы брыгады зычылі мне добрага адпачынку і пайшлі на працу.

Каля дзесяці гадзін у барак прыйшоў Міша. Мы аднавілі нашы ўспаміны з Рыму, потым размова перайшла на лагернае жыцьцё і ягоную працу ў цэнтры здароўя. Аднак ён нічога не распавёў ні пра свой арышт, ні пра час праведзены ў месцах пазбаўленьня волі, ні пра абвінавачваньне. Абяцаў скарыстаць свой уплыў каб дабіцца для мяне іншай працы.

— Нейкі час пацярпі, — сказаў мне, — і таксама нікому аб гэтым не кажы. Пайшлі, пройдземся.

Мы пайшлі ў барак, дзе ён жыў разам зь лекарамі і дапаможным персаналам. Зрабіў некалькі бутэрбродаў і мы падсілкаваліся. У тым бараку было шмат ежы, бо лекары, якія прыходзілі з горада, прыносілі для персаналу ўсялякі правіянт. Мішу лекары добра ведалі, але я заўважыў, што іншыя вязьні адносіліся да яго непрыязна, бо падазравалі ў супрацоўніцтве з уладамі. Увесь час майго знаёмства зь Мішам я так і не здолеў упэўніцца, ці зьяўляюцца гэтыя падазрэньні справядлівымі. Прычынай падазрэньняў магла быць зайздрасьць, яго пасада была варта зайздрасьці, і яшчэ ён быў у

добрых стасунках з адміністрацыяй, якая давала яму розныя прывілеі.

Каля паловы дванаццатай ён прапанаваў мне пайсьці зь ім у лекарскі цэнтр. Калі прыйшлі, папрасіў мяне нічога не гаварыць і асабліва не быць зь ім запанібрата, потым правёў у адзін з прыёмных кабінетаў. Там знаходзіліся дзьве маладыя лекаркі з горада, якія мяне грунтоўна агледзелі: лёгкія, сэрца, вочы і г.д. Потым пачалі запісваць маю гісторыю. У сапраўднасьці ў лагеры №4 я быў моцны як бык, але тое, што яны пісалі нагадвала хутчэй дыягназ Мішы. Адтуль Міша забраў мяне да іншага ўрача, вязьня, паляка з Варшавы. Міша коратка зь ім пагутарыў, пасьля чаго сказаў мне ўвайсьці.

Доктар быў высокім, добра складзеным мужчынам. Клікалі яго Гжэгож і нягледзячы на магутны склад ён меў далікатныя рукі. Твар яго быў сур'ёзны і поўны, а валасы рыжаватыя. Быў сардэчны, сімпатычны і шчыры. У час агляду я паведаміў яму, што зьяўляюся сьвятаром. Калі ён закончыў, сказаў:

— Ну, вы сьвятар — увасабленьне здароўя, але я займуся гэтай справай.

Я падзякаваў яму, мы паціснулі рукі і Міша забраў мяне да трэцяга лекара. Гэта таксама быў вязень, вясёлы і жыцьцярадасны ўкраінец са Львова. Мы трохі пагутарылі пра Львоў, потым ён даў мне пасьведчаньне хваробы і мы разьвіталіся.

Наступным днём турэмшчык зноў прачытаў у сьпісе хворых маё прозьвішча. Брыгадзір нешта западозрыў і адкрыта сказаў мне, што я не выглядаю хворым.

— Ну і што, — адказаў я, — адчуваю сябе крыху лепш, але лекары рэкамендуюць яшчэ адзін дзень не працаваць, ім лепш відаць.

У той дзень пасьля апоўдня сапсавалася надвор'е і на Нарыльск наляцела навальніца, першая ў гэтую пару года. Наступныя два дні праца на вуліцы была немагчымай. Так што мае канікулы цягнуліся чатыры дні і я адчуў сябе значна лепей.

На чацьверты дзень да мяне прыйшоў Міша. Паведаміў, што здолеў дабіцца для мяне працы прыслужніка ў цэнтры здароўя.

— Працу пачынаеш заўтра раніцай, — сказаў мне, — але аб гэтым маўчы.

Я так і зрабіў, бо не хацеў ствараць сабе цяжкасьці. Назаўтра раніцай я выйшаў раней, чым прыйшоў турэмшчык аб'явіць аб нейкіх зьменах. Я не хацеў нешта тлумачыць брыгадзіру. Праз лагер прасьлізнуў у цэнтр здароўя. Тут мяне чакала мая ранішняя порцыя і гэта было наглядным довадам, што я пераведзены да санітарнага персаналу.

Памяшканьне было чысьцюткім. Кожная пасьцель мела дзьве незапэцканыя прасьціны. Кантраст быў такі моцны, што я адчуў сябе брудным. Міша даў мне зьменную вопратку і пасьля сьняданку я ўзяўся за працу. Якім цудоўным было гэтае месца! Было чыста і зручна, і апроч таго цёпла, а ў параўнаньні з жыцьцём будаўнічых брыгад там не было ўласна ніякай працы. Апрача мяне было яшчэ тры санітары, кітаец і два эстонцы. Адзін зь іх паказаў мне маю працу. Калі пачыналіся ранішнія візіты, я быў заняты ў гардэробе, забіраючы курткі і выдаючы нумаркі. Гэтая праца была значна больш прыемнай, чым маханьне кіркай ці рыдлёўкай.

Пасьля заканчэньня ранішніх візітаў мы пачыналі працу ў якасьці санітараў. За мной замацавалі два памяшканьні. Адно мела памеры два з паловай на тры метры, другое — чатыры на пяць метраў. Спачатку я мёў і мыў падлогу, потым каб выдаліць вільгаць уключаў абагравальнікі. Памыў таксама вокны і сталы, прастэрылізаваў лекарскія інструменты, памяняў дэзінфекцыйныя вадкасьці і аднёс у сакратарыят рэгістратуры ключы. Ужо ў канцы раніцы быў вольны. Што за цудоўнае жыцьцё!

На абед пайшоў у лекарскі барак і застаў там іх усіх, бо ўсе былі вязьнямі. Апрача Гжэгожа і таго другога, які мяне аглядаў, там быў расеец Леанід, які калісьці працаваў у Кітаі. Ён узрадаваўся, калі даведаўся, што я амэрыканец, і сказаў мне пару словаў па-ангельску, не вельмі дасканала, але зразумела. Хірургам быў габрэй з Масквы, якога клікалі Абрыкосов. Ён быў вельмі адукаваны і нейкі час нават зьяўляўся прафесарам, але не быў добрым практыкам. Некаторыя нават называлі яго рэзьнікам ля аперацыйнага стала. Ён меў у якасьці памочнікаў двух добрых тэрапеўтаў. Адзін зь іх быў румынам, якога клікалі Толя, а другі расейцам па імені Вася. Яны ўдвох рабілі большасьць працэдур. Таксама быў фармацэўт Сяргей, грузін, слабы і хваравіты, які скончыў вучобу ў Маскве. Галоўным лекарам сярод вязьняў быў паляк, малады маўклівы доктар са Львова, па прозьвішчу Павлік. Ён быў вельмі спрытным хірургам, яго часта выклікалі ў гарадскі шпіталь у Нарыльску для выкананьня складаных аперацый на сэрцы і мозгу. Яго вельмі цанілі калегі і ў лагерным лазарэце ён рабіў аперацыі ў вельмі крытычных выпадках, а хірургам жа цэнтру здароўя заставаўся др. Абрыкосов і яго абодва асістэнты.

Калі лічыць памочнікаў і Мішу у цэнтры здароўя былі толькі чатырнаццаць асобаў. Сярод іх быў дантыст, украінец па імені Анатоль. Працы яму хапала, бо ўсе вязьні якія доўгі час знаходзіліся ў лагеры, мелі зубы калі не цалкам сапсаваныя то ў вельмі кепскім стане. Анатоль скончыў у Львове медыцынскі інстытут і часта да

позьняй ночы працаваў у лабараторыі каб дапамагчы сваім пацыентам, такім шматлікім у лагеры №4.

Пасьля ежы, якую мы спажылі без сьпешкі, заставалася яшчэ шмат часу на гутаркі, бо мы былі абавязаны вярнуцца ў цэнтр толькі а пятай гадзіне. Усе супрацоўнікі аднесьліся да мяне вельмі ветліва.

Калі пачаліся вячэрнія візіты, я клапаціўся аб гарачай вадзе ў прыёмных кабінетах, чысьціў падносы для інструментаў і выціраў іх, хадзіў па бараках дзе былі хворыя якіх трэба было агледзець, і дапамагаў, калі было патрэбна, несьці насілкі. Лекары закончылі працу каля дзевятай ці дзесятай гадзіны. Пасьля таго як яны пайшлі, я пачаў зноў усё парадкаваць: мыць падлогу, выціраць яе, мяняць бялізну, стэрылізаваць інструменты і г.д. Гэта цягнулася часам аж да апоўначы, але кітаец высьлізгваў на кухню і прыносіў кашы альбо супу, атрыманых ад сябра які там працаваў.

У першы вечар мяне прыйшоў адведаць а. Віктар і прынёс усё патрэбнае для адпраўленьня імшы. Даў тэкст усходняй літургіі, напісаны ад рукі, невялікі металічны келіх і патэну схаваныя ў футарале. Таксама было сапраўднае мшальнае віно і аплаткі. Калі далёка за апоўнач усе лекары і памочнікі скончылі працу, Міша выйшаў з кабінета і даў мне знак увайсьці. Я адправіў імшу, а Міша мне пры гэтым служыў. Потым ужо я за рэдкімі выключэньнямі заўсёды адпраўляў яе ў цэнтры здароўя вечарамі.У сьвяточныя ці нядзельныя дні ў маіх службах удзельнічалі адзін або два лекары. Некалькі лекараў рэгулярна спавядаліся і прычашчаліся.

А.Віктар быў невысокага росту, шыракаплечы, з рыжаватымі валасамі, вострым падбародкам, тонкім носам і насіў акуляры. Меў своеасаблівую хаду па якой яго можна было пазнаць нават зь вялікай адлегласьці. Працаваў на фабрыцы ў якасьці шэфа брыгады, якая мерала тэмпературу выліванага бетону каб кантраляваць яго застываньне. З-за таго, што будавалі і зімою, бетон падагравалі электрычнасьцю. Задача а. Віктара складалася ў праверцы тэмпературы і яе занатаваньні двойчы ці тройчы ў дзень.У апошні час ён меў у сваім распараджэньні невялікі схрон, які бараніў яго ад ветру.

А.Віктар меў мноства сяброў, як сярод рабочых так і сярод службоўцаў. Таму яго рэдка выдзялялі на цяжкую працу. І маючы шмат вольнага часу ён меў магчымасьць шмат чаго рабіць у духоўнай сьферы. Ён быў увесь час у руху, адведваючы хворых і слухаючы споведзі. Ягоны схрон на тэрытарыі будоўлі быў ідэальным месцам для стварэньня сакраманту споведзі ў дзённы час і яшчэ для парадаў і суцяшэньня вязьняў.

Быў яшчэ адзін сьвятар, якога клікалі айцом Ёзафам, паляк, высокі, лысаваты і плячысты. Меў моцны голас і тое што казаў, падкрэсьліваў жэстамі. Быў вельмі стаaccording сьвятаром, але ў адрозьненьне ад Віктара спакойным і павольным. Адзін зь яго сяброў, а. Леанід, быў таксама высакі і амаль цалкам лысы. Падобна як Віктар, быў вельмі нервовы і ў безупынным руху. Яго і а. Ёзафа людзі слухаліся.

Апрача а. Каспэра і мяне было яшчэ двое сьвятароў, летувісаў, якія заўжды трымаліся разам, і трое грэкаправаслаўных сьвятароў, якія час ад часу далучаліся да нас. Дзякуючы а. Віктару ўсе мы пастаянна адпраўлялі імшу, бо ён даставаў нам усё патрэбнае. Здавалася, яго запасы невычарпальныя. Кожны з нас меў пэўную невялікую групу, сваю "парафію", і мы імкнуліся трымаць нашу дзейнасьць у таямніцы, абслугоўваючы групы асобна. Аднак а. Віктар стараўся каб кожны вязень, калі таго прагнуў, ведаў прынамсі аднаго сьвятара.

Паколькі я працаваў у цэнтры здароўя і меў шмат вольнага часу, а. Віктар парэкамендаваў мне правесьці трохдзённыя рэкалекцыі для некаторых з нашых парафіянаў. Я праводзіў зь імі кароткія канферэнцыі перад выхадам на працу і яшчэ вечарам і перад самым адпачынкам, каля дзевяці гадзін. У той жа час я займаўся некалькімі вязьнямі, якія прагнулі асаблівага духоўнага апекаваньня. У нядзелю і ў сьвяты мы, сьвятары, сабіраліся самі. Кожны з нас агалошваў дзесяціхвілінное казаньне. Прынамсі кожную суботу мы спавядаліся і стараліся арганізоўваць дыскусіі над маральнымі праблемамі лагера і найлепшымі спосабамі іх рашэньня.

Праз месяц працы ў цэнтры здароўя я пачаў задумвацца, ці ўдасца мне застацца тут калі ўлады, як заўсёды ў канцы месяца правераць сьпісы. Міша прызнаваў, што могуць быць цяжкасьці, але меў надзею, што здолее іх перамагчы. У апошні дзень месяца на лагернай дошцы зьявілася аб'ява. Я быў зьдзіўлены, калі ўбачыў у сьпісе персаналу цэнтра здароўя сваё прозьвішча. Гэтым разам, аднак, дзякуючы Толю і Васю, я быў залічаны санітарам.

Наступны месяц я працаваў зь імі. Спачатку я выконваў толькі простыя дзеяньні, такія як разьбінтаваньне і ачышчэньне ранаў перад перавязкай і прыглядаўся як гэта робіцца. Праз некалькі дзён я ўжо ўмеў па іхняму загаду агледзець простыя раны, нават выконваў невялікія працэдуры такога тыпу — ускрываў нарывы і выразаў мазолі. Аднак прызнаюся, што ў першыя дні было і млосна і курчыла страўнік і ледзьве ўтрымліваўся каб не званітавала. А яшчэ час ад часу я быў асістэнтам у Толі і Васі пры выдаленьні

чарвяпадобнага адростка, выпраўленьні зьвіхаў, накладаньні павязак на пераломы і т.п. Нават навучыўся накладаць на канечнасьці шыны альбо гіпс. Увогуле гэты месяц быў захапляльны, прынамсі ад таго часу, калі супакоіўся мой страўнік. Пасьля гадзінаў працы, у адказ на маё "прыняцьце" ў супольнасьць я чысьціў і праводзіў дэзінфекцыю усіх нашых хірургічных інструментаў, даглядаў хірургічны кабінет. А пазьней я штовечар адпраўляў сьв. імшу.

Гэта было занадта добра каб магло доўга цягнуцца і ў канцы месяца ўзьніклі новыя праблемы. Нават Міша быў гэтым разам заклапочаны, але новы сьпіс зноўку залічыў мяне ў цэнтр здароўя — у аптэку. У той час я падружыўся з Сяргеем і яму ўдалося кантрабандна мяне перацягнуць. Праца ў аптэцы аказалася нават больш цікавай чымсьці тая, у папярэднім месяцы. Сяргей несумненна меў патрэбу ў дапамозе. Штодзённа трэба было рабіць велізарную колькасьць пігулак і парашкоў, бо лекаў у выглядзе гатовых прэпаратаў паступала вельмі мала. Я адмяраў на шалях кампаненты для Сяргея, які вельмі спрытна рабіў пігулкі. Хутка я ўжо напамяць умеў рабіць большасьць звычайных лекаў. Я так захапіўся гэтай працай, што забыўся пра зьвязаную зь ёй небясьпеку. Клопат аб гэтым пакінуў на Мішу. Калі з Нарыльску, напрыклад, прыяжджалі інсьпектары, ён заўсёды папярэджваў мяне каб я зьнік. І менавіта тады, калі здавалася, што ўсё складваецца добра, усё абрынулася!

Якраз перад агалошваньнем новага сьпісу на наступны месяц мяне неяк раніцай выклікалі ў жыльлё турэмшчыкаў. Як толькі я туды зьявіўся, адразу без усялякіх размоваў быў адасланы ў штрафную брыгаду. Міша і а. Віктар тым самым вечарам зьявіліся ў ёй таксама. Аднак Міша, як толькі кіраўнік цэнтру здароўя здолеў яго выцягнуць, праз тры дні зьнік. Ён быў амаль незаменны.

Штрафная брыгада была занятая на будоўлі новай лагернай турмы. Мы разьбіралі старую турму, расчышчалі пляцоўку і капалі катлаваны для падмуркаў, усё, натуральна, робячы рукамі. Гэта заўсёды вельмі цяжкая праца, але я пасьля трох месяцаў лёгкага жыцьця ў цэнтры здароўя быў у вельмі добрым фізічным стане і адчуваў сябе сапраўды добра. А. Віктар вырабляў цэглу. І усё гэта было пакараньне за маніпуляцыі са сьпісам вязьняў і выдаленьне майго прозьвішча зь ліку прызначаных да катаржных работ, чаго вымагаў мой вырак.

Праз тыдзень Міша здолеў выцягнуць а. Віктара, але вызваленьне са штрафной брыгады мяне запатрабавала больш часу. Урэшце, калі быў агалошаны новы сьпіс, Мішу і а. Віктару ўдалося зноў перавесьці мяне ў будаўнічую брыгаду на тэрыторыі фабрыкі.

Прыйшоўшы туды ў першую раніцу я быў зьдзіўлены тым, як шмат зрабілі за тры месяцы, час маёй адсутнасьці. Мне здавалася, што будынкі вылезьлі зь зямлі за адну ноч. Мне даручылі працу электрыка, але я сказаў брыгадзіру, што нічога ў гэтым не разумею. Таму ён стаў даваць мне даручэньні, дзе не трэба было добра ведаць тэхніку.

Але аднойчы згасла ўсё сьвятло. Адзінымі "электрыкамі" на будоўлі здарыліся я і Алёша, які разьбіраўся ў гэтым яшчэ меней за мяне. Брыгадзір патрабаваў усё направіць і мы пайшлі паглядзець што можна зрабіць. Адчынілі скрыню з засьцерагальнікамі, мяркуючы што ўжо ж засьцерагальнікі мы замяніць здолеем, і ўбачылі, што маем справу з трохфазнай сістэмай. Я замяніў два засьцерагальнікі і рыхтаваўся ўжо замяніць трэці. Страх перад электрычным токам зрабіў мяне такім нервовым, што Алёша курчыўся ад сьмеху. Я павярнуўся сказаць яму каб супыніўся. У гэты час мае пальцы сасьлізгнулі на кантакты і мяне ўдарылі ўсе трыста шэсьцьдзесят вольт! Я без прытомнасьці ўпаў на сьпіну. Ачуняў толькі праз паўгадзіны.

Калі вярнулася прытомнасьць, Алёша яшчэ сьмяяўся і як толькі я перастаў трэсьціся, пачаў сьмяяцца над глупствам гэтага выпадку. Пасьля мы паведамілі аб гэтым брыгадзіру.

— Хто загадаў вам гэта рабіць? — спытаўся ён.

— Ну дык патрэбен быў электрык, — адказаў я яму, — а я думаў, што кожны здолее замяніць засьцерагальнікі.

— Хопіць, — сказаў ён. — Больш гэтага не рабіце. Ты і Алёша адтуль звольненыя і будзеце цягаць кабелі.

Аднак мы з Алёшам памножылі сабе клопаты. Аднойчы нам загадалі занесьці кабель высокай напругі на другі канец фабрыкі. Калі, сунучыся праз гурбы сьнегу, увайшлі ў будынак, нас раптам асьляпіла. Я наступіў на лінію высокай напругі, адбылася бліскавіца і хмара дыму. Алёша, ідучы за мной, кінуў кабель і даў лататы. Хтосьці павярнуў выключальнік і будынак патануў у цемры. Людзі, якія там працавалі пачалі клікаць мяне па прозьвішчы, думаючы што я нежывы ці беспрытомны. Я адказаў што жывы і здаровы, але баюся варушыцца.

— Лінія выключана, — крыкнулі мне.

Неяк выкараскаўся. Гума на маім чаравіку ператварылася ў квашаніну і ўсе ў брыгадзе мяне "падбадзёрылі", запэўніваючы што маё выратаваньне — гэта цуд.

Нягледзячы на ўсялякія такія падбадзёрваньні, іх было даволі, тым вечарам я распавёў аб здарэньні а. Віктару. І ён дабіўся пераводу мяне ў ягоную брыгаду. Там было толькі чатыры чалавекі,

але яму ўдалося пераканаць улады, што патрэбна пяць. Двума днямі пазьней я быў пераведзены ў брыгаду якая мерала тэмпературу.

Восеньню сьцены галоўнага корпусу былі складзеныя. Пачаліся працы на даху. Нягледзячы на тое, што надвор'е пагоршылася, праца працягвалася. Вязьні працавалі на бэльках нават пры моцным ветры і сьнезе. Я бачыў, як часам адтуль падалі на бетон, а хто падаў, гінуў. Прычынай такіх выпадкаў было не толькі надвор'е. Быў яшчэ нізкі прафесіяналізм вязьняў у мантажы металічных бэлек і шалёны тэмп працы. Генерал Зьверэв рашуча імкнуўся скончыць працу ў вызначаны тэрмін. Цаной за гэта маглі быць тры ці чатыры чалавечыя жыцьці штодзённа, але што гэта магло значыць перад такой іх вялікай колькасьцю?

Настойлівасьць Зьверэва дала плён: камбінат быў закончаны на Новы 1952 Год. Наступным днём мелася адбыцца плаўленьне медзі, таму ў час, калі гарадскія ўрадоўцы і жыхары Нарыльска прыйшлі ўбачыць адкрыцьцё новай вялікай фабрыкі, брыгады затрымалі ў лагеры. Аднак першае выкарыстаньне новых печаў скончылася магутным выбухам.

На інаўгурацыйных урачыстасьцях тарцы ўсіх будынкаў камбінату былі ўпрыгожаныя асьветленымі надпісамі з прозьвішчамі Леніна, Сталіна, Маркса і Энгельса.Пасьля выбуху, які зьнішчыў дах плавільні, лямпачкі ля прозьвішча Сталіна згасьлі. Той-сёй зь вязьняў аднесьліся да гэтага з гумарам, іншыя ж прынялі за цікавую прыкмету. Мы ўвесь час чулі пагалоскі аб кепскім здароўі Сталіна і гэты выпадак выклікаў у лагеры шмат каментараў.

## Бунт

У лютым 1952 г. мяне перавялі назад у лагер №5. А. Віктар застаўся ў лагеры №4. З-за таго, што цяпер на тэрыторыі фабрыкі працы было мала, бо камбінат быў закончаны, ён кожны дзень хадзіў на адну з будаўнічых пляцовак у Нарыльску, якую звалі "Гор-Строй". Працаваў там на складзе, дзе захоўваліся бензін і змазачныя матэрыялы. Меў таксама сваю каморку-кабінет. Я кожны дзень у час абеду яго там наведваў і мы па чарзе адпраўлялі імшу.

Праца вартавога дазваляла а. Віктару рабіць шмат паслугаў жанчынам— вязьняркам, лагер якіх знаходзіўся ў адлегласьці сто метраў ад лагера №5. Жанчын таксама прымушалі працаваць на гарадскіх будоўлях. Сярод іх была група ўкраінскіх манашак, якіх арыштавалі. Яны мелі вялікі ўплыў на сулагерніц, асабліва на малодшых, якім дапамагалі і арганізоўвалі споведзь. Кабеты не мелі

права пакідаць вызначанай ім зоны, але час ад часу тыя, хто хацелі спавядацца, маглі дамовіцца і чакаць у вызначаным месцы ля калючай агарожы, паміж двума яе шэрагамі, а а. Віктар шпацыраваў там каб слухаць споведзі.

Часьцей за ўсё свае правіннасьці выпісвалі на кавалку паперы і калі прыходзіў а. Віктар, падавалі яму. Пералікі былі нумераваныя, не ўтрымлівалі ніякіх прозьвішчаў і а. Віктар потым паліў іх у сваёй печы. Кабеты вярталіся на наступны дзень і на пальцах паказвалі адпаведныя лічбы, чынілі акт скрухі і атрымоўвалі разграшэньне. Калі было немагчыма падаць карткі або разграшэньне кожнай кабеты па чарзе, спрабавалі даваць ім агульны водпуст. Яму дапамагалі ўсе, але таму што ягоная праца пакідала шмат вольнага часу, а. Віктар выконваў сьвятарскіх паслугаў больш за ўсіх. Некаторыя з тых картках маглі быць перахопленымі. Жанчыны, каб атрымаць разграшэньне, згаджаліся на гэтую рызыку, што разам з адданасьцю і даверам, якія яны мелі да нас, было для нас, сьвятароў, крыніцай вялікай радасьці.

Увогуле ў лагеры кабеты мелі нашмат больш цяжкае жыцьцё, чым мужчыны. Зь імі часта абыходзіліся як са зьвярамі не толькі вязьні, але і жыхары Нарыльску, вольныя людзі якія разам працавалі ў розных месцах будоўлі, і турэмшчыкі, і нават лагерная адміністрацыя. Там былі два вялікія баракі поўныя дзяцей да пяці гадоў, што зьяўляецца яскравым сьведчаньнем стасункаў, якія там панавалі. Да таго ж кабеты, у якіх зьяўляліся дзеці, адразу атрымоўвалі дадатковую ежу аж да выздараўленьня і на гэты перыяд вызваляліся ад працы. Гэта не было заахвочваньнем, але не было таксама і рэпрэсіяй. І не значыць, што ўсе паддаваліся, гэта не так. Асабліва кабеты з балтыйскіх краінаў, а таксама ўкраінкі і полькі, часта паказвалі моцны характар і былі вельмі набожнымі нягледзячы на ўмовы, у якіх знаходзіліся. Зь іншага боку, там была пэўная колькасьць крымінальніц, як і ў кожным лагеры.

Да лета 1952 года брыгады з лагера №5 выконвалі розныя работы. Больш за ўсё было занятых на далейшай будоўлі горада, на так званым "Гор-Строі", і каб ад гэтага ўнікнуць, трэба было пралезьці ў персанал розных дапаможных майстэрняў, якія павырасталі вакол лагеру. Я, напрыклад, зноў працаваў у старой двухпавярховай цагельні зь печчу, у адлегласьці прыкладна дзьвесьце метраў ад галоўнай брамы. На поўдзень і захад ад лагеру была чыгуначная лінія да капальні гліны, для якой шмат невялікіх фабрык выраблялі цэмент, бетонавыя блокі, арміраванае шкло, клей з жывіцы, і кэпэніт (адмысловае шкло, вельмі моцнае і трывалае да зьменаў тэмпературы).

Яшчэ некаторыя брыгады працавалі ва ўжо завершаных частках горада, капаючы каналізацыйныя канавы і разьмячаючы вуліцы. Адносіны ў лагеры былі нашмат горшыя. Адсутнасьць жаданьня працаваць была ў вязьняў відавочнай, асабліва калі прыйшлі з лагеру №4, а ўлады адказалі на гэта намаганьнем яшчэ больш заціснуць дысцыпліну. Кепскія адносіны, нават фізічныя расправы сталі вельмі частымі. Паўсюль панавала моцная напружанасьць. Вязьні бурна пратэставалі. Гэта было вар'яцкае кола.

У студзені 1953 г. з-за новых чуткаў узмацнілася глухое кіпеньне. Вольныя працаўнікі з гораду, якія прызначаліся наглядаць за будоўляй, распаўсюдзілі зьвестку што захварэў Сталін. Потым прыйшла неспакойная навіна, што арыштаваныя і пасаджаныя ў турму некалькі крамлёўскіх лекараў. Пазьней мы даведаліся, што іх вызвалілі і рэабілітавалі і гэта нам здалося неверагодным. Да ўсіх гэтых чуткаў настойліва далучалася тая, якая сьцьвярджала што Сталін памёр.

Гэтыя аповяды выклікалі ў лагерах гарачыя дыскусіі. Улады, гэтак жа як і вязьні, былі занепакоены. Неўзабаве забаранілі зьбірацца ў групы большыя чым па двое чалавек і парушэньне гэтага загаду каралася дадатковай, асабліва цяжкай працай у лагеры альбо штрафной брыгадай. І так неспакойная атмасьфера стала яшчэ горшай.

Вязьні пачалі пратэставаць супраць звычаю пазначэньня іх нумарамі, лічачы гэта зьневажальным. Са свайго боку адміністрацыя і турэмшчыкі ўпарта трымаліся за нумары. У час ранішняга агляду правяралі і патрабавалі каб яны былі на вопратцы вязьняў выразнымі і добра бачнымі. Турэмшчык праходзіў уздоўж шыхта, пастаўленага па пяць чалавек і гатовага да выхаду, выцягваючы зь яго тых, у каго нумары былі зашмальцаваныя, нечытальныя або закрытыя. Калі нехта бурчэў ці лаяўся, брыгаду затрымлівалі ажно да таго часу, пакуль той, хто прыцягнуў нейкую ўвагу, не быў раскрытыкаваны ці нават пабіты.

У лагерную практыку ўвялі яшчэ іншыя дысцыплінарныя сродкі. Раней баракі ніколі нанач не замыкаліся. Цяпер іх замыкалі а дзевятай гадзіне, пасьля пераклічкі. Калі хто ў гэты час не быў у сваім бараку, аўтаматычна ішоў у карцэр. Калі ж хаваўся і пасьля кантролю ўсіх баракаў не знаходзіўся, аб'яўлялі трывогу і абшуквалі ўвесь лагер. За ноч бывала некалькі такіх праверак і тады лагер не мог спаць да трох гадзін раніцы. Нягледзячы на гэта належала быць гатовым устаць на працу а пятай гадзіне.

Праверкі, ранішняя і вячэрняя, пасьля вяртаньня бьгадаў, сталі нашмат больш строгімі. Турэмшчыкі ўзялі за звычай амаль

штодзённа дэтальна абшукваць кожнага вязьня, шукаючы кавалкі жалеза, нажы, лісты або запіскі. Адначасова канфіскоўвалі ўсялякую дадатковую вопратку, якую вязьні мелі на сабе. Таксама забіралі медальёны з выявамі сьвятых, абразкі, скапуляры ці крыжыкі ручнога выкананьня. Усё гэта адбывалася нягледзячы на мароз на адкрытым паветры. Калі турэмшчыкі мелі нейкае падазрэньне, то не вагаліся перад загадам распрануцца дагала. Часам загадвалі вязьню зьняць валёнкі і анучы, так што стаяў ён у сьнезе голы і босы.

Праца ў Гор-Строі рабілася ўсё больш павольнай і ўрэшце амаль спынілася. Дагэтуль брыгады з лагера №5 узводзілі цэлыя будынкі за два месяцы, а зараз трацілі шэсьць-сем каб пабудаваць адзін паверх. Развозчыкі ежы нам паведамілі, што тое ж самае робіцца і ў астатніх лагерах. Чыгуначнікі, што курсіравалі між Нарыльскам і Дудзінкай распавядалі аб гэтакіх жа клопатах зь вязьнямі ў порце. Некалькі брыгадзіраў яшчэ спрабавалі ўтрымліваць рэжым сярод сваіх людзей. Брыгады пасьля заканчэньня працы шматразова не выпускалі з будаўнічай пляцоўкі, бо турэмшчыкі накіроўваліся на пошукі зьніклых брыгадзіраў. І здаралася некаторага знаходзілі пагружанага ў сьвежавылітую цэментную рошчыну, моцна пакалечанага ці ўвогуле расчлененага. Улады вагаліся, ці ўжываць радыкальныя сродкі, асьцерагаючыся, што потым увогуле не здолеюць утрымаць парадак.

Стукачы, якіх заўсёды ненавідзелі, з-за растучага імкненьня да помсты знаходзіліся зараз у сталай небясьпецы. Шмат хто зь іх адмаўляўся працаваць па-за межамі лагера, бо там было занадта зручна арганізаваць "выпадак" і адплату. Дабіваліся пасадаў дзяжурнага ці працы ў канторах, асабліва стараліся зьмяніць прыпіску да баракаў. Улічваючы інфармацыю, якую тыя пастаўлялі, службоўцы адчувалі сябе больш-менш абавязанымі дапамагчы ім.

Памятаю маладога летувіса, якога ягоныя суродзічы падазравалі ў здрадзе. Аднойчы вечарам двае кашчавых схуднелых летувісаў, апранутых у лахманы, чакалі яго перад баракам. Калі ён выйшаў, накінуліся і ўдарам сякеры раскроілі яму галаву, ён яшчэ здолеў вымавіць слова, пасьля чаго ўдары паўтарылі. Пасьля гэтага нават не ўцякалі, толькі старанна выцерлі сякеру, кінулі сваю ахвяру ў лужыне крыві і пайшлі ў лагерную турму, дзе спакойна прызналіся ў сваіх дзеяньнях.

Другім ранкам, адразу пасьля сігнала ўставаць, як толькі адамкнулі баракі ў адзін зь іх увайшлі трое мужчынаў у масках і плашчах да шчыкалатак. Перш чым хто-небудзь здолеў схамянуцца, падыйшлі да адных з нараў, сарвалі коўдру і выцягнулі з-пад яе вязьня. Калі

бядак паспрабаваў уцячы праз дзьверы, павалілі яго і выцягнулі на калідор, дзе закалолі. Ніхто ў бараку не зварухнуўся, бо ніхто не хацеў быць замешаным у справе якая яго не датычыла. Тут магчыма справа была нават не ў стукачніцтве, проста людзі, якія мелі канфлікты і асабістыя рахункі карысталіся выпадкам у гэтай атмасьферы хаосу каб адпомсьціць.

Бясспрэчным завадатарам вязьняў у лагеры №5 быў чалавек неакрэсьленай нацыянальнасьці, якога ведалі толькі як Міхаіла. Быў здольны, працаваў у клубе, займаючыся бібліятэкай, дошкай аб'яваў і насьценнай газеткай, якая разьмяшчалася на дошцы і ўтрымлівала зьвесткі аб працы вязьняў, аб подзьвігах лагерных стаханаўцаў і штодзённых працэнтовых выніках работ. Міхаіл быў сярэдняга росту, смуглявы, лысы і плячысты, здавалася зусім пазбаўлены нервовасьці. Паводле чуткаў да арышту быў афіцэрам. Ва ўсялякім разе быў мозгам, які кіраваў дзеяньнямі вязьняў, а яны чым далей, тым больш былі арганізаванымі.

Несумненна, было нешта ў паветры, не толькі ў лагеры №5 а і ў самім Нарыльску. Нават цягнікі, што прыходзілі ў Дудзінку мелі зараз на сьценах вагонаў накрэмзаныя лозунгі: "Жадаем большых заробкаў ", "Лепшага і шчадрэйшага харчаваньня ", "Лепшых умоваў працы плюс адпачынку". З глыбіні краіны прыходзілі навіны і разыходзіліся зьвесткі аб неспакоі і хваляваньнях у лагерах разьмешчаных вакол Караганды ў Казахстане і Варкуце.

Шмат гаварылася пра хваробу Сталіна і зьменах якія адбываліся ў Крамлі, але каб здолець скласьці сабе аб гэтым усім нейкае меркаваньне, мы мелі замала фактаў. Нават вольныя працаўнікі, што прыходзілі з горада, прыносілі толькі чуткі і спадзяваньні. І раптам аднойчы раніцай на першым тыдні сакавіка дынамікі аб'явілі навіну, што Язэп Джугашвілі Сталін мёртвы.

Ва ўсім лагеры гэта выклікала шакіруючаю рэакцыю. Людзі зьбіраліся невялікімі групамі і шэптам пераказвалі навіну, жагнаючыся і мармычучы "Господі". Паўсюль былі напружаньне і страх. Чакалі што зараз нешта павінна здарыцца. Лагерныя ўлады мітусіліся, гойсаючы ў горад і назад. У лагеры зьяўляліся і зьяжджалі розныя чыноўнікі з гораду. Праца была прыпынена. Брыгадзіры і іх намесьнікі выглядалі спалоханымі і задуменнымі. Атмасьфера нагадвала вакуум і я думаў, што здарыцца можа ўсё.

Варта ўнутры і звонку была падвоена. Зараз на кожнай вышцы уздоўж калючай агарожы было па двое вартавых і яшчэ падвоілі варту ля брамы. Каментары пра сьмерць Сталіна складалі зьмест усіх гутарак у лагеры. Улады, спадзеючыся аддзяліць лідэраў

ад іх пасьлядоўнікаў, пачалі перакідваць вязьняў з аднаго лагера ў другі. У наш лагер прыбывалі групы з аддаленых куткоў краіны. У большасьці гэта былі прафесійныя закарэлыя крымінальнікі. Таксама былі бандэраўцы, знакамітыя банды жорсткіх украінскіх партызанаў, якія ненавідзелі Саветы. Ніхто зь іх не пайшоў працаваць у Гор-Строй ці куды яшчэ, але па лагеры яны прахаджваліся як па ўласным двары. Былі апрануты не ў турэмнае адзеньне, а ў добрую цывільную вопратку, а працаваць па просту адмаўляліся. Да лагерных уладаў адносіліся так, быццам паказвалі што не жадаюць каб тыя ім перашкаджалі. І ніхто гэтага не рабіў.

Па лагеры хутка разышлася прынесеная імі вестка пра бунт вязьняў у Карагандзе. Каб яго задушыць спатрэбілася ўжыць войскі. Яшчэ ўкраінцы шырылі чуткі, што і ў іншых лагерах таксама бунтавалі. У той час мне здавалася, што ўлады лагера №5 стацілі кантроль над сітуацыяй. Ва ўсялякім выпадку хутка трэба было чакаць нашага ўласнага бунту. Калі раніцай ён пачаўся, мы ўжо былі на працы ў цагельні, а дарогай паміж ёю і лагерам №5, якая вяла да капальні гліны, ішлі жаночыя брыгады, як заўжды раніцою жартуючы з мужчынамі. Калі яны паварочвалі на ўсход уздоўж паўднёвай мяжы лагера №5, некаторыя з новапрыбылых, якія стаялі там уздоўж калючай агарожы, пачалі як звычайна вітацца.Турэмшчыкі пагналі кабетаў хуткім маршам і новапрыбылыя паднялі крык.

Як заўсёды мужчыны пачалі перакідваць кабетам праз дрот запіскі. Турэмшчыкі некаторыя зь іх перахапілі, што выклікала праклёны з боку вязьняў. Кабеты таксама кідалі запіскі, некалькі зь іх упала ў забароненую зону, паміж двума шэрагамі калючай агарожы. Па нейкай прычыне новапрыбылыя вырашылі дастаць іх. Малады вартавы на вышцы крыкнуў ім каб вярнуліся, але яны гэта праігнаравалі, вартавыя не мелі дазволу страляць у межах лагера. Аднак, калі тыя падышлі да агарожы, малады вартавы выстраліў з аўтамата. Двое бандэраўцаў былі забітыя на месцы, яшчэ трое параненыя.

Вязьні перанесьлі сваіх забітых і параненых да бліжэйшага барака, пасьля чаго прыгразілі зьнішчыць вышку. Іншыя разьбегліся па лагеры, разносячы вестку пра дзеі вартавога. Кабетаў, якія прысутнічалі пры ўсёй гэтай сцэне, хутка пагналі па дарозе да капальні гліны. Праз паўгадзіны лагер закіпеў.

Улады яшчэ не ведалі, што справакавала хваляваньні. Як толькі прычына адкрылася, прыбылі да барака ў якім зачыніліся вязьні і, каб зрабіць жэст прымірэньня, загадалі маладому вартавому сысьці з вышкі, што пад акампанемент пагрозаў ён і зрабіў. Бандэраўцы

запатрабавалі ад службоўцаў пакінуць іхні барак. Па ўсім лагеры разьнесьліся вокрыкі:

— Забойцы! Забойцы! Не хочам паміраць! Вам забаронена нас забіваць!

Занепакоеныя функцыянеры адступілі да паўночнай брамы. Адразу пасьля іх адступленьня натоўп вязьняў падкаціўся да лазьні ў пошуках двух дзяжурных, якіх падазравалі ў стукачніцтве.

— Дзе Марко! — крычалі, выламваючы дзьверы.

Марко мыўся. Выбег праз тыльныя дзьверы ў бок калючай агарожы. Адчувальна параніўся, але праскочыў праз драты і апынуўся ў забароненай зоне, спадзеючыся дасягнуць галоўнай брамы. Вартавы з бліжэйшай вышкі крыкнуў яму "Стой!", але Марко, ухіляючыся ад каменьняў якія ў яго кідалі, бег далей паміж двума шэрагамі калючага дроту. Прабег можа пяць метраў і вартавы двума стрэламі яго паклаў. Калі гэта адбывалася, выбег другі даносчык і пералез праз калючы дрот. Вартавыя з паўночнай брамы далі сігнал вартавым на вышках каб не стралялі і стукач перабег праз зону сьмерці да дому турэмшчыкаў ля брамы. Там павярнуўся і пагразіў бандэраўцам кулаком. Разьюшаны натоўп рушыў да брамы.

Уся праца спынілася. Шмат працаўнікоў прыбеглі са сваіх месцаў працы праз чыгуначныя рэйкі да калючай агарожы, якая абкружала лагер, каб паглядзець што там робіцца. У гэты час ужо быў створаны камітэт вязьняў начале зь Міхаілам і зь некалькімі бандэраўцамі ў якасьці чальцоў. Брыгадзірам загадалі не вяртацца ў лагер а займаць фабрыку.

— Чуеце, хлопцы? — крыкнулі брыгадзіры.

Ніхто ўжо не браўся за працу. Праз кароткі час спакою калона аўтамабіляў прывезла з Нарыльску чыноўнікаў. Спыніліся ля брамы, пагутарылі з лагернымі уладамі і паспрабавалі ўвайсьці. Натоўп завыў і за брамай усе адразу спыніліся. Да іх сьціраваўся камітэт Міхаіла. Вязьні абвінавацілі ўлады лагеру ў наўмысным забойстве. Начальнік прызнаў, што малады вартавы не меў права страляць у межах лагеру і паабяцаў пакараць яго. Тады камітэт запатрабаваў цалкам зьмяніць умовы жыцьця. Склалі асобны сьпіс патрабаваньняў: адмяніць назовы вязьняў па нумарах, даць права пісаць родным лісты раз на месяц, а не раз на год, што не будзем працаваць больш за восем гадзін у дзень, што заробак павінен быць прапарцыянальным выкананай працы і што ўсялякая праца звыш нормы павінна запісвацца на рахунак зьмяншэньня пакараньня. Напрыклад, за кожны дзень у які вязень перавысіў норму, яму адлічваецца тры дні з пакараньня.

У час, калі камітэт бунтаўшчыкоў размаўляў з уладамі, іх з усіх бакоў абкружыў натоўп. Усе адначасова гаварылі, лаячыся і прыпамінаючы свае крыўды, цешачыся пачуцьцём волі і сілы, кідаючы розныя абвінавачваньні і пагрозы. Лагерныя ўлады прызнавалі, што яны тварылі шмат несправядлівасьці, а партыйныя функцыянеры з Нарыльску занатоўвалі патрабаваньні вязьняў. Усе запэўнівалі, што становішча іх будзе палепшана і ўсе патрабаваньні задаволены.

Вязьні ім не верылі. Калі гарадскія чыноўнікі пакінулі лагер, натоўп ля брамы суправаджаў іх воклічамі:

— Словы, словы, словы, а нам трэба справы!

Пасьля доўгай нарады з адміністрацыяй лагеру ўжо за брамай, партыйныя функцыянеры селі ў машыны і вярнуліся ў Нарыльск.

У той вечар для ўзмацненьня аховы прыбылі грузавікі з жаўнерамі і абкружылі лагер. У лагеры вязьні пад кіраўніцтвам Міхаіла пачалі арганізоўвацца. Каб пазьбегнуць беспарадкаў і рабункаў стварылі лагерную міліцыю, ля агарожы паставілі варту каб падняць трывогу калі жаўнеры пачнуць якіясьці дзеі. Тыя ж для асьвятленьня тэрыторыі лагеру усталявалі рэфлектары.

Аб дзейнасьці камітэту Міхаіла паведамілі фабрыкам і Гор-Строю. Парэкамендавалі ўсім брыгадам лагера №5 каб заставаліся, калі гэта магчыма, на фабрыках і Гор-Строі, а не вярталіся ў лагер. Узьнікала праблема з харчаваньнем, але камітэт загадаў карыстацца тым, што ёсьць і трымацца да канца. Кабеты таксама вырашылі страйкаваць гэтак жа доўга, як і мужчыны.

Вечарам таго дня ў бляску рэфлектараў адбыўся агульны сход усіх вязьняў лагеру. Тыя, хто былі на тэрыторыі фабрыкі, навастрылі вушы каб пачуць што там кажуць. Перш за ўсё Міхаіл агучыў тое, аб чым ужо ўсе ведалі: ужо не будзе працы. Гэта выклікала з натоўпу воклічы радасьці.

— Досыць ужо, нацярпеліся, — крычалі. — Хопіць зьдзеквацца над намі, досыць гэтай працы без аплаты. Всё равно! Хутчэй памром, змагаючыся за волю, чым будзем здыхаць ад працы!

Увесь час, калі Міхаіл і іншыя лідэры праводзілі перамовы, турэмшчыкі звонку з усіх закуткоў рабілі здымкі, імкнучыся ўхапіць як мага больш твараў. Я назіраў за імі і дзякаваў Богу, што знаходжуся на тэрыторыі фабрыкі. Міхаіл прадставіў праграму дзеяньняў лагера. Не павінна быць ніякіх рабункаў, інакш не хопіць правіянту. У вызначаны час брыгады павінны забіраць сваё харчаваньне. Расклад дня будзе вывешаны на дошцы аб'яваў. Усе

павінны імкнуцца ўтрымліваць парадак і быць паслухмянымі рэкамендацыям камітэту і ўнутранай міліцыі.

Мы на тэрыторыі фабрыкі ўсё чулі і таксама былі падбадзёранымі тым, што казалі ў лагеры вязьні, але мы не мелі харчаваньня і не атрымалі абеду. Усе іншыя патрабаваньні былі, канечне, добрыя, але нам хацелася есьці. Урэшце нам праз агарожу перакінулі хлеб.

Тым вечарам з гораду вярнуліся службоўцы з генералам Зьверэвым уласнай персонай. Аўтамабілі пакінулі ля ўваходу ў лагер. Каля дваццаці зь іх прайшлі пехатой дзьвесьце метраў, аддзяляючых іх ад фабрыкі. Брыгадзіры неадкладна выдалі рэкамендацыю зачыніць усе ўваходы на фабрыкуі не размаўляць зь імі, але яны праз цагельню прайшлі да невялікіх майстэрняў уздоўж чыгуначных пуцей. Зь імі былі інжынеры, якія меліся праверыць ці не пашкоджаны машыны.

Напрыканцы некалькі нашых брыгадзіраў выйшлі вонкі каб пагутарыць зь імі, але брамы фабрыкі пакінулі зачыненымі. Людзі з лагеру бачылі як яны выходзілі ў накірунку да групы чыноўнікаў і здалёк пачалі крычаць:

— Не заключайце ніякіх дамоваў, не слухайце іх. Трымайцеся. Хопіць гэтых размоваў, пойдзем з намі!

Паступова рабачыя цагельні загарэліся цікаўнасьцю і невялікімі групамі пачалі выходзіць. Атачылі брыгадзіраў і чыноўнікаў з Нарыльску.

Размовы былі цалкам стыхійныя. Усе адначасова крычалі. Працаўнікі скардзіліся на занадта жорсткую дысцыпліну, на грубасьць адміністрацыі і на кепскія адносіны, якія прыходзіцца зносіць ад іх і ад турэмшчыкаў. Чыноўнікі адказвалі, што не ведалі аб такіх кепскіх варунках. Абяцалі ажыцьцявіць усе прапанаваныя зьмены, толькі б людзі вярнуліся ў лагер і працягвалі працу. Большасьць вязьняў бурчэла, але некаторыя былі гатовыя слухаць, асабліва калі чыноўнікі загаварылі аб рэпрэсіях.

— Ці ж вы не бачыце, вас ашукваюць, — сказаў партыйны чыноўнік. — Вашым завадатарам няма чаго губляць, але тыя з вас, хто невінавыты, калі і надалей будзе так сябе паводзіць, будзе пакараны.

Некалькіх, здавалася, напалохалі і яны пачалі праціскацца да брамаў фабрыкі, але з лагеру ім прыгразілі і ля брамы яны завагаліся, тады жаўнеры жорстка іх адціснулі, і не ў накірунку да лагера, а ў бок горада. Гэта была апошняя кропля якая перапоўніла келіх. Рабочыя фабрыкі адчулі, што іх здрадзілі, брыгадзіры пачалі лаяцца і крычаць,

а чыноўнікі хуценька адступілі. З нашай зоны перамясьціліся да Гор-Строю.

Там сітуацыя была нашмат горшай. Рабочыя з Гор-Строю не атрымалі вячэры бо знаходзіліся на вялікай адлегласьці ад лагера і паслаць ім ежу не было магчымасьці. Яны былі значна больш схільнымі слухаць чыноўнікаў і вярнуцца ў лагер. Хацелі есьці. Як толькі людзі з лагеру ўбачылі іх пашыхтаванымі, раздаліся праклёны і пагрозы, ім загадвалі не вяртацца. Урэшце вязьні адступілі, а чыноўнікі павярнулі аглоблі. Турэмшчыкі зачынілі брамы, людзі засталіся ў Гор-Строі і мы ўсе пакладіся спаць. З-за вялікага ўзрушэньня і напружаньня, якое працягвалася, заснуць было цяжка. Аб тым, што маглі б зрабіць чыноўнікі калі б кінулі ў дзеяньне войскі, гутаркі не было.

Наступным ранкам на нашу тэрыторыю прыйшлі лагерныя ўлады. Са спачуваньнем запыталіся ці спалі мы, ці елі, што думаем рабіць далей і чаму ўлезьлі ў гэты бунт. Людзі адказвалі неахвотна. Проста раілі службоўцам дамовіцца з завадатарамі ў лагеры. Шчыра кажучы, большасьць людзей на фабрыцы не бачылі сэнсу заставацца далей у стане страйку. Задумваліся, ці будзем з усяго гэтага мець нешта апрача пустых страўнікаў.

Я праз дрот каля хвіліны пагутарыў з адным чыноўнікам. Ён ветліва паведаміў мне, што бунты ў працоўных лагерах пашыраюцца зараз паўсюль, не толькі ля Нарыльску, і што гэтым займаецца Масква.

— Але Масква не вырашыла, што рабіць, — сказаў ён, — так што ніхто не хоча прадпрымаць ніякай акцыі з дапамогай войска.

У тую раніцу вязьні ў лагеры арганізавалі пахаваньне тых двух, якія былі забітыя вартавымі з вышкаў. Гэта была вялікая цырымонія, гучала шмат прамоваў пра тых двух "мучанікаў" за волю вязьняў, пастановаў працягваць бунт аж да часу, калі зьмены, за якія гэтыя людзі аддалі жыцьцё, будуць уведзеныя, і г.д. Потым целы аднесьлі да брамы і аддалі турэмшчыкам для пахаваньня.

Тым, што робіцца ў лагеры, вельмі цікавіліся людзі з горада. Мы маглі іх убачыць выглядыючымі з вокнаў высокіх будынкаў, а некаторыя нават паўзлазілі на дахі. Але набліжацца да лагеру ім не дазвалялі.

Каля пяці гадзін пасьля апоўдня мы заўважылі ў лагеры рух. Вырашылі вярнуцца брыгады з Гор-Строю. Турэмшчыкі правялі вязьняў да лагера №5, але як толькі яны прайшлі праз браму, на іх накінуліся тыя, што заставаліся ў лагеры, абвінаваціўшы ў "капітуляцыі". Камітэт Міхаіла хацеў каб усе брыгады не адступалі ад сваіх месцаў і былі раськіданыя, каб спатрэбілася большая колькасьць

войска пільнаваць іх па ўсёй тэрыторыі, а таму іх канцэнтрацыя ў адным месцы была б аслабленая. Вузлавым пунктам гэтай стратэгіі лічыўся Гор-Строй. Ён знаходзіўся на самым краі закончанай часткі горада і ў выпадку неабходнасьці завадатары спадзяваліся прарваць агарожу Гор-Строя і ўцячы ў Нарыльск.

Мы зноў правялі вельмі неспакойную ноч. Наступны дзень правялі на фабрыцы, ламаючы галаву над тым, што можа здарыцца. Трэці дзень прайшоў гэтак жа. Калі-нікалі да лідэраў бунту прыходзілі паразмаўляць гарадскія чыноўнікі, але нічога не адбывалася. На чацьверты дзень пасьля апоўдня мы пачалі непакоіцца. Мы мелі толькі хлеб і ваду і не разумелі, чаго можна дасягнуць надалей знаходзячыся на фабрыках.

Нарэшце з лагеру прыйшоў выклік вяртацца. Чыноўнікі абяцалі палепшыць умовы. Гэта нам падыходзіла. Мы пашыхтаваліся ў шэрагі, пры выхадзе нас пералічылі і мы практычна прабеглі тыя дзьвесьце метраў, што аддзялялі нас ад лагера. Як толькі нас праверылі пасьля ўваходу ў лагер, мы сталі ў чаргу на кухню, адкуль запатрабавалі і атрымалі гарачыя суп і кашу, першы раз за чатыры дні.

Тым самым вечарам, усхваляваўшы лагер, вярнуліся службоўцы. Міхаіл і яго камітэт выступілі з лозунгам, што наступныя тры дні ніхто працаваць не будзе. Застанемся ў стане страйку да тае пары пакуль не пераканаемся, што адміністрацыя трымае слова. Але не было ніякіх рэпрэсій і стала нашмат лепшай ежа, так што праз тры дні брыгады вярнуліся на працу.

У той вечар тыя хто быў у Гор-Строі распавялі, што ў адмысловым лагеры, які знаходзіўся на поўдзень ад горада, узбунтаваліся і страйкуюць далей катаржнікі (вязьні з доўгімі вырокамі). Вольныя з Гор-Строю таксама казалі пра іншыя бунты. Аднак у лагеры №5 тыдзень ці два нармальна працавалі ў вельмі добрых умовах. Было рэалізавана шмат запатрабаваных зьменаў, абяцалі рэалізаваць большасьць іншых патрабаваньняў, а з боку вязьняў адзінай уступкай было тое, што згадзіліся працаваць бандэраўцы. Гэта здавалася занадта добрым каб быць сапраўдным і вязьні нешта прадчувалі.

Аднойчы раніцай на другім тыдні красавіка перамір'е было разарвана. Брыгады як заўсёды крочылі да Гор-Строю і да фабрык. У той дзень праз забароненую зону першай прайшла мая брыгада, потым некалькі іншых, а замыкалі дзьве нанава сфармаваных брыгадаў бандэраўцаў. Я заўважыў, што ля брамаў было больш чым звычайна турэмшчыкаў, амаль у два разы болей, але нічога не

адбывалася ажно пакуль брыгады бандэраўцаў не пачалі ўваходзіць на тэрыторыю фабрыкі. Яны раптоўна былі абкружаныя войскам і іх пачалі цясьніць назад, а брамы фабрыкі зачынілі. Пастка паміж лагерам і тэрыторыяй фабрыкі закрылася, іх адрэзлі ад іншых вязьняў. Цяпер у выпадку чаго іх можна было утаймаваць ударамі пракладаў.

Тым часам з гораду панаехала грузавікоў, поўных жаўнерамі. З абедзьвух брыгад былі выцягнуты лідэры, іх пагрузілі на грузавікі і вывезьлі. У гэты час нашы крыкі растрывожылі вязьняў у лагеры. З палкамі ў руках яны прыбеглі да агарожы, гатовыя прарвацца на тэрыторыю фабрыкі, але Міхаіл і яго людзі ўстрымалі іх ад дачаснага выступленьня.

Лагерныя ўлады адступілі да паўночнай брамы і пакінулі лагер пад кантролем вязьняў. Нічога больш не адбылося і пасьля апоўдня, а вечарам брыгады з Гор-Строю вярнуліся ў лагер. Але нам Міхаіл загадаў застацца на тэрыторыі фабрыкі. З лагеру нам праз дрот перакінулі хлеб і трохі рыбы.

Тым вечарам чыноўнікі з гораду і лагеру зноў спаткаліся зь лідэрамі бунту. У гэты раз былі нашмат больш агрэсіўнымі і пагражалі нам ужываньнем сілы. Міхаіл не даў сябе застрашыць, сказаў што сілу сустрэне сіла.

— Апошні раз абяцайце не прымяняць сілу, — сказаў ён, — толькі Бог ведае, што сталася з тымі людзьмі, якіх сёньня схапілі. Гэта ўсё павінна скончыцца, усё цалкам павінна зьмяніцца! Мы толькі што паддаліся і за гэта нічога не атрымалі, так што нам няма чаго губляць! Гэта ўжо ўсё, альбо жыцьцё, альбо сьмерць!

У канцы сходу на дах двухпавярховага будынку ў паўночным куце лагера ўскараскаліся сігнальшчыкі і вывесілі вялікі сьцяг, зроблены ўручную, з чэрапам і скрыжаванымі касьцямі. Іншыя расьцягнулі ўздоўж сьцен баракаў, зьвернутых у бок Нарыльску, вялікае палотнішча з намаляваным лозунгам: "Дапамажыце нам пазбавіцца ад гэтых забойцаў". Сігнальшчыкі перадалі ўсім лагерам тэрыторыі заклік да страйку. Усе адказалі, што яны з намі на жыцьцё і сьмерць. Зь верхніх вокнаў фабрыкі мы бачылі сігнальныя сьцягі лагера №4, аддаленага на тры кіламетры. З гэтага часу на сваіх месцах на даху будынку заўсёды былі сігнальшчыкі.

У час, калі лагер арганізаваўся, вярнуліся вайсковыя аддзелы. Жаўнеры, пашыхтаваныя самкнутымі шэрагамі атачылі ўвесь лагерны перыметр, уключна з тэрыторыяй фабрыкі і жаночым лагерам. Спачатку службоўцы спрабавалі дзеля зьмяншэньня перыметру аховы і колькасьці вайсковых аддзелаў выцясьніць усіх у

лагер, але пакідаць фабрыку мы адмовіліся. Чыноўнікі з гораду былі занепакоеныя, бо большасьць мясцовых вайсковых аддзелаў атачала лагеры, а кіпеньне ўжо пачалося і ў горадзе. Большасьць людзей ў Нарыльску зьяўляліся былымі вязьнямі, якія падтрымлівалі нашы патрабаваньні.

У той раз мы трымаліся на тэрыторыі фабрыкі пяць дзён. Раніцай пятага дня гарадскія чыноўнікі і афіцэры прыйшлі да брамаў нашай зоны і загадалі брыгадзірам яшчэ сягодня вярнуцца ў лагер. Былі настроеныя ўжыць сілу і скончыць з бунтам. Брыгадзіры адказалі ім, што нічога рабіць не будуць. Афіцэры вярніліся і картэжам зьехалі ў горад. Наша становішча ператваралася ў крытычнае, але завадатары з лагеру загадалі нам трымацца любой цаною.

Пасьля апоўдня мы цьвікамі забілі на фабрыцы ўсе дзьверы і пачалі будаваць у розных месцах будынка барыкады з цэглы. Гэта была доўгая, нервовая ноч. Усе мы былі ў напружаньні і ніхто не мог спаць. Назаўтра на сьвітанку з горада пачалі пад'яжджаць грузавікі, поўныя узброеных аўтаматамі вайскоўцаў. Яны абкружылі тэрыторыю фабрыкі і адрэзалі нас у нашай "цытадэлі". Кабеты ў сваім лагеры і вязьні ў лагеры №5 пасьпяшаліся да агарожы і пачалі крычаць, пратэстуючы. Але гэта была рэгулярная армія. Яны не зьвярталі аніякай увагі на крыкі, а спакойна і эфектыўна пачалі выконваць задачу, якую перад імі паставілі.

Як толькі вайскоўцы сышлі з грузавікоў, іх кіраўнік загадаў нам пакінуць фабрыку і вяртацца ў лагер. У адказ пачуў толькі праклёны і лаянку з боку брыгадзіраў. Нас у цагельні было больш за семдзесят, пастаўленых у розных месцах за грудамі цэглы, якая мелася служыць адначасова і заслонай і зброяй. Шмат людзей мелі палкі і жалезныя пранты. Я быў з групай у пячным цэху на ўсходняй мяжы фабрыкі.

Сігналам для атакі стаў пісталетны стрэл. Вайскоўцы рушылі з усіх бакоў, б'ючы ў дзьверы каб выламаць іх. Пачалося пекла. Памятаю, як крычалі са свайго лагера кабеты, іх высокія галасы перакрывалі праклёны вязьняў і глухія ўдары па дзьвярах. Першы вайсковы зьвяз, які ўбіўся на тэрыторыю цагельні, прайшоў праз вугальнае сутарэньне і дабраўся да пячнога цэху.

Як толькі паказалася першая каска, жаўнеры былі закіданыя цэглай і праклёнамі. Адступілі і пачалі страляць з аўтаматаў. Мы ўкленчылі за кучамі цэглы і не варушыліся, гатовыя з моманту калі пакажуцца мундуры бамбаваць дзьверы. Але тады, калі ўся наша ўвага была ськіваваная на гэтую кропку, жаўнеры дабраліся да памяшканьня, што знаходзілася за намі і захапілі нас зьнянацку.

Нават не далі сабе клопату страляць, хапіла ўдараў прыкладамі. Я атрымаў удар у сьпіну, які ледзьве не расьсек мяне напалам, і ўпаў. Потым наступны жаўнер, каб быць пэўным што я не ўстану, ударыў мяне па галаве. Пасьля нас як мяхі з цэментам аднаго за другім павыкідалі праз вокны.

Некалькі вязьняў, параненых цяжэй, пагрузілі на аўтамабілі і вывезьлі. Астатніх прымусілі пашыхтавацца ў шэрагі за межамі фабрыкі пад акампанемент удараў кулакамі і высьпяткаў. За чвэрць гадзіны войска ачысьціла не толькі цагельню а і ўсе астатнія фабрыкі. Я быў лёгка аглушаны, але мне здавалася што ўвесь горад глядзеў на нас скрозь вокны і з дахаў дамоў. Жаночы лагер і вязьні ў лагеры №5 бурлілі. Аднак камендант экспедыцыі быў нерухомы як скала і бязьлітасны.

Калі ўсіх вязьняў пашыхтавалі, нас пагналі да брам фабрыкі. Замест таго, каб завесьці ў лагер, жаўнеры пагналі нас уздоўж чыгуначных пуцей да капальні гліны. Там нас паставілі такім чанам, каб не было відаць з лагера. Мы стаялі па шчыкалаткі ў вадзе, акружаныя жаўнерамі са зброяй у руках. Праз хвіліну прыйшоў камендант. Бліснуў вачыма, закамандаваў, і жаўнеры навялі зброю на нас. У той момант я як мог шчыра учыніў акт пакаяньня, але ўсё ўва мне здавалася адначасова заледзянелым і кіпячым.Той момант чаканьня стрэлу здаўся мне вечнасьцю. І тут раптам пачулася вуркатаньне аўтамабіля, які падляцеў, раськідваючы коламі жвір, зь яго выскачылі і закрычалі двое службоўцаў. Жаўнеры апусьцілі зброю. Ногі пада мною падкашваліся, але я з палёгкай уздыхнуў. Нам загадалі сесьці на мокрую глебу. На зямлю я абсунуўся.

Трое службоўцаў пачалі хадзіць уздоўж шэрагаў, выгукваючы з розных сьпісаў, якія трымалі ў руках, прозьвішчы. Адзін за другім выходзілі вязьні і іх уважліва аглядалі і параўноўвалі з фатаграфіямі, якія былі ў паперах. Калі прыйшла мая чарга, адзін са службоўцаў доўга і ўважліва глядзеў на мяне, потым зазірнуў у паперы і зашаптаўся зь іншымі службоўцамі. Праз хвіліну груба сказаў:

— Направа!

Дагэтуль мы ўжо ўсе былі разсартаваныя — справа знаходзіліся каля трыццаці пяці, і можа тыццаць — зьлева. Я не ведаў, што можа значыць гэты падзел.

Калі службоўцы селі ў аўтамабілі і паехалі, мы засталіся пад моцнай аховай. Празь некалькі хвілін пад'ехаў грузавік. Зараз, калі пасьля страшэннага ўзрушэньня да мяне нарэшце вярнулася здольнасьць думаць, прыйшла пара для малітвы. Але толькі адна думка займала мяне, калі я ўбачыў набліжэньне грузавіка: "Забяруць нас і

пусьцяць у расход у нейкім іншым месцы". Да гэтай думкі далучылася трохі шкадаваньне самаго сябе і пачуцьцё самоты. Апошні раз падумаў аб сваёй сям'і дома, аб сябрах, аб пабрацімах-езуітах, якія ніколі не даведаюцца што са мной сталася і дзе я памёр — недзе там, на сібірскіх пустках у глінянай капальні. Аднак у тую хвіліну, калі грузавік наблізіўся, усё гэта прайшло і мая рэакцыя засяродзілася на думцы: "Мяркуеш, Бог не ведае дзе ты? Думаеш, што дагэтуль цябе ахоўваў а цяпер забыўся?" Мяне адразу агарнулі давер у Божае Апекаваньне і моцная вера. Калі я зараз аб гэтым пішу гэта можа здацца сентыментальнасьцю, але ў тую хвіліну было гэта для мяне велізарнай дапамогай і перажываньнем, якога ніколі не забыцца.

Мой давер Божаму Апекаваньню, якому я навучыўся за доўгія гады на Лубянцы, быў падвергнуты апошняму выпрабаваньню. І не падвёў мяне.

Група, якая стаяла зь левага боку, была пагружана ў грузавік. Вязьняў цесна напхалі і загадалі сядзець з галавою між каленьмі і рукамі, складзенымі на галовах. Завуркатаў матор і машына ад'ехала. Адзін са службоўцаў падыйшоў да нас, што стаялі справа.

— Вы, дзякуючы нам, маеце шчасьце яшчэ жыць, — сказаў ён. — Ведаеце, якая кара павінна быць за распачаты супраць урада бунт. Вы былі ўжо амаль растраляныя, памятайце пра гэта! Зараз адсылаю вас назад у лагер, але папярэджваю, што калі будзеце схопленыя за антынародную дзейнасьць, падрыўную працу ці супрацоўніцтва з бунтаўшчыкамі ў лагеры, літасьці ўжо не будзе.

Так ён гаварыў доўгі час. Мы стаялі прыгаломшаныя, з апушчанымі галовамі, перажываючы сваю паразу.

— Дык чаго чакаеце? — закрычаў ён урэшце. — Хочаце вярнуцца ў лагер, ці таксама паехаць кудысьці?

У адказ натоўп ціха але дружна зашамацеў, гэта здаецца яго задаволіла, так што мы кульгаючы, некаторыя былі параненыя да крыві, памаршыравалі ў лагер.

Нягледзячы, што тэрыторыя фабрыкі была ўжо ачышчанай, лагер і надалей знаходзіўся ў руках вязьняў. Нас адразу абкружылі і засыпалі пытаньнямі. Мы не маглі размаўляць, а проста пайшлі ў бараки і пападалі на нары. Але і там нашы сябры стоўпіліся ля нас распавядаючы розныя выпадкі пра тое, што рабілася ў лагеры. Перш чым я здолеў заснуць прайшло шмат часу. Яшчэ доўга пасьля таго як ад мяне адчапіліся я зноў і зноў перажываў падзеі гэтага дня, разумеючы чым яны маглі скончыцца, і дзякаваў Богу за маё выратаваньне.

Назаўтра раніцай у лагеры адбыўся агульны сход. Міхаіла на ім не было, але яго ад'ютант прачытаў дэкларацыю, адрэдагаваную камітэтам: 1) Калі хто-небудзь паспрабуе ўцячы і будзе злоўлены, то не будзе мець літасьці з боку лагернай міліцыі, 2) Рэвалюцыйны Камітэт не згаджаецца на далейшыя перамовы з гарадскімі чыноўнікамі, будзем размаўляць толькі з прадстаўнікамі Масквы, 3) Мы ўсе зараз лічымся бунтаўшчыкамі і маем толькі адзін выбар — воля альбо сьмерць, таму павінны быць салідарнымі. Адзін з памочнікаў Міхаіла сказаў, што ў Крамлі міжуладдзе, што ёсьць чуткі пра абвінавачваньне ў інтрыгах і арышт Берыі, і што КГБ зараз падвяргаецца крытыцы за мноства пакутаў, якія прычынялі вязьням у працоўных лагерах.

Генерал, які задушыў страйк на фабрыках, быў яшчэ на месцы разам з асобымі аддзеламі войска, якія па нашых зьвестках прыбылі з Краснаярску. Але зь іхняга боку агрэсіі не было. Мабыць партыя зразумела, што калі б аддзелы атакавалі лагер гэтак жа як і цагельную фабрыку, то пралілося б шмат крыві і ніхто не хацеў браць на сябе за гэта адказнасьць.

27 ці 28 красавіка генерал правёў новы манеўр. Пасьля апоўдня, калі вязьні паабедаўшы сядзелі ля баракаў, палілі і гутарылі, праз галоўную браму хутка ўвайшлі аддзелы. Гэта было добра запланавана і дакладна выканана. Увайшлі праз браму і хуценька абкружылі бліжэйшыя да яе тры баракі з паўночнага краю лагера. Потым накіравалі рулі аўтаматаў на лагерныя дарогі каб трымаць пад пагрозай рэшту вязьняў. Жаўнеры з багнетамі на карабінах вывелі захопленых у тых трох абкружаных бараках вязьняў, загадалі ім выйсьці з лагеру і пагналі іх у горад.

Як толькі лагер усьвядоміў што сталася, загучала трывога і наша "армія" бязладна пабегла да аўтаматчыкаў. Мабыць, жаўнеры мелі загад без неабходнасьці не страляць, бо пачалі адступаць да галоўнай брамы. У гэты час запрацавала пажарная помпа і праз браму на вязьняў абрынуліся струмені вады. Пад іх ударамі зваліліся лідэры вязьняў, а астатнія спыніліся, так што аддзелы мелі час пакінуць лагер. Вязьні кінуліся на помпу і павалілі яе. Пажарныя здолелі ўцячы і схавацца. Вязьні кінуліся за імі ў шалёнай пагоні да галоўнай брамы, але Міхаіл затрымаў іх. Калі б увайшлі ў забароненую зону, жаўнеры маглі законна страляць па іх як па "ўцякаючых вязьнях".

Цяпер стратэгія генерала была яснай. Ён будзе спрабаваць нечаканымі ўдарамі захопліваць невялікія групы прыкладна па сто чалавек. Такім чынам можна ўрэшце ачысьціць ці заняць лагер без сур'ёзных сутыкненьняў. У адказ на гэта некаторыя вязьні спрабавалі

часам ноччу высьлізваць з баракаў, забіваць турэмшчыкаў і забіраць іх зброю, але вайскоўцы паўсюль усталявалі пражэктары. У іх сьвятле было немагчыма пераадолець зону сьмерці.

Прайшоў тыдзень перш чым генерал паспрабаваў іншы маеўр. Ён сабраў усіх гарадскіх і лагерных чыноўнікаў, каля сарака чалавек, ля галоўнай брамы. Тая група ўвайшла ў лагер пасьля вячэры, спынілася за брамай і запатрабавала размовы зь Міхаілам. У гэты раз генерал сканцэнтраваў свае аддзелы за вагонамі на чыгуначных пуцях на захад ад лагера. У цемры за пражэктарамі іх не было відаць.

Міхаіл і яго памочнікі каб сказаць генералу і чыноўнікам што з гэтай пары будуць размаўляць толькі з маскоўскай камісіяй пайшлі галоўнай дарогай. Навокал стоўпіліся вязьні і чыноўнікі мелі кепскі выгляд. У гэты момант аддзелы перарэзалі агарожу і рушылі з захаду, спрабуючы разьвярнуцца ў ланцуг каб адрэзаць трэць лагеру з паўднёва-заходняга боку так, як перад гэтым рабілі з паўночнага.

Аднак адзін зь вязьняў нешта западозрыў. Ускараскаўся на бочку і крыкнуў натоўпу, які акружаў Міхаіла і чыноўнікаў:

— Брацьця! Гэта падман, гэта пастка! Гляньце, гэта відаць па іхных тварах. Азірніцеся навокал, робіцца нешта кепскае!

Толькі ён гэта сказаў, пачуліся крыкі ад паўднёвага захаду. Большасьць адразу рушыла туды. Аддзелы толькі пераадольвалі другую лінію агарожы, як іх каменьнямі і палкамі атакавалі вязьні. Тыя без стрэлу адступілі. Падобна на тое, што страляць ім было забаронена. Рэшта натоўпу ля брамы прыйшла ў шаленства. Вязьні накінуліся на групу чыноўнікаў і на самаго генерала, якому далі па твары. Чыноўнікі пачалі адчайна ўцякаць, за імі гналіся вязьні, абсыпаючы іх ударамі і высьпяткамі. Адзін маёр пабег не да брамы а да баракаў. Залез на вакно другога паверху і паспрабаваў пераскочыць праз калючы дрот, але не здолеў і павіс на ім, зачапіўшыся шыяй.

Тады службоўцы ўжылі іншы спосаб. Усталявалі вакол лагеру кола дынамікаў. Зь іх няспынна гучала прапаганда. Дынамікі ўвесь час убівалі нам у вушы такія зьвесткі, як тое, што для тых, хто аддзеліцца ад бунтаўшчыкоў будзе новы лагер. Ён быў разьмешчаны недзе на ўсход ад горада, у тундры, у адлегласьці каля дванаццаці кіламетраў. Дынамікі ўвесь час паўтаралі, што лепей быць у няволі ў добрым лагеры, чым забітым у лагеры №5 калі ў яго ўвойдзе войска. Называлі таксама прозьвішчы завадатараў каб давесьці, што яны вядомыя, абяцалі не караць тых, хто завадатарам не зьяўляецца, пры ўмове, што яны зараз выйдуць.

Нарэшце ў адзін з дзён дынамікі аб'явілі, што камісія з Масквы, якой дамагаліся вязьні, прыехала. У той самы дзень, пасьля апоўдня да брамы прыбылі трое мужчынаў, якіх паслалі каб уціхамірыць бунты вакол Нарыльску. Праз браму прапусьцілі толькі гэтых трох, з Масквы, спаткаў іх Міхаіл са сваім штабам. Насупраць сталоўкі паставілі сталы і вакол іх сабраліся вязьні. А каб пазьбегнуць нечаканага нападу, перыметр лагеру атачылі групы па дзесяць вязьняў. Пасланцы пачалі са сьцьвярджэньня, што бунт быў безсэнсоўны. Калі гэта будзе неабходным, яго задушаць сілай — ва ўсялякім разе уводзіць у лагеры зашмат зьменаў няма магчымасьці. У адказ Міхаіл і іншыя завадатары адыйшлі ад стала перамоваў. Тады адзін з пасланцаў устаў і заўсьміхаўся. Запэўніў нас, што пасьля сьмерці Сталіна уся справа працоўных лагераў стала прадметам дыскусіі, асабліва ў адносінах да палітычных вязьняў. Паведаміў, што Масква вельмі цікавіцца страйкамі ў лагерах каля Нарыльску і ён з калегамі былі пасланыя заключыць дамовы каб пазьбегнуць крыві. Ён упэўнены, што дамовіцца можна. Камісія будзе рада пачуць прапановы з боку вязьняў. Адзін зь лідэраў вязьняў адказаў, што калі будзе патрэба, мы гатовыя праліць кроў, гэтак жа як і ў лагерах Караганды і Варкуты. Асабліва, сказаў ён, мы патрабуем людскіх адносін і пэўных чалавечых правоў і пачаў пералічваць мінімальныя патрабаваньні вязьняў. Не будзе ўжо прымусовай дзесяцігадзіннай працы безь перапынку на ежу, вязьняў не будуць пазначаць, як быдла, нумарамі.

— У нас ёсьць прозьвішчы, — сказаў ён, — мы хочам аплаты і ўзнагароды за нашу працу, і яшчэ каб тэрмін выроку за добрыя паводзіны зьмяншаўся. Мы хочам мець кантакт са зьнешнім сьветам і з нашымі сем'ямі, а не толькі адзіны ліст у год. Хочам мець дазвол на пасылкі ад сем'яў. Хочам каб нас запэўнілі, што бяззбройных вязьняў не будуць спакойна забіваць, як гэта было тут з двума нашымі калегамі. Хочам каб нас запэўнілі, што дамовы не будуць скасаваныя, як тыя пасьля апошняга страйку, і хочам гарантый, што не будзе рэпрэсій. Урэшце хочам лепшых умоваў жыцьця, меней людзей у адным бараку, лепшага харчаваньня.

Камісія старанна занатоўвала ўсе патрабаваньні. Пад канец камітэт Міхаіла запэўнілі, што ўсе патрабаваньні будуць выкананыя пры ўмове, што мы спакойна спынім бунт і вернемся да працы. У адказ з боку вязьняў, што атачылі камісію, падняўся моцны гвалт:

— Не раней, чым нашыя патрабаваньні будуць выкананыя!

На гэтым перамовы закончыліся. Праз два ці тры дні камісія прыватна спатыкалася зь лідэрамі бунту, але не было дасягнута

ніякага паразуменьня, ні кампрамісу. Аднак з іншага боку камісія загадала прыслаць у лагер тры грузавікі харчаваньня і запоўніць амаль пустыя склады. Прынамсі не спрабавалі давесьці нас да галоднай сьмерці.

Увесь гэты перыяд я слухаў шматлікія споведзі. Не ведаючы, ці не ўспыхне ў наступную хвіліну страляніна, людзі адчувалі сябе як жаўнеры перад боем, і ў сьмяротнай небясьпецы прыводзілі да парадку сваё сумленьне. Імшу я адпраўляў штодзённа. Удзел у іх бралі шматлікія натоўпы і я раздаваў шмат сьв. прычасьця.

Надыйшоў канец траўня. Бунт у лагеры №5 цягнуўся ўжо больш за месяц. На працягу тыдня дынамікі заклікалі нас да неадкладнай капітуляцыі, пасьля чаго пагражалі ўжыць сілу. З-за таго, што дні ў лагеры сплывалі ў бязьдзейнасьці, напружанасьць расла і няўпэўненасьць павялічвалася. Некаторыя паддаваліся трывожным пачуцьцям. Лазарэт і шпіталь былі поўныя, хворыя ляжалі нават на траве. Паветра было лагодным і надвор'е цудоўным, рэдка мы мелі ў Нарыльску такую вясну. Аднак атмасьфера станавілася ўсё больш цяжэйшай. Кожную ноч аб'яўлялі трывогі. Брамы былі ўвесь час адчыненыя, а ва ўсходняй і заходняй частках лагеру жаўнеры парабілі ў агарожы праходы. Часта, асабліва ў цёмны час, спрабавалі праз іх прасьлізнуць і заняць якую-небудзь частку лагера.

Пад уплывам хранічнай бяссоньніцы і напружаньня людзі гублялі сілы. Шмат хто пачаў бурчэць што справа прайграная. Ніхто не ўступаў у доўгія гутаркі, баючыся каб ягоны голас не задрыжэў і не выдаў хваляваньня. Часам, калі хтосьці спрабаваў жартаваць над сітуацыяй, сьмех яго станавіўся раптам нервовы, крыклівы, амаль істэрычны.

У апошні дзень траўня ўжо было відаць, што набліжаецца крызіс. Ля брамы ў поўнай форме стаў генерал, а яго штобоўцы бегалі ва ўсе бакі, казыраючы і перадаючы загады. Увесь дзень за шэрагамі вайсковай асады кружылі грузавікі, перавозячы зь месца на месца людзей. Нястомна працавалі нашы сігнальшчыкі, інфармуючы іншыя лагеры аб тым што робіцца, імкнучыся заўважыць перамяшчэньні войска, з дапамогай перш за ўсё жаночага лагеру, бо зь яго добра былі відаць тылы вайсковай лініі, перамяшчэньні вайскоўцаў і месцы канцэнтрацыі.

Час ад часу жаўнеры рабілі хуткія выпады каб выразаць у калючай агарожы вялікія праходы, а потым адступалі пад дажджом каменьня і цэглы, кіданых вязьнямі. Аднак не стралялі. Здавалася генерал каб праламаць нашу абарону наўмысна спрабуе расьсеяць нас, утвараючы ўсё новыя пункты магчымай атакі.

У канцы таго дня ніхто не вячэраў. Калі сьцямнела, кабеты засігналілі нам, што за нашым лагерам, там дзе мы не маглі бачыць, утварылася вялікае скапленьне войска. Ноччу ніхто нават не спрабаваў спаць. Міхаіл, ківаючы галавой, бо разумеў, што настаў час выпрабаваньня, рабіў апошні абход. Ягоная "паліцыя" была паўсюль расстаўляючы на пазіцыі людзей, падбадзёрваючы іх, падганяючы марудных ударамі палак.

Напружаньне было амаль невыносным. Выгляд наведзенай на нас зброі быў нярадасным, асабліва калі няма чаго супрацьпаставіць акрамя цэглы і палак. Было бачна што справа безнадзейная і лагерная міліцыя зь цяжкасьцю ўтрымлівала людзей на вызначаных месцах. Для лідэраў бунту сітуацыя была, канечне, адчайная. Яны ведалі, што іх чакае сьмерць у кожным выпадку, яны ці загінуць у бітве ці будуць забітыя ўладамі, якія ведалі іх прозьвішчы і мелі фатаграфіі. Таму камітэт Міхаіла даў ясна зразумець, што калі хтосьці пакіне свой пост да пачатку бойкі, будзе забіты лагернай міліцыяй раней, чым пасьпее здацца. Так што людзі апынуліся паміж молатам і кавадлам і шмат хто адчуў — калі распачнецца бойка выйсьці жывым вельмі няшмат шанцаў.

Запанавала ноч і ўсе, седзячы ў сьвятле пражэктараў, маўчалі. Раптам пад раніцу, у палове другой, далі сігнал. Цішыню, якая панавала над лагерам, разьдзёр звон удараў па рэйцы. Гэта быў як пранізьлівы ўскрык роспачы. І я ўвесь затросься. Войскі за лініяй агарожы пачалі рухацца і тады доўгае напружаньне чаканьня лопнула. Вязьні кінуліся ўперад і ўтварыўся натоўп.

Усе схапілі цэглу, каменьне, палкі альбо нешта такое, што магло служыць зброяй і занялі пазіцыю ўздоўж агарожы. Жаўнеры пасоўваліся павольна, метадычна, ва ўзорным парадку, шмат зь іх выглядалі гэтакімі ж спалоханымі як і мы. Мая група, якая была спачатку выстаўлена ў праходзе ля галоўнай брамы, зараз атрымала загад хутка накіравацца на ўсход, дзе ля лазарэту здавалася было найбольш войска. Жаўнеры, ўбачыўшы, што да агарожы набліжаемся мы, затрымаліся. Тое ж самае зрабілі і мы. Надыйшла хвіліна няўклюднага чаканьня і канфрантацыі.

Хоць была другая гадзіна ночы, увесь горад здавалася быў на нагах. Людзі, назіраючы за лагерам, стаялі на дахах і ля вокнаў. Ля палярнага кола дні ў чэрвені вельмі доўгія і сонца практычна не заходзіць. Усю ноч амаль зусім сьветла. Ды яшчэ той ноччу ўсю тэрыторыю дадаткова асьвятлялі вайсковыя пражэктары.

Галоўная атака ўрэшце распачалася ад паўночнай брамы. У авангардзе былі жаўнеры з Краснаярску, адборныя вайскоўцы

генерала. Перш чым можна было нешта зразумець, яны адным рыўком апынуліся ў лагеры. Нашай групе сігналам далі загад адступіць у цэнтр лагеру і стрымліваць нападаючых.

Мінаючы баракі ля пякарні і кіруючыся на галоўную вуліцу лагера, мы ўбачылі аўтаматчыкаў, якія сканцэнтраваліся за лініяй сьцяжкоў на другім баку вуліцы. Іхні кіраўнік крыкнуў нам, што гэта лінія вызначае нейтральную зону і кожны, хто яе пераадолее, будзе забіты. Аднак наша група бегла да іх і мы былі ўжо ў адлегласьці каля дваццаці метраў.

Начале нашага атраду бег малады летувіс па імені Юргіс. Ён некалі. быў баксёрам і меў так моцна пасаджаную галаву, што здавалася ў яго не было шыі, а рукі ягоныя нагадвалі дубіны. Я некалі думаў, што ён не зусім нармальны, але яго калегі мне растлумачылі, што да такога стану яго давялі допытамі.

Пачуўшы загад спыніцца, Юргіс прыйшоў у шаленства. Некалькі чалавек паспрабавалі яго затрымаць, але ён вырваўся і кінуў цэглай у групу аўтаматчыкаў. Удар прыйшоўся аднаму з жаўнераў у плячо і паваліў яго. Нават у той сумятні і знаходзячыся на адлегласьці магу даць клятву, што пачуў трэск зламанай косьці. Тады кіраўнік стрэліў у Юргіса з рэвальвера і загадаў страляць сваім людзям. Стралялі ад клуба і шэраг вязьняў упаў як каласы пад сярпом.

Уся наша група на галоўнай вуліцы кінулася на зямлю, я таксама. Юргіс упаў забіты. Адзін з маіх суседзяў таксама хацеў упасьці на зямлю, але крыху падняў ногі і куля адарвала яму пяту. Некалькі паспрабавала схавацца за ўмывальнямі, але лагерная міліцыя вырашыла, што яны хочуць дэзертыраваць і нанесла ім у сьпіны ўдары нажамі.

Аўтаматчыкі, каб прыбіць вязьняў да зямлі працягвалі страляніну. Траплялі ў таго, хто спрабаваў падняцца. Я пачаў паўзьці, адступаючы ў накірунку кухні каб там схавацца. У нейкі момант скурчыўся за бочкай са змазкай а кулі ўдарылі па ёй на ўзроўні маіх грудзей. Зрабіў апошні адчайны рывок і дабраўся да кухні, дзе было бясьпечна і прылёг да сьцяны.

Прыкрыўшыся рукамі паглядзеў на вуліцу і ўбачыў параненых і забітых. Чуў стрэлы, праклёны і стогны вязьняў, загады якія выкрыквалі лідэры, а асабліва дамінавалі над усім жахлівыя крыкі з жаночага лагеру. У час, калі я за гэтым назіраў, празь іншыя праходы, падрыхтаваныя ў агарожы, масава ўвайшлі жаўнеры. Не стралялі, але зьбівалі ляжачых на зямлі прыкладамі.

Шмат хто знаходзіўся ў бараках і жаўнеры пачалі забіраць іх аднаго за другім. У прыбіральнях, з перарэзанымі венамі на руках

альбо перарэзанымі горламі, знайшлі некалькіх лідэраў бунту. Вырашылі за лепшае забіць сябе самі, чым жыўцом быць узятымі ў няволю. Жаўнеры ўвайшлі на кухню, дзе быў я і пачалі выцягваць адтуль вязьняў. Паставілі нас да сьцяны прыставіўшы да сьпінаў карабіны, потым вывелі за межы агарожы.

Калі выходзілі, я ўбачыў сьцяг з чэрапам і касьцямі ськівутым з даху. Параненых забралі ў лазарэт, забітых склалі ў кучы. Натуральна, я не мог палічыць колькі было забітых у лагеры №5, але выходзячы налічыў трынаццаць і бачыў яшчэ, жаўнеры складалі іх у кучы перад лазарэтам. У адлегласьці сто пяцьдзесят метраў ад лагеру нас разьмеркавалі па групах. Міхаіл быў схоплены, выведзены пад аховай і адразу зьвезены. Шалелі кабеты. З мэтай атакаваць жаўнераў парвалі вакол свайго лагеру драты, але ўрэшце былі адкінутыя агнём. Паступова, групамі, вязьняў вывелі. Калі рушыла мая група, я кінуў апошні позірк на ўсю тэрыторыю — горад, поўны разявакаў, зьнішчаны лагер, бегаючыя ў бляску пражэктараў жаўнеры, крыкі, загады, стогны.

## Канец знаходжаньня ў лагерах

З лагеру №5 нас завялі проста ў тундру. Жаўнеры здаваліся такімі нервовымі і напружанымі, што я быў упэўнены — нас растраляюць. Пачаў маліцца. Мы прайшлі каля шасьці кіламетраў на захад. Было амаль пяць гадзін раніцы калі мы дайшлі да парослага травой месца, багністага і вільготнага, пакрытага густымі кустамі. Нам загадалі сесьці і мы доўгі час сядзелі. Зямля была такой сырой, што правальвалася пад нагамі, але ні ўстаць ні нават паварушыцца нам было нельга. Толькі каля чатырох пасьля апоўдня, амаль праз дванаццаць гадзін, мы рушылі далей. За гэты час вада дасягнула мне да клубоў, сядзеў у балоце. Быў такі галодны, што калі не бачылі турэмшчыкі, спрабаваў грызьці сьцяблiны травы.

Нарэшце, абагнуўшы горад, нас прывялі да капальні, разьмешчанай ля падножжаў гор што ляжаць на ўсходзе. Насупраць нас, у якіхсьці шасьцістах ці сямістах метрах, знаходзіўся катаржны лагер. Ён меў нумар тры. Дагэтуль яго вязьні працавалі ў капальні, але зараз ягоны бунт працягваўся. Для будоўлі быў патрэбен камень, таму нас прывялі працаваць сюды. Жыць мы павінны былі там жа, у капальні. Ежу прыносілі раніцай і вечарам і гэта было ўсё. Пры ўваходзе ў капальню сталі турэмшчыкі і нас папярэдзілі, што калі хтосьці паспрабуе зь яе выйсьці, будзе застрэлены на месцы.

Нам загадалі працаваць па двох і вызначылі пэўную лічбу ваганетак, якія мы павінны запоўніць каменьнем. Спачатку іх трэба было выдзеўбці і нагрузіць на вазкі, якімі давезьці да драбільнай машыны. Вызначаную норму, наўмысна завышаную, выканаць было немагчыма калі нават працаваць па дванаццаць гадзін у суткі. Мы адчувалі сябе як перад дзьвярыма пекла. Сонца награвала праёмы шахтаў, да якіх не даходзіў ніводзін шолах ветру і, узмацняючы сьпякоту, адбівалася ад скалаў. Было душна. Ноччу спалі на стужках, якія пераносілі здробленыя камень у ваганеткі. Летам сонца на палярным коле застаецца на небасьхіле ўсю ноч. Каб спаць на паветры трэба быць вельмі змучаным, але мы і былі гранічна стомленыя. Асабліва страшным быў першы тыдзень. Мы, галодныя, ад пераноскі і перасоўваньня каменьня балелі нашыя косьці, былі не ў стане працаваць. Увесь дзень траціўся на тое, каб іх адкалоць, пагрузіць на вазкі і даштурхаць да драбільнай машыны. Працавалі мы пад палаючым сонцам і часам я думаў, што на шыі палопаюцца жылы. Калі па груз прыяжджалі ваганеткі, мы павінны былі ўскарасквацца на іх і напаўняць, а потым зноўку крышыць скалу.

Аднойчы вечарам, калі мы скончылі чысьціць вазкі, я стаў на адным зь іх, пазіраючы на лакаматыў, які забіраў ваганеткі. Рэшта людзей пайшла на вячэру, але я быў так стомлены і надарваны, што не мог нават думаць аб доўгім, амаль семсот метраў, пераходзе да кухні і цалкам зьнясілены ўсеўся на вазок. Вячэрняе сонца было цёплае і пяшчотнае. Усё ў капальні пасьля сканчэньня працы было спакойнае. Хоць і быў змучаны, мая думка пачала працаваць. Думаў пра лагер №5 і людзях, якія там загінулі, тых каго спавядаў і тых, хто на споведзе не быў. Потым думаў аб родным доме, аб маіх сёстрах і сябрах, якія не ўяўлялі дзе я знаходжуся, аб тым, што яны зараз робяць, пра мае гады ў школе, пра тое як першы раз служыў сьв. імшу. Гэта было сапраўднае замілаваньне. Я імкнуўся адкінуць гэтыя думкі, бо яны мяне так узрушалі, што маё цела затрэсла. Я спалохаўся, што магу трапіць у нервовую дэпрэсію.

Я глядзеў долу і на кавалку зямлі, парослым травой, з другога боку пуцей заўважыў птушынае гняздо з двума маладымі ў ім. Карміла птушанятаў маці, лётаючы і прыносячы ім ежу, а бацька ў гэты час прытрымліваў іх у гняздэчку. Гэта мяне захапіла і перапыніла ток маіх думак. Я нават забыўся як моцна я стомлены і адчуў раптоўны прыліў радасьці. Узгадаў раптам, як аднойчы ранкам, калі я змучаны і спалоханы, без грошыка вярнуўся зь нейкай харцэрскай экскурсіі, мяне карміў бацька. Ад гэтага ўспаміну мая думка зноў завандравала да людзей, забітых у лагеры №5 і я ўявіў як

іхнія маці і бацькі клапаціліся аб іх у дзіцячыя гады. Адчуў, што вочы мае засьцілае сьлязьмі. Я быў ужо на мяжы поўнага адчаю, калі нехта ляснуў мяне па плячы. Гэта быў вязень і ён шукаў мяне.

— Уладзімір, — сказаў ён, — ідзі за сваёй вячэрай, я адклаў яе для цябе.

— Зірні туды, — адказаў я і паказаў месца , дзе птушкі кармілі сваіх дзетак . — Глянь, зараз маці прынясе корм! Глядзі на птушанят…

Паф, і раптам матка мёртвай упала на зямлю. Мой таварыш з радасьцю ўскрыкнуў. З такой адлегласьці забіў птушку каменем.

— Вось гэта стрэл! — выгукнуў ён.

Мяне адразу затрэсла хваля шаленства. Я выкрычаў яму сваё абурэньне і засыпаў лаянкай. Ён, ачмурэлы, ўрэшце павярнуўся і адыйшоў. Я са злосьцю плюнуў усьлед. Тым вечарам мяне агарнула дэпрэсія, якая доўжылася больш чым два дні.

Нашчасьце ў наступную нядзелю нам, упершыню з моманту прыбыцьця ў капальню, далі адпачынак. Пасьля сьняданьня я пайшоў да старой шахты, поўнай вады. Выкупаўся і адчуў сябе лепей. Потым пайшоў між узгоркамі паглядзець на горад і адправіць роздум — такі тып духоўнага і фізічнага аздараўленьня. Мне гэта вельмі было неабходна, бо я адчуваў што цяжар зламае мяне. Я доўгі час сядзеў і думаў пра Божае Наканаваньне і пра Яго апекаваньне нада мною ўсе гэтыя гады. У тым спакоі я вярнуў упэўненасьць, амаль адчуў як спадае напружанасьць і праз нейкі час лёг і заснуў, даверліва як дзіця.

Калі прачнуўся, было далёка за апоўдзень. Адчуваў сябе так бадзёра, што не хацеў гэтага пачуцьця траціць, таму сядзеў пад цёплым сонцам далей, гледзячы ўніз, на лагер №3 ля падэшвы ўзгорка. Там было амаль пяць тысяч вязьняў з вырakамі на доўгі тэрмін, якія страйкавалі разам з намі. Толькі яны былі значна лепей арганізаванымі чым мы ў лагеры №5 і мелі нашмат меней чаго губляць, таму адмовіліся скарыцца. Іх лідэр быў вядомай асобай са злачыннага сьвету. Клікалі яго Ўладзімірам і ён быў вядомы ва ўсёй Расеі як прафесійны крымінальнік. Шмат іншых членаў лагеру №3 былі раней афіцэрамі і таму ягоная абарона была добра спланаванай. Да позьняй ночы працавала кузьня, вырабляючы зброю: нажы, мячы і сякеры. Знакамітыя шпіёны былі занятыя ў штодзённым капаньні акопаў і ўзьвядзеньні ўмацаваньняў у межах калючай агарожы. Лагер меў нават сваё ўласнае радыё і дынамік, які адказваў на прапаганду што лілася з урадавых дынамікаў. Страйкоўцы нікога не пускалі ў лагер для перамоваў.

А яшчэ яны вынайшлі арыгінальны спосаб перадачы паведамленьняў насельніцтву Нарыльска. Зрабілі некалькі паветраных зьмеяў, якія падымаліся над горадам і з вышыні расьсейвалі ўлёткі з заклікамі да жыхароў аб дапамозе, абвінавачваньнямі ўладаў у круцельстве і "саюзе з Берыя", а таксама з патрабаваньнямі ад войска пазьбегнуць праліцьця крыві шляхам заканчэньня асады лагера №3. Калі-нікалі якаясьці з тых улётак падала ў капальню, дзе працавалі мы, але таго, хто яе падымаў або чытаў, сурова каралі.

У жніўні ўсе рабочыя капальні былі цалкам знясіленыя. Будова горада вымагала вялікай колькасьці каменя, скалы, асфальту, цэменту, а нас было толькі каля ста чалавек і мы выконвалі працу, якую дагэтуль рабілі тысяча катаржанаў. Гэты перыяд намаганьняў і фізічнага зьнясільваньня, такі доўгі, быў самым горшым, які мне давялося перажыць. Неяк у канцы дня, пасьля вячэры нам паведамілі, што ў наступны дзень выяжджаем. На працягу апошніх некалікіх дзён мы бачылі вельмі вялікую колькасьць войскаў, якія зьяўляліся і станавіліся лагерамі на пагорках. Іх нельга было заўважыць з лагеру №3, але мы з нашага ўзвышша маглі іх бачыць. Нас меліся перамясьціць, але ж нехта павінен быў працаваць у капальні, значыць рыхтавалася атака на лагер №3.

Назаўтра раніцай нас вывелі з капальні і мы памаршыравалі на поўдзень. Потым абышлі ўзгорак ва ўсходнім накірунку і пайшлі на поўнач да вялікай новай фабрыкі цэменту. Людзі, што працавалі там раней, былі пераважна катаржанамі. Там частку нашай групы накіравалі працаваць у капальню гліны, аб'яднанай з фабрыкай цэменту. Людзі, што ўжо там працавалі, былі пераважна дызертырамі з бунту ў лагеры №3. Вырашылі, што лепей адпрацаваць доўгі вырак, чым быць забітым пры бунце.

Ад іх я даведаўся якія страшныя ўмовы панавалі ў лагеры №3 і як пачаўся бунт пад завадатарствам Уладзіміра. Яны таксама з дня на дзень чакалі атаку і запэўнілі мяне, што бунт будзе задушаны. Фабрыка была гарачая і нязручная. Мы і надалей не мелі баракаў і былі вымушаны спаць на фабрыцы, я ж вырашыў спаць на вуліцы. Зь некалькімі яшчэ мы ўздзерліся на ваданапорную вежу спадзеючыся ўбачыць атаку на лагер.

Другой ноччу каля паловы трэцяга наша пільнаваньне было "ўзнагароджана". Пад начным палярным сонцам быў лёгкі туманок, але мы даволі выразна бачылі як па даліне папаўзьлі вайскоўцы. Жаўнеры пасоўваліся на жыватах, трымаючы зброю на локцях яны набліжаліся да лагера. Калі да яго было нейкіх трыста метраў, вязьні аб'явілі трывогу, але не з-за іх. Генерал зноў запланаваў атаку з

фланга, бо жаўнеры напалі таксама на галоўную браму лагера і вязьні нават не заўважылі тых, паўзучых далінай.

Вязьні засьпяшаліся да ўмацаваньняў, якія збудавалі каб адбіць напад на галоўную браму. На гэты раз, у адрозьненьне ад лагеру №5, стралялі не вагаючыся. Вайскоўцы на грузавіках, няспынна страляючы, прарваліся праз браму. Калі жаўнеры пачалі разьбягацца па лагеры, перарэзаўшы калючую агарожу напалі і пачалі атаку з фланга вайскоўцы з даліны. Гледзячы на гэта і ўзгадваючы як яно было ў нас, сэрцы нашыя разрываліся.

Як толькі спынілася страляніна, на грузавіках прывезьлі лекараў, санітарак і пераносчыкаў. Відавочна, што гэтая аперацыя і была прадугледжана як крывавая, да катаржанаў літасьці не было. Мы бачылі як некаторыя зь вязьняў, сагнаныя ў групы, выконвалі самазабойства, успарываючы сабе нажамі жываты. Нехта з тых, хто быў з намі на вежы, паведаміў, што адным з самазабойцаў быў Уладзімір.

Калі мы зьлезьлі зь вежы, схопленых вязьняў пачыналі заганяць на грузавікі і везьці ў накірунку да фабрыкі цэменту. Яны сядзелі сагнутыя напалам, з галовалі між каленьмі і рукамі за сьпінамі, пад моцнай аховай. Грузавікі праехалі праз тэрыторыю цэментоўні і завярнулі ў тундру. Несумненна, тых вязьняў забіралі ў іншы лагер, дзесьці сярод пагоркаў, але былі чуткі, як звычайна, што іх папросту растралялі. Пазьней мы чулі, што пры атацы на лагер №3 было семдзесят восем забітых і больш за сто пяцьдзесят параненых. Чуткі тыя, аднак, маглі быць перабольшваньнем.

Мы яшчэ нейкі час заставаліся на той фабрыцы. Усе дні мы праводзілі на ёй, а спаць клаліся там, дзе нам здавалася зручней. Лагер №3 быў вычышчаны і прыведзены ў жылы стан, яго паступова запоўнілі вязьні з доўгімі тэрмінамі. Урэшце нас пашыхтавалі ў шэрагі і павялі ў накірунку лагера №5, агінаючы горад. Са зьмешанымі пачуцьцямі мы здалёк глядзелі на яго.

З іншага боку нам здавалася быццам мы вяртаемся дадому. Спаткаць нас выйшлі старыя сябры, але ў лагеры, дзе раней было каля пяці тысяч чалавек зараз знаходзілася толькі тысяча. Лагер здаваўся пустым. Я па сваёй цікаўнасьці абыйшоў яго, аднаўляючы ў памяці дэталі бунту. Баракі былі адрамантаваныя і пафарбаваныя. Амаль не захавалася сьлядоў барацьбы. Зрэшты, пра гэта ніхто не гаварыў! Людзей папярэдзілі, што калі хтосьці будзе аб гэтым размаўляць ці пасапрабуе выклікаць неспакой, будзе неадкладна пераведзены ў іншы лагер і што гэта можа пацягнуць за сабой павелічэньне тэрміну ўвязьненьня.

Трэба прызнаць, што ўвялі шмат новага. Вязьні ўжо не насілі на куртках нумароў і быў заведзены невялікі буфет, дзе можна патраціць атрыманы заробак (каля ста рублёў штомесяц, якія мы цяпер атрымалі). Можна было набыць ежу, цукар у кавалках або цукеркі, хлеб і тытунь. Уведзены новы спосаб зьмяншэньня выроку: за кожны дзень з перавыкананай нормай працы вязьню зьмяншалі кару на тры дні. Сапраўды, большасьць патрабаваньняў рэвалюцыйнага камітэту былі выкананыя. Харчаваньне таксама палепшылася. Акрамя таго, вязьні мелі права пісаць сем'ям. Я вырашыў паспрабаваць напісаць да сваіх. Калі аддаў свой ліст з адрасам у Злучаныя Штаты, функцыянеры былі зьдзіўленыя. Яны ніколі падобнай магчымасьці не прадугледжвалі. Урэшце мяне выклікалі і паведамілі, што новыя правілы датычацца толькі лістоў, высланых адрасатам, якія жывуць у краіне.

Вярнуўшыся ў лагер №5 я перш за ўсё пачаў шукаць свой пераносны ахвярнік. Яго ніхто не бачыў. Адзін зь вязьняў, які працаваў у Гор-Строі, паабяцаў мне зрабіць келіх і патэну. А яшчэ ён паведаміў мне, што а.Віктар па-ранейшаму ў лагеры №4 і працуе ў Гор-Строі. Нажаль, мяне залічылі ў брыгаду, што капала каналізацыйныя канавы ў Нарыльску. Аднак я дамовіўся з чалавекам, які працаваў у Гор-Строі, што ён скантактуе мяне з а.Віктарам і, калі гэта будзе магчымым, прынясе ад яго ўсё, што будзе патрэбна для адпраўленьня імшы: хлеб, віно, палатно і г.д. У канцы тыдня я ўжо меў усё што патрабавалася. Разам з рэчамі Віктар прыслаў запіску з віншаваньнямі, вітаючы мяне і выражаючы радасьць з-за таго, што я вярнуўся, што я здаровы і цэлы.

Зараз я быў адзіным сьвятаром у лагеры №5, а там знаходзілася шмат каталікоў — палякаў, летувісаў і людзей з прыбалтыйскіх краін. Да таго ж з-за новых парадкаў у лагеры значна лягчэй было працаваць у якасьці сьвятара, таму я ўвесь час быў заняты гэтай працай. Апрача слуханьня споведзі, адпраўленьня сьв. імшы і раздаваньня сьв. прычасьця я пачаў яшчэ прапаведваць рэкалекцыі і даваў шмат духоўных парадаў.

Я быў зьдзіўлены і ўзрадаваны, калі даведаўся, што Віктар па-ранейшаму працуе ў пераплётнай майстэрні. Калі-нікалі я адпраўляў там імшу. Таксама ў лагеры №5 быў яшчэ Смірнов, расеец, які раней прыслужваў мне ў час імшы. Ён кожны дзень удзельнічаў у сьв. імшы, адказваючы па памяці. Міша таксама быў тут — працаваў у цэнтры здароўя. Ён заставаўся ў лагеры да канца, перавязваючы параненых. Як толькі скончыўся бунт, начальнік вярнуў яго ў лазарэт,

а лекары — і вольныя і вязьні ад сьвітанку да ночы займаліся параненымі.

Да таго ж Міша быў у сталым кантакце з а.Віктарам і ён перадаў мне, што той хоча са мной пабачыцца. Міша, які раз на тыдзень адпраўляўся ў Гор-Строй правяраць працу перавязачных пунктаў, сказаў што пастараецца арганізаваць мне спатканьне з а.Віктарам. У дзень, калі мая брыгада не працавала, Міша дамовіўся аб маёй замене аднаго з чальцоў брыгады Гор-Строю. Той чалавек, неспадзявана атрымаўшы вольны дзень, быў вельмі задаволены, а я — вельмі шчасьлівы маючы магчымасьць пабачыцца з а.Віктарам.

Гэта было трохі рызыкоўна, але ўвесь дзень я правёў у ягонай невялікай старажоўцы. У час абеду, калі каманды адпачывалі, я адправіў для некалькіх рабочых імшу. Перш чым я пайшоў, Віктар даў мне новы запас разынкаў, аплатакаў і іншых, патрэбных для імшы рэчаў.

Жыцьцё ў лагеры №5 у той час было амаль прыемным. Харчаваньне было нашмат лепшым і было лёгка атрымаць дадатковую порцыю. Таксама памятаю свой першы выплачаны заробак, ён быў невялікі, але мой і я адчуваў сябе амаль вольным. Я пайшоў у лагерную крамку і за ўласныя грошы набыў цэлы бохан хлеба! Потым усеўся і цешачыся думкай, што калі захачу магу зноў пайсьці ў краму і набыць яшчэ, зьеў увесь хлеб за раз.

Аднак у кастрычніку гэткаму жыцьцю раптоўна наступіў канец. Я знаходзіўся ў лагеры №5 крыху больш месяца, калі Міша паведаміў што фармуецца этап у капальні Каерхана. Сказаў, што пастараецца каб у сьпісе мяне не было. Адміністрацыя адбірала толькі самых дужых і здаровых вязьняў і Міша паабяцаў паспрабаваць адпаведна перарабіць маю медыцынскую карту. Зь іншых лагераў вакол Нарыльска тры дні прыбывалі людзі, так што гэты этап меўся быць вельмі шматлікім.

На трэці дзень засмучаны Міша сказаў мне, што медыцынскую карту перарабіць не здолеў. Так што хутчэй за ўсё я паеду ў Каерхан. Адной з праблемаў было тое, што ехаць туды не хацеў ніхто. Некаторыя крымінальнікі каб не быць пасланымі нават калечылі сябе. У выніку гэтага адміністрацыя старанна правярала медыцынскія карты і выбірала толькі такіх, каго слушна маглі назваць добрымі працаўнікамі. Урэшце рэшт я далучыўся да групы дзе казалі, што могуць выклікаць высокі крывяны ціск. Я лічыў, што каб пазьбегнуць прызначэньня ў капальні не варта было рызыкаваць здароўем глытаючы мыла ці адразаючы палец з нагі і хацеў паспрабаваць гэта.

Непасрэдна перад лекарскім аглядам мы пайшлі ў лазьню і прынялі душ, такі гарачы як толькі маглі вытрываць. Хітрасьць была ў затрымцы дыханьня так доўга як толькі можна, каб сэрца пачало біцца ў хуткім тэмпе і каб здавалася што яно зараз лопне. І тады беглі ў цэнтр здароўя. Калі крыху шанцавала, то адразу праходзілі лекарскі агляд, які пацьвярджаў, што крывяны ціск небясьпечна высокі. Тады на некалькі дзён вызвалялі ад працы, але, і гэта больш важна, у медыцынскай карце зьяўляўся надпіс "высокі ціск". Гэты фокус часам удаваўся, але мне прапісалі сродкі паніжэньня ціску і я быў залічаны да рабочай сілы, прызначанай у Каерхан.

Усяго нас на працу адабралі чатырыста чалавек. Нам, акрамя валёнак, выдалі зімовую вопратку, потым на выхадзе правяліператрус і праз горад прыгналі на вакзал. У тым кастрычніку было ўжо вельмі холадна і калі мы сталі на вакзале чакаць пагрузкі ў таварныя вагоны, малыя і вузкія, якія курсіравалі на лініі Дудзінка-Нарыльск, вецер пранізваў нашыя ватоўкі. Вагоны не абаграваліся і шмат іх было старых, зь дзіравымі, пакрыўленымі дошкамі.

Каерхан знаходзіцца прыкладна ў адной трэці адлегласьці паміж Нарыльскам і Дудзінкай. Цягнік павольна сунуўся ў сьнежнай завеі, якая ўжо пачалася, абагнуў Субгару — гару, багатую жалезнай рудой, недалёка ад Нарыльску — і выехаў на адкрыты прастор. Затрымаліся на невялікім разьезьдзе, дзе было толькі дзьве ці тры хаткі і вельмі доўга чакалі. Каб разагнаць кроў тапталіся ў вагонах з нагі на нагу. Нарэшце даведаліся што чакаем каманду, якая павінна расчысьціць перад намі каляіну — завея шалела. Пераадоленьне дваццаці двух кіламетраў з Нарыльску да Каерхану доўжылася амаль тры гадзіны.

Горад зьяўляецца тыповым шахцёрскім паселішчам. Усё канцэнтруецца вакол капальні, а чыгуначная станцыя знаходзіцца толькі ў сямістах метрах ад бліжэйшай шахты. Сама станцыя невялікая, але ёсьць каля тузіна бакавых пуцей, адкуль адпраўляюць цягнікі з вугалем. Падобна як і ў "Западнай" уваходы ў шахты выдзяўбаны пасярэдзіне сьхілу доўгай гары, якая цягнецца ў бок Дудзінкі. Ствалы ідуць гарызантальна, а не ў глыбіню. Працоўны лагер знаходзіўся паміж вакзалам і ўваходам ў капальню, так што пасьля выхаду з вагонаў прыйшлося прайсьці толькі каля ста метраў.

Нас хуценька пашыхтавалі і ў віхурах сьнегу завялі да лагернай барамы. Нашы канваіры проста аддалі дакументы лагерным уладам і селі ў цягнік каб вярнуцца ў Нарыльск. Калі зайшлі ў лагер, нас разьдзялілі на дзьве групы. Палова пайшла ў клубны барак, другая — у лазьню, каб пачаць фармальнасьці.

Фармальнасьці занялі амаль цэлую ноч: рэгістрацыя і класіфікацыя людзей у залежнасьці ад іх кваліфікацыі, купаньне, стрыжэньне і дэзінфекцыя. Аднак найбольш часу забраў уважлівы лекарскі агляд. Тутэйшая лагерная адміністрацыя не верыла лекарскім пасьведчаньням, якія мы прывезьлі з сабою. Калі хтосьці з этапу аказваўся хворым, яго неадкладна адсылалі назад у Нарыльск. Тут у капальні не хацелі мець непрацуючых работнікаў.

Першую ноч я правёў у клубным бараку, а разьмясьцілі мяне толькі на другі дзень. Тут, у Каерхане новапрыбылых адразу не залічвалі ў працуючыя брыгады. Спачатку накіроўвалі да інсьпектара, які на час вывучэньня шахцёрскай тэорыі, практыкі і мераў бясьпекі, разьмяшчаў іх у прыёмных бараках. Вывучалі яшчэ па сьхемах планіроўку капальні. Гэтыя лекцыі зь пятнаццаціхвілінным перапынкам цягнуліся ад дзевяці раніцы да дванаццаці апоўдня і яшчэ з гадзіны да трох пасьля апоўдня. Увесь курс займаў тры тыдні. У канцы мы павінны былі здаць пісьмовы і вусны экзамены.

На працягу тых трох тыдняў інструктар забіраў нас тры разы ў капальню, кожны раз у іншую частку, каб паказаць на практыцы як капальня выглядае і як праходзіць кожны этап працы. Калі мы здалі экзамен і падпісаліся ў веданьні мераў бясьпекі, нас нарэшце залічылі ў брыгаду. У той жа дзень пасьля апоўдня нас перавялі з прыёмнага бараку ў барак брыгады і назаўтра мы пачалі працу.

Нават у капальні было адчувальна холадна. Зямля, замерзлая што камень, і вялікія вентылятары каб пазьбегнуць загазаванасьці, утваралі ў штрэках страшэнную пройму. З-за гэтага мы насілі зімовую вопратку круглы год — цёплую бялізну, ватовыя курткі і нагавіцы, валёнкі, шалікі і пад каскамі футравыя шапкі. Некаторыя хацелі замест валёнак насіць на працу боты, але хто іх насіў, быў вымушаны няспынна рухацца, бо інакш ногі яго мерзьлі.

Звычайна распрацоўвалі безь перапынку восем участкаў уздоўж галоўнага штрэка. Ваганеткі прывозілі нас да падэшвы гары, потым па сьхілу мы сыходзілі каля чатырохсот метраў і ўваходзілі ў штрэк. Ён быў моцна падпёрты тоўстымі бярвеньнямі. Драўніна была пабеленая вапнай каб не гніла, гэта таксама сродак бясьпекі. Праз кожныя сто пяцьдзесят метраў стаяла перагародка — каб цёплае паветра са штрэку не пранікала да месцаў здабычы і не выклікала раставаньне грунту. Мы ішлі ад уваходу ў штрэк проста да месца здабычы. У распрацоўваемай жыле вугалю заўсёды былі два паралельных штрэкі, якімі вугаль падвозілі да ваганетак, адзін для транспарцёраў, а другі, з супрацьлеглага боку жылы, для падвозу лесу на падпоры.

Над кожнай вугальнай жылай знаходзіўся пласт глiністага сланцу таўшчынёй каля аднаго метра, а вышэй — пясчанік. Эксплуатуемыя штрэкі цягнуліся праз пярэднюю частку жылы на нейкія восемдзесят метраў, але кожны зь іх не мог дасягаць болей чым сто дзесяць метраў. Калі дасягалі нават гэтай даўжыні, ужо было чуваць як з шумам пісталетнага стрэлу трашчыць над галавой пясчанік і стукаюцца вялікія камяні. Пад цяжарам пясчаніка некаторыя слупы, што падпіралі штрэк, ламаліся напалам.

Калі даўжыня штрэка станавілася крытычнай, тыя шумы ўзмацняліся. У штрэк сыпаўся са столі пясок. Гэта быў знак што пагражае небясьпека. Брыгадзіры адразу загадвалі нам выносіць са штрэку абсталяваньне і класьціся ў бакавых штрэках. Неўзабаве ўсё скляпеньне завальвалася, выштурхоўваючы паветра з такой сілай, што калі не ляжаць на зямлі, чалавека магло кінуць на сьцяну і паламаць скабы. Вялікія каменьні крышыліся як запалкі і раськідваліся ва ўсіх накірунках, часам, калі мы ляжалі на зямлі, ударяючыся аб сьцены над нашымі галовамі.

Бывала, я ляжаў ноччу без сну і дрыжэў ад думкі, што магу затрымацца ў штрэку зь нетрывалым скляпеньнем. Штодзень, чым даўжэйшымі станавіліся штрэкі, тым усё больш нервовымі станавіліся брыгады. Пасьля абрушэньня скляпеньня мы абміналі месца выпадку ў адлегласьці каля пятнаццаці метраў ад жылы, выдзёўбвалі новую пляцоўку здабычы паміж двума штрэкамі і пачыналі працу нанава. Жылу мы выламвалі на глыбіню ад дзевяці да адзінаццаці метраў, напаўнялі порахам адтуліны і ўзрывалі.

Пасьля выбуху мы разьбівалі буйныя кавалкі вугалю, потым ссоўвалі яго шуфлямі на транспарцёр і далей на ваганеткі. Шурф адразу мацавалі бярвеньнямі таўшчынёй пяцьдзесят сантыметраў у адлегласьці паўтара метра адно ад другога. Але перадусім належала выдаліць са скляпеньня сланец, каб паміж ім і пясчанікам не пранікла вада, бо грунт быў вільготны і калі б абрушыўся, каска не выратавала б.

Гэтакім чынам я аднойчы ноччу ледзьве не загінуў. Мы рабілі новае заглыбленьне ў жылу, рыхтуючы месца для бура. Я заўважыў, што скляпеньне было кепска ачышчана ад сланца. Гэта мне не спадабалася і я паведаміў забойшчыку.

— Аб гэтым не трывожся, — сказаў ён, прафесійна агледзеўшы скляпеньне, — да заўтра нічога не будзе.

Мы зь яшчэ адным вязьнем грузілі сланец з вугалем, і кожны раз пазіраючы на скляпеньне я мог прысягнуць, што шчыліны паглыбляюцца а ўніз сыплецца пясок. Я занерваваўся і зноў паклікаў

забойшчыка. Ён паглядзеў і вырашыў, што яшчэ даволі бясьпечна, загадаў нам скончыць урэзку і ўсталяваць на месца бур, бо ранішняя зьмена мелася пачаць выбухі. Каб прызначыць кагосьці ачышчаць скляпеньне ад сланцу не было часу. Але гэта нас увесь час непакоіла і таму мы з маім таварышам узялі шуфлі з доўгімі ручкамі, каб працаваць па магчымасьці далей ад тых трэшчын у скляпеньні. Мы абодва ведалі што магло быць, калі б сланец абрушыўся. Я ўзрадваўся, што пакідаю, але паказаў небясьпечнае скляпеньне новай зьмене і брыгадзіру.

— Трэба паставіць тут падпоры, — сказаў я.

Аднак адразу пасьля пачатку працы скляпеньне абрушылася. Аднаго зь людзей, кітайца, так ударыла па сьпіне, што зламала хрыбетнік. Памёр адразу як прывезьлі ў шпіталь капальні.

Хоць праца была небясьпечная, умовы ў лагеры былі лепшыя чым ва ўсіх іншых якія я ведаў. Патрэбы ў вугалі для электрастанцыі і металургічных заводаў вакол Нарыльску і яшчэ на экспарт з Дудзінкі — за машыны і прамысловае абсталяваньне з-за мяжы — былі велізарныя. Так што адміністрацыя хацела каб вязьні былі ў стане працаваць, і працаваць плённа, таму што магла рабіла каб забясьпечыць больш-менш цярпімае жыцьцё.

Баракі былі дагледжаныя, ложкі чыстыя і зручныя, харчаваньне добрае. Апрача дзённай порцыі ў сталоўцы мы маглі нараўне з вольнымі рабочымі набываць ежу ў іхным буфеце ля галоўнай брамы. Гэта магло быць мяса, каша, аладкі і дэсерт, сушаныя яблыкі і сьлівы. Усё было дорага, але набываць было варта. І ў тым самым буфеце можна было купіць яшчэ цукеркі, пячэньне, папяросы і іншыя ласункі.

Шахцёры, усёроўна вязьні альбо вольныя, у асноўным атрымлівалі аднолькавы заробак — ад трохсот да пяцісот рублёў у месяц. Аднак пэўны працэнт адбіралі з заробку вязьняў улады і яшчэ лагер — за жыльлё і харчаваньне, так што сапраўдны заробак складаў ад ста да трохсот рублёў. За гэтыя грошы мы маглі купіць ежу і папяросы, а таксама такую "раскошу" як цыбуля і часнок — у сялянаў з Краснаярскага краю, якім было дазволена прадаваць шахцёрам частку сваіх прадуктаў.

Кожны купляў столькі, колькі мог. Гэта была крыніца вітамінаў і папярэджваньне цынгі, якая тут была больш распаўсюджана, чым у тых месцах, дзе я быў дагэтуль. Яе сімптомы ў выглядзе сініх плямаў на руках і нагах я заўважыў і ў сябе. Ногі сталі цяжкія як з жалеза, было цяжка хадзіць. І нягледзячы на добрыя ўмовы ў лагеры, вязьні ў Каерхане былі заўсёды зьнясіленыя і

бледныя, заўсёды стомленыя. Яшчэ мы маглі дастаць дадатковую ежу ў вольных рабочых, якія разам з намі працавалі ў капальні. Часам гэта былі прэзэнты для вязьняў-сяброў, але калі мы давалі грошы, усе былі гатовы купіць для нас што трэба у горадзе. Таму ператрусы ля брамы пры ўваходзе са зьмены былі чыста папераджальнымі, а не звычайнымі. Турэмшчыкі, каб пераканацца, што мы не праносім мяса, масла і асабліва гарэлкі, загадвалі ўсім чальцам брыгады распрануцца ля брамы.

У час аднаго з такіх вобыскаў турэмшчык, малады хлопец зь Летувы, знайшоў у маёй вопратцы невялікую кніжачку, напісаную рукой, якая зьмяшчала мшальныя малітвы на лаціне. Хацеў яе канфіскаваць, але мне ўдалося яго пераканаць. З-за таго, што ён быў летувісам, я шчыра прызнаўся, што зьяўляюся сьвятаром і сказаў яму, што гэта мшальныя малітвы.

— Гэта для мяне вялікая каштоўнасьць, — сказаў я.

Той спакойна вярнуў мне кніжачку і дазволіў прайсьці.

Пераважна ніхто з лагерных уладаў не цікавіўся ў гэтым лагеры маёй душпастырскай працай. Раз ці два быў папярэджаны сьледчымі за "падрыўную дзейнасьць" але штодзённа адпраўляў сьв. імшу, раздаваў сьв. прычасьце, праводзіў для групаў вязьняў штотыднёвыя канферэнцыі, казаньні і тлумачэньні біблійных тэкстаў, часам нават рэкалекцыі. Апрача мяне там было яшчэ трое сьвятароў. Адзін зь іх, мой стары сябра, а.Каспэр, які быў са мной у Дудзінцы і ў лагеры №4. Як я толькі прыехаў, ён сустрэў мяне і дастаў усё неабходнае для адпраўленьня імшы. Быў летувіс, а.Генрык, высокі і хударлявы, часткова лысы. Насіў сівыя вусы і бародку, да арышту быў манахам. У капальні не працаваў, быў дзяжурным у адным з баракаў і калі яго брыгада знаходзілася ў капальні, ягоны барак быў дасканалым месцам для адпраўленьня імшы. Ён атрымліваў ад сваіх сяброў зь Летувы пасылкі, таму ў ягоным бараку можна было наесьціся. Нарэшце быў а.Мікалай, высокі, плячысты ўкраінскі сьвятар з прыемным голасам, ён таксама быў манахам ва ўсходнім абрадзе. Украінцы ў лагеры, сярод якіх ён быў вельмі папулярны, былі гатовыя дзеля яго на ўсё. Адным зь лепшых нашых сяброў быў украінец Дмітрэв, худы брунэт з вострым носам і бародкай. Ён арганізоўваў большасьць кантактаў зь вязьнямі і быў сапраўдным сьвецкім апосталам.

З прычыны больш ліберальнай палітыкі вязьні адчувалі сябе тут нашмат свабаднейшымі. Дзіўна было бачыць, як вялікая колькасьць людзей выказвала сваю рэлігійнасьць калі не было адкрытага перасьледваньня, калі рэлігія была "цярпімай", калі яе

прынамсі не заўважалі. На Каляды і на Вялікдзень мы нават праводзілі ў лагеры сьвяточныя цырымоніі. Турэмшчыкі ведалі пра іх, але рабілі выгляд, што нічога не бачаць. Вячэрнюю пераклічку рабілі каля пяці гадзін пасьля апоўдня і толькі папярэджвалі людзей каб не былі занадта шумныя.

Кожная канфесійная група займала ў тыя сьвяточныя дні для сябе адзін барак: уніяты першы, праваслаўныя другі, баптысты трэці і г.д. Дзякуючы духу, які панаваў сярод вязьняў, мы маглі дамовіцца аб тым, што вернікі не працавалі ў дні сваіх сьвятаў, а за гэта адпрацоўвалі няверуючым у дні сьвятаў дзяржаўных. У пошуках баракаў для такіх урачыстасьцяў людзі праяўлялі нязвыклую вынаходлівасьць. Накрывалі доўгія сталы прасьцінамі з ложкаў, неяк здабывалі з лагернага буфета посуд, сталовыя прыборы, шклянкі і гатавалі розныя народныя стравы. Шмат хто даставаў пасылкі ад сем'яў — з каўбасой, макаронамі, мясам, маслам і іншымі тагачаснымі дэлікатэсамі.

У такія дні кожны з нас, сьвятароў, адпраўлялі імшу ў розных бараках. Тут, у Каерхане, упершыню за амаль пятнаццаць гадоў, я адправіў "публічную" сьв. імшу для цэлага барака, поўнага людзей,— і як яны сьпявалі! Нядзіва, што турэмшчыкі асьцерагалі іх каб паводзілі сябе спакойна. Практычна кожны падыходзіў да сьв. прычасьця, а я пасьля імшы агалошваў доўгае казаньне пра дадзенае сьвята.

Перш чым пачынаць есьці, дабраслаўлялі ежу і па-расейску сьпявалі ўрачыстую малітву падзякі, потым крапілі барак асьвечанай вадой. Пасьля гэтага садзіліся за сталы. Гарэлка была ў лагеры строга забароненай, але ў гэтых выпадках на стале зьяўлялася.

Нават турэмшчыкі заходзілі на кілішак і кавалак сьвяточнай стравы, асьцерагалі людзей каб былі спакойнымі і выходзілі. Уладам пра гэта ніхто не даносіў.

Тут, у Каерхане, шмат у каго зь вязьняў заканчваліся выракі. Здавалася амаль штодзённа кагосьці вызвалялі з лагера. Каб замяніць тых, хто пакідаў, увесь час паступалі новыя вязьні. Няспынна зьмяняліся людзі. Аднак і ў натоўпе можна было пазнаць ветэранаў — па стомленай хадзе, па таму як яны рухалі рукамі і нагамі, зачэпленымі цынгой. Шмат хто зь іх каб выйсьці з капальні употай карысталіся транспарцёрамі і ваганеткамі, што было строга забаронена, належала вяртацца толькі пешшу. Аднойчы, стомлены, я заснуў і абудзіўся на кучы вугалю, засыпаемы яго кавалкамі. Пашчасьціла што не забіла, што ўцёк адтуль хутка. Не ўсім так шанцавала.

Самымі трагічнымі былі сьмяртэльныя выпадкі зь вязьнямі, якім заставалася ўсяго некалькі дзён да канца выроку. Усе думалі і

гаварылі пра іх, а некаторых гэта даводзіла да нервовых зрываў. Людзі, уражаныя думкай, што пасьля ўсіх гэтых цяжкіх гадоў іх можа таксама забіць перад канцом кары, баяліся ісьці ў капальню. Гэтае напружаньне не зьмяншала колькасьці выпадкаў, наадварот, іх было тады найбольш.

Сем чалавек аднойчы загінула пры выбуху. Тая група працавала ля новай сьцяны, у цеснаце і з кепскай вентыляцыяй. У такім становішчы ў паветры адчуваецца вугальны пыл, які ўздымаецца і бліщчыць. Тыя людзі знаходзіліся ў штрэку які лічыўся бясьпечным, але жыўцом згарэлі ў пажары, што ўзьнік з-за выбуху.

Калі пра гэта пачуў, мяне скаланула са страху, бо аднойчы і са мною здарылася нешта падобнае. Мы закончылі новую высечку і былі гатовыя зрабіць выбух, таму мяне паслалі ў штрэк бясьпекі папярэдзіць іншых каб не набліжаліся да месца нашай працы. Я ў цемры заблукаў і апынуўся ў штрэку насупраць новай сьцяны. У момант выбуху мяне падняло і кінула на адзін са слупоў, якія падпіралі скляпеньне. На шчасьце я не быў ні забіты ні скалечаны, але ачуняў толькі праз дзьве гадзіны.

Вясной 1955 г. малады летувіскі лекар Янас з цэнтру здароўя ў Каерхане сказаў, што калі хачу жыць, я павінен перастаць працаваць у капальні. Я адказаў, што да канца выроку засталося толькі тры месяцы і можа неяк пратрымаюся, але ён адрэзаў — калі не пакіну капальні, гэта мне не ўдасца. Янас быў сярэдняга росту з рыжаватымі валасамі, ружовымі шчокамі і невялікімі вусікамі. Вельмі спакойны, добра ведаў сваю прафесію і імкнуўся дапамагчы мне ў маім становішчы.

У Каерхане разьмяркоўвалі на працу раз у тры месяцы, а не раз у месяц, як у іншых лагерах. Калі адбываліся вясеньнія разьмеркаваньні, ён напісаў у маёй медыцынскай карце доўгі рапарт, пацьвярджаючы розныя хваробы, зь якіх не ўсе меліся на самай справе. Але я, несумненна, пачаў вельмі слабнуць. Пасьля імшы ў бліжэйшую ныдзелю Янас, які быў набожным каталікам, сказаў мне, што на ягоны погляд я пры чарговым картролі буду прызнаны інвалідам і адасланы з капальні. Аднак, калі ў бараках прачыталі новыя разьмеркаваньні, маё прозьвішча было ў сьпісе шахцёраў.

Тым ранкам я спаткаўся з разьюшаным Янасам. Сказаў мне ў гэты дзень ісьці на працу, але абяцаў зрабіць усё магчымае. Калі мы пашыхтаваліся ў шэрагі для выхаду з лагера, ён прыбег і загадаў мне заставацца ў бараку. Мы пайшлі ў лазарэт і ён запісаў мяне ў сьпіс хворых.

Каля дзесяці гадзін раніцы Янас зайшоў у кабінет лагернага лекара, які менавіта ў гэты час праводзіў нараду з трыма вольнымі гарадскімі лекарамі. Размахваючы маёй медыцынскай картай, ён спытаўся свайго шэфа чаму мяне не вызвалілі ад працы ў капальні.

— Калі ён памрэ, — выгукнуў, — складу на вас рапарт! Я не буду за гэта адказваць. Я ўсё напісаў на карце і парэкамендаваў яго звольніць. Калі ў капальні памрэ, напішу вычарпальны рапарт!

Потым кінуў карту на стол і выйшаў. Шэф выбег за ім на калідор і вярнуў. Быў у жаху. Ён ведаў, што нягледзячы на самыя добрыя памкненьні лекары ў лагерах па-просту не мелі магчымасьці зрабіць для сваіх пацыентаў тое, што павінны былі зрабіць. Таму ён не хацеў каб гарадскія ўлады разьбіраліся ў ягоных справах. Шэф разам з Янасам пайшоў да брыгадзіра і маё прозьвішчы было зьмешчана ў сьпісе людзей на замену. У той дзень, скончыўшы сваю працу ў цэнтры здароўя, Янас прыйшоў да мяне і паведаміў, што я афіцыйна звольнены ад працы ў капальні. Я быў ашчасьліўлены. Ужо сама думка пра гэта дадавала мне сілаў і волі да жыцьця, я не мог надзякавацца Янасу.

Назаўтра я быў залічаны ў брыгаду, якая працавала на стайнях. Брыгадзір вызначыў мяне на начную зьмену. Я пачынаў у шэсьць вечара і заканчваў у шэсьць раніцы, бо гэта была "лёгкая" праца. Яна заключалася ў чыстцы і паеньні коней, прыбіраньні стайні, нарыхтоўцы падсьцілкі, задаваньні каням корму і вады вечарам і раніцай. І сапраўды, нягледзячы на доўгія гадзіны, гэта была добрая праца. Я быў сам сабе начальнікам і меў шмат часу каб падумаць, я быў далёка ад газаў і пылу капальні. Амаль адразу маё здароўе пачало папраўляцца. У стайні было толькі восем коней і шэсьць фурманаў. Коней перш за ўсё ўжывалі каб зімой санямі перавозіць ў капальню матэрыялы — дынаміт, машыны, абсталяваньне, лес, альбо запасы ежы, выгружанай на станцыі з вагонаў. Коні, маладыя і дужыя, працавалі больш чым па дванаццаць гадзін штодзённа і ўвесь час былі ў руху.

Фурманамі былі маладыя хлопцы, пераважна вяскоўцы. Яны навучылі мяне абыходзіцца з коньмі, запрагаць і чысьціць, бо спачатку я гэтых зьвяроў троху баяўся. Быў там, праўда, невялікі мангольскі конік, якога клікалі Васькам, які ледзьве не пазбавіў мяне працы. Гэта быў моцны жарабец, белы з шэрымі плямамі, меў самую вялікую ў стайні загародку, бо брыкаўся што мул, і яшчэ кусаўся. Ягоныя вочы заўсёды палымнелі чырвоным бляскам. Я быў упэўнены што гэты конь звар'яцелы. Два вечары я нават не мог наблізіцца да яго каб пакарміць. Толькі я спрабаваў увайсьці ў яго загародку, ён

пачынаў храпці і ва ўсе бакі брыкацца. Празь некалькі дзён неяк вечарам ягоны фурман сказаў мне:

— Штосьці ўжо пару дзён са старым Васькам. Не такі дужы як раней, не магу прымусіць яго цягнуць.

— Гэта таму, — адказаў я, — што я не магу яго накарміць. Кожны раз калі спрабую, ён брыкаецца. Не хачу, каб за два месяцы да канца выраку мяне забіў шалёны конь.

Я думаў што фурман раззлуецца, але ён зарагатаў. Потым сказаў, што навучыць абыходзіцца з Васькам. Увайшоў у загародку выгукваючы імя каня, пасыпаючы яго лаянкай і праклёнамі як стары паганяты мулаў. Васька, здавалася, быў уражаны. Замест таго, каб храпці і брыкацца, пачаў танцавальнымі крокамі нервова адступаць у кут загародкі. І адначасова моцна паблісквраў вачыма.

— Глядзі, гэта лёгка, — казаў фурман, — усё, што ты павінен рабіць — гэта быць яшчэ больш грубым, чым ён. Трэба рабіць першы крок. Спрабуй зараз.

Гэтыя хітрыкі не вельмі мне падабаліся, але ўзяў вядро аўса і ўвайшоў у загародку Ваські. Пачаў з усіх сілаў крычаць, размахваючы свабоднай рукой, ужываючы ўсе праклёны, што прыходзілі мне ў галаву і праз кожныя пару выразаў паўтараючы імя Ваські. Гэта падзейнічала. У чырвоных вачах Ваські адбіўся страх і зьвер зацісьнуўся ў кут загародкі. Увесь час лаячыся, я ўсыпаў у жолаб порцыю аўса, выйшаў з боксу і з трэскам зачыніў за сабой дзьверы. Пасьля гэтага я адчуў сябе прафесійным конюхам і не меў больш з Васькам клопатаў.

У пачатку красавіка мяне выклікалі ў лагерную канцылярыю і паведамілі, што на працягу дзесяці дзён я буду вызвалены. Правяраючыя мае дадзеныя, выявілі, што паводле новых пастановаў за працу ў выключных умовах я маю права зьмяншэньня тэрміну выроку на тры месяцы. Насамрэч я з майго пятнаццацігадовага выроку адбыў толькі чатырнаццаць год і дзевяць месяцаў. Так што ў вольны час я пачаў праходзіць медыцынскія агляды і іншыя фармальнасьці, зьвязаныя з вызваленьнем.

Наконадні майго вызваленьня адбыўся разьвітальны прыём. Зараз у Каерхане гэта было амаль традыцыяй, так вызваляліся шмат хто. Вязьні рабілі складчыну, кожны імкнуўся чым-небудзь дапамагчы. Некаторыя далі мне па тры ці пяць рублёў, нехта падараваў мне новыя ватовыя нагавіцы і куртку. Тым вечарам мы пайшлі ў сталроўку ля брамы, ссунулі некалькі сталоў і да позьняй ночы гутарылі. Кожны даваў добрыя парады — куды накіравацца, зь кім пабачыцца, дзе знайсьці старых сяброў якія вызваліліся раней. У

адказ я абяцаў адведаць як мага больш сем'яў, калі буду знаходзіцца дзесьці паблізу. Далі мне рэкамендацыі да іх і для перaказу запісалі прыблізныя даты свайго вызваленьня.

Назаўтра раніцай, 22 красавіка 1955 г., я прачнуўся рана. Той ноччу амаль што не спаў. Проста не верылася што праз пятнаццаць гадоў я сапраўды буду вольным. Каля дзевятай гадзіны мяне выклікалі ў кантору КГБ. Падпісваючы дакументы і запаўняючы фармуляры правёў там больш за дзьве гадзіны. Я чакаў нейкіх праблемаў і магчыма яшчэ допытаў, але яны выконвалі толькі прафесійныя абавязкі паводле звычайнай завядзёнцы. Усё рабілі дзелавіта, не зьвяртаючы на мяне ў ходзе вызваленьня ўвагі большай, чым на якога-небудзь іншага вязьня. Нягледзячы на гэта я быў вельмі неспакойны і ўсхваляваны.Меў на сабе пару старых валёнак, новыя нагавіцы і куртку і яшчэ шапку з навушнікамі. За шматлікія гады ўсе мае асабістыя рэчы зьніклі. У ходзе ранішніх фармальнасьцяў адзін са службоўцаў падаў мне ліст і дзьве фатаграфіі Соні, маёй былой парафіянкі з Альбярціна. Яна прыслала мне яго ў 1949 г., а атрымаў толькі цяпер. Сунуў ліст у кішэнь разам з пяцьцюдзесяцьцю рублямі, якія складалі ўсё маё майно. Гэта была рэшта маіх заробкаў і тое, што далі на разьвітаньне мае калегі.

Я чакаў ад КГБ нейкія інструкцыі, але яны толькі падрабязна тлумачылі асаблівасьці майго новага становішча. Калі пакідаюць працоўны лагер, пашпарт не атрымліваюць. Атрымліваюць "дакумент вызваленьня", які сьведчыць што ты адбыў свой тэрмін і вызначае тваё грамадзянства. Можна быць вызваленым і рэабілітаваным цалкам альбо толькі часткова, як і ў маім выпадку. Як выpачаны за шпіянаж, я атрымаў толькі абмежаваныя правы, так званае "положеніе паспорта", дакумент які замяняе пашпарт.

Маючы такі дакумент дазволена жыць у вызначанай мясцовасьці і мець абмежаваныя заробкі. Напрыклад у той час для тых, хто працаваў у Сібіры за палярным колам існавала вельмі шчодрая палярная прэмія пад назовам "заполярые". Гэта быў спосаб прывабіць працаўнікоў у гэтую частку краіны. І чым даўжэй там працавалі, тым большай была прэмія. Калі хто працаваў у Сібіры пяць гадоў, то прэмія дасягала велічыні ў два разы большай, чым ягоны заробак.

Маючы абмежаваны статус грамадзяніна я не мог працаваць у палярнай зоне. А яшчэ не мог жыць там дзе хацеў сам. Мне нельга было жыць і ў адным зь вялікіх гарадоў, такіх як Ленінград, Масква, Кіеў, Уладзівасток,Ташкент і ні ў адным з пагранічных гарадоў, зь якіх я б мог паспрабаваць уцячы. У такіх гарадах я мог знаходзіцца

па асабліваму дазволу ўладаў не больш чым тры дні. А маючы "положеніе паспорта" адной зь першых рэчаў, якія належала зрабіць, прыбыўшы ў кожную мясцовасьць, гэта зьявіцца ў пастарунку міліцыі і зарэгістраваць сваё знаходжаньне.

Калі службоўцы мне гэта ўсё растлумацылі і сто першы раз, як мне здавалася, праверылі мае лагерныя дакументы, мне з маімі дакументамі вызваленьня парэкамендавалі прапісацца ў Нарыльску. Там мне павінны выдаць дакументы ідэнтыфікацыі. Усё было закончана каля паловы дванаццатай, і я апошні раз выйшаў праз галоўную браму лагера. Рэфлекторна, прайшоўшы каля пятнаццаці крокаў, спыніўся чакаць турэмшчыка. Вязьні і турэмшчыкі глядзелі на мяне сьмеючыся — дзевяць з дзесяці вызваленых вязьняў выконваюць гэты ж самы манеўр.

Я быў у такім замяшаньні, што не ведаў, як гэта ісьці будучы вольным чалавекам. Мяне зьдзіўлялі мае рукі, якія зьвешваліся па баках, а не былі закладзены за сьпіну. Я кінуў доўгі позірк на лагер, як быццам мне было цяжка яго пакідаць, потым сунуў рукі ў кішэні і пайшоў у бок Каерхану. На вакзале стаяў цягнік. Я сеў у яго і ніхто не зьвярнуў на мяне ніякай увагі. Я не мог у гэта паверыць. Мне здавалася, што я гляджу фільм і ўсё гэта толькі шэраг вобразаў, якія мільгаюць перад маімі вачыма, альбо бачу сон і кожнае імгненьне магу прачнуцца.

Кандуктарка ўзяла ў мяне плату за білет. Я чакаў, што яна задасьць мне якое-небудзь пытаньне, альбо зробіць нейкую непрыемнасьць. Але яна проста і міла ўсьміхнулася. Я сеў ля вакна, выглядаў праз яго і амаль не плакаў ад думкі, што я вольны і да мяне адносяцца як да вольнага чалавека. Я чакаў нейкага здарэньня, што хтосьці пачне крычаць, альбо штосьці затрымае цягнік, ці нехта пакажа на мяне. Але нічога не здарылася. Я сядзеў і пазіраў на горы, на капальню, на вугаль, які сыплецца з ваганетак, на лагер, як цягнік рушыў і вось я ў дарозе да Нарыльску.

## ВОЛЯ, ТОЛЬКІ АБМЕЖАВАНАЯ

### Чалец прафсаюза ў Нарыльску

Нават за гэтыя два гады, калі я апошні раз бачыў Нарыльск, ён вельмі зьмяніўся. Зрабіўся падобным на сапраўдны горад, а не на ўскраіну цывілізацыі, як дагэтуль. Гэта адбылося дзякуючы будынкам і фабрыкам, пабудаваным вязьнямі. У 1955 г. насельніцтва горада складала больш за сто дваццаць тысячаў і тыя, хто меў шчасьце жыць

у дамах, займалі пераважна былыя баракі вязьняў, а таксама шасьціпавярховыя жылыя блокі, якія я, калі быў вязьнем лагера №5, дапамагаў будаваць.

Буйныя прадпрыемствы БОФ, якія мы будавалі калі былі ў лагеры №2, і магутны "Камбінат", які мы збудавалі лагерам №4, знаходзіліся ля падэшвы гары Шмідта, у найважнейшым геаграфічным пункце Нарыльску. Адтуль на захад праз стары горад галоўная вуліца, Окцябрская, цягнулася да пляцу Леніна, важнага вузла руху дзе пачынаўся новы горад. На захад ад пляцу Леніна ляжала вуліца Севастопальская, дзе знаходзіўся камісарыят міліцыі, новыя шпіталі, школы, тэатры і ўнівермагі. Па вуліцах, паралельных Севастопальскай стаялі шасьціпавярховыя жылыя блокі, будоўлю якіх я памятаў.

Два гады таму я пакінуў Нарыльск па вузкакалейцы. Цяпер я прыехаў у горад цягнікам па нармальных пуцях, якія праклалі за гэты час. На рэйках стаялі вялікія лакаматыва сталінскага тыпу, пачвары паглынаючыя вугаль, якія раней ужывалі толькі да доўгіх маршрутах, зараз яны былі адасланыя служыць на поўнач.

Калі выходзіў зь цягніка, паветра здалося мне быццам бы цяплейшым, чым у Каерхане. Паўсюль ляжалі тоўстыя і брудныя ад вугальнага пылу пласты. Ведаючы гэты горад у якасьці вязьня я, ідучы празь яго вольным чалавекам, адчуваў сябе ніякавата. Гэта было зьмешанае пачуцьцё пыхі і хваляваньня, трыюмфу і паразы, быў неяк не ў сваёй талерцы.

Я меў пры сабе два адрасы. Адзін быў а.Віктара, які вызваліўся з лагера №4 двума месяцамі дагэтуль і жыў недалёка ад галоўнай, Окцябрскай, вуліцы. Другі адрас быў таксама да былога вязьня, маладога паляка па імені Уладзіслаў, які запрасіў мяне адведаць яго ў Нарыльску. Я быў бліжэй да Окцябрскай і пайшоў па ёй, мінаючы тэатр і стадыён, праз стары горад, пазіраючы на крамы і будынкі, адчуваючы сябе ў лагернай вопратцы галадранцам. Аднак большасьць людзей, якіх я бачыў, была апранута як і я, несумненна большасьць зь іх былі раней вязьнямі.

За стадыёнам я ўбачыў вялікую колькасьць мазанак, буданаў і будак, якія тут называюць "балокамі" і дзе раней разьмяшчалася шматлікае кітайскае насельніцтва, а жыхары Нарыльска называлі гэты раён "Шанхаем". Калі дайшоў на месца, дзе рэйкі бакавой чыгуначнай лініі да Цечаў, энергетычных прадпрыемстваў, перасякалі Окцябрскую, згодна з апісаньнем Віктара павярнуў налева. У адлегласьці каля двухсот метраў збоку вуліцы было новае, падобнае на шахматную дошку, скапленьне мазанак, збудаваных са старых дошак

і скрынак. Сьцены звычайна былі падвойнымі, зробленымі з абрэзкаў дошак і напоўненыя для ацяпленьня попелам. Лепшыя былі пакрыты толем, глінай альбо тынкам.

Забудова была хаатычнай і таму я спыніўся ля першага дамка і спытаўся пра Віктара. Суразмоўцы накіравалі мяне да адной з бліжэйшых мазанак, дзе ў панурай хатцы я знайшоў а.Віктара. Зь ім жыў яшчэ адзін сьвятар, Нэрон, які быў у Каерхане і вызваліўся раней чым я пачаў там працаваць. У пакоі было два ложкі, разьдзеленыя ахвярнікам — гэты пакой, які меў памеры тры на тры метры, служыў яшчэ і капліцай.

Мы усе былі ўзрадаваныя нашым спатканьнем. На электрычнай плітцы, якая служыла і для ацяпленьня і для гатаваньня, зрабілі для мяне абед. Потым мы вельмі доўга гутарылі. Яны не хацелі нават слухаць аб тым, каб я кудысьці ішоў, таму паставілі паміж ложкаў тры крэслы, а я ўжыў мае нагавіцы і куртку ў якасьці матраца. Раніцай, як толькі ўсталі і ўпарадкавалі ложкі, падрыхтаваліся да адпраўленьня імшы.

Каля паловы сёмай на імшу прыйшлі нейкія дванаццаць асобаў. У нядзелю людзі тоўпіліся не толькі ў пакоі, але і ў калідоры і за дзьвярыма, звонку. Каб забясьпечыць імшу для ўсіх, Віктар і Нэрон па нядзелях адпраўлялі дзьве імшы, і на кожнай агалошвалі казаньні. На кожнай імшы бывала каля шасьцідзесяці ўдзельнікаў. Так што гэта была сапраўдная парафіяльная царква.

Тым першым ранкам я зь Віктарам пайшоў у камісарыят міліцыі, каб згодна з інструкцыяй зарэгістравацца. Аддаў дакументы і мяне зарэгістравалі, а потым выдалі кніжку ідэнтыфікацыі. Функцыянеры зноў пералічылі абмежаваньні, якія мяне датычыліся па "положенію паспорта", або па майму статусу "абмежаванай рэабілітацыі". Да гэтага дадалі яшчэ новае абмежаваньне. З-за таго, што маё палітычнае абвінавачваньне было па параграфу 56:6, г.зн. за шпіянаж, я павінен быў жыць там, дзе прызначаць, у дадзеным выпадку ў Нарыльску. Калі б я захацеў пераехаць у іншы горад, то здолеў бы гэта зрабіць толькі з дазволу і па слушнай прычыне, напрыклад з-за стану здароўя. Коратка кажучы, я не быў такі ўжо вольны як думаў пакідаючы Каерхан.

Мяне спыталі дзе я жыву і я адказаў, што яшчэ не маю сталага жыльля. Яны настойвалі, што я мушу мець адрас для міліцэйскіх картатэкаў, куды яго падае кожны грамадзянін. Тады я сказаў, што жыву ў Віктара. У выніку маё прозьвішча было ўключана ў міліцэйскія кнігі пад гэтым адрасам а потым запісана ў дамовую кніжку Віктара, якую ён павінен быў мець (падобна як шафёр —

права язды) і якая зьмяшчала прозьвішчы ўсіх жыхароў ягонага дому. Цяпер я ўжо быў афіцыйна зарэгістраваны.

У Віктара я жыў, шукаючы працу і ўласнае жыльлё, больш тыдня. За гэты час сустрэўся зь ягонымі парафіянамі і суседзямі. У балку побач зь Віктарам жыў з жонкай і дзесяцігадовым сынам Людвік, кіраўнік царкоўнага хору. Ён, нізкі брунэт з мангольскімі рысамі, быў надзвычай адданы Царкве. Кожную раніцу перад выхадам на працу сьпяваў. Працаваў у кацельнай. Яго жонка, Нюра, таксама была малой, чорнай, з ружовымі шчокамі, і вельмі сардэчнай. У адрозьненьне ад большасьці кабет у Нарыльску не працавала, бо праца Людвіка была вельмі дэфіцытнай і добра аплачвалася. Так што Нюра мела шчасьце весьці сьвятарскую гаспадарку і выконваць абавязкі шатніцы ў нашай невялікай капліцы.

У балку, што прылягаў да дому Віктара, жылі дзьве летувіскі, Ніна і Людміла, якія даглядалі старога і пакалечанага сьвятара грэкаправаслаўнага абраду а.Фаму. Звычайна раньняй раніцай я адпраўляў імшу для іх, пасьля чаго яны прыходзілі на нашу імшу. Яны працавалі ў хірургічным шпіталі на вул. Окцябрскай і дапамагалі рамантаваць нашу вопратку, мыць падлогу, а таксама прыносілі нам ежу з кухні шпіталя.

Праз тыдзень я яшчэ не меў ні працы ні жыльля. Нарэшце сабраўся адведаць пяць маладых палякаў, зь якімі пазнаёміўся ў капальні, былых вязьняў, якія жылі ў бараку для самотных недалёка ад "Камбіната". Працавалі ў выратавальнай камандзе навакольных капальняў, ад Каерхана аж да гор у старой Западнай, іх выклікалі туды дзе была патрэба. Мелі пакой памерамі тры на чатыры метры на пяцёх, але запрасілі мяне жыць зь імі.

Адзін зь іх заўсёды быў на службе і мы вызначылі, што я буду спаць на ложку дзяжурнага. Да таго ж у тым бараку была сталоўка, дзе няблага кармілі, так што ўжо не трэба было знаходзіцца на ўтрыманьні а.Віктара, бо не маючы працы нельга карыстацца рэстаранам. Гэта не было вельмі ўжо добрым выйсьцем зь сітуацыі, але я лічыў што лепш так, чым стварэньне клопату Віктару, такому добраму і велікадушнаму. Так што я вырашыў перайсьці да іх. Той парой я пайшоў яшчэ адведаць маладога паляка, Уладзіслава. Ён працаваў на БОФ у лабараторыі і сказаў мне, што на фабрыцы хутка будзе вакантнае месца. Ён размаўляў пра мяне са сваім начальнікам і ўпэўнены, што знойдзе мне працу.

Я працягваў хадзіць да Віктара адпраўляць ранішнюю імшу, але па нядзелях, забясьпечаны зь яго дапамогай валізкай зь пераносным ахвярнікам і поўным аснашчэньнем, наведваў адзін са

старых баракаў, які некалі быў часткай лагера №5. Зараз баракі станавіліся часткай гардской забудовы і там у дзевяць гадзін я адпраўляў імшу для другой польскай "парафіі". Перад імшой я слухаў споведзі, пасьля імшы ўдзяляў хросты і шлюбы, колькасьць якіх увесь час узрастала разам з тым, як людзі даведваліся, што кожную нядзелю я ў іх распараджэньні.

Я заўсёды адмаўляўся браць за гэтую працу грошы, але людзі хацелі неяк аддзячыць мяне за маю працу. З-за таго, што грошай я не хацеў, прасілі прыняць хоць бы адзеньне — каб замяніць мае старыя лагерныя лахманы, якія я яшчэ насіў. Мяне забралі ў новую частку горада за пляцам Леніна, дзе былі новыя крамы: вялікая прадуктовая крама "Гастроном" (нешта накшталт суперсама), вялікая крама вопраткі і розныя іншыя.

Я зьдзівіўся, калі ўбачыў як нават тут, у Сібіры, былі добра забясьпечаны гэтыя крамы.Толькі калі пачаў шукаць патрэбную вопратку пераканаўся, як цяжка было знайсьці адпаведны памер ці гатунак. Зразумела, за хабар прадаўцы даставалі кліентам тое, што яны хацелі. А я вымушаны быў купіць на нумар меньшы плашч, бо ён адзіны быў бліжэй за ўсё да майго памеру. Не мог я знайсьці ні кашуль з каўнерыкамі, ні чаравікаў. Абутку майго памеру не было ўвогуле, мусіў набыць пару на нумар меньшую. Не было для мяне нармальных галёшаў, таму прыйшлося даць прадаўцу хабар і тады патрэбны памер знайшоўся.

Аднойчы раніцай, калі я прыйшоў адправіць імшу, Віктар сказаў мне, што ёсьць магчымасьць атрымаць новае жыльлё, прынамсі на некалькі месяцаў. Адна сям'я зь яго "парафіі" паведаміла яму, што іх суседзі на пару месяцаў выяжджаюць і, калі неадкладна даць згоду, можна дамовіцца каб я пажыў у тым балку. Я гэтую магчымасьць выкарыстаў. Адразу пасьля імшы зь Віктарам пайшлі уладжваць справу.

Тым вечарам я прыйшоў да Віктара і дапамог яму адправіць паніхіду, вельмі прыгожае праваслаўнае жалобнае набажэнства. Уся цырымонія сьпяваецца і доўжыцца каля сарака хвілін, усе ведаюць песьні напамяць і ўсе сьпяваюць. У час цырымоніі на ахвярнік ставяць невялікую міску з куцьцёй, сумесьсю пшаніцы з разынкамі, а пасьля заканчэньня ўсе дзеляць яе між сабою, ядуць яшчэ пірог, прынесены сям'ёй нябожчыка. Пасьля цырымоніі я застаўся начаваць у Віктара, а назаўтра раніцай пасьля імшы пайшоў да майго новага жыльля.

Гэта быў невялікі балок, але меў тры пакоі. Была маленькая, метр на два з паловай, кухня, спальны пакой у якім магло памясь-

ціцца два ложкі і прыёмны пакой. Гэта была для мяне добрая аператыўная база, я жыў тут сам і штодзённа адпраўляў імшу для ўсё большай колькасьці людзей. Аднак па нядзелях працягваў служыць у польскім бараку былога лагера №5.

Празь некалькі дзён пасьля пераезду ў новы балок прыйшоў Уладзіслаў і паведаміў мне, што са мной хоча пабачыцца дырэктар лабараторыі на БОФ. БОФ — Большая Обогаціцельная Фабрыка (Вялікая Рафінэрыя), гэта масіўны будынак, разьмешчаны прыкладна на сярэдзіне сьхілу ўзгорка, які ўзвышаецца над горадам. Калі назаўтра я прыйшоў, Уладзіслаў, які ўжо чакаў, завёў мяне на трэці паверх, дзе месьціліся лабараторыя. Спачатку мы пайшлі ў яе кантору. Я пачакаў пакуль ён схадзіў да дырэктара. Праз хвіліну вярнуўся і правёў мяне ў дырэктарскі кабінет. Ім была хударлявая кабета, далёка за трыццаць, чарнявая, з цёмнымі вачыма і тонкілі рысамі прыгожага твару.

— Настасься Мікалаеўна, — сказаў Уладзіслаў, — гэта Уладзімір Марцінавіч.

Яна ўстала з-за стала і паціснула мне руку. Запрасіла сесьці пагутарыць і я распавёў ёй пра маю мінуўшчыну. Шчыра прызнаўся, што не маю ніводнай кваліфікацыі.

— Але маю патрэбу ў працы, — дадаў, — і хачу працаваць.

Настасься ўсьміхнулася. Сказала, што ёй будзе прыемна даць мне працу. Буду працаваць у лабараторыі памочнікам Уладзіслава пакуль не атрымаю досьведу і запыталася, ці задаволіць мяне пачатковая плата сто дзесяць рублёў штомесячна і дваццацірублёвая прэмія за добрую працу. Я быў проста ў захапленьні і сардэчна яе падзякаваў. Сказала каб у наступны дзень я прыйшоў на працу.

Назаўтра, убраны ў сваю лепшую вопратку, бо апроч старых лагерных лахманоў нічога не меў, я зьявіўся на працы яшчэ да васьмі гадзінаў. Мог даехаць да фабрыкі аўтобусам але тым ранкам пайшоў пехатою. Гэта была мая першая праца на волі і было дзіўнае пачуцьцё вяртаньня на БОФ, на фабрыку якую я будаваў калі быў вязьнем, я зараз ішоў туды як новы працаўнік, адказны і добра аплачваемы.

Мяне ўжо чакаў Уладзіслаў каб паказаць лабароторыю. Яна разьмяшчалася ў чатырох вялікіх памяшканьнях. Кожнае было абсталявана лавамі, двума электрычнымі печамі, ракавінамі і ўсялякімі патрэбнымі хімічнымі прыборамі. У кожным пакоі працавалі па трое дзяўчат, якія дасьледвалі ўзоры мінералаў каб вызначыць вартасьць медзі і нікелю што знаходзіліся ў іх. Потым узоры закладаліся ў канверты, падпісваліся і рэгістраваліся. Усяго ў лабараторыі працавала сорак дзяўчат, дванаццаць-трынаццаць у кожнай зьмене, але апра-

ча Ўладзіслава і мяне ва ўсім гэтым аддзеле было толькі трое мужчынаў. Адзін зь іх, якога я ведаў мала, быў галоўным хімікам і інструктарам. Двое астатніх, Максім і Базыль,былі кіраўнікамі аддзелаў, гэтак жа як і Ўладзіслаў, ім падначальваліся працаўніцы зьменаў. Я працаваў з Уладзіславам у дзённую зьмену, якая была самай цяжкай. Максім, нервовы і напружаны расеец, працаваў на зьмене з чатырох раніцы да апоўдня. Базыль, украінец, кіраваў зьменай ад апоўдня да восьмай вечара. У супрацьлегласьць Максіму, ён быў прыемным у абыходжаньні, але блізка да сэрца нічога не прымаў.

Маёй працай была дастаўка дзяўчатам матэрыялаў і хімікатаў а потым занатоўваньне вынікаў аналізаў. Уладзіслаў сказаў мне, што мяшэчкі з узорамі павінны захоўвацца не менш чым месяц на выпадак, калі над тым самым тыпам мінералу спатрэбяцца далейшыя назіраньні, альбо пасьля абагачэньня працэнт медзі і нікелю будзе не такі, які вынікаў з нашых дасьледваньняў.

Зараз, калі я пасяліўся ў Нарыльску і здавалася справы складваліся добра, я зноў вырашыў напісаць у Амэрыку да сям'і — першы раз за пятнаццаць гадоў. З парады Віктара перш за ўсё пайшоў у Нарыльскае ўпраўленьне КГБ і спытаўся, ці можна гэта зрабіць. Растлумачыў, што не пісаў сям'і з 1940 г. Агент КГБ адказаў, што гэта іх не датычыць, што гэта кампетэнцыя міліцыі. Казаў каб гэтую справу я ўладжваў з шэфам МВД.

Прачакаўшы неяк чатыры гадзіны ва ўпраўленьні МВД я пасьля апоўдня нарэшце спаткаўся з шэфам. Той зычліва выслухаў мае тлумачэньні. Я паведаміў яму што не пісаў дадому вельмі доўга і нават не ведаю ці жыве яшчэ хтосьці з сям'і. Ён быў вельмі ветлівы і сказаў што няма ніякіх пярэчаньняў. Нават навучыў мяне як пісаць на канверце адрас каб быць упэўненым, што ліст дойдзе і даў мне адмысловы канверт, які ўжываўся для перасыланьня лістоў за мяжу.

Прыйшлося адрасаваць такім чынам, які здаўся мне цалкам ненармальным: спачатку назва краіны, потым — штата, нумар вуліцы і прозьвішча адрасата. Усё трэба было напісаць па-расейску і па-ангельску, адно пад другім. Унізе канверта напісаў мой зваротны адрас па-расейску. Ліст быў да маёй сястры Эвангеліны, бо памятаў адрас яе кляштара — можа яна яшчэ там.

У тым, што хто-небудзь гэты ліст атрымае, упэўнены не быў, таму напісаў коратка і дзелавіта. Вязьні мне казалі, што доўгія лісты ніколі не даходзілі. Большасьць зь іх, калі лісты былі дазволены, пісалі сваім сем'ям проста: "Я жывы і здаровы". Паколькі я не ведаў, ці дойдзе ліст да Амэрыкі, не мела сэнсу пісаць шмат, таму я быў вельмі лаканічны. Падпісаў проста: "Твой брат Вальтэр".

У той дзень, вяртаючыся дадому я спаткаў Пятра, маладога хлопца з Уралу, які працаваў у капальні жалезнай руды. Ён запрасіў мяне на сто грамаў, быў дзень зарплаты. У гутарцы зь ім я паведаміў, што напісаў да сям'і ў Амэрыку. Гэта быў выпадак, якога ён прагнуў. Каб адзначыць гэтую падзею ён выцягнуў бутэльку гарэлкі,ягонaя жонка Каця у гэты час рабіла піражкі зь мясам ("пельмені").

— Гэта вялікі дзень, Валодзя, — сказаў ён. — Мы павінны яго добра адзначыць.

Я яшчэ не абедаў, а жонка Пятра хацела пачаставаць мяне піражкамі, і я не мог ім адмовіць. Пакуль Каця была занятай на кухні я сядзеў зь Пятром. Найперш мы мусілі выпіць за посьпехі Амэрыкі. Пётра напоўніў дзьве шклянкі гарэлкай. Паднялі іх, стукнуліся і засьпявалі "За ваша здароўе". Адзіным спосабам піцьця гарэлкі, прынамсі той, якую п'юць у Сібіры, зьяўляецца перакульваньне шклянкі ўверх дном і глытаньне вадкасьці двума глыткамі. Потым трэба прыкласьці да носу кавалак жытняга хлеба і каб вызваліцца ад пароў алкаголю, глыбока ўдыхаць яго пах. Апаражнілі шклянкі.

Пасьля таго, як выпілі за Амэрыку, пілі за маю сям'ю, за добрыя весткі і каб адзначыць дзень зарплаты. Тут Каця прынесла цудоўныя пельмені. Яна разам зь Пятром распавядалі аб сваіх планах на працягу пяці гадоў зарабіць у Сібіры вялікую прэмію і сабраць капітал, а потым вярнуцца на Ўрал і там купіць дом і гаспадарку.

— І ведаеш што, Валодзя? — сказаў Пётра. — Неўзабаве будзеш хрысьціць майго першароднага сына.

Я павіншаваў іх і мы выпілі за гэта. Потым пілі ажно да вечара.

Тое, якім чынам Пётра адзначаў невялікую ўрачыстасьць, паказала мне, што ў выпіўцы я яму не роўня. А ў гэты ж вечар я мусіў прыняць удзел у яшчэ адной урачыстасьці. Абяцаў даць шлюб Уладзіславу і яго нарачонай, Раі. Яны кляліся, што каб арганізаваць гэтую цырымонію чакалі майго вызваленьня з лагеру. У суботу, а сёмай вечара, я прыбыў у жытло Ўладзіслава на вясельле.

Гэта было ладнае памяшканьне на вул. Камсамольскай у новым шасьціпавярховым блоку на пятым паверсе. Два вялікія пакоі, з густам абстаўленыя, з усялякімі сучаснымі выгодамі. Яны былі шчасьлівыя, займаючы іх, але ў рэальнасьці жыльлё належала не ім а аднаму з дырэктараў БОФ, які атрымаў іншую пасаду і выехаў. Ніхто ў Нарыльску не хацеў пакідаць сваё жыльлё пустым. З-за вялікіх недахопаў у забесьпячэньні звычайнай зьявай былі рабункі. Таму на час сваёй адсутнасьці дырэктар папрасіў Уладзіслава заняць ягоную кватэру.

Уладзіслаў і яго будучая жонка былі сапраўды ашчасьліўленымі. Зараз, калі мелі жыльлё, маглі пабрацца. Яны былі палякамі і шлюб адбыўся ў рымакаталіцкім абрадзе, а пасьля я на карысьць гэтага шлюбу адслужыў імшу. На прыём кожны нешта прынёс, а Ўладзіслаў і Рая, каб падрыхтавацца да гэтай урачыстасьці, цэлы месяц бегалі па крамах, так што атрымаўся доўгі, цудоўны вечар.

Тым часам я на БОФ усё больш авалодваў прафесіяй. Праца была цікавай, а людзі прыязнымі. Большасьць дзяўчат у БОФ ведалі, што я сьвятар. Асаблівых знакаў павагі не выказвалі, але былі гатовыя замяніць мяне калі спазьнюся, ці з-за хросту, шлюбу і т.п. вымушаны пайсьці раней. Настасься, кіраўніца, была асабліва дружалюбнай. Празь месяц спыталася, ці не хацеў бы я перайсьці на начную зьмену. Я быў вельмі задаволены, бо цяпер меў амаль цэлы вольны дзень і вечар на апостальскую дзейнасьць.

Калі — нікалі пагутарыць аб рэлігійных справах у мой пакой прыходзілі дзяўчаты. Аднойчы ноччу, бянтэжачыся, прыйшла Тася, дробная жвавая расейка з рыжаватымі, па звычаю большасьці расейскіх кабет сьцягнутымі на патыліцы, валасамі. Чула, што я сьвятар і хацела даведацца ці я расеец. Я адказаў, што амэрыканец. Гэта яе зьдзівіла, бо ўсё духавенства, каго яна ведала, былі расейцамі, і яна нават не ўяўляла, што імшу можна адпраўляць не толькі ва ўсходнім абрадзе, а і ў лацінскім.

Пра гэта Тася гутарыла са мною некалькі разоў, а калі хтосьці прыходзіў, пакідала пакой, потым, калі быў адзін, вярталася. Гэта мяне зацікавіла і я здагадаўся, што нешта павінна адбыцца. Урэшце аднойчы ноччу яна прыйшла сказаць мне гэтае "нешта".

— Я хачу, — зьвярнулася яна да мяне, — каб вы прасьпявалі паніхіду па маім мужы.

Цяпер зьдзівіўся я.

— Былі замужам?— запытаў.

— Так, — адказала яна. — Мой муж памёр амаль год таму і я хачу каб вы прасьпявалі паніхіду ў гадавіну яго сьмерці.

Потым распавяла мне ўсю гісторыю.

Яе муж працаваў на БОФ, на фабрыцы здрабненьня руды. Аднойчы ў яго машыне нешта сапсавалася. Ён не хацеў губляць час і пачаў рамантаваць яе ў руху. Пасьлізнуўся і ўпаў на шасьцярні машыны. Быў раздроблены разам з кавалкамі руды, так яго і пахавалі. Гэты страшны выпадак быў яшчэ больш трагічным таму, што пасьля шлюбу прайшло толькі каля трох месяцаў. Я паабяцаў адсьпяваць паніхіду, а Тася яшчэ папрасіла ахрысьціць яе маленькага сынка.

Яшчэ ў той вечар я ў прысутнасьці сям'і Тасі адправіў жалобнае набажэнства і на наступную нядзелю прызначыў хрост.

У расейскіх сем'ях гэта вялікая ўрачыстасьць, таму дом быў поўны гасьцей. Ва ўсходнім абрадзе хрост заключаецца ў трохкротным пагружэньні, уся цырымонія доўжыцца каля сарака хвілін, а ў канцы цырымоніі ўдзяляецца таямніца мірапамазаньня. Пасьля цырымоніі шмат хто з гасьцей падыйшлі да мяне з просьбай ахрысьціць і іх дзяцей. Гэтакім чынам мая паслуга апісвала ўсё большыя кругі.

Другім вечарам, калі я рэгістраваў вынікі аналізаў, у памяшканьне ціха ўвайшла Ніна і спынілася, чакаючы калі я зьвярну на яе ўвагу. Яна была ладнай маладой кабетай, камсамолкай і жонкай члена партыі.

— Ці можна задаць вам пару пытаньняў? — спыталася ў мяне.

— Канечне, — адказаў я.

Завагалася.

— Вы сьвятар?

— Так, — зноў адказаў я.

— Сапраўды? — удакладніла яна.

Я пачаў сьмяяцца. Ніна з хвіліну маўчала, а потым сказала:

— Я чытаю Біблію, якую часам пазычаю ў адной старой кабеты, і там шмат незразумелых мне рэчаў. Але там ёсьць выраз, што кожны, каб збавіцца, павінен прыняць хрост. Ці ведаеце як гэта зрабіць?

Я ўсьміхнуўся.

— Натуральна.

— Ці маглі б ахрысьціць мяне?

Гэта мяне зьдзівіла.

— Хто з нас цяпер жартуе? — запытаўся я. — Гэта не такая лёгкая справа. Потым пабачым.

Менавіта ў гэты час нехта ішоў па калідоры і Ніна ўцякла. Як член камсамолу не хацела быць злоўленай на размове аб рэлігійных справах са сьвятаром. Аднак прыйшла пазьней і адразу спыталася:

— Калі я магу быць ахрышчанай?

Я, калі ўбачыў яе трывогу, усьміхнуўся.

— Тады, калі пераканаюся, што ведаеце пра Бога, пра хрост, пра збавеньне і шмат іншых рэчаў. Мушу таксама ўпэўніцца ў вашай шчырасьці.

Яна гарэла такім запалам, што я сказаў ёй прачытаць некалькі фрагментаў зь Бібліі і дамовіцца са мной аб рэгулярных спатканьнях, каб магла пачаць рыхтавацца.

Працуючы штовечар зь Нінай я адчуў дзейнасьць Божай ласкі — у яе шчырасьці, у яе захапленьні і перамене, якая ў ёй адбывалася. Зараз ужо яна хацела не толькі ахрысьціцца сама, але і ахрысьціць сваіх дзяцей. Аднак ведала, што муж, як шчыры член партыі, будзе супраць. Але маліла мяне каб нягледзячы на гэта ахрысьціў і абяцала, што выхавае іх у веры.

Урэшце, калі муж быў выкліканы ў Маскву на зьезд партыі, Ніна папрасіла далей цырымонію не адкладваць. Я адмовіць не мог. Яе падтрымлівала маці і тая старая кабета, якая прычынілася да ўсяго гэтага пазычаючы Ніне Біблію. Яна была добрым духам усёй той сям'і. Я ніколі ў жыцьці не сустракаўся з такой набожнасьцю, калі хрысьціў Ніну я амаль што адчуваў дыханьне Сьвятона Духа ў вадзе. Яе рэакцыя мяне глыбока ўзрушыла. Потым ахрысьціў яе дзяцей і кожнаму зь іх даў маленькі алюміневы крыжык. Дастаў іх у Віктара. Потым адбыўся прыём.

Праз тыдзень, калі вярнуўся муж Ніны, сынок выдаў таямніцу бацьку. Распавёў яму пра ўсё што было і паказаў "прэзэнт", які я даў — невялікае ўкрыжаваньне. Бацька не быў дурнаватым, адразу здагадаўся што адбылося і прыйшоў у шаленства. Пагражаў, што загадае арыштаваць сьвятара, які гэта зрабіў. Аднак потым навальніца сьціхла, нават дазволіў жонцы выхоўваць дзяцей у веры.

Ён не быў выключэньнем. Памятаю іншага члена партыі ў Нарыльску, які садзячыся ў цягнік каб ехаць у Маскву на зьезд партыі, сказаў жонцы што пакуль ён адсутнічае, трэба ахрысьціць дзіця. Іншы партыйны саноўнік з горада, які выступаў з грамавымі антырэлігійнымі прамовамі, палічыў за гонар для сябе быць хросным бацькам дзіцяці сваёй сястры, якога я хрысьціў.

У час кастрычніцкіх і травеньскіх сьвятаў урад даваў ганаровыя дыпломы, прэміі і ўзнагароды для выбітных працаўнікоў. У першае кастрычніцкае сьвята я, працуючы на БОФ, атрымаў прэмію памерам сто рублёў. У кожным наступным выпадку я атрымоўваў узнагароды альбо прэміі — семдзесят пяць рублёў, ганаровы дыплом і т.п. Аднак больш важным за грошы ці дыпломы было тое, што кожны раз калі я атрымоўваў узнагароду, у маіх паперах зьяўлялася нататка "Благодарность" (Выбітны Працаўнік). Гэта азначала, што калі я буду спрабаваць атрымаць нейкую іншую працу, то заўсёды буду мець выдатныя рэкамендацыі. А яшчэ гэта азначала, што калі КГБ правяраў мае паперы, што час ад часу рабілася, то не мог знайсьці

там нічога апрача хвалебных водклікаў. Калі гэта і не рабіла на іх уражаньня, то прынамсі не маглі знайсьці прычыны каб выклікаць мяне на допыты.

У той час мяне прынялі ў прафсаюз — Прафесійную Супольнасьць Савецкіх Рабочых. На фабрычных сходах, якія адбываліся амаль штотыднёва ў панядзелак раніцай, падкрэсьлівалі што ўсе павінны належаць да Супольнасьці.

Адзначалі, што той, хто не ўступае, губляе выгады і прывілеі. Пасьля шматлікіх угавораў, я нарэшце згадзіўся ўступіць. Працэдура была простай. Пісалася звычайная заява, якую чыталі на сходзе мясцовай суполкі і вядучы пытаўся чальцоў ці належыць прыняць прэтэндэнта. У маім выпадку меркаваньне было пазітыўным. Мне сказалі ўстаць, коратка распавесьці сваю біяграфію і адказаць на магчымыя пытаньні (не было ніякіх). Потым загадалі галасаваць і я быў прыняты і стаў чальцом прафсаюзу. За месячную складку адзін рубель са ста рублёў заробку, я атрымаў наступныя прывілеі: страхоўку на выпадак хваробы і бясплатнае лекарскае абслугоўваньне, а таксама шэсьцьдзесят працэнтаў заробку ў выпадку няпрацаздольнасьці (дапамога па хваробе), магчымасьць выбару санаторыя ці дома адпачынку пры неабходнасьці такога лячэньня і за гэта плаціў толькі трэць сапраўднага кошту, рэкамендацыі пры пераходзе на новую працу або пры пераводзе на вышэйаплочваемую пасаду, калі яна вызвалялася.

Зь іншага боку супольнасьць умешвалася паўсюль. На сходах абмяркоўваліся не толькі пытаньні працы і яе ўмовы, але і прыватнае жыцьцё яе чальцоў і іх недахопы. Напрыклад, на адзін са сходаў выклікалі маладую пару для тлумачэньня іх сужонскіх праблемаў. Абое былі лідэрамі Камсамолу, а ў будучыні напэўна выбітнымі чынамі партыі. Яны здаваліся ідэальна шчасьлівай парай, але муж хацеў разьвесьціся з жонкай, бо не мелі дзяцей. З-за таго, што большасьць працаўнікоў БОФ складалі кабеты, бядак сужонак не меў шанцу. На яго адусюль пасыпаліся пратэсты:

— Была для цябе добрай калі хацеў зь ёй жаніцца, а зараз абрыдла, праўда?

— Што кажа аб сужэнстве новы савецкі кодэкс правоў у выпадку калі яно бязьдзетнае?

Сітуацыя была амаль забаўнай, толькі факт, што Супольнасьць мела такі кантроль над сваімі чальцамі, быў зусім не сьмешны.

## Мая "парафія" — Нарыльск

Аднойчы раніцою, вярнуўшыся з працы дадому, я застаў тэлеграму сям'і гаспадара майго балка са зьвесткай, што вяртаюцца. Я пагутарыў зь Віктарам і Ўладзіславам і апошні запрасіў мяне жыць у яго столькі, колькі будзе заставацца ў сваім новым жыльлі ён сам. Я не хацеў перашкаджаць маладым, але не меў куды дзецца, таму згадзіўся заняць у іх адзін з двух пакояў. Віктар папярэдзіў, каб жывучы ва Ўладзіслава, не быў занадта актыўным. Большасьць жыльля дзяржаўных чыноўнікаў шчыльна кантралявалася мясцовымі ўладальнікамі дома, якія даносілі міліцыі пра кожную "падазроную дзейнасьць". Таму каб адсьпяваць паніхіду я звычайна прыходзіў да Віктара, а каб учыніць хрост ці іншую цырымонію наведваў людзей дома. Аднак некалькі разоў хрысьціў у жыльлі Ўладзіслава і тут жа быў выкліканы ў КГБ. Зьявіцца мне загадалі не ў цэнтральнае ўпраўленьне, а ў гарадское аддзяленьне КГБ.

Калі я ўвайшоў, за сталом сядзелі чатыры мужчыны. Запрасілі сесьці. Паседжаньне пачалося са звычайных пытаньняў: Як ацэньваеце жыцьцё зараз, калі вызвалены? Як складваюцца стасункі зь людзьмі? Ці адпавядае мне мая праца? і г.д. Раптоўна перайшлі да сэнсу справы.

— Хто даў вам дазвол на місійную працу? — спытаўся адзін з мужчынаў. — Ведаеце, што на гэта трэба дазвол з Масквы.

Пытаньне было зададзена зьнянацку, але я шчыра яму адказаў, — раблю тое, што падказвае сумленьне і чаго патрабуюць людзі.

— Я маю права адправіць дома імшу альбо маліцца, калі хачу, — сказаў я ім. — Савецкая Канстытуцыя гарантуе свабоду сумленьня і вызнаньня. А калі хтосьці прыходзіць у час адпраўленьня імшы, то я яго не буду выганяць. І калі хтосьці просіць мяне аб паслузе, то калі гэта не супярэчыць закону я, як добры савецкі грамадзянін, выканаю яе.

Мне нагадалі, што паводле савецкіх законаў нельга браць плату за рэлігійныя паслугі сьвятара. Усе "дазволеныя" сьвятары атрымоўваюць плату ад урада.

— Даведайцеся, ці патрабаваў я хоць раз грошы, — адказаў я. — Паспрабуйце, але ведайце — не здолееце. Бо калі б даведаліся, што я хоць раз узяў у людзей грошы, выклікалі б мяне сюды ўжо даўно.

Так мы дыскутавалі і спрачаліся больш за гадзіну, і зь іх боку гучалі вельмі празрыстыя намёкі, што мне трэба спыніць сваю

"падрыўную дзейнасьць". Я адказваў проста — калі людзі будуць працягваць да мяне свабодна прыходзіць, то буду працягваць ім дапамагаць. З пункту гледжаньня права КГБ не мог нічога на гэта адказаць, і толькі напрыканцы нашай "гутаркі" мяне папярэдзілі каб "пільнаваўся". Тым вечарам каб распавесьці пра маё спатканьне я пайшоў пабачыцца з Віктарам і а.Нэронам. Гэта не было для іх навіной, нядаўна іх таксама выклікалі.

Самым горшым было становішча Віктара, бо ён не працаваў. Увесь час ён траціў на душпастырскую працу, а за гэта ягоныя парафіяне дбалі аб яго матэрыяльных патрэбах. КГБ хацеў ведаць адкуль у яго грошы, калі ён не працуе. Нэрон жа і я мелі працу, я на БОФ, а ён начным вартаўнiком на будоўлі. За ўвесь час, што я ведаў Віктара, я ўпершыню бачыў яго заклапочаным. Аднак паўтарыў яму тое, што казаў у КГБ і ён прыйшоў да высновы, што мы яшчэ, верагодна, трохі папрацуем у якасьці душпастыраў.

І сапраўды, мая праца як сьвятара ў той час падвоілася. Група летувісаў, што жылі ў барачным паселішчы папрасіла мяне адпраўляць ім па нядзелях імшу. Такім чынам я па-ранейшаму адпраўляў адну імшу для палякаў у бараках былога лагера №5, потым ішоў праз горад каб адправіць другую, для летувісаў. Я атрымоўваў так шмат просьбаў аб хросьце, што ўжо не мог іх палічыць. У залежнасьці ад таго, у якой зьмене працаваў, прасіў Настасьсю, маю начальніцу, аб адгуле — толькі тады мог адолець сваю задачу. Яна ніколі не пыталася, навошта я прашу вольны дзень, хоць мяркую, што ведала гэта, але заўжды была рада мне дапамагчы.

Празь нейкі час я стаў такім занятым, што мусіў усталяваць чарговасьць нядзельных службаў. Каб даць рады ўсім запатрабаваньням, я па нядзелях сьпяшаўся ў розныя раёны горада, часам нават браў таксі каб даехаць на вул. Мядзьведзкую і адправіць другую ці трэцюю імшу. Я ведаў, што за мною сочыць КГБ, але гэта мяне не кранала. Я ведаў, што пакуль я не прасіў грошай я меў аргументы ў сваё апраўданьне. Акрамя гэтага ім не было за што чапляцца, бо мае паперы былі поўныя абарончых запісаў аб працы.

У гэты час атрымаў адказ ад маіх сёстраў, Гэлены і Эвангеліны. Пісалі аб сваёй радасьці што атрымалі мой ліст і што ўжо лічылі мяне нежывым. У Таварыстве, у Орхард Лэйк і недзе яшчэ, адправілі службу за маю душу. Сёстры прыслалі свае адрасы і загадалі пісаць ім і прасіць што мне трэба. Я прачытаў ліст і абмеркаваў яго зь Віктарам і яшчэ некалькімі людзьмі. Яны параілі мне каб напісаў. Урэшце напісаў кароткі ліст, прасіў вопратку і абутак, шкарпэткі, кашулю, пальчаткі і касьцюм. Канечне, вопратка была патрэбнай, але

на самой справе я хацеў пераканацца, што пасылка дойдзе. Паколькі Віктар атрымоўваў пасылкі з Польшчы, то быў хутчэй аптымістам. Я ж, з досьведу ў лагеры №5 ведаў, што адна справа пісаць у Польшчу, і зусім іншая — у Злучаныя Штаты.

У той час недалёка ад Нарыльску існаваў ужо толькі адзін працоўны лагер. Астатнія былі зачыненыя, а тыя вязьні, якіх не вызвалілі, выслалі ў іншыя месцы. У тым адзіным лагеры утрымлівалі толькі палітычных вязьняў, а яны ў пэўным сэнсе мелі поўную свабоду. Жылі ў лагерных бараках, але хадзілі працаваць у горад без канвою і зносліся з калегамі па працы. У 1958 г. той лагер таксама ліквідавалі, а тыя, хто яшчэ не адбыў тэрмін, былі пераведзены ў іншыя месцы. Такім чынам старыя лагеры паступова былі расфарміраваныя, а баракі прыстасаваныя пад жыльлё для працаўнікоў.

Аднак пасьля закрыцьця лагераў у Нарыльску пазаставалася мноства зладзеяў і крымінальных элементаў. Шмат хто зь іх заняўся сьпекуляцыяй, бо вельмі хутка разьвіўся чорны рынак прадуктаў харчаваньня і жыльля. Больш небясьпечнымі, аднак, былі групы якія сталі на шлях злачынстваў і гвалту. Паўсюль адбываліся рабункі і крадзяжы, амаль штодзённа здараліся забойствы. У некаторых раёнах горада вуліцы ў цёмны час былі вельмі небясьпечныя, сьмяртэльна небясьпечныя.

Напрыклад былы лагер, дзе жыло шмат нашых украінскіх парафіянаў быў аддалены на нейкія семсот пяцьдзесят метраў ад бліжэйшага аўтобуснага прыпынку. Іх дзеці, асабліва тыя, хто хадзіў у школу на другую зьмену, з двух гадзін да сямі вечара, ідучы па цёмных вуліцах заўсёды падвяргаліся небясьпецы. Скардзіліся ў міліцыю, але ў сітуацыі якая тады панавала ў Нарыльску, яна мела па шыю працы. Таму украінцы ўтварылі ўласную "міліцыю". Кожную ноч тры ці чатыры мужчыны патрулявалі найбольш небясьпечныя месцы вакол старога лагера. Калі хапалі кагосьці невядомага, які там круціўся, забівалі яго на месцы не задаючы пытаньняў. Потым выкілалі цела на сярэдзіну дарогі з папярэджаньнем, прышпіленым да грудзей, які быў знакам для іншых зладзеяў і крымінальнікаў. Гэта было жорстка, але эфектыўна.

Яшчэ ўкраінцы арганізаваліся іншым чынам. Яны былі амаль ваяўніча рэлігійнымі. Сутаргава трымаліся рэлігіі, як часткі сваёй нацыянальнай спадчыны і традыцыі. У лагеры ўрачыста, як рэлігійныя цырымоніі, сьвяткавалі шлюбы і хросты. А калі памёр адзін зь іх лідэраў, устроілі пышнае пахаваньне, з хорам у дзьвесьце асобаў і вялікім, абвітым крэпам, крыжам з кветак начале жалобнай

працэсіі. З лагера накіраваліся на цьвінтар наўпрост праз галоўную вуліцу, сьпяваючы "Сьвяты Божа" так голасна, як змаглі. Шэсьце, затрымаўшы транспарт рухалася вуліцай Окцябрскай, з крыжам і хорам уперадзе, потым людзі несьлі труну і за ёй ішоў натоўп. Людзі, што знаходзіліся на тратуарах галоўнай вуліцы, Окцябрскай, былі ўражаныя такой вялікай рэлігійнай дэманстрацыяй.

На цьвінтары ўкраінцы адсьпявалі ўсю жалобную цырымонію, потым працэсіяй вярнуліся ў дом нябожчыка на традыцыйныя хаўтуры і каб выразіць спачуваньне. Потым было сьледзтва з боку КГБ з мэтай выкрыць арганізатараў гэтай урачыстасьці. Шматкроць выклікалі а.Віктара, бо ведалі, што ён працаваў сярод украінцаў. За правядзеньне гэтай, як называў КГБ "падрыўной дзейнасьці" і "агітацыі", яго строга дапытвалі і пагражалі.

Віктар вельмі занепакоіўся. Пачаў абдумваць, ці не лепш яму было б пакінуць Нарыльск. Я прасіў яго трохі пачакаць, бо ў Нарыльску ён мог зрабіць столькі добрага, што было варта рызыкнуць.

Вясна 1956 г. Уладзіслаў атрымаў ад дырэктара, чыё памяшканьне займаў, тэлеграму. Той паведамляў, што неўзабаве зьбіраецца вяртацца і каб Уладзіслаў пачаў шукаць сабе новае жыльлё. Я, дзякуючы Віктараваму сябру, нямецкаму механіку Гансу, амаль адразу ж знайшоў тады месца ў адным з тых невялікіх панурых паселішчаў збоку ад Окцябрскай. Ганс перасяліўся ў жыльлё свайго шэфа ў трохпавярховым доме на Севастопальскай, у новай частцы горада. Шэф меўся ехаць у Маскву, а пасьля вяртаньня атрымоўваў права заняць жыльлё ў новым доме. Таму Ганс і яго жонка Маргарыта ахвяравалі мне свой балок з усім сьціплым мэбляваньнем. Я быў вельмі задаволены, бо амаль цэлы год мог жыць асобна. Наступнай раніцай пераехаў туды. Калі закончыў зь пераездам, захацеў перад выхадам на працу крыху падрамаць і ў вопратцы выцягнуўся на ложку. У пакоі было холадна, бо Ганс выехаў на пару дзён раней, а мне не хацелася распальваць агонь. Калі пазьней Ганс прыйшоў паглядзець як я тут уладкаваўся, знайшоў мяне ляжачым на ложку. Калі паспрабаваў падняць, выявілася, што ў мяне агнявіца.

Ганс адразу паведаміў Віктару, які пасьпяшаўся з дапамогай. Калі зразумеў, што я сапраўды хворы, дамовіўся з дзьвума летувіскамі, сёстрамі, якія жылі побач зь ім, каб мною заняліся. Гэта былі тыя самыя, якія даглядалі старога грэцкага сьвятара Фаму, але стан яго здароўя так пагоршыўся, што ўрэшце ён накіраваўся ва Ўкраіну да сваякоў. Віктар і Ганс дапамаглі мне прайсьці чатыры ці пяць балкоў да месца, дзе жылі ён і летувіскі. Далі мне асьпірыну і гарачай гарбаты. Наступным ранкам мне стала лепей.

Абедзьве сястры, Ніна, пяцідзесяці трох гадоў, і Людміла, трыццаці васьмі, былі незамужнімі. Іх дамок, хоць і маленькі, быў чысьцюткі: усё было беленае, сьцяна паміж кухняй і галоўным пакоем — свежапафарбаваная. Яны клапаціліся каб я рэгулярна і добра харчаваўся, каб мая вопратка была заўсёды чыстая і каб шанаваў сваё здароўе. Хутка я адчуў сябе так добра, як не адчуваў ужо шмат гадоў.

У той час я атрымаў пасылку са Злучаных Штатаў. Гэта была вялікая скрынка ад маіх сёстраў і ў ёй два касьцюмы, два плашчы, дзьве пары абутку, кашулі, шкарпэткі і яшчэ нейкая дробязь з вопраткі. Была сутана. Я ўжо меў камплект літургічных шатаў усіх колераў, вызначаных правіламі, які зрабілі мае парафіяне, і бялізну, патрэбную для адпраўленьня імшы. Падзяліўся вопраткай зь Віктарам, які меў у ёй большую патрэбу, чым я. Ён быў задаволены, а я вельмі рады. Гэта быў доказ, што пасылкі з ЗША будуць даходзіць да мяне ў добрым стане.

Усё тое лета і восень мы, тры сьвятары, калі мелі магчымасьць, працавалі яшчэ болей. Здавалася, чым больш мы працуем, тым больш працы прыбывае. Аднак у пачатку 1957 г. мяне зноў выклікалі ў КГБ. Гэтым разам мне без выкрутаў сказалі каб спыніў сьвятарскую дзейнасьць, гэта было "апошняе" папярэджаньне. Віктар і Нэрон таксама былі выкліканыя для спыненьня сваіх "процізаконных дзеяньняў" сярод людзей. Адчулі, што для іх гэта сапраўды апошняе папярэджаньне. Вярнуўшыся дадому сур'ёзна гаварылі аб пакіданьні Нарыльску. Той ноччу мы доўга сядзелі і дыскутавалі аб нашай будучыні.

Урэшце я зь неахвотай згадзіўся, што для Віктара і Нэрона будзе лепей пакінуць Нарыльск і накіравацца ва Ўкраіну. Шмат хто з нашых украінскіх парафіянаў ужо вярнуліся да сваіх хатаў і зь іхных лістоў вынікала, што патрэбы на сьвятароў там амаль такія ж, як і ў Сібіры. Віктар і Нэрон лічылі, што для іх нашмат больш сэнсоўным будзе вярнуцца і служыць вернікам ва Ўкраіне, чымсьці быць цкаванымі, а можа нават арыштаванымі за сваю зухаватасьць тут, у Сібіры.

Паводле гэтых меркаваньняў а.Нэрон неўзабаве выехаў. Вярнуўшыся ва Ўкраіну ён павінен быў паведаміць Віктару аб тамтэйшых варунках і аб тым, калі да яго можна далучыцца. Віктар застаўся каб дапамагчы мне ў Пост і на Вялікдзень выканаць сьвятарскія паслугі, якія з кожным годам рабіліся больш усёпаглынальнымі, бо адны вернікі далучалі другіх. А пасьля Вялікадня 1957 г. Віктар вырашыў не чакаць весткаў ад Нэрона і выехаў ва Ўкраіну. Бадай

што гэта было для яго самым лепшым, бо яго здароўе пагаршалася, асабліва стан нерваў — пад няспынннай пагрозай умяшальніцтва КГБ.

Я быў цяпер у нястомным руху. Атрымаў у спадчыну не толькі капліцу Віктара, але і ўсю грамаду яго парафіянаў. Па нядзелях я адпраўляў імшу у малой капліцы ў восем гадзін ва ўсходнім абрадзе, а ў дзесяць — у лацінскім. Перад кожнай імшой адбывалася споведзь, а пасьля яе — хросты і шлюбы. Калі выпадала магчымасьць, стараўся ў нядзелю адправіць імшу ў былым лагеры №5, альбо для ўкраінцаў у былым лагеры, што знаходзіўся за "Камбінатам".

Па нядзелях пасьля службаў я ўвесь астатні час быў заняты асьвячаючы жыльлё, хрысьцячы немаўлят, якія былі замалыя каб прынесьці іх у капліцу, удзяляючы шлюбы, разносячы хворым прычасьце і г.д. У будзённыя дні я адпраўляў імшу а шостай раніцы, потым, калі дазваляла мая зьмена на БОФ, кожны вечар сьпяваў паніхіды альбо малебен (невялікае, вельмі папулярнае літургічнае дзеяньне да Божай Маці).

Тым летам Ніна і Людміла атрымалі ліст ад сваякоў, якія прасілі іх вярнуцца ў Летуву. Апошнія тры месяцы яны рабілі мне велізарную дапамогу — даглядалі капліцу, пралі бялізну і клапаціліся аб маіх асабістых патрэбах, задаволіць якія з-за недахопу часу я сам не мог. Я сказаў ім, што калі яны захочуць выехаць, я куплю іхны балок. Яны ўжо мелі ў гэтай справе прапановы і прасіць гэты балок ў якасьці падарунка было б несумленна. Зь іншага боку я не хацеў пераяжджаць у балок Віктара, бо заняў бы тады месца, так патрэбнае ў якасьці капліцы.

Так што я і абедзьве сястры пайшлі ў ЗКУ (кватэрная картора), я запоўніў дакументы і балок запісалі на маё прозьвішча. Потым я дапамог ім запакавацца і, вельмі шкадуючы што яны ад'яжджаюць у Летуву, правёў іх на вакзал. Кіраўнік хору, Людвік, і яго жонка запрасілі мяне харчавацца зь імі і я быў вельмі задаволены, бо дзякуючы гэтаму атрымаў больш часу, патрэбнага на працу зь людзьмі.

Крыху пазьней да мяне прыйшла зьніякавелая група людзей і спыталася, што я за сьвятар. Я адказаў, што каталіцкі сьвятар усходняга абраду. Самі яны былі праваслаўнымі, але бачылі маю працу сярод людзей і прыйшлі з прапановай будаваць праваслаўную царкву. Яны былі гатовыя прасіць у Масквы дазволу, але патрэбен быў пастыр і яны хацелі маёй дапамогі. Я быў амаль упэўнены, што Масква гэтага ніколі не дазволіць, таму папярэдне згадзіўся на іх прапанову і сказаў каб пісалі.

Празь некалькі дзён мяне выклікалі ў КГБ і спыталіся чаму пасьля такіх строгіх папярэджаньняў я "агітую людзей". Я сьмела адказваў, што нікога не агітую, людзі прыйшлі да мяне самі і прасілі быць іхнім сьвятаром.

— Пакуль гэта не супярэчыць закону, — адказаў я, — не буду адмаўляць у дапамозе нікому. Яны напісалі ў Маскву просячы дазволу, то чаму я павінен ім адмаўляць?

Потым мы крыху пагутарылі аб адрозьненьнях паміж Каталіцкай Царквой і праваслаўнай. КГБ прапанаваў мне напісаць для мясцовай газеты артыкул аб рэлігіі, падаючы падрабязную інфармацыю аб Царкве і спосабах яе дзеяньняў. Не ведаю дакладна, што за гэтым хавалася. Можа спрабавалі скарыстацца тым артыкулам каб высьмеяць рэлігію і паказаць маладым камсамольцам якія дзіўныя і падазроныя гэтыя абрады Царквы. А можа хацелі выклікаць уражаньне, што я адарваўся ад рымскай Царквы і зараз зьяўляюся незалежным аўтарытэтам у рэлігійных справах. У кожным выпадку я быў упэўнены, што яны маюць на мэце нешта кепскае.

Я даў ім некалькі назваў кніжак, зь якіх яны здолелі б даведацца аб Царкве і яе абрадах. І сказаў:

— Ніякіх артыкулаў пісаць не буду.

Нашая гутарка закончылася грознай перасьцярогай каб спыніў свае рэлігійныя дзеяньні.

— Не хочам вас ужо больш асьцерагаць, — сказалі, — але калі не спыніцеся, прымем такія крокі, якія палічым патрэбнымі.

Натуральна, людзі пра гэта не ведалі нічога. Нават калі вярнуўся з канторы КГБ і застаў ля майго балка некалькі чалавек, што цярпліва чакалі вяртаньня каб дамовіцца аб хрышчэньні, я не здолеў распавесьці, што па загаду ўладаў не маю права ім дапамагаць, а запісаў іх прозьвішчы і адрасы ў нататніку. На тым тыдні я працаваў у дзённай зьмене на БОФ, таму дамовіўся, што наведаю іх наступным вечарам, у суботу.

Зь пяці дамоўленых спатканьняў тры былі ў розных частках Нарыльску, але два — далёка ў гарах на Мядзьведзкай. Так што ў суботу адразу пасьля працы я ўдзяліў два хросты ў Нарыльску, потым злавіў таксі каб ехаць на Мядзьведзкую. Пачынаўся моцны сьнегапад, але пасьпеў своечасова. Пасьля тых хростаў яшчэ адна сям'я хацела ахрысьціць дзіця, але я, папрасіўшы прабачыць, сказаў што маю яшчэ адзін візіт у Нарыльску. Яны малілі мяне каб прыехаў яшчэ гэтым вечарам, абяцалі заплаціць за таксі ў абодва бакі, так прасілі, што я ўрэшце пагадзіўся.

Аднак па дарозе таксі засела ў сьнезе і я на дзьве гадзіны спазьніўся зь візітам у Нарыльску. Потым зноў паехаў на Мядзьведзкую. Кіроўца таксі ўзяўся везьці наўдалую і давёз толькі да паўдарогі на гару. Мусіў рэшту ісьці пехатой і прыйшоў да іх у дзьве ночы, але мяне чакалі. Самае горшае з усяго гэтага было тое, што была ноч з суботы на нядзелю. Толькі ў пяць раніцы, пешшу, я дабраўся да Нарыльска, якраз тады, калі трэба пачынаць споведзі перад нядзельнымі набажэнствамі.

Той зімой я быў так заняты, што фактычна не распальваў печы ў сваім балку. Калі быў дома, уключаў толькі электрычны абагравальнік і карыстаўся ім як для абагрэву, так і для гатаваньня ежы. Таксама той зімой мне напісалі сёстры і паведамілі, што скантактаваліся з Дэпартаментам Штата і што амэрыканская амбасада ў Маскве робіць спробы забраць мяне з Расеі. Гэтая думка узбудзіла маё процідзеяньне, але доўга я на ёй не спыняўся. Я адчуваў, што маё прызначэньне — выкарыстаць жыцьцё, робячы тут у Расеі ўсё што здолею для маіх авечак, каторыя, як сказаў наш Госпад, былі без пастыра. Хай КГБ робіць тое, што "вымушаны". Маім пастырам зьяўляецца Госпад і Ён даказаў гэта. Да таго ж, гледзячы на гэта з чалавечага пункту гледжаньня, чыноўнікі КГБ не аднойчы пагражаючы альбо угаворваючы казалі мне, што я ўжо ніколі не ўбачу Амэрыку. Я быў гатовы ім верыць. Пасьля атрыманьня вышэйзгаданага ліста ад маёй сястры Гэлены, дзе яна пісала, што спрабуе зьвязацца з Дэпартаментам Штата, я вырашыў дакладна даведацца які ў мяне прававы статус і папрасіць міжнародны пашпарт. У Нарыльску было некалькі кітайцаў і іншых асобаў з такімі пашпартамі і вось я напісаў у Краснаярск, у сядзібу ўладаў вобласьці (акругі).

"Не лічу сябе расейскім грамадзянінам, — пісаў я, — і прэтэндую на нешта большае, чым статус разьняволенага вязьня, пазбаўленага ўсялякіх грамадзянскіх правоў.

Праз некалькі дзён мяне выклікалі ў МВД і спыталі, ці пісаў я ў Краснаярск наконт пашпарта. Адказаў, што так.

— Краснаярск нам паведаміў, — сказаў агент, — што вы не маеце патрэбу ў міжнародным пашпарце, бо лічыцеся расейскім грамадзянінам.

— На якой падставе? — запытаўся я. — Не маю пашпарта, не магу вольна перамяшчацца з месца на месца...

— Ну, што ж, — адказалі мне, — можам даць вам расейскі пашпарт.

— Мне не трэба расейскі пашпарт, — адрэзаў я. — Калі б я ўзяў такі пашпарт, тым самым прызнаў бы сябе расейскім грамадзянінам і страціў бы амэрыканскае грамадзянства.

— Якая вам розьніца? — суха адказалі мне. — Вы ні ў якім разе не вернецеся ў Амэрыку.

Я паверыў у гэта і працягваў верыць. Аднак пасьля таго часу шмат што зьмянілася. Хрушчов перад дваццатым зьездам партыі агалосіў прамову, якая выкрывала злачынствы Сталіна, а ў Нарыльску на вялікіх прадпрыемствах, такіх як БОФ і іншых, пры зачыненых дзьвярах, перад арганізацыямі і рабочымі калектывамі быў прачытаны напаўсакрэтны ліст. Ён утрымліваў частковае выкрыцьцё "культу асобы Сталіна ", а ўвесь тон ліста гучаў абяцаньнямі рэформаў і лепшых умоваў у будучым.

Усе на тых сходах ведалі што ўяўляе сабой сталінскі рэжым — скрыты тэрор, стук апоўначы ў дзьверы, міліцэйскія акцыі без суда і г.д. Але ўвогуле кажучы, рабочыя былі тым лістом вельмі ўзбадзёраныя, нават я, пачуўшы яго адчуў, быццам вялікі цяжар вызваліў маё сэрца. У тых, хто слухаў ліст адчуваліся зьмены жыцьцёвых пазіцый. Пасьля сходу людзі ў невялікіх групах з аптымізмам размаўлялі аб новай эры, аб больш ліберальнай лініі. Цяпер, калі мая сястра напісала аб імкненьні амэрыканскай амбасады вызваліць мяне, я на хвіліну адчуў уздым. Але я меў сваю працу і людзей, аб якіх мусіў дбаць, таму хутка цалкам забыўся пра гэта.

Аднак праз некалькі дзён пасьля атрыманьня ліста ад маёй сястры ў мой балок прыйшоў міліцыянт і запатрабаваў паказаць пашпарт.

— Няма, — адказаў я. — Усё што маю, гэта пасьведчаньне асобы, выданае міліцыяй.

— Вы павінны мець пашпарт, — адрэзаў той. — Прыходзьце ў камісарыят і паклапаціцеся аб гэтым.

Калі я празь нейкія два дні прыйшоў у картору МВД, мне пачалі задаваць розныя пытаньні і загадалі запоўніць фармуляр. Я адразу зразумеў — яны штосьці задумалі, бо наша спатканьне ўсё больш станавілася падобным на допыт, а не на звычайныя клопаты аб пашпарце.

— Чаму вы так хочаце быць амэрыканцам? — спытаўся чыноўнік.

І адразу пачаў выхваляць камунізм.

— Вельмі добра, — адпарыраваў я. — Гляньце калі ласка на Нарыльск! Гэта прыклад камунізму? Людзям няма дзе жыць, жывуць

у мазанках, за прадуктамі вымушаныя гадзінамі стаяць у чэргах. Што гэта за жыцьцё?

Гэта яго раззлавала. Абвінаваціў мяне ў песімізме і агітацыі. Я адказаў, што я не песіміст а толькі аб'ектыўны, і кожны хто выйдзе на вуліцу здолее ўбачыць тое ж самае. Спрэчка стала даволі шумнай і ён нарэшце адкінуў маску. Сказаў, што ўсё ведае аб маёй працы ў Нарыльску, што ведае мае пахаджэньні і маё мінулае, ведае, што я — шпіён Ватыкану!

— Так што не кажы мне ні пра якую аб'ектыўнасьць! — выкрыкнуў мне ў твар.

Урэшце мы вярнуліся да пашпартнай справы. Ён сказаў мне, што без пашпарта я не здолею нічога зрабіць і нікуды не здолею зьвярнуцца, але апошняе рашэньне належыць Краснаярску.

— Пакуль што, — сказаў ён, — мы можам выдаць вам часовы дакумент, які ніяк не паўплывае на тое, як павернецца ваша справа, ні на ваш будучы статус, але дазволіць вам падарожнічаць і г.д.

Гэты дакумент я прыняць адмовіўся, асьцерагаючыся, што ён тым або іншым чынам будзе лічыцца расейскім пашпартам і пацягне за сабой зьмену грамадзянства на расейскае. І нават калі б гэты дакумент быў толькі часовым, то факт што я згадзіўся быць расейскім грамадзянінам азначаў бы, што я ўжо не зьяўляюся грамадзянінам амэрыканскім. Міліцыянт шматкроць запэўніваў мяне, што гэты дакумент не паўплывае на мой канчатковы статус. Усяго толькі дазволіць мне свабодна перамяшчацца, як кожнаму расейскаму грамадзяніну, і тады я здолею асабіста вырашаць свае справы ў Краснаярску. Урэшце рэшт я згадзіўся, запоўніў фармуляр і падпісаў патрэбныя паперы. Ён выдаў мне так званы "Краткосрачный Паспорт" (часовы пашпарт).

Калі прыйшоўшы дадому я паказаў пашпарт сябрам, тыя пачалі сьмяяцца.

— Ну, Уладзімір Марцінавіч, — сказаў адзін зь іх, — урэшце вас злавілі! Гэта расейскі пашпарт і ён робіць вас расейскім грамадзянінам. Цяпер ужо адсюль не вырвецеся!

— Яны гэта растлумачылі не так, — адказаў я і далучыўся да агульнага сьмеху.

Ва ўсялякім разе я не быў гэтым асабліва засмучаны. Я не меў ніякіх планаў адпраўляцца кудысьці. Занадта шмат працы было ў Нарыльску і якраз набліжаўся Вялікі Пост і Вялікдзень.

Той Вялікі Пост у 1958 г. быў адным з найбольш працаёмкіх перыядаў, якія мне прыйшлося перажыць як сьвятару. У мінулыя гады нас, сьвятароў, было тут трое, а з кожным годам колькасьць

вернікаў павялічвалася. У 1957 г., пасьля ад'езду Нэрона быў яшчэ Віктар, цяпер жа я быў цалкам адзін, а працы было болей чым калі - небудзь раней. Вялікдзень ва ўсходняй літургіі зьяўляецца самым важным сьвятам і нават яшчэ сёньня людзі адзначаюць яго ў дамах з такой вялікай пышнасьцю і цырымоніямі, як толькі магчыма. Кажуць, нават прырода ў тыя сьвяточныя дні прымае сьвяточны выгляд.

У час Посту паводле звычаяў не было шлюбаў, але мяне вельмі часта прасілі наведаць цьвінтары каб адсьпяваць паніхіды над магіламі, а ўвесь свой вольны час я траціў на слуханьне споведзяў і ўдзяленьні хросту. У Вербную Нядзелю я адправіў тры імшы з казаньнямі на кожнай і абх'явіў, што поўная цырымонія Вялікага Тыдня адбудзецца пачынаючы зь Вялікага Чацьвярга ў капліцы. Пасьля службаў у Вербную Нядзелю вакол мяне зьбіраліся людзі каб вызначыць тэрміны асьвячэньня велікодных страваў.

Гэта цудоўная традыцыя ў Расеі і ў славянскіх краінах. У Вялікую Суботу і Велікодную Нядзелю людзі прыносяць у царкву для асьвячэньня кошыкі зь ежай, а малітвы пры асьвячэньні ў час літургіі надзвычай прыгожыя. Кошыкі напоўнены каляровымі маляванкамі, маслам, салам (падобна на грудзінку), пірагамі з розным накрыпаньнем, соладдзю і аладкамі. Але перш за ўсё там павінна быць пасха, адмыслова, зь вялікай колькасьцю яек і пакрыты цукровай палівай, выпечаны пірог, упрыгожаны крыжыкамі і велікоднымі ягняткамі з цукру. Гэта галоўная ежа, якую ўжывае сям'я пасьля велікоднага набажэнства. Велікодны кошык — гэта неразьдзельная частка традыцыі, бо каб як належыць адзначыць Сьвята, людзі вельмі строга посьцяцца ўвесь Вялікі Тыдзень, зусім не ўжываючы мяса.

З-за таго, што тым годам я быў адзін а працы шмат я, для арганізацыі асьвячэньня велікодных кошыкаў, утварыў з мужчынаў камітэт. У асобным нататніку мы намалявалі план Нарыльска, вызначылі пункты збору і час асьвячэньня, каб кожны, хто не здолеў прыйсьці ў капліцу мог для асьвячэньня велікодных страваў спаткацца са мною. Калі ўсё гэта больш-менш вызначылі, я падлічыў, што буду вымушаны пачаць у Вялікую Пятніцу а пятай гадзіне пасьля апоўдня і працаваць безь перапынку, тады магчыма скончу своечасова, перад велікоднай сьв. імшой.

Уладкаваў справы на БОФ каб не зьяўляцца ад чацьвярга да серады пасьля сьвятаў. Прыяцель, лекар, выпісаў мне пасьведчаньне, якое сьцьвярджала што я павінен "адпачыць", а Настасься, якая ведала ў чым справа, з радасьцю на гэта згадзілася. У Вялікі Чацьвер, адразу пасьля імшы я накіраваўся ў Каерхан адправіць імшу і там. Потым асьвяціў стравы, якія стаялі ў адным з пакояў барака (а было

іх столькі, што хапіла б напоўніць цэлы вагон!), гадзінамі слухаў споведзі і наведаў столькі дамоў, колькі здолеў, асьвячаючы жыльлё — яшчэ адзін традыцыйны велікодны звычай.

Усю Вялікую Пятніцу, зноў у капліцы, я выслухаў велізарную колькасьць велікодных споведзяў, гэтак жа я рабіў на тым тыдні кожны вечар пасьля працы. У пятніцу вечарам я пасьля вялікапятнічнага набажэнства разам зь Людвікам пайшоў на абход горада. Праходзячы горад мы павінны былі ўвесь час ісьці пехатою, наведваючы на перыферыі розныя паселішчы з буданоў. Паўсюль, куды мы прыходзілі, нас віталі, бо людзі чакалі да позьняй ночы і нават да сьвітанку. Прайшлі шмат, увесь час было вельмі холадна.

Здолелі зь Людвікам вярнуцца ў капліцу раніцай у суботу, ужо перад імшой а шостай гадзіне. Каб мець месца падчас набажэнства наконадні Вялікадня паблізу ахвярніка, людзі чунялі там усю ноч. Шмат зь іх каб быць бліжэй да ахвярніка засталіся ў капліцы пасьля вялікапоснага набажэнства ажно да велікоднай імшы ў поўнач, цэлы дзень нічога не еўшы. Пасьля суботніх набажэнстваў я зноў пачаў свой абход, вяртаючыся ў капліцу кожныя некалькі гадзін для асьвячэньня кошыкаў са стравамі, якія запаўнялі мой невялікі балок ад сьцяны да сьцяны. Кожны раз прыходзілі новыя.

Натуральна, усё гэта не магло адбывацца патаемна. Натоўпы былі занадта відочныя. Людзі мне паведамілі, што ў капліцы пару разоў была міліцыя і пыталася мяне, але вернікам не перашкаджалі і не зьвярталі ўвагі на кошыкі зь ежай. На шчасьце нашы дарогі разьмінуліся і ў той дзень я зь міліцыяй не спаткаўся.

А палове дванаццатай вечара ў суботу я нарэшце быў дома, але не мог дабрацца да капліцы. І калідор і мой уласны балок былі перапоўненыя, натоўпы людзей стаялі нават звонку, на холадзе. Там жа была і міліцыя, але я яе праігнараваў. Не было месца каб паварушыцца, але апоўначы я ўжо быў ва ўборах, хоць не мог падняць рук — хтосьці дапамог мне ўсьцягнуць шаты праз галаву і падрыхтавацца да імшы. Ахвярнік быў устаўлены кветкамі і сьвечкамі, а Людвік на гэты выпадак дамовіўся зь вядомым старым хармайстрам Анатолем, і для сьпеваў у час набажэнства ў нас быў вышкалены хор.

Калі ён засьпяваў урачысты пачатак велікоднай імшы, я думаў капліца разваліцца ад гуку. Тая імша перш за ўсё радасная і запал людзей у тую ноч застанецца для мяне незабыўным. Я, хоць быў зьнясілены сарака васьмю гадзінамі без сну і спробамі паўсюль пасьпець, адчуў сябе ўзьнесеным ад шчасьця. Апрача велікоднай імшы і радасьці ўсё забылася.

Усю ўрачыстасьць прысутнічала МВД. Анатоль, стары хармайстар, пазьней распавёў мне як моцна ён спачатку баяўся, што ўсіх арыштуюць.

— Але вы зусім не выглядалі занепакоеным, — пахваліў ён мяне.

Так і было. Ад самага пачатку імшы я зусім не зьвяртаў увагі на міліцыю. Быў цалкам паглынуты радасьцю. Агалосіў кароткае казаньне аб велікоднай радасьці, але раздаць прычасьце было немагчыма, бо ніхто не мог паварушыцца. Гэта трэба было рабіць пасьля імшы. Набажэнства цягнулася да трох гадзінаў раніцы, але яшчэ ў дзевяць гадзін я раздаваў прычасьце безупынна падыходзячым людзям. Чуў звонку шум натоўпу, які ішоў велікодным заранкам дадому, выгукваючы традыцыйнае велікоднае вітаньне "Хрыстос воскрэс!" (Хрыстос васкрос!) і радасны адказ "Воісцінно воскрэс!" (Папраўдзе ўваскрос!).

Калі ўсё скончылася, я адзін вярнуўся ў свой пакой і сеў за невялікі стол у маім балку абсалютна зьнясіленым. Але быў глыбока шчасьлівым. Адведаў такой радасьці, якую рэдка адчуваў. Я адчуў, што нарэшце пад рукой Божага Наканаваньня пачаў жыць так, як марыў — служачы Ягоным авечкам у Расеі. "І гэта ўсё, — бліскавіцай мільганула ў маёй галаве думка, — гэта ўсё адбываецца ў Расеі, у Нарыльску!".

Ачуняў ад таго, што Людвік трос мяне за плечы. Пакой быў поўны людзей, шчасьлівых людзей, якія раз-пораз паўтаралі "Хрыстос воскрэс! Воісцінно воскрэс!" Усе наперабой сьмяяліся і крычалі, а мне сказалі апрануцца і прыйсьці на ўрачыстасьці. Так што пасьля апоўдня я пайшоў да Людвіка на традыцыйны велікодны абед — з пасхай пасярэдзіне стала і асьвечанымі стравамі наўкола. Разам з Анатолем і яго жонкай нас было каля васьмі асобаў. Абед мы пачалі з традыцыйнага велікоднага трапара (трохкротнага гімна), а потым заселі, дзелячыся пасхай і ўсе наперабой гаварылі аб радасьці гэтага дня.

Назаўтра, паводле расейскага звычаю быў таксама сьвяточны дзень — і яшчэ велікодны аўторак. У тыя дні я адпраўляў службы для мася людзей і штовечар сьпяваў урачыстыя вячэрні — таксама для натоўпаў. У сераду вярнуўся на працу ў БОФ. Дзяўчаты з маёй зьмены зьзялі, некаторыя зь іх нават удзельнічалі ў сьвяточных службах. Мы ўвесь час спынялі працу і гутарылі пра Вялікдзень.

У час аднаго з тых перапынкаў, каля дзесяці гадзін, прыбегла адна зь дзяўчат і сказала:

— Уладзімір, вас клічуць у кантору.

Яе выгляд зьбіў мяне з панталыку. Я зразумеў у чым справа. Калі ўвайшоў у кабінет дырэктара, мяне сустрэлі два міліцыянты. Адзін зь іх, нізкі і плячысты, зь невялікімі вусамі і бяльмом на левым воку, груба зьвярнуўся да мяне:

— Уладзімір Марцінавіч?

— Да, — адказаў я.

— Апраніцеся і ідзіце з намі.

Пытацца куды было не патрэбна.

Агент з вусамі чакаў калі я апрануся. Пайшлі проста да новай сядзібы КГБ у новай частцы горада, на Севастопальскай. Там у пярэднім пакоі я чакаў амаль паўгадзіны, потым той самы агент правёў мяне праз некалькі пакояў у вялікі кабінет. Там знаходзіўся вялікі чорны пісьмовы стол, ярка асьветлены праз чатыры шырокія вакны. За ім, абапіраючыся рукамі і строга пазіраючы на мяне, стаяў высокі прыгожы службовец, чорнавалосы і чорнавокі, вельмі смуглявы.

Я мойчкі падыйшоў да стала. Ён холадна мяне разглядаў, нарэшце рэзка кінуў:

— Уладзімір Марцінавіч, ваша місійная праца тут, у Нарыльску, непатрэбная. Разумееце?

— Да.

— Маеце дзесяць дзён каб пакінуць Нарыльск, — паведаміў ён, — і не думайце калі-небудзь сюды вярнуцца. — Перапыніўся, а потым для падмацаваньня сваіх слоў пачаў хлопаць далоньню па стале. — Калі паспрабуеце вярнуцца, будзеце арыштаваныя і пазбаўленыя волі. Я зьяўляюся тут шэфам КГБ і атрымаў такі загад.

Я нічога не гаварыў, а толькі глядзеў на яго. Пасьля доўгай паўзы ён, зноў вельмі холадна, сказаў:

— Можаце ісьці.

Я выйшаў і агент МВД, які эскартаваў мяне з БОФ, завёз да адміністрацыйнага будынку на Камсамольскім пляцы, дзе знаходзіўся камісарыят міліцыі, гарадская адміністрацыя і яшчэ турма. Завёў мяне ў кабінет на пятым паверсе і запрасіў сесьці.

— Бачыце, — сказаў мне, — мусіце на працягу дзесяці дзён пакінуць горад. Калі здарацца цяжкасьці з квітком на самалёт, патэлефануйце мне на гэты нумар.

І даў мне карту з нумарам тэлефона.

— На працягу двух-трох дзён, — дадаў яшчэ, — разьлічыцеся з БОФ і здайце працу.

— А што з маім балком? — спытаўся я. — Трэба час каб яго прадаць.

— Не, вы яго не прадасьцё, — цьвёрда адказаў ён. — Балок належыць ураду. Цяпер мы будзем час ад часу правяраць ці выконваеце вы нашы загады.

Чакаў, што буду пярэчыць, але я не сказаў нічога.

— Акрамя таго, — сказаў далей, — вы павінны паехаць у Краснаярск і там зьявіцца ў МВД. Спыніцеся ў гатэлі "Север", і яшчэ вам забаронена разьвіваць рэлігійную дзейнасьць сярод людзей. Праз дзесяць дзён я асабіста адвязу вас у аэрапорт.

І зноў пачаў чакаць майго каментару ці пярэчаньня. А я зноў нічога не сказаў. Калі выйшаў зь яго канторы, было ўжо пасьля апоўдня, таму я пайшоў не ў БОФ а дадому.

Тым вечарам распавёў пра "інтэрвію" Людвіку і некалькім блізкім сябрам. Яны былі зломленыя. Сярод вернікаў разышлася вестка, што капліца хутка будзе зачынена. Наступным днём на працы я адразу накіраваўся да маёй начальніцы Настасьсі Мікалаеўны. З-за асьцярожнасьці яна нічога не сказала пра КГБ, але выразіла шкадаваньне што я іх пакідаю і паабяцала зрабіць усё, што здолее, каб мне дапамагчы. У маіх персанальных паперах не запісала "МВД", як яны мабыць спадзяваліся, а проста адзначыла, што звольнены. Гэта значыла, што буду мець магчымасьць атрымаць добрую працу ў тым месцы, дзе аб ёй паклапачуся.

Вечарам Людвік і іншыя парафіяне прыйшлі абмеркаваць, што рабіць з капліцай. Я ж хацеў яе замкнуць і адаслаць усё абста-ляваньне і начыньне а.Віктару, бо капліца знаходзілася ў яго балку. Але людзе прасілі мяне пакінуць капліцу такой, як ёсьць. Прынамсі будзе месца для малітвы і сходаў вернікаў. Урэшце я на гэта пагадзіўся. Усю мэблю, што меў у сваім балку, раздаў парафіянам. Пазбавіўшыся ўсяго, прыйшоў у жыльлё Людвіка і яго жонкі.

Увесь час з разьвітальнымі візітамі прыходзілі людзі. Шмат было раззлаваных тым, што адміністрацыя "пазбаўляе нас апошняга сьвятара". Насуперак перасьцярозе МВД я, каб дадаць людзям надзеі, ажно да выезду штодзённа адпраўляў імшу і агалошваў кароткія казаньні. Слухаў споведзі, хрысьціў, адведваў хворых і на працягу тых некалькіх апошніх дзён рабіў усё, аб чым мяне прасілі.

Спрабаваў купіць авіяквіток да Краснаярска, але дастаць не здолеў. Як звычайна, усе былі прададзеныя. Каб яго атрымаць я асабліва не напружваўся, бо лічыў, што калі ўжо яны хочуць каб я зьехаў, то хай самі аб гэтым і непакояцца. Ну і, натуральна, на восьмы дзень мяне адшукаў агент МВД.

— Што зь квітком на самалёт? — спытаўся ён.

— Не было ў продажы, — адказаў я.

Нахмурыў бровы і едка спытаўся:

— Чаму не патэлефанавалі мне?

— Бо вы ж ведаеце аб гэтым, — адказаў я, — і акрамя таго ніхто не можа дастаць квіток за такі малы час.

— Паслухайце, — сказаў ён, — дайце мне чатырыста шэсьцьдзесят рублёў на квіток і чакайце. Прынясу вам квіток.

Надвячоркам прыйшоў з квітком. Па загадах МВД важнае рэзерваваньне адмяняецца. Калі месца спатрэбіцца каб выканаць загад, то месца знойдзецца.

У канцы дня пайшоў на пошту ў Нарыльску папрасіць пераслаць мне лісты і пасылкі. Чыноўніца спыталася мяне:

— Ваша прозьвішча — Ліпіньскі?

Я завагаўся.

— Навошта вам? — спытаўся яе.

— Ці гэта ваша прозьвішча? — настойвала яна.

— Так, — адказаў я, — у мяне падвойнае прозьвішча.

— А я для вас нешта маю, — хутка сказала яна, пашукала ў шафах і ўрэшце знайшла два тоўстых канверты ад амэрыканскай амбасады з заўвагай "Special Delivery"і пячаткай амбасады. Яны не былі расьпячатаныя, але мяркуючы па даце адпраўленьня знаходзіліся на пошце ў Нарыльску не меней дзесяці дзён. Паштарка вельмі прасіла прабачэньня, бо на канвертах была пячатка "Special Delivery", і запытала ці падпішу я пацьверджаньне атрыманьня без скаргаў. Я падпісаў. Калі выйшаў з канторы і распакаваў карверты, то знайшоў там дакумент, які ўпаўнаважваў мяне прыбыць у амэрыканскую амбасаду ў Маскве і ліст з просьбай дабіцца выязной візы. ("Зараз гэта немагчыма " — падумаў я.) Мяне прасілі пацьвердзіць атрыманьне ліста і паведаміць месца, дзе я буду клапаціцца аб візе.

У той вечар я напісаў пацьверджаньне атрыманьня ліста і паведамляў, што буду спрабаваць атрымаць візу ў Краснаярску. Я лічыў сябе абавязаным перад маімі сёстрамі прынамсі пачаць спробы атрымаць візу, хоць ведаў, што ўсё дарэмна. І для большай упэўненасьці ў той самы вечар зьявіўся ў МВД каб паказаць ліст з амбасады майму вусатаму сябру, які мяне перасьледваў.

Гэта не зрабіла на яго ніякага ўражаньня.

— Гэтая справа належыць не нам, — сказаў ён. — Вазьміце гэта ў Краснаярск.

Ён думаў толькі аб адным і зьвязана гэта выслявіў:

— Зьявімся каб забраць вас заўтра раніцай дакладна ў дзесяць гадзін, будзьце гатовы да ад'езду.

Я выйшаў адтуль і накіраваўся на невялікі разьвітальны прыём да Людвіка, настрой ва ўсіх тым вечарам быў кепскі.

Назаўтра раніцай я адправіў сваю апошнюю імшу ў Нарыльску. Невялікая капліца была перапоўненай, пасьля імшы я раздаў прычасьце і афіцыйна разьвітаўся з маімі парафіянамі. Вярнуўся ў дом Людвіка і яго жонкі на сьняданак. Гэта было 13 красавіка 1958 г. Было вельмі холадна. Дакладна ў дзесяць гадзін перад уваходам спыніўся "Джып". Я бачыў, як адтуль вылез агент і, перш чым ён здолеў увайсьці ў жыльлё, сустрэў яго з багажом у руцэ. Мы паехалі праз пляц Леніна, потым павярнулі налева, на Окцябрскую. Я са смуткам глядзеў на зьнікаючы з вачэй горад.

З 1946 г. гэта быў, аднолькава і для вязьня і для сьвятара, "мой край", і я пакідаў яго ў вельмі прыгнечаным стане. Я думаў аб людзях, якіх пакінуў тут, засмучаны думкай, што ўжо не здолею зрабіць для іх нічога болей, як толькі даручыць іх Богу. За сябе я не баяўся. Усю сваю веру і надзею я зьвязаў зь Ім і Яго Боскай Воляй. Калі мы ехалі па засьнежаным краі, я раз-пораз паўтараў: "Будзь воля Твая".

## Краснаярскі досьвед

"Надежда" (Надзея), аэрапорт які абслугоўвае яшчэ і Дудзінку, знаходзіцца недзе ў трыццаці пяці кіламетрах ад Нарыльску і падарожжа "Джыпам" доўжылася больш за гадзіну. Сам порт не ўражвае. Яго трохпавярховы прадаўгаваты будынак, пабелены гэтаксама як і большасьць баракаў, якія я будаваў калі быў вязьнем. Празь сьнег яго цяжка было разгледзець. Я заняў месца ў зале чаканьня, а агент пайшоў у бюро, бо квіток, які ён "закупіў" для мяне, быў не на гэты дзень. Праз дваццаць хвілін ён вярнуўся з квітком на бліжэйшы рэйс да Краснаярска.

Калі я сеў у самалёт, то ўзрадаваўся, што маё месца ля ілюмінатара. Цяпер, калі запрацавалі рухавікі і я ўжо быў "упэўнена" ў дарозе, я ўбачыў як агент вярнуўся ў будынак. Гэта быў першы палёт у маім жыцьці і калі мы каціліся па стартавай паласе, я адчуў цяжар на сэрцы, а потым, як самалёт адарваўся ад зямлі — халодныя дрыжыкі ўздоўж сьпіны. Я адкінуўся ў крэсьле і заплюшчыў вочы, імкнучыся зусім не варушыцца. У галаве я адчуваў гук рухавікоў і вушы мае, здавалася, лопаліся.

Калі гук матораў крыху памякчэў і самалёт выраўняўся, я выглянуў праз ілюмінатар — якое цудоўнае відовішча! Пад намі раськінуўся суровы краявід поўначы зь вяршынямі гор, што

ўзьнесьліся над белым абрусам сьнегу. Не было відаць ніякіх расьлін, адна толькі бель і дзіўная аднастайнасьць. Я глядзеў на гэта са страхам, потым зноў заплюшчыў вочы і адкінуўся ў крэсьле, спадзеючыся, што непрыемнае адчуваньне ў страўніку зьнікне.

Чым далей мы ляцелі, тым больш я адчуваў зьмены клімату, а ў Краснаярску, упершыню за дванаццаць гадоў, адчуў цёплую пяшчоту веснавога дня. Быццам рухаешся ў сьне. Падарожжа з Краснаярску да Дудзінкі ў часы панаваньня Сталіна, дванаццаць год таму, забрала больш за два тыдні, каб прыляцець назад хапіла чатырох гадзінаў.

Будынак аэрапорту не нагадваў барака, як у порце "Надежда". Гэта быў гмах з цэглы і шкла які выклікаў павагу, са зьзяючымі сходамі і вялікімі стойкамі. Я нёс дзьве валізкі, у іх быў пераносны ахвянік і асабістыя рэчы. Было так цёпла, што я ў сваім зімовым убраньні пацеў. Перад аэравакзалам узяў таксі. Паводле атрыманых інструкцый я, ажно да зьяўленьня ў сядзібе КГБ, павінен быў жыць у гатэлі "Север", так што паехаў у гатэль.

На поўдні ад аэрапорту, за гарой пад назовам "Покровка" (Вэлюм Божай Маці), проста да транссібірскага вакзала, які знаходзіцца на паўднёвым краі горада, вядзе бульвар Сталіна, галоўная вуліца Краснаярска, далей ён агінае Нікалаеўку, жылы раён на захадзе, на высокім беразе Енісея. На другім баку ракі, на яе правым беразе, знаходзіцца прамысловы раён. Паралельна бульвару Сталіна ляжыць другая шырокая вуліца, алея Леніна, дзе ў цэнтры горада знаходзіцца гатэль "Север". Гэта сяміпавярховы будынак, пакрыты амаль аранжавым тынкам, імітацыя мураванкі. Двума карпусамі далей на бульвары Сталіна, разам зь іншымі адміністрацыйнымі будынкамі Краснаярска, стаіць ратуша.

У прыёмным бюро спытаўся адміністратарку наконт пакою. Адразу спытала адкуль прыбыў.

— З поўначы, — адказаў я.

— Калі ласка, пакажыце дакумент, — папрасіла яна.

Падаў ёй мае паперы разам з карэньчыкам авіяквітка і лістом нарыльскай міліцыі. Задала мне шмат пытаньняў але, як было заведзена, ўрэшце запісала ў сваёй кнізе пашпарт і дала ключ ад пакою № 213. Кошт складаў пятнаццаць рублёў за дзень у пакоі на адну асобу і дванаццаць рублёў — на дзьве.

Было ўжо шэсьць гадзін вечара, а я ад раніцы яшчэ не еў. Рэстаран гатэля быў зачынены на рамонт. Таму я выйшаў, агледзеўся ў пошуках самай ажыўленай вуліцы і пайшоў у тым накірунку. Надвор'е было вельмі цёплым, паветра амаль як бальзам. Шпацыр быў

мне прыемны, і я не сьпяшаўся хутчэй знайсьці добры рэстаран. Недалёка ад паштовага аддзяленьня, на рагу бульвара Сталіна я знайшоў людны рэстаран "Енісей". Меню было вельмі разнастайным. Я выбраў салату, а замест звыклага капусьняка — курыную юшку, у якасьці галоўнай стравы падалі беф-а-ля-Строгонов са смажанай да хрусту бульбай і гарнірам з гародніны, і дэсэрт. Увесь абед каштаваў мне пятнаццаць рублёў.Ісьці мне не было куды, нікога ў горадзе я не ведаў, таму еў павольна, разглядаючы людзей навокал.

Пасьля абеду пайшоў у бок паштовага аддзяленьня, разглядаючы на бульвары Сталіна вітрыны крамаў. Не раздумваючы ўвайшоў на пошту і напісаў да сёстраў ліст, паведамляючы ім аб маім перасяленьні, нечаканым але мабыць не апошнім, і аб атрыманьні ад іх апошніх зьвестак. Потым запытаўся пра кантору МВД і даведаўся, што знаходжуся праз пару будынкаў ад яе. Пайшоў туды, але там было зачынена, так што вярнуўся ў гатэль.

Калі ўвайшоў у пакой, там гарэла сьвятло і быў ужо новы кватарант, малады гандляр з Калініна, што ля Масквы. Мы зь ім крыху пасядзелі, пагутарылі, а ў дзесяць гадзін пайшлі паглядзець тэлевізар. Выява была не вельмі выразнай. Пазьней паказалі фільм. Звычайна расейскае тэлебачаньне працуе толькі ўвечары. У Краснаярску, напрыклад, гэта адбывалася ад пяці да адзінаццаці гадзінаў вечара. Першая праграма была прызначаная для дзяцей, потым навуковая ці прамысловая перадача, падзеі і гутаркі на палітычныя тэмы, танцавальная музыка і ўрэшце фільм. Гандлёвай рэкламы не было. Пасьля заканчэньня трансьляцыі мы пайшлі ў бар на кухаль піва, а потым накіраваліся спаць.

Назаўтра ў дзевяць гадзін я паціху пайшоў у кантору МВД. Запытаўся кіраўніка, але яго не было. Урэшце спыніў агента, які выйшаў зь нейкага памяшканьня. Распавёў яму чаго я тут, і паказаў дакументы з амэрыканскай амбасады. Ён іх паглядзеў, а потым параіў мне пайсьці ў будынак, які паказаў па дарозе. Гэта быў Аддзел Выязных Візаў (ОВІР).

Унутры стаяў гармідар. Прачытаўшы ўсе аб'явы, я стаў у чаргу, занепакоены тым, які будзе адказ на маю просьбу зьвярнуцца ў Маскву. Раптам выйшла сакратарка і паведаміла, што чыноўнік, які займаецца нашымі справамі, наступныя тры гадзіны будзе заняты. Расчараваная чарга разышлася. Я таксама быў расчараваны, таму сказаў сакратарцы, што маю вельмі важную справу і што быў накіраваны сюды МВД. Яна спыталася аб сэнсе справы і я паказаў ёй мае дакументы разам зь лістом амэрыканскай амбасады ў Маскве.

Сакратарка зьдзівілася і папрасіла пачакаць. Праз хвіліну вярнулася і сказала, што заўтра раніцай чыноўнік прыме мяне ў першую чаргу.

Калі я павярнуўся ісьці, яна затрымала мяне і папрасіла на хвіліну зайсьці ў яе кабінет. Была дробнай кабетай з рыжаватымі валасамі і тонкімі рысамі твару. У кабінеце амаль шэптам пачала гаварыць:

— Вы сапраўды з Амэрыкі?

Адказаў ёй, маўляў, так. Яна пачала пытацца як я тут апынуўся, што з маёй сям'ёй у Амэрыцы і г.д. Напрыканцы ціха і крыху сумна сказала:

— Не дазволяць вам выехаць.

— Я пра гэта не думаю, — адказаў ёй. — Я тут таму, што мяне прыслала амбасада. Гэта трэба вырашыць з амбасадай, а не са мной.

— Усё роўна, — адрэзала яна. — Вам выехаць не дазволяць.

Назаўтра яшчэ да васьмі гадзін я прыйшоў у ОВІР. Перада мною ў чарзе ўжо былі людзі. А дзевятай гадзіне пачалася праца і маладая сакратарка першым гукнула маё прозьвішча. Калі я ўвайшоў у кабінет, яна сядзела ля свайго шэфа, лысага, панурага чалавека, у акулярах без аправы, гадоў каля пяцідзесяці. Сакратарка кінула на мяне шматзначны позірк. Я павітаў чыноўніка і ў адказ пачуў рохканьне. Прагледзеў мае дакументы, але не здолеў прачытаць па-ангельску ліст з амбасады і пайшоў зь ім у суседні пакой. Калі вярнуўся, мне нічога не сказаў, а прамармытаў пару словаў да сакратаркі. Яна падыйшла да мяне са стосам бланкаў і службовых фармуляраў, мае паперы чыноўнік забраў. Сакратарка папрасіла каб я запоўніў фармуляры за адным са сталоў у прыёмным пакоі, дадаўшы, што калі ўзьнікнуць якіясьці цяжкасьці з радасьцю мне дапаможа.

Да таго часу прыёмны пакой запоўнілі людзі розных нацыянальнасьцяў — манголы, кітайцы, японцы, летувісы, палякі, — усе дабіваліся выязной візы. За сталом побач са мной сядзеў стары чалавек, гадоў можа сямідзесяці, амаль цалкам лысы і з маршчыністым тварам. Разам зь ім ля стала была маладая, гадоў ля сарака, кабета, якую я палічыў ягонай дачкой. Аднак я не зьвяртаў на іх вялікай увагі і акунуўся ў запаўненьне фармуляраў.

Закончыў адзін і адклаў яго ў бок. Стары безцырымонна нахіліўся і прачытаў яго. Я паглядзеў на яго, а ён спытаўся, ці паляк я, ці не. Я сказаў, што паляк. Ён з пэўным гонарам паведаміў, што гаворыць па-польску, хоць зьяўляецца летувісам, а потым пачаў расказваць аб сваім жыцьці і аб надзеі вярнуцца ў Летуву. Пазнаёміў мяне з маладой кабетай як са сваёй жонкай і распавёў пра сваіх

дзяцей, ужо жанатых і замужніх, і асабліва пра малодшага сына, якім найбольш ганарыўся, бо ён вучыўся ў Краснаярскім Медычным Інстытуце. Мне гэта хутка абрыдла. Напрыканцы сказаў, што ён каталік і спытаўся, ці каталік я. Я адказаў сьцьвярджальна. Ён спытаўся, ці не ведаю я якога-небудзь каталіцкага сьвятара. Я спрабаваў здагадацца куды ён верне, але ўрэшце сказаў яму, што я сьвятар. Ён вельмі пажвавеў:

— Гэта якраз тое, што нам трэба, сьвятара! У нас тут парафія, вельмі харошая, але два тыдні таму наш пробашч, а.Янас, летувіскі сьвятар лацінскага абраду, раптоўна памёр. Той раніцай людзі прыйшлі на імшу і знайшлі яго мёртвага на падлозе ў ягоным пакоі каля рызьніцы.

Стары быў узрушаны. Запрасіў мяне да сябе на спатканьне з парафіянамі. Я адказаў, што нічога не магу абяцаць пакуль не даведаюся, што адкажа Масква на маю просьбу аб выязной візе. Гэта яго расчаравала. Папрасіў мяне, калі застануся ў Краснаярску яго наведаць, і я яму гэта абяцаў.

Уся гэтая гутарка прывяла да таго, што фармуляры я запаўняў больш за дзьве гадзіны. Калі скончыў і занёс чыноўніку, той паведаміў мне, што адказ можа прыйсьці не раней чым праз тры месяцы. Калі складаў паперы і вяртаў мне дакументы, раптам сказаў:

— Хачу вам шчыра сказаць, што Амэрыкі вы ўжо ніколі не пабачыце! І тут, у Расеі, вам таксама не будзе жыцьця, гэтак жа як для старых белякоў, якія тут яшчэ жывуць!

Я зьдзівіўся яго адкрыта антаганістычнай пазіцыі, але не адказаў нічога. Забраў свае дакументы, сунуў у кішэнь плашча і пайшоў на пошту. Там напісаў у амэрыканскую амбасаду фармальную справаздачу ўсіх гэтых падзеяў, паведамляючы ім, так, як яны жадалі, што зьвярнуўся за выязной візай тут, у Краснаярску.

У гатэль вярнуўся надвячоркам. Малады гандляр, які быў у пакоі, сказаў мне, што скончыў свае справы. Зьбіраўся заўтра ехаць у Маскву і таму запрасіў мяне на разьвітальны абед. У час застольля красамоўна расьпісваў сваю дзейнасьць, а я апавядаў яму пра мае посьпехі, дакладней пра іх адсутнасьць, у ОВІРы. Напрыканцы сказаў яму, што магчыма таксама куплю сабе квіток да Масквы. Я думаў пра гэта ўвесь надвячорак і не бачыў прычыны, калі ўжо я маю пашпарт, дакументы і магчымасьць, чаму б мне не паехаць у нашу амбасаду ў Маскве. Падняў свой кілішак і засьмяяўся:

— Добрая думка! Каваць жалеза, пакуль гарачае, гэта значыць, пакуль ёсьць дакументы!

Назаўтра раніцай пасьля сьняданку я рашуча пайшоў у аэраагенцтва і заплаціў за квіток да Масквы. Гэта безь ніякіх праблемаў каштавала семсот восемдзесят рублёў, але самы бліжэйшы рэйс быў двума днямі пазьней. Потым пайшоў у невялікі парк за гатэлем і ўсеўшыся на лаву, грэўся ў цёплым паветры на сонцы, назіраючы за дзецьмі, што бавіліся тут, — мне не было чаго рабіць і я нікуды не сьпяшаўся.

Назаўтра я таксама адпачываў. Хадзіў ад крамы да крамы, быццам набываючы нешта, але і тут, як і ў Нарыльску, крамы хоць і выглядалі поўнымі, не мелі таго, што я хацеў, альбо не было адпаведнай мадэлі, альбо памеру. Так што пасьля апоўдня я правёў яшчэ некалькі гадзін у парку за гатэлем, адчуваючы сябе як ніколі бадзёрым і разьняволеным. Мая праца ў Нарыльску была больш зьнясільваючай, чым мне здавлася, асабліва апошнія два тыдні, і таму я быў рады магчымасьці адпачыць.

Наступным ранкам я пайшоў у аэраагенцтва за сваім квітком. Усё было вырашана на сёньняшнюю другую палову дня. Але калі прыйшоў у гатэль, адміністратарка сказала мне:

— Калі ласка, зайдзіцеся ў кабінет кіраўніка.

Той загадаў мне неадкладна зьвязацца зь міліцыяй, якая усю раніцу тэлефануе, шукаючы мяне. Я чакаў нейкіх праблемаў, таму не сьпяшаўся. Аднак у камісарыяце міліцыі, здавалася, нічога не ведалі навошта я патрэбен. Мяне пасылалі з кабінета ў кабінет ажно пакуль я не трапіў да шэфа.

Гэты ведаў у чым справа. Як толькі пачуў маё прозьвішча, сказаў:

— Едзеце ў Маскву, так?

— Так, — адказаў я, — ёсьць квіток і сёньня раніцай яго зарэгістраваў.

— Зараз вы павінны паехаць у аэраагенцтва і здаць квіток. Потым вернецеся да мяне!

Шэф быў катэгарычны, так што нічога не заставалася рабіць, як толькі ісьці ў аэраагенцтва і здаць квіток. Прымаць яго не хацелі. Рэйс быў ужо укамплектаваны і вяртаць квіток было запозна.

— Слухайце, — сказаў я, — не прымайце такога рашэньня самі. Гэта загад МВД.

Чыноўнік задумаўся і сказаў мне пайсьці да дырэктара агенцтва. Гэта была кабета гадоў сарака, поўная і строгая. Я распавёў ёй усю гісторыю, але прымаць квіток назад яна не захацела. Патэлефанавала. Калі адняла слухаўку, спакойна напісала дазвол на

вяртаньне квітка і выплату яго кошту за вылічэньнем дзесяці працэнтаў.

Калі я вярнуўся ў камісарыят міліцыі, кіраўнік проста сказаў, што я павінен застацца ў Краснаярску. Мы не спрачаліся, бо ніякая дыскусія яго не цікавіла. Сказаў, каб я хутка знайшоў сабе жыльлё і прыйшоў зарэгістравацца ў яго канторы. Яшчэ сказаў, каб на гэты раз я трымаўся далей ад "клопатаў".

Калі выйшаў з камісарыяту, задумаўся, як яны здолелі так хутка даведацца пра авіяквіток. Пачаў нават падазраваць, што малады гаднляр з Калініна данёс ім аб маім рашэньні накіравацца ў Маскву. Потым узгадаў, што ў аэрапорце, як і на кожнай чыгуначнай станцыі, ёсьць агент МВД, які штодзённа правярае замоўленыя квіткі, і зразумеў, што неяк выехаць без дазволу МВД шанцаў не маю.

Вярнуўшыся ў гатэль напісаў паштоўку Пранасу, таму старому летувісу, якога спаткаў у ОВІРы. Назаўтра ён прыйшоў у мой гатэль і пасьля кароткай гутаркі запрасіў пайсьці зь ім на спатканьне зь некалькімі іншымі парафіянамі. Пайшоў да яго на вячэру ў невялікае прадмесьце за Енісеем. Мы яшчэ елі, як адзін за другім пачалі прыходзіць старыя парафіяне, узрадаваныя што зноў маюць сабе сьвятара. У горадзе, як казалі, быў яшчэ адзін сьвятар, украінец, а.Ганорый, які жыў на гэтай самай вуліцы. Яго прасілі прыняць парафію, але з-за таго, што знаходзіўся пад шчыльным наглядам ён не схацеў публічна адпраўляць службы. Я сказаў ім, што буду шчасьлівы прыняць "парафію" і што заўтра адпраўлю імшу тут, у доме Пранаса.

Назаўтра шмат хто прыйшоў на імшу, а пасьля сьняданьня я рушыў зь імі пабачыць як выглядае "парафія". Яна была ў Нікалаеўцы, за ракой, таму мы селі ў мясцовы цягнік да Краснаярску, а потым у аўтобус, што ішоў пад гару ў накірунку Нікалаеўкі. Спачатку ўвайшлі ў маленькі дамок на сьхіле пагорка, разьмешчаны так блізка ад вуліцы, што ад праяжджаючых аўтобусаў уздрыгвала ўся мэбля. Там я сустрэўся з Розай, прыемнай і мілай кабетай, гадоў каля сарака, адной з актывістак "парафіі". За адну хвіліну дом запоўніўся парафіянамі, якія казалі мне што Бог паслухаў іхныя просьбы прыслаць ім сьвятара, і я ўбачыў, як шмат там было працы.

Сама цэркаўка знаходзілася недалёка ад дому Розы. Гэта быў вялікі аднапавярховы будынак, падобны на барак, і ўсё ўнутры займала капліца, доўгі і вузкі пакой, які б мог зьмясьціць больш за дзьвесьце чалавек. Ахвярнік быў упрыгожаны разьбой, на сьценах знаходзіліся выявы Гасподніх Пакутаў, а з аднаго боку стаяў канфесіянал, як і ў кожнай каталіцкай царкве ў сьвеце. За ахвярнікам была

рызьніца, а за ёй жылы пакой для сьвятара. Я ад усяго гэтага быў у захапленьні і адразу ж хацеў туды засяліцца. Але парафіяне не хацелі, каб я там жыў. Баяліся, што нешта можа здарыцца, як гэта сталася з а.Янасам, хоць ніхто не мог дакладна вызначыць, што ўласна зь ім "сталася". Урэшце мяне адгаварылі. Мы дамовіліся наконт нядзельнай імшы і я згадзіўся жыць у Розы.

Наступным ранкам я і Пранас перанесьлі да Розы мае рэчы. Не прайшло нават і гадзіны, як парафіяне пачалі зносіць дары: яйкі, хатнія джэмы, сыр, масла, мяса — гэтага магло нам хапіць на цэлы месяц. У той вечар Роза, яе маці і я прымалі наведвальнікаў да позьняй ночы. У нядзелю раніцай я зьявіўся ў царкву ў сем гадзін. Імша была назначана на дзевяць, але царква была амаль поўнай. Большасьць людзей хацела спавядацца. Да дзевяці гадзінаў чарга перад маім канфесіяналам заставалася. Слухаў споведзі яшчэ доўга і ўрэшце ў палове адзінаццатай адправіў імшу.

Большасьць жыхароў Нікалаеўкі складалі летувісы, таму імшу я адправіў у лацінскім абрадзе, гэта была літургія і людзі прыгожа сьпявалі. У час імшы вельмі шмат людзей падыйшло да прычасьця, а пасьля адбылося дабраславеньне Сьвятымі Дарамі. Потым, нават ужо ў тую першую першую нядзелю я меў восем ці дзесяць хростаў і яшчэ дамовіўся на наступны тыдзень наконт візітаў да хварых і катэхізацыі дзяцей, якія рыхтуюцца да першага сьв. прычасьця. Перш чым закончыў і вярнуўся ў дом Розы, было ўжо далёка за апоўдзень.

Так пачаўся ажыўлены тыдзень сьвятарскіх абавязкаў, і мне, калі абходзіў "парафію", заўсёды знаходзіліся для выкананьня дадатковыя паслугі. У чацьвер пасьля апоўдня, Роза ў гэты час была на працы, а я дома, пачуў брэх сабакі. Я выйшаў і ўбачыў, што прычынай зьяўляецца малады міліцыянт. "Зноў пачынаецца", — падумаў я. Той перш за ўсё запатрабаваў паказаць пашпарт. Потым спытаўся ці ведаю я, што на працягу трох дзён з моманту прыбыцьця ў горад павінен зарэгістравацца ў камісарыяце. У афіцыйных паперах я не фігураваў у якасьці жыхара гэтага дому. Зрэшты, малады функцыянер паводзіў сябе дружалюбна і параіў мне як мага хутчэй зарэгістравацца, бо інакш "будуць наступаць на пяты ", — дадаў ён.

Назаўтра Роза пайшла ў пашпартную кантору зарэгістраваць мяне ў сваім доме ў якасьці кватаранта. Зь ёй не захацелі размаўляць. Загадалі зьявіцца мне асабіста. Калі яна мне гэта пераказала, мы абое ўстрывожыліся.

— Дзе гэта? — спытаўся я.

Роза дала мне сваю "дамовую кніжку для прапіскі " і я пайшоў зь ёй у кантору. Запоўніў службовыя фармуляры і падаў іх дваім супрацоўніцам.

Уручыў ім свой пашпарт і паперы разам з дамовай кніжкай Розы. Адна зь іх, калі расчыніла мой пашпарт і ўбачыла, што я паходжу са Злучаных Штатаў, ператварылася ў саму ласкавасьць. Другая падазрона пазірала на нас ад сваіх папераў і нічога не казала. Малодшая паставіла штэмпель у кніжку Розы, запісала маё прозьвішча, паставіла пячаткі на ўсе паперы, увесь час размаўляючы і распытваючы пра Амэрыку. Я заплаціў за рэгістрацыю тры рублі і падзякаваў ёй.

— О не! — сказала яна, — гэта я вас дзякую!

Зараз, калі прапісаўся, я адчуў сябе больш бясьпечна і ўсё больш часу праводзіў на працы ў маёй "прафіі". Нават вывесіў унутры царквы расклад набажэнстваў, разам са сьпісам хростаў і тэрмінамі шлюбаў. Працу я не шукаў, бо людзі самі клапаціліся аб маіх патрэбах і я меў працы аж зашмат. "Парафія" пры а. Янасе была квітнеючай і цяпер зноў пачынала разьвівацца. Аднак на працягу месяца разышліся чуткі, што ўлады ніколі не згодзяцца на дзейнасьць гэтай царквы. Афіцыйна нічога не было, але ўсе пра гэта гаварылі.

Аднойчы ў нядзелю, калі я адразу пасьля казаньня павярнуўся да ахвярніка, пачуў паміж вернікамі нейкі рух, але не зьвярнуў на гэта вялікай увагі. У час маўчаньня, калі пры ператварэньні хлеба і віна я пакланіўся, то пачуў як хтосьці грукае звонку ў дзьверы. І я зноў не зьвярнуў на гэта ўвагі, але калі імша закончылася, то перш чым адчыніць дзьверы, гаспадыня чакала больш за дваццаць хвілін. Людзі сядзелі моўчкі, трохі прыстрашаныя. Нарэшце гаспадыня адчыніла дзьверы і паведаміла, што ў час імшы зьявілася міліцыя і хацела ўвайсьці ўсярэдзіну. Яна ім сказала, што дзьверы замкнутыя, а ключ толькі ў сьвятара. Спрабавалі адчыніць дзьверы, хадзілі вакол будынку, аднак урэшце пайшлі.

Парафіяне былі рашуча настроеныя захаваць сваю царкву. Таму склікалі ў царкве сход і напісалі гарадскому Савету петыцыю, падпісаную ўсімі, з просьбай дазволіць адкрыць у Краснаярску і яго ваколіцах парафію для іх і іншых каталікоў лацінскага абраду. Я паставіўся да гэтага ськептычна і сумняваўся ў разумнасьці такога кроку. Аднак людзі былі ўпэўненыя, што атрымаюць пазітыўны адказ, бо папярэдняя петыцыя адразу пасьля сьмерці а.Янаса атрымала адмоўны адказ матываваны адсутнасьцю сьвятара. Закончыўшы напісаньне, камітэт, складзены з парафіянаў занёс пасланьне ў гарадскі Савет. Пасьля доўгіх намаганьняў дабіліся спатканьня са

старшынём. Ён не даў ім яснага адказу і не падпісаў патрэбнага дакумента. Усё цьвярдзіў, што гэта залежыць ад Масквы і што трэба або самім завесьці дакумент туды, або паслаць. Аднак парафіяне не апусьцілі рукі. Сабралі ў царкве новы сход і вырашылі паслаць у Маскву дэлегацыю з пасланьнем, да якога прыклалі другое, аб вяртаньні ім былой каталіцкай царквы, якая зараз выкарыстоўвалася ўрадам у якасьці радыёстанцыі. Гэтае другое пасланьне было накіраванае да самаго Хрушчава і падпісанае, ужо пасьля складаньня першага, дадатковай колькасьцю людзей.

Роза, як адна зь лідэраў "парафіі", была выбраная дэлегаткай разам зь кіраўнікам хору. На жаль за дзень да выезду захварэла яго жонка, так што Роза паехала ў Маскву адна. Аднак парафіяне спадзяваліся, што прынамсі адно зь іх пасланьняў будзе вырашана пазітыўна. У Маскве Роза на працягу трох дзён спрабавала прабіцца ў Крэмль і сустрэцца асабіста з Хрушчовым, але безвынікова. Урэшце была прынята міністрам па справах рэлігій, які выслухаў яе, забраў дакументы і паперы і сказаў прыйсьці за адказам заўтра. Адказ быў такі: у дадзеным выпадку справа павінна вырашацца мясцовымі ўладамі ў Краснаярску. Роза даводзіла, што менавіта Краснаярск накіраваў іх у Маскву, але міністр настойваў, што гэта справа лакальная.

Калі Роза вярнулася з гэтай зьвесткай, парафія ўсёроўна не апусьціла рукі. Вырашылі, што ўжо зараз гарадскі Савет будзе вымушаны зацьвердзіць петыцыю. Нават прадоўжылі працу па рамонту капліцы, дабудоўваючы хрысьцільню і другі канфесіянал, каб яна магла функцыянаваць як сапраўдная царква.

Напрыканцы другога месяца майго знаходжаньня ў Краснаярску я меў ужо квітнеючую "місійную парафію" на правым беразе Енісея, у прадмесьцях і на ўскраінах горада. За рачным вакзалам знаходзіўся барак зь нямецкай калоніяй, дзе я адпраўляў імшу. Прыходзіла больш васьмісот асобаў, акрамя таго былі хросты і шлюбы перад— або пасьля імшы, якія часам цягнуліся гадзінамі. І яшчэ я абслугоўваў іншую нямецкую групу, у дальнім калхозе. З-за таго, што я меў сваю старую "парфію" і "парафію місійную", на правым беразе ракі, па суботах трэба было выконваць там рэлігійныя паслугі.

З-за адсутнасьці адказу з боку гарадскога Савету парафіяне выказвалі нецярпеньне. Крокі, зробленыя парафіяльным камітэтам пацягнулі за сабой гульню з уладамі ў схованкі, хаджэньне з кабінета ў кабінет, ад аднаго быццам бы кампетэнтнага чыноўніка да другога, і г.д. Па прычыне таго, што канчатковага рашэньня не было відаць,

што ўсё круцілася па замкнутай крывой, у капліцы адбывалася новая дыскусія. Надзею на адкрыцьцё вялікай царквы на вул. Сталіна людзі страцілі, бо адміністрацыя відавочна не мела намеру высяляць адтуль радыёстанцыю. Вырашылі падаваць новае пасланьне, дзе галоўны націск зрабіць на факце, што цяпер сьвятар ужо ёсьць. Гэта адмятала зачэпку, з-за якой была адмова на папярэдняе пасланьне. Парафіяне яшчэ раз патрабавалі афіцыйнага прызнаньня капліцы.

У той вечар я з Розай сядзеў дома і гутарыў аб гэтай справе. Раптам зацята забрахаў сабака, нацягваючы свой ланцуг так моцна, што аж нам было чуваць. Я падыйшоў да вакна. Была гадзіна ночы і перад домам стаяў "Джып". Урэшце нехта пастукаў у бакавое вакно, з-за сабакі ў двары не маглі падыйсьці да дзьвярэй. Роза выйшла і супакоіла сабаку, а ў дом увайшлі трое службоўцаў.

Увайшлі быццам гаспадары і без слоў пачалі аглядацца. Мне здалося, што некаторыя былі п'янаватымі. Потым увайшлі ў мой пакой і тады адзін зь іх урэшце запытаў:

— Хто тут гаспадар?

Гэта быў высокі мужчына, гадоў ля сарака, шыракаплечы і мускулісты, з тлустым тварам, цёмнай скурай і цёмнымі валасамі.

— Гэта я, — адказала Роза.

Ён не спускаў зь мяне вачэй.

— А вы хто? — гыркнуў да мяне.

— Тутэйшы кватарант, — адказаў я, — афіцыйна зарэгістраваны ў Краснаярску і прысланы сюды жыць міліцыяй.

— Ах, так. — І засьмяяўся. — Калі б тут не было гэтай кабеты, я б сказаў вам пару слоў! Заўтра у тры пасьля апоўдня вы павінны быць у маёй канторы, ці чуеце?

— У якой канторы? — спытаўся я.

— У пашпартным бюро, — адрэзаў ён. — Я яго кіраўнік.

— Навошта? — запытаўся я. — Я тут легальна прапісаны.

Глядзеў на мяне з шаленствам.

— Так, — адрэзаў ён, — але супрацоўніца, якая вас прапісала, не мела права гэтага рабіць і таму звольнена з працы.

Потым крутануўся і выйшаў. За ім пайшлі двое другіх, якія за ўвесь час не вымавілі ні слова. Роза была вельмі зьнерваванай і мы, размаўляючы, яшчэ доўга сядзелі. Яна была перакананай, што гэта азначае канец "парафіі", менавіта цяпер, калі ўсё здавалася так добра складваецца, і яе агарнула глыбокае расчараваньне. Я шмат не гаварыў. Я ў мінулым так часта такое перажываў, што адчуваў — тут няма чаго казаць.

Наступным днём у тры гадзіны быў у пашпартнай канторы. Кіраўнік сядзеў ля стала і калі я ўвайшоў, са злосьцю паглядзеў на мяне. Не лічачы сябе абавязаным да ветлівасьці, груба загадаў:

— Дайце мне ваш пашпарт.

Я даў. Ён разгарнуў, перакрэсьліў маю прапіску, паставіў пячатку і кінуў праз стол. Пасьля гэтага холадна сказаў:

— Сорак восем гадзін! Павінны пакінуць горад, а то выкінем!

— Што гэта ўсё значыць? — запытаўся напрыканцы я. — Я тут прапісаны!

— Тая дзяўчына не мела права вас прапісваць, — крыкнуў ён, — і атрымала тое, што заслужыла.

— За каго вы мяне лічыце? — у сваю чаргу крыкнуў я.

— Я ведаю, хто вы, — адрэзаў ён, — і ясна кажу вам, што вы павінны пакінуць горад на працягу сарака васьмі гадзін. І не забудзьцеся пайсьці на кантроль у міліцыю.

Занадта разьюшаны, каб нешта адказаць, я схапіў свой пашпарт і, грымнуўшы дзьвярыма, выйшаў.

У Розы ўжо сабралася шмат парафіянаў. Я распавёў ім, што адбылося. Вырашылі зараз ісьці да гарадскога Савета з пратэстам. Я паспрабаваў пераканаць іх, што гэта бесперсьпектыўна, што заўтра я павінен быць у МВД. Аднак не паслухаліся і раніцай упаўнаважаная імі дэлегацыя зьвярнулася ў гарадскі Савет, натуральна дарэмна. Ім адказалі, што гэта справа належыць да кампетэнцыі міліцыі і што Савет не будзе ў гэта ўмешвацца.

Калі я прыйшоў у камісарыят МВД, мяне зноў разьюшылі. Я ім сказаў, што яны не маюць права ісьці на такія крокі, бо мяне наўмысна прыслалі сюды з Нарыльску і я быў тут легальна прапісаны.

— Акрамя таго, — дадаў я, — я хацеў ехаць у Маскву, а вы мне гэтага не дазволілі. Цяпер загадваеце мне пакінуць горад. Адмаўляецеся растлумачыць прычыну гэтага! Чым усё гэта скончыцца?

Агент не перарываў, але калі я скончыў, праігнараваў усё мной сказанае.

— Уладзімір Марцінавіч, — вымавіў ён, — вас шматкроць папярэджвалі і гэта ваш апошні шанец. Можаце ехаць або ў Абакан, або ў Енісейск. Гэта ўсё і вы павінны выехаць сёньня!

Я сказаў яму, што выехаць сёньня не маю фізічнай магчымасьці. Я не мог у такі кароткі тэрмін дастаць квіток, і ён пра гэта ведаў. Яго вочы на імгненьне бліснулі нянавісьцю, і ён крыкнуў:

— Добра, але не пазьней, чым заўтра! Абакан ці Енісейск?

Я ніколі не чуў ні пра адзін з тых гарадоў, таму запытаўся яго, дзе яны знаходзяцца. Калі даведаўся, што Енісейск на поўначы, а Абакан на поўдні, вырашыў — Абакан.

— Вельмі добра, — сказаў ён, — а зараз невялікае тлумачэньне: у Абакане вам нельга праводзіць тую працу, што вы выконвалі тут і ў Нарыльску, інакш скончыце там, дзе пачалі. Зразумелі мяне?

Гэта было трохі затуманена, але я дадумаў што яно азначала. Папрасіў у яго пісьмовага дазволу застацца тут яшчэ на адну ноч, каб міліцыя за мной пасьля сарака васьмі гадзінаў, якія яна вызначышла, не прыходзіла. Выдаць такі дазвол адмовіўся, але абяцаў, што будзе пільнаваць, каб да мяне не чапляліся.

Вярнуўся да Розы і застаў поўны дом людзей. Паведаміў ім, што не маю выбару і еду ў Абакан. Але абяцаў, калі здолею, вярнуцца і наведаць іх. Папрасіў каб паведамілі лёс капліцы, асабліва калі ўрэшце атрымаюць рашэньне гарадскога Савету ці Масквы. Шмат хто зь іх былі прыгнечаныя. Іншыя былі ўзбуджаныя думкай, што гарадскія ўлады самі ініцыявалі маё выгнаньне каб яшчэ раз адмовіць іхняй просьбе.

Вечарам мне дапамагалі запакавацца, а назаўтра, адкрыта і без страху шмат хто зь іх праводзілі мяне на вакзал. Быў гарачы ліпеньскі дзень і мы чакалі цягнік да Абакану. Калі сеў у вагон, мне падалі падарункі, на вачах у кабет стаялі сьлёзы. Калі цягнік рушыў, я доўга моўчкі выглядаў праз вакно. Было вельмі самотна. Пачаў думаць пра тыя месяцы, што я правёў у Краснаярску: як шмат удалося зрабіць за такі кароткі час, як шмат людзей прагне маёй дапамогі, як усё, здавалася, добра выходзіла, а зараз... Зноў было так, як і ў Нарыльску. Я сядзеў і слухаў рытмічны пошчак колаў цягніка і чым больш апускаўся змрок тым большым смуткам акутвалася душа. Заснуў, молячыся за вернікаў у Краснаярску.

## Новы пачатак у Абакане

Калі б здолеў дастаць квіток на самалёт, то мог бы пераляцець з Краснаярска ў Абакан за пяцьдзесят пяць хвілін. Дарога ж цягніком доўжылася амаль дваццаць чатыры гадзіны. Гэта з-за таго, што цягнік спачатку ідзе да Ачынска, там, на канечнай, доўга чакае транссібірскага цягніка каб забясьпечыць ягоным пасажырам перасадку, потым без канца выгінаецца лукамі Енісея, уверх і ўніз, праз тунэлі, спыняючыся ў кожным невялікім мястэчку каб выгрузіць

і загрузіць прадукты. У Абакан мы прыбылі толькі ў шэсьць наступным вечарам.

На пероне вакзала я агледзеўся, спрабуючы вырашыць куды падацца. Я быў тут зусім чужы, пазіраў на людзей, што сьпяшаліся ва ўсіх накірунках, і адчуваў сябе заблукаўшым. На другім баку вуліцы заўважыў таксі і пасьпяшаўся да яго. Кіроўца ўжо меў пасажыра, але абяцаў вярнуцца за мной. Аднак папярэдзіў, што можа прайсьці цэлая гадзіна.

Я сеў у зале чаканьня разглядаючы натоўп. Тутэйшыя людзі, прынамсі большасьць іх — хакасы — мангольскага тыпу, з раскосымі вачыма і чорнымі як вугаль жорсткімі валасамі, нашчадкі першых пасяленцаў у Абакане. Кабеты, асабліва пажылыя, насілі нацыянальныя строі: доўгія, да шчыкалатак, спадніцы, каляровыя кашулі з доўгімі рукавамі, расшытыя ля шыі пацеркамі, доўгія завушніцы і высока заколатыя валасы. У адрозьненьне ад іх маладыя людзі былі убраныя на расейскі або заходні манер, але размаўлялі на сваёй роднай мове.

Гэтыя людзі былі стрыманыя і сарамлівыя, народ-пастух, які некалі гадаваў на пашах Хакасіі, у тую пару частцы незалежнага Краснаярскага краю, велізарныя статкі быдла. Цяпер пашы зьнішчлі, ператварылі ў так званую "цаліну" (бясплодная зямля), велізарную, поўную пылу тэрыторыю, і толькі некаторыя зь іх апрацоўваюцца. З-за таго, што плошча перад вакзалам не была брукаванай, як толькі пасьля прыбыцьця цягніка пачыналі езьдзіць грузавікі і таксі, у паветра ўздымаўся пыл. Быў другі тыдзень ліпеня і стаяла моцная сьпякота. Усе насілі летнюю вопратку.

У сем зь нечым вярнулася таксі. Пасьля такога доўгага чаканьня праезд да гатэлю заняў усяго пяць хвілін. Гэта быў пяціпавярховы будынак на рагу вуліцы Окцябрскай, галоўнай артэрыі, і вуліцы Розы Люксембург. У адміністратарскай мне сказалі, што свабоднага пакоя няма, гатэль зарэзерваваны для гасьцей, якія прыбываюць на ўрачыстасьці з нагоды 250-годдзя аб'яднаньня Хакаскай Аўтаномнай Акругі з Расеяй. Я паведаміў, што я іншаземец з Краснаярску, нікога ў горадзе не ведаю і спытаўся адміністратарку ці не можа яна мне дапамагчы нешта знайсьці. Яна прапанавала паралельную Окцябрскай вуліцу, пад назвай Чэртэгасова, дзе шмат сем'яў бяруць кватарантаў, прынамсі на адну ноч.

Было ўжо амаль восем гадзін, а вуліца Чэртэгасова, недалёка ад галоўнай артэрыі, была небрукаванай але вельмі гарачай і пыльнай. Я залівaўся потам, адчуваў сябе брудным, прыгнечаным і разгубленым. Я дайшоў да Дзяржаўнага Суда, народнага трыбуналу, і

ў бязвыхадным становішчы вырашыў папрасіць дапамогі. Там было пуста, але ў пярэдняй я ўбачыў кабету і спытаўся, ці можна тут пераначаваць.

— Гэта забаронена, — адказала яна.

— Я лягу на лаву ці на падлогу, — сказаў я, — дзе-небудзь, толькі б не заставацца да раніцы на вуліцы.

Адказала, што проста не можа гэтага дазволіць, але тут да пазна ў сваім кабінеце працуе суддзя, яна спытае яго.

Выйшаў суддзя і распытаў аб маім становішчы. Адказаў, што не ведае ніводнага месца, дзе можна дастаць памяшканьне і параіў мне пайсьці ў аддзел МВД на вуліцы Шэцінкіна. Я пакінуў мой багаж у судзе, знайшоў вуліцу Шэцінкіна і аддзел МВД. Сказаў дзяжурнаму службоўцу, што хацеў бы сустрэцца з кіраўніком. Той падазрона паглядзеў на мяне, потым спытаўся, хто я такі. Я сказаў, што прысланы МВД з Краснаярску на жыцьцё ў Абакане і чакаю, што недзе тут мне выдзеляць пакой. Ён на гэта рассьмяяўся.

— Дарэмна, — сказаў мне. — Нават шмат хто з нас не маюць жыльля. Мусім наймаць пакоі ў прыватных дамах.

Аднак каб дапамагчы мне малады міліцыянт даў адрасы некалькіх пажылых кабет, якія жылі адзінока і маглі прыняць мяне ў кватаранты. Толькі дадаў, што зараз не той час, каб вырашаць гэтыя справы і лепей пачакаць да раніцы. Я падзякаваў яму за дапамогу і вярнуўся ў суд. Цяпер ішоў павольна, адчуваючы сябе стомленым, запыленым і вельмі самотным. Часам спыняўся ля якога-небудзь дома і пытаўся, ці можна наняць пакой. Вольнага пакоя ні ў кога не было. У адзінаццаць вечара я быў ужо ў судзе. Мяне чакала прыборшчыца каб забраў багаж і даў ёй магчымасьць зачыніць будынак на ноч.

Я, адмовіўшыся ад сваіх планаў, зноў пайшоў па вуліцы Чэртэгасова. Вырашыў правесьці ноч на вуліцы, рызыкуючы быць атакаваным сабакамі, зладзеямі і міліцыяй. Паклаў на тратуар каля нейкага плоту свой багаж і як мага зручней скруціўся на ім. Быў зьнясілены, але спаць не мог, маліўся адзінаму Сябру, якога ведаў тут, у Абакане.

Каля апоўначы у двары за плотам пачуў галасы. "Можа паспрабую спытацца" — падумаў я. Устаў, абтрос пыл і пайшоў уздоўж плоту да брамкі. Памятаючы сабаку Розы ішоў асьцярожна і апынуўся ў невялікім садку. Хвіліну стаяў у цемры каб зарыентавацца адкуль даносяцца галасы і ўбачыў на куце дома сьвятло. Паміж дамамі была студня і двое мужчынаў працавалі ля электрычнай помпы.

— Ці можна ўвайсьці? — аклікнуў я.

Убачылі мяне і адзін зь іх, апрануты ў піжаму, сказаў каб падыйшоў. Я распавёў яму, што менавіта сёньня пад вечар прыехаў у горад. Паведаміў таксама пра мае паходы ў гатэль, у суд, у кантору МВД, пра мае безвыніковыя пошукі начлегу ў прыватных дамах. А закончыў аповяд пытаньнем ці няма нанач вольнага ложка.

— Канечне, — адгукнуўся ён. — На адну ноч месца можна знайсьці заўсёды.

Ледзьве паверыў на свае вушы. Вярнуўся на вуліцу, забраў багаж і пайшоў за ім у дом. Гэта быў тыповы чатырохпакаёвы дамок для сям'і, прычым два пакоі ад фронту — дзіцячы і спальня, а два невялікіх з тылу — з аднаго боку кухня, а з другога яшчэ спальня. Чалавек, які сам мне прадставіўся як Сьцяпан, правёў мяне ў пакой насупраць кухні і папрасіў не шумець. У пакоі з абодвух бакоў аднаго вакна былі два ложкі і на адным зь іх спаў маленькі хлопчык. Калі Сьцяпан шапнуў мне каб паклаў багаж у куце пакоя, малы прачнуўся. Заплакаў і падбег да бацькі, а з другога пакоя ўвайшла маці. Сьцяпан растлумачыў сітуацыю і прадставіў мяне. Я адразу зразумеў, што гэтая навіна ёй не спадабалася, але нічога не сказала.

Наступным днём я пайшоў па адрасах, падказаных міліцыянтам, але дарэмна. Сьцяпан чакаў мяне і калі я вярнуўся, між намі адбылася спакойная гутарка. Сказаў мне, што ягоная жонка была занепакоена маёй прысутнасьцю з-за таго, што як я сам прызнаўся, быў прысланы ў Абакан МВД. Яна хацела, каб я іх пакінуў, але ён настаяў каб я заставаўся пакуль не знайду жыльля.

Назаўтра я зноў не меў шчасьця. Аднак у апоўдзень Сьцяпан вярнуўся дадому зь весткай пра аб'яву, вывешаную на дошцы аб'яваў ля вакзала, на гандлёвай пляцоўцы. Здаваўся пакой на вуліцы Тараса Шаўчэнкі, 44 і жадаючыя павінны былі зьвяртацца да чалавека па прозьвішчу Сьветлов. Я адмовіўся ад сьняданьня і адразу засьпяшаўся, спадзеючыся, што пакой яшчэ не заняў хтосьці іншы.

Не здолеў знайсьці той вуліцы і каб трапіць туды мусіў пытацца на кірмашы. Калі я знайшоў дом нумар 44, было ўжо за тры гадзіны. Гэта быў першы дом зьлева ад чыгуначнага пераезду на вуліцы Шаўчэнкі. Я доўга грукаў у брамку, замкнутую знутры, але ніхто не адказваў. Я не хацеў траціць шанцу знайсці пакой і таму застаўся чакаць. Празь нейкія дваццаць хвілін я пачуў, як нехта нясьмела набліжаецца да брамкі. Жаночы голас спытаўся:

— Хто там?

Я спытаўся Сьветлова і кабета адказала, што яго няма дома.

— Можа адчыніце брамку? — папрасіў я.

— Навошта? — быў адказ.

— Я па аб'яве, — сказаў я, — і шукаю хто здае пакой.

Надыйшла паўза, пасьля чаго брамка нарэшце расчынілася. Вельмі прыемная пажылая кабета, гадоў сямідзесяці двух, з сівымі валасамі і маршчыністым тварам сказала мне, што гаспадара няма і вернецца не хутка, але запрасіла мяне ў кухню свайго уласнага дома. У пяць пасьля апоўдня мы яшчэ гутарылі і чакалі. Яна безь перапынку задавала мне ўсё новыя пытаньні.

Недзе па пятай гадзіне пажылая кабета сарвалася ад стала і выглянула ў вакно.

— Вось ідзе, — сказала яна.

Я ўгледзеў праз акно высокага, гадоў ля пяцідзесяці, мужчыну з поўным тварам і сівеючымі валасамі, які праходзіў праз двор з двума кабетамі. Мы пасьпяшаліся насустрач. Яна сказала яму, што прыйшлі наймаць пакой, а я выцягнуў аб'яву з дошкі на кірмашы. Мужчыну клікалі Ёсіпам. Ягоная жонка, старэйшая з тых двух кабет, цёмнавалосая, з поўным тварам і правільнымі рысамі, мела імя Валя. Маладзейшая кабета была яе сястрой, Марыяй. Запрасілі мяне ў дом каб я мог нешта распавесьці пра сябе.

Я коратка распавёў усю сваю гісторыю. Калі закончыў, яны выглядалі халаднавата, але дом мне паказаць згадзіліся. Там таксама было чатыры пакоі: малая спальня ля кухні, з тылу, вялікая сталовая-гасьцёўня і спальня — з фронту. Падлога была выкладзена з шырокіх дошак. Сьцены пакрытыя тынкам і пабеленыя. Кухонная печ была збудавана такім чынам, што яе чатыры куты выходзілі ў кожны пакой каб іх абаграваць.

Мы размаўлялі каля гадзіны. Дом мне падабаўся, але яны не вельмі сьпяшаліся даць мне станоўчы адказ. Ёсіп быў інвалідам, які жыў зь пенсіі, а Валя хворай, якраз вярнуліся з паліклінікі, так што грошы за здачу пакоя ім, вядома, былі б дарэчы. Нарэшце запыталіся ці здолею я плаціць сто рублёў штомесяц за жыльлё і пяцьдзесят рублёў за абслугоўваньне, праньне і г.д. Гэта было дарага, але я згадзіўся. Назаўтра засяліўся ў пакой ля кухні. Ён быў такі малы, што калі я сядзеў на ложку, мае калені ўпіраліся ў кухонную печ. Але нарэшце я меў уласны пакой у Абакане.

Ёсіп быў вялікім пустазвонам. Паходзіў зь вёскі і скончыў толькі тры класы пачатковай школы, але быў членам партыі і перакананым камуністам. Да хваробы быў сакратаром гарадскога Савету. Ён і яго жонка Валя былі ў адносінах да мяне вельмі добрымі, але спачатку вельмі стрыманымі. Толькі праз нейкі месяц мы сталі добрымі прыяцелямі і яны прызналіся, што адразу падазравалі ў ва мне злодзея, які хоча схавацца ў Абакане. Мы пасьмяяліся з гэтага, а

Ёсіп растлумачыў, што мая гісторыя здалася яму занадта кароткай, а згода на іх умовы рабіла ўражаньне, што грошы для мяне не маюць значэньня.Той факт, што яны атрымалі патрабуемы кошт, іх напалохаў.

Да тае пары яны даведаліся, што я амэрыканец, і я распавёў ім пра гады, праведзеныя ў працоўных лагерах, але тое, што я сьвятар, не ведалі. Улічваючы кім быў Ёсіп, я не лічыў разумным гаварыць ім гэта. Штодзённа, калі ўсе ўжо клаліся спаць, я адпраўляў імшу, а часам ноччу чуняў, выконваючы духоўныя практыкаваньні і чытаючы рэлігійныя кніжкі.

Калі я прыехаў у Абакан, то вырашыў зрабіць сабе гадавы адпачынак. Я каля дзесяці гадоў працаваў у лагерах і яшчэ працаваў пасьля вызваленьня на волю. Апрача гэтага, як у Нарыльску, так і ў Краснаярску я гадзінамі працаваў у якасьці сьвятара, часам па семдзесят дзьве гадзіны безь перапынку. Зараз, калі ўлады забаранілі мне сьвятарскую працу, я вырашыў добра адпачыць. Большасьць маіх заробкаў у БОФ я захаваў, так што адчуваў магчымасьць сабе гэта дазволіць.

Калі было добрае надвор'е, я большасьць часу праводзіў у садку за домам, загараючы на сонцы і выконваючы гімнастычныя практыкаваньні. Асабліва непакоіўся аб каленях, якія адмарозіў у лагерах і час ад часу яны нагадвалі пра гэта. Шмат чытаў, а два ці тры разы на тыдзень Ёсіп і Валя бралі мяне на шпацыр па горадзе. Пазнаёміўся з Абаканам увогуле няблага.

Сам горад невялікі, калі я там быў, яго насельніцтва складала каля пяцідзесяці шасьці тысячаў, але ўвесь час павялічвалася. З-за таго, што гэта апошняя чыгуначная станцыя адгалінаваньня з Ачынска і сталіцы Хакаскай Аўтаномнай Акругі ў Краснаярскім Краі, ён мае значэньне, непараўнальнае зь яго памерамі. Пасьля ўводу ў строй у 1962 г. сучаснага мосту празь Енісей і чыгуначнай лініі Абакан-Тайшэт, Абакан зрабіўся чыгуначным цэнтрам рэгіёну. А да пабудовы новага мосту ўвесь рух праз раку адбываўся па пантонах, чыгунка ў Абакане заканчвалася.

Абакан зьяўляецца абласным цэнтрам, таму ў горадзе ўсе дзяржаўныя ўстановы, а таксама вышэйшыя вучэльні і медычны інстытут. Педагагічная вучэльня месьціцца на вуліцы Пушкіна, на рагу вул. Шэцінкіна, праз адзін дом ад упраўленьня МВД, якое я наведаў у першы вечар. Таксама на вул. Пушкіна, на рагу вул. Кароля Маркса знаходзіцца вялікі шпіталь. На вул. Шаўчэнкі, недалёка ад вул. Чэртэгасова ёсьць хірургічны шпіталь і лёгачная клініка. Універсальныя крамы, якія забясьпечваюць навакольныя рэгіёны

Абакана, таксама знаходзяцца ў цэнтры горада, так што гэты раён жвавы. Вуліцы поўныя грузавікоў ЗІС, якія вязуць прадукты харчаваньня і прамысловыя вырабы на перыферыю. З прычыны гарыстай мясцовасьці яны зьяўляюцца адзіным сродкам камунікацыі і забесьпячэньня навакольных гарадоў. Таму ў горадзе знаходзіцца вялікі дзяржаўны гараж АТК-50, які распараджаецца таксі, грузавікамі і аўтобусамі, каторыя забясьпечваюць транспартам горад і ваколіцы.

На шчасце новы мост праз раку палепшыў перавозкі. Раней, каб перайсьці раку Абакан па пантонах, можна было паўдня чакаць у шэрагу траспартных сродкаў. А перавозкі праз раку ў Абакане зьяўляюцца надзвычай важнай рэччу, бо горад ляжыць у шырокім выгіне Енісея, які атачае яго амаль з трох бакоў, падобна як у Новым Арлеане. Яшчэ горад нагадвае Новы Арлеан таму, што ляжыць ніжэй узроўню ракі і бароніцца ад паводкі гацямі вышынёй ад чатырох з паловай да шасьці метраў.

Той зімой 1958 г., маючы вольны час, я пазнаёміўся не толькі з горадам, але і шмат зь кім з людзей. Я пераважна знаходзіўся дома, а дом Ёсіпа заўсёды быў повен людзей. Па прычыне сваёй ранейшай пасады ён ведаў у Абакане амаль усіх, і кожнага ахвотна прымаў. Большасьць зь іх у той час, калі Ёсіп зацята дыскутаваў у голоўным пакоі, прыходзіла пагутарыць у маё невялікае памяшканьне. Я шмат зь кім падружыўся.

У нейкім сэнсе той бясконцы паток людзей быў для мяне вялікай дапамогай. Насуперак таму, што я меў перасьцярогу ад МВД не займацца ніякай сьвятарскай працай, нават не прызнавацца што я сьвятар, ужо ў канцы першага месяца майго знаходжаньня ў Абакане да мяне таемна прыходзілі людзі. У Ёсіпа іх амаль не было. Людзі ведалі, што туды можна прыйсьці калі захочаш, часам заставаліся на ноч і нават на ўвесь тыдзень. Здавалася, гэта не перашкаджала Ёсіпу, які заўсёды быў гасьцінным гаспадаром. Госьці спалі так доўга, як ім хацелася, на падлозе ў вялікім пакоі, закруціўшыся ў коўдры або скуры.

Аднак зь вясны 1959 г. міліцыя пачала цікавіцца чаму я не працую. Можа з-за рэпутацыі Ёсіпа не рашаліся ўмешвацца, тым не менш пачалі да мяне чапляцца. Я ж упершыню за шмат гадоў быў адпачыўшы і ў добрай форме. І сказаў сабе, што час пашукаць працу.

Аднойчы ў вясеньні дзень я атрымаў ліст з запрашэньнем на некалькі дзён у Краснаярск. Гэта мог быць апошні шанец пабыць там перад пачаткам працы, таму я сказаў Ёсіпу, што хачу на неклькі дзён паехаць туды. Каб перашкодзіць майму падарожжу нічога зроблена

не было, але як толькі я выйшаў у Краснаярску зь цягніка, за мной пачала сачыць міліцыя.

Пераначаваў у Розы, дзе каб павітаць мяне чакаў натоўп маіх былых парфіянаў. Наступнай раніцай адправіў імшу, ахрысьціў некалькі дзяцей, слухаў споведзі і рабіў гэта тры дні безь перапынку. Скончыўшы гэтыя ўсёпаглынальныя, але шчасьлівыя дні місійнай працы, накіраваўся на правы бераг каб там пераначаваць у Пранаса.

Прыбыў да яго дому ў пачатку вечара. Стаяў цёплы вясеньні змрок і я сказаў Пранасу, што адведаю а.Гонорыя, украінскага сьвятара, які жыў непадалёк. Аднак калі ў яго доме я спытаўся пра а.Гонорыя, то ягоныя суседзі неяк дзіўна на мяне паглядзелі. Я пастукаў у дзверы, але адказу не было. Пастукаў яшчэ пару разоў і пачуў за дзьвярыма чыесьці ціхія крокі. Дзьверы павольна адчыніліся роўна на столькі, каб можна было бачыць.

— Каго шукаеце? — спытаўся з-за дзьвярэй голас.

— Ці тут жыве а. Гонорый, — запытаўся я.

Дзьверы без адказу зачыніліся. І раптам адчыніліся зноў і нейкі голас сказаў:

— Так, заходзьце.

Я увайшоў, дзьверы за мной хутка зачынілі на ключ і я апынуўся тварам у твар з двума маладымі агентамі КГБ.

Адзін зь іх загадаў паказаць пашпарт. Я адказаў, што пакінуў яго дома, недалёка адсюль, і ахвотна за ім схаджу. Толькі зрабіў рух у бок дзьвярэй як мяне адразу схапілі. Загадалі сесьці за стол далей ад дзьвярэй у другім пакоі. За ім сядзелі яшчэ два мужчыны, якіх я раней не заўважыў. Гэтыя людзі былі прыведзеныя з гэтага ж дому каб быць сьведкаміператрусу. Агенты ператрасалі ўсё, падрабязна аглядаючы кожную рэч і потым акуратна кладучы яе на месца.Ператрус доўжыўся да гадзіны ночы з адным цікавым інцыдэнтам: сярод кніжак знайшлі службоўнік і кніжкі для набажэнстваў. Адзін з маладых агентаў баяўся нават даткнуцца да іх.

Закончыўшы ператрус склалі інвентарызацыю рэчаў знойдзеных у пакоі, які загадалі нам падпісаць. Я адмовіўся, сказаў што магу падпісаць толькі калі дадаць запіс з тлумачэньнем, што я не сьведка, а проста выпадкова апынуўся ў пакоі ператрусу. Калі яны на гэта згадзіліся, я зразумеў, што зацікаўленасьць не ў ва мне і гэта мяне трохі супакоіла. Потым адпусьцілі двух пажылых людзей, якія былі афіцыйнымі сьведкамі, а мне загадалі ісьці за імі.

Калі праходзілі па цёмным падворку, я ўзгадаў, што ў маёй кішэні паштоўка ад аднаго зь сяброў Гонорыя. Засунуў у кішэнь руку, скамячыў паперку ў шарык і хуткім рухам выкінуў яго ў цемру. Аднак

мой рух адразу заўважылі і загадалі спыніцца. Абшукалі мае рукі і кішэні, пасьля чаго спыталі што я зрабіў.

— Ужо позна, — сказаў я, — і я правяраю ці маю ключ.

Нічога не сказалі але пачалі навокал нас абшукваць зямлю, асьвятляючы ліхтарыкамі. На шчасьце нічога не знайшлі.

Мы дайшлі да рачнога вакзала, дзе адзін зь іх пайшоў да тэлефона, а другі чакаў са мной на пероне. Аднак першаму не пашанцавала і ён не здолеў датэлефанавацца, а ў гэты час прыйшоў цягнік да Краснаярска. Яны сьпяшаліся сесьці на цягнік, таму загадалі мне заўтра ў адзінаццаць зьявіцца ў Краснаярскім МВД і пакінулі мяне на пероне.

Калі цягнік рушыў, я пайшоў да Пранаса. Было ўжо амаль тры ночы, але ён мяне чакаў. Ведаў, што я трапіў у нейкую гісторыю, таму быў вельмі занепакоены. Я яму распавёў пра здарэньне і мы ўсю ноч не спалі. Назаўтра пасьля ранішняй імшы я наўмысна затрымаўся ў Пранаса і сеў у цягнік у адзінаццаць. Натуральна, прыбыў у кантору МВД у палове дванаццатай.

Запытаўся сакратарку на тэлефоне пра двух мужчынаў, зь якімі "дамовіўся". Сказала, што іх некуды выклікалі ў адзінаццаць з чвэрцю, але для мяне яны пакінулі нумар каб патэлефанаваў. Я зрабіў гэта, але не здолеў дазваніцца. Я вырашыў канчаткова закончыць справу і таму папрасіў сакратарку аб сустрэчы з шэфам. Распавёў яму пра ўчарашняе здарэньне і спытаўся, ці складзены на мяне рапарт. Дадаў, што мушу вярнуцца ў Абакан яшчэ сёньня.

— Едзьце, — сказаў ён, выслухаўшы, — а калі будзе трэба, скажу, што па загаду агентаў вы былі тут. Гэта не ваша віна, што не было іх.

Быў рады вечарам вярнуцца ў Абакан без далейшых інцыдэнтаў.

Вярнуўшыся, я нічога не распавёў Ёсіпу пра мае прыгоды, а сказаў, што мабыць наступіў час шукаць сабе працу. Ён зьвязаўся са сваім сябрам па імені Павел, галоўным дыспетчарам у АТК-50, гарадскім гаражы на вуліцы Шэцінкіна, ля дарогі ў аэрапорт. Праз нейкі тыдзень Павел прыйшоў сказаць мне, што дамовіўся аб спатканьні заўтрашняй раніцай з інсьпектарам. Я заявіўся туды загадзя, чакаў Паўла. Той завёў мяне на сустрэчу зь інсьпектарам па прозьвішчу Кругов. Ён быў высокі, добра складзены, ветлівы і прыгожы. Здаваўся задаволеным спатканьнем са мной, паглядзеў у мой пашпарт і прапанаваў пачаць часова, пакуль не вызваліцца лепшае месца, працаваць механікам па рамонту таксі. Я згадзіўся, але яшчэ быў вымушаны пайсьці да кадравіка каб даведацца ці патрэбен

новы працаўнік. Кадравіком быў мужчына сярэдняга росту, шыракаплечы, з чырвоным тварам, па прозьвішчу Петрухін, гадоў можа пяцідзесяці, палыселы, з глыбокім голасам і хісткай хадой, вельмі балбатлівы. Павел растлумачыў яму справу і паведаміў аб рашэньні Кругова. Петрухін згадзіўся прыняць мяне з выпрабавальным тэрмінам, я напісаў заяву, ён яе падпісаў, інсьпектар зацьвердзіў і ўрэшце мне загадалі заўтра прыйсьці на працу.

Гэта было 13 чэрвеня 1959 г. Седов, галоўны механік, моцна складзены, гадоў ля пяцідзесяці, са сьветлай скурай і гарбатым носам, разьмеркаваў мяне працаваць у якасьці памочніка кіроўцы таксі № 69, невялікай чатырохцыліндровай "Пабеды" старой мадэлі. Кіроўца запытаўся, ці знаёмы я з прафесіяй. Я шчыра адказаў, што зьяўляюся пачаткоўцам.

— Добра, — адказаў той. — Першае, што тут трэба ўмець, гэта браць толькі патрэбныя інструменты, а астатнія трымаць пад замком. Ніколі не пакідайце інструменты ў машыне ці пад машынай. Калі пакінеце — яны прападуць. Зьнікнуць як дым.

Машына стаяла на яме. Кіроўца сказаў мне, што каб выцягнуць рухавік, трэба зьняць буфер і радыятар. Сам пайшоў працаваць з трансмісійнымі рамянямі пад капотам. Але ўбачыў як я змагаюся са шворнамі, што злучаюць рухавік і шасі.

— Эй, — крыкнуў, — не траціце на гэта часу.

Падыйшоў і адкруціў шворны зубілам. Потым мы злучылі папярэчную U-падобную штангу з рухавіком, прасунулі доўгую трубу праз фланец штангі, выклікалі двух іншых механікаў, якія прыйшлі і дапамаглі нам выняць рухавік з машыны.

У АТК-50 усё рабілі ўручную. Калі трэба было нешта зварыць або заклеіць камеры, шэсьць механікаў проста перакульвалі машыну на бок (не зьвяртаючы ўвагі на буферы!) і падпіралі бэлькай, а потым зваршчык рабіў сваю працу. У тыя часы існавала акордная аплата працы. Таму ніхто не клапаціўся аб акуратным яе выкананьні. Кожны хацеў толькі як мага хутчэй адвязацца ад працы.

З такой сістэмай я ў першы месяц зарабіў ўсяго сто пяцьдзесят рублёў. Петрухін, калі ўбачыў узровень майго заробку, быў зьдзіўлены.

— Уладзімір Марцінавіч, — спытаўся ён, — што здарылася?

— Не ведаю, — адказаў я. — Пару дзён каб скончыць работу працаваў нават звыш нормы.

У наступным месяцы зарабіў дзвесьце пяцьдзесят тры рублі.

Урэшце рахункавод выклікаў мяне і навучыў як трэба запаўняць маю справаздачную карту.

— Запісвайце ўсё, што робіце, — сказаў ён, — паўтараю: усё. Пішыце, напрыклад, так: зьняцьце кола, ачышчэньне восі, накладаньне кола, зацісканьне шворнаў, напампоўваньне камеры. Ведайце, што кожная фаза працы залічваецца асобна.

У выніку я быў вымушаны паўтараць прыклад механікаў з гаража, працуючы пры мантажы і дэмантажы дэталяў машын неахайна.

Натуральна, гараж ніколі не мог выканаць сваіх задач, вызначаных месячным планам. Па панядзелках на сходы рабочых, каб заахвоціць нас да лепшай працы, заўсёды прыходзілі члены гардскога Савета, але іх прамовы на прыносілі відавочных вынікаў. Запасныя часткі, таксі, аўтобусы, аплата за праезд — усё было дзяржаўным, а людзі былі зацікаўленыя толькі каб "рабіць" грошы. Было зразумела, што гарадскія ўлады былі не задаволеныя кіраваньнем гаража. Праводзіліся сьледзтвы, склікаліся сходы. Нарэшце да нас пачалі даходзіць чуткі, што чакаюцца зьмены і дапамагаць гаражу выконваць норму прыйдзе новы калектыў.

## Мая сястра хоча прыехаць

Летам 1959 г. я атрымаў новы ліст з амэрыканскай амбасады. Да яго было прыкладзена пацьверджаньне дамовы паміж амбасадай і савецкім Міністэрствам Замежных Справаў аб тым, што калі я папрашу, мяне адпусьцяць. Амбасада паведамляла, што калі я хачу вярнуцца ў Злучаныя Штаты, то павінен напісаць заяву ў савецкае Міністэрства Замежных Справаў і давала мне прозьвішча чыноўніка з тых справаў і яго дакладны адрас.

Цікава, што будзе далей, — таму я вырашыў напісаць у Міністэрства Замежных Справаў з просьбай аб зваротнай візе ў Злучаныя Штаты. У якасьці прычынаў маёй просьбы я назваў мой узрост, зьвярнуў увагу, што ў краіне знаходзяцца сваякі, якія нястомна прыкладаюць намаганьні каб дабіцца майго вяртаньня, а яшчэ той факт, што мая рэабілітацыя пасьля вызваленьня з лагераў зьяўляецца толькі частковай і што я праз некалькі год пры дасягненьні адпаведнага ўзросту, буду атрымоўваць вельмі малую пеньсію.

Гэты ліст выслаў адначасова з лістом у амбасаду, дзе пацьвердзіў атрыманьне іх ліста і паведаміў, што напісаў у Міністэрства Замежных Справаў з просьбай аб візе. Нейкі час адказу не было. Потым савецкае Міністэрства Замежных Справаў адпісала, што мой ліст атрымалі, але з-за таго, што яны не ўпаўнаважаныя

непасрэдна рашаць гэтую справу, яны пераслалі мой ліст пад такім і такім нумарам у Міністэрства Унутраных Справаў (КГБ). Тады я напісаў у КГБ, паведамляючы, што атрымаў адказ з Міністэрства Замежных Справаў аб перасланьні маёй заявы да іх і просячы разгледзець яе і адказаць.

Тры месяцы аб маёй заяве не было чуваць нічога. І вось аднойчы мяне раптам выклікалі ў кантору МВД у Абакане і прачыталі адказ на маю заяву з Масквы. Ён быў негатыўны. На маё пытаньне аб прычынах агент адказаў, што ніводнай не названа. Такім чынам, я падпісаў пацьверджаньне атрыманьня адказу і гэта было ўсё, але акрамя гэтага я напісаў у амэрыканскую амбасаду, інфармуючы яе аб адказе на мою заяву.

Калі цягнуліся тыя тры месяцы чаканьня адказу, я неяк схадзіў у пашпартнае бюро, каб як звычайна, раз на паўгода прадоўжыць дзеяньне пашпарта. Выконваючы звычайныя фармальнасьці агент раптам прапанаваў мне памяняць "часовы" пашпарт на сталы, каб не прыходзіць кожныя паўгода за аднаўленьнем.

— Усё, што трэба зрабіць, — сказаў ён, — гэта выбраць адно з двух прозьвішчаў у вашым пашпарце (Ліпіньскі-Цішэк), прыкласьці тлумачэньне як гэта адбылося, кароткую біяграфію і пераслаць гэта разам з заявай у цэнтральнае пашпартнае бюро ў Маскве. На працягу года альбо двух атрымаеце сталы пашпарт.

Я з хвіліну цьвёрда глядзеў на яго, пасьля чаго "падзякаваў" за ўгаворы. Я не зьбіраўся пытацца чаму праз два гады майго знаходжаньня ў "часовым статусе" ён падняў гэтае пытаньне. Натуральна, на яго прапанову я не згадзіўся. Адказаў, што расейскі пашпарт мне не патрэбен.

У гаражы ўсё ішло як заўсёды. Увесь час не выконвалі месячныя нормы, але ніхто не браўся гэта пераадолець. Раптам аднойчы ў чвэрць шостай гадзіны ў зале гаража аб'явілі сход, прыбыць абавязаны былі ўсе. Паведамілі, што з намі па вельмі важнай справе сустрэнецца гарадскі Савет. У той дзень у майстэрнях шмат перагаварылі аб гэтых аб'явах і ўсе думалі, што б гэта магло значыць. З-за цікаўнасьці наведваньне сходу ў той дзень было проста ўзорнае.

Адным зь першых прамоўцаў быў член гарадскога Савету. Яго адкрытая прамова людзей наэлектрызавала. Ён сказаў, што прыбыў сюды каб шмат чаго зьмяніць і дадаў, што ў СССР няма незаменных людзей.

— Кожны, — паведаміў ён, — можа быць заменены нагледзячы на пасаду, якую займае.

Зрабіў паўзу каб паглядзець на ўтвораны эфект, напружаньне расло.

— Таму, — працягваў далей, — і з-за таго, што трэба мяняць тут, у гаражы, умовы, і таму, што інсьпектар Кругов, хоць ён і член партыі і вельмі адказны адміністратар, не справіўся з заданьнем, якое яму даручана, вырашана замяніць яго кімсьці іншым.

Прамоўца перайшоў да падрабязнага пералічваньня хібаў Кругова. Бядак Кругов сядзеў з апушчанай галавой, слухаючы каталог сваіх правіннасьцяў, які здавалася не меў канца. Калі дэпутат скончыў, усталявалася непрыемнае маўчаньне.

— А зараз, — падсумаваў прамоўца, — хачу прадставіць вам новага дырэктара.

Ягонае прозьвішча было Софронов. Узышоў на ўзвышэньне і стаў ля дэпутата, які ў гэты час распавядаў пра яго кваліфікацыю і ягоныя цноты. Потым пляскальшчыкі пачалі пляскаць у далоні.

Софронов быў мужчынам гадоў ля пяцідзесяці пяці, сярэдняга росту, моцна складзеным і дужым. Яго цёмныя валасы пачалі радзець, быў смуглявы, шыракаплечы. Меў моцны падбародак і сьціснуты рот, гарбаты нос і жвавыя вочы. Канечне, быў членам партыі. Калі "авацыя" скончылася, Софронов пацьвердзіў згоду на прызначэньне. Меў моцны голас і гаварыў рашуча. Пачаў зь пераліку ўсіх праблемаў АТК-50, відаць папярэдне быў добра праінфармаваны, потым пачаў агучваць свае планы радыкальных зьменаў такога стану.

Далей дэпутат заняўся Петрухіным.

Петрухіна таксама выклікалі ў першы рад і ён сядзеў там з апушчанай галавой, а ў гэты час падрабязна пералічвалі ягоныя недахопы. Ён быў чырвоны як бурак, так моцна, што я занепакоіўся каб не палопаліся яго жылы. Калі ўсе ягоныя правіны былі пералічаныя і аб звальненьні паведамлена, яму загадалі ўстаць і адказаць. Ён прызнаў свае памылкі і таксама пагаварыў аб праблемах гаража — такім слабым голасам, што было ледзьве чутна. Жартаўнікі сярод сабраных, якія звычайна чулі ад Петрухіна грубыя загады, зараз пачалі крычаць:

— Гучней! Гучней!

Калі Петрухін павольна сышоў з узвышэньня, дэпутат заклікаў уставаць і выступаць саміх рабочых. Некаторыя члены партыі, відавочна атрымаўшы даручэньне, усталі каб пакрытыкаваць Кругова, зрабілі некалькі заўваг наконт Петрухіна (ён сярод рабочых быў папулярным), але амаль нічога не сказалі аб парушэньнях, пра якія мы так шмат пачулі. Праз хвіліну ўмяшаўся Софронов, кажучы, што кожны можа бараніць сваіх калегаў па працы. Напрыканцы

сходу яшчэ выклікалі для падачы заявы на звальненьне Паўла, старога дыспетчара, таго які ўзяў мяне на працу ў АТК-50.

У выніку штуршка, выкліканага прызначэньнем Софронова, мне далі іншую працу. Мяне, разам зь яшчэ адным механікам па імені Васілій, перавялі ў невялікі драўляны ангар за межамі ўласна гаража. Васілій быў адмыслоўцам па трансмісіі і задніх восях. Мне даручылі клапаціцца аб амартызатарах, кіраваньні і рэдуктарах. Амартызатары былі самага сучаснага тыпу, тэлескапічныя і гідраўлічныя. Адзінай праблемай было тое, што амаль адсутнічалі запасныя часткі.

Але неабходнасьць зьяўляецца крыніцай вынаходніцтваў і хутка я стаў чэмпіёнам у мастацтве вырабу запасных частак са старога жалязьзя. Увесь час я быў пад моцным уціскам, бо ніводзін аўтамабіль не павінен быў рамантавацца больш чым суткі. Апрача таго, гэтыя самыя аўтамабілі збочвалі з дарог і ішлі па мясьцінах,— я бачыў,— дзе найлепшыя ў сьвеце амартызатары не здолелі б вытрымаць больш за два тыдні. Я працаваў з усяе сілы, але сітуяцыю пагаршала тое, што чыноўнікі з гарадской адміністрацыі, з войска, з аэрадрома зьвярталіся са сваімі сапсаванымі амартызатарамі ў АТК-50 і ўсё звальвалася на мяне. Для аднаго чалавека гэта было зашмат і я паведаміў Софронову.

Каб даць рады маім цяжкасьцям, я нават зрабіў ручны штамп для штампоўкі дэталяў на замену. І нават атрымаў узнагароду, дыплом ад адміністрацыі за "выбітныя заслугі", падпісаны гарадскімі і гаражнымі чыноўнікамі. Атрымаў яшчэ тытул "ударнік комуністычэского труда" (перадавік працы), адну з самых высокіх узнагарод краіны. Гэта мне аб'явілі на ўрачыстым сходзе ўсіх працаўнікоў дзе прысутнічаў лідэр прафесійнага саюзу, які ўручыў мне ўзнагароду. Потым маё прозьвішча апынулася на аркушы перадавікоў працы, вывешаным на сьцяне залы для сходаў. Натуральна, з гэтай прычыны нада мной шмат жартавалі.

Але, што важней, я атрымаў дзьве добрыя прэміі і, нарэшце, памочніка! Сябры з гаража паведамілі мне, што гэты памочнік быў прысланы партыяй не толькі дапамагаць, а і сачыць за мною, але сваю працу ён выконваў. Яшчэ прафсаюз прыслаў з горада вучняў каб ад мяне вучыліся, а з гаража ў Чэрнагорцы прыслалі падмайстра для вывучэньня тэхнікі. Верхам іроніі ўсяго гэтага было тое, што вычыцца ў мяне прыслалі механіка з МВД.

Нейкім днём мяне выклікаў да сябе Софронов і па-прыяцельску пачаў выпытваць у мяне аб працы і ці задаволены я ўзнагародай. Ад гэтых пытаньняў перайшоў да іншых, і сярод іх да

зьнешне нявіннага — ці слухаю я, амэрыканец, перадачы "Голасу Амэрыкі". Я адказаў яму, што ў маім жыльлі няма радыё.

— От і добра, — сказаў ён як быццам схоплены зьнянацку, — так лепей. Не слухайце яго.

Пасьля ніякаватай паўзы Софронов спытаўся, ці можа ён што-небудзь для мяне зрабіць. Ён здаваўся так моцна зацікаўленым маім жыцьцём, што я адчуў: нешта пад гэтым хаваецца. Аднак сказаў яму, што калі б ён мог мне даць дзе-небудзь жыльлё, быў бы ўдзячны. Той з хвіліну думаў, потым растлумачыў, што баракі, якія належаць гаражу, перапоўненыя, і зараз ён не можа для мяне шмат зрабіць. Адзначыў, што можа гардскі Савет мог бы дапамагчы.

— Я туды год хаджу, — сказаў я.

Гэта зьбіла яго зпанталыку.

— Але, — дадаў велікадушна, — калі спатрэбіцца яшчэ нешта, не вагайцеся, прасіце мяне.

Мне патрэбна было жыльлё, бо ўсю зіму Ёсіп прасіў мяне знайсьці сабе іншы пакой. Саромеўся назваць мне прычыну, але ўрэшце прызнаўся: гарадскі Савет "падказаў", што для яго, актыўнага члена партыі, нядобра мець у доме мяне — іншаземца, а можа і шпіёна. У пачатку вясны зноў пачаў сур'ёзна гаварыць каб я ўрэшце знайшоў іншае памяшканьне — з боку гарадскога Савету на яго ціснулі. Сказаў, каб гэта залежала ад яго, то я мог бы жыць там столькі, колькі хацеў, але "можа было б лепей знайсьці сабе пакой дзесьці ў іншым месцы ".

Урэшце наш сусед Дымітр ахвяраваў мне пакой у сваім доме. Яго маці, старая "бабушка", якая спаткала мяне, калі я першы раз прыйшоў да дому Ёсіпа, жыла зь імі і займала пакой падобны на той, які я меў у Ёсіпа, побач з кухняй. Зараз яна хацела каб я заняў яе пакой, а яна будзе спаць у кухні. Я ахвотна згадзіўся, бо з усіх бакоў гэта было ідэальнае рашэньне. Я ведаў Дымітра, яго жонку Ілену і старую "бабушку" вельмі добра, бо яны часта былі ў Ёсіпа. Да таго ж і надалей меўся быць паблізу Ёсіпа, Валі і ўсіх прыяцеляў, якіх там займеў.

Пераезд меў яшчэ іншыя добрыя бакі. Перадусім даваў мне магчымсьць адпраўляць штодзённую імшу не чакаючы калі ўсе пакладуцца ў ложкі. Дымітр і Ілена ніколі не вярталіся дадому раней паловы сёмай, а я звычайна быў дома ў палове пятай і тады мог адправіць імшу. Меней гасьцей і нашмат спакайнейшы дом, месца для чытаньня і адпачынку і нават, калі захачу, можна глядзець тэлевізар, бо Дымітр і Ілена мелі тэлевізар, адзін зь нешматлікіх сярод бліжэйшых суседзяў.

Я плаціў "бабушцы" штомесяц тры рублі, а за гэта яна заўсёды мела для мяне цёплы суп ці кашу і хлеб, каб вярнуўшыся з працы паесьці. Гэта было маё штодзённае сілкаваньне. Я зазвычай рабіў вялікую каструлю супу або баршчу і гэтага мне хапала на тры і нават на чатыры дні. Суп я варыў з бульбы, капусты, буракоў, цыбулі і авечых касьцей, альбо чаго-небудзь, што мог дастаць каб зрабіць сытную ежу, потым дадаваў столькі тлушчу, каб зьверху яго было на мезены палец. Міску супу зьядаў раніцай, перад выхадам на працу, а рэшту на вяртаньне падагравала вечарам "бабушка".

У майстэрні я зьядаў на абед кавалак сала, тоўсты як мая рука, альбо селядца, часам цыбулю і марынаваныя памідоры з тоўстым акрайцам жытняга хлеба. Гэта таксама была звыклая порцыя. Было нармальна, калі рабочы ў гаражы выцягваў зь кішэні на абед хлеб і цыбулю, і больш нічога. Я часьцей піў вар, чым гарбату ці каву, і добра, калі раз ці два на тыдзень еў мяса.

Нашым днём адпачынку была нядзеля, але ў СССР яна, натуральна, страціла сваё рэлігійнае значэньне.Сёньня нядзеля зьяўляецца там днём закупак, а вуліцы забіты людзьмі якія сьпяшаюцца не ў царкву, а ў крамы, каб заняць там чэргі. Для мяне, аднак, нядзеля была магчымасьцю пабыць сам-насам з Богам. Дымітр з жонкай звычайна рана выходзілі на закупкі альбо ў госьці, а "бабушка" праводзіла гэты дзень з суседзямі. Я быў дома адзін, так што мог адправіць імшу не баючыся, што яе перарвуць, і чытаць Сьвятое Пісьмо так доўга, як хацеў. І апроч духоўнага задаволеньня ў нядзелю я цешыўся абсалютным адпачынкам.

Шчыра кажучы, я надрываўся на працы і гэта пачало адбівацца на маім здароўі. Асабліва пакутвалі ад сямігадзіннага стаяньня на халодным бетоне мае ногі і калені, а ад няспынных намаганьняў туды-сюды пры заканчэньні рамонту амартызатараў і ад пагружэньня ў бензін дзервянелі рукі. Я стаў хутка стамляцца і адчуў набліжэньне старасьці. Пад канец дня мае ногі і рукі быццам наліваліся волавам і было цяжка дыхаць. Магчыма, гэта было вынікам аднастайнага харчаваньня тлушчам і хлебам, без фруктаў і сьвежай гародніны. Ва ўсялякім разе я чэзнуў на вачах. Кожную раніцу перад сьняданкам, за выключэньнем нядзелі, каб не застойваліся мышцы, я рабіў на падворку гімнастыку.

Але быў больш важны клопат, чым маё здароўе. Мяне непакоіў усё больш моцны кантроль нада мною з боку МВД. Прызнаньне, якое зрабіў Ёсіп, калі растлумачыў прычыну свайго жаданьня каб я зьехаў, было толькі адным са шматлікіх знакаў. Адразу пасьля пераезду да Дымітра я атрымаў ананімку зь перасьцярогай не хадзіць

у пэўныя пералічаныя дамы і не наведваць пэўных людзей. " У адваротным выпадку вернецеся туды, адкуль прыбылі " — казала заканчэньне. Адзін вязень, зь якім я даўно перапісваўся, таксама напісаў мне, што просіць спыніць перапіску. " Мяне папярэдзілі" — напісаў ён. Аднойчы на працы да мяне падыйшоў адзін зь механікаў і сказаў, што нядаўна яго выпытвалі ў МВД пра стасункі са мною. І не толькі гэта, сказаў ён, а яшчэ патрабавалі супрацоўнічаць зь імі і назіраць за вамі. Шчыра распавёў пра гэта здарэньне таму, што любіў мяне, і перасьцярог каб я ўсё гэта меў на ўвазе. Як на сьмех, хутка пасьля таго як ён пайшоў, нехта хто бачыў нас разам, прасьлізнуў да мяне каб папярэдзіць, што той за мной шпіёніць.

Не было сумненьня, што па той ці іншай прычыне нагляд за мной узмацняецца. Мабыць гэта было выклікана маімі лістамі ў амбасаду, або рэгулярнымі лістамі, якія я зараз атрымоўваў ад сёстраў. МВД проста не магло паверыць, што я адзін зь перадавікоў працы ў СССР — мне прыгразілі каб не працаваў сьвятаром і відавочна за мной сачылі.

Аднойчы раніцай, калі я ўвайшоў у гараж, мяне затрымаў нейкі пажылы чалавек, гадоў сямідзесяці. Сярэдняга росту, з вайсковай выпраўкай, з абветраным тварам, шырокім ілбом і хвалістымі сівымі валасамі. Спытаўся ў мяне механіка і я накіраваў яго да шэфа. Калі я размаўляў, ён заўважыў мой акцэнт і спытаўся, ці можа задаць мне некалькі пытаньняў. Я паціснуў плячыма.

— Вы не паляк? — спытаўся ён перш за ўсё.

Я завагаўся, пасьля чаго кіўнуў.

— Мае бацькі былі палякамі, — сказаў ён, — але мову я забыўся. Ва ўсялякім разе вельмі рады нашаму спатканьню. Мяне клічуць Дутов.

Я ў сваю чаргу таксама прадставіўся.

— Вы тут працуеце? — працягваў далей.

Я пацьвердзіў.

— Можа быць, здолееце мне дапамагчы. Разумееце, я працую ў Абаканскім музеі і згубіў ключ ад адной зь вітрынаў выставы. Ці не можа хто-небудзь тут зрабіць мне гэткі ж ключ?

Я адказаў, што магу зрабіць, але не зараз. (Згодна з новымі ўвядзеньнямі Софронова, калі б мяне злавілі пры выкананьні пазаслужбовай працы, то адабралі б дзённы заробак). Мы пагутарылі яшчэ хвіліну і ён выйшаў, сказаўшы што хацеў бы спаткацца са мной яшчэ, — і я даў яму свой адрас. З таго выпадковага спатканьня мы падружыліся.

Калі я пазнаёміўся зь ім бліжэй, то даведаўся, што ён археолаг, які працуе тут, на Далёкім Усходзе ўжо пяцьдзесят год, праводзячы раскопкі на могілках. Распавёў мне, што знайшоў у Абакане цікавыя рэшткі хакасаў, якім каля трох тысяч гадоў. Я даведаўся яшчэ, што ён лічыўся самым аўтарытэтным археолагам Сібіры. Кожны год у Маскве, Ленінградзе і іншых вялікіх унівэрсітэцкіх гарадах, ён даваў серыю справаздач аб сваіх новых адкрыцьцях.

Некаторыя зь яго адкрыцьцяў, казаў ён, дзіўна падобныя на такія ж у Кітаі і Японіі. Пры выпадку я рабіў яму паслугі, перакладаючы яго расейскія артыкулы на ангельскую для публікацый у міжнародных часопісах. А яшчэ вёў перапіску зь кітайскім прафесарам археалогіі ў Кембрыджы. Той кітаец ведаў ангельскую, але не ведаў расейскай, таму я пісаў яму лісты за прафесара Дутава і перакладаў ангельскія адказы, што прыходзілі зь Кембрыджа.

А дзякуючы езуітам з вышэйшай школы імя сьв. Алоіза Гонзага у Вашынгтоне, я здолеў зрабіць яму яшчэ вельмі важную паслугу. У час сваіх пошукаў прафесару часта трапляліся спасылкі на "Handbuch der Archaeologie" сьвятара Муэльлера, і сказаў мне, што ў Расеі ёсьць толькі некалькі асобнікаў гэтай кніжкі, у вялікіх унівэрсітэцкіх бібліятэках. Я напісаў езуітам у школу ім. Гонзага, якія ўжо і дагэтуль перасылалі мне кнігі, і яны прыслалі асобнік. Прафесар Дутов палічыў гэта амаль цудам і ніколі пра гэта не забываўся.

Зь цягам месяцаў, у якія мы кантактавалі, наша сяброўства ўзмацнілася. Ён ведаў, што я сьвятар, але не мог зразумець, чаму я не магу ажаніцца. Нават знайшоў для мяне ідэальную жонку, яго сяброўку гадоў каля сарака пяці, якая мела ўласнае жыльлё і добрую працу.

— Вы павінны мець да каго вяртацца вечарам дадому, — казаў ён, — кагосьці, хто б клапаціўся аб вас зараз і калі будзеце ўжо старым. Зараз вы здаровы і дужы, маеце добрую працу. Але што будзеце рабіць праз дзесяць ці пятнаццаць гадоў?

Я проста сьмяяўся.

— Ох, — казаў я, — сам буду пра сябе дбаць.

— А калі не здолееце?

— Тады гэта будзе вымушаны зрабіць Госпад Бог.

— Ах, вы і ваш Госпад Бог!

(Прафесар заўжды цьвярдзіў, што ён атэіст.) Тут ён забываўся пра справы сужонства і пачынаў дыспут аб рэлігіі, любіў добрую дыскусію. Мы правялі разам зь ім шмат прыемных хвілін, улічваючы і тыя дыскусіі. Ён сказаў мне, што я адзіны ягоны сапраўдны сябра. Запрасіў мяне нават на адну са сваіх археалагічных

экспедыцый у ваколіцах Абакану, але я так і не здолеў прыняць у ёй удзелу.

Неяк у красавіку 1963 г., вярнуўшыся з працы дадому, я застаў ліст ад сястры Гэлены са зьвесткай, што яна дастала візу на экскурсію ў Расею па маршруту Ленінград, Масква, Кіеў, Адэса, Львоў. Экскурсія павінна была пачацца ў Маскве 19 чэрвеня. І сястра пыталася, ці мог бы я спаткацца зь ёю ў тыя дні. Быў вячэрні час і таму я прачытаў ліст "бабушцы", а потым, калі вярнуліся дадому, Дымітру і яго жонцы. "Бабушка" ўзрадавалася. Пераходзіла ад мноства пытаньняў (на большасьць зь іх я не мог адказаць) да ўскрыкаў, накшталт: " О які добры Бог, што перад сьмерцю дазваляе вам пабачыцца зь сястрой!"

Тым вечарам у час імшы я ўсё думаў аб гэтай навіне і быў расьсеяны. Лёг спаць нашмат пазьней, чым заўсёды, але заснуць не мог. І чым больш пра гэта думаў, тым большай праблемай здавалася дасягнуць Маскву. Думка пра ўваход сярод белага дня ў гатэль і далучэньне да групы амэрыканскіх турыстаў — як дастаць на гэта дазвол і ад каго? Усю ноч круціўся на ложку і раніцай устаў больш стомленым, чым калі лёг.

Назаўтра на працы пайшоў да Софронова.

— Ах, Уладзімір Марцінавіч, — сказаў ён, калі я ўвайшоў у яго кабінет. — Што чуваць? Нешта блага выглядаеце.

— Я здаровы, таварыш начальнік, але маю праблему, — адказаў я.

— Ну, ну, і што такое?

— Атрымаў учора ліст з Вашынгтону...

— Адкуль?

— Ад маёй сястры з Амэрыкі. Дастала візу каб адведаць мяне тут, у Расеі, у Маскве, але ведаеце, мой адпачынак ужо выкарыстаны. Ці можна атрымаць дадатковы адпачынак?

Праўду кажучы, усёй сітуацыяй таварыш Софронов быў вельмі заклапочаны. Ён уласна не ведаў, што рабіць. Мы трохі падыскутавалі і напрыканцы ён сказаў мне, што не можа прыняць рашэньня. Аднак абяцаў падняць пытаньне на камітэце і хутка даць канчатковы адказ. Амаль кожную раніцу наступнага месяца я пытаўся ў яго аб рашэньні. Ён увесь час адцягваў. Не заставалася нічога як толькі чакаць. Не мог адказаць Гэлене, бо нічога дакладна не ведаў.

Аднак я вырашыў, што ў самым горшым выпадку зь першага чэрвеня звольнюся з працы ў гаражы і на месяц паеду ў Маскву. Потым, калі міліцыя не будзе мяне расшукваць, вярнуся і буду

шукаць іншую працу. Я ведаў, што гэта рызыкоўны крок. Калі б я кінуў працу, мой пашпарт атрымаў бы штэмпель "Не працуе ". Гэта б узбудзіла яшчэ большыя падазрэньні чыноўнікаў у Маскве і абцяжарыла спатканьне зь сястрой. Толькі чым даўжэй я чакаў адказу Софронова, тым мацней рашаўся, што паеду пабачыцца з Гэленай, хоць бы ўсяго на адзін дзень. (Думка, што я мог бы вярнуцца зь ёй у Амэрыку, або вярнуцца хоць бы калі-небудзь, нават не прыходзіла мне ў галаву.)

У сярэдзіне травеня станоўчага адказу ад Софронова яшчэ не было. Я ведаў, што сястра непакоіцца адсутнасьцю адказу і вырашыў дзейнічаць. Калі Софронов пачаў правяраць на выезьдзе машыны, я падыйшоў да яго.

— Таварыш Софронов, — сказаў я, — мая сям'я ў Амэрыцы ўжо месяц чакае адказу. Што яны павінны думаць? Я вырашыў зьвярнуцца са сваёй справай у іншае месца і атрымаць там станоўчы адказ наконт майго выезду ў Маскву.

— Не, не, — адказаў ён, — бачыце, сёньня я не магу вам адказаць, але заўтра выклічу вас і дам станоўчы адказ.

Гэты дзень, здавалася, не меў канца. Я памыляўся нават у выкананьні вельмі простых рэчаў, часам перш чым правільна сабраць усе дэталі, зьбіраў і разьбіраў амартызатар два ці тры разы. У той вечар не мог думаць ні аб чым іншым, як толькі пра тое, якім будзе "станоўчы адказ " Софронова.

Назаўтра раніцай, як толькі пачаў працу, я пайшоў проста да Софронова. Ён сказаў прыйсьці а дзевятай гадзіне. Я вярнуўся ў майстэрню, але нават не апрануў рабочы камбінезон. Дакладна ў дзевяць зьявіўся ў кабінеце Софронова.

— Таварыш Цішэк, — сказаў ён, — я не магу яшчэ сабраць увесь камітэт, трэба пачакаць да адзінаццаці.

Зноў я вярнуўся ў майстэрню, дзе тады ўжо сабраўся натоўп. Да тае пары практычна ўсе ведалі, што плануецца візіт маёй сястры. Калі я паўтарыў ім што мне сказаў Софронов, выбухнулі рогатам. Некаторыя сказалі, што гэта манеўры каб адцягнуць увагу, а іншыя прадраклі, што я ніколі не атрымаю канчатковага адказу, хіба што потым, калі мая сястра прыедзе ў Маскву і ад'едзе адтуль.

Апрануў рабочае адзеньне і паспрабаваў працаваць, але больш не мог засяродзіцца. Каля трох чвэрцяў адзінаццатага памыўся, пераапрануўся і пайшоў у кабінет. Зьдзівіўся, убачыўшы чатырох мужчын — старшыню прафсаюза, начальніка гаража, шэфа аддзела таксі і шэфа аддзела працы, якія сядзелі там разам з Софроновым.

Вельмі ўрачыста пачаў Софронов:

— Таварыш Цішэк, у нас няма практыкі даваць працаўнікам дадатковыя адпачынкі. Аднак разгледзеўшы вашу справу, тое што вы вельмі доўга не бачыліся з вашай сям'ёй, што зьяўляецеся вельмі добрым працаўніком, камітэт вырашыў даць вам дванаццаць дзён адпачынку з АТК-50. Калі да Масквы палеціцё, будзеце мець там цэлых дзесяць дзён. Калі паедзеце цягніком, то будзеце мець толькі пяць дзён у Маскве. Гэта, канечне, залежыць толькі ад вас.

Змоўк і паглядзеў на мяне. Я заікаючыся прамармытаў падзяку яму і камітэту.

— Цяпер, — сказаў ён, — вы павінны зразумець, што гэта сур'ёзная справа. Даючы вам гэты дазвол, мы самі трапляем у небясьпечнае становішча. Мы не маем нікога, хто б замяніў вас на працы, але неяк будзем даваць рады. Ваша сястра пыедзе ж з Амэрыкі, а вы ведаеце, якія гісторыі могуць прыдумляць амэрыканцы. Таму вы у гутарках зь ёй павінны быць вельмі асьцярожным. Інакш амэрыканскія газеты пачнуць тэндэнцыйныя публікацыі, як яны гэта робяць заўсёды, і тады мы таксама будзем пацярпелымі, ці няпраўда?

Яны ўсе глядзелі на мяне.

Я кінуў позірк на астатніх але адказваў Софронову:

— Вы павінны зразумець і маё становішча. Вы ўсе мяне ведаеце і ведаеце маё дасье. Я зраблю ўсё, што ў маіх сілах, але вы павінны мне верыць.

Здаецца, іх гэта задаволіла. Софронов запытаўся астатніх, ці маюць што сказаць, але ўсе пацiснулі плячыма. Я яшчэ раз падзякаваў іх за рашэньне і выйшаў. Рэшта таго дня прайшла ў вясёлых гутарках і віншаваньнях сяброў, было не да працы. У той вечар я паведаміў "бабушцы", Дымітру і Ілене, Восіпу і Валі навіну, якуб яны ўсе чакалі. Я не мог скончыць вячэру (безупынна балбатала "бабушка"), бо хацелася неадкладна паслаць добрую вестку Гэлене.

Аднак перад напісаньнем ліста адправіў імшу. Пачынаючы яе ў той вечар, я асабліва маліўся аб тым, каб спраўдзілася воля Бога. Наўмысна не маліўся аб спатканьні зь сястрой, а толькі аб тым, каб зьдзейсьніў тое, што знаходзіцца ў згодзе зь Яго воляй, бо гэта самае лепшае. Пры ўсім маім уздыме і запале я не хацеў, пасьля ўсіх гэтых гадоў Ягонага апекваньня нада мною, умешвацца ў Яго Наканаваньне...

15 чэрвеня надыйшло і прайшло, але я больш не меў вестак ад Гэлены. Штодзённа чакаў ліст, яле яго не было. Натуральна, заўсёды існавала небясьпека, што яе або мой ліст будзе дзесьці затрыманы, таму я рыхтаваўся да падарожжа ў Маскву. Я рашыўся ехаць цягніком, а ў Абакан вярнуцца, магчыма, самалётам.

Падарожжа цягнікам доўжылася тры дні, але давала мне магчымасьць убачыць краіну, якую ніколі не бачыў. Да таго ж, і што было мабыць больш важкім, гэта давала мне шанец адпачыць і сабрацца з думкамі, чаго я не здолеў бы зрабіць у самалёце.

Набыў чыгуначны квіток на нядзелю, 16 чэрвеня. Раніцый у дзевяць гадзін выйшаў на вуліцу і менавіта тады, калі замыкаў нашу брамку, вуліцай прыбегла нейкая маладая дзяўчына і спыталася:

— Тут жыве Цішэк?

Я быў так зьдзіўлены, што з хвіліну вагаўся.

— Так.

— У мяне для яго тэлеграма.

— Я Цішэк.

— Ну, гэта самая дзіўная тэлеграма, якую я калі-небудзь уручала. Падпішаце атрыманьне?

Я сказаў, што спачатку павінен яе ўбачыць, каб быць упэўненым, што гэта мне. Разгарнула — там былі адны толькі лічбы! Адзіным словам, надрукаваным літарамі было месца адпраўкі: "Вашынгтон". Я ведаў, тэлеграма ад Гэлены.

— Гэта для мяне кепска, — сказаў я дзяўчыне. — Не магу разгадаць код, а гэта вельмі важна. Сёньня чыгункай еду.

Бедная дзяўчына адказала мне, што яна толькі выканаўца. Адзінае, што здолела, гэта даць прозьвішча свайго шэфа ў мясцовай паштовай канторы. Я пасьпяшаўся туды, але шэф таксама не здолеў прачытаць тэлеграму.

— Але ж гэта вельмі важна, — сказаў я, — ці нельга гэта неяк вырашыць?

Шэф пайшоў да тэлефона, правёў некалькі перамоваў і ўрэшце назваў мне прозьвішча кабеты, зь якой я павінен скантактавацца ў галоўнай паштовай канторы горада.

Аўтобусам паехаў у тую кантору, усё больш непакоячыся і злуючыся. Паказаў той кабеце тэлеграму, кажучы:

— Зірніце на гэта. Што гэта значыць?

Яна патэлефанавала наверх, у тэлеграфную кантору. Увайшла маладая супрацоўніца, глянула на тэлеграму і ўсьміхнулася.

— Прашу пачакаць тут паўгадзіны, — сказала яна, — і я гэта вам перакладу.

Праз няпоўныя паўгадзіны вярнулася, але на гэты раз была зьдзіўленай. Спыталася, ці разумею я зьмест тэлеграмы.

Было напісана па-ангельску: "Паездка затрымліваецца, растлумачу пазьней, Гэлена." Тэлеграма адпраўлена 13 чэрвеня, так што ішла да мяне тры дні. Я сказаў паштарцы што разумею, падпісаў

атрыманьне і выйшаў. Быў заінтрыгаваны, але ўсё што мог зрабіць, гэта чакаць вестак ад Гэлены. З трывогай чакаў ліста, сам не пісаў, бо баяўся, што нашы лісты могуць размінуцца і гэта яшчэ больш ускладніць сітуацыю з прыняцьцем рашэньня.

Надыйшло 19 чэрвеня. Ліста ад Гэлены не было. Я ўявіў сабе, што здарылася нешта благое. Толькі праз месяц атрымаў ліст, і ён быў ад Эвангеліны. Яна пісала, што хацела ехаць у Маскву разам з Гэленай, але не здолела атрымаць візу, так што яны вырашылі адкласьці паездку. Дадала, што пра тэрмін прыезду паведаміць.

Тым вечарам, калі ўсе глядзелі тэлевізар — Ёсіп, Валя, Дымітр, Ілена і "бабушка" — я паведаміў, што павінны прыехаць дзьве мае сястры, і што паездку адклалі, бо адна зь іх не здолела атрымаць візу. Ёсіп пачаў крытыкаваць амэрыканскі ўрад, абвінавачваючы ў тым, што ён не хоча каб мае дзьве сястры прыехалі ў Расею. Я спрабаваў яго пераканаць, што затрымка здарылася з-за Масквы, бо ўсё-ж савецкая амбасада ў Вашынгтоне не дала візу. Мы пачалі спрачацца, але астатнія папрасілі нас супыніцца і далей глядзець тэлевізар.

Усе змоўклі, пасьля чаго Ёсіп пачаў разьбіраць справу па дэталях і сказаў, што каб прыехаць у Расею, мае сёстры павінны мецьпрычыну.

— Абедзьве хочуць прыехаць, — казаў ён, — так што гэта не можа быць проста экскурсія. Мабыць хочуць паспрабаваць выцягнуць вас адсюль.

Дымітр быў ськептыкам. Ён рэдка ўмешваўся ў палітычныя размовы, але сказаў, што забраць мяне шанцаў у сёстраў няма.

— Магчыма, — адкрыта сказаў ён, — калі-небудзь пазьней наш урад захоча выменяць кагосьці са сваіх, вось менавіта тады вас маглі б выпусьціць.

Ёсіп засьмяяўся і гутарка пераскочыла на іншую тэму. Але з-за таго, што Дымітр так рэдка гаварыў пра палітыку, я гэта запамятаў.

## ВЯРТАНЬНЕ ДАДОМУ

### Дзіўныя ўчынкі КГБ

Аднойчы сонечным верасьнёым днём, калі паветра было ўжо халодным, хоць сонца і грэла, я працаваў у АТК-50 і нават не думаў аб маіх сёстрах. Іх прыезд здаваўся малаверагодным. Я слухаў як Васілій распавядае пра свае выбрыкі, адчуваў стому і чакаў канца зьмены.

Адразу пасьля трох гадзін у майстэрню ўвайшла сакратарка Софронова. Васілій, які меў добры нюх на ўсялякія непрыемнасьці, буркнуў мне:

— Нешта здарылася!

Сакратарка ўсьміхнулася.

— Уладзімір Марцінавіч, — сказала яна, — таварыш Софронов неадкладна выклікае вас у свой кабінет. Калі ласка, адкладзіце інструменты, пераапраніцеся і зараз прыйдзіце.

Я быў зьдзіўлены, але пакуль раздумваў, Васілій шматзначна сказаў:

— Весткі з Масквы ад вашых сёстраў.

Калі я зьявіўся ў кабінеце Софронова, ля стала стаялі трое рабочых. Побач з Софроновым за сталом стаяў мужчына ў цывільным, які, калі я адчыніў дзьверы, ва ўпор мяне разглядаў. Я ўважліва паглядзеў на яго і адразу зразумеў, хто гэта — КГБовец. Ён быў у цывільным, але я не мог памыліцца, бо за столькі гадоў навучыўся пазнаваць гэтых людзей. Софронов паглядзеў на мяне і папрасіў пачакаць пакуль ён не скончыць з тымі трыма рабочымі. Калі яны выйшлі, сказаў:

— Уладзімір Марцінавіч, гэты грамадзянін прыбыў пабачыцца з вамі. У мяне ёсьць іншыя справы, таму калі вы не супраць, я пакіну вас адных.

Пасьля чаго разьвітаўся з агентам КГБ і выйшаў.

Агент быў маладым чалавекам, гадоў каля трыццаці, сярэдняга росту і з такімі свабоднымі манерамі, што здаваўся абсалютнай непасрэднасьцю. Падаў мне руку і шчыра сказаў:

— Я з КГБ. Калі на хвіліну прысядзеце, скажу вам навошта я тут. Наш шэф, генерал (прозьвішча недачуў) з Краснаярска знаходзіцца тут і хацеў бы зараз з вамі сустрэцца. Можа ў чатыры пасьля апоўдня ў гатэлі на вул. Окцябрской? Калі гэта будзе для вас прыемней, ён палічыў бы за лепшае спаткацца там. Бо калі б вы прыйшлі ў кантору КГБ, вас бы там убачылі, а ў гатэлі ніхто не зьверне ўвагі. Буду чакаць вас перад гатэлем у чатыры гадзіны і правяду да генерала.

Нягледзячы на ўсю яго ветлівасьць апошнія словы прагучалі як загад. Ужо была палова чацьвёртай, а наступны аўтобус у мой раён адыходзіў у чатыры. Таму я злавіў гарадскі аўтобус, а рэшту дарогі прайшоў пешшу. "Бабушка" зьдзівілася, убачыўшы мяне так рана. Я спытаўся, ці няма да мяне ліста (думаў, можа гэта заінтрыгавала КГБ), але яна адказала, што не. Сказаў ёй, што ў мяне спатканьне і што абед зьем пазьней, вечарам. Апрануўся, пагаліўся і пайшоў на

гандлёвы пляц, дзе злавіў аўтобус, што ішоў у накірунку пошты. Калі выйшаў, было ўжо амаль пяць гадзін.

Пайшоў да гатэлю і ўбачыў нервова шпацыруючага перад ім КГБшнага службоўца. Ён чакаў мяне зь іншага боку і не ўбачыў, як я наблізіўся.

— Здравствуйце, — сказаў я.

Ён зьдзівіўся, потым пазнаў мяне і на яго твары адбілася палёгка.

— Яны ўжо тут, — сказаў мне. — Хадзем наверх.

Калі праходзілі праз хол, на нас азіраліся людзі. Большасьць зь іх умелі распазнаць агента КГБ і ў мундуры і ў цывільным гэтак жа, як і я. Мы ўзышлі на трэці паверх і накіраваліся ў двухпакаёвы апартамент. Там ужо было двое мужчынаў і адзін зь іх гасьцінна запрасіў:

— Уладзімір Марцінавіч, заходзьце, не стойце!

Гэта быў пажылы чалавек у цемнай вопратцы, амаль цалкам лысы, загарэлы і моцна складзены. Паціснуў мне руку і сказаў:

— Я генерал (ізноў я не разабраў прозьвішча), а гэта Віктар Паўлавіч.

Я паціснуў руку Паўлавіча, маладога чалавека ў белым адзеньні, са сьветлым тварам, доўгім носам і сінімі вачыма.

Гаварыў амаль адзін толькі генерал і быў нязвыкла сардэчны.

— Ну, і што чуваць?

— Дзякуй, усё добра.

— Як здароўе? Ці ўсё ў парадку?

— Так, — адказваў я, — здаровы.

— Дзе зараз жывяце?

Я быў упэўнены, што ён гэта ведае, але ўключыўся ў гульню і адказаў. Потым паступова перайшлі на стэрэатыпныя пытаньні: мой заробак, мае калегі па працы, ці добры ў мяне начальнік, прафсаюз і г.д. Сказаў яму, што ўсё ў парадку.

— Так, — сказаў ён урэшце, — маем выдатную харктарыстыку з вашай працы. Вас паважаюць калегі, ведаю, што вы атрымалі некалькі прэмій і дыпломаў. А цяпер, бяручы ўсё гэта пад увагу, мы вырашылі зрабіць вам добрую справу. Ці памятаеце вашу заяву наконт выязной візы ў Злучаныя Штаты?

З гэтага моманту я стаў асьцярожны. Не першы раз мяне выклікалі па справе тых заяваў.

— Напісаў чатыры ці пяць, — адказаў я.

— Так, мы якраз пераглядалі картатэкі і выпадкова натрапілі на іх. Дагэтуль вялікіх магчымасьцяў пазітыўнага рашэньня такой

заявы не было, а зараз усё зьмянілася. Давайце забудземся аб мінулым. Рэчаіснасьць зьяўляецца больш важкім.

— Так, — адказаў я, — і вельмі непрыемным.

— Уладзімір Марцінавіч, не будзем зараз пра гэта. Вы іншы і мы іншыя. Мы ведаем, што вы хацелі б пабачыцца са сваякамі і ў гэтых новых часах магчыма маглі б нешта для вас зрабіць.

— Гэта добра, — адкзаў я.

Потым генерал пачаў выпытваць. Спытаўся пра маё меркаваньне наконт тутэйшага жыцьця, камунізму, сістэмы, тэхнічнага прагрэсу, рэальных дасягненьняў, грамадзкага жыцьця і г.д.

— Я пражыў тут дваццаць тры гады, — адказаў я, — і ніколі ніхто не чуў, каб я скардзіўся. Акрамя таго, можаце спытаць любога, зь кім я жыў. Не я павінен абмяркоўваць усталяваны парадак. Паўсюль, дзе мне здаралася жыць, я здолеў прыстасоўвацца.

Мяне непакоіла нейкая няясная думка, але я не мог яе добра ўхапіць. Занадта шмат падобных допытаў я перажыў, каб не скеміць, што ён хоча ад мяне нешта выцягнуць, але не разумеў, што канкрэтна. Мы гутарылі каля трох гадзін і, як я меркаваў, ні да чаго не прыйшлі. Здавалася, генерал хоча абгаварыць усё, але ж гаварыў аб нічым. Быў у нейкім сэнсе баксёрам які хоча пачаць бой, але заставаўся ветлівым, гасьцінным і паблажлівым нягледзячы на тое, якімі — рэзкімі ці рахманымі — былі мае адказы.

Нарэшце генерал сказаў, што яму трэба выйсьці.

— Я хацеў бы пабачыцца з вамі заўтра, — зазначыў ен, — але калі не здолею, то тут будзе Віктар Паўлавіч. Ці можам мы дамовіцца на палову пятай тут, у гатэлі? Чаму б вам не прыйсьці адразу з працы, не трэба прыбірацца. Ніхто ў гатэлі не зьверне на вас увагі.

Мы ўсталі, пацiснулі рукі і выйшлі.

Назаўтра на працы ўсе хацелі ведаць, што адбылося і чаму мяне выклікалі. Некаторыя супрацоўніцы канторы сказалі мне, што ноччу не спалі, ведалі што госьць ў кабінеце Софронова быў з КГБ.

— Асьцерагаліся, што вас некуды вышлюць, — сказала адна зь іх. — Баяліся, што ўжо ніколі не верніцеся.

— Ну што ж, — засьмяяўся я, — бачыце, я вярнуўся!

— Так, але што здарылася? Што яны казлі?

— Здаецца, гэта зьвязана з маёй заявай на вяртаньне ў Злучаныя Штаты, магчыма я здолеў бы вярнуцца дадому. Канечне, не верыцца. Думаю, можа нешта зьвязанае з маімі сёстрамі.

У майстэрні, на шляху да складаў, паўсюль, увесь дзень я быў вымушаны размаўляць з рабочымі, са служачымі, усе цікавіліся маёй справай.

— Уладзімір Марцінавіч, — сказаў адзін з механікаў, — усё благое ад нашага ўраду.

— Не сумняваюся, — адказаў я.

— Будзеце мець цяжкія часы, перш чым выпусьціць вас будуць схіляць да нейкага кампрамісу, не паддавайцеся, — казаў другі.

— Да апоўдня аб усім ужо ведаў увесь гараж, вестка пераходзіла ад аднаго да другога і ўсе зычылі мне посьпеху.

Закончыўшы працу я хуценька памыў твар і рукі і з Васіліем засьпяшаўся на аўтобусны прыпынак. Мы размаўлялі пра ўчарашнюю сустрэчу, але я яму не сказаў, што іду на наступную.

— Удачы, — кінуў ён мне сядаючы ў аўтобус.

— Узаемна, — адклікнуўся я.

З аўтобуса выйшаў крыху праехаўшы гатэль. Перад ім шпацыраваў Віктар Паўлавіч. Калі я падыйшоў, ён чытаў нейкую афішу.

Ах, гэта вы, — сказаў ён зьдзіўлена, — вось добра!

Засьпяшаўся ў гатэль, а я за ім. Калі ішлі па сходах на трэці паверх у той самы апартамент, я ў рабочай вопратцы адчуваў сябе брудным і не ў сваёй талерцы.

— Ну, што сёньня чуваць? — запытаўся калі ўвайшлі.

— Усё добра, — неахвотна адказаў я.

Віктар паведаміў, што генерал сёньня пасьля абеду прыйсьці не здолеў, але такой бяды. Я пацiснуў плячыма. Потым ён нешта панёс пра тое, як высока генерал мяне цэніць і як моцна хоча дапамагчы і што я павінен аддзячыць узаемна. (Больш нічога не трэба было, мяне скаланула і я нават не адказаў.)

Віктар падняў розныя тэмы. Гаварыў пра камунізм і пра тое, як шмат добрага ён зрабіў, як магутна крочыць наперад. І чым больш ён гаварыў, тым меней я адказваў. Хутка наша размоваператварылася ў маналог. Мабыць ён гэта зразумеў, бо раптоўна зьмяніў накірунак.

— Слухайце, Уладзімір Марцінавіч, — сказаў ён, — хутчэй за ўсё мы адправім вас у Маскву і там вы здолееце ўбачыць дасягненьні камунізму, накіроўвацца куды захочаце, аглядаць што спадабаецца.

— Так? — зьдзівіўся я. — Гэта б мне спадабалася, я б вельмі хацеў убачыць еўрапейскую частку Расеі.

— Ведаеце, калі прыедзеце ў Маскву, здолееце ўбачыць усе славутыя гістарычныя месцы. Гэта вялікі горад. Там ёсьць нават каталіцкая царква, так што здолееце пайсьці туды і паспавядацца. Не трэба баяцца, што мы будзем супраць гэтага.

На гэтыя словы я ўнутрана сьціснуўся, бо ўжо ведаў, куды ён гне, гэта быў той самы стары ўціск. Можа быць яны і не хацелі, каб я шпіёніў за каталіцкімі сьвятарамі ў Маскве, але было б "прыемна", калі б даведаліся пра маё "ўражаньне". З таго моманту я быў напружаны і прыгнечаны. Сабраў усе свае сілы, ажно забалела сэрца. Віктар гэтага здавалася не заўважыў, бо ўвесь час гаварыў кампліменты пра іншых сьвятароў.

— Ведаеце, хто яны, — амаль мімаходам, — мабыць маеце іх адрасы. Будзеце вельмі рады іх адведаць.

— Адрасы? — перапыніў яго я. — Я не ўпэўнены...

Канечне, я меў нататнік з адрасамі, у маім пакоі ў шуфлядзе. Калі б яны яго ўжо бачылі, то я не здолеў бы адмовіць, што ведаю, а калі не бачылі, то я не хацеў каб яны да яго дабраліся.

Цяпер перайшлі да Нарыльску.

— Каго там ведаеце?

Як нажом у сэрца. Я быў упэўнены, што ён ведае, зь кім я ліставаўся і зь кім быў знаёмы, калі там працаваў. Назваў яму прозьвішчы тых, наконт якіх быў упэўнены, што ён ведае.

— Так, так, памятаю іх, — сказаў ён і пачаў пералічваць іншых людзей, заняткі, час, месца і нават грошы, якія я атрымліваў. — Ведаеце, нічога супраць гэтага не маем. Ведаем, што вы называеце гэта стыпендыямі і што не просіце тых грошай. Так што бачыце, якія мы паблажлівыя.

(Я ведаў гэта вельмі добра. Бачыў, пад якім шчыльным назіраньнем увесь час знаходзіўся!)

Я быў так разьюшаны, што адчуў як напружваюцца мускулы ськівіцы. Ён жа ськіраваў гутарку да падарожжа ў Маскву, Ленінград і г.д. Сказаў, каб не абцяжарваць сябе ў дарозе не трэба забіраць усіх рэчаў. Ён не бачыць прычыны, з-за якой я не мог бы пакінуць большасьць маіх рэчаў у Абакане. (Ага!) Напрыканцы заўважыў, што я злуюся.

— Што такое, Уладзімір Марцінавіч? — спытаў мяне. — Вы хворы?

— Не, я стаміўся.

— Вельмі, вельмі прашу прабачыць, бачу, што ўжо позна. Не заўважыў, што пратрымаў вас так доўга. Думаю, мы яшчэ павінны пагутарыць аб гэтых справах, але не сёньня. Можа здолеем спаткацца з вамі іншым разам і абмеркаваць усё дакладней. Я вас выклічу.

Каб "вырашыць справы" Паўлавіч вырашыў прыслаць мне з Краснаярска паштоўку. Гэта будзе знак, што ў наступны дзень ён прыедзе ў Абакан і спаткаецца са мной у гатэлі. Я кіўнуў галавой і

выйшаў. І чым больш я думаў пра нашу размову, тым больш злаваўся. Тут справа не толькі ўва мне. Я думаў аб усіх, каго ён пералічыў і хто з-за мяне быў пад наглядам. Пасьля тых гадоў усё пачыналася нанава!

Калі вярнуўся дадому, нікога не застаў. У кухні гарэў агонь, але "бабушкі" не было. Памятаючы пра згадку Паўлавіча аб адрасах, скарыстаўся магчымасьцю. Пайшоў у свой пакой, сабраў усе лісты і адрасы, усё што магло зьвязваць мяне зь іншымі людзьмі, і спаліў у печы. Калі са мной штосьці здарыцца, то прынамсі ніхто іншы не будзе ў гэта ўблытаны.

Прыйшла "бабушка", а зь ёй Ёсіп і Валя. З-за таго, што я пасьля працы не вярнуўся дадому, "бабушка" занепакоілася і пабегла раіцца да Ёсіпа. Ведалі — нешта павінна было адбыцца і таму як толькі мяне ўбачылі дома, адразу прыбеглі. Яны былі ўзбуджаныя, а я так прыгнечаны, што не мог распавесьці ім, што адбылося.

— Ну, — казаў я, — мяне выклікалі...

— Хто?

— Думаю, КГБ, дакладна не ведаю. Ва ўсялякім разе сказалі, што хочуць мне дапамагчы, засьведчыць мне дабрадзейства, можа нават паслаць мяне ў Маскву, але дазваляюць пакінуць мае рэчы тут!

Адразу ж пачалі выдумляць розныя здагадкі. Мае сёстры ўжо ў Маскве, былі ў Крамлі, бачыліся з Хрушчовым. Можа вяртаюць дадому, не, бо тады не загадалі б пакінуць тут рэчы. Можа здолею толькі адведаць сёстраў, але чаму тады не сказалі дзе яны, ці калі будзе магчымасьць зь імі сустрэцца? Я амаль не зьвяртаў на гэта ўвагі і ледзьве даткнуўся да абеду. Папрасіў прабачэньня і пайшоў спаць.

Але заснуць не здолеў. Гэта была адна з самых горшых начэй, праведзеных мной у Абакане, і нават у няволі. Не мог спаць, не мог дыхаць. Нягледзячы на ўсе намаганьні не мог перастаць думаць пра Віктара Паўлавіча, які пералічвае прозьвішчы ўсіх тых, каму я дапамагаў, ці зь кім працаваў. Гэта было як кашмар, хоць я зусім не спаў.

Урэшце рэшт я вырашыў, што калі мяне выклікаюць ў наступны раз, буду кароткі і ветлівы: "Прашу ні аб чым болей мяне не пытаць! Не хачу ад вас ніякай дабрадзейнасьці, так што нічога ад мяне не патрабуйце. Проста не чапайце мяне!" Я ім не давяраў зусім. Верыў, што хочуць мне "дапамагчы" дакладна так, як сам Хрушчоў. Я ўжо не хацеў ніякіх сустрэч, пералічваньня прозьвішчаў, даносаў на людзей. Мне ад усяго было млосна. Я цьвёрда вырашыў сказаць ім гэта.

Назаўтра пайшоў на працу, кожную хвіліну чакаючы выклі-ку. Софронов рабіў выгляд, што ні аб чым не ведае. Калі сустракаў мяне на працы, пытаўся, што увогуле чуваць і калі адбудзецца

сустрэча з сёстрамі. Запэўніў, што я па-ранейшаму маю дазвол на дванаццаць дзён адпачынку. Затое ні разу не ўзгадаў КГБ і што яны мяне выклікалі. Усе калегі на працы лічылі, што гэтыя справы зьвязаныя зь візітам маіх сёстраў.

Прайшоў тыдзень. Я чакаў новага выкліку. Не столькі думаў пра КГБ, колькі чакаў зьвестак ад сёстраў. Пачаў думаць, што маё "інтэрвію" магло быць пачаткам візіту маіх сёстраў (каб пераканацца як я настроены). Аднак пісаць да іх зараз не рашаўся, а раптам была магчымасьць іх візіту яшчэ гэтай восеньню. Не хацеў ніякай рызыкі.

У сярэдзіне месяца атрымаў з Краснаярска паштоўку з рэкамендацыяй зьявіцца наступным днём па пытаньню майго пашпарту. Ведаў — гэта значыла, што заўтра павінен спаткацца ў гатэлі з Паўлавічам. Пасьля апоўдня, ідучы туды я думаў пра сваё рашэньне. Вырашыў яшчэ раз выслухаць, што яны там хочуць сказаць, а потым адкрыта і катэгарычна адмовіцца, сказаць што гэта мяне не цікавіць.

Калі прыйшоў да гатэлю, зноў убачыў звонку Паўлавіча, які чытаў надпіс на адным з вокнаў.

Гасьцінна мяне павітаў і мы ўвайшлі ўсярэдзіну. Я зноў быў у рабочым адзеньні і ідучы праз хол гатэля адчуваў сябе абарванцам. Калі ўвайшлі ў аппртамент, там пасярэдзіне пакою стаяў яшчэ адзін агент КГБ. Паўлавіч прадставіў яго як Аляксандра Міхайлавіча. Я ветліва павітаў яго — зараз, калі прыняў рашэньне, адчуваў сябе амаль гаспадаром становішча. Паўлавіч адразу зрэагаваў на мой добры настрой. Я адказаў, што вельмі добра сябе адчуваю.

Калі ўселіся, Паўлавіч зноў пачаў тлумачыць усе прапановы, дадаючы цьмяныя намёкі аб узаемных "паслугах". Аляксандр маўчаў, я гаварыў вельмі няшмат. Калі Віктар нарэшце спыніўся, то зь вясёлай мінай запытаў мяне:

— Што вы пра гэта думаеце, Уладзімір Марцінавіч?

Я цьвёрда адказаў:

— Я абсалютна не веру ў тое, што вы кажаце!

Паўлавіч выглядаў як ачмурэлы:

— Што? Чаму?

— Таму што занадта добра вас ведаю, — адрэзаў я. — Вы зашмат разоў мяне выклікалі і зрабілі зашмат абяцаньняў. З гэтага нічога не было і не будзе.

— Але ж бачыце, як усё зьмянілася! Мы ўжо не такія, якімі нас лічылі, мы цалкам іншыя людзі.

— Я вам скажу у чым справа, — зноў адрэзаў я. — Я знаходзіўся ў НКВД на Лубянцы пяць гадоў і яны абяцалі рознае. І

што ўсё гэта значыла? Пятнаццаць год у няволі і працоўных лагерах! Цяпер нягледзячы на тое, што вы скажаце, я не магу пазбавіцца таго адчуваньня. Яно — частка самаго мяне. Проста не магу вам верыць.

— Але зараз іншыя часы, — настойваў Віктар.

Мы прасядзелі ў тым пакоі гатэля тры гадзіны і ўвесь гэты час яны спрабавалі пераканаць мяне, што яны зьмяніліся, а я працягваў пераконваць іх, што калі б нават так і было, то для мяне ўсё роўна псіхалагічна немагчыма ім давяраць. Урэшце рэшт я ўстаў.

— Можаце казаць аб зьменах што заўгодна. Я прыйшоў сюды не верачы і не веру зараз. Вы, як бы не зьмяніліся, не можаце зрабіць нічога, каб зьмяніць мае пачуцьці. Словы нічога не паправяць. Мне прыкра, але гэта так.

Пасьля гэтых слоў я выйшаў. Мяне не затрымалі. І нічога не сказалі пра наступнае спатканьне. Ці на добрае ці на благое, але я адчуваў што ўсё скончана. Дома і на працы мяне шматкроць пыталіся пра сёстраў, пра іх паездку ў Маскву, я адказваў адно і тое ж: скончыў размовы, адмовіўся ад усялякага гандлю. У тым становішчы я не ведаў, чаго чакаць.

Пасьля верасьня надыйшоў кастрычнік, а я не меў вестак ні ад КГБ ні ад сёстраў. Паступова ўключаўся ў паўсядзённы лад і пераставаў думаць аб усёй той справе.

Аднойчы ў чацьвер я пайшоў купіць запасы для маёй кладоўкі. Калі дома разгарнуў набытае, жартам сказаў "бабушцы", што маю ежы на тры тыдні.

— Навошта? — запыталася яна. — Можа гэта ўсё і не спатрэбіцца.

Я засьмяяўся.

— Гэта не сапсуецца, сказаў я, — але думаю ўжо час пазбавіцца ілюзій.

У той дзень пасьля вячэры мы з "бабушкай" сядзелі у кухні, размаўляючы і зноў слухаючы байкі, якія ўжо чуў шмат разоў. Я адчуваў сябе цалкам бесклапотным. Ілена адпачывала ў сваім пакоі, а Дымітр быў на працы. Празь некаторы час я ўзяў газеты і пайшоў да сябе. Было восем гадзін вечара, таму для адпачынку я трохі пачытаў, потым заняўся духоўным чытаньнем і ўрэшце адправіў імшу. Потым зноў сеў за чытаньне. Раптам у кухоннае вакно нехта пачаў моцна барабаніць. Стукалі так гучна, што я зьдзівіўся. З-за таго, што дом не меў дзьвярэй з франтальнага боку, а брамка ад цямна была замкнутая, людзі, каб зьвярнуць нашу ўвагу стукалі ў франтальныя вокны. Але цяперашні стук быў такі нечаканы, такі ўладарны, і я вырашыў што ён азначае нейкія непрыемнасьці.

Гэта было каля паловы дзесятай. Я надзеў плашч, капялюш і выйшаў на двор.

— Хто там? — спытаў я.

Мужчынскі голас адказаў:

— Тут жыве Уладзімір Марцінавіч?

Не ведаю чаму, я не рашаўся адказаць і запытаўся зноў:

— Хто там?

І зноў не назвалі прозьвішча, а запыталіся:

— Ці Ўладзімір Марцінавіч дома?

Я падумаў, што гэта КГБ і хацеў адказаць: " Не, яго няма дома, прыходзьце другім разам ". Але ведаў, што гэта было б толькі адкладваньнем непазьбежнага, таму адказаў:

— Так, дома.

— О, гэта вы, Уладзімір Марцінавіч?

— Так.

— Ну, то я прыехаў за вамі.

Брамка са двара была замкнутая і я не прапанаваў яе адчыніць.

— Я стомлены, у мяне быў цяжкі дзень на працы, — сказаў я, — і нікога не хачу бачыць.

— Можа адчыніце брамку?

Я падыйшоў да брамкі і адчыніў, а ён пачаў са мной дыскутаваць.

— У мяне аўтамабіль, — казаў ён, — зусім не трэба будзе ісьці. Толькі прыедзеце ў гатэль на размову, абяцаем што яна не будзе доўгай, потым адвязем вас дадому.

Я аднёсься да гэтай ідэі без энтузіязму, але выхаду не бачыў. Крыкнуў Ілене каб не зачыняла брамку, што хутка вярнуся. Яна нічога не адказала. Я не сказаў куды накіроўваюся, але думаю, яна здагадалася. Да гатэля ехалі моўчкі пяць хвілін. Зноў пайшлі на трэці паверх, але ў зусім іншы пакой.

На гэты раз у пакоі быў толькі адзін мужчына, Аляксандр Міхайлавіч. Ветліва папрасіў прысесьці і паабяцаў:

— Доўга не затрымаю, ведаю што позна.

Я сеў ля вакна.

— Мы не надоўга, Уладзімір Марцінавіч, маю вам нешта крыху сказаць. Хачу, каб заўтра раніцай вы пайшлі да інсьпектара АТК-50 і сказалі яму, што назаўсёды звальняецеся з працы. Калі ён будзе мець нейкія пярэчаньні, дайце яму гэты нумар тэлефона (даў мне картку з нумарам) і хай папросіць пагаварыць з Аляксандрам Міхайлавічам. Думаю, што вы павінны разьлічыцца з усімі сваімі

завінавачваньнямі, бо паедзеце ў Маскву. Аднак прапаную ўзяць з сабою толькі

неабходныя рэчы, а ўсё астатняе пакінуць тут. Разумееце мяне? Справы пакаціліся хутка. Я быў трохі разгублены, але здолеў кіўнуць галавой.

— У панядзелак, — ён працягваў далей, — купіце аэраквіток да Краснаярска, а я вас там спаткаю. Маеце тры дні на ўрэгуляваньне ўсіх спраў і гэтага павінна хапіць. Аднак калі будуць узьнікаць яшчэ нейкія пытаньні, патэлефануйце па гэтаму нумару (даў мне другую картку), альбо па гэтаму ў Краснаярску (тут даў іншы нумар, на паперы).

Потым устаў.

— Думаю, гэта ўсё. Ці маеце якіясьці пытаньні?

Перш чым я здолеў адказаць, пайшоў у суседні пакой і вярнуўся з бутэлькай каньяку (пяць зорак), двума кавалкамі торту і шакаладкамі. Адкаркаваў бутэльку і наліў дзьве шклянкі для вады. Даючы мне шклянку, сказаў:

— Стары расейскі звычай абмываць пагадненьне.

Потым падняў шклянку і ўсклікнуў:

— За ваша здароўе!

Потым зноў напоўніў шклянкі, мы чокнуліся і выпілі.

— Ну, — сказаў, — я вельмі задаволены, што справы складваюцца так добра. Зычу вам шчасьця.

Пачаў зноў наліваць шклянкі, але я яго стрымаў:

— Не, я ўжо больш не буду піць.

Устаў, надзеў капялюш і плашч. Ён правёў мяне з гатэлю. Я сказаў, што пайду пешшу, але ён запярэчыў:

— Аўтамабіль чакае.

Калі сеў, ён стаў перад гатэлем і я заўважыў, што кіроўца глянуў на яго, а ён урачыста кіўнуў галавою. Маё сэрца замёрла, гэтыя позіркі і рух былі мне вельмі знаёмыя, і я толькі спадзяваўся на тое, што можа памыліўся. Аляксандр стаяў і пазіраў на аўтамабіль, а мы ад'ехалі. Аднак паехалі наўпрост да дому Дымітра і не было вымаўлена ніводнага слова. Калі ўжо быў у бясьпецы, вылезшы з аўтамабіля падзякаваў кіроўцу, хуценька ўвайшоў і зачыніў брамку.

Была амаль гадзіна ночы. Як толькі ўвайшоў у дом, са страхам у вачах падскочыла Ілена.

— Каб вы ведалі, што я тут перажыла, — сказала яна. — Думала, што вас забралі ў турму. Адразу як застукалі, я ўжо ведала, што будзе нешта кепскае.

Каб яе супакоіць, распавёў усю гісторыю: павінен ехаць у Маскву, звольніцца з працы, разьлічыцца з тымі, каму завінаваціўся, забраць толькі неабходныя рэчы і ў панядзелак быць у Краснаярску.

Назаўтра раніцай у АТК-50 пры звальненьні з працы цяжкасьцяў з Софроновым не было. Відаць ён быў раней праінфармаваны. Вакол мяне тоўпіліся людзі, віншавалі і зычылі мне шчасьця.

— Калі што якое, не паддавайся, — рэзаў Васілій, — і — посьпеху!

Усе падзялялі яго пачуцьці. Нарэшце, пасьля трох дня я атрымаў грошы, кінуў апошні позірк на гараж, дзе мне далі тытул перадавіка працы і дзе я знайшоў столькі сяброў, і пайшоў дадому.

У нядзелю мы зрабілі невялікі разьвітальны прыём. У доме Дымітра было каля пятнаццаці асобаў: Ёсіп і Валя, Дымітр і Ілена, прафесар Дутов, некалькі іншых блізкіх сяброў і я, як ганаровы госьць. Было мноства добрых зычэньняў і тостаў за ўдачу, нават прафесар, які ніколі не піў, у мой гонар перакуліў кілішак гарэлкі. "Бабушка" таксама выпіла за маё здароўе і неўзабаве пачала плакаць, перш чым абед скончыўся яна ўжо ляжала на тапчане. Пасьля абеду я мусіў памагчы занесьці яе ў ложак.

У тую нядзелю вечарам я ў маім пакоі Дымітравага дома апошні раз адправіў імшу. Насуперак таму, што большасьць сваіх рэчаў я пакідаў тут, я не быў упэўненым у вяртаньні. Імшу адправіў з асобай падзякай маім тутэйшым сябрам, асабліва тым, якія глядзелі тэлевізар у суседнім пакоі, і даручыў будучыню Богу. Пасьля імшы далучыўся да групы перад тэлевізарам, але ў той вечар было болей гутарак, чым увагі тэлепраграм.

Назаўтра раніцай, 2 кастрычніка, усе ў доме Дымітра спазаранку былі на нагах. Я абяцаў, што напішу, прынамсі паштоўкі, з кожнага месца, дзе буду знаходзіцца, а яны абяцалі адаслаць рэчы туды, дзе я застануся, калі гэта будзе не Абакан. Хацеў у дзевяць гадзін паехаць да аэрапорта аўтобусам, каб мець болей часу, але неўзабаве перад брамкай зьявіўся "джып": гэта зноў быў КГБ. Ілена і "бабушка" адразу занепакоіліся, а потым, калі КГБовец без усялякіх уступаў ці звычайных фармальнасьцяў сказаў мне садзіцца, запанікавалі.

У "джыпе" быў Аляксандр Міхайлавіч — каб упэўніцца ці ўсё ў парадку і ці дастаткова я маю грошай.

— Ці магу я ўбачыць квіток? — спытаўся ён.

Я падаў і ён яго старанна агледзеў.

— Ну, будзем вымушаныя тое-сёе зьмяніць. У Маскву палеціцё не сёньня ў пяць, а ў аўторак раніцою, у сем пятнаццаць, так што калі прыляціце ў Маскву яшчэ не будзе цёмна.

— Добра, — адказаў я, — значыць паляту з Абакану сёньня вечарам апошнім самалётам, а не заўтра раніцай.

— Не, не так, — адказаў Аляксндр. Палеціцё самалётам у адзінаццаць гадзін, а я спаткаю вас у Краснаярску і пакажу вам горад.

Пасьля чаго сеў у аўтамабіль і паехаў. Ілена і "бабушка", калі я вярнуўся дадому, уздыхнулі спакойней. Я растлумачыў ім зьмест гутаркі. Ужо было амаль дзевяць гадзін і я сказаў ім, што мушу ехаць.

Паглядзеў навокал, не ведаючы, ці то бачу ўсё гэта апошні раз, ці яшчэ вярнуся. "Бабушка" зноў плакала. Не пайшла з намі да аўтобуснага прыпынку, а ўся ў сьлязах вярнулася ў дом. Дымітр зь Іленай і Ёсіп з Валяй правялі мяне на кірмашовы пляц, адкуль штогадзінна ад'язджаў ў аэрапорт аўтобус. Гаварылі няшмат. Прафесар Дутов чакаў на прыпынку. Калі падыйшоў аўтобус, я хутка разьвітаўся з абедзьвума сем'ямі, амаль ва ўсіх у вачах былі сьлёзы, у мяне таксама. Прафесар, каб правесьці мяне, узяў на паўдня адгул, так што паехаў са мной у аэрапорт. Быў побач да апошняй хвіліны, пануры і амаль што не ў сьлязах.

— Зычу вам як найбольш шчасьця, Уладзімір Марцінавіч, — сказаў ён, — але мне надзвычай прыкра, што трачу вас.

Я абяцаў, што буду пісаць, потым хутка павярнуўся і пайшоў да самалёта. Некалькі хвілін да адзінаццаці гадзінаў апошні раз глядзеў на прафесара і махаў яму рукой. Калі самалёт адарваўся ад зямлі, мы праляцелі над АТК-50 і над цэнтрам Абакану. Штосьці мне сьціскала горла, але гэта было не з-за старту самалёта. Потым я адкінуўся ў крэсьле і думаў аб тых згадках, якія звозіў з сабою.

## Прывілеяваны

Праз пяцьдзесят пяць хвілін, якія здаліся мне кароткімі як пяць, мы апынуліся ў Краснаярску. Як толькі выйшаў з самалёта, убачыў Аляксандра, які чакаў мяне. Ён ужо зьняў пакой у гатэлі аэрапорта, паблізу, так што я забраў у аэравакзале багаж і мы пайшлі туды. Я расьпісаўся ў кніжцы рэгістрацыі, мне далі ключ і забралі пашпарт. Асьцерагаючыся, што яго забярэ Аляксандр, я хуценька паклаў ключ у кішэнь.

— Мне трэба вырашыць шмат пытаньняў, — сказаў ён, — я спадзяюся, што вы самі дасьцё сабе рады. Я сапраўды абяцаў

паказаць вам горад, але тое-сёе перашкодзіла. Зараз пойдзем са мной у аэрапорт і я пакажу вам як дабіцца квітка на заўтрашнюю раніцу. Будзеце мець адным клопатам меней. Я прыйду да вас вечарам...

— Думаю пайсьці ў кіно, — перабіў я.

— Буду старацца ўбачыцца з вамі пасьля працы, — працягваў ён, — а калі не здолею, то заўтра правяду вас на самалёт.

У аэрапорце я ўзяў сабе квіток. Афармленьне было закончана хутка. Мы пацiснулі рукі і выйшлі. Я назіраў за ім каб праверыць, ці сапраўды ад'едзе. Ён сеў у аўтамабіль, кіроўца рушыў, а я з палёгкай уздыхнуў. Прайшоў праз вуліцу і сеў у аўтобус, які ідзе бульварам Сталіна (зараз названага бульварам Міру) да вуліцы Горкага. Перасеў у другі аўтобус і паехаў і паехаў уверх да Нікалаеўкі і маёй былой "парафіі".

У Розы нікога не было і я вырашыў пачакаць. Спачатку спаткаў яе брата, які вяртаўся з працы, потым падыйшла яна сама. Былі зьдзіўленыя і шчасьлівыя мяне бачыць. Пыталі, чаму не напісаў, што прыеду. Я сказаў ім, што праездам у Маскву, дзе, як я мяркую і спадзяюся, сустрэнуся з маімі сёстрамі. З хвіліну пагутарылі аб гэтым, а потым аб мінулым і парафіянах. Было ўжо вельмі позна, калі Роза ўзгадала аб вячэры, і я вярнуўся толькі ў адзінаццаць гадзін. У маім гатэлі Аляксандра не было, як і не было ад яго весткі.

Заўтрашняй раніцою я падняўся вельмі рана каб не спазьніцца у сем гадзін на самалёт. Нават у гэты час аэрапорт быў затлумлены людзьмі. У апошнюю хвіліну я вырашыў паслаць усім у Абакане паштоўкі што я ў дарозе. Па-ранейшаму не было весткі ад Аляксандра, але ўрэшце, за дзесяць хвілін да адлёту, ён зьявіўся, павітаўся, правёў да самалёта, пажадаў шчасьлівай дарогі і ўсяго найлепшага. Я сеў у самалёт і глядзеў празь ілюмінатар — ён стаяў аж пакуль самалёт не ўзьляцеў. Старт здаўся мне вельмі хуткім. Калі зноў выглянуў празь ілюмінатар, убачыў пад намі толькі хмары. Быў крыху расчараваны, бо хацеў убачыць краявід. На хвіліну заплюшчыў вочы і памаліўся, потым адмаліў ружанец. Не давалі спакою думкі. Хто спаткае мяне ў Маскве: КГБ ці мае сёстры. Можа Аляксандр не сказаў нічога пра Маскву з-за спазьненьня — дзе выходжу, хто мяне спаткае, ці куды павінен накіравацца. Калі мяне ніхто не спаткае, — падумаў я, — што рабіць? Ці пастарацца дабрацца да амэрыканскай амбасады, ці гэта будзе занадта рызыкоўна? Раптам сам зь сябе засьмяяўся. Пасьля стольктх гадоў пад Божым апекаваньнем, ці варта зараз непакоіцца? Недзе каля апоўдня паміж небам і зямлёй нам падалі абед. Гэта былі дзьве булачкі, мяса, поліўка, хрусткая печаная бульба, зялёны гарошак, на дэсэрт — дрыжэль з фруктаў, кавалак

цукру, кава ці гарбата — па выбару, і дзьве маленькія цукеркі. Я больш за тры гады двойчы ў дзень еў боршч і быў шчасьлівы маючы на абед зрэз каўбасы на хлебе. А цяпер, калі самалёт імкліва ляцеў над хмарамі ў бок Масквы, сьцюардэса падала мне такую люксовую ежу.

Толькі скончыў есьці, трансьлятар аб'явіў, што набліжаемся да Внукова, маскоўскага аэрапорта. Было каля гадзіны пасьля апоўдня. Калі выйшлі, тэрыторыю нанава прыводзілі ў парадак. Усё было папеpакульвана і не рабіла добрага ўражаньня, толькі было шмат самалётаў. Разам з усім натоўпам, неспакойна азіраючыся, пайшоў да выхаду. Вакзал быў вельмі сучасны, паўсюль зашклёны, але я гэтага амаль не заўважаў, бо ўвесь час азіраўся каб убачыць ці не чакае мяне хто-небудзь. Нікога не бачыў і не распытваў.

Некаторы час чакаў, але праз чвэрць гадзіны падумаў, што мяне пакінулі самому сабе. Узяў багаж і накіраваўся да выхаду. Менавіта тады заўважыў двух мужчын, якія хуткім крокам ішлі праз чакальную залу аэрапорта. Былі апранутыя ў плашчах і адзін зь іх быў без капелюша — Віктар Паўлавіч. Засьпяшаліся да выхаду, што вёў да самалёта з Краснаярску, агледзеліся, нікога не ўбачылі і пачалі раіцца. Я не мог устрымацца ад усьмешкі. Яны ўжо зьбіраліся ісьці, калі падыйшоў я.

Віктар не быў настроены да жартаў і прадставіў мяне свайму таварышу, Кузнецову, які здаваўся больш сімпатычным.

— Давяраю вас яму, Уладзімір Марцінавіч, — сказаў Віктар. — Ён будзе аб вас клапаціцца.

"Без сумненьня, — падумаў я, — але ў якім сэнсе?"

Кузнецов прапанаваў узяць мой багаж, але я яго спыніў. Я ішоў за ім уздоўж шэрагу таксі пакул мы не дайшлі да "Волгі"у якой сядзеў кіроўца. Працаваў рухавік.

— Гэта мы, — сказаў Кузнецов.

Кузнецов стараўся быць гасьцінным. Растлумачыў, што аэрапорт "Внуково" на трыццаць кіламетраў аддалены ад Масквы і паабяцаў паказаць частку горада па дарозе. Паведамленьнем куды едзем сябе не абцяжарыў, і ўсё што я мог зрабіць у гэтым выпадку — вырашыў не хваляваццa, а адпачываць і атрымліваць задавальненьне ад паездкі.

Мы праяжджалі ля жылых дамоў, "хмарачосаў" у савецкім стылі. З прычыны, што я даўно не бачыў нічога такога, гэта рабіла ўражаньне — ні ў Краснаярску, ні ў Абакане нічога не магло зь імі параўнацца. Мы бачылі універсітэт імя Ломоносова, вялікі масіў высокіх будынкаў і Кузнецов загадаў кіроўцы спыніцца, каб маглі з хвіліну пашпацыраваць каля іх.

Нейкі час ехалі шырокім і прыгожым бульварам каля ракі Масквы, потым іншымі вуліцамі, ужо не такімі шырокімі. Нідзе ў Сібіры не было такіх вуліц, якімі ехалі той раніцай. Здавалася, мы кружылі па горадзе больш за дзьве гадзіны. Прыйшло дзіўнае пачуцьцё, калі падумаў, што за гэтыя дзьве гадзіны ў Маскве я ўбачыў болей, чым за ранейшыя пяць гадоў. Тады я бачыў толькі яе турмы і вакзалы, і адзін раз — пакрытыя абломкамі вуліцы. Зараз бачыў месцы, пра якія казалі на Лубянцы вязьні, але тады гэта былі для мяне толькі назвы. Не бачыў самой Лубянкі, хоць гэта мяне не зьдзіўляла. Нягледзячы на рашэньне атрымаць ад паездкі задавальненьне, я не мог перастаць думаць куды мы едзем.

Нарэшце спыніліся ля бакавога ўваходу ў гатэль "Москва". Мы ўвайшлі і Кузнецов адразу накіраваўся да адміністрацыі, дзе пачаў доўгую дыскусію наконт пакоя. Таго, што ён хацеў,— зразумеў я,— няма.

— Калі ласка, ідзіце і даведайцеся, — сказаў ён адміністратарцы. — І прашу знайсьці пакой!

Неўзабаве вярнулася і сказала:

— Самае лепшае, што ёсьць, гэта пакой з душам.

Кузнецов павярнуўся да мяне і тонам прабачэньня запытаў:

— Ці будзе гэта добра?

Я засьмяяўся.

— Я хацеў дастаць для вас з ваннай і залай, — сказаў Кузнецов, — але здаецца, вольных няма.

Я расьпісаўся ў рэгістрацыйнай кніжцы, аддаў пашпарт і атрымаў ключ. На шосты паверх паехалі ліфтам. Усё было чыстае і прасторнае, падлогі засланыя дыванам. Калі дайшлі да пакоя, Кузнецов, як добра вышкалены гатэльны хлопчык, адчыніў дзьверы і сказаў:

— Вы ў сябе.

Потым стаў паказваць мне пакой. Аказалася, што душ працякае. Там стаялі вялікі ложак, мяккае крэсла, канапа, радыё і нават тэлевізар. З вакна на супрацьлеглым баку вуліцы быў відаць будынак міністэрства і ўнізе шырокі бульвар.

Напрыканцы Кузнецов даў мне свой нумар тэлефона і сказаў:

— Пасьпіце, прыміце душ і зьешце што-небудзь, а я прыду за вамі ў пяць.

Так нічога і не сказаў пра тое, чаго я тут, альбо куды мы накіруемся, калі ён вернецца. Калі ён выйшаў, я трохі расслабіўся.

Вырашыў спаць не класьціся, быў вельмі ўзбуджаны, а замест гэтага пайсьці на шпацыр і чаго-небудзь зьесьці.

Выйшаў праз дзьверы франтона і апынуўся на Чырвонай плошчы, насупраць Крамля і ГУМа (універмаг) на другім баку. Бачыў таксама сабор Сьв. Васіля зь яго цыбулінамі. Мне было холадна, бо меў на сабе толькі плашч ад дажджу, але разам з натоўпам пайшоў уперад. Паўсюль, куды я накіроўваўся, людзі стаялі ў чэргах, так што ўрэшце, каб перакусіць, вярнуўся ў гатэль.

Калі закончыў есьці была ўжо палова пятай, таму засьпяшаўся ў свой пакой. Як толькі ўвайшоў, зазваніў тэлефон.

— Дзе вы былі? — спытаўся Кузнецов. — Шмат разоў вам званіў.

— Абедаў.

— Выдатна, — адказаў той, — спаткаеце мяне ў холе дакладна ў пяць гадзін.

Паклаў слухаўку і пайшоў мыцца з пачуцьцём, што нарэшце адбудзецца нешта важнае.

Аднак, калі ў холе спаткаў Кузнецова, той сказаў:

— Прынёс квіткі ў Драматычны тэатр. Думаю, захочаце пайсьці.

— Ахвотна, — сказаў я, — пойдзем.

Кузнецов прыйшоў за мной рана, таму мы пайшлі пехатой, не сьпяшаючыся, аглядаючы горад. Мы ішлі шырокімі вуліцамі, як турысты, і мяне зьдзівіў вулічны рух. На большасьці скрыжаваньняў былі падземныя пераходы для пешаходаў, таму рух транспарту не перарываўся.

Тут Кузнецов сказаў:

— Вось мы і прыйшлі.

Я агледзеўся навокал. Мне здалося, што мы стаім перад жылым домам. Аднак там была афіша з надпісам: "Маскоўскі драматычны тэатр прадстаўляе "Марыю Сьцюарт". Кузнецов завёў мяне ў невялікі вячэрні клуб на адным з верхніх паверхаў, дзе мы выпілі піва і паелі ікры.

Прагучаў званок на пачатак прадстаўленьня і мы сышлі ўніз у тэатр, які месьціўся на трэцім паверсе. Лічу, што ігра была цудоўная, асабліва акторкі, якая іграла Марыю Сьцюарт, і таксама сцэнаграфія. Я правёў вельмі цудоўны вечар і сказаў пра гэта па дарозе ў гатэль Кузнецову. Здавалася, ён сапраўды быў рады гэта чуць. За мноў у гатэль не пайшоў, а папярэдзіў, што заўтра зойдзе за мной у дзевяць раніцы.

Я вярнуўся ў свой пакой і сеў глядзець тэлевізар, але не мог на ім засяродзіцца. Увесь час думаў: "Што яны задумалі? Усё гэта вельмі добра, але з чаго ўсё? " Увесь дзень, кожны раз заходзячы ў хол гатэля, я азіраўся, спадзеючыся ўбачыць маіх сясьцёр. "Можа, — думаў я, — сёньня ўжо ім запозна, каб нешта арганізаваць, можа заўтра ў дзевяць зь імі ўбачымся." Прыняў душ і пайшоў спаць. Пасьля дарэмных спробаў разгадаць гэтую загадку, урэшце заснуў.

Кузнецов прыйшоў дакладна ў дзевяць і спытаўся, што чуваць.

— Думаю, сёньня вечарам пойдзем у Вялікі тэатр, — сказаў ён. — Спадзяюся, вам ён спадабаецца. А зараз сходзім на шпацыр.

Я апрануў плашч і пайшоў за ім, пераканаy, што акрамя шпацыру і тэатру ён нешта недагаворвае. Калі выйшаў з гатэля, сказаў:

— Пайшлі ў Крэмль.

Увайшлі праз Спаскую браму, мінуўшы маўзалей Леніна з доўгімі чэргамі людзей.

Кузнецов пачаў паказваць мне розныя будынкі — Палац кангрэсаў, Збраёўню і г.д., распавядаючы гісторыю і функцыю кожнага зь іх, але я яго слухаў адным вухам. Пляц быў запоўнены турыстамі, таму я шукаў амэрыканцаў і асабліва маіх сёстраў. Але дарэмна. Урэшце сказаў Кузнецову, што хацеў бы пабачыць некалькі прыгожых старых цэркваў у Крамлі. Ён не хацеў туды ўваходзіць, але дазволіў зайсьці мне самому.

Я хадзіў па іх, сьпяшаючыся ад адной да другой каб Кузнецов не нерваваўся, і быў у захапленьні ад таго, як добра яны дагледжаныя. Толькі часам адчуваў боль ад думкі, што адсюль выгналі Бога і зараз гэта толькі турыстычны атракцыён, такога кшталту мастацкі музей. Кузнецов цярпліва мяне чакаў. Ён быў вельмі прыемным таварышам, інтэлігентным, спакойным і гасьцінным.

Прыгрэла сонца і мы пайшлі на шпацыр па крамлёўскіх парках. У кастрычніку было ўжо няшмат кветак, але ўсё было дагледжаным і сімпатычным.

— Можа пойдзем на абед? — спытаўся Кузнецов, калі куранты Крамля адбілі дванаццаць.

(Гэтыя куранты Крамля былі для мяне рэхам, — я слухаў іх пяць гадоў. Цяпер я стаяў на Чырвонай плошчы і слухаў іх зноў у сонечным бляску!)

— Добра, — адказаў я, — я прагаладаўся.

— Значыць так, — сказаў Кузнецов, — ідзіце куды хочаце, а я прыду да вас пасьля апоўдня каля трох. Добра?

Я кіўнуў і ён пакінуў мяне на Чырвонай плошчы. Я пачынаў сапраўды сумнявацца ці будзе ўрэшце што-небудзь. Была спакуса пазьбегнуць пасьля апоўдня спатканьня з Кузнецовым, але не хацеў страціць чагосьці, што б магло паслужыць магчымасьцю выяўленьня "мэты" падарожжа. Калі б ён толькі захацеў неяк даць зразумець — навошта гэта ўсё!

Калі закончыў ў гатэлі есьці, Кузнецов ужо чакаў у холе.

— Дзе былі так доўга?

— У рэстаране больш за гадзіну мусіў чакаць столік.

— Пайшлі, аўтамабіль чакае.

Адразу падумаў, што нешта адбудзецца. Але мы проста нейкі час ехалі па горадзе і Кузнецов паказваў мне розныя месцы. Мае ж думкі былі далёка. Калі стала відавочна, што мы едзем у нікуды, я зноў пачаў абдумваць загадку. Я жыў у лепшым гатэлі, але здавалася, што нічога надта добрага для мяне няма. Кузнецов, хоць і быў прыемны, увесь час сачыў за мною. Чаму? Ці хацелі мяне чымсьці заняць пакуль прыедуць сёстры? Можа яны спазьніліся? Гэта павінна мець нешта агульнае з маімі сёстрамі, інакш адкуль гэта затрымка? Калі не чакалі нейкага здарэньня ці нейкай асобы, то чаму не ехалі ў кантору КГБ, каб адразу з гэтым скончыць? Урэшце мы паехалі ў гатэль.

— Прыйду да вас у сем, — сказаў Кузніцов, калі я высядаў з аўтамабіля.

Я сустрэў яго ў холе ў сем гадзін. Ён горача прасіў прабачыць, што не здолеў дастаць квіткі ў Вялікі тэатр. Замест гэтага пайшлі ў Палац Кангрэсаў, які называлі Шкляным палацам. Там усё вялізнае і блішчастае. Сьцены выкладзены мамурам, рухомыя сходы, у прыбіральнях таксама мармур. Калі палац не выкарыстоўваецца для зьездаў партыі, яго ўжываюць для забаўляльных імпрэзаў і выставаў. Тым вечарам быў канцэрт народнай музыкі.

Спачатку мы накіраваліся на самы высокі паверх, дзе ёсьць вялікая банкетная зала. У той дзень яна была застаўленая столікамі, поўнымі бутэрбродаў, піражных, цукерак, гарачых страваў і напояў з розных рэспублік СССР. Кузнецов прапанаваў мне сапраўдную расейскую страву: круглую талерку, поўную грыбоў, цыбулі і перцу у сьметанковаў поліўцы, пададзеную з жытнім хлебам і філіжанкай кіпячай кавы. Гэта было цудоўна. Потым мы пайшлі ў залу канферэнцый, прасторную, са скуранымі крэсламі і слухаўкамі ля кожнага месца для аднačасовых перакладаў.

Зала не была поўнай, гэта з-за яе памераў не зьдзіўляла.Шмат гледачоў былі ў нацыянальных строях — азіяты і афрыканцы, а за

намі, на маё зьдзіўленьне, знаходзілася група амэрыканцаў. Маё зьдзіўленьне, аднак, перамянілася на пачуцьцё прыкрасьці, бо яны на працягу ўсяго прадстаўленьня сьмяяліся і размаўлялі. Мне хацелася павярнуцца і сказаць ім каб паводзілі сябе спакойней, але раз Кузнецов быў са мной, я зь імі нават не перамовіўся словам.

Праграма народных расейскіх і грузінскіх песень і танцаў здалася мне нейкай аднастайнай. Нават Кузнецову абрыдла і перад канцом прадстаўленьня мы выйшлі. Здавалася, ён не сьпяшаецца адправіць мяне ў гатэль, але ўрэшце дайшлі туды і ля дзьвярэй ён сказаў:

— Чакайце мяне заўтра. Прыйду перад апоўднем. Раніцай ёсьць пара пытаньняў для

вырашэньня.

Я вярнуўся ў пакой больш заінтрыгаваны, чым калі-небудзь.

Назаўтра раніцою мне здавалася, што я зачынены ў клетцы. Глядзеў праз акно, шпацыраваў па пакоі і сыходзіў уніз прайсьціся па холе. Урэшце напісаў некалькі паштовак у Абакан і Краснаярск. Вярнуўся ў пакой каля дзесяці гадзін і адразу зазваніў тэлефон.

— Дзе вы былі, — запытаў Кузнецов. — Увесь час да вас тэлефанаваў.

— Быў унізе, у холе, — адказаў я. — Мне проста абрыдла гэтае сядзеньне ў пакоі.

— Зараз прыйду, — сказаў ён. — патэлефаную да вас з хола.

Аднак з хола не патэлефанаваў. Ледзьве я павярнуўся, як ён ужо быў у дзвярах майго пакоя. Увайшоў і ўсеўся на ложку.

— Маю вам нешта сказаць, Уладзімір Марцінавіч, — пачаў ён.

"Нарэшце пачынаецца" — падумаў я.

— Да заўтрашняга апоўдня вы павінны пазбавіцца ўсіх вашых грошай, за выключэньнем дзевяноста рублёў. Мяне не датычыць што вы зь імі зробіце, што купіце, як зрасходуеце, але пазбаўцеся ад усіх, апроч дзевяноста рублёў. Заўтра ў гадзіну спаткаемся тут, так што чакайце мяне.

Навошта павінен патраціць грошы і што яны маюць агульнага з маім знаходжаньнем у Маскве, не сказаў. З-за таго, што ён не хацеў даваць мне ніякай інфармацыі, я і не пытаўся ў яго, лічыў што так бясьпечней. Згадзіўся пазбавіцца грошай і спаткацца зь ім заўтра ў гадзіну. Тут ён выйшаў, а я ўсьвядоміў, што маю дваццаць чатыры гадзіны для сябе самога.

Памятаючы аб'яву, якую бачыў на Чырвонай плошчы, што маўзалей Леніна адчынены толькі з адзінаццаці да чатырнаццаці

гадзін, я адмовіўся ад ланчу і засьпяшаўся ў Крэмль. Была палова дванаццатай, але ўжо расьцягнулася вельмі доўгая чарга. Стаў у яе. Калі мы павольна перасоўваліся ўздоўж муроў Крамля, я заўважыў магілы славутых камуністаў, пахаваных тут разам зь некалькімі амэрыканцамі, шмат якія зь іх мелі мармуровыя бюсты і архітэктурныя аздобы. Там, пад мармуровай плітой, простай, прадаўгаватай і без аздобы, на якой ёсьць толькі яго імя і прозьвішча, і яшчэ даты нараджэньня і сьмерці, ляжыць Ёзэф Сталін. На яго магілу нехта паклаў букет сьвежых кветак.

Калі наблізіліся да дзьвярэй маўзалея, я пачуў загады, якія давалі ахоўнікі:

— Калі ласка, агаліце галовы, не размаўляць, нельга рабіць здымкаў. Калі ласка праходзьце

хутка і мерным крокам.

Прайшоўшы праз дзьверы, мы сышлі ўніз, потым калідорам налева, потым направа, да ўваходу ў маўзалей. Унутры было цёмна. Усе здавалася было збудавана з чорнага ці шэрага мармуру і паўсюль быў чуцен пах кветак або кадзіла.

Шкляная труна Уладзіміра Ільліча знаходзіцца над галовамі ўваходзячых. Трэба ўзысьці па чатырнаццаці ці пятнаццаці прыступках, а потым увесь час павольна пасоўвацца вакол паўкруглай платформы, пазіраючы крыху ўніз на труну. Ленін апрануты ў цёмнае і асьветлены ад пояса да галавы адмысловым рэфлектарам, які кідае лагоднае, ледзьве бачнае сьвятло на яго твар. У яго цудоўная скура, ягоныя сьветлыя вусы і барада з рыжаватым адценьнем нават здаюцца жывымі. Сьвятла дастаткова, каб каляровыя рэфлексы адбіваліся ад гладкіх мармуровых сьцен.

Наведвальнікі, затрымліваючы дыханьне, абыходзілі труну і выходзілі ў канцы платформы праз дзьверы, што вялі вонкі з маўзалея. Я прачытаў малітву. "Ён быў чалавекам, — падумалася мне, — і магчыма яму трэба больш молітваў, чым іх за яго прамаўляюць". Выйшаўшы з маўзалея я ўбачыў натоўп фатографаў і турыстаў. Быў таксама фатограф, які сьпецыялізаваўся на здымках "Ты і магіла Леніна", так што і я дазволіў сабе зрабіць такі здымак, але нажаль забыўся яго забраць.

Было ўжо амаль трынаццаць трыццаць, а я меў пры сабе чатырыста рублёў, якіх мусіў пазбавіцца. Пайшоў у ГУМ, слынны ўнівермаг, адчынены ўвесь дзень ажно да апоўначы. Будынак займае вялікую плошчу і ўвесь забіты людзьмі. Мае тры адчыненыя дзядзінцы, пакрытыя шкляным дахам і абкружаныя галерэямі. Усе крамы выходзяць на гэтыя аркады — нешта як чатырохпавярховае і

дванаццаціграннае Rialto. Кожны аддзел мае шыльду, якая паказвае тып прадаваемага тавару, тэарэтычна ў ГУМе можна дастаць усё.

Я прайшоў увесь універмаг, паверх за паверхам, аркаду за аркадай, аглядаючы вітрыны. Аднак нават тут, у Маскве я не мог дастаць патрэбнага памеру альбо колеру таго, чаго хацеў. З-за таго, што я мусіў пазбавіцца ўсіх грошай, цэны мяне не хвалявалі. Але ж не мог дастаць таго, чаго хацеў. Першай рэччу, якую я набыў, была валізка, малая але самая лепшая з тых, што былі ў продажы. Тая "самая лепшая" мела памеры 60см х 80см х 25см. Яна была фібравая і пакрытая імітацыяй рудой скуры. Куты акаваныя бліскучай стальлю. Мела выгляд як з амэрыканскай крамы дваццатых гадоў.

Яшчэ я набыў лёзы для бясьпечнай брытвы, першыя, якія я набыў у Расеі. Потым нагавіцы, карычневыя і шырокія ўнізе, чэхаславацкі двухбаковы плашч, з аднаго боку ў клетку, а з другога — колеру зялёнага гарошку, гадзіньнік "Москва" на шаснаццаці камянях, фотаграфічны апарат, таксама "Москва", усходненямецкай вытворчасьці. Набыў некалькі падарункаў для сяброў у Абакане і мноства дробязяў, такіх, як пілкі для пазногцяў, сьцізорыкі і т.п., толькі дзеля таго, каб збыць грошы. Прайшоў ГУМ чатыры разы зьнізу ўверх, ажно змарыўся.

Выйшаўшы адтуль убачыў чаргу ля іншай крамы. Згодна з расейскім правілам — калі дзе-небудзь бачыш чаргу, станавіся туды, бо там нешта прадаюць, далучыўся да яе і я. Калі дайшоў да крамы, убачыў што там прадаюць нейлонавую дамскую бялізну. "Ох, — падумаў я, — каб ведаў, дык..." Хацеў адыйсьці, але кабета за мною мяне затрымала.

— Не адыходзьце, — папрасіла яна, — калі ласка пачакайце, прадаюць толькі дзьве штукі на чалавека, а чарга ўжо кароткая. Калі ласка, купіце для мяне дзьве штукі.

Я адказаў, што не маю шмат часу, але яна так прасіла, што ўрэшце я згадзіўся пачакаць і купіць ёй дзьве штукі па пяць рублёў кожная.

Пасьпяшаўся вярнуцца ў ГУМ. Яшчэ меў грошы каб траціць, так што зноў прайшоў краму зьверху ўніз. Практычна ўсё, што я хацеў бы набыць, было "нет" майго памеру альбо патрэбнага тыпу. Напрыклад, папрасіў рыбны тлушч: "Нет". Запытаўся прадаўшчыцу дзе яго можна дастаць. Накіравала мяне да цэнтральнай аптэкі, што знаходзіцца трохі далей. Пайшоў туды: "Нет". (А было гэта ў Маскве!) Урэшце вярнуўся ў гатэль.

Зараз, калі перастаў бегаць, зьявіўся час падумаць. Але чым болей думаў, тым болей быў заінтрыгаваны. Што павінна было

здарыцца заўтра ў гадзіну? Дзе мае сёстры? І што агульнага мелі з гэтым грошы? Калі прыдзецца ехаць у нейкае выгнаньне, то навошта мне было набываць усе гэтыя рэчы? Кожны адказ, які я спрабаваў даць, здаваўся мне недастатковым. Нарэшце заснуў, гэтак жа заінтрыгаваны.

## Дабраславеньне для Расеі

Назаўтра ў дзевяць раніцы я адчуў напружаньне. Меў яшчэ крыху грошай, таму пайшоў у рэстаран гатэля і замовіў што ў ім было самага лепшага, але нервовасьць не дазваляла мне есьці. Вярнуўся ў пакой і пачаў пакавацца. Я накупіў так шмат рэчаў, што не мог зачыніць валізкаў. Зазваніў тэлефон. Кузнецов пытаўся ці я на месцы.

— Зараз прыйду, — паведаміў ён.

Калі ўвайшоў, запытаўся, што чуваць. Адказаў, што ўсё зрабіў, але не магу зачыніць валізкаў. Ён усьміхнуўся.

— Перш, чым зачыніце, яшчэ адно пытаньне: ці маеце расейскія дакументы?

Адказаў, што мой пашпарт ўнізе, у адміністрацыі.

— Так, але апрача пашпарта?

Мы перашукалі багаж і я выцягнуў мае працоўную кніжку, прафсаюзны білет, пасьведчаньне асобы і нават некалькі маіх "пасьведчаньняў" і "дыпломаў" за выдатную працу, разам з маім пасьведчаньнем перадавіка працы (ударніка). Ён усё гэта забраў (я не пытаўся — навошта), пасьля чаго дапамог зачыніць валізкі.

— Вы гатовы? — спытаўся ён нарэшце.

Агледзеўся ў пакоі і сказаў:

— Праверце, ці не засталося чаго-небудзь.

Я ў сваю чаргу агледзеўся і сказаў:

— Гатовы.

— Ну, то пойдзем, — сказаў ён.

Ён узяў адну валізку, я другую і мы ліфтам зьехалі ў хол. Я заплаціў па рахунку і вярнуў ключ, атрымаўшы наўзамен пашпарт. Яго забраў Кузнецов. Калі выйшлі з гатэля, пад'ехала "Волга". Калі я садзіўся, Кузнецов паклаў у багажнік мой багаж. Потым ён даў нейкія распараджэньні кіроўцы і мы рушылі.

У час руху я пазнаваў некаторыя часткі горада, але зарыентавацца куды мы едзем не мог. Урэшце мы прыехалі ў Міжнародны аэрапорт, не ў Внуково, і пад'ехалі да будынка. Кузнецов пайшоў туды, а нам сказаў чакаць. Вярнуўшыся, загадаў кіроўцы ад'ехаць убок. У машыну не сеў, толькі нервова шпацыраваў побач. Я

пачаў падазраваць, што мае сёстры тут. Кузнецов некалькі разоў уваходзіў у вакзал і выходзіў. Можа сёстры хутка пад'едуць?

З гэтай думкай я пачаў назіраць за прылятаючымі самалётамі, што несьлі сьцягі розных дзяржаваў, асабліва выглядаючы амэрыканскія рэактыўныя. Было даволі шмат суматохі калі прыехала італьянская футбольная дружына, але гэта не адарвала мяне ад выглядваньня амэрыканскага сьцяга. І чым больш мы чакалі, тым больш нерваваўся Кузнецов.

— Хадзем у кавярню, — сказаў ён, — нап'емся кавы.

Мы зь кіроўцам выйшлі і пайшлі за ім. У кавярні не было гарачай вады, таму мы выйшлі вонкі.

Нейкі час стаялі ля "Волгі", і чым больш нерваваўся Кузнецов, тым больш нерваваўся і я, — урэшце заўважыў аўтамабіль, які імчаўся па аэрадрому. Кузнецов загадаў нам сесьці ў машыну. Сам ён заняў месца кіроўцы і здаў назад так, каб стаць побац з пад'ехаўшым аўтамабілем, калі той спыніўся. Чалавек, які сядзеў там унутры не быў падобны на расейца. Аказалася, што гэта быў Марвін Мак Айнэн, але я тады не зьвярнуў на яго асаблівай увагі. Шукаў толькі маіх сёстраў.

Разам з Кузнецовым выйшлі з машыны. У гэты час ён лагодна прамовіў:

— Уладзімір Марцінавіч, калі хочаце застацца, можаце застацца ў нас. Магчыма там вас чакае цяжкае жыцьцё.

Я быў зьдзіўлены яго спагадлівым голасам (дрыжэў так, быццам голас чалавека, які траціць сябра) і ягонымі словамі. Яны ўдарылі мяне сваім сэнсам. Праз хвіліну я падумаў, што ён кажа аб маім вяртаньні дадому, але адкінуў гэтую думку.

— Калі хочаце, — гаварыў Кузнецов далей, бо я не адказаў, — скажыце толькі "так" і мы адклічам усю справу. А калі паедзеце, то як толькі захочаце вярнуцца, проста дайце мне знак.

Я зноў паглядзеў на яго, разгублены, не ведаючы што вымавіць, бо не ведаў што ён мае на ўвазе. І не вымавіў нічога. Тым часам агент КГБ вымаў з багажніка мае рэчы. Так што мы з Кузнецовым увайшлі на вакзал і калідорам пайшлі у невялікі кабінет.

Там ужо была група агентаў КГБ, якія ўсьміхаліся нейкім сваім думкам, але мне амаль нічога не паведамілі. Толькі адзін зь іх сказаў, што прынёс мае валізкі. Я кіўнуў галавой. Увайшоў Мак Айнэн і сеў са мной побач. Я не ўяўляў хто гэта і мы зь ім зусім не размаўлялі. Я і без гэтага быў вельмі разгублены, пачаў сам сябе пытацца, ці магчыма, што мяне адсылаюць дадому. Гэта круцілася ў маёй галаве, але адказ я адганяў.

Раптам Кузнецов вымавіў:

— Хадзем.

Я паспрабаваў узяць валізкі, але ён сказаў, каб я аб іх не клапаціўся. Калідорам перайшлі ў іншы пакой, было ўжо амаль чатыры гадзіны пасьля апоўдня. Там знаходзіліся два ўсьмешлівыя агенты КГБ. Запрасілі нас сесьці. Мак Айнэн сеў на канапу, а я на крэсла. У гэты час увайшло яшчэ некалькі людзей, не падобных на расейцаў. Адзін зь іх адразу ж паціснуў руку Мак Айнэна, пасьля чаго зьвярнуўся да мяне:

— Ойча Цішэк, — сказаў ён, — мы рады нашаму спатканьню.

Я зьдзівіўся, потым усьміхнуўся і падзякаваў за прывітаньне. Упершыню за шмат гадоў нехта зьвярнуўся да мяне "ойча". Нават у Сібіры тыя, хто ведаў мяне як сьвятара, ніколі не ўжывалі гэтага слова, клікалі толькі "Уладзімір Марцінавіч" альбо "Дядя Володя" (Дзядзька Валодзя). Гэты спадар прадставіўся як містэр Кірк з амэрыканскага консульства ў Маскве. Запытаўся, як я пачуваюся, а потым хутка задаў тое ж пытаньне Мак Айнэну. Запаліў папяросу і відавочна нерваваўся.

Я нічога не разумеў. Кузнецов нерваваўся, Кірк нерваваўся — і з адной прычыны. На хвіліну ўсе змоўклі, як на пахаваньні. Урэшце Кузнецов сказаў:

— Ну, дык можа будем вырашаць справу?

— Добра, — адказаў Кірк, — выканаем фармальнасьці.

Паціснулі адзін другому рукі і тады містэр Кірк зьвярнуўся да мяне.

— Ойча Цішэк, калі ласка, падыдзіце.

Я падыйшоў да стала, а містэр Кірк выцягнуў з унутранай кішэні пінжака паперу.

— Калі ласка, падпішыце гэта.

Падаў мне пяро і я падпісаў, быў такі разгублены, што і не думаў прачытаць паперу, якую падпісваў.

— Цяпер, ойча Цішэк, — сказаў містэр Кірк, — вы зьяўляецеся амэрыканскім грамадзянінам.

— Сапраўды? — зьдзіўлена запытаў я.

— Так, — адказаў ён, — вы, ойча, зноў амэрыканскі грамадзянін.

— Гэта як чароўная казка, — толькі і здолеў я вымавіць.

— Так, гэта казка, але з добрым канцом, — усьміхнуўся містэр Кірк, — і гэта праўда.

Гэта было занадта зьнянацку. Адразу я адчуў сябе вольным як птушка, зараз, калі я вызваліўся ад велізарнага цяжару, усе мае

мускулы сталі спружыністымі. Захацелася сьпяваць. Містэр Кірк зьвярнуўся да Мак Айнэна і ў час, калі Мак Айнэн падпісваў нейкія паперы другі амэрыканец з консульства памяняў мае дзевяноста рублёў на сто даляраў.

На самай справе я меў у кішэні дзевяноста тры рублі, так што малады амэрыканец разам са ста далярамі вярнуў мне тры рублі. Тут я даведаўся хто такі Мак Айнэн. Мы пачалі размаўляць і віншаваць адзін аднаго і раптам усе ў пакоі заўсьміхаліся і загаманілі. Размахваючы сваімі трыма рублямі я запрасіў усіх у кавярню. Кузнецов і яго кіроўца засьмяяліся.

Пайшлі ў кавярню, размаўляючы, сьмеючыся, увесь час паўтараючы адно і тое ж. Усе замовілі гарбату і я жэстам магната паклаў на стол мае тры рублі. Занепакоіўся, ці хопіць маіх апошніх расейскіх грошай. Аднак толькі пачалі піць гарбату, прыбег адзін з агентаў КГБ.

— Пасьпяшайцеся, — выгукнуў ён, — пасьля ўсяго гэтага не спазьніцеся на самалёт!

Адчыніў бакавыя дзьверы кавярні і мы выйшлі на лётнае поле.

Брытанскі капітан сустрэў нас ля трапа вялікага рэактыўнага самалёта BOAC.

— Айцец Цішэк? Містэр Мак Айнэн? Ці магу я паглядзець вашы квіткі?

Мой быў першага класа, а ў Мак Айнэна турыстычны, але капітан правёў нас праз іншыя дзьверы і пасадзіў разам. Мы глядзелі адзін на другога, потым павярнуліся да ілюмінатара.

Там стаялі містэр Кірк разам з Кузнецовым і групай агентаў КГБ. Калі самалёт рушыў, мы з Мак Айнэнам памахалі ім рукамі, але яны на гэта не адказалі. Раптам самалёт ірвануўся і набраў хуткасьць. Я перахрысьціўся, потым, калі адрываліся ад зямлі, павярнуўся да ілюмінатара. Самалёт узьлятаў, закладаючы вялікі віраж. Удалечыні я пазнаў вежы Крамля. Павольна і старанна стварыў над краінай, якую пакідаў, знак крыжа.

## ЗЬМЕСТ